А.М. Ненадавец

# СІЛАЮ СЛОВА

## ЧОРНАЯ І БЕЛАЯ МАГІЯ



Мінск «Беларусь» 2002

УДК 398.2(=161.3):133.4
ББК 82.3+86.42
Н51

Мастак *Міхаіл Барздыка*

**Ненадавец А. М.**

Н 51 Сілаю слова. Чорная і белая магія / А. М. Ненадавец. — Мн.: Беларусь, 2002. — 350 с.: іл.

ISBN 985-01-0442-2.

Кніга прысвечана розным бакам жыцця і паводзін знахароў і варажбітоў. Упершыню на шматлікіх прыкладах з класічнай літаратуры, вусна-паэтычнай творчасці паказана, як уплывалі чараўнікі і варажбіты, знахары і народныя лекары на чалавека і яго хваробу.

Прызначана этнографам, фальклярыстам і ўсім, хто цікавіцца таямніцамі духоўнай спадчыны беларускага народа.

**УДК 398.2(=161.3):133.4**
**ББК 82.3+86.42**

**ISBN 985-01-0442-2**

# ЗМЕСТ


**УВОДЗІНЫ**
5

Міфалогія і магія
9

Сіла страху
17

**ЧОРНЫЯ ВАРАЖБІТЫ**
31

Хто лічыўся сябрамі нячыстай сілы
127

Смерць чорных варажбітоў
149

**СПАГАДЛІВЫЯ ЗНАХАРЫ**
203

Як паводзілі сябе знахары
253

Рэчы, якімі карысталіся знахары
303

**ЗАКЛЮЧЭННЕ**
337

Спіс скарачэнняў
342

Зноскі
343








На працягу шматлікіх стагоддзяў чалавек засцерагаўся ад усёмагчымых хвароб і пошасцей, злыбяды і чорных вачэй пры дапамозе замоў, шэптаў, загавораў (па-рознаму іх маглі называць у народзе). На іх ускладваў ён свае надзеі і спадзяванні. Можна было б растлумачыць гэты факт адназначна проста, не вылучаючыся асаблівай арыгінальнасцю, — медыцына ў тыя часы знаходзілася на даволі нізкім узроўні развіцця і з-за сваёй дарагавізны з'яўлялася недаступнай для бедных людзей. Але як растлумачыць той факт, што народныя замовы-шэпты шырока распаўсюджаны і ў наш час, на пачатку XXI стагоддзя. Болей таго, з'явіліся своеасаблівыя чараўнікі-прадказальнікі, якія маюць неблагую адукацыю і выкарыстоўваюць сучасныя сродкі масавай інфармацыі: тэлебачанне, радыё, прэсу. І бяруцца яны вылечыць не аднаго нейкага канкрэтнага чалавека, а вялікую колькасць людзей адразу. Такія «сеансы» прыносяць шаптунам і арганізатарам іхніх выступленняў вялізныя барышы. Ды аўтар не збіраецца лічыць іхнія грошы, а мае намер паступова, крок за крокам, прасачыць, як фарміравалася ўсёмагутная магія слова, з якіх кампанентаў на першым этапе яна складалася.

Калі адзін чалавек дапамагаў другому пры дапамозе замовы (або замоў), то цікава, як жа яны абодва паводзілі сябе падчас гэтага лячэння? Варыянтаў тут можа сустракацца вялікае мноства, на што далёка не заўсёды звярталі сваю ўвагу даследчыкі. Фіксавалася ў першую чаргу сама замова, сам шэпт, а тое, як паводзілі сябе знахарка ці знахар, а таксама хворы, заставалася па-за ўвагай. У рэдкіх выпадках адзначалася тое, што акаляла хворага, як выглядалі хаціна знахара (варажбіта) ці ён сам, што рабілася напрыканцы «лячэння-шаптання». Толькі ж такія выпадкі рэдкія. У падаўляючай большасці падаецца просты тэкст замовы.

Але не менш важна прасачыць рытуальныя дзеянні знахара ці варажбіта, паводзіны хворага чалавека (выключэнне складаюць тыя выпадкі, калі хворы проста не мог рухацца і для яго выкананне нейкага фізічнага дзеяння ці хаця б памкненне да яго былі немагчымымі). Яны маглі быць самымі рознымі, самымі неардынарнымі, пачынаючы ад таго, як глядзеў знахар і куды прымушаў стаць (сесці,

легчы) хворага. Аказваецца, усё тут з'яўлялася надзвычай важным. Нічога нельга было парушыць у спрадвечна заведзеным радзе, бо тады пра ніякае сур'ёзнае вылячэнне ўжо і гаворка ўвогуле не вялася. Перадавалася ўсё гэта з пакалення ў пакаленне, ад дзядулі да ўнука, ад бабулі да ўнучкі і, у першую чаргу, пераймалася сярод блізкіх родзічаў. Іншым сваю магічную таямніцу раскрываць не асмельваліся, бо баяліся, што яна можа быць накіравана і супраць прадстаўнікоў іхняга роду.

Гарантыі засцярогі не было, асабліва ў тых выпадках, калі не існавала магчымасці супрацьстаяць новаму варажбіту. Тады ён мог заставацца зусім беспакараным, асабліва «чорныя» варажбіты, тыя, хто актыўна імкнуўся ўздзейнічаць на астатніх людзей з нейкай для сябе выгадай. Такіх выпадкаў баяліся найболей, бо верылі, што злы чараўнік-варажбіт можа не толькі напусціць порчу на чалавека, на жывёлу, але і выклікаць нейкія пэўныя непажаданыя прыродныя з'явы. Надараўся ў вёсках паморак, і тады аднагалосна вяскоўцы заяўлялі, што тут без «нячыстай сілы» не абышлося, а «нячыстая сіла» ў іхніх вачах амаль заўсёды асацыіравалася з тымі ж самымі «чорнымі» варажбітамі. Тут ужо верылі не толькі ў магічныя словы-замовы, але і ў абрады, дзеянні, рухі, якімі іх заўсёды суправаджалі. Здаралася, і даволі часта, што нават не маглі растлумачыць, чаму тое ці іншае дзеянне-абрад ужываецца. За даўнасцю паходжання на працягу стагоддзяў першаснасць значэння або гэтых самабытных каранёў міфалагічнасці адмерла ці значна, да непазнавальнасці, трансфармавалася.

Калі нейкага знахара прасілі ўтаймаваць, улашчыць прыродныя стыхіі, то да такой адказнай і важнай справы рыхтаваліся старанна і абачліва ўсе: і тыя, хто прасіў, і тыя, каго прасілі. А раз паклікалі ў такі адказны і безвыходны момант, то, значыцца, уяўлялі цябе наймацнейшым. Трэба было апраўдваць гэткі давер, бо ў адваротным выпадку прымхлівыя людзі маглі прылічыць закліканага на дапамогу знахара да праяў «нячыстай сілы», якая тут нібыта выступала ўжо не ў супрацьборстве, а заадно!

Вось так і фарміраваліся гэтыя таямнічыя, міфалагічныя звенні, дзе і выканаўца замоў-шэптаў, і той, на каго яны былі накіраваны, нібы знаходзіліся ў непарыўнай сувязі. Як жа ўзнікла, фарміравалася і мацнела магія слова? Якою дайшла да нашага часу? На ўсе гэтыя пытанні і спрабуе адказаць аўтар гэтай кнігі.

# МІФАЛОГІЯ І МАГІЯ

Адным з самых выдатных дасягненняў народнай думкі было стварэнне цэласнай сістэмы тлумачэння рэчаіснасці. Яна грунтавалася на двух варыянтах, у аснове якіх ляжалі розныя падыходы ў ацэнцы Сусвету — міфалагічны і магічны. Першы прывёў да стварэння бостваў, герояў, духаў і іншых надпрыродных сіл, што аказвалі рашаючы ўплыў на тагачаснае грамадства, людскія лёсы, нарэшце, на ўвесь Сусвет. Другі адлюстроўваўся ў распрацоўцы стройнай сістэмы ўзаемасувязяў, якая ахоплівала ў адзінай канструкцыі ўсе элементы макра- і мікракосмасу, дзе першабытны чалавек раствараўся незаўважнай пясчынкай.

Для азначэння створанай архаічнай свядомасцю сістэмы (спробы) тлумачэння Сусвету само слова «міф» і тым болей слова «магія» могуць быць выкарыстаны толькі з вялікімі агаворкамі. Яны толькі ў малой ступені адпавядаюць таму, як самі старажытныя грамадствы нашых першапродкаў уяўлялі сабе з'явы, што мы азначаем гэтымі тэрмінамі.

Калі наш прашчур расказваў, напрыклад, сыну пра багоў свайго народа ці вучыў яго абрадам, якія ён павінен быў здзяйсняць у гонар родавых продкаў, то і гэтыя багі і духі продкаў у яго вачах былі не проста персанажамі племяннай міфалогіі, а рэальнымі істотамі, прыкладнае месцажыхарства якіх (як недалёкае, тутэйшае, так і далёкае, чыста міфічнае, казачнае, «за сінімі марамі, за высокімі гарамі») ён усё ж неяк мог акрэсліць. Тое, што сёння мы ўпэўнена называем міфам, ва ўяўленнях продкаў было імкненнем да больш праўдападобнага асэнсавання таго, як узнік Сусвет, як склаліся адносіны паміж людзьмі, родамі, плямёнамі, народамі, як сфарміравалася культура. Гэта і не дзіўна, бо з светам, у якім знаходзіліся надпрыродныя істоты, свет людзей (грамадства), свет культуры цесна і пастаянна ўзаемадзейнічаў.

Нашы першапродкі імкнуліся зразумець, па-першае, у чым асноўная розніца паміж жывым і мёртвым целам, а таксама прычыну сну, хваробы, смерці. Гэта было малазразумелым нашым далёкім наіўным прашчурам. Па-другое, яны задаваліся пытаннем, што аз-

начаюць вобразы людзей, якія з'яўляюцца ў снах? Выразна заўважаючы гэтыя дзве групы з'яў, старажытныя філосафы, магчыма, зрабілі, як ім здавалася, своеасаблівае адкрыццё, што ў кожнага чалавека ёсць жыццё і ёсць прывід. І тое і другое, па іх перакананнях, знаходзіцца ў цеснай сувязі з целам: жыццё дае яму магчымасць адчуваць, разважаць і дзейнічаць, а прывід складае яго вобраз, ці другое «Я».

Амаль немагчыма падагнаць пад архаічныя ўяўленні само паняцце «магія». Звычайна пад магіяй разумеюць кола ўяўленняў, у сілу якіх чалавек быццам бы мог уплываць на другога чалавека, на развіццё падзей, нават на ўсёмагутныя з'явы прыроды. Толькі патрыярхальная свядомасць усё ж асэнсоўвала магію некалькі шырэй. Яна прызнавала існаванне глыбінных унутраных сувязей паміж усімі элементамі Сусвету, арганізоўваючы яго ў стройную, якая дзейнічае па акрэсленых нормах, мадэль. Гэта бачанне свету было, у прынцыпе, першай спробай чалавецтва зразумець і растлумачыць заканамернасці, што дзейнічалі ў Сусвеце.

Калі зараз сцвярджаюць, што магія і міф фарміруюцца на ніжэйшай ступені цывілізацыі, то не трэба, відаць, адносіцца да гэтых тэрмінаў як да нейкіх цяжкатлумачальных «блуканняў» розуму першабытнага чалавека. У іх нельга не заўважыць выніку агромністых намаганняў думак людзей па падрабязнейшым пазнаванні рэчаіснасці. У міфе і магіі замацаваны багацейшы сацыяльны вопыт, які і дазволіў чалавецтву з цягам часу ўсё ж пераадолець вузкасць сваіх архаічных уяўленняў і зрабіць пэўны крок у бок больш рэалістычнага, больш аб'ектыўнага асэнсавання Сусвету, з'яў і працэсаў, якія ў ім пастаянна адбываліся.

Трэба памятаць і пра тое, што ідэя звышнатуральных сіл, магічных заклінанняў узнікла з бяссілля чалавека перад таямнічай і грознай для яго прыродай, з непадуладнасцю яму сацыяльнай рэальнасці. Але бяссілле чалавека не толькі абмяжоўвала, але і стымулявала яго дзейнасць, і звышнатуральнае абарочвалася марай пра ўсёмагутнасць чалавека, цікавайшай здагадкай пра багацце ягоных суб'ектыўных сіл. А гэта, у сваю чаргу, было схаваным прадбачаннем таго, што чалавек — як сацыяльная істота — сам робіць сваю гіторыю і ў гэтым сэнсе авалодвае прыродай, канструюе сваю ўласную, сацыяльную аб'ектыўнасць.

Але ж міф — гэта заўсёды вобразы дзейнічаючых істот, якія ці ствараюцца (узнікаюць), ці, наадварот, разбураюцца. Адны з іх надзелены каласальнай магутнасцю (у выніку немагчымасці пад-

рабязна і дакладна іх растлумачыць), другія маюць нейкі абмежаваны ўплыў (з-за таго, што самае таямнічае ў іх раскрыта, даказана з пункту гледжання патрыярхальных практычна-абрадавых ведаў), але сукупнасць іх супярэчлівых дзеянняў і складае адну з асноў таго самага свету, які быў больш-менш вядомы чалавеку старажытнасці.

З тых даўніх часоў старажытнай мінуўшчыны распрацаваная спачатку стыхійна і даволі эпізадычна сістэма абрадаў і забабонаў дапамагала грамадству захоўваць гарманічныя адносіны з міфічным светам, папярэджваць гнеў міфічных сіл, а часам (калі ў гэтым наспявала пэўная неабходнасць) і абапірацца на іхнюю дапамогу. Сам жа гэты свет быў дуалістычны, супярэчлівы; у ім з'яўляліся, як уяўлялася людзям, і варожыя, і прыхільныя (добрыя) істоты. Нашы продкі і дапусціць сабе такога ні на імгненне не маглі, што раз ёсць станоўчае, то абавязкова яму супрацьстаіць адмоўнае, якое шкодзіць добраму. Яго трэба баяцца або асцерагацца, каб не трапіць у нялітасць да гэтага негатыўнага ці, што самае страшнае, пад уздзеяннем магіі не апынуцца ў прыслужнікаў такой запалохваючай сілы. Былі сярод іх і такія, якія валодалі велізарнай магутнасцю, дзейнічалі непрадказальна, заўсёды гатовыя да ярасці ці да міласэрнасці, у залежнасці ад паводзін людзей. Менавіта з гэтай нагоды кантакты нашых прашчураў з імі заўсёды былі адзначаны насцярожанасцю, трывогай, а то і страхам.

Само словазлучэнне «міфалагічная магія», як яно разумелася ў старажытных продкаў, уключала ў сябе дзве сферы ідэй і вобразаў. Першая з іх ахоплівала прыроду, другая — сукупнасць створаных і ствараемых грамадствам магічных сродкаў і сімвалаў. Сама сфера магіі — гэта вобласць павышанай рызыкі: там, дзе гаспадарыць выпадак і канкрэтнасць, дзе не існуе пэўнага надзейнага алгарытму поспеху, дзе надзвычай вялікая магчымасць памылак. Яны «прадугледжваліся» і адразу ж «спісваліся» на ўсёмагчымыя грахі і пралікі ў выкананні магічных абрадаў і дзеянняў.

Для розуму першабытнага чалавека характэрна было ўяўленне аб тым, што цяжар уласных грахоў і пакут можна перанесці на іншага. Гэта ўяўленне сваімі каранямі сягае ў змяшэнне фізічнага і духоўнага, матэрыяльнага і нематэрыяльнага. Ведаючы, што на плечы іншага можна перакласці вязанку дроў ці нешта падобнае, першабытны чалавек уяўляў, што ён можа перакласці на яго плечы, роўным чынам, абярэмак сваіх грахоў і пакут і прымусіць нейкага іншага цярпець замест сябе. Гэтае ўяўленне ён закладвае

ў аснову сваіх дзеянняў — адсюль бясконцае мноства каварных прыёмаў падкідвання свайго няшчасця (але ж не знойдзем выпадку, дзе гэта шчасце, поспех) другому. Таму можна сцвярджаць, што калі міфічны свет ствараў асобную частку рэчаіснасці, быццам бы існуючую ў грамадскай свядомасці побач з рэальнасцю, то магія, наадварот, пранізвала сілавымі лініямі складаных узаемаадносін саму рэчаіснасць. Другі круг магічных уяўленняў уключаў у сябе сродкі, з дапамогай якіх чалавек спрабаваў абараняцца ад знешніх сіл ці, другая крайнасць, падпарадкоўваць іх сабе, сваёй волі. Гэта былі рытуалізаваныя жэсты, заклёны і розныя амулеты, што, безумоўна, у кожнага з паасобных народаў адрозніваліся.

Не здзіўляе і тое, што людзі памылкова, а можа недзе і свядома, успрынялі парадак сваіх ідэй, уяўленняў за парадак прыродных з'яў: яны ўсвядомілі сабе, што ім дазволена кіраваць прадметамі, падобна на тое, як яны могуць накіроўваць уласныя думкі. Наіўна, але разам з тым менавіта гэты аспект прадвызначаў пачатак выдзялення магіі з міфічнага свету прадметаў, з'яў, персанажаў-герояў і даваў магчымасць вылучацца магіі ў своеасаблівы занятак пэўнай праслойкі людзей. Гэта яны, з той ці іншай нагоды, у сілу сваёй магутнасці ці, наадварот, слабасці, былі прызнаны суродзічамі і супляменнікамі надзеленымі магічнымі здольнасцямі, паступова аддаляючыся ад астатніх і фарміруючы групу людзей, якая пачынае адыгрываць значную ролю ў развіцці грамадства. Праца, якая спачатку аб'ядноўвала людзей, з развіццём сацыяльна-эканамічных фармацый падзяляецца паміж класамі працуючых і выконваецца ўсё болей і болей вытворчым чынам.

Варажбіты-чараўнікі, а як іх толькі не называлі на працягу шматвяковай гісторыі развіцця чалавецтва, былі вядомы ва ўсіх народаў. Трэба ўлічыць і тое, што з цягам часу яны падзяляліся на тых, хто вылечваў людзей, хто не даваў загінуць жывёле, хто цесна паяднаўся з жывою прыродаю і ў выніку гэтага мог выклікаць, спыняць, адхіляць дождж і г.д. Вядома ж, многае з развіццём грамадства адмірала, адкідвалася, замоўчвалася, спецыяльна не перадавалася людзьмі, але тое, што дайшло да нашага часу, ужо заснавана на цвёрдай веры ў магію слова і дзеяння, слова і абрада, якім надавалася свяшчэннае значэнне. Яны нават кананізаваліся, лічыліся абавязковымі, бо пры спробе абмінуць іх, не выкарыстоўваць вялікай небяспецы падвяргаўся ўвесь род, а не толькі асобна ўзятая сям'я ці пэўны чалавек.

Магічнае мышленне засноўваецца на двух прынцыпах, якія

складваліся на працягу многіх людскіх пакаленняў. Паводле першага з іх, магічныя прыёмы засноўваюцца на прынцыпах падабенства (*гамсапатычная магія*), а паводле другога — рэчы ці прадметы, якія хоць адзін раз судакраналіся адзін з другім, усё роўна працягваюць узаемадзейнічаць, адчуваць узаемасувязь, узаемаўплыў і пасля спынення непасрэднага кантакту (*кантагіёзная магія*). Як бачым, варажбіты ўсё ж назаўсёды ў гісторыі развіцця магіі зафіксавалі сваю ўпэўненасць у тым, што яны здольны ўплываць на сілы прыроды. Можна не пагадзіцца з тымі даследчыкамі, якія называлі такую сувязь не інакш як «кіраванне нежывой прыродай», «кантактаванне з жывой прыродай» і г.д. Справа ў тым, што тут напрамую парушаецца логіка веры першабытнага чалавека ў тое, што ўся прырода (ён увогуле не падзяляў яе на жывую і нежывую) з'яўляецца жывой і жывыя таксама ўсе прыродныя прадметы (нават камяні!), з'явы, стыхіі. Такія варажбіты зусім цвёрда перакананы, што законы падабенства, аналогіі распаўсюджваюцца і ўжываюцца не толькі ва ўзаемаадносінах паміж людзьмі, але і ў прыродзе. І для дасягнення пастаўленых мэт тут дастаткова будзе ўжываць адныя і тыя ж прыёмы і сродкі. *Кантагіёзная магія* дапускае іншую недакладнасць. Паводле сцвярджэнняў варажбітоў гэтага накірунку, рэчы ці прадметы, а таксама і жывыя істоты, якія знаходзіліся ў непасрэдным кантакце адзін раз, застаюцца ў ім назаўсёды. Слушнай з'яўляецца думка і адносна таго, што гэтыя два накірункі ў магіі даволі часта перамяжоўваюцца і выступаюць адначасова, тады іх называюць *сімпатычнай магіяй* (закон сімпатыі).

Магія, дзе яна сустракаецца ў «чыстым» выглядзе, прадугледжвае пастаянную змену адной прыроднай падзеі другой. Тут робяць вельмі хітрыя і своечасовыя агаворкі, у выніку якіх з гэтых працэсаў папярэдне імкнуцца выкараніць (дапускаецца гэта ў думках, а як жа яшчэ інакш) зменлівасць, непастаянства, выпадковасць. Калі не зрабіць такой агаворкі, то ніякі варажбіт не засцеражэцца ад хуткага непрадбачанага выпадку, у выніку якога ён пацерпіць сакрушальнае паражэнне ў барацьбе з усёмагутнымі сіламі прыроды, а яшчэ большае паражэнне будзе нанесена людзьмі, якія свята верылі ў ягоныя магчымасці і якія адразу ж ад яго адвернуцца. І добра калі ўсё гэта абыдзецца без смертазабойства таго самага варажбіта-знахара, які згубіў (страціў) цудадзейныя здольнасці ў вачах сваіх суродзічаў.

На такім раннім этапе развіцця чалавецтва нельга гаварыць пра нейкае размежаванне магіі і рэлігіі. Яны выступаюць як амаль што

адзінае цэлае. Болей таго, менавіта рэлігія і дапаўняла тады магію, бо ўсёмагчымыя закляцці-закрэпкі, паўторы-звяртанні да духаў, да шматлікіх багоў, якія ўяўлялі сабою якраз-такі не што іншае, як боствы ўсёмагчымых прыродных стыхій, што адносіліся да самой валадаркі-прыроды. Іменна да яе сіл звярталіся варажбіты, але ўжо неслі ў сваіх зваротах не простыя магічныя дзеянні ці нейкія моўныя тэксты, а элементы першаснай рэлігіі. Гэтыя элементы развіваліся, удасканальваліся, станавіліся канонамі. Тут можна згадаць і пра тое, што, калі прыслужваць ці пакланяцца боству, неабходна паверыць у яго існаванне. Іншая справа, што такое боства патрыярхальнымі людзьмі ўяўлялася не ў чыста абстрактным выглядзе, а ў форме або ў выглядзе нейкага канкрэтнага ідала. Чаму тады язычніцкія багі мелі сваё «зямное» адлюстраванне? Няхай сабе яно было нейкім надзвычай спрошчаным, наіўна пабудаваным ці адлюстраваным, але тым не меней любая прыродная стыхія мела «двайны» твар адлюстравання. Атрымлівалася так, што калі, напрыклад, грымела маланка і сярод людзей гаманілі: «Пярун, Пярун б'е, Пярун палюе!», то яны ўяўлялі Перуна грозным нябесным богам, які апекаваў над не менш грознымі княскімі дружынамі, і мелі ж адлюстраванне гэтага бога, якое стаяла на язычніцкім капішчы і да якога можна было прыйсці ў любы момант, калі толькі ўзнікала такая неабходнасць.

Ва ўсе часы верылі, а зараз гэта зноў пачынае ўзмацняцца, што людзі праз пасрэдніцтва варажбітоў-знахароў такім чынам авалодваюць таямніцамі сферы «жылля багоў» (Бога адзінага ў хрысціянстве). У часы ранняга і развітога язычніцтва яны і сапраўды лічыліся тымі, хто дапамагае ў «размовах» з багамі, перадае іхнюю волю праз сваіх пасрэднікаў, тых жа вешчуноў-прадказальнікаў, на зямлю. Пасля прыняцця хрысціянства вера ў чароўную, магічную сілу слова застаецца на даволі высокім узроўні.

Да ліку тых меркаванняў, якія нараджаліся ў выніку невялікага запасу звестак і якія павінны ўвогуле ўзнікаць пры больш актыўным развіцці мэтанакіраванай адукацыі, належыць таксама і вера ў амаль бязмежную творчую сілу людскога ўяўлення. Чалавек, павярхоўна аднёсшыся да нейкай справы, блытаючыся ў лабірынце ўсёмагчымых выдумак, а яны, як яму здавалася, не мелі ні тлумачэння ў прыродзе, ні ўзору ў гэтым матэрыяльным свеце, ні нейкіх асацыяцый з практычнымі навыкамі, атрыманымі на працягу ўласнага жыцця, прымаў іх спачатку за арыгінальнае параджэнне ўяўлення паэта або звычайнага апавядальніка. Але потым, пры больш дэталёвым азна-

ямленні з першакрыніцамі казак і паэм, паступова ў ягонай галаве пачынае раскрывацца і прычына, якая нарадзіла гэты цудоўны вымысел, які даволі часта так і называўся нашымі продкамі — міф.

Амаль цэлае тысячагоддзе ніхто не мог адназначна сказаць, чаму ж да іхніх паслуг усё яшчэ звяртаюцца людзі, верачы ў розныя рэзка адмоўныя і негатыўныя ўплывы нядобразычліўцаў. Магія слова, якой бы старажытнай яна ні была і як бы нам ні здавалася, што яна ўжо аджыла свой век, на самой справе не памірае канчаткова, а адраджаецца, узнаўляецца ў нейкіх іншых сваіх аспектах, што пачынаюць іскрыцца новымі гранямі.

# СІЛА СТРАХУ

Чалавек спрадвеку верыў, што яго акружаюць звышістотныя, звышмагутныя сілы, ад якіх залежыць ягоны лёс («рок»), і спрабаваў перацягнуць гэтыя сілы на свой бок. Вера ў такія звышнатуральныя сілы характэрна толькі для чалавека. Яна ўзнікла ў выніку веравання ў існаванне душы, вечная прырода якой, па пераканаанях старажытных, перажывае намнога смертную плоць. Першабытны чалавек лічыў для сябе за свяшчэннае правіла і ніколі не адыходзіў ад яго, што любы аб'ект (прадмет, рэч), не мела вялікай розніцы — жывы ён ці не, мае сваю душу і свядомасць, падобныя на чалавечую.

Далёка не ўсе душы ўключаліся ў сонм племянных продкаў і знаходзілі супакаенне ў царстве памерлых. Тыя, хто быў адзначаны «дурной смерцю» — ад удару маланкі, пакараныя смерцю, не атрымаўшыя паграбення, западозраныя ў чараўніцтве і г.д., выключаліся з іх ліку. Лічылася, што «дурная смерць» знаходзіць тых, хто нейкім чынам займаўся непрадугледжанымі канонамі тагачаснага грамадства справамі і ў выніку гэтага парваў свае сувязі з абшчынным калектывам, з'яднаў сябе з міфічным, асацыяльным светам. Душы загінуўшых «дурной смерцю» не адыходзілі ў царства (краіну) памерлых, а заставаліся недзе непадалёку (у лесе) ад родных мясцін і пастаянна праследавалі жыхароў і прыносілі ім усялякую шкоду. Менавіта гэтыя шматаблічныя істоты выклікалі ў людзей асаблівы жах, напаўнялі акружэнне чалавека тысячамі страшных, перакрыўленых нянавісцю і зласлівасцю вобразаў.

Прыгадаем выказванне польскага міфолага М. Парандоўскага: «Рымлянін (маецца на ўвазе старажытны язычнік. — *А. Н.*) жыў у пастаянным страху, што не здзейсніў абрады, як патрабавалася. Дробязны пропуск у малітве, нейкі няўклюдны рух, нечаканая перашкода ў рэлігійным танцы, паломка музычнага інструмента для ахвярапрынашэнняў — гэтага было дастаткова, каб той жа самы абрад паўтарыць зноў. Бывалі выпадкі, калі ўсё паўтаралася з самага пачатку да трыццаці разоў, пакуль ахвярапрынашэнне не здзяйснялася цалкам. Пры здзяйсненні малітваў жрэц павінен быў сачыць,

каб які-небудзь выраз не быў прапушчаны ці вымаўлены не там, дзе трэба. З гэтай мэтай хто-небудзь іншы чытаў спачатку, а жрэц слова ў слова паўтараў за ім. За тым, хто чытаў, назіраў яшчэ адзін памочнік, які сачыў, ці ж добра той чытае. Меўся нават асобны служка, які наглядаў за тым, каб прысутныя захоўвалі маўчанне. Адначасова трубач з усіх сіл дзьмуў у трубу, каб акрамя слоў малітвы нічога інша-га не было чуваць»[1].

Гэта выказванне М. Парандоўскага вельмі поўна раскрывае перад намі страх любога чалавека за тое, што ім былі дапушчаны адхіленні ў выкананні абраду, вымаўленні замовы, малітвы і г.д.

Імкненне нашых продкаў да веры ў душу або духаў тлумачыцца яшчэ і тым, што яны стараліся любым чынам злучыць жыццё, яго праявы з прывідам. У выніку ў іх з'яўляецца агульнавядомае паняцце, якое можа быць названа прывіднай душою, духам-душою. Само паняцце аб уласнай душы, ці духу, у прымітыўных грамадствах можа быць вызначана наступным чынам. Душа ёсць тонкі, супярэчлівы чалавечы вобраз, але па сваёй прыродзе нешта падобнае на пару, паветра ці цені. Яна складае прычыну жыцця і думкі ў той істоце, якую адухаўляе.

Не дзіўна, што, зыходзячы з усяго гэтага, старадаўнія продкі думалі, што духі знаходзяцца ў пастаяннай сувязі з людзьмі і што ўчынкі апошніх прыносяць ім радасць ці незадавальненне, што рана ці позна вера ў іх існаванне павінна прывесці непазбежна да сапраўднага шанавання іх ці да жадання іх задобрываць. Такім чынам, нашы продкі верылі ў магутнасць кіравання боствамі і падпарадкаваных ім духаў, у душу і ў будучае жыццё. Гэта вераванне на практыцы ў будзённым жыцці пераходзіла ў сапраўднае, прымхлівае і кананічнае пакланенне.

У свой час англійскі даследчык Э. Тайлар даволі слушна даводзіў, што «...анімізм складае старажытную і новую філасофію, якая ў тэорыі адлюстроўваецца ў форме веры, а на практыцы — у форме шанавання»[2].

Вера ў душу, якая была ўласціва кожнаму чалавеку, прыводзіла да таго, што з'яўляліся шматлікія павер'і, вусна-паэтычныя творы, дзе тлумачылася, што такое душа і як яе можна знайсці, заўважыць ці проста прымусіць пакінуць сляды. «Калі чалавек паміраў, калі яму цяжка даводзілася пакінуць белы свет, то старыя людзі раілі прасачыць, як жа стане паводзіць сябе душа гэтага небаракі. А рабілі ўсё надзвычай проста. Бралі попел і рассыпалі яго роўнай сцяжынкай ад месца, дзе ляжаў паміраючы, і да самага парога. Потым стараліся

прасачыць, ці ж не было нейкіх там слядоў. Вядома ж, слядоў не саміх людзей, якія жылі ў той хаціне, а такіх, якіх раней не сустракалі. Вось калі заўважалі іх, дык тлумачылі, што гэта душа выбірала сабе ўжо месца пасля таго, як памёр чалавек. Яна пройдзе знаёмай ужо сцяжынкай і назаўсёды пакіне цела памерлага і хаціну. Ніколі сюды не вернецца. Бо калі пачне вяртацца, то гэта не дасць ніякага супакаення астатнім людзям. Ім будзе ён сніцца найперш, яны стануць баяцца яго. Ён жа стане з'яўляцца штоночы і будзе не даваць адпачываць, давядзе былых суродзічаў да цяжкага не толькі душэўнага, але і фізічнага стану. Яны вымушаны будуць самі забараняцца ад такога непажаданага ўздзеяння і стануць рабіць гэта пры дапамозе замоў, шэптаў ці малітваў. Калі ж не спраўляліся самі, не пад сілу ім гэта было, то звярталіся за дапамогай да варажбіта-знахара, які «вывядзе» душу памерлага ў іншы свет і не дасць (забароніць) ёй вяртацца назад. Цяпер ёй шляху сюды не будзе, бо дарога гэта стане замоўленая магічным словам» (УЗ.Ст.).

Варажбіты, чараўнікі, знахары вядомы з самых старажытных часоў. Іх асноўная роля ў грамадстве складалася з кантакту са светам духаў. Гэта азначала, што яны пры дапамозе чараўніцтва, ахвярапрынашэнняў прымушалі духаў падпарадкоўвацца ім як ва ўласных інтарэсах, так і ў інтарэсах шматлікіх «кліентаў». Звычайна варажбітоў прасілі аб дажджы, аб добрым ураджаі, яны таксама маглі прадказаць будучыню па зорках ці па палёце птушак, пасылалі злыя словы-праклёны (заклёны), іншыя элементы чараўніцтва на ворагаў. Калі чараўніцтва, якім карысталіся знахары, прыводзіла да актыўнага дзеяння добрых духаў і прыносіла карысць, яно лічылася ці характарызавалася як белая магія. Чорная магія звярталася за дапамогай да злых сіл ці злых духаў, яна заўсёды лічылася антысацыяльнай, і нашы продкі былі цвёрда перакананы, што ў аснове яе ляжаць самыя дурныя намеры і меркаванні.

У эпоху сярэднявечча і ў перыяд еўрапейскага Рэнесансу царква пачала бязлітасна праследаваць варажбітоў і іхнюю дзейнасць увогуле. Яна забаранялася пад пагрозай пазбаўлення жыцця. Лічылася спрадвеку, што ведзьма ці знахар знаходзяцца ў цесным хаўрусе з самім сатаною — найпершым і адвечным ворагам-праціўнікам Бога. Дэман — д'ябал — сярэдняга рангу ці проста злы дух, які безагаворачна падпарадкоўваецца духу-валадару, д'яблу ці сатане (гэта ж самыя вядомыя імёны д'ябла-спакушальніка і прабацькі ўсяго зла). Інквізіцыя, народжаная папскай уладай для ба-

рацьбы з ерэтыкамі, разглядала варажбу і чорную магію ў адным шэрагу з самымі сур'ёзнымі злачынствамі, накіраванымі супраць Бога. На працягу прыкладна двухсот гадоў, пачынаючы з апошняга дзесяцігоддзя XV ст., інквізітары калёным жалезам выпальвалі чараўніцтва і варажбу ў гарадах і вёсках па ўсёй Еўропе. Страх перад чорнай магіяй дасягнуў і Амерыкі — па абвінавачванні ў чараўніцтве ў гэтай краіне паўсталі перад судом больш за дзвесце тысяч ахвяр: іх дапытвалі, вешалі, спальвалі на вогнішчах. Вясковых знахароў абвінавачвалі ў тым, што яны могуць выклікаць злавесныя сілы прыроды, а самі плоцкі хаўрусуюць з «дэманамі», таму іх нашчадкі — «беснаватыя». Сустрэчы, на якія збіраліся ведзьмы, часам надзвычай разбэшчаныя, называліся ў народзе «шабашамі».

У некаторых выпадках даследчыкі спрабуюць падзяляць самі азначэнні «чарадзейства» і «знахарства», але мы не прытрымліваемся такога погляду, бо і ў народзе да гэтага часу няма рэзкіх размежаванняў. Вось што, напрыклад, піша Ул. Васілевіч: «Нярэдка паняцці «чарадзейства» і «знахарства» ў народзе атаясамліваліся, бо і чарадзеям і знахарам былі падуладныя рэчы, недаступныя звычайным людзям. Праўда, часам лічылася, што чараўнікі дзейнічаюць на шкоду чалавеку, а знахары — на дабро, бо асноўным іх заняткам было лячэнне людзей. Аднак, прымаючы пад увагу такое супрацьпастаўленне, пры дэталёвым разглядзе кола заняткаў і тых і другіх можна пераканацца, што падзел на чорнае і белае тут яўна недастатковы. Напэўна ж, і чараўнікі (ведзьмары) маглі выконваць сваю справу, кіруючыся гуманнымі намерамі. І разам з тым няма сумненняў, што знахары, спрабуючы вярнуць сілы і здароўе хвораму, маглі, самі таго не жадаючы, паскорыць ягоны адыход на той свет. Менавіта адсутнасць навуковага, рацыянальнага пачатку ў дзейнасці чарадзеяў і знахароў збліжае іх між сабою»[3]. Паводле А. Шлюбскага: «Значную ролю ў жыцці селяніна Віцебскага павета адыгрываюць т.зв. «чараўнікі», «знахары», «калдуны». Беларус іх надзяляе аднолькаваю таемнаю сілаю, аднолькаваю здольнасцю рабіць уплыў на другіх асоб. А сіла гэтая, як думае селянін, надта вялікая. Яны ўсё могуць. Яны могуць сапсаваць хлеб на карані, перашкодзіць усходам, напусціць на збожжа гніль у сціртах і ў копах, патравіць мышамі збожжа, напусціць ліхога чалавека, які абярэ да ніткі, папсуе яго скаціну, нашле на яго хваробу, адніме малако, а то і самую скаціну звядзе з двара. Але яшчэ мацней выяўляецца гэтая сіла чараўнікоў, знахароў і калдуноў на саміх сялянах, з якімі яны

могуць усё зрабіць. Напусціць хваробу, трасцу, ламату ў касцях, гніль, вочы папсуе, нашле клён на дзяцей, падучку або нават і самую смерць»[4]. Е. Раманаў паспрабаваў нават, паводле народнага, прааналізаваць, як жа адрозніваліся ў народзе вядзьмар і знахар: «Хаця вядзьмар і знахар дзейнічаюць з дапамогай нячыстай сілы, але народ строга адрознівае іх: вядзьмар робіць людзям зло не толькі наўмысна, але ў пэўныя перыяды і міжволі — словам, дыханнем, позіркам можа наслаць хваробу, увагнаць беса, зрабіць ваўкалакам, нават забіць, а знахар нікому не робіць шкоды, але адлечвае тое зло, якое наклікаў вядзьмар, і лечыць хваробу ў людзей і жывёлы.

Жанчыну завуць ведзьмаю, чараўніцаю, а мужчыну — ведзьмаком, чараўніком. Ведзьмакі заўсёды мацнейшыя за ведзьмаў, і калі, напрыклад, ведзьма зробіць залом у жыце, ведзьмакі вырываюць са смехам і заяўляюць гаспадарам, што яны мацнейшыя за ўсіх ведзьмаў. Калі вядзьмар са злосці загоніць у чалавека беса, ён можа прымусіць другога, больш моцнага беса выгнаць першага з чалавека. Бесы падпарадкоўваюцца ведзьмару па сяброўству, бо пасля страшнага суда яны разам будуць мучыцца ў пекле»[5].

Калі ў XVIII ст. колькасць вогнішчаў пайшла на ўбытак, то вясковае чараўніцтва зноў стала квітнець, але пазней, з ростам гарадоў і ўзнікненнем індустрыяльнага грамадства, прыйшло ў заняпад, хоць у гарадах па-ранейшаму існавалі старажытныя прымхі і павер'і, аднак чараўніцтвам практычна не займаліся, бо тыя ж самыя варажбіты страцілі значную частку сваёй «кліентуры».

Вось у той самы перыяд «сатаністы» стварылі свае ўласныя, якія адрозніваліся ад іншых, вераванні, заснаваныя ад найбольшага эквіваленту зла. Гэтыя людзі, вырашыўшы, што сярод усіх жыццёвых сіл дамінуе дух зла, прыйшлі да своеасаблівай высновы: сатана, уладар зла, з'яўляецца самім Богам. А рытуал пакланення д'яблу, як правіла, мае форму злавеснай чорнай магіі.

У аснове большасці сістэм чараўніцтва ляжыць упэўненасць у тым, што чалавек у стане вызваліць сваю бессмяротную душу, ці «божую іскру», і тым самым набыць агромністую звышнатуральную сілу — дабіцца ўлады над духамі, якія кіруюць усім светам, прымусіць сілы і з'явы прыроды падпарадкоўвацца волі чалавека. У нашым адвечным імкненні да самавыяўлення мы нязменна звяртаемся да аднаго з двух шляхоў: унутранага самавызвалення і да праецыравання асобы на знешні свет (тут мэтай з'яўляецца абсалютнае ўладарства над Сусветам).

Варажбіты пастаянна спрабавалі нешта перайначыць ці змяніць (перарабіць) у акаляючым іх свеце, карыстаючыся пры гэтым надзвычай ужо прымітыўнымі метадамі. Тут няма нічога незвычайнага, бо ўжывалася якраз-такі тое, што знаходзілася паблізу («пад рукамі»), і яго можна было ўзяць пры першай жа патрэбе. Іншая справа, што варажбіты стараліся, каб ніхто лішні не бачыў і не мог зафіксаваць для іх саміх непажаданае — што ж выкарыстоўваліся (акрамя таемных слоў) за ўсёмагутныя прадметы, якія ў руках чараўніка набывалі празмерна павялічанае магічнае дзеянне? Таму не выпадае здзіўляцца, калі мы недзе пачуем наступнае сцвярджэнне — «чараўніцтва — гэта навука аб таямніцах прыроды».

Чамусьці так ужо традыцыйна склалася, што чараўніцтва, варажба ў нашых продкаў былі звязаны найперш з жанчынамі. Іх у народзе называлі ведзьмамі, а тое, чым яны займаліся, — вядзьмарствам. Ведзьмы даволі часта чэрпаюць свае чароўныя здольнасці са сваіх уласных крыніц — хоць яны займаюцца і непасрэдна чараўніцтвам. Гэтая жанчына-вядзьмарка, акрамя таго, што валодае магутнымі здольнасцямі, пастаянна жадае ўзмацніць «чартоўскую» сілу і ў выніку становіцца настолькі эгаістычнай і ўжо з пункту гледжання хрысціянскай рэлігіі ўяўляе сабою грозную антыбоскую сілу. А раз так, то за самастойнае (самавольнае, неўзаконенае) пакаранне ведзьмы смерцю нікога і ніколі асабліва не каралі, хіба што ў рэдкіх выпадках толькі дакаралі. Бясспрэчна, што ў пошуках дадатковай сілы варажбіты, хацелі яны таго, ці адбывалася ўсё гэта падсвядома, забіраліся на тэрыторыю (маецца на ўвазе не геаграфічная мясцовасць, а частка духоўнай спадчыны), якая ўжо была замацавана за царквою. На рубяжы развітога язычніцтва і ранняга хрысціянства такую мяжу, тым болей трывалую, правесці нельга было, бо многае там перапляталася, знаходзілася ў пастаянных супрацьборствах. Калі ж хрысціянства перамагло канчаткова і ягоныя законы на тэрыторыі Беларусі сталі кананізавацца, то тут ужо чараўнікам, варажбітам, ведзьмам трэба было асцерагацца. Малейшае парушэнне, нават крананне нейкіх забароненых тэм ці аспектаў, магло для іх каштаваць жыцця.

Традыцыйная ведзьма, якая сваім заняткам зарабляла сабе на існаванне (даволі часта і на існаванне ўласнай сям'і), была цвёрда перакanана, а інакш і нельга было, бо тады б вядзьмарства не мела б ніякага сэнсу, што ўсёмагутныя духі (раней багі, а потым Бог) кіру-

юць чатырма асноўнымі элементамі, якія людзям былі вядомы спрадвеку, — агнём, зямлёй, паветрам і вадою, а іншыя, меней магутныя, духі распаўсюджваюцца па канкрэтных тэрыторыях, вадаёмах, лясах, пушчах, палях, жывёлах. Вось гэтыя не надта моцныя духі павінны падпарадкоўвацца ў выніку магічна-таямнічых абрадаў таму, хто дасканала валодае майстэрствам варажбы. Толькі тут яшчэ і абавязкова падкрэслівалася, што абрады варажбы павінны быць таямнічымі, нязменнымі (кананічнымі), працэс перадачы варажбы ад аднаго чалавека да другога таксама павінен быць цяжкатлумачальным і ахутаным туманам прыцягальнасці і разам з тым найвялікшага страху. Спрадвеку так і вялося: тое, што людзі не маглі зразумець, растлумачыць па-простаму, іх палохала заўсёды. Яны засцерагаліся самі і, адпаведна, засцерагалі сваіх дзяцей. Так перадавалася з пакалення ў пакаленне. Менавіта дзякуючы такой архаічнай сістэме адносна пераймання працэсу і метадаў варажбы («ведзьмавання») многае дайшло і да нашага часу. Няхай сабе моцна змененае, дэфармаванае часам, умовамі, уплывамі, але дайшло.

Вядомы беларускі этнограф і фалькларыст А. Багдановіч прыводзіць прыклад веры насельніцтва былога Ігуменскага павета ў тое, што ёсць такія дрэвы, якія нельга секчы, бо ў іх жывуць душы людзей: як не сцеражыся, а яно цябе прыдушыць. У раёне Барысава быў некалі ссечаны дуб, які самотна стаяў на паляне, — «старажытны дуб» вельмі вялікіх памераў. Калі яго ссеклі, то, падаючы, ён раздушыў усіх, хто яго сек, і, акрамя таго, цэлы тыдзень пасля лютавала бура з перунамі і маланкамі, якая прынесла многа гора. А раней, калі дуб стаяў, то з кожным, хто секане яго сякерай, абавязкова здаралася няшчасце. Не раілі таксама беларусы секчы дрэва, якое скрыпіць, бо гэта пэўная прыкмета, што ў дрэве пакутуе чалавечая душа: чалавек, які ссек такое дрэва, прымушае яе шукаць сабе новы прытулак, за што ён можа паплаціцца калецтвам, а калі і сваім жыццём»[6]. Далёкія прашчуры былі нават перакананы ў тым, што душа зямлі ходзіць лесам і кажа: «Сячыце! Сячыце! Не будзе дрэваў і мяне не будзе!»[7].

Можна гаварыць і пра тое, што паміж чорнай і белай магіямі няма ніякага прынцыповага адрознення, абедзве ўвасабляюць у сабе свайго роду імкненне да ўлады і сілы, якое вельмі характэрна для чалавека. Але ўсё ж паміж імі існуе і выразная мяжа, паколькі чорная магія накіравана супраць чалавека і ў аснове яе ляжыць зло — тут для дасягнення мэты заклікаюць злых духаў, тады як белая

магія дапамагае чалавеку і прыбягае для гэтага да добрых духаў. Праўда, ніводзін чараўнік ніколі не прызнаецца, што яго чараўніцтва, варажба маюць чорны адбітак, — усе яны настойваюць, што іхняе майстэрства скіравана на дабро людзей. Грамадства ў цэлым мае тэндэнцыю адносіцца да дзейнасці любых чараўнікоў або ведзьмаў з прадузятасцю, а царква аддае анафеме як магію, так і тых, хто ёю займаецца.

З пункту гледжання артадаксальнай рэлігіі духі, сілы, якія выклікае чараўнік, нічым не адрозніваюцца ад д'ябальскіх сіл, а духуладар, які кіруе імі, — усяго толькі разнавіднасць д'ябла вышэйшага рангу, які любым чынам і манерам імкнецца прынізіць ролю Госпада. У старадаўні перыяд з-за прыпісваемай духам улады над стыхіямі лічылася, што яны могуць выклікаць неўраджаі, эпідэміі і войны. У адвечным імкненні да ўлады над людзьмі духі ўсяляюцца ў целы мужчын і жанчын, карыстаючыся для гэтага «натуральнымі ўваходамі», і зводзяць людзей з розуму. Напрыклад, такія адвольныя дзеянні, як зяванне ці чыханне, сведчаць аб прысутнасці духаў. Духі падсцерагаюць нічога не падазраючых мужчын, пераўвасобіўшыся ў прыгажуню, ці, калі гаворка вядзецца пра жанчыну, у выглядзе прыгажуна-каханка з дэманічнай здольнасцю выклікаць у слабой палавіны чалавецтва ўзаемапачуцці і потым назаўсёды атрымаць сабе душу канкрэтнай жанчыны, якая ніколі ўжо не здолее вярнуцца да нармальнага жыцця. Такой няшчаснай ахвяры застаецца толькі аддаваць усёмагчымыя загады, і яна адразу стане іх выконваць, ужо не разважаючы над тым, добра яна робіць ці, наадварот, прыносіць зло і жорсткасць, смерць і бязлітасць.

Адным з самых страшных відаў дзейнасці варажбітоў была *некраманія* — пасрэдніцтва з духамі памерлых. Узяўшы ў рукі чароўную палачку і засцярогшы сябе магічным кругам, варажбіт выклікаў з магілы духаў і прымушаў іх раскрываць свае таямніцы.

Душа ці дух, якія пакідалі цела пасля смерці, здольны па сваёй ужо волі-жаданні заставацца ля магілы, падарожнічаць па свеце, не ведаючы пры гэтым ніякіх перашкод і затрымак, лётаць па паветры. Праўда, даволі часта сцвярджалася ў народзе, што душа чалавека пасля таго, як яго забірала да сябе смерць, адлятала на неба птушкаю. Калі гэта быў пры жыцці добры, спагадлівы чалавек, то душа станавілася белым галубком (галубкаю), а калі, наадварот, злы, жорсткі, сквапны, то душа магла пераўвасобіцца ў крумкача. Існаваў амаль паўсюдна па тэрыторыі Беларусі звычай — калі хавалі памерлага чалавека, то перад тым, як яго ўжо выносілі

з хаціны, нехта з бліжэйшых сваякоў выпускаў на волю злоўленую загадзя птушку, каб яна знесла разам з сабою душу чалавека, і тады таму стане лёгка жыць на тым, «пазамагільным», свеце.

Убачыць пераўвасобленую душу дзесьці паблізу, а потым растлумачыць, чаму яна тут з'явілася і менавіта ў такой жывой істоце, можа толькі чалавек, які не здзяйсняў страшныя грахі і не меў адмоўных рыс уласнага характару. Не было вялікім сакрэтам для старадаўніх людзей і тое, што душы маглі «блукаць-лётаць» па свеце, не аддаляючыся ад таго месца, дзе былі пахаваны іхнія былыя гаспадары, ці адляталі назаўсёды, беззваротна, «на той свет». Менавіта беларусы сцвярджалі яшчэ і пра тое, што той, хто пры жыцці надта многа сварыўся, абгаворваў іншых, той няхай не спадзяецца на нешта добрае, бо душа ягоная ператворыцца ў маўклівы камень-валун.

Лічылася, што духі валодаюць розумам і пачуццямі, але не маюць магчымасці рэалізаваць свае жаданні, а таму зайздросцяць і нецярпліва адносяцца да людзей. Для таго каб іх супакоіць, прыносяцца спецыяльныя ахвяры. Напрыклад, калі паміраў воін, разам з ім хавалі і яго любімага баявога каня. Перажыткам гэтага рытуалу стаў звычай, паводле якога кавалерыйскі конь у пахавальным абрадзе суправаджае вайскоўца. На язычніцкіх пахаваннях у ахвяру прыносіліся рабы — служыць гаспадарам у падземным свеце.

У некаторых мясцінах разам з памерлым хавалі не толькі служкаў, палоннікаў, жывёлу, але і некаторыя прылады працы таксама, бо свята верылі ў тое, што ўсё роўна пахаваныя з цягам часу уваскрэснуць у тым жа самым выглядзе, у якім існавалі раней, — беднымі і багатымі, панамі і сялянамі, таму, адпаведна, верылі, што ўваскрэснуць і неабходныя для жыцця і працы прадметы і рэчы.

Амаль ва ўсіх анімістычных вераваннях мы заўважаем, што жывыя гасцінна частуюць мёртвых. Гэтае шанаванне ценяў — адно з самых глыбокіх і моцных вераванняў усяго свету — прызнае з павагай, змешанай са страхам, існаванне духаў продкаў, якія, валодаючы добрай ці злой воляй, з'яўляюцца сярод людзей. Тым не меней жыццё і смерць блага ўжываюцца паміж сабою, і, пачынаючы з сівых стагоддзяў, існавала мноства спосабаў, прыёмаў, абрадаў, пры дапамозе якіх жывыя спрабавалі вызваліцца ад дэманічных, злых і непрадказальных духаў.

Гэтыя прывіды не давалі спакою не аднаму пакаленню людзей. Да таго ж яны падзяляліся на своеасаблівыя падгрупы. Згодна з гісторыяй дэманалогіі бліжэйшым суродзічам прывіду (здані — такая назва больш папулярная для беларусаў) з'яўляўся вампір, які, як сцвяр-

джалі старадаўнія, «падтрымліваў» сваё існаванне тым, што піў кроў жывых. Вампіры нічым асаблівым не адрозніваліся ад іншых дэманаў — яны таксама не гнушаліся ніякімі адмоўнымі сродкамі ў сваім імкненні да дасягнення мэты, да таго ж былі ненажэрнымі. Так, паводле канонаў старой дэманалогіі, вампіры, пераўвасабляючыся ў воблікі дэманічных каханкаў, прабіраліся да ложкаў юных прыгажунь. Можна ў некаторай ступені лічыць вампіра свайго роду пратапрывідам.

Фальклорныя і гістарычныя сведчанні даюць нам падставы канстатаваць наступны факт: пакуль мы будзем баяцца смерці і нам прыйдзецца прыстасоўвацца нейкім чынам да гэтага ўсёапаноўваючага страху, у любым грамадстве заўсёды знойдзецца месца для таямнічага варажбіта-знахара. Нярэдка нам давядзецца згадваць і пра тое, што пад уплывам рэлігіі (тут нават не трэба ўдакладняць якой менавіта канфесіі) чараўніцтва звялося да праяў папулярнейшага персанажа народнай дэманалогіі — ведзьмы. Сумненні ў магчымасці адагнаць або ўвогуле прагнаць праследуючых і адольваючых нас дэманаў жывыя і да гэтага часу (невядома нават, ці настане некалі тая часіна, калі яны ўвогуле адамруць, і ніхто не возьмецца аспрэчваць тое, што яны, усе гэтыя дэманалагічныя істоты-персанажы, з'яўляюцца прамым параджэннем падсвядомых, стыхійных кашмараў-страхаў дагістарычнага чалавека. Тое, што страх жыве роўна столькі гадоў, колькі існуе і чалавецтва, — гэта агульнавядома і, мабыць, ужо пад сумненне нікім з людзей не бярэцца.

Страх старадаўняга чалавека перад магіяй увасобіўся ў адным з самых першых вядомых нам заканадаўстваў. Напрыклад, паводле законаў цара старажытнага Вавілона Хамурапі, прынятых яшчэ больш за 1900 гадоў да нараджэння Хрыста, забаранялася займацца чараўніцтвам з адлюстраваннямі. Падабенствуючы з прымітыўнымі людзьмі родаплемяннога грамадства, мужчыны і жанчыны антычнасці працягвалі чапляцца за орды экзарцыстаў і знахароў, якія выганялі дэманаў з псіхічна хворых людзей, — у такой іменна хваробе бачылі прызнак авалодвання чалавекам бесамі. Для людзей ранніх цывілізацый прырода падавалася густа і паўсюдна населенай духамі і дэманамі, як добрымі, так і злымі, якіх неабходна было задавальняць, упрошваць і ўшаноўваць крывавымі абрадамі. У месцах, дзе закладваўся нейкі будынак (жылое памяшканне ці грамадска-адміністрацыйнае) прыносіліся людскія ахвяры, прычым даволі часта прадвызначаных для такіх ахвяр людзей спальвалі жывымі. І потым ужо на гэтым самым месцы пачыналі будаваць

падмурак. Ці не адтуль і не таму пайшло выслоўе «Стаіць на людскіх касцях». Згадвалі і пра іншы від прынясення ахвяры пры будаўніцтве — чалавека проста замуроўвалі жывым у мур. Перавагу аддавалі немаўлятам, якіх кралі для такіх мэт у бацькоў. Лічылася, што дзеці не паспелі яшчэ награшыць у зямным жыцці і пабудаванае будзе стаяць вечна. У некаторых выпадках дзяцей усё ж забівалі і іхняй крывёю апырсквалі сцены, а само цела замуроўвалі. Значна пазней чалавечыя ахвяры пачалі замяняць жывёламі і птушкамі. Гвалтоўнае спальванне, прымусовае пазбаўленне жыцця назаўсёды захавалася ў магіі, дэманалогіі, міфалогіі не толькі таму, што яно мела месца на самой справе ў гісторыі развіцця чалавецтва, але яшчэ і таму, што надта жыццястойкімі аказаліся абрады і звычаі, у якіх усё гэта ўжывалася.

Усіх, хто займаўся магіяй з адлюстраваннямі людзей, а таксама тых, хто прасіў парады ў дэманаў і мерцвякоў, звычайна праганялі з гарадоў, вёсак і іншых населеных пунктаў, і яны павінны былі, калі іх яшчэ пакідалі ў жывых, жыць удалечыні ад людзей. Дзе яны жылі, ведалі, бо нярэдка ў сілу аб'ектыўных ці суб'ектыўных прычын людзям усё роўна даводзілася звяртацца да іх за дапамогай. Калі ўсеагульная барацьба з ведзьмамі і вядзьмарствам супынілася і знахароў гэтых перасталі праследаваць за іхні занятак, то яны пачалі вяртацца жыць назад, да людзей. Тут ужо іхнія суседзі ведалі, чым чараўнікі займаюцца, якую злыбяду яны могуць прынесці, і калі нешта на самой справе благое здаралася, то ў першую чаргу бязлітасна распраўляліся з тымі самымі чараўнікамі, асабліва і не дапытваліся, вінаватыя тыя ці не. Былі, вядома ж, і выключэнні з правілаў. Напрыклад, у канонах рэлігіі Рымскай імперыі магія афіцыйна ўвогуле не забаранялася, але язычніцкія прадказальнікі, а потым за імі і хрысціяне першымі сталі асуджаць ведзьмаў і праявы чорнай магіі.

У глыбокай старажытнасці класічныя ведзьмы выклікалі ў людзей не толькі страх, падазрэнне, але і захапленне. Іх паважалі найболей за тое, што яны маглі самастойна рыхтаваць усёмагчымыя лекі, якія ставілі на ногі безнадзейна хворага чалавека, або, наадварот, за тое, што па-майстэрску здзяйснялі «ціхія» смертазабойствы, карыстаючыся пры гэтым ядамі, якія імі ж і былі выраблены. Болей таго, яны маглі атруціць чалавека не адразу, а падліваючы ці падсыпаючы таму атруту на працягу доўгага часу. Тады ніхто нават і падумаць не мог, што памерлы — ахвяра атручвання.

Заўсёды ссылаліся на тое, што ён «захварэў невядомай хваробай і ... памёр». Ведзьмаў маглі ўхваляць і за тое, што яны пранікалі ў прыроду рэчаў гэтак глыбока, як ніхто іншы з тагачасных людзей, за талент у прадказанні будучыні, якой бы на самой справе яна потым не аказалася — радаснай ці гаротнай. Яшчэ ў V ст. да н.э. у Афінах для прадказанняў карысталіся металічным блюдам, адшліфаваным пры дапамозе масла да бляску люстэрка. Сучасныя знахаркі-варажбіткі для прадказанняў выкарыстоўваюць крыштальны шар.

Нашы продкі найбольш каштоўным дарам лічылі прадбачанне будучых падзей. Тады, як і сёння, самай папулярнай формай яднання са светам духаў быў *аніракрытыцызм*, г.зн. — пасланні, якія канкрэтны чалавек атрымліваў у сне, а адсюль можна зрабіць выснову, што ў старажытным свеце шырока было распаўсюджана тлумачэнне сноў. У часы язычніцтва яно было свяшчэнным. Нельга адназначна сцвярджаць і ў нашыя дні, што сучаснікі не вераць у «прарочыя сны», у «здзяйсняльныя» сны, у «сны ў руку» і г.д. Старадаўнія чараўнікі прадказвалі будучыню «па малюнках», якія ім бачыліся ў сне, а сам сон імі разглядаўся як такі псіхічны стан, пры якім душа вельмі лёгка і проста можа ўвайсці ў будучыню. Аднак паколькі блукаючая душа падарожнічае ў розных часавых вымярэннях, лічылася, што яна можа перадаваць толькі перавернутае адлюстраванне таго, што бачыць адсюль, і агульнавядомае выслоўе: «У сне ўсё наадварот».

Да канца дахрысціянскай эры ў магію і чараўніцтва пагрузілася ўсё чалавецтва. Паўсюдна мроіліся атрады злых духаў, для супакаення і літавасці якіх патрэбны былі чалавечыя ахвяры. Духі толькі і рабілі, што падпільноўвалі тых, хто не меў магічных абярэгаў-амулетаў ці слоўных засцярог. У гэты час людзі ўжо цвёрда былі перакананы, што ведзьмы маюць трывалыя здольнасці ператварацца ў нябачных істот-духаў, пераўвасабляцца ў жывёлін і птушак, а таксама, што іхняе чараўніцтва смяротнае, што яны папросту могуць кіраваць, як толькі ім захочацца, стыхіямі, а менавіта — чатырма вятрамі. Ім падпарадкоўваліся і такія ўсёмагутныя стыхіі, як гром і маланка.

Чараўнікі і ведзьмы заставаліся на працягу некалькіх стагоддзяў адзінымі лекарамі сярод насельніцтва. Да іх звярталіся ў самыя цяжкія моманты жыцця, бо калі і былі нейкія прафесійныя медыкі, то зварот да іх каштаваў надзвычай дорага, і таму большасць народу, хацела яна гэтага ці не, вымушана была падтрымліваць адносіны са знахарамі. Гэта былі абставіны, прадыктаваныя складанасцямі жыцця патрыярхальнага продка.

Агульным сродкам супраць хвароб (як і розных іншых няшчасцяў) былі ў народзе разнастайныя анатрапеі — рэчы, прызначаныя ўберагчы чалавека ад любога наслання. На прыдарожных крыжах ці на дрэвах, камянях, якія лічыліся святымі, цудадзейнымі, яшчэ і сёння можна ўбачыць павязаныя хвартушкі, хусткі, ручнікі. Яны з'яўляюцца своеасабліваю ахвяраю людзей нябесным сілам, духам, усім нябачным апекунам жывых, здольным захаваць здароўе чалавеку, адагнаць ад яго хваробу. Здаўна асабліва выратавальная сіла надавалася палатну-абыдзённіку, вытканаму жанчынамі аднаго сяла на працягу дня — ад усходу да заходу сонца. Рабіць ахвярны абыдзённік маглі ў выпадку крайняе патрэбы: каб адступілася засуха ці градабой, але найчасцей — каб захаваць паселішча ад хваробы, пошасцяў, паморкаў. Гатовае палатно абносілі вакол вёскі, утвараючы магічнае кола, у сярэдзіну якога ніякае ліха пасля гэтага не павінна было пранікнуць. Альбо абыдзённік працягвалі ўпоперак вуліцы, і праз яго ці пад іх трэба было прайсці ўсім вяскоўцам ці свойскай жывёле. Жыццядайную сілу такога палатна павінна было адчуць на сабе ўсё жывое ў вёсцы. Да ліку абярэгаў ад хвароб, пярэпалахаў і ліхіх вачэй адносіліся таксама чырвоныя ніткі, стужкі, паясы, вышыўка на адзенні[8].

Вера ў дурную сілу чалавечага вока застаецца стойкай і да нашага дня. Калі патрыярхальны чалавек баяўся «чорных вачэй» таму, што яны адмоўна ўздзейнічалі на ягоных супляменнікаў і жывёлу, што сам ён нічым не мог іх вылечыць і проста вымушаны быў звяртацца да нейкай засцерагальнай сілы, якая нярэдка прыходзіла да яго ў асобе той жа чараўніцы ці чараўніка, якія і раілі, як пазбавіцца ўплыву непажаданых сведкаў яго будзённага жыцця і працоўнай дзейнасці. У наш жа час многае засталося проста па традыцыі, бо людзі, як бы ім таго не хацелася, не могуць проста так адмовіцца ад усяго ранейшага, што стагоддзямі ўплывала на фарміраванне светапогляду іхніх продкаў.

# СПАГАДЛІВЫЯ ЗНАХАРЫ



У сваім даследаванні мы на першы план выводзім людзей, якія па цвёрдаму перакананню іншых, былі звязаны з нячыстай сілай. Што ж зробіш, але ж баяліся старадаўнія беларусы такіх суродзічаў, якія карысталіся «заслужана дурною славаю», бо ад іх надта ж многае залежала. Вочы і страшныя словы злога (чорнага) варажбіта былі ўсёпаражальнымі. А маглі злыя чараўнікі надзвычай многае: насылаць і лячыць хваробы; назаўсёды зводзіць у сям'і мужа з жонкай, ды так, што яны ніводнага дня не здолеюць пражыць без спрэчкі і бойкі; наслаць страшэнную, усёпаглынаючую навальніцу, буру з маланкамі і грымотамі, якая раскідае гаспадарчыя пабудовы, павыб'е-павынішчыць ураджай на палетках, і ўсё гэта, разам узятае, прывядзе сялян да галоднай смерці; выклікаць небывалую па сваёй працягласці і бязлітаснасці засуху; ператвараць людзей у ваўкалакаў, жаб, сабак, катоў (пераўвасабляць няшчасных людзей, якія нічога благога ўвогуле нікому не зрабілі, у своеасаблівых носьбітаў пэўных рыс нячыстай сілы і г.д.). Як падкрэсліваў П. Шэйн: «Усе згаданыя намі віды прафесійнага чараўніцтва, калі яно выходзіць за рамкі акрэсленых намі межаў, нямногімі ў Беларусі лічыліся забабоннымі; наадварот, большасць беларусаў глядзіць на ўсё гэта,як на вышэйшае веданне дадзенай прафесіі, істотна неабходнае для паспяховага яе выканання. Інакш глядзяць на сапраўдных чараўнікоў, якія, каб валодаць вышэйшай ступенню магутнасці, прадалі чорту сваю душу. А для гэтага патрэбна парваць усялякую сувязь з царквою, трэба здзейсніць нешта празмерна кашчунскае. Менавіта ў час прычасця не праглынаць св. Таін, а трымаць у роце, потым вынесці іх на «ростанькі» (перакрыжаванне дарог), пакласці на адным з крыжоў, якія амаль паўсюдна на Беларусі ставяцца на перакрыжаваннях, і выстраліць у іх. У час выстралу, як гавораць, бачыцца распнуты Хрыстос. Ёсць прадпасылкі меркаваць, што калі на падобны ўчынак глядзелі абыякава, то толькі ў даўно прайшоўшыя часіны, калі хрысціянства змагалася з язычніцтвам. Цяпер жа амаль паўсюдна на Беларусі так многа распаўсюджана аповядаў пра тое, што большасць страляючых у св. Прычасце краналася розумам, ператваралася ў дзікіх звяроў і падвяргалася таму падобным пакаранням, што, гледзячы на гэта,

амаль ніхто не асмельваўся здзейсніць такое кашчунства. А хто адважыцца і прарабіць вышэйсказанае, таму, маўляў, да самай смерці будзе служыць чорт, будзе выконваць усе яго загады. Што скажа такі чараўнік, тое і будзе.

Паводле народных перакананняў, жаданне зачараваць каго-небудзь з'яўляецца чыста стыхійным, неадвольным, не залежачым ад волі чалавека-чараўніка. Ён тады чаруе, калі «кроў яму вочы зальець», калі «нячыстая сіла к галаве падступіць, у галаву ўдарыць» — так народ адлюстроўвае тую думку, што чараўнік дзейнічае ў раз'юшанасці. Знаходзячыся ў такім стане, ён павінен абавязкова каго-небудзь ачараваць. Тады яму не трапляйся на вочы, бо загінеш ні за што»[1].

А. Шлюбскі падкрэсліваў: «Усе калдуны, знахары і чараўнікі ўладаюць дзвюма здольнасцямі: яны могуць і шкодзіць, і ратаваць у бядзе селяніна. Гэтая якасць ставіць іх у выключнае становішча сярод іншага насельніцтва вёскі. Яны нібыта з'яўляюцца таемнымі ўладарамі селяніна — могуць і караць, і мілаваць яго. Яны з'яўляюцца лекарамі яго хвароб, ветэрынарамі»[2].

Той жа П. Шэйн адразу і «падвучвае», як жа можна было стаць злым чараўніком. Пры гэтым адзначае, што нейкія там празмерна характэрныя асаблівасці ўвогуле адсутнічалі. «Штоб здзелацца чараўніком, гаварыў мне адзін селянін нашай Каралеўскай воласці (Віцебскага павета), трэба палажыцца з чортам, што будзеш за тое яго слухаць: калі ён не вяліць у царкву хадзіць, — не будзеш хадзіць, калі ён не вяліць спавядацца, — спавядацца не будзеш, ды спавядацца то можна, толькі нельга прычашчацца: нада ўзяць у рот прычасце, дый выйшаўшы з царквы, яго выплюнуць. Тады за гэта чорт зробіць так, што будзеш чараўніком: будзеш напускаць на скот і на людзей хваробы і ўсё. Але ўсё-ткі гэты чалавек яшчэ не зусім прапашчы, яшчэ яго Бог можа прасціць, калі перад смерцю пакаецца.

Вот калі хочаш, каб чорт цябе слухаў і грошы насіў, і ўсё такое зрабіў, тады нада саўсім душу прадаць чорту і распіску яму выдаць. Распіску сам чорт напішаць кроўю з мязінца таго чалавека. Такі чалавек, што чорту душу прадаў, што толькі захочаць, вяліць чорту здзелаць — і чорт яго паслухаіць. Толькі такі чалавек ужо на век прапашчый — як толькі памрэць, січас яго душа ў пекла пойдзіць»[3].

Як бачым, П. Шэйн, хацеў ён таго ці не, зафіксаваў для нас некалькі найбольш важных акалічнасцей, якія датычыліся чараўніцтва ў сучаснай яму Беларусі. Па-першае, гэта тое, што варажбітоў ён пераводзіць у ранг «прафесіяналаў». Значыцца, ён правільна заўва-

2 Зак. 1962

жыў, што тагачасныя беларусы свята верылі не толькі ў існаванне душы, нячыстай сілы, але і яе прадстаўнікоў на зямлі, сярод людзей, нават ужо размеркаваных па прафесійных занятках (ляснік, млынар, пчаляр і г.д.). Па-другое, ён вельмі проста і разам з тым дакладна тлумачыць нам, як жа можна было сумленнаму чалавеку за некалькі хвілін станавіцца хаўруснікам чорта і, значыцца, зрабіцца злым чараўніком у вачах і ў свядомасці іншых людзей. Нейкае адхіленне ад спрадвечных кананічных норм, няхай сабе і ў паводзінах, што найпрасцей растлумачыць, некага з членаў роду рабіла яго чараўніком у думках-разважаннях аб ім астатніх суродзічаў.

М. Нікіфароўскі пісаў з гэтай нагоды: «Вернымі служкамі чарцей, выканаўцамі іх волі і зацятымі ворагамі людзей зусім справядліва лічацца ведзьмакі і ведзьмы, якія толькі маюць чалавечы воблік. Вядзьмак і ведзьма заўсёды бываюць крывыя, маюць недарэчную бародаўку, пучок валасоў, лішні ці адсутны палец, двайны рад зубоў; яны сутулаватыя, мужчыны не маюць валасоў на губе і на барадзе, жанчыны — маюць вусы і бараду; у адных і ў другіх вырастаюць з апошняга пазванка хвасты даўжынёю з добрую пядзю. У іх мутны суровы позірк спадылба, прычоска неахайная ці яе зусім няма, зморшчаны лоб, густыя бровы, якія зрасліся, свінцова-шэры без усмешкі ці са злоснай усмешкаю твар; гартанны, часта хрыпаваты голас; яны ўвесь час маўчаць ці няспынна бурчаць, гамоняць з самім сабою; ім уласцівы задуменнасць, неасэнсаванасць руху і г.д. Ведзьмакоў і ведзьмаў вабіць гарэлка і тытунь, п'юць і ядуць яны пераважна нешта вычварнае, у адзенні спалучаюць раскошу і беднасць, спяць і працуюць у розную з людзьмі пару, бяздзельна ставяцца да суседскіх радасцяў і бедаў, не дзеляцца і сваімі, перастаюць маліцца Богу, хадзіць у царкву, пазбягаюць людскога тлуму і нават адасабляюцца ад уласнай сям'і»[4].

Немалаважна будзе адзначыць і тое, што сам чараўнік або варажбіт павінен адчуваць сябе гэткай істотай. Калі ў яго не будзе такой упэўненасці, то ні пра якія яго чараўнічыя дзеянні і гаворкі нават весці нельга. Прыгадаем славутую аповесць А. Купрына «Алеся». Праўда, галоўная гераіня не можа падрабязна растлумачыць, каму ж на самой справе належыць яе душа, але ўпэўнена ў тым, што яе дзеянні, паводзіны, думкі кантралюе нейкая патаемная істота, якая прымушае дзейнічаць дзяўчыну так, як хочацца не самой ляснной прыгажуні, а яе дзіўнаму валадару.

«...Як жа я асмелюся ў царкву паказацца, калі ўжо ад самага нараджэння мая душа прададзена ямy (выдзелена А. Купрыным. — *А. Н.*).

...Не, не... Вы гэтага не можаце зразумець, а я гэта адчуваю... Вось тут, — яна моцна прыціснула рукі да грудзей, — у душы адчуваю. Увесь наш род пракляты на вякі. Ды вы памяркуйце самі, хто ж нам дапамагае, калі не ён? Хіба можа просты чалавек зрабіць тое, что я магу? Уся наша сіла ад яго ідзе»[5].

Цікава і тое, як гэтае «ён» тлумачыцца іншым героем А. Купрына — Ярмолам. Толькі паляўнічы палохаецца, што лішні раз указвае на закаранеласць гэтага павер'я сярод сялян-палешукоў. І саму чараўніцу-варажбітку ён уяўляе і прадстаўляе свайму пану як нешта рэзка адмоўнае, агіднае, якое можа проста звесці са свету, пакалечыць, завалодаць душою, адным словам, зрабіць усё, што толькі гэтай самай ведзьме пажадаецца.

«— Ну, а ў вас тут, на Палессі, ёсць ведзьмы? — спытаў я.

— Не ведаю... Магчыма і ёсць, — адказаў Ярмола з ранейшай абыякавасцю і зноў нагнуўся да печкі. — Старыя людзі гавораць, што былі калісьці... Магчыма, і няпраўда...

— Была ў нас гадоў пяць таму назад такая ведзьма... Толькі яе хлопцы з сяла прагналі!

— Куды ж яны яе прагналі?

— Куды!.. Вядома, у лес... Куды ж яшчэ? І хату яе зламалі, каб ад праклятай кубла і трэсак не засталося... А саму яе вывелі за вышніцы і па шыі...

— За што ж з ёю так абышліся?

— Шкоды ад яе многа было, сварылася з усімі, зелле пад хаты падлівала, закруткі вязала ў жыце... Адзін раз прасіла яна ў нашай маладзіцы злоты (пятнаццаць капеек). Тая ёй і гаворыць: «Няма ў мяне злотага, адчапіся». — «Ну, добра, гаворыць, будзеш ты памятаць, як мне злотага не дала...» І што ж вы думаеце, панычу: з тае самае пары стала ў маладзіцы дзіця хварэць. Хварэла, хварэла, ды і зусім памерла. Вось так хлопцы вядзьмаку і прагналі, няхай ёй вочы павылазяць...»[6].

Самае цікавае, што сама Алеся верыць у тое, што ад яе волі, жадання многае залежыць. Болей таго, дастаткова толькі ўзгарэцца, задумаць нешта благое, і яно абавязкова збудзецца. У некаторых выпадках яна спрабуе растлумачыць, раскрыць значэнне сваёй сілы, але не можа, бо тут усё даволі няпроста, гераіня не ўяўляе, што гэта такое на самой справе. Атрымліваецца нешта заблытанае, незразумелае, якое, у рэшце рэшт, зводзіцца да «традыцыйнага» лёсу, які наканаваны кожнаму чалавеку зверху, і з ім немагчыма змагацца, а калі дакладней, то не мае сэнсу супраціўляцца, — усё роўна прай-

граеш і грэх ад гэтага перад Усявышнім будзе яшчэ куды большы, чым у выпадку ціхамірнага скарэння. Алесі здавалася, што на самой справе яна валодала дзіўнай магчымасцю — прадбачыць лёсы, жыццёвы шлях людзей. Толькі калі варажыць, прадказваць на картах — гэта параўнаўча новы спосаб і ён нас з пункту гледжання тэмы не цікавіць, то ўсё астатняе падаецца даволі заінтрыгавана.

«— І ўсё гэта табе карты сказалі, Алеся?

Яна адказала не адразу і як быццам бы неахвотна:

— І карты... Ды я і без іх ведаю многа, вось хоць бы па твары. Калі, напрыклад, які чалавек павінен хутка нядобрай смерцю памерці, я гэта зараз у яго на твары прачытаю, нават гаварыць мне з ім не трэба.

— Што ж ты бачыш у яго на твары?

— Ды я і сама не ведаю (падкрэслена намі. — *А. Н.*). Страшна мне раптам зробіцца, быццам ён нежывы перада мною стаіць. Вось хоць у бабулі запытайце, яна вам скажа, што я праўду кажу. Трафім, млынар, у пазамінулым годзе ў сябе на млыне ўдавіўся, а я яго за два дні толькі перад тым бачыла і тады ж сказала бабулі: «Вось паглядзі, бабуля, што Трафім на днях дурною смерцю памрэ». Так яно і выйшла. А на мінулыя святкі зайшоў да нас канакрад Яшка, прасіў бабулю паварыжыць. Бабуля расклала на яго карты, пачала варажыць, а ён жартуючы пытаецца: «Ты мне скажы, бабка, якою я смерцю памру?» А сам смяецца. Я як паглядзела на яго, дык і паварушыцца не магу: бачу, сядзіць Якаў, а ў яго твар мёртвы, зялёны... Вочы закрыты, а губы чорныя... Потым, праз тыдзень, чуем, што злавілі мужыкі Якава, калі ён коней хацеў звесці... Усю ноч яго білі... Злы ў нас народ тут, бязлітасны... У пяткі цвікі яму закалацілі, перабілі каламі ўсе рэбры, а пад раніцу з яго і дух вон»[7].

На даволі лагічнае пытанне Івана Цімафеевіча — галоўнага героя аповесці, — якое выцякала з усяго вышэйсказанага, прагучаў патрыярхальна-прымхлівы адказ:

«— А чаму ж ты яму не сказала, што яго бяда чакае?

— А навошта гаварыць? — запярэчыла Алеся. — Што ў лёсу пакладзена, хіба ад гэтага ўцячэш? Толькі б дарэмна чалавек свае апошнія дні хваляваўся б... Ды мне і самой гадка, што я так бачу, сама сабе я раблюся агіднай... Толькі што ж? Гэта ў мяне ад лёсу. Бабка мая, калі маладзейшая была, таксама смерць пазнавала, і мая маці таксама, і бабуліна маці — гэта не ад нас... гэта ў нашай крыві так»[8].

Далей зафіксаваны надзвычай важныя перамены ў характары Алесі, якія адбыліся ўсяго за некалькі хвілін. Асаблівасці гэтыя вельмі

тонка прыкмечаны А. Купрыным: «Яна перастала прасці і сядзела, нізка апусціўшы галаву, ціха паклаўшы рукі ўздоўж каленяў. У яе непарушна спыненых вачах з пашыранымі зрэнкамі адбіўся якісьці цёмны жах, якаясьці нявольная пакорлівасць таямнічым сілам і звышістотным ведам, якія асянялі яе душу»[9].

Зацікаўлены, заінтрыгаваны тым, як Алеся «па-простаму» распавядала пра ўсё чарадзейнае, Іван Цімафеевіч спрабуе дакапацца да ісціны: як жа і чаму ўсё адбываецца на самой справе. І ў адказ чуе ўпэўненыя словы дзяўчыны:

« — Значыць, ты цвёрда верыш у чараўніцтва?

— Ды як жа мне не верыць? У нас жа ў родзе чары... Я і сама многае ўмею...»[10].

Маладая варажбітка на практыцы паказвае прыём, які ў вачах патрыярхальных сялян, бясспрэчна, падкрэсліваў бы значную перавагу любога чараўніка над звычайнымі людзьмі.

«— Што б вам такое паказаць? — задумалася яна. — Ну, хіба што гэта: ідзіце наперадзе мяне па дарозе... Толькі, глядзіце, не адварочвайцеся назад.

...Я пайшоў наперад, вельмі зацікаўлены вопытам, адчуваючы за сваёю спінаю напружаны погляд Алесі. Але, прайшоўшы каля дваццаці крокаў, я раптам спатыкнуўся зусім на роўным месцы і ўпаў ніц.

— Ідзіце, ідзіце! — закрычала Алеся. — Не адварочвайцеся! Гэта нічога, да вяселля зажыве... Трымайцеся мацней за зямлю, калі будзеце падаць.

Я пайшоў далей. Яшчэ дзесяць крокаў, і я паўторна расцягнуўся ва ўвесь рост»[11].

Адносна такой з'явы і намі зафіксаваны шматлікія прыклады, якія адносяцца ўжо да нашых дзён. «У нашай вёсы жыў дзед. Звалі яго Мартын. Памёр ён зусім нядаўна, якіх пару гадоў усяго назад. Дык пра яго людзі гаварылі, што ён меў надта злыя вочы, чараўнічыя. Калі захоча каму благое зрабіць, дык абавязкова зробіць. Не адкруцішся ад яго ніякім манерам. Хавацца бескарысна. Усё роўна, як скрозь сцяну бачыў. Дома будзе сядзець і расказваць, нават не выглядваючы ў вакно, чым у гэты самы час суседзі займаюцца. Як кніжку якую чытаў. Дзяцей стараліся міма не праводзіць, каб яны не трапляліся яму на вочы. Асабліва асцерагаліся тыя людзі, якія некалі ў нечым з ім не пагадзіліся. Аднаго разу і мне ён так напаскудзіў. Я тады яшчэ намнога маладзейшай была. На мяне ўсе казалі, што я надзіва файная (прыгожая. — *А. Н.*). Дык гэты Мартын дабіваўся, каб я згадзіла-

ся за яго замуж пайсці, але я ўперлася і нават чуць пра такую пару для сябе не жадала. Надта ж мне ягоны нос не падабаўся. Такі ж ужо даўжэзны, і пад ім кропля заўсёды вісела. Як падумаю, што з такім саплівым давядзецца жыць, то ажно адверне. А ён жа ж дабіваўся. І аднаго разу вырашыў, мабыць, мяне ці то напалохаць, ці то адпомсціць. Ішла я ў поле, на нашу ніву жаць. Іду сабе спакойна, не надта спяшалася, бо жаць — такая цяжкая праца, што да вечара так натомішся, дык і разагнуцца лішні раз сілы нестае. Па раўнюткай сцяжынцы крочыла. Суха было. Пад нагамі ні камення, ні голляніякага. І раптам, як гопнуся пасярод дарогі! Ажно ў сярэдзіне ўсё затрэслася! Ледзьве паднялася, галава закружылася, спалохалася, што нехта бачыць і смяяцца будзе. Аддыхалася трошкі і далей пакрочыла. Не паспела пару дзесяткаў крокаў адысці, як зноў трахнулася ва ўвесь рост. Мала таго, што ўпала, дык яшчэ і руку падкруціла моцна. Устала, слёзы на вачах, але не падумала нават, што гэта нехта мне падрабляе. Далей зноў шкрабуся. Толькі пасля таго, як недзе чацвёрты раз выцягнулася на дарозе, то пачула ззаду задаволены смех. Акінулася, а гэта ён, Мартын, мне такое рабіў. Стаяў за спінаю ў нейкай сотні крокаў. Я ішла, а ён у спіну поглядам упіраўся і валіў мяне сярод роўнай дарогі. У той дзень я так амаль і не жала ўвогуле, бо рука была, як калода, і нельга было нічога рабіць. Але на ўсё астатняе жыццё запомніла, якія чорныя вочы ў Мартына і як ён па-злому да людзей адносіўся» (УЗ. Пн.); «Даўней, то ў кожнай вёсцы чараўнік быў. Няхай сабе не такі ўжо моцны, бо даводзілася чуць пра такіх ведзьмакоў, якія маглі многа благога людзям зрабіць. У нашай вёсцы злы вядзьмак жыў. Яго так за вочы і называлі, бо баяліся прама сказаць. Яму ж нічога іншага не заставалася, як помсціць. А ў гневе быў страшны. Калі раззлуецца, то доўга не супакоіцца. Расказвалі, што яго любімым заняткам-пацехаю было тое, калі Нічыпар, так звалі чараўніка, быў у добрым настроі, каб паздзекавацца з людзей наступным чынам. Ідзе сабе чалавек, нічога не падазраючы, па дарозе і раптам, як гохнецца, то ажно ўзняцца не можа. Аддыхаецца, устане і зноў, як лупянецца праз колькі крокаў. Так чалавек разаб'ецца, што ўстаць не можа, плача з адчаю і бясілля, нічога не разумеючы. Потым толькі дойдзе, што нешта тут не тое, што гэта нехта ўсё падрабляе. Здагадаецца чалавек акінуцца імгненна назад ці ўважліва прыслухацца, то паспее заўважыць Нічыпара, які абавязкова будзе знаходзіцца непадалёку, ці пачуе яго зларадны смех. Гэтак ён заўсёды выказваў сваё задавальненне. То Нічыпар проста ўмудраўся пазабаўляцца такім чынам, але аднаго разу загубіў ні ў чым не павінна-

га чалавека. Вырашыў паздзекавацца з вясковага пастушка, які, папабегаўшы цэлы веснавы дзень за каровамі на пашы, бо яны яшчэ не паспелі адна да адной прызвычаіцца, ледзьве цягнуў ногі дамоў. Прыладзіўся за спінаю і зрабіў так, што той нечакана ўпаў. Упасці ўпаў, але болей і не падняўся, бо рэзнуўся галавою аб камень, які вострым краем выпіраўся на паверхню. Нічыпар потым на людзях спрабаваў адмаўляцца, што гэта не ён, што не мае ніякага дачынення да смерці хлапчука. Ніхто яму ў адкрытую нічога не сказаў, але многія падумалі, што вядзьмак і ніхто іншы вінаваты тут» (УЗ. Ст.); «Калі чараўнік хацеў ногі нейкаму няўгоднаму для яго чалавеку павыкручваць, то рабіў гэта надзвычай проста. Падцікоўваў, калі той дзе-небудзь быў адзін, і асцярожненька ішоў за ім. Паўтараў кожны рух сваёй ахвяры і калі толькі бачыў якую лужыну, то туды той чалавек і падаў. Ні з таго, ні з сяго, з усяго маху! Упадзе ў лужыну, мокры ўвесь, брудны. Добра, калі па якіх гаспадарчых справах ішоў і быў у будзённай вопратцы, а калі па-святочнаму вясковец апранаўся і плюхаўся? Тады ўжо і да людзей не пакажашся. Дамоў прабірайся неадкладна, ды глядзі, каб надта не бачылі па дарозе, бо яшчэ плявузгаць пачнуць, што п'яны быў і што ўляцеў сам з дурной галавы. Але тут справа магла закончыцца смехам і бруднай вопраткай. Гэта яшчэ не зусім страшна. Калі вядзьмак быў злы, то ягоная ахвяра вярталася дамоў з разбітай галавой, з павывіхнутымі рукамі і нагамі. А нярэдка і такое здаралася, што яго прыносілі дамоў іншыя, бо сам так пакалечыўся, што ісці ўвогуле не мог» (УЗ. Ганц.).

Цікава яшчэ і тое, што тлумачэнне таго, як усё адбывалася і рабілася гэта на самой справе, у творы А. Купрына і ў нашых запісах апошніх гадоў супадае да драбніц. Вось прыклад з «Алесі»: «Я сапраўды не зусім зразумеў яе. Але, калі не памыляюся, гэты своеасаблівы фокус складаецца ў тым, што яна, ідучы за мною следам крок у крок, нага ў нагу, і неадступна гледзячы на мяне, у той жа час стараецца пераймаць кожнаму, самаму дробнаму майму руху, так мовіць, лучыць сябе са мною. Прайшоўшы такім чынам некалькі крокаў, яна пачынае ў думках уяўляць на некаторай адлегласці наперадзе мяне вяроўку, перацягнутую ўпоперак дарогі на аршын ад зямлі. У тую хвіліну, калі я павінен дакрануцца да гэтай уяўнай нагою, Алеся раптам робіць падаючы рух, і тады, па яе словах, самы моцны чалавек павінен абавязкова ўпасці... Толькі многа пазней я ўспомніў заблытанае тлумачэнне Алесі, калі чытаў справаздачу доктара Шарко аб вопытах, праведзеных ім над дзвюма пацыенткамі Сальнетрыера, прафесійнымі варажбіткамі, якія пакутавалі істэрыяй. І я быў здзіўле-

ны, даведаўшыся, што французскія варажбіткі з просталюдзінак прыбягалі ў падобных выпадках да тых жа дзеянняў, якія пускала ў ход прыгожанькая палеская ведзьма...»[12].

А цяпер прасочым, як жа ўсё гэта тлумачылася ў вусна-паэтычных творах. Хоць не выключана, што сам тэрмін «вусна-паэтычны твор» будзе тут і не надта адпавядаць існасці справы. Правільней, мабыць, трэба гаварыць пра былічкі (бо ж усё гэта так ці іначай, але існавала, адбывалася на самой справе, сярод людзей), якія распавядаліся нам толькі пры надта «стараннай, дакладнай наводцы на тэму». Не трэба здзіўляцца такому факту, бо і ў нашыя дні надта многа людзей свята верыць у тое, што злыя варажбіты і чараўнікі могуць моцна ўплываць на людзей і хочаш ты таго, ці не, але павінен асцерагацца ўсялякіх ускладненняў з ведзьмакамі. «Мне мой нябожчык дзядуля расказваў гэта. А ён у мяне набожны быў. У царкву на ўсе святы хадзіў, малітваў шмат ведаў, таму ж хлусіць ніколі не будзе. То і расказваў, як яго зусім яшчэ малога хлапчука падвучваў злы вядзьмар. Той вядзьмар жыў нелюдзем на сваім хутары. Да яго нават баяліся блізка падыходзіць, каб якой трасцы не ўхапіць. Чаго ён так майго дзядулю ўпадабаў? Магчыма, тое яму даспадобы прыйшлося, што малы, малы, а як заспявае, то выліты салавей. Не выключана, што вядзьмар, не маючы ўласных дзяцей, імкнуўся перадаць прыёмы свайго злога чараўніцтва хлапчуку, якому таксама потым бы цікава было назіраць за тым, як нявінныя людзі гінуць ды ад болю курчацца, і ўсё толькі ад таго, што злы чараўнік такую сілу неўтаймаваную мае. Каб захапіць малога, стары штодня, выглядзеўшы, што нікога побач няма, прыходзіў да яго, калі ён пасвіў кароў, і абавязкова прыносіў што-небудзь з сабою. Малому, вядома ж, гасцінец на першым месцы, а што старэйшыя гавораць пра ведзьмара, то гэта можа аказацца і няпраўдай. Стары хітраваў і спачатку пачаў вучыць пастушка, як любога чалавека, нават самага моцнага, можна, рук не прыкладваючы, з ног зваліць. Не проста зваліць, а зрабіць так, што той потым і ўстаць не здолее. Кожнаму малому хочацца над вялікім уладарыць. Тады вядзьмар і паказваў майму дзеду, што любы чалавек перад ім не чалавек, а проста як цурбалак бяздушны. Проста трэба ціхенька за тым, каго зваліць хочаш, ісці і паўтараць, да драбніц, ягоныя рухі. Потым рэзка дзёрнуцца ўбок ці ўпярод, і чалавек упадзе, не чакаўшы такога на роўным месцы. Хто яго ведае, як бы далей іхняе сяброўства працягвалася, але мой дзядуля гаварыў, што адвярнуўся ад злога ведзьмара пасля выпадку з хлапчуком. Малы ўпаў, ды так няўдала, што зла-

маў нагу. Крычаў і галасіў надта ад болю. Той крык і слёзы ні ў чым не павіннага дзіцяці і прасвятлілі розум пастушку. Болей не стаў ён ганяць кароў да хутара ведзьмара, перастаў з ім сустракацца, а неўзабаве той злыдзень і сам сабе галаву скруціў. Так атрымалася, што цягся аднекуль у страшэнную буру і прама на яго ўпала старая бяроза. Нават крыкнуць не паспеў. Пахваляўся, што чужыя лёсы наперад ведае, што іншымі людзьмі кіраваць можа, як яму толькі задумаецца, а так і не здолеў прадугледзець, дзе самога смерць, і прытым якая, напаткае. Яго на тым месцы, дзе забіла бяроза, закапалі, а само дрэва спалілі, каб не засталося з ім разам чаго дурнога і благога на зямлі. То быў надзіва моцны, злы знахар. Пра яго і зараз згадваюць часта, асабліва калі гаворка заходзіць пра што-небудзь нячыстае, дрэннае, непажаданае» (УЗ. Ганц.); «Тут, гаварылі, нічога складанага не было. Дастаткова толькі ўважліва-ўважліва ўглядацца і паўтараць усе рухі дачыста. Рухі паўтараць і, нібы ўсыпляючы ўвагу таго, за кім цікуеш, крыху іх нібыта працягваць. Атрымліваецца так, што той чалавек ідзе наперадзе, нікога не бачыць, не думае пра тое, што зараз можа ўпасці, і проста не чакае нічога благога. У той самым момант, як ён упэўнена крочыць, не менш упэўнена ставіць ногі, яго трэба і падбіваць упасці. Раз! І ўсё! Ён на зямлі! Прыпячатаў зямлю-матку так, што ажно юшка з носа пацякла і галава кругам пайшла. Упадзе так некалькі разоў запар, асабліва на ўбітай сцежцы ці дарозе або на ўмерзлай і слізкай, дык нават узняцца сілы не будзе ставаць. Мала гэтага, баяцца стане, а ўсё з-за таго, што злы чараўнік над ім панасміхаўся і гэты чалавек дарэшты разбіўся. Добра, калі проста падаў і не болей. А калі, падаючы, сабе што-небудзь выкручваў ці ў сярэдзіне адбіваў? Тут ужо было не да жартачкаў, бо чалавек, у выніку, мог назаўсёды застацца калекай ці нават і памерці. Такое таксама здаралася» (УЗ. Івац.); «Некалі нават мая бабуля мне сама паказвала, як трэба зрабіць, каб наперадзе ішоўшы чалавек упаў. Не, біць не біла нічым. За ногі не цягнула, не крычала для пераляку, а толькі казала, каб добра ўглядаўся і ўсё паўтараў. Раз будзеш уважлівым, то паспееш прыкмеціць, якія хібы ў чалавека, нават што ў яго баліць, у якім становішчы яго найлягчэй падбіць. Тут яшчэ, відаць, абавязкова дзейнічае і тое, што ён жа не здагадваецца, не думае пра тое, як з ім збіраюцца паступіць. Хіба ж нехта пастаянна назад азіраецца? Не. Асабліва лёгка чалавека можна зваліць на траве. Яна ж пастаянна слізкая. Толькі крышачку нібы дапамог ішоўшаму — і ён ужо ляжыць на спіне ці на пузе і ашалоплена круціць галавою. Куды яму дацяміць, ад чаго ўсё

здарылася. Злы варажбіт такія фокусы рабіў з адной толькі мэтай — каб пакалечыць чалавека або выбіць з яго непакору. Вось калі дасягне сваёй мэты, то і задаволіцца. Бабуля казала, што яна пераняла гэтае чараванне ад суседзяў. Пра тых усе людзі гаварылі, што яны злыя чараўнікі. І напускалі яны благое не толькі на людзей, але і на жывёлу таксама. Бабуля мне проста паказвала, каб я зразумела, як і да чаго ўсё здзяйснялася. Толькі сама яна нічога благога ў адрас сумленных вяскоўцаў не рабіла, хоць і валодала добрай сілай. Іншыя ж казалі, калі надта разззлуюцца, то мала таго, што ў іх чалавек падаў з усяго маху на зямлю, ён яшчэ потым і калаціўся, нібы ў якой моцнай ліхаманцы. От тут ужо, бедалазе, даводзілася памучыцца» (УЗ. Ст.); «У нас стары адзін яшчэ на маёй памяці людзям вачыма мог ногі павыкручваць. У яго такія вочы страшныя ды злыя былі, што няхай толькі хто ў зло ўвядзе, то абавязкова адпомсціць. Будзе год, два чакаць, але падловіць такі момант, калі ягоная ахвяра застанецца адна, а там ужо вядзьмак сваё возьме. Прынадзіцца ісці ззаду крок у крок. Стане пераймаць малейшыя рухі. Ніхто ж не падумае, што ззаду нехта вачыма ўжо ім кіруе. А той злыдзень толькі і чакае, каб улавіць нейкае слабое месца ў паходцы. Можа, нешта ў таго чалавека баліць ці ногі слабыя, то тады, як шылам кольне ў самы непадыходзячы момант. А раз кольне, то і ўсё на гэтым. Чалавек падае як падкошаны з усяго маху на зямлю. Улупіцца з усяе сілы, дык і дух перавесці не здужае. Адляжыцца, пачне ўставаць, і сілы не мае для гэтага. Зямля яму тут цвёрдым камянём, а не мяккай пасцелькай сцелецца. Добра, калі той вядзьмак толькі няшчаснага на зямлю нечакана зрынуў, а то ж можа яшчэ і ногі пакалечыць ці што іншае. Упадзе няўдала на спіну ці на галаву або рукі падверне. Здаралася, што і сярэдзіну ўсю сабе адбівалі. Найбольш няўдалыя пасля такога падзення маглі неўзабаве памерці» (УЗ. Петр.).

Тое, што зафіксавана ў А. Купрына і ў нас, амаль поўнасцю супадае. Розніца хіба што ў тым, як пісьменнік здолеў раскрыць гэтую таямніцу (быццам бы паводле слоў самой «прыгожанькай палескай ведзьмы»). У нас жа інфарматары не скіроўвалі сваю ўвагу на нейкую навуковасць, імкненне з такога пункту гледжання растлумачыць звышістотную, як здавалася б, з'яву. Яны проста перадавалі («пераказвалі») нам тое, што адбывалася на іхніх вачах ці на вачах іхніх блізкіх, родных, якім яны цалкам давяралі, і адпаведна верылі безагаворчна такім аповядам. Можна падкрэсліць і наступную акалічнасць: колькі б людзей мы ні апытвалі адносна цікавячых нас пытанняў, усе яны адказвалі на пункты анкеты сур'ёзна, нават без нейкай

там долі іроніі ці недаверу да таго, пра што паведамлялі. Верылі іхнія продкі, заставалася вера ў такое страшнае чараўніцтва (чараванне, ведзьмаванне) і ў іхніх нашчадкаў.

Да найбольш страшных чараўнікоў або ведзьмакоў адносілі, бясспрэчна, тых, якія маглі кіраваць прыроднай стыхіяй, «насылаць» яе на нейкую канкрэтную мясцовасць, вёску, мястэчка, паселішча. На самой жа справе у рэальным жыцці здаралася так, што град, навальніца, неўтаймаваная бура, залева маглі перыядычна (рэгулярна) адбывацца ў адным месцы і зусім, на працяглы час, адсутнічаць у другім. Самае незразумелае для патрыярхальнага чалавека было тое, што за нейкую вярсту-дзве стыхія не прынесла шкоды, нічога не кранула, а ў яго вынішчала ўсё дазвання. Жыхары вёсак і мястэчак не разумелі і самой прычыны, з-за чаго гэта ўсё здаралася, таму шукалі чалавека, які быў у гэтым усім вінаваты. Яго трэба было ізаляваць ад сумленных жыхароў. Зрабіць так, каб і надалей не надараліся такія страшныя стыхіі. Меркаванні адносна самога пакарання падзяляліся. Найбольш рашучая і агрэсіўная частка жыхароў, як заўсёды і ўсюды, выступала за крывавую разборку ў дадзенай справе («збіць да паўсмерці», «збіць, каб праз пару дзён сканаў і на тым перарваўся вядзьмачы род», «забіць», «пазбавіць жыцця» і г.д.). У другім выпадку ведзьмара ці ведзьму білі, але не да смерці, а «для таго, каб запамятавала на ўсё жыццё і дарогу назаўсёды сюды забыла і сваім блізкім яе заказала». Зрэдку сям'ю, калі была такая, чараўніка, злога знахара, або саму ведзьму выганялі з населенага пункта з умовай, што яны, маўляў, павінны перастаць займацца ў будучым сваімі гнюснымі справамі, а ім даруецца за гэта жыццё. У некаторых выпадках тыя, каго лічылі ведзьмакамі-чараўнікамі ці якія самі адчувалі, што на іх або на іхнім родзе ляжыць такая «пячаць», адразу ж пасля навальніцы, буры ці яшчэ якой-небудзь праявы стыхіі імкнуліся як мага хутчэй уцячы са свайго месцажыхарства без усялякіх дадатковых напамінаў. Проста баяліся за ўласнае жыццё, бо перад вачыма былі ці нядаўнія прыклады-расправы з такімі ж злымі чараўнікамі, ці запалохваючыя гаворкі пра іх. А не выключана яшчэ і тое, што некаторыя са злых чараўнікоў сапраўды маглі прадбачыць развіццё далейшых падзей, тым болей прыродных з'яў. Людзі, якія тонка разумелі дыханне прыроды, яе развіццё, лічылі сябе яе дзецьмі, адчувалі подых нечуванай сілы з боку прыроды і маглі нават папярэдзіць аб надыходзе такога моманту. Маглі б, пры адной умове, калі б іх паслухаліся і прынялі да ведама тое, пра што яны даводзілі. Але ж мы самі адзначалі, што іхні кантакт з усімі астатнімі людзьмі быў аб-

межаваны да мінімуму. Ведзьмакоў баяліся, іх абміналі, а прыслухоўвацца да нейкай, няхай сабе самай слушнай парады людзям, «засцеражоным божым крыжам», увогуле не выпадала. Чараўнікі — гэта ж, паводле канонаў цемрашальства, праява нячыстай сілы, і мала што яны могуць наплявузгаць дзеля ўласных інтарэсаў. Вось і атрымлівалася, што чараўніку выгодней было ратавацца самому, забіраць і паспець звесці ў небяспечнае месца ўсю сваю сям'ю, чым пераконваць вяскоўцаў у тым, што ён ні ў чым не вінаваты. Прыгадаем усё тую ж «Алесю» А. Купрына.

«— Ты, магчыма, не ведаеш... Я ж там... у Перабродзе... прыгразіла са злосці ды з сораму... А цяпер чуць што здарыцца, зараз жа на нас скажуць: жывёла пачне падаць, ці хата ў каго загарыцца, — усё мы будзем вінаватыя. Бабуля, — звярнулася яна да Мануйліхі, узвышаючы голас, — праўду ці не я кажу?

...Я кажу, што цяпер, якая б бяда ні здарылася ў Перабродзе, усё на нас з табою зваляць.

— Ох, праўда, праўда, Алеся, — усё на нас, гарамычных, зваляць... Не жыць нам на белым свеце, звядуць нас з табою, зусім звядуць, праклятыя... А тады, калі мяне з сяла выгналі... Што ж? Хіба ж не так было? Прыгразіла я... таксама вось з прыкрасці... адной дурындзе паласатай, а ў яе — раз — дзіця памерла. Ні сном, ні духам маёй віны тут не было, а мяне ледзь не забілі акаянныя... Камянямі сталі кідаць... Я бягу ад іх, ды толькі цябе, малалетку, усё аберагаю... Ну, думаю, няхай ужо мне перападзе, а за што ж дзіця нявіннае крыўдзіць?.. Адно слова — варвары, вісельнікі паганыя!»[13].

Вось у чым заключаўся той страшны грэх, які ў вачах старадаўніх вяскоўцаў быў раўназначны смерці. Сама Мануйліха прызнаецца, што нічога благога супраць людзей не рабіла, акрамя таго, што, распаліўшыся ў спрэчцы, благое пажадала сваёй суперніцы. Далей у ход пайшоў звычайны збег абставін, які быў не на карысць старой з унучкай. Мануйліха і навальніцу небывалую прадбачыла, толькі і тут, нічога дурнога нікому нават у думках не пажадаўшы, вымушана была ратавацца-уцякаць разам з Алесяй, каб пазбегчы смерці.

«Я выйшаў на ганак у суправаджэнні Мануйліхі. Паўнеба закрывала чорная хмара з рэзкімі курчавымі краямі, але сонца яшчэ свяціла, схіляючыся на захад, і ў гэтым змяшанні святла і цемры, якое насоўвалася, было нешта злавеснае. Старая паглядзела ўгору, прыкрыўшы вочы, як парасонам, далонню, і выразна паківала галавою.

— Быць сёння над Перабродам навальніцы, — сказала яна пераканаўчым тонам. — А чаго добрага, нават з градам»[14].

І што ж атрымалася ў выніку? Усё выйшла так, як напярэдадні прадказвала Алеся.

«— Вы не чулі, — агрызнуўся Ярмола, — што ўчарашні град нарабіў? У палавіны сяла жыта, як нагамі, патоптана. У крывога Максіма, у Казла, у Мута, у Пракапчукоў, у Гардзія Алефіра... наслала ўсё-ткі шкоду вядзьмака чортава... каб ёй згінуць!»[15].

Тут і на самой справе Алесі з бабуляй чакаць нічога не выпадала, бо кожная прамаруджаная хвіліна магла каштаваць ім уласнага жыцця. Адзначым абавязкова і тое, што тут адсутнічаюць і стаўшыя «традыцыйнымі» ўяўленні аб чараўніках, варажбітах, аб тым, як яны дасягнулі такой ступені вядзьмарскага майстэрства. Перад намі паўстаюць звычайныя людзі, якія крыху болей за іншых ведалі з жыцця прыроды, маглі вылечваць ад некаторых хвароб, укусаў і г.д., але нейкай святасці, надзвычайнай таямнічасці мы не адчуваем. Учытаемся лепей у наступнае выказванне, праўда, у ім гаворка вядзецца пра шамана і традыцыі шаманства ў народаў Поўначы, якія захаваліся да нашага часу. Толькі ў агульным плане і вядзьмарства, і чараўніцтва, і шаманства — гэта адно і тое ж. «Шаман, як правіла, чалавек, які пастаўлены да вядомай ступені за межамі племені, ён адзначаны непадабенствам да іншых людзей — гэта можа быць вялізная барадаўка, шосты палец, рэгулярна паўтараемыя прыступы істэрыі ці эпілепсіі, сувяззю з той ці іншай неардынарнай з'явай (маланкай, якая ўдарала ля самых яго ног, затменнем сонца, якое супадала з ягоным нараджэннем) і г.д. Індывідуальныя асаблівасці яго арганізма, вопыты ці сама гісторыя жыцця пабуджаюць племя адносіцца да такога чалавека са змешаным пачуццём страху і цікавасці, звязваць з ім розныя таямнічыя падзеі, чакаць ад яго незвычайных учынкаў, прыпісваць яму здольнасць у яднанні з духамі. Пасля спецыяльнага абраду пасвячэння, падчас якога засвойваюцца прафесійныя магічныя рытуалы і веды, такія адносіны атрымліваюць узаконеную аснову...

...Аснову працэсу фарміравання шамана складае пераўтварэнне ягонай свядомасці, што нярэдка ацэньваецца як крызіс асобы, трагічная, пагранічная сітуацыя, якая карэнным чынам перабудоўвае светапогляд і спосабы ўспрыняцця акаляючага свету. Гэтаму ўсяму могуць папярэднічаць працяглыя падарожжы ці магічныя пошукі, у ходзе якіх чалавек, што адчуў цягу да магіі і шаманства, пачынае шукаць сабе моцнага настаўніка, знаёміцца з чужымі краінамі і народамі, ствараючы тым самым свой асаблівы і значна багацейшы, чым у радавога члена племені, вопыт»[16].

У беларускім народзе спрадвеку пераканаўча сцвярджалі, што варажбіты здольны надзвычай актыўна ўплываць на прыродныя з'явы. У асаблівы план вылучаліся тыя, хто выклікаў вецер. Лічылася, што яны для гэтай мэты звяртаюцца да чорнай магіі. Тут ужо проста злымі вачыма не абмяжоўваліся. Адзначалі, пры дапамозе чаго чараўнікі дасягалі выклікання ветру, яго ўзмацнення да стыхійных параметраў. «Некалі, я яшчэ зусім малым быў, то мне мой дзядуля расказваў пра аднаго магутнага знахара. Яго ўсе называлі — Чорны. Мянушка такая была ці звалі так — не ведаю. Але Чорны, магчыма, і ад таго, што думкі і справы ў яго заўсёды чорныя былі. Надта зайздросны характар-нораў меў той чараўнік. Не было такога года, каб ён што не ўладзіў вяскоўцам. Улюбёнай яго справай было выкліканне ветру. Тут ён ужо быў сапраўдным майстрам. І рабіў усё гэта ў самы непадыходзячы момант. Вось уявіце сабе. Згрэблі людзі сена. На небе ні воблачка, ні парушынкі. Усё добра. Сонейка, ласкавы вецер прадзімае і сушыць, робіць сваю справу. Сяляне задаволеныя, што паспелі ў час управіцца і дажджу не было, і не збіраецца нідзе хмара. Зараз трэба павазіць дамоў, калі блізка, ці яшчэ раз стагі праверыць, падбіць, як мае быць, вяршкі ўмацаваць на ўсялякі выпадак. Людзі яшчэ шчыруюць і думаюць, адпаведна, толькі пра самае лепшае. І тут, ні з таго, ні з сяго, пачынае разгульвацца вецер. Прычым адбываецца гэта надта хутка. Вось яшчэ толькі падуваў ветрык, а тут ужо ажно раве, стогне ўсё навокал. Стагі, нібы дзіцячыя цацкі, узлятаюць у паветра і рассыпаюцца-разносяцца далёка-далёка па наваколлі. Калі стагі так раскідвае, то што ўжо пра копны гаварыць застаецца. Бо ж яны невялічкія і таму — лёгкія. Гора людзям. Столькі сена прападала ў адно імгненне, а трэба ж было гэтулькі працы ды сілы на яго затраціць. Найбольш бедныя, то слязьмі горкімі плакалі, бо ж зімою не будзе чым жывёлу карміць. Вось тут ужо Чорнага таго і ўспаміналі-згадвалі. Самымі бруднымі, самымі страшнымі праклёнамі. Чалавек многае можа, асабліва ў гневе. Потым усе неяк ніякавелі і пачыналі заводзіць гаворку пра што іншае, зусім не згадваючы Чорнага. Аказвалася, што тут ім даходзіла, на каго яны языкі распусцілі. Чараўнік жа, магчыма, дзесьці паблізу знаходзіцца і слухае, а раз пачуў, то рыхтуйся да вялікіх непрыемнасцей і невядома яшчэ дзе іх і калі чакаць. Такая невядомасць і пастаянная напруга найболей людзей зводзіла. Той Чорны, для таго каб вецер такі страшэнны выклікаць, рабіў наступнае. Ішоў у густы, высокі лес і лавіў там чорную гадзюку (гадзюку, якая жыве на высокім месцы, і яна на самой справе мае амаль цалкам чорную афарбоўку і, да таго ж, надта высокую

канцэнтрацыю яду). Забіваў гэтую гадзюку, лупіў яе. Шкуру выкідваў у ваду, а цела гадзючае вешаў на высокае дрэва і на той бок, з якога хацеў, каб прыляцеў вецер. Насупраць таго павесіць, то туды і падзьмуць патокі ветру. Дрэва з'яўлялася бярозай. Ні на якое іншае Чорны гадзюку не вешаў. Дастаткова было ўсяго якой паўгадзіны, і ўсё ў варажбіта атрымлівалася належным чынам» (УЗ. Пн.); «У нас быў надта злы вядзьмар, які мог навесці свае чары на любога з людзей, і асабліва ён вызываў часта вецер. Не баяўся нічога, лазіў, дзе хацеў. Зловіць змяю-гадзюку і нясе яе, забітую ўжо, каб павесіць на высокім дрэве. Дрэва тое павінна расці непадалёку ад таго месца, куды ён збіраецца выклікаць вецер. Сам станавіўся ад той павешанай змяі на такой адлегласці, каб мог яе бачыць. Стане і шэпча нешта толькі аднаму яму зразумелае ды рукамі размахвае. Такое адбываецца не надта доўга, бо неўзабаве ўсходзіцца вецер. Усхопіцца такі, што людзей і жывёлу з ног валіць. Тады тыя, хто сена грабе, нагаруюцца. Многа іхняй сілы і працы задарма прападзе. Паразносіць усё, параскідае. Цікава і тое, што сам вядзьмар дзе-небудзь прыхаваецца і перачакае разгул ветру, каб потым заставацца чыстым. Быццам бы ніхто не здагадваўся, хто гэта ўсё вырабляў. Мала гэтага, тая сцяжынка, па якой ён адыходзіў, была нібыта ў зацішку. На ёй не дзьмула, не завальвала яе нічым. Вядзьмар сабе рабіў так, каб сябе перасцерагчы. Вецер яму было выклікаць надта проста» (УЗ. Ст.); «Вецер злы знахар мог вызваць у любое месца. У якое яму хацелася, туды і вызываў. Кожны раз падбіраў зручны час і момант, каб шкоды найболей учыніць. І яшчэ трэба згадаць пра тое, што моцны вецер знахар часта не выклікаў. Не, не таму, што яму не хацелася! Проста ён надта ж многа сілы на такі выклік траціў. Яно злому не так сабе давалася, трэба было паднапружыцца. Гаварылі, што пасля моцнага парыву ветру, вызванага знахаром знарок для нейкіх разбурэнняў, сам ён потым некалькі дзён бервяном ляжаў. Падымецца, пап'е вады і зноў валіцца, каб найхутчэй чартоўскую сваю сілу аднавіць, што не кажыце, а і яму, мабыць, страшна было, што нехта даведаецца, што ён зараз увогуле не здольны варажыць. Падыдзе і заб'е, пакарае ад імя ўсіх за ўсё злое і дрэннае, прычыненае сумленным людзям. Тут ужо круціся, не круціся, а вяскоўцы не ўступяцца, асабліва, калі ўсе выдатна ведалі, які гэта нядобры чалавек і чым ён займаецца. Няхай сабе знахар крычыць, на дапамогу кліча, але асабліва на спагаду ды на спачуванне яму разлічваць не даводзілася. Вызываў жа ён вецер такім манерам: ішоў куды на балота або ў лес, лавіў там гадзюку, забіваў і прыносіў да таго месца, дзе збіраўся

рабіць шкоду. Гадзюку вешаў на сук бярозы. Абавязкова, каб дрэва тое было старым, бо з-за маладой бярозкі і вецер, адпаведна, будзе малым і ціхім, не прынясе знахару жаданага выніку. Калі ж хацеў яшчэ і накіраваць вецер у пэўным накірунку, то тады змяю расцягваў на тым суку, галавою туды, куды трэба было дзьмуць ветру» (УЗ. Жытк.).

Усе нашы інфарматары, за выключэннем дробных фактаў, у цэлым распавядаюць пра адно і тое ж: трэба злавіць гадзюку (чорную гадзюку), забіць яе, садраць скуру (ці не здзіраючы), павесіць на вершаліну або на сук, і разыграецца вецер, якога ніхто не здолее ўтаймаваць. Што яшчэ выклікае ўвагу — гэта ізаляванасць варажбітоў (ведзьмароў, знахароў). Пра іх, калі гавораць, то абавязкова падкрэсліваюць, што людзі (сяляне, вяскоўцы) з імі не кантактавалі.

Таму і не дзіўна, што першым індывідуальным крокам, які пачынаў аддзяляць варажбіта ад роду-племені, было добраахвотнае аддаленне (самаізаляцыя) ад іншых людзей. Не лішнім будзе падкрэсліць і тое, што нашы продкі былі перакананыя ў тым, што самым цяжкім пакараннем, акрамя смерці, было выгнанне знахара за межы родава-племянных уладанняў.

У выніку такіх выпрабаванняў варажбіт захворвае нейкай асаблівай, нехарактэрнай для астатніх, хваробай, якая дазваляе яму перажываць, і не адзін, многа разоў, стан, блізкі да смерці. У народзе гэта тлумачылася як «аддзяленне душы ад цела», «наведванне душою краіны-краю памерлых» і г.д. Такая хвароба дае магчымасць авалодаць асаблівым тыпам успрыняцця, здольнасцю адвольна пераходзіць ад «звычайнага» да «незвычайнага» стану свядомасці і душы. Акрамя гэтага, варажбіт нібыта атрымліваў здольнасць бачыць і чуць не толькі інакш, але і значна вастрэй звычайнага чалавека. Таму ўзнікае ўражанне, што ён, скажам, «бачыць нябачнае» — тое, што адбываецца ў яго за спінаю, за сценамі хаціны, пад вадою. І апошняе, самае галоўнае, — ён пачынае ўзаемадзейнічаць з духамі.

Менавіта таму міф з'яўляецца асновай светапогляду варажбіта-знахара, бо ён цесна звязаны з рытуальнай зададзенасцю абшчыннага быцця чалавека і з ужо згаданым спосабам арганічнага бачання-адчування прыроды. Варажбіт успрымае прыроду метафізічна ў вобразе чалавечага цела, жывой істоты, функцыяніраванне якога абумоўлена ўзаемадзеяннем усіх яго частак.

Вецер, моцны вецер у вачах ды ў свядомасці патрыярхальных людзей — гэта адно. Ён меў страшную, разбуральную сілу, якая прыносіла многа шкоды людзям працы. Ветру, няхай сабе і ўраганнаму,

сяляне неяк усё ж спрабавалі супрацьстаяць. І справа тут далёка не ў тым, што да яго яны прызвычаіліся. Не, вецер пагуляе, пагуляе ды і супакоіцца або з надзвычай сярэдняга стане ніякім ці ўвогуле пяройдзе ў абсалютную цішыню. Бура ж, наадварот, яна нараджаецца з ветру і ў вецер пераходзіць нават калі зусім заціхае. Значыцца, заначаў далёкі продак, тут хаваецца куды большая сіла. Вядома ж, зыходзячы з такіх менавіта разважанняў, і мог выклікаць буру чараўнік або варажбіт, які валодаў намнога большай сілай, чым звычайны знахар. Такіх людзей было не так і многа. Напрыклад, калі ўзяць сучасны тэрытарыяльны падзел Беларусі, то не болей чым адзін на дватры раёны. Бясспрэчна, калі знахар задумваў здзейсніць нешта благое, то рабіў усё гэта не паблізу сваёй хаціны, населенага пункта, паселішча і г.д., а значна далей. Сцвярджалі нават, што ён накіроўваў буру на некалькі «дзесяткаў вёрстаў». Падкрэслівалася нярэдка і тое, што знахар увогуле адсутнічаў у тым месцы, дзе гуляла стыхія, менавіта на момант яе разгулу. Адзначалася, быццам бы ён рабіў такі ход спецыяльна: сам адводзіў ад сябе небяспеку на выпадак помсты з боку раз'юшаных сялян. Сена — сенам, без яго вяскоўцы маглі неяк выкруціцца, перакарміць жывёлу саломай, сечкай, маладым засушаным голлем, а вось калі сям'я заставалася без збожжа, то гэта азначала, што людзей чакае голад, а за голадам — яго пастаянны жахлівы спадарожнік — смерць. Чамусьці ў выпадках з бурамі нашы інфарматары якраз-такі і згадвалі вынішчэнне пасеваў ці ўжо нават амаль што спелага збожжа. Не дацягнулі да паспяховага пачатку жніва ўсяго некалькі дзён. У такіх выпадках злым чараўнікам, хацелі яны гэтага ці не, прыпісвалі «двайны» незамольны грэх. Па збожжу (руні, зяляніне, недаспеламу жыту, пшаніцы, аўсу, ячменю) нельга было прайсціся, няхай сабе і пры надзвычай пільнай патрэбе, бо пры гэтым тапталі хлеб (ці будучы хлеб), а такое ніхто не мог дараваць. Любым шляхам шукалі магчымасць адпомсціць. Нярэдка такое здаралася толькі ў думках. Патрыярхальныя погляды на тагачаснае патрыярхальнае жыццё з сённяшняга пункту гледжання ў многіх незразумелыя. «Захоча злы чараўнік неяк людзей да адчаю давесці, то хутка свайго даб'ецца. Усё проста зробіць. Возьме і выкліча буру на гаспадаркі непажаданых яму людзей. Казалі, што надзвычай моцны вядзьмар буру прычароўвае. Для ўсяго гэтага яму дастаткова нашаптаць на адвечны стары дуб, які самотна расце на ўзлеску ці пасярод чыстага поля. Калі ён знойдзе дрэва ў гушчары або, няхай сабе, і ў маладым лесе, дык буры не будзе. Мабыць, дух, які яе разгойдвае, у дрэве не надта моцны жыве. Да такога вялізнага дуба як стане пады-

ходзіць звычайны чалавек, то яго самое дрэва не падпускае. Вось нібы спраміць ногі і нельга крок-другі ні ў якім разе зрабіць. Здаецца, што цвікамі да зямлі прыбілі. На самой жа справе гэта не так. Дуб і ўсё, што знаходзіцца непадалёку ад яго, заклята-замоўлена чараўніком. Яго чорная сіла тут і гаспадарыць. Прыйдзе чараўнік, стане непарушна супраць дрэва і доўга-доўга нешта шэпча ды ўсё па баках глядзіць, каб ніхто ненарокам блізка не падышоў, не ўчуў і не ўбачыў, чым ён тут займаецца. Бура ўсчынаецца, нібы сама па сабе, ні з таго, ні з сяго. Калі нехта ўсяго падрабязна не ведае, дык ні за што і не здагадаецца. Завые, застогне, завуркоча аднекуль здалёку страшнымі галасамі. Можа падацца, што і ўцячы паспееш, але бура перамяшчаецца імклівa. Яшчэ яе характэрная асаблівасць заключаецца ў своеасаблівасці шляху стыхіі. Не бярэцца туды, дзе густы, непралазны лес ці на якое паселішча, а скіроўвае на жытнёвыя палі, сенакосы, нівы. Туды, дзе ёй ёсць месца разгульнае. Вядома ж, у лесе, ці ў населеным пункце, яна таксама можа бяды вялікай нарабіць, але ж там і спыніцца хутка. Выб'ецца з сілы. А тут жа ляціць, і ўсё на тым. Хіба ж жыта ці авёс для яе перашкода? Вытапча, з зямлёю ўсё перамяшае, нібы шматлікі табун коней хто прагнаў па гэтым месцы. Тады ўжо на нейкі ўраджай тут і спадзявацца не даводзілася. Бяда людзям, ды і толькі, а чараўніку радасць нечуваная: ён жа свайго дасягнуў, зрабіў на зло іншым» (УЗ. Пн.); «Некалі, яшчэ ў маладосці маёй, добра памятаю буру, якую вядзьмар зрабіў. Тады, калі ўжо ўсё мінула, дык усе, у адзін голас, гаварылі, што гэта толькі няйначай як ён зрабіў. Не магло такога здарыцца з-за волі Божай, бо ў нас людзі набожныя і ў царкву пастаянна ходзяць. Нават сведкі знаходзіліся, якія бачылі, як вядзьмар са сваёй хацінкі, што ля балота стаяла, да старога дуба праставаў. Вядома ж, з якой мэтай ён туды падаваўся — каб начараваць на буру! Самае страшнае і непрадказальнае заключался ў тым, што яна ўсхадзілася ў чыстым полі, за тым самым дубам. Пастухі бачылі і выразна чулі, як крычаў чараўнік: «Ого-го-го! Ого-го-го! Пагуляй! Пагуляй!» Каб жа ведалі, што далей будзе, дык пабеглі б хавацца, а то ж засталіся на месцы. Як шухнула, як затрашчала, як панесла!!! То і Богу не ўсе паспелі памаліцца! Пра жыта і гаворку не павядзём, бо яго проста з карэннем павырывала і суцэльным валам выперла за некалькі вёрст у густы бор. Там яшчэ дрэў наламала, і гэткія вялізныя гурбы засталіся ляжаць, нібы маўклівыя сведкі той стыхіі. Дзве вёскі амаль цалкам разбурыла. Некалькі чалавек задавіла да смерці. Аднаго нават, як толькі ні шукалі, не знайшлі. Калодзежы да палавіны пяском-друзам пазасыпала. Во дзе

сіла была. Самае дзіўнае і цікавае — тая бура працягвалася ўсяго некалькі хвілін. І за такі кароткі час гэтулькі бяды! Забілі б таго ведзьмара на месцы, каб знайшлі. Але як ні шукалі, дзе ні лазілі, яго ні слыху, ні дыху не чулі. Хітры, ваўкарэзіна, заранёў ведаў, што рабіць. Збег, і ўсё на тым. Ніхто болей яго ў нашых мясцінах не бачыў» (УЗ. Жытк.).

Нешта падобнае сустракаем і ў сведчаннях А. Багдановіча: «Беларусы б. Ігуменскага павета раней верылі, што ёсць такія дрэвы, якія нельга секчы: як ні сцеражыся, а яно цябе прыдушыць. У раёне Барысава быў некалі ссечаны дуб, які самотна стаяў на паляне, — «старажытны дуб» вельмі вялікіх памераў. Калі яго ссеклі, то, падаючы, ён раздушыў усіх, хто яго сек, і, акрамя таго, цэлы тыдзень пасля гэтага лютавала бура з перунамі і маланкамі, якая прынесла многа гора. А раней, калі дуб стаяў, то з кожным, хто секане яго сякерай, абавязкова здаралася няшчасце. Не раілі таксама беларусы секчы дрэва, якое скрыпіць, бо гэта пэўная прыкмета, што ў дрэве пакутуе чалавечая душа: чалавек, які ссек такое дрэва, прымушае яе шукаць сабе новы прытулак, за што ён можа паплаціцца калецтвам ці нават і сваім жыццём»[17].

Калі ў першым з прыкладаў прама ўказвалася на «старажытны дуб», у другім — чараўнік пайшоў, і за ім прасачылі, да такога ж дуба, то ў прыкладзе А. Багдановіча дрэва здольна само помсціць за сябе. Мала гэтага, ён адзначае, што «ў дрэве пакутуе чалавечая душа». А ў нашых прыкладах ёсць яшчэ адна важная акалічнасць, якая пераклікаецца з выказваннем вядомага фалькларыста: дрэва (дуб) стаяла на голым месцы, не ў лесе, не на ўзлеску, а асобна. Тое ж самае і ў А. Багдановіча: «быў некалі ссечаны дуб, які самотна стаяў на паляне». Адсюль відаць, што, паводле старадаўняга беларускага павер'я, калі душы ўсіх памерлых людзей жылі ў дрэвах (скрыпучых дрэвах), то ўсё роўна народныя дарадцы вымушаны былі ісці ў абыход традыцыі і пасяліць душы злых чараўнікоў у асобна стаячыя дрэвы. Каб і тут яны не маглі ўплываць на сумленных людзей і нават іхнія душы, каб не маглі ўздзейнічаць на «шчырыя» душы. Па гэтай простай прычыне вядзьмар ішоў для «стварэння буры» да дрэва, у якім жыла душа роднаснага яму продка-чараўніка. Там шаптаў аднаму яму вядомыя замовы-шэпты (не выключана, што і заклёны ці, наадварот, праклёны), выклікаючы на дапамогу, па перакананнях патрыярхальных людзей, нячыстыя сілы, прадстаўніком якіх на зямлі сам і з'яўляўся. Ствараўся своеасаблівы мост паміж мінулым і будучым ці мінулым і сапраўдным.

Прырода, як яна ўяўлялася знахару, — упарадкаванае і арганіза-

ванае цэлае — прадбачыць першакрыніцу такога мэтанакіраванага збудавання — так узнікае вобраз вялікага духа, які заняў надоўга (на тысячагоддзі!) цэнтральнае месца ў манатэістычных вучэннях. Для паўсядзённага звяртання да гэтага духа варажбіт адчувае патрэбу ў своеасаблівым злучальным ланцугу, які аб'ядноўвае свет людзей і «свет памерлых». Гэтакім ланцугом можа быць ці «свяшчэннае сусветнае дрэва», ці «свяшчэнная гара». Другім, супрацьлеглым вобразам, сімвалізуючым недаступнасць «свету памерлых» для простых смертных (вядома ж, за выключэннем смерці), служыць рака (нам яна вядома з грэчаскай міфалогіі пад назвай Стыкс, а з славянскай — пад вызначэннем «вогненная»), праз якую можна перабрацца з вялікімі цяжкасцямі-перашкодамі толькі па вузкаму масту (чароўнай хусцінцы, лязу мяча). Пераправа па такому масту, нават у думках, перададзеных чараўнікам у сваіх замовах-заклёнах, — звышцяжкае выпрабаванне веры знахара ў існаванне нейкіх сіл, якія невядомы і недаступны звычайным людзям, а заадно і іхняга магічнага майстэрства.

Такім чынам, кожны ведаў свае наяўныя сілы і браўся за здзяйсненне толькі таго, што мог зрабіць, бо правал у гэтым плане азначаў для яго імгненную страту многіх «кліентаў», растрачванне магічнай сілы ў вачах сваіх суродзічаў ці супляменнікаў. Пасля такога паражэння ведзьмару неабходна было ці ўцякаць у якую цяжкадаступную мясцовасць, дзе б яго ўвогуле ніхто не ведаў, ці, спасылаючыся на якую-небудзь тэрміновую прычыну, агаворку, перапыняць або і зусім спыняць сваю «чарадзейную дзейнасць». У адваротным выпадку працяг для яго мог быць непрадказальным — ён станавіўся пасмешышчам людзей, або яго маглі абвінаваціць у нечым цяжкатлумачальным і... пазбавіць жыцця.

Навальніца ў народнай свядомасці спалучалася з той прыроднай з'явай, якая выклікалася значна прасцей, чым бура. Нейкія рэальныя карані такіх сцвярджэнняў трэба, мабыць, шукаць у тым, што «сапраўдная» навальніца надаралася не так ужо і часта. Недзе раз у два-тры гады. Звычайны дождж і, адпаведна, такая ж навальніца тут у разлік проста не браліся. Выкліканне навальніцы ў вачах патрыярхальных людзей было надта ж ужо спрошчаным. Нашым продкам здавалася, што чорнаму чараўніку дастаткова толькі захацець — і ўсё перайначыцца. «Некалі ў нас стары адзін быў, то яго дужа ўсе баяліся. З-за таго быццам бы, што ён мог спакойна выклікаць навальніцу туды, куды яму самому гэта пажадаецца. Нават падглядвалі, як ён будзе ўсё рабіць. Доўга не ўдавалася нічога такога заўважыць. Па-

куль нашым хлопцам не пашанцавала. Яны даўно прыкмецілі, што той дзед пастаянна ходзіць да чыстай крыніцы. Тады непрыкметна ўвязаліся аднаго разу. Дзед ідзе, ідзе, а потым, ні з таго ні з сяго, раптам акінецца. Ды і хлопцы ўжо навучаныя былі. Не проста па сцяжынцы даганялі, а ўзбоч яе. Як стары азірнецца, то пападаюць на зямлю. Потым — зноў за ім. Прыйшоў варажбіт да крыніцы. Стаў адразу ж на калені і прыняўся нешта шаптаць. Доўга вымаўляў-вышэптваў, а там і ўзняўся. Давай ваду ў прыгаршчы набіраць і, узняўшы рукі высока, выліваць. Такое дзеянне дзед паўтарыў тры па тры разы. Ліў у адным накірунку. Пасля зноў стаў на калені і пачаў шаптаць. На гэты раз вымаўляў свае таямнічыя шэпты значна карацей, чым у першы раз. Потым хуценька паджгаў дамоў. Хлопцы — за ім. Не паспелі яны да вёскі дабрацца, як усхадзілася навальніца! З маланкамі, са страшэнным ветрам-бураю. Тыя бліскавіцы то ўвогуле не перапыняліся, а здавалася, што нехта ў небе яркую лямпу запаліў. Ой, бяды тады было! Столькі, што і згадваць жахліва. Паўвёскі выпаліла. Нягледзячы на тое што такая залева была і павінна было адразу ж агонь любы затушыць. Жывёлы колькі маланкамі на пашы пабіла. Жыта спляжыла ў полі, не раўнуючы, як цэпам на таку. Толькі заўчасна. Дрэвы з карэннямі вырывала і на будынкі, як якую лёгкую салому, кідала. А ўсё адзін той стары злыдзень вырабіў. Ён, праўда, неўзабаве і памёр пасля таго. Казалі, што ад злосці, ад лютасці да людзей» (УЗ. Ганц.); «На ваду шаптаў знахар, калі навальніцу выклікаў. Ведаў мясціну, дзе «гаворачая» вада, то туды і ішоў. Падыдзе, там пашэпча. Толькі пашэпча, бо маліцца яму, злыдню, нельга было. Ён жа за ўсё жыццё ніводнага разу ў царкве не быў. Болей таго, сваіх нашчадкаў таксама не пускаў да Бога. Вырашыў супраць усіх ісці, рабіць зло і тым самым трымаць астатніх у страху і падпарадкаванні. Яму проста вада падпарадкоўвалася, прычым вада толькі ў адным усяго месцы. Пасля шэпту незразумелых і нячутных слоў знахар умываўся той вадою і тройчы пырскаў ёю ў той бок, куды прасіўся прыйсці-прыплысці груваСТКУЮ хмару. У нас то той знахар быў зрабіў так, што навальніца разгулялася ранняй вясною. Ніхто б не падумаў. Яшчэ снег ляжаў, прымаразкі стаялі немалыя і тут — навальніца! Во ўжо з яе біла, во ўжо палыскала! А колькі хацін ды гаспадарчых будынкаў папаліла. Самае дзіўнае, што ўсё сярод белага дня адбывалася, што людзей многа па хатах было і ніхто нічога не здолеў ўратаваць. Павыскачылі і стаяць усе, а тушыць многія і не браліся ўвогуле. Вось нібы іх нешта звязала якой вяроўкай, вось нібы волю-памкненне паралізавала. Пазней ужо казалі, што гэта ж той

злыдзень сваім жаданенм усіх нейтралізаваў. Тая навальніца адна за ўсё маё жыццё такая была, болей іх, такіх, не надаралася, дзякаваць Богу. Колькі часу прайшло, а ўсё, нібы толькі ўчора адбывалася, перад вачыма стаіць. Тую крыніцу, з «гаворачай» вадою, ужо за Саветамі, калі балоты асушвалі, раскапалі. Дык сцвярджалі, што вада там сапраўды «клекатала», на паверхню выбіваючыся, а на колер, то чорная-чорная, яшчэ і смярдзела ці то цінай, ці то проста балотам аддавала. На другі дзень, пасля таго як раскапалі крыніцу і там, здавалася, стаў сухі торф, там утапіўся трактар. Ледзьве верталётам наверх выцягнулі. Тады ўжо ўсе і вучоныя людзі паверылі, што на гэтай вадзе і месцы ляжаў страшны праклён, чорныя вочы, значыцца, усім уладарылі. Ніхто не ведае, колькі зла адусюль людзям было зроблена за многія стагоддзі» (УЗ. Івац.); «Адзін раз у нас начаваў жабрак. Даўно гэта здарылася, я яшчэ малою дзяўчынкаю была. То той чалавек, калі яго накармілі ды паклалі спаць у хаціне, у знак падзякі за ўсё, пачаў расказваць пра розныя здарэнні, пра якія ён чуў, бачыў на ўласныя вочы, якія з ім самім прыключыліся. І вось мне ў памяць запала тое, як жабрак распавядаў пра чорнага ведзьмака. Настолькі быў моцны гэты варажбіт, што мог выклікаць навальніцу. Рабіў ён такія сюрпрызы надзіва рэдка, бо яны яму каштавалі многа сілы. Аказваецца, ён жа сам удзельнічаў у працэсе стварэння навальніцы, і калі яна пачыналася ды разгульвалася, то не хаваўся, а ўдзельнічаў у ёй, пераўвасобіўшыся ў чорнага крумкача і з'яўляючыся адразу ж пасля той стыхіі на месцы здарэння. Той жабрак спакойна даводзіў, што бачыў, як той вядзьмак пачынаў варажыць, каб навальніца ўсхадзілася. Рос у чыстым полі, непадалёку ад іхняй вёскі, стары дуб, а з-пад яго выцякала крыніца. Да таго дуба старыя людзі не раілі блізка падыходзіць, каб што благое не здарылася, каб якая хвароба не падхапіла. Мабыць, заўважалі, як тыя, хто раней набліжаўся, потым пакутавалі ці ў іх прападала жывёла. А той жа вядзьмак не баяўся, проста падыходзіў, садзіўся на зямлю, ля крыніцы, вымаўляў нешта і заціхаў. Толькі глядзеў у адзін і той жа бок. Недзе праз паўгадзіны ці крыху болей часу, пачынаў разгойдвацца дуб. Спачатку ціхенька, а потым усё мацней і мацней. Так і пачыналася навальніца. Неўзабаве завывала, трашчала, біла, ліло. Нічога нельга было разабраць. Суцэльная сцяна дажджу, буры, гулу-грому, а над усім гэтым нейкі не надта выразны крык, прыглушаны сілаю стыхіі: «Ага! Ага! Ага! Будзе вам!» Аказваецца, гэта той крумкач крычаў, які сядзеў на дубе, упіўшыся сваімі магутнымі кіпцюрамі ў ствол дрэва, зліўшыся ў адно з усімі нячыстымі зданямі. Пасля навальніцы, што

самае галоўнае, мясціна вакол дрэва была сухою, нібы нічога і не адбывалася. Здзіўляліся, але баяліся ў адкрытую гаварыць, каб той чараўнік не пачуў, бо ўжо адплаціць усім, не разбіраючыся, хто перад ім вінаваты, а хто ўвогуле ні словам, ні думкаю нічога благога не рабіў. Не маглі ніякай рады даць таму злыдню, пакуль нехта з паляўнічых не здагадаўся ды не застрэліў яго замоўленай куляй. Бегалі паглядзець на забітага, то з прабітай галавы цякла чорная кроў, а непадалёку сядзеў чорны крумкач. Такі быў злы варажбіт, такую гамонку я пачула пра ведзьмака яшчэ ў дзяцінстве» (УЗ. Пруж.).

Здаралася, што сіла навальніцы, паводле сведчанняў інфарматара, залежала і ад таго, якая колькасць вады падлягала магічнаму ўздзеянню, г. зн., колькі вады чараўнік ужываў пры чараванні. Чым болей лілося, тым болей павінна было зрынуцца з неба. Продкі меркавалі менавіта так, і гэта дайшло да нашага часу. «Варажбіт ішоў да вады, да возера, якое ў нас паблізу. Там, схаваўшыся ў густым лазняку, здзяйсняў сваю таямнічую службу. Вадою пырскаўся, як якое малое дзіця. Ляцелі пырскі ва ўсе бакі, а ён кірхаў-смяяўся задаволена, прадчуваючы хуткую навальніцу. Чым больш часу варажбіт у вадзе прабудзе, тым болей ярасці з'явіцца ў хмары, а навальніца ўвогуле стане неўтаймаванай. Тутэйшыя жыхары нават дакладна заўважалі, што калі яшчэ знахар шэпча свае магічныя словы, то за возерам, над густым-густым лесам, пачынала грымець і бліскаць. Бліскавіцы нажамі вострымі білі да самай зямлі. Пранізвалі, здавалася, усё да самага карэння і хаваліся глыбока-глыбока, бо зямля ажно дрыгацела ад тых удараў. Знахар ішоў у той бок, куды жадаў скіраваць навальніцу. Яна заставалася на месцы, нібы чакаючы, пакуль ён зойдзе ў бяспечнае месца. Як толькі варажбіт хаваўся, то хмары пачыналі нагадваць сабою зграю крыважэрных сабак, якія кідаліся на сваю ахвяру што было сілы. Апускаліся, ніспадалі на самую зямлю. Здавалася, што неба з зямлёю перамешвалася. Так ужо нячыстая сіла вырабляла, так ужо волю-просьбу чорнай душы чараўніка выконвала. Нашы людзі верылі ў такія справы і не імкнуліся аспрэчваць, каб не накікаць лішні раз на сябе гнеў злых вачэй ды страшных праклёнаў» (УЗ. Ст.); «Калі знахар, жадаючы навальніцы, шэпча над вядром з вадою ці над крынічкай, то, адпаведна, навальніцы сапраўднай быць не можа, бо ён жа замаўляе невялікую колькасць вады, а вось калі яму дойдзе нешта надта дурное ці злое і стане над цэлым возерам варажыць ці над ракою, тады ўжо асцерагайся, тады ўжо хавайся ды дабро захоўвай, глядзі, каб накрыта ўсё добра было, каб умацавана, каб не працякала. Калі ж шаптаў над хуткаплыннай ракою, то гэта

сведчыла пра тое, што навальніцу трэба чакаць страшную, непрадказальную па сваёй сіле і паводзінах. У аснове яе знаходзіцца неўтаймаваная сіла вады, памножаная на злоснае жаданне чараўніка прынесці непрыемнасць, бяду людзям, за нешта папярэдняе адпомсціць. Тады навальніца пакажа, на што яна здольная. Запаліцца неба маланкамі і затухаць не будзе да таго часу, пакуль не заціхне апошні павеў ветру, пакуль не капне апошняя кропля вады. Не доўжыцца надта такая навальніца, але яна жудасная сваёй разбуральнай сілай. Нішто не можа ёй супрацьстаяць, нішто не ўздымецца, а ўсё толькі схіліцца, нішто не вытыркнецца, а толькі распластаецца. Каб сёння хто такое сказаў, што гэта ўсё адзін чалавек выклікаў, дык ні за што не паверылі б. Раней жа, наадварот, не было, не сустракалася такога, які б засумняваўся» (УЗ. Лун.).

Такі моцны чараўнік, у народным разуменні, выдатна ведае, як увесці сябе ў стан трансу, калі яго, няхай сабе ненарокам, заўважалі. Гэты стан у хрысціянскай рэлігіі звычайна інтэрпрэтаваўся як апанаванасць злымі духамі, і тым самым тлумачылі яго, як найвялікшы спосаб кантакту са звышістотнымі злымі сіламі, ад якіх на самой справе надзвычай многае залежала ў жыцці патрыярхальнага чалавека. Таму меў рацыю С. Токараў, калі сцвярджаў наступнае: «Магія... гэта толькі тыя абрады, якія маюць сабе за мэту непасрэднае ўздзеянне чалавека звышістотным чынам на той ці на іншы матэрыяльны аб'ект і якія не звязаны пры гэтым з анімістычнымі ўяўленнямі»[18].

Толькі ў нашых выпадках якраз-такі адсутнічае найбольш старажытная частка магічнай рытуальнай абраднасці варажбы, чарадзейства. І гэты недахоп нам бачыцца ў адміранні першасных каранёў, якія зараз даводзіцца ўзнаўляць толькі шляхам аналогіі і параўнанняў. Не выключана і тое, што ў параўнанні з некаторымі іншымі народамі свету земляробства ў беларусаў пачало развівацца значна пазней. Уся ж варажба, ці чараўніцтва, накіраванае на выкліканне ветру, буры, навальніцы, асацыіравалася менавіта з гэтым заняткам патрыярхальных людзей. Жывучы ў цеснай еднасці з прыродай, нашыя продкі цалкам ад яе і залежалі. І яшчэ адна характэрная асаблівасць — яны не надта імкнуліся вызваляцца ад гэтай улады, бо баяліся, у адваротным выпадку, што гэта будзе вялікім грахом перад традыцыйнай, кананічнай абраднасцю, а калі на змену язычніцтву прыйшло хрысціянства, то і перад апошнім. Паводле народнага, чараўніцтва выходзіць са здольнасці самога чалавека ўздзейнічаць на аб'ект і дасягаць пастаўленай мэты не тады, калі яму дапамагае дух,

нячысты і г.д., а тады, калі сам варажбіт гэтага захоча, і тады ўжо атрымлівалася нібыта не ён, а гэтыя ўсе здані, прывіды, нячысцікі ад яго залежалі. У адрозненне ад рэлігійнай практыкі, якая звычайна афіцыйная, абавязковая і ўяўляе сабою публічны культ, магічны абрад, з пункту гледжання людзей ёсць прыватная справа індывіда, якая здзяйсняецца ўдалечыні ад людскіх вачэй, ахутаная таямнічасцю і цяжкатлумачальнасцю. Гэтае сацыялагічнае размежаванне магіі і рэлігіі можа быць інтэрпрэтавана хутчэй за ўсё толькі ў вельмі абмежаванай вобласці і яго можна прымяніць да гэтак званай шкоднаснай магіі, якая ўяўляе сабою звычайна забароненую дзейнасць.

Часам меркаванні нашых продкаў адносна гэтай нібыта шкоднаснай дзейнасці для сумленных людзей некаторых з чараўнікоў выклікае непаразуменне ці здзіўленне. Напрыклад, адносна таго, як можна было затушыць жар (маецца на ўвазе пажар), выкліканы падчас навальніцы ўдарам маланкі. Пры гэтым, здавалася, можна было б ужываць усемагчымыя сродкі, бо ж саму навальніцу выклікаў «чорны» знахар. Але не, з нашым сцверджаннем не пагаджаліся народныя знаўцы. «Пажар ад удару маланкі ў страшную навальніцу можна было заліць толькі малаком. Няйначай, бо калі чым іншым возьмуцца ратаваць будынак, то выклічуць яшчэ найбольшы прыліў гневу з боку ведзьмара, які знаходзіўся недзе непадалёку і абавязкова сачыў за дзеяннямі вяскоўцаў. Здаралася, што гарэлі будынкі, а ўсе толькі стаялі і маўкліва глядзелі. Нейкае дабро яшчэ паспявалі выхапіць з агню, але ж хіба многа ўхопіш, асабліва калі з дрэва будавалі і накрывалі саломай або аерам. Гарэла як свечка. Надта багаты чалавек асмельваўся тушыць пажар, ды і то, што ён адзін зрабіў бы, каб не шматлікія парабкі і работнікі. Не трэба думаць, што і такому багатыру ўсё можа сысці з рук беспакарана. Вось толькі пабудуе яшчэ лепшыя харомы за гэтыя, як неўзабаве іх наведае «чырвоны певень». Гэта азначала, што вядзьмар не адабраў у нечым паводзіны такога чалавека» (УЗ. Івац.); «Самі чараўнікі і падвучвалі, што пажары, якія здараліся падчас вялікай навальніцы, можна было заліваць-тушыць толькі каровіным малаком. Але дзе ж ты яго гэтулькі набярэшся, калі далёка не ў кожнай сям'і малака нават малым дзеям не хапала папіць. Вось і атрымлівалася неяк нібыта міжволі, што воля чараўніка была ўсёмагутнай, усёпакаральнай і ўсёкантралюючай. Няхай толькі хто асмеліцца, у такі вялізны дождж ці ў навальніцу, здавалася б, што магло быць за гэта, выліць на агонь хоць якое вядро вады, то тады ўжо не толькі ягонай гаспадарцы, але і яму самому будзе пагражаць небяспека. Ні з таго ні з сяго на галаву можа ўпасці бервяно ці што

іншае, і чалавек паміраў. Усё гэта злы чараўнік з-за ягонага непаслухмянства вырабляў, а, магчыма, бедалага-гаспадар кінуўся тушыць пажар, нават не паспеўшы падумаць, што ж яго за гэта магло чакаць. Што хацеў вядзьмар, то тое сабе і выраблаў з людзьмі, ніхто яго не мог спыніць ці ўтаймаваць, толькі любіў, каб перапрошвалі, ды яшчэ рабілі гэта прыніжаючыся, падкрэсліваючы сваю поўную залежнасць» (УЗ. Петр.); «Малаком, найперш, заўсёды пажар, выкліканы чараўніком, стараліся патушыць, каб не было ніякага найбольшага граху потым. Чараўнік жа нават у горы-бядзе сябе паводзіць так, як і раней; каб усё ішло толькі так, як яму самому хацелася, а не іначай. Даўней у нас казалі, што калі нехта асмельваўся тушыць пажар вадою, ці якім іншым манерам, то ў яго, наадварот, выгарала ўсё дашчэнту. І тады агонь перакідваўся-успыхваў, нібы ў страшэнную спёку, нягледзячы на тое, што навокал ліло, як з вядра. Чараўнік ведаў, што малаком быў бы здольны патушыць пажар адзін-два чалавекі — не болей — на вялізнай тэрыторыі, таму і ставіў такую ўмову. Яна была абавязковай для ўсіх, ніякага выключэння не дапускалася. Толькі малаком! Многія калечыліся, гінулі з-за таго, што, не падумаўшы, з гарачкі, кідаліся тушыць пажар тым, што траплялася пад рукі. У нас такога дзеда раней усе паказвалі. Гаварылі, нібыта і кульгаць ён пачаў ад таго, што падчас чартоўскай навальніцы і пажару лінуў у вогнішча адным-адзінае вядро вады. Лінуў і адскочыць не паспеў, як нечакана лупянула бервяном па нагах. Спачатку думалі, што чалавек той і не выжыве. Удар быў такі страшны па сіле. Пашанцавала, выжыў, але затое на ўсё жыццё насіў на сабе пячаць чараўніка — калецтва» (УЗ. Жытк.).

У некаторых выпадках рабілася «папраўка» на тое, што сапраўды малаком заліць пажар, ды яшчэ ў час такой жудаснай стыхіі, не здолеў бы, магчыма, ніхто. Таму народныя дарадцы значна спрашчалі задачу чалавеку, які трапляў у такую бяду. «Каб затушыць пажар ад навальніцы, утворанай чараўнікам, гаспадару абавязкова трэба было ведаць, як яго пачынаць тушыць. Тут усё было прадумана заранёў. Калі чалавек бачыў, што ўспыхнуў ягоны будынак, то ў абавязковым парадку павінен першае вядро ў агонь выліць не вады, а малака. Як зробіць так, то можа разлічваць на поспех распачатай справы, на тое, што чорны чараўнік, які знаходзіўся недзе непадалёку і пільна ўглядаўся, каб нічога не парушалася, не стане потым караць гэтага гаспадара дадаткова. Яшчэ на маім вяку так рабілі. Памятаю нават, як наш сусед крычаў што было сілы, перакрываючы сілу навальніцы: «Малако! Малако ў ваду налівай!» Крычаў жа не проста так,

відаць, а таму, што знаў, як трэба абыходзіцца ў такіх выпадках. Яму, магчыма, ягоны дзед расказваў, бо на таго гаманілі, быццам бы знаецца з усёмагчымай нячыстай сілай. Людзі проста так казаць не стануць. Вось таму і ў нас некалі глядзелі, каб чаго не парушыць, каб не нарвацца ненарокам на якую бяду» (УЗ. Лун.); «Калі ў летні час здаралася вялікая засуха і трэба было чакаць чортавых бур ды навальніц, бо сцвярджалі, што найбольш часта яны ў такі перыяд могуць бываць, то кожны ведаючы гаспадар ставіў паблізу ад хаціны карыта з вадою. На ўсялякі выпадак, каб заўсёды пад рукою было. Але не проста ваду туды даліваў, а разводзіў малаком. Навальнічны пажар, які б моцны ён ні быў, можна пачынаць тушыць толькі малаком. Так у нас спрадвеку вялося. Старыя малым пераказвалі, каб і тыя ведалі, як ды што. Некаторыя ўжо і ў наш час такім спосабам карысталіся. Ці дапамагала ўсё гэта некаму дакладна — невядома. Не чуваць, каб нехта выратаваўся малаком ад пажару. Тым не меней усе раней толькі пра гэта і казалі. Бяда прыцісне, то і не такое скажаш ці зрабіць пастараешся. Асабліва ў засуху здаралася, што цэлыя вёскі ў адзін момант выгаралі. Напусціць чараўнік навальніцу з перунамі ды з маланкамі жахлівымі, дык і апамятацца некаторыя не змогуць. Прама ў чым спалі ці выскачыць паспелі, так і заставаліся. Таму і верылі, таму і малако ў ваду дабаўлялі, каб яна большай сілай валодала, каб можна было неяк уратавацца» (УЗ. Жытк.).

Паасобныя інфарматары распавядалі нам пра тое, што ўратавацца ад небывалага навальнічнага пажару можна было, спрабуючы затушыць яго... жоўтым пяском. Зноў-такі сцвярджалі, але тым не меней патрыярхальныя продкі і ў такіх здарэннях спадзяваліся на станоўчы зыход справы. «У нас некалі стары Зосым жыў. То пра яго гаварылі, што ён уратаваўся, адзін з усяе вёскі, ад навальнічнага пажару, насланага чараўніком. Так атрымалася, нібы нехта людзей спаралізаваў. То ўсе жвавыя былі, рэзвыя, а тут, як разыгралася навальніца, як загуло-засвістала навокал, дык усе і спалохаліся, спыніліся, і адно толькі слёзы з вачэй сыпаліся, бо ж шкада ўсяго нажытага. А гэты Зосым не збаяўся гневу чараўніка, ці проста на яго не падзейнічалі злыя вочы, ці ведаў, як ад іх засцерагчыся (найхутчэй засцерагчыся). Толькі заўважыў, што дым пачаў віцца над хацінай, кінуўся да яе і давай тушыць агонь. Хітры. Вада лье з неба, нібы з вядра, а ён сам пачаў пяском закідваць. Жоўтым пяском. Лапатай шпурляў, дык і дапамагло. Памалу-памалу, а агонь адступаў, потым і зусім перастаў разгарацца. Так з гаспадаркі Зосыма амаль нішто і не згарэла. У іншых людзей, то гора шмат прынесла. Гэтаму ж вяскоў-

цу пашанцавала. Дык потым астатнім пераказваў, ад чаго ў яго так выйшла. Аказалася, што жоўты пясок на самой справе надта дапамагаў. Зараз то і не вераць. Даўней усе верылі. Баяліся, каб не выгарэць. Верылі, дык і ратаваліся таму па-свойму» (УЗ. Ст.); «Наша вёска стаіць на высокай выспе. Навокал балоты-балаціны, а ў нас высока. Усіх вясною топіць, а нам — нішто не страшна. Вада не падступаецца. Няма ў яе магчымасці разгуляцца. Праўда, калі чорная навальніца ўсходзіцца (чорная таму, што яе спецыяльна выклікаў чорны варажбіт), то тады і нам хапае клопату. Перад такой сілай ніхто не здолее выстаяць. Тут ужо ўсе роўныя і трэба ратавацца якім іншым шляхам. Найвярнейшым сродкам, як у нас распавядалі, было засыпанне агню пяском. Менавіта не вадою, а пяском. Прычым абавязкова, каб пясок той быў жоўты. Калі які чорны, як балотная гразь, то ён не дапаможа. Ад жоўтага агонь не распаўсюджваецца, наадварот, — сыплецца і потым заціхае. Чаму ад жоўтага? А хто ж яго ведае. Такога ніколі не тлумачылі. Гаманілі, што жоўты пясок нагадвае сабою і жоўты агонь, таму адзін аднаго і не пажыраюць. Атрымліваецца, нібыта ад жоўтага пяску напрамую залежала сіла агню: калі пяску мала, то і пажар разгараецца, а калі людзі кідаюць жоўкрынец, то агню даводзіцца адступаць» (УЗ. Жытк.); «Каб ўратавацца ў вялікую навальніцу, трэба абавязкова выконваць усё так, як навучалі старэйшыя. Некалі ж так і было. Верылі ўсе. Баяліся. Войт кожнаму загадваў насыпаць ля вугла хаціны ці якой іншай гаспадарчай пабудовы гурбу пяску. Жоўтага. Сыпучага. Там яшчэ дзеці любілі гуляцца, і на іх крычалі, каб гурбы не ссыпалі на ніз, бо за гэта маглі пакараць. Пяском тым дарослыя агонь засыпалі. Самой даводзілася бачыць. Некаторыя адзначалі, што жоўты пясок — самы верны сродак засцеражэння ад чартоўскай навальніцы, г.зн. ад той, якая выклікана зайздросным чараўніком і накіравана на зло ўсім сумленным людзям. Разгуляецца такая навальніца, то цёмна навокал стане, нібы ноччу, а свеціць не сонца — бліскавіцы-перуны. Так і лупцуюць, так і жахаюць. Вецер ажно стогне-заходзіцца, вырывае з карэннямі дрэвы, будынкі развальвае, дахі зрывае. Як лясне, то што якой камянюкай у вакно ўлупіць. Пажар ад навальнічнай маланкі, паводле сцвярджэнняў старадаўніх людзей, і тушылі, ці спрабавалі тушыць спачатку тым самым пяском. Калі нехта пачне залiваць адразу ж вадою, то гэта нічога станоўчага не прынясе, наадварот, яшчэ большае полымя раздзьмухае чараўнік. Ён недзе паблізу пастаянна знаходзіўся, а не выключана, што і за суседскім плотам, і яму нічога не каштавала дадаткова пакараць непаслухмяных, якія дзейнічалі не па тра-

дыцыі, не шануючы яго, не паважаючы цёмную сілу, ад якой заўсёды залежалі нашы продкі» (УЗ. Кобр.).

Даволі часта ў беларускім фальклоры згадваецца і пра тое, што чорныя чараўнікі надта проста (для сябе, вядома ж) утваралі град (зноў-такі!) на патрэбнай ім тэрыторыі («зямлі»). Тлумачэнні інфарматараў адносна ўсяго гэтага нагадваюць сабою словы нашых далёкіх прымхлівых продкаў, бо сам працэс выклікання стыхіі надзвычай спрошчаны і не вылучаецца нейкай магічнасцю. Калі ўжо не магічнасцю, то хоць бы нейкай там кананічнасцю. Кожны з апавядаючых гаварыў пра гэта не проста, як запомнілася яму, але робячы адвольныя адхіленні. «Некалі ў нас град выпаў, то за сто гадоў, казалі, такога болей не было. Градзіны, што тое курынае яйка. Ляжаў град на палетках і агародах амаль два дні. Уявіце сабе толькі — сярод лета паўсюдна ляжыць лёд — не растае, бо ад яго цягне такім маразам, што і людзям трэба самім цёпла апранацца. Усё загінула. Панішчылася. Павымерзла. Пагніло. Во тым часам людзі нагаладаліся. Многа памерла, а астатнія, то ў старцы хадзілі. Казалі, што гэты град наслаў на вёску Мітрахван. Чорны чараўнік быў, неабвольны. Як толькі заўважаў, што ў некага нешта атрымлівалася, дык абавязкова рабіў назло чалавеку, каб ад таго гора болей ніколі не адварочвалася і пастаянна яго па жыцці суправаджала. Так ужо ўсім вяскоўцам надакучыў і да страху давёў, што нашы хлопцы вырашылі Мітрахвана адвучыць ад ягонага ўлюбёнага занятку. Падлавілі старога, як той шкалдыбаў аднекуль, нешта бомкаючы пра сябе, надвячоркам. Накінулі на галаву кажух ды такога перцу задалі старому гаду, што той не сваім голасам верашчаў-прасіўся, каб адпусцілі. Яму паставілі ўмову: пакінем у жывых, але калі ён болей не стане займацца чараўніцтвам. Маліўся, кляўся, што так і будзе. Хлопцы паверылі і адпусцілі гада. Ён жа недзе ўсяго праз тыдзень наладзіў той самы небывалы град. Людзі і бачылі, што лазіў у лёх-лядоўню, даставаў адтуль кавалкі лёду, прыкладваў да сябе і ўсё нешта шаптаў, злосна зыркаючы па баках. Самае дзіўнае, што не было нейкай там груваствай, чорнай хмары, не грымела, не бліскала. Проста град сыпануў з чыстага неба. Ні з таго ні з сяго. Як даў, то многіх людзей прама на працы пакалечыла. Уявіце сабе, такія градзіны, як курыныя яйкі, і нечакана пасыпаліся. Мала гэтага, градапад працягваўся каля паўгадзіны і, адпаведна, за такі працяглы час змог густа засыпаць усё навокал. Мітрахвана, каб з ім расправіцца, пачалі шукаць ажно на другі дзень, але ж хіба той дурны быў сядзець склаўшы рукі і чакаць, калі прыйдуць і яго заб'юць? Ён некуды назаўсёды знік. Следу нават ягонага

не прасачылі ў наваколлі. А ў вёсцы з тым градам бяда-гора не скончылася. За нейкі год-два памерлі, прычым цяжка хварэючы, усе тыя самыя хлопцы, якія лупцавалі Мітрахвана. Значыцца, і на іх наслаў той злыдзень свае праклёны-закляцці і яны здзейсніліся на самой справе. Гэта была чыстая праўда» (УЗ. Ганц.); «Град чорнаму чараўніку не ўяўляла асаблівай цяжкасці выклікаць. Возьме лёду, кіне яго ў вядро з вадою і пашэпча свой заклён. Як толькі пашэпча, то лічы, што і пачаўся адлік часу да таго моманту, калі выпадзе град. Абавязковай умовай была наступная — вада каб была свежая, толькі што са студні. Чым болей вады было ў вядры, тым мацнейшы ды буйнейшы будзе існі град. Мала гэтага, калі знахар знаходзіўся ў асаблівай ярасці і пачынаў шаптаць на студню, то тады ён жадаў сваім аднавяскоўцам вялікай бяды, лічы, што смерці. Асабліва падбіраў самы непадыходзячы тэрмін — лета, калі ўсё ўжо набіралася сілы, ішло ў рост, буяла. Град прыспяваў людзей знячэўку, яны не ведалі, куды кідацца. Тут бы самім уратавацца, а пра збожжа ды пра садавінуагародніну і гаворкі ніякай увогуле не вялося. Канчаўся град, і пачыналі жанкі ўголас галасіць, бо аказвалася, што ўсё ў агародзе ды ў садзе, калі такі быў, загінула. Многа даводзілася трываць нашым продкам ад чараўнікоў. Былі яны ад іх у залежнасці. Такі небывалы град адзін раз выпадаў і на маім вяку. Тады ўсё на старога бабыля казалі, быццам бы ён гэта людзям удружыў. Яго і да гэтага ўсе стараліся лішні раз не крануць, а тут увогуле пачалі бокам абыходзіць» (УЗ. Светл.); «І навальніцу з моцным дажджом, і навальніцу з градам, і град адзін маглі чараўнікі выклікаць. Раней былі такія людзі, якія зналіся з нячысцікамі, з нячыстай сілай, дык яны ўсё, што толькі ім хацелася ды жадалася, нікога не баючыся і нікога не шкадуючы, выраблялі. Не было ім справы да таго, што ў выніку такога моцнага граду некага на ўсё жыццё пакалечыць, некага ўвогуле да смерці заб'е. Возьме такі неабвольны вядзьмар кавалак лёду і пашэпча на яго свае чорныя словы, каб выклікаць град. Лёд даўней проста было знайсці і сярод лета. Найбольш спрактыкаваныя ды заможныя гаспадары трымалі ў сябе ў гаспадарцы лядоўні. А такі абачлівы гаспадар, як знахар, заўсёды ведаў, для чаго мог яму лёд спатрэбіцца, і зацягне кавалак-другі да сябе ў лёх ці куды пад стог і потым, у адпаведным выпадку, дастане і пакарыстаецца ім. Вынясе, няхай сабе ў самую спёку, невялікі кавалак, апусціць яго ў халодную ваду і шэпча ціхенечка чорныя словы замовы, якія павінны павялічвацца з кожным імгненнем і, неўзабаве, вырасці ў страшэнную стыхію. Град змалоціць усё дазвання, і няма ніякага спадзявання на тое, што нешта ўратуецца, уцалее» (УЗ. Светл.).

Як бачым, выкліканне граду было гэткім жа простым прыёмам, як і закліканне ветру, буры, навальніцы. Усё надта проста (калі не спрошчана), і ўсё гэтак жа запалохваюча для старадаўніх людзей. Стыхія, памножаная ў вачах наіўных людзей на чараўнічую сілу магічных словаў і дзеянняў, сапраўды з'яўлялася ўсёпадаўляючай. Аднак ад граду вяскоўцы ўсё ж неяк спрабавалі ратавацца, пры гэтым цвёрда спадзеючыся, што іхнія дзеянні, перанятыя ад папярэдніх пакаленняў, могуць нешта перайначыць у лепшы бок. «Калі ішоў дождж і з градам, то людзі выкідалі молаты і лапаты, тыя, што пяклі хлеб, у двор, штоб не ішоў град і не пабіў ім жыта»[19]; «Выкідваць хлебную лапату на двор навыварат, каб град хлеба не пабіў»[20]; «На Піншчыне пры навальніцы хлебную лапату выкідвалі, лапату выносілі, ставілі ў двары, хрысцілі хмару»[21]; «Як град, то выкідаюць ад печы прыпасы: лапату, тую, што хлеб сажаць, кацюбы (качэргі. — *А. Н.*) і ўхваты проста кідаюць на грудок, каб не ішла вялікая хмара, град каб не ішоў»[22]; «Град як ідзе, так тую лапату вазьмі, вынесі хлеба і з соллю, вынесі на ўзгорачак, пакладзі; сустрэнеш хмару з хлебам і соллю, дык ён (град) знімаецца»[23]; «У суседнім Мазырскім Палессі, як ідзе град, штоб град не біў, паляць свячоную вярбу і хлебную лапату кідалі ў двор, каб гром сціх»[24]; «Ёсць такі чалавек, які можа хмару адвярнуць. Як дзе знойдзеш вужа і ўбачыш, што вуж жабу ў рот узяў, кіем іх разагнаць, каб вуж не задавіў жабу. Як хмара выходзіць, махне тым кіем супраць хмары — яна разыдзецца. Як ёсць кій у каго-небудзь»[25].

Прыклады ўзяты намі з артыкула, напісанага Н. І. і С. М. Талстымі. У аснову яго пакладзены матэрыялы з Беларускага і Украінскага Палесся, праводзяцца таксама паралелі з усходнеславянскімі і заходнеславянскімі фальклорамі. Усе рэчы, якія ў ім фігуруюць, датычацца, у асноўным, прадметаў ад печы і ... свячы-грамніцы, а таксама засушанай асвячонай вярбы. Але ж ва ўсім гэтым ёсць адна істотная акалічнасць — тут усё накіравана на спыненне, адварочванне граду, які не быў выкліканы нейкім злым чараўніком, а з'яўляўся вынікам прыроднай стыхіі, што адбывалася сама па сабе, незалежна ад волі некага. У нас ёсць некалькі сведчанняў, дзе гаворка вядзецца менавіта пра спыненне граду, выкліканага чараўніком. «Калі распачынала круціцца-кучаравіцца вялізная хмара і станавілася зразумела, што гэтая хмара выклікана чараўніком і неўзабаве з яе можа ўсыпаць вялікі град, то людзі імкнуліся ўтаймаваць яе, адвярнуць ад сваіх пасеваў злую чартоўскую сілу. Тады браў гаспадар другі хлебную лапату, і перлі яе да падворка чараўніка. Ведалі, хто мог выклікаць град у тутэйшай мясцовасці, таму да яго і неслі. Укінуць таму злыдню ў

двор лапату (дзве, тры), ён сядзіць сабе ў хаціне, радуецца, што вось зараз загрукоча страшэнны гром, бліснe-скочыць маланка і ўлупіць шалёны град, а яшчэ зусім не здагадваецца, што ў яго двары ляжаць моцныя абярэгі, якія здольны павярнуць хмару на чорныя лясы, на ніцыя балоты ці ўвогуле перапыніць дождж. Так у нас даўней не раз і не два град утаймоўвалі. Ад старэйшых навучаліся ўсяму добраму. Яны малодшым пераказвалі, а то хто б ведаў, што тая хлебная лапата можа супрацьстаяць злым вачам чараўніка, ягоным жаданням. У кожнай хаце такая лапата была, бо ж кожная гаспадыня хлеб сама выпякала» (УЗ. Ст.); «У нас не так даўно, можа, якіх гадоў трыццаць таму назад, быў вялікі град. Казалі людзі потым, што яго на вёску назвалі злыя старцы. Хто іх знае, злыя яны былі ці не, але з імі так-сама нядобра абышліся: калі людзі тыя зморaныя і згаладаныя сталі прасіцца есці ды пераначаваць, то ім нічога не далі. Ужо гэтым толькі парушылі словы Бога, што падзяліся апошнім. Мала таго, начаваць ніхто ў свае будынкі не пусціў, а як яны папляліся, то ім услед яшчэ і сабак спусцілі. Бедныя жабракі уцякаюць з апошніх сіл, а ўсе вяскоўцы рагочуць-пакочваюцца. Ажно дасмяяліся! Усяго ноч прайшла. Раніцай падымаюцца сяляне, а навокал такая вялізная хмара стаіць і пачынае круціцца на месцы, нібы вар у катле, што ажно глядзець страшна. Усе пра дождж, дождж думаюць. Ды нехта са старэйшых усё ж здагадаўся, што трэба менавіта граду з гэтай хмары асцерагацца. Параіліся, і самы стары з іх сказаў, каб кожная гаспадыня выкінула сваю хлебную лапату на дарогу. І не проста выкінула яе, а паклала галавою ўслед тым жабракам, з якіх звечара смяяліся. Паслухаліся, так і зрабілі. То як усыпаў потым град, як стаў лупіць, то ўсё дашчэнту пабіў, але толькі за агародамі і за дарогай, на якія, як сцвярджаў потым той дзядок, не распаўсюджвалася хлебная сіла. Хлеб — гэта самае што ні на ёсць святое, і таму яго трэба заўсёды засцерагаць. Хлеба нават стыхія баіцца, абыходзіць яго бокам. Толькі і нашы потым назаўсёды запамяталі і іншым пераказалі, як з жабракоў здзекавацца» (УЗ. Драг.); «Найпершым сродкам ад уціхамірвання граду, выкліканага ведзьмаком, была грамнічная свечка. Яна захоўвалася ў кожнай хаціне. Калі толькі набліжалася грозная хмара, то гаспадыні, нібы па якой камандзе, дружна запальвалі свечкі па сваіх хатах. Мала гэтага, стараліся ціхенька дзьмухаць на іх, каб не затушыць полымя, а толькі накіраваць яго насупраць хмары. Тая хмара, якой бы страшнай яна ні была, адразу адчуе на сабе боскую волю, якая закладзена ў любой грамнічнай свечцы. Свечку ж гэтую ў царкве асвячалі, і яна была разлічана на адвод ад хаты ў любы мо-

мант навальніцы з громам ды з перунамі, але дапамагала яна і ад граду. Тады хмара пастаіць на месцы, пакруціцца, потым жа як сыпане градам! Ды сыпане не там, куды была накіравана чараўніком, а там, куды яе скіравалі сумленныя людзі — на гнілых балотах. Там няхай сабе лупіць град, там толькі чарцей пашкуматае. Вось тады бяда самому чараўніку. Нярэдка пасля такіх здарэнняў гэткія злыдні каналі ўвогуле. Баяліся, мабыць, што не здолеюць болей трымаць людзей сілай уласных магічных чараў у залежнасці і ў падпарадкаванні» (УЗ. Жытк.); «Некалі, добра памятаю, як наш дзед запальваў асвячоную вярбу, што ад Вербніцы стаяла ў куце. Тады хмара страшэнная на вёску насоўвалася. А перад гэтым, дні за два, у суседнім паселішчы град усё павынішчыў. Казалі, што злы вядзьмар там пагаспадарыў. Забаяліся, каб і ў нас так не адбылося. Таму пачалі тэрмінова засцярогі свае наперад выстаўляць. Дзед наш ведаў, што ад вачэй і сілы любога чорнага чараўніка дапамагае свяшчэнны агеньчык пасвячонай вярбы. Нічога, што агеньчык гэты не надта вялікі, затое сіла ў ім тоіцца агромністая. Дастаткова вербачку запаліць і паставіць на тое вакно, з боку якога насоўваецца хмара. Завуркоча сярдзіта гром, засвішча-застракоча вецер, хмары ўзаўюцца вышэй, нягледзячы на тое, што яны абцяжараны градам. Адплывуць паціху ў бок, дзе няма пасеваў, няма садоў і агародаў, і там выпадзе град на зямлю, але шкоды на гэты раз град вялікай не прынясе. Нам такое дзед пераказваў і на поўным сур'ёзе гаварыў, каб і мы карысталіся такім абрадавым дзеяннем, калі адчуем набліжэнне хмары з градам» (УЗ. Івац.).

Адзначым, што засцерагаючыся ў некаторых выпадках магічным абрадавым дзеяннем, наш продак не забываўся і пра магічныя словы. Калі намі не зафіксаваны такія вусна-паэтычныя творы адносна ветру, буры, то супраць дажджу, навальніцы, граду ў фальклоры сустракаецца даволі шмат прыкладаў. Бясспрэчна, сярод іх ёсць зусім наіўныя варыянты, чыста «непрадумана-механічныя» нашэптванні. Напрыклад:

Сцеражы, Божа, тучу гразавую,
Збережы, Божа, ніву трудавую,
Дай, Божа, у добры час.
У ноч перавядзі спакойную.

(*«Ад гразы», УЗ. Бых.*).

3 Зак. 1962

Туча-хмара, ідзі бокам,
Апыніся за Глыбокім:
Там пірагі пякуць,
Табе крышачкі дадуць,
Цябе там паджыдаюць,
Бачыць хутчэй жадаюць.

(*«Ад навальніцы»*, УЗ. Мсц.).

*«Як настойніка свянціла, я тучы не бачыла. Тучы-адлятучы, ідзіце на сухія землі, на сухія староны, а маю хату мініце»* (УЗ. Жлоб.).

Як бачым, замовы надзвычай простыя па кампазіцыі, гаварыць пра нейкую магічнасць у гэтых выпадках нельга. Болей таго, адзінае, на што тут спадзяюцца, вымаўляючы гэтыя словы, — Бог. На яго волю аддаюць свае жыцці, гаспадаркі, жывёлу і ўсё астатняе патрыярхальныя людзі. Што наканавана Богам, тое і збудзецца, нават не дапускаюцца нейкія магчымасці бараніцца, засцерагацца і г.д. Чалавек ніхто, і ён проста не мае права супрацьпастаўляць сябе прыроднай стыхіі, бо яна супрацьпастаўляльная і падпарадкавальная толькі волі Бога, самога Бога і нікога іншага. Маліцца трэба шчырэй, пастаянна, тады і вынік будзе зусім іншы.

Адносна граду, градавай хмары, тым болей граду як стыхіі, выкліканай злым чараўніком, намі ўвогуле не зафіксаваны паасобныя замовы. Яны сустракаюцца, і мы прывядзём прыклады, але паўторымся, што гэтыя вусна-паэтычныя творы накіроўваюць сваю замаўляльную сілу ўвогуле супраць граду, не разглядаючы прычыны яго ўзнікнення. За прыклад возьмем наступную замову «Ад граду, навальніцы», запісаную намі ў в. Княжыцы Магілёўскага раёна.

*«Святой Божай Маці пакланюся. Святая Маці Божая, будзь мне ў помачы.*

*На Сіянскай высокай гары, на Сіянскай свяшчэннай зямлі там хадзіла Прасвятая Багародзіца Божая Маці. Яна сабе мала пачыну. Прыйшоў да яе Ісус Хрыстос.*

*— Ой, Маці, мая Маці, ці ж ты спіш, ці ж ты проста ляжыш?*

*— Не, мой сынку, я не сплю, ні ляжу, ва сне цябе віжу, як табе кап'ё надзявалі, навакраст ручкі распіналі, за ногці мае скобкі востры заганялі, кроў гарачую праліvалі, а едкаваю шыпшынаваю лазінкаю галоўку маю падперазалі.*

*А ў саму святую нядзельку сонейка рана не ўзыходзіць, ужо Святая Божая Маці, Прасвятая Багародзіца, свайго сына — Ісуса Хрыста — за ручаньку водзіць. Павяла яна яго на ютрань, з тае ютрані*

*павяла на службу, а з тае службы на сіняе мора. На тым сінім моры ляжыць вялізны камень, на тым вялізным камені стаіць царква, а ў царкве той прастол, на прастоле Ісус Хрыстос ляжыць, не проста ляжыць, а сем разоў малітву боскую творыць. Прыйшлі да яго Пятро і Павел:*

*— Ох ты, Ісусе, наш Ісусе, за каго ж ты пакутуеш, за каго ж ты страдаеш? Хіба за нас, грэшных, муку прымаеш?*

*— Пятро і Павел, святыя апосталы-браточкі, бярыце хрэст у свае рукі, ідзіце па ўсяму беламу свету, скажыце ўсім: старому, малому, сляпому, глухому. Хто гэтую божую малітву будзе ўмець, не будзе тады яго гром забіваць, град вынішчаць, навальніца папапляць. Стане гэтая малітва іх таксама ад агню захоўваць, ад смерці непажаданай зберагаць».*

Гэтую замову можна аднесці да разраду універсальных, бо яна засцерагала чалавека, пастаянна яе вымаўляючага, ад многіх стыхій. Адзінай усё-такі сілай, якая супрацьстаіць хмары, граду, навальніцы, выкліканай чараўніком (ведзьмаком, варажбітом), застаецца боская сіла. Дакладней акрэсліваючы, сіла боскага слова (малітвы), да якой звяртаюцца ўсе шчырыя хрысціяне. Нейкіх, няхай сабе самых дробязных каранёў язычніцкага супрацьдзеяння нячыстай сіле, яе служкам-носьбітам, тут увогуле не адчуваем.

Нярэдкія ў беларускім фальклоры і выпадкі, у якіх паказваецца, што, напрыклад, казачны асілак-герой увогуле абыякавы да таго, як навальніца з перунамі будзе абыходзіцца з людзьмі. Проста яму цікава зусім іншае — «як Пярун чарцей палюе». Адносна таго, што некаторыя ўдары маланкі-бліскавіцы могуць аказацца смяротнымі для чалавека, яго мала займае. Казачны персанаж над гэтым увогуле не задумваецца. Тут ужо весці гаворку пра нейкую нячыстую ці чароўную сілу проста не выпадае, бо яна і не падразумяваецца. У небе гаспадарыць Пярун-Ілля, а ўнізе ўцякаюць нячысцікі, бо для іх такое паляванне заканчваецца трагічным зыходам — смерцю. «Лінуў дождж. Падняўся Каваль-багатыр з-пад дуба, выбраў густую яліну і лёг пад ёю, каб дождж не даставаў. Ляжыць і любуецца, як Пярун чарцей палюе»[26].

Ці вось такі прыклад, больш разгорнуты: «Прызаве Бог Пятра й кажа, што няхай трохі Ілья чарцей папалюе. А Ілья тым часам падыме такія грымоты, што аж зямля стогне: няма ні дня, ні ночы; хмары таўкуцца, як уюны ў рэшаце; на небе кіпіць, як у гаршку; маланка бліскае, аж у вачах цёмна становіцца, а Пярун смаліць раз-пораз, паласуе хвоі і дубы ды паліць будоўлю або стагі. А Ілья едзе сабе па

небу ды камандуе: «Так-так-так! Го-го-го! Яшчэ, яшчэ... Лупі, лупі яго, гада... От так, так... Го-го-го... Трэсні яго па затылку! У патыліцу, у патыліцу лупі яго, гада! Трах-трах! Так-так-так! Го-го-го!» Просяць людзі на прамілы Бог, каб уняліся грымоты, а Ілья не слухае»[27].

Тут увогуле не згадваецца, што пра чалавека нехта думае. Паляванне на чарцей Іллі вельмі нагадвае нам сумнавядомыя панскія ды княскія ловы-паляванні, падчас якіх дратаваліся-вынішчаліся сялянскія палеткі, тапталіся агароды і нівы з амаль выспеўшым ураджаем. Чалавек працы для іх не ўяўляў сабою нейкай асаблівай каштоўнасці, ягонае жыццё нічога не каштавала. Лепшае, што маглі зрабіць святыя (Бог) — гэта адпусціць бязвінна забітаму грахі ўжо ў пазамагільным жыцці.

У беларускай народнай легендзе «Як споруваў Бог (Ілля) з нячысцікам» пра гэта гаворыцца так:

— Гэта споруваў Бог Ілля з нячысцікам:

— Я цябе, — кажа, — заб'ю.

— А як ты мяне заб'еш: я схаваюся.

— А куды?

— Пад чалавека.

— Я чалавека заб'ю, грэх яму адпушчу, а цябе заб'ю.

— А я пад каня.

— Я й каня заб'ю: чалавека на гэтым месцы нагараджу, а цябе заб'ю.

— А я пад карову схаваюся.

— Я й карову заб'ю: хазяіна на гэтым месцы нагараджу, а цябе заб'ю.

— А я пад дзеравам схаваюся, там ты мяне не заб'еш.

— Я дзерава разаб'ю і цябе заб'ю.

— Ну, я пад камень схаваюся.

— Я й камень разаб'ю і цябе заб'ю.

— Ну, дык я, — кажа, — схаваюся ў ваду пад корч, пад калоду.

— Ну, там тваё месца, там сам будзь[28].

Адзіная перавага, зробленая святым (Богам) для чалавека заключаецца ў тым, што яму, як мы ўжо згадвалі, даруюцца грахі і ён першым стаіць у пераліку схованак нячысціка, якія Іллёю бязлітасна разбіваюцца. Што яшчэ заставалася рабіць чалавеку працы? Яму патрэбна было выйсце, якое б вяло, хоць у думках, да выратавання, захавання, засцеражэння. У іншым выпадку і так беспрасветнае жыццё увогуле станавілася змрочным, не абяцаючым нічога добрага, ніякага продыху. Выразна відаць, што нават у вусна-паэтычных творах, прыведзеных вышэй, не адчуваецца павага, прыязнасць да

простага чалавека. Толькі ў думках далёкі продак мог адарвацца ад суровых рэалій, ад уздзеяння нячыстай сілы, ад уплыву варажбітоў-чараўнікоў і ад уціску сацыяльнай няроўнасці. У замовах, якія спрадвеку лічыліся магічным абярэгам, сустракаюцца шматлікія варыянты, дзе гаворка вядзецца іменна пра супыненне дзеяння (нейтралізацыю) праяў нячыстай сілы. Тут ужо можна смела весці гаворку і пра злых чараўнікоў, ад якіх таксама аберагаліся, як толькі маглі. *«Госпадзі, Божа, блаславі рабу божаму вадзіцу браць. На моры на Сіяні, на гарэ Кіяні стаіць царква. Ніхто ў той царкве не бываець, акрамя Міхаіла-архангела —лістрапія гасподняга. Пасярод яе стаіць прастол, на том прастоле на чатыры краі ляжыць чатыры храсты; пасярод яго ляжыць пшанічная праскура, гарыць яркая свяча, ляжыць кніга-евангелле. Міхаіл-архангел на абедню становіцца, кнігу-евангелле чытае, ведзьмакоў заклікае: што вы задумалі, загадалі, то ваша дзела не прыдзецца: як вам па ўсім свеце расы не біць і травы не таптаць, і ўсяго свету не злятаць, і па ўсім белым свеце хлеба не пажыраць, і ў моры вады не папіць, і ў моры глыбіні не дастаць, і ад мора да неба вышыні не сазнаць, і на небе звёзд не пералічыць, вышэй месіка не хадзіць, і жаркага сонца не зняць, і гасподнія калясніцы не павярнуць, і ў гэтай царкве не бываць, каля прастола не хадзіць, і крыжоў не цалаваць, і пшанічнай праскуры не з'ядаць, і ярыя свечы не гасіць, і кнігу-евангелле не чытаць, — так жа вам, ведзьмакі-чарадзейнікі, і навучаныя, і нараджоныя, і храмыя, і сляпыя, і бяззубыя, і сухарукія, і крываногія, — так жа вам не зведзьмаваць, не счараваць раба божага. Як стаіць Гасподзь Бог на духу і гасподняя калясніца, так жа стань раду божаму сэрца на стану. Святыя кіеўскія, Антоній-Хвядосій, прашу вас на помач к сабе. Святыя ангелы, станьце на правае плячо і на левае, пачуйце малітву маю і данясіце яе словы да Госпада Бога»* («Ад нячыстай сілы», УЗ. Ветк.).

Гаворыцца пра чараўніцтва, пра чараўнічую сілу, і разам з тым прадугледжваюцца ўсёмагчымыя варыянты адносна таго, каб ведзьмары ды варажбіты не здолелі запаланіць-уздзейнічаць на сумленнага чалавека. Адчуваецца і тое, што замова, хоць нагадвае ў гэтым варыянце малітву, мае старадаўнія язычніцкія карані, калі звярталіся нават не столькі да шматлікіх багоў, увасабляючых праявы прыродных стыхій, колькі да саміх стыхій, да ўсёўладарачай прыроды. Увядзенне хрысціянства адціснула, але не закрыла цалкам язычніцтва на задні план, больш далёкі ў часе. Можам адзначыць і тое, што вера ў нячыстую сілу, у яе праявы, у варажбітоў доўгі час знаходзілася на «адным узроўні» — яна не паслаблялася і не ўзмацнялася.

Наш продак цвёрда быў перакананы ў тым, што яна існуе, а раз так, то яе абавязкова трэба асцерагацца і замаўляць. Замаўляць пастаянна, бо ж невядома, калі, у які момант зломy чараўніку пажадаецца паказаць сваю адмоўную сілу. Яго маглі ўпрошваць, але нярэдка яму і пагражалі. Прычым страшылі тымі ж стыхіямі, якія, паводле народнага, ён сам мог і выклікаць. *«Госпадзі, Божа, багаславі, святая маць Прачыстая, памажы. Выгаварваю я гэтую напасць ад усякага злога прыхвату. Будзем ад гэтай напасці зорачкамі яснымі далёкімі агараждацца, месячыкам жоўтым асвячацца. Ангелы-раніцелі, храніце гэтую душу і ў дні, і ў ночы, і ва ўсялякім іншым божым месцы. У чыстых палях і ў зялёных лугах там сталы засціланыя, кубкі-чаркі паналіваныя, вось толькі там табе застаецца гуляць і буяць, а рабоў божых ніколі не чапаць. Цераз святую суботу, маці-раку, давала маці Прачыстая руку ад усіх злых-ненавісных чараўнікоў і чараўніц. Ёсць на Сіянскім моры, узлукамор'і выспа, на той самай выспе стаіць здаравенны дуб на дванаццаць какатоў. На тым высачэнным дубе звіў сабе чорны воран гняздо, і жыві-пражывай, нікога ніколі не чапай, і свой злы яд-нянавісць да людзей вынімай. А не будзеш свайго злога яду-нянавісці па-ранейшаму вынімаць, тады будзе цябе Гасподзь Бог караць-наказваць вялікімі навальніцамі, страшнымі хмарамі і жахлівымі перунамі»* («Ад нячыстай сілы», УЗ. Клім.).

Караць-папярэджваць чараўнікоў было за што. Мала таго што насылалі на сялян навальніцы з перунамі, ды з градам, якія вынішчалі ўсё дашчэнту, то яшчэ і тое, што ацалела і ішло ў рост, стараліся загубіць на карані, не даць селяніну парадавацца ўраджаю. Найбольш часта варажбіты ды чараўнікі рабілі на жытнёвых палях **заломы***. Па-рознаму іх называлі — **«заломкі»**, **«зломкі»**, **«заламанне»**, **«зламанне»** і г.д. Але сутнасць была адна і тая ж — звычайнаму чалавеку да іх нельга было нават дакранацца, бо яго магло скруціць самога, зваліць у падучай хваробе, пераламаць рукі і ногі, сабранае і зжатае збожжа пачынала высыпацца з каласоў і цалкам апустошвалася ўсяго за адну толькі ноч. Страшная гэта была штука — залом. Прывядзём у якасці прыкладу беларускую народную казку «Заламка», запісаную ў свой час А. Сержпутоўскім. «У кожным сяле ёсць свой вядзьмар... Яны шэпчуць, лечаць, адрабляюць усялякую хваробу або няшчасце. Людзі баяцца іх, годзяць ім. От быў такі вядзьмар, яго зналі не толькі ў суседніх сёлах, але, можа, у цэлай акрузе. Гэта

*Залом — скручаныя і звязаныя ў вузел некалькі каліў збожжа на ніве. Па павер'ю залом рабіўся чараўнікамі, нібыта прыносіў вялікую шкоду гаспадару нівы. — *А. Н.*

быў такі вялікі вядзьмар, што ён усё знаў. Ніхто не смеў сказаць яму наперакор: так яго баяліся. Толькі быў там адзін чалавек, ён многа па свеце хадзіў, кажуць, быў аж у Круляўцу**. От гэты чалавек не баяўся ведзьмара і ўсё казаў, што ён толькі чмуціць. Але яму не верылі. От той чалавек пайшоў у сваё жыта і зрабіў там заламку. Цераз нядзелю, а мажа і дзве, прыходзіць к таму ведзьмару і просіць, каб ён вырваў тую заламку. Пайшлі яны ў поле. Падышоў вядзьмар к заламцы на шагоў дваццаць да й кажа, што не можа ісці далей — такая моцная заламка. Скінуў гэта ён нагавіцы й сарочку да так, як маці радзіла, й папоўз к заламцы ракам. Паўзе і ўсё стогне, што вельмі моцна ўздзеяна. Маўчаў гэта, маўчаў той чалавек, а як падышлі другія людзі, уссеў на ведзьмара верхам, дастаў з-пад палы гарапнік да давай паласаваць ведзьмара.

— От жа я табе хварэць, — кажа, — тваёй матары, пакажу, як моцна ўздзеяна, бо гэтую заламку я зрабіў сам.

Раве немым голасам вядзьмар, а той яго лупіць. Біў, біў, пакуль здаволіўся, да й пытае:

— А што, не будзеш больш добрых людзей чмуціць?

— Не, не буду, — просіцца вядзьмар, — толькі пусці жывога.

Пусціў той чалавек ведзьмара. Усхапіўся, гад, забыў і сарочку і нагавіцы апрануць, ды так і сунуў наўцекача. Падзівіліся людзі, думалі перш, што вядзьмар таго чалавека са свету зжыве, але бачаць, што той чалавек жыве сабе ў не лыс... Годзі вядзьмар з тае пары чмуціць. Але нядоўга жыў, бо вельмі яго збіў той чалавек.

Дык от якія ё ведзьмары»[29].

Залом на ніве для прымхлівага чалавека з'яўляўся знакам-сімвалам таго, што сярод ягонага збожжа ўссеўся знак, пастаўлены злым (чорным) варажбітом. Ад гэтага знаку можна было чакаць усяго самага найгоршага, але толькі не добрага. М. Нікіфароўскі згадваў: «Ліхадзей робіць з чужой збажыны залом або вырывае закрутку, дзеля чаго ў час, калі зерне наліваецца, на ніве сваёй ахвяры ён вырывае праваю рукою колькі сцяблінаў і, трымаючы іх у жмені, некалькі разоў абыходзіць вакол захопленых сцяблінаў, з-за чаго тыя скручваюцца амаль што да каранёў. Стаўшы тварам на поўнач, пасля нашэптванняў і заклёнаў ён падламлівае сцябліны ў той самы бок. Сіла ў залома настолькі вялікая, што той, хто з ёю сустракаецца, пакутуе ад доўгіх хваробаў, пераважна — ад ламоты ў касцях; цяжарныя скідваюць; у жняі, што неасцярожна зрэзала залом, аднімаюц-

**Крулявец — славянская назва Кёнігсберга (цяпер Калінінград).

ца рукі на столькі год, колькі было закручаных і заламаных сцяблінаў. Ужытыя ў ежу чалавекам і жывёламі зерне і салома ад заломаў даводзяць да пакутлівай смерці, у тым ліку нават мышэй і дробных птушак»[30]. А. Сержпутоўскі больш падрабязна апісваў усё гэта: «Заламкі маюць некалькі відаў. Вопытны «вядзьмар», ці «вядзьмак», па знешняму віду «завіткі» ведае, якое ад яе можа быць няшчасце. Звычайна «заламкі» завіваюцца так: збіраюць у пук сцябліны жыта, пшаніцы ці іншай збажыны, што расце на полі, перавязваюць гэты пук валасамі, ніткай ці чырвонай стужкай і сцябліны ламаюць у той ці іншы бок, а часам сплятаюць каласы ў выглядзе вянка. Калі «заламка» звязаная валасамі, то «ведзьміры» лічаць, што закляцце датычыцца жыцця людзей ці скаціны. Зламаныя ці скручаныя сцябліны збажыны таксама сведчаць аб праклянцці, накіраваным супраць здароўя ці жыцця людзей ці скаціны. «Заламкі» завіваюць у канцы мая ці ў пачатку чэрвеня, калі жыта адцвітае. Завіваюць ноччу перад узыходам сонца тыя ліхія людзі, якія «знаюцца» з «нячыстаю» сілаю. Яны распранаюцца дагала і прабіраюцца ціхенька і не азіраючыся ў поле; там іх сустракае розная «нечысць»[31]. Як пісаў Е. Раманаў: «Заломы, завіткі і закруты, як паказвае сама назва, бываюць трох відаў: у заломах жменю сцяблін пераломваюць, і каласы прыпадаюць да зямлі; у завітках бяруць дзве суседнія жмені сцяблін, скручваюць кожную жгутом і завіваюць зверху ў выглядзе аркі; у закрутах жменю сцяблін скручваюць жгутом і завязваюць на вузел. Каб абясшкодзіць гэтыя чары, найчасцей запрашаюць прычт, які пасля малітвы вырывае сапсаванае жыта епітрахіллю і спальвае на раскладзеным гаспадаром вогнішчы. Нярэдка клічуць на ніву ведзьмара, які лічыцца мацнейшым за ведзьмаў, і той вырывае закруты. За гэта яму плацяць хлебам, адзежаю і грашыма. Іншыя гаспадары ў часе жніва абжынаюць заломы, а потым з малітваю спальваюць іх»[32].

Безумоўна, звярталіся за дапамогай зноў-такі да чараўніка, толькі ўжо да таго, які, паводле перакананняў аднавяскоўцаў, валодаў «добрай», «здаровай» сілай. Адносна заломвання ці завязвання заломаў на палетках можна знайсці сведчанні паўсюдна па тэрыторыі Беларусі. «Даўней гэтага ўсяго вельмі баяліся. Некаторыя, дык нават заставаліся начаваць на сваёй ніве, каб ліхі чарадзей не падлез, да залома не ўтварыў, бо калі такое зробіць, то потым бяды-гора не абярэшся. Але дзе ж вы бачылі, каб упільнаваўся ад нячыстай сілы. Ты вартуеш, вартуеш і прыдрэмлеш, а ён шмаргане дзе-небудзь з іншага боку некалькі каласоў і завяжа іх у вузел. Гэтага ж ніхто не ўбачыць і не пачуе. Вось залом і гатоў. Прачнецца гаспадар, пойдзе

аглядаць ніву і наторкнецца на сляды здзейсненага злачынства. Тут ужо і рукі зусім вымушаны апусціць. Яшчэ калі адразу заўважаць, то і час ёсць падумаць, што рабіць. А вось калі гэта ўсё адбываецца ўжо на апошнім этапе, падчас дажынкаў, то тут хочаш не хочаш, а заплачаш. Збожжа амаль звезена ў гумно, што яго там можа чакаць — ніхто не адкажа. Беглі да моцнага знахара, якога людзі ўказвалі і прасілі, каб ён прыйшоў і выручыў, — выдраў той злачасны залом. Знахар, калі быў ласкавы і спагадлівы, то доўга не прымушаў сябе ўпрошваць. Ішоў на поле з гаспадаром і там, сатварыўшы малітву, вырываў залом і выносіў яго далёка ад астатняга збожжа для таго, каб чартоўская сіла не ўздзейнічала потым на чысты хлеб, не наносіла на яго ніякай хваробы ці пошасці. Не чараўніку, не знахару ўвогуле забаранялася дакранацца самому да залома, бо такі чалавек мог памерці на месцы ад удару сэрца ці быць спаралізаваным да самай смерці. Страшная гэта была штука, і яе раней усе чыста баяліся» (УЗ. Ст.); «У старадаўнія часы ў кожнага гаспадара была свая уласная ніва. Яе найболей засцерагалі, каб ніякі злы чалавек да яе доступу не меў, каб і блізка не падыходзіў. Асабліва баяліся чорных варажбітоў, якія маглі на зло заломы ўтвараць. Вось тут ужо сапраўднае гора, чаго толькі ад гэтага залома магло не з'явіцца. Даўней казалі, што і пошасць, і паморак, і іншыя якія хваробы на людзей ды на жывёлу перакідваліся. Адзінае ратаванне заставалася — ісці да вясковага знахара, які дапамагаў людзям, і прасіцца, каб ён выручыў з цяжкага становішча, каб вырываў ды вынес куды той пракляты залом. Здаралася, што такія заломы ніякія чараўнікі не заломвалі, а простыя людзі для смеху завязвалі. Або з зайздрасці. Але хто ж там надта з усім разбіраўся. Знахар, які пагаджаўся ісці вырываць залом, дык рабіў гэта ў некалькі прыёмаў. У першы дзень мог увогуле нікуды не пайсці. Прысутнасць гаспадара нівы пры такім працэсе не заўсёды была абавязковай. Селянін мог знаходзіцца дома, а знахар самастойна вырашаў пытанне — вырываў і выкідваў залом. Такога знахара заўсёды сяляне шчыра частавалі, паважалі і аказвалі ўсёмагчымую пашану за тое, што ён іх выручаў у цяжкія моманты жыцця» (УЗ. Пн.).

Вось што пісаў адносна заломаў П. Шэйн: «З павер'яў, якія адносіліся да кола земляробчых работ, вылучаецца асабліва павер'е аб заломе. Заломванне заломаў лічыцца самым небяспечным праяўленнем сілы чараўніцтва. Яно складаецца з завязвання вузлоў у жыце і суправаджаецца адпаведнай замовай, у якой гаворыцца, на чыю галаву залом ломіцца, якія пакуты той чалавек вымушаны будзе выпакутаваць і якою смерцю павінны памерці. Заломы зломваюцца на

людзей і на свойскіх жывёл, на хваробу і на смерць. І калі жнейкі ў час жніва знаходзяць закруткі і завязкі жыта, то не дакранаюцца да іх, а асцярожна абжынаюць вакол, з небяспекі, каб не здзейсніўся той заклён, які быў вымаўлены пры заломванні залома. Толькі вопытны знахар ці знахарка, пры дапамозе «сустрэчных» замоў, могуць знішчыць чарадзейную сілу залома і такім чынам прадухіліць тую страшную небяспеку, якая пагражала тым асобам, на ніве якіх быў заломлены залом.

Завіваюць на пасеве з растучага хлеба і на траве ў форме абруча, — на смерць ці на хваробу чалавека або жывёліны. Гэта робіцца злым чалавекам. Каб пазбавіцца ад пагражаючай небяспекі, гаспадар нівы ці сенакосу звяртаецца звычайна да знахара, пераважна з сялян. Мая апавядальніца, якая сама раз захварэла ад завітка, зробленага на іх сямейным полі, паведаміла мне пра гэта наступнае: знахар зняў з яе галавы хустку, паклаў яе, кладучыся спаць, сабе пад галаву. Прачнуўшыся на другі дзень раніцаю, ён расказаў, хто менавіта зрабіў завітку. Затым ён загадаў прынесці ёй вады ў бутэльцы і маліцца перад абразамі, трымаючы яе ў руках і ўсё гукаючы ў яе. Потым з гэтай бутэлькі ён даў ёй выпіць крыху вады, ад чаго яна быццам і паздаравела. Самую завітку знахар вырваў і, прывязаўшы да каменя, кінуў в ваду. Нярэдка завітку знахары кладуць у труну нябожчыку. У першым выпадку той, хто зрабіў завітку, павінен утапіцца, а ў другім памерці заўчасна натуральнай смерцю»[33].

У А. Шлюбскага знаходзім такое сведчанне: «Заломы — гэта асобны від замоў збожжа на палёх. Праходзячы тым ці іншым полем, вельмі часта звяртаеш увагу на гэткае з'явішча: недалёка ад дарогі, а іншы раз і пасярэдзіне шнура, бачыш жменю каласоў, салома якіх прыблізна на сярэдзіне сваёй вышыні перакручана, завязана вузлом, каласы паскладаны ў розныя бакі і вельмі пераблытаны. Салома нярэдка бывае перавязана чырвонаю істужкаю альбо ільняною ніткаю, павязанаю ў шмат вузельчыкаў, і носіць назву «залому». Апошняга віду залом будзе відавочным, але ёсць яшчэ непрыкметныя, злёгку толькі пакручаныя заломы. Мэта гэтых заломў — звычайна замова на тую асобу, на чым шнуры яны зроблены. Пры гэтым залом відавочны робіць звычайна ўплыў на гаспадара шнура альбо на яго дзяцей, незалежна ад таго, хто яго сажне, а залом таемны спецыяльна робіцца для таго, хто будзе жаць гэты шнур і з ім разам — таемны залом»[34].

Адносна смерці злога чараўніка пасля расчаравання ягоных заломаў нам таксама паведамлялі інфарматары. Пры гэтым яны яшчэ

больш змрочнай рабілі смерць, а пазамагільнае жыццё для душы ведзьмара было ўвогуле жудасным ці цалкам адсутнічала. «Заклікалі залом вырываць спагадлівага варажбіта. Яму расказвалі, што да чаго, а потым ён ужо сам дзейнічаў. Абавязкова трэба было распавесці, хто першы залом знайшоў, у які бок ён быў пахілены і г.д. Варажбіт па гэтых прыкметах здагадваўся, хто пагаспадарыў на сялянскім полі і наколькі моцнай была злая сіла таго ведзьмара, каб найхутчэй прыняць адпаведныя захады для ліквідацыі ягоных страшэнных знакаў. На заломе ж маглі ўтрымлівацца заклёны, накіраваныя на здзяйсненне нейкай таямнічай для чалавека хваробы ці для знішчальнага жывёльнага паморку. У рэдкіх выпадках на заломе «трымалася» сама смерць, бо менавіта яе прасіў у сваёй чорнай замове злыдзень для сумленнага працаўніка. Калі шчыры варажбіт падыходзіў да залома, то перад гэтым абавязкова мыў рукі свячонай вадой. Гэтая вада не давала магчымасці непажаданым чарам перабрацца на добрага варажбіта і заразіць яго хваробай. Нашэптваючы сваю святую малітву, ён па аднаму вырываў каласы, збіраў іх у жменю і нёс у левай (абавязкова ў левай) руцэ далей ад таго месца, дзе залом быў заломлены. Тыя каласы падносіў да глыбокага вадаёма, звычайна са стаячай вадой, прывязваў да іх што-небудзь цяжкае ці захутваў у якую анучку разам з каменем і кідаў у ваду. Як толькі кідаў у ваду, то з гэтага самага моманту для чорнага знахара пачыналася адлічэнне перадсмяротнага часу. Хацеў ён гэтага ці не, але павінен быў загінуць гвалтоўнай смерцю — утапіцца, бо яго асудзіў на гэта добры чараўнік. Тут ужо няхай сабе, як не круціцца, а ад смерці ўсё роўна не выкруціцца, бо яна яго на вадзе падпільнуе, дачакаецца зручнага моманту і забярэ. Нікуды той злыдзень не дзенецца» (УЗ. Ст.); «Заломы клікалі ў нас вырываць знахара, якога звалі Базылём. Той надта моцны быў. Нічога не баяўся ўвогуле, ніякія праклёны на яго не садзіліся, бо чалавек ведаў надзіва магутныя сустрэчныя заклёны, замовы. Прашэпча іх спачатку звечара, а потым рана-ранелька, калі трэба ісці вырываць залом, паўторыць. Тады смела кіруе на той палетак. Там яму і паказваць не трэба, тлумачыць таксама. Усё сам прадбачыць, усё сам ведае. Перад тымі каласамі станавіўся на калені, спінаю да сонца. Стаяў непарушна хвілін пяць і шаптаў свае словы. Потым асцярожна, каласок за каласком, падрываў залом ля самай зямлі. Правай рукой падрываў, а ў левую збіраў, нібы ў які малюсенькі сноп. Збярэ ўвесь залом чыста, пакланіцца тройчы ніве нізка да зямлі, устане і пойдзе, ні з кім не размаўляючы, прэч. Лічыў, што нячысты дух тут пастаянна прысутнічае і толькі і робіць, што

чакае, каб ён нешта парушыў у адвечным парадку, дык адразу націнецца на слабейшага чалавека, на таго, да якога загаварыў. Каласы заломленыя нікуды варажбіт не выкідаў. Нёс іх Базыль дахаты. Там ушчэмліваў у плот і прывязваў яшчэ якой суровай ніткай, каб іх вецер нікуды не павыдзімаў, не параскідаў. Потым, чакаючы, калі ў вёсцы нехта памрэ, нёс каласы ў хату нябожчыка і там закладваў іх у дамавіну, клаў памерламу пад спіну. Зрабіўшы такое, шаптаў над нябожчыкам святую малітву і, задаволены, вяртаўся. Цяпер Базыль быў цвёрда перакананы ў тым, што злы знахар абавязкова памрэ. Прычым здарыцца гэта неўзабаве і пойдзе той з жыцця заўчасна. Гэта яму пакаранне за зло і гора, прычыненае людзям. Базыль жыў амаль цэлы век. Спагадлівы быў, добры. Заўсёды, калі прасілі аб дапамозе, то сваю працу кідаў, а чужым людзям не адмаўляў» (УЗ. Драг.).

П. Дземідовіч падрабязна распавёў пра час, калі рабіліся заломы: «Заломы робяць у жыце і ў пшаніцы, калі збожжа наліваецца — што супадае з Купалаю; заламаную пшаніцу звычайна перавязваюць чырвонай шаўковай істужкай ці нітачкай. Формы заломаў бываюць разнастайныя; пераважна мне даводзілася бачыць такія: чатыры прыблізна роўныя пучкі саломы, узятыя накрыж і пераламаныя ля кораня, а вярхі пераламанай саломы нахілены ўверсе да сярэдзіны і завітыя. Мэта заломаў — нашкодзіць самому гаспадару ці яго маёмасці. У час жніва жнеі ўважліва прыглядаюцца, каб не зачапіць залома, а тым больш — зжаць яго. Некаторыя сяляне раяць вырываць залом з малітваю і спальваць яго над дзіравым гаршком на полі, на тым самым месцы, дзе ён быў зроблены»[35]. У Е. Яленскай зафіксаваны наступныя падрабязнасці-ўдакладненні: «Жанчына, якая мае крыўду, напрыклад, на суседку, вырашае зрабіць на яе полі завітку; ідзе туды ў полудзень, распранаецца дагала, расплятае валасы і сярод суседчынага жыта выбірае сем каласоў, якія звязвае чырвонай ніткай і прыгінае ўніз, да зямлі, кажучы: «Кручу, кручу, наўпакі, штоб не было ў Н. ні хлеба, ні мукі», альбо якое іншае пажаданне, напрыклад, каб захварэла ўся сям'я, каб жывёла падохла і г.д. Суседка, знайшоўшы ў сваім збожжы такую завітку, бывае ў роспачы, бо чуе пагрозу няшчасця, а як ад яго пазбавіцца — не ведае. Калі яна зусім не вінаватая, то можа вырваць каласы і сама занесці іх уночы на могілкі, там пакласці на якую-небудзь магілу, і няшчасці ад яе адвернуцца. Калі ж яна сапраўды мае грэх на душы, то нічога ёй не дапаможа і разнастайныя беды будуць яе праследаваць»[36].

Супадзенне прыкладаў, прыведзеных з запісаў даследчыкаў фальклору XIX стагоддзя і нашых поўнае, але ўсё ж адчуваецца, што

на запісах апошніх гадоў, хоць іхнія карані і надзвычай старажытныя, напрамую ідуць да абрадаў землеробчай магіі, няма ўжо таго цемрашальства, страху, сляпога пакланення. Ёсць толькі, найперш, прама канстатацыя факта, які меў месца ў рэальным жыцці, і не болей таго. Называецца імя ці прозвішча чалавека, які выручаў іншых і, у абавязковым парадку, нават калі такі варажбіт даўно памёр, яму ўсё роўна выказваюцца словы падзякі, «памінаецца добрым словам».

У некаторых выпадках, асабліва напрыканцы XIX — пачатку XX стагоддзя, сяляне звярталіся не да спагадлівых варажбітоў, а да... святароў. Лічылася, што служка Бога ўсё гэта абладзіць намнога лепей за любога знахара. Ён жа ўздзейнічае на нячыстую сілу сілай святой малітвы, і адпаведна малітва заўсёды любую праяву вядзьмарства нейтралізуе, адганяе на задні план, не дае ёй магчымасці разгарнуцца. «Калі ў нашай вёсцы нехта з гаспадароў знаходзіў на сваім полі залом, то ішлі не да знахара. Ужо на той час такога чалавека і не было ўвогуле. Да яго быў моцны чараўнік, але той памёр. Звярталіся да бацюшкі, каб выручыў. Тады той апранаўся, як на царкоўную службу, браў з сабой адпаведнае прычындалле і кіраваў туды, куды яго клікалі гаспадары. Там прамаўляў над заломам малітву, а калі бачыў, што залом вялікі, то і дзве, і тры. Потым пырскаў на яго і на чатыры бакі свету святою вадою. Сам залом рукамі не чапаў, а гаварыў гаспадыні, каб яна не баялася і зжынала тыя каласы смела, бо чартоўскай сілы болей тут няма. Залом браў бацюшка і закопваў прама на ніве, як падношэнне-ахвяру святой зямліцы-маці» (УЗ. Лун.).

Цяпер зноў звернемся да цікавых прыкладаў П. Шэйна. «Залом ці завітка мае форму вянка ці кубка, сплеценых з жытняй саломы разам з каласамі. Гэта, па перакананні народа, справа рук злога чалавека. Такі ліхі чалавек, які задумаў зрабіць каму-небудзь завітку, адпраўляецца пад полудзень ці апоўначы на яго засеянае жытам поле і там, распрануўшыся дагала, захватвае ў рукі некалькі каласоў жыта і скручвае іх у завітку, вакол якой ён абходзіць тры разы, вымаўляючы нейкія патаемныя словы. Потым, ужо ў ляжачым стане, паварочваецца тры разы кувыркам, вакол завіткі; зноў шэпча таямнічыя словы. Нарэшце, раскапаўшы рукамі тут на зямлі і засыпаўшы туды вуголле, соль і яшчэ нешта, засыпае ямку самым старанным чынам. Здзяйсняючы ўсё гэта, ліхадзей меў на мэце нанесці шкоду самому земляробу ці яго жонцы, дзецям або жывёле. Народ глыбока перакананы, што калі жнучы жыта зжаць разам з ім завітку, то чалавек, на якога яна зроблена, памрэ маруднай, пакутніцкай смерцю. Вось

чаму пры жніве сяляне сочаць за завіткамі і калі такая знойдзецца, то яе з вялікаю асцярожнасцю абжынаюць вакол. Некаторыя гаспадары ў такім выпадку запрашаюць свяшчэніка, каб ён з дапамогай малітвы вырваў завітку, а іншыя звяртаюцца неадкладна за парадаю да знахара, і той з вымаўленнем слоў замовы вырывае з коранем завітку, спальвае яе ці падкопвае і падкладвае ў лесе пад гнілую калоду. Замовы супраць завітак бываюць рознага зместу. Тут прывяду толькі адну з іх: «Ішоў Ісус Хрыстос із нябёс цераз трое варот, з залатым крастом, з залатым мячом. Я залатым крастом хазяйства агражлаю і здароўем задзелаю, а Ісус Хрыстос залатым мячом завітак вырывае і гэтыя словы залатым мячом назад адсылае і яго на той свет заганяе».

Народ моцна верыць, што калі завітку вырве знахар з вымаўленнем слоў замовы, то здзейсніўшы яе ліхадзей абавязкова памрэ пакутніцкай смерцю, а калі хутка пасля зробленага завітка і яго вырывання чорнага знахара здагоніць хвароба, то ён сам звяртаецца з просьбаю да моцнага знахара пашкадаваць яго. Знахар жа, за адмоўленую завітку атрымаўшы ўзнагароду, ахвотна бярэцца за вылячэнне і вымаўляе над хворым наступную замову:

«Ішоў Ісус Хрыстос із нябёс з залатым крастом і з залатым мячом. Як з таго свету не ўставаць, віна кубкаў не выпіваць, так і яму (імя рэк) етай хваробы не маць»[37].

Замоў ад заломаў зафіксавана ўвогуле нямнога. Некаторыя з іх мы прывядзём.

Штоб жаў — не ляжаў,
Штоб еў — не хварэў.
Не лажысь, квяціна,
Не прападзі, скаціна.
Не лажысь, колас, на зямлю,
Не будзі хваробу на сям'ю»[38].

Невядома, у які момант выконвалі гэтую замову — тады, калі толькі бачылі залом, ці тады, калі яго вырывалі-знішчалі або, наадварот, яна была агульнай замовай і выступала ў якасці засцеражэння ад усёмагчымых заломаў, завіткаў і г.д. Сустракаюцца таксама замовы-шэпты, якія можна характарызаваць як патражальныя, запалохваючыя з боку сумленных гаспадароў ў адносінах да чорных чараўнікоў. *«Госпадзі, Божа, благаславі, пасабі мне еты вянок вырваць* (скруціць залом і наступіць на яго).

*Іду я па Юр'евай расе, па жамчужнай траве, Юр'евай расою ўмываюся, малебнаю скацеркаю-рушніком уціраюся, і пайду ў светлую*

*цэркаўку, пад Божы крыж. У той царкве стаіць гроб, у тым гробе ляжыць мярцвец, у таго мерцвяца запалалі яго зубы і цела. Хто гэты злы залом запаліў, няхай замее-застудзіцца яму кроў на вякі вякоў, назаўсёды. Амінь»* («Ад залому». УЗ. Ветк.).

Пагроза скіравана на таго чалавека, які імкнуўся прычыніць ліха іншым. Вымаўлялася на першапачатковым этапе варажбітамі, да якіх звярталіся за дапамогай. З цягам гадоў замова перастала быць «вузкапрафесійнай» і стала дзеючым набыткам вяскоўцаў, якія любым чынам засцерагалі свае нівы, жытнёвыя палі, жывёлу і саміх сябе. Вось як у гэтым выпадку. *«Мікалай-цудатворца і святы Божа! І памілуй нас ад худога, ад ліхога, ад злога. Мікалай святы па межам ходзіць да рож росціць па цёплым начам, па ўтраннім зорам, а ліхі чалавек па межам хадзіў да залом ламіў па цёплым начам, па халодным росам. А пашлі яму, Божа, на смерць, на хваробу, а на куту ляжаць; яму хлеба не з'есці, вады не піць, а ў магіле быць. Дай, Божа, рабе Праскоўі здаровай быць, Мікалаю святому заўсёды шчыра служыць малебен. Амінь»* («Ад залому», УЗ. Івац.). Сама па сабе, калі б не згадванне «ліхога чалавека, які ходзіць па чужых межах ды заломы заломвае», замова б нагадвала агульную, але гэтыя спецыфічныя словы падкрэсліваюць яе асноўнае прызначэнне, яе засцерагальны накірунак.

Наступны вусна-паэтычны твор цалкам папераджальны і не выключана нават, што ён выконваўся ў кожнай сялянскай сям'і, асабліва ў перыяд росту збожжа, яго жніва, як абавязковы атрыбут. Інакш проста і быць не магло, бо тады атрымлівалася, што хлеб увогуле заставаўся без якога ні было б засцярога-абярэга. *«Прачыстую Маці ўпрашаю, Ісуса Хрыста, Госпада нашага прынябеснага. Ідзе святая Іардань, нікога яна сабе не збаіцца — ні чараўніц, ні чараўнікоў-варажбітоў, ні каралёў-гаспадароў, ні князёў-малайцоў: так не ўпалохайся і ты, ніўка, ні чараўніц, ні чараўнікоў-варажбітоў, ні каралёў-гаспадароў, ні князёў-малайцоў. Усё чыста Ісус Хрыстос умтрымліваў, неба і зямлю, і нас удзержывай, рабоў тваіх грэшных»* («Ад залому», УЗ. Старад.).

Цікава і тое, як падаецца ў народным пераказванні-выкананні сам працэс заломвання залома, а таксама яго ліквідацыі. «К табе, Соф'я Мікулаўна, Шваркун прыходзіў. Ён такі дзед, яго ўся вёска знае, ён да ўсяго дайшоў. А на Іллю яму Паша з Трызубак, кавалёва жонка, халсціну дала, да гарэлку ставіла, каб ён ей залом загаварыў, а гэта Васіха, удава салдацкая, Пашцы залом заламіла; заламіла ды сабе і памерла. А ўсё Шваркун, ей Богу. З Пашкінага двара дзеўка за грыбамі хадзіла. Раніцай ідзе яна па мяжы, ля Пашынай дзесяціны,

глядзіць — а жыта хадуном ходзіць. Яна, падыйшоўшы, глянула, — а Васіха там сядзіць, валасы распусціўшы, у адной сарочцы: гэта яна залом так і ломіць і глядзіць хуткім вокам. А дзеўка як пабяжыць да Пашкі: «Куманька мая родная, не хадзі жаць, табе Васіха залом заламіла!» Дык Пашка ажно завыла, што жаць час. А Шваркун загаварыў жыта — і нічога. А Васіха тыдзень пажыла, памёрла, і ўсё тут. А ён жа не дурной справай, а ўсё святым словам замаўляе»[39].

Той жа Дзмітрый Шваркун даволі падрабязна тлумачыў сваім аднавяскоўцам, як трэба і можна пазбавіцца ад заломаў. Учытаемся лепей у ягоныя словы. «Вазьмі абраз Міколы-цудатворцы, ступай у жыта, раненька, да сонца, а як сонца ўзыдзе, ты да захаду стань, ды на абраз глядзі і замову гавары, а калі сонца няйграець, калі туман пойдзець, як дым, ты не гавары, а іншым днём скажы, як сонца іграць будзе: *«Мікалай-цудатворца і Святы Божа! І памілуй нас ад худога, ад ліхога, ад злога. Мікола святы па межах ходзіць ды жыта росіць па цёплым начам, па ўтранім зорам, а ліхі чалавек па межам хадзіў ды залом ламіў па цёплым начам, па халодным росам. А пашлі яму, Божа, на смерць, на балезнь, а на куту ляжаць; яму хлеба не з'есці, вады не піць, а ў магіле быць, а рабе Праскоўі здаровай быць, Мікалаю святому малебен служыць. Амінь»*[40].

Арына Максімаўна тлумачыла па-свойму: «Калі злодзей залом у жыце ломіць, дык залом не чапай, а зачэпіш — благое будзе, а ступай у лес і крыж з сабою бяры, у ноч ступай, не бойся, таму што ты замову лесавіку ведаеш; а ноч трэба каб светлая была, з месяцам. Пайдзі ды асіну знайдзі, а ў ёй сук ёсць на вершаліне — крыжам сучкі растуць. Ты той сук зламі і на тое поле ідзі, дзе залом, ды там і сядзі і сук у руках трымай, а на траву класці не трэба: ён жа на траве не вяне, а яму неабходна вянуць. Як сонца іграць пачне, ты тым суком залом разбяры ды і прамоў пры гэтым:

*«Хто працаваў на мяне, няхай працаваў на сябе. Як на асіне лісты вянуць, сохнуць, дык няхай у злодзея рукі, ногі адсохнуць; як на асіне птушкам гнёздаў не віць, так злодзею ў доме не жыць; і як той асіне на карані не ўстаяць, так злодзею са свайго ложка не ўстаць».*

Ты гэта гавары, а да сонца спінаю стань, і кінь ты асіну і нагамі растапчы; таму злодзею рукі, ногі адсохнуць і памрэ, а жыта не апаганенае застанецца»[41].

І ў адным, і ў другім выпадку замовы накіраваны супраць злых ведзьмароў і маюць ярка выражаную «гвалтоўна-прымусовую» афарбоўку. Вяскоўцы, якія шукалі пакаранне на тых, хто рабіў заломы, былі ўпэўнены, што тое пажаданне жахлівай смерці, якое

згадвалася ў вусна-паэтычных творах, абавязкова здзейсніцца. Справядлівасць усё роўна выйдзе пераможцай, а злое, чорнае, зайздроснае — прайграе, будзе асуджана, зняслаўлена, і таму займацца ім у будучым, памятаючы пра жорсткія ўрокі з мінулага, асмеліцца далёка не кожны. Але залом заломам. Як бы яго акуратна і непрыкметна ні закручваў вядзьмар, рана ці позна на гэтае чартоўскае, заклятае месца гаспадар нівы выбіраўся сам, усё знаходзіў і потым адпаведна прыводзіў варажбіта ці бацюшку, якія здзяйснялі абрад ачышчэння нівы. Болей таго, тут нават магічнымі дзеяннямі і словамі спрабавалі ўплываць на злога чараўніка для таго, каб тое, што ён сам учыніў на зло некаму, перакінулася супраць гэтага злыдня. Толькі ж злыя чараўнікі ў гаспадарчай дзейнасці людзей маглі падрабіць такое, што на першы погляд і не заўважыш, што выкараніць удаецца далёка не заўсёды і не да канца. Напрыклад, маглі выклікаць пошасць ці мышэй на сабранае і звезенае ўжо збожжа. «Гора чалавеку ўсюды сустракалася. Калі сам не захварэе, то жывёла зляжа або пажар які надарыцца. А такога няма, то ў збожжа мышы ўваб'юцца. Не дай Божа, такога нашэсця. Здаецца, што ад іх пазбавіцца можна, вытруціць чым-небудзь. Ды не тут то было такое! Дзе гэта вы іх з гумна зведзяце? Як толькі гаспадар не ўмудраўся, як толькі ні прасіўся ды ні круціўся, але паловы збожжа ў самым лепшым выпадку не было. Тады, даўней, казалі, што мышэй у чужое гумно папросту мог напусціць знахар. Пазайздросціць добраму ўраджаю або проста назло чалавеку зробіць. Цёмнай ноччу, калі ўсе спяць, возьме жывую мышку, пашэпча на яе свае чорныя словы і выпускае пад патрэбнае яму гумно. Тады ўжо за гэтай мышкай цэлыя хмары сабяруцца і пойдуць. Гаспадар, як убачыць такое, то адразу імкнецца ратавацца. Тут марудзіць нельга ні ў якім разе. Звяртаўся найчасцей, зноў-такі, да варажбіта, але ўжо да добрага. Той браўся выручыць. І даволі часта выручаў, бо мышы прападалі. Гаварылі, што ён валодаў надта вялікай сілай, якая актыўна і пагубна ўздзейнічала на непажаданых грызуноў. Замовы такія ў яго былі, але нікому не расказваў іх услых, каб слоў не пераймалі, можа, ці каб сілу замовы не страцілі, бо іх трэба было шаптаць толькі пра сябе. Часта выручаў у нашай вёсцы варажбіт ад мышэй. Да некаторых людзей дык нават сам раніцою прыходзіў, не чакаючы пакуль гаспадары наведаюцца. Гэтым самым ён падкрэсліваў тое, што яму ўсё роўна, хочуць гэтага ці не, вядома ўсё, што адбываецца ў наваколлі» (УЗ. Житк.); «Помню добра, што гэта ўсё здзейснілася яшчэ да першай вайны з немцамі (да вайны 1914 года. — *А. Н.*).

Тады летам стаяла страшэнная спёка. Усё павыпальвала на карані. Мала гэтага, працаваць людзям было амаль немагчыма... Так ужо пякло. Пачалі жаць збажыну, звозіць яе. Прыбіраць, адным словам, на гумнах, каб ненарокам дождж не ўбіўся ды і зладзеяваты які чалавек, каб не пасквапіўся на чужое. Ды да гэтай бяды дадалася яшчэ адна — мышы. Столькі іх тады распладзілася, што, як вада, па палетках цяклі. Снапы і тыя кожны гаспадар разы два-тры перасаў. Не надта і трасянеш, бо астатнія зярняткі на зямлю ўпадуць. Пажалі, пазвозілі і, здаецца, радавацца трэба было, што паспелі хоць гэтае ўхапіць. Ды дзе там! Начамі ў гумнах вяскоўцы сядзелі, шумелі-грымелі па-ўсялякаму, каб мышэй адпалохваць. Крычалі, трашчалі, не спалі, а толку асаблівага не было. Потым нехта ўсё ж параіў схадзіць да сівога Пятра. Сівым Пятром яго звалі за тое, што надта паважалі за ўзрост чалавека. Колькі яму гадоў было, то, мабыць, Пятро і сам не ведаў. Адразу той прыйшоў, пахістаў нешта галавою. Папрасіў усіх ад гумнаў адысці і шуму ніякага не рабіць, каб яму не перашкаджаць. А гумны тады ўсіх гаспадароў у адным месцы стаялі. Так зручней намнога было. Адышлі людзі сцішана, чакаюць, што ж далей будзе, як жа стане сівы Пятро з мышамі ваяваць. А ён і не ваяваў. Стаў на коленцы, пакланіўся галавою ажно да зямлі тройчы, потым дастаў з торбы кавалачак хлеба, разламаў яго на драбнейшыя часткі, асцярожна паклаў на зямлю. Хвілін колькі шаптаў, відаць, замову. Потым асцярожненька ўстаў і падышоў да людзей. Тыя здзіўлена пераглядваюцца, а знахар і ўвагі асаблівай на іх не звяртае. Стаіць ды губамі нешта плямкае, ці то зноў свае малітвы шаптаць пачаў, ці то ўжо па звычцы ўсё рабіў, хто ж яго ведае. Але ўсяго недзе хвілін праз колькі пачуўся адчайны піск ля хлеба, які сівы Пятро пакінуў. Потым яшчэ і яшчэ. А неўзабаве нехта выдыхнуў: «Глядзіце!» Каб вы толькі пабачылі, людцы добрыя! Мышы выбіраліся з гумнаў і кіравалі на стары лес. Стваралася ўражанне, што хадуном хадзіла ўсё пад нагамі. Так тады мышы і выбраліся з гумнаў. Крыху засталося, але дзе ж гэта вы бачылі, каб збожжа ды без мышэй было? А Пятро ведаў моцныя замовы ад мышэй. Яго і ў іншыя вёскі з гэтай нагоды запрашалі» (УЗ. Лун.); «У нас дзед адзін жыў, то ён і зашэптваў ад мышэй. Мог звесці іх ноччу ў невядомым накірунку. Адзінае, аб чым шчыра прасіў, каб не падглядвалі, каб тым самым не перашкаджалі, бо ўсе ягоныя старанні пойдуць прахам і нічога не атрымаецца. Ён прыходзіў спецыяльна на змярканні і папярэджваў гаспадароў, што яго не трэба весці да гумна — ведае і так. Людзі ўжо такому не здзіўляліся. Любы

варажбіт валодае нечым патаемным і здольны зазірнуць у мінулае, як і ў будучае. Стаяў дзед непарушна. Колькі трэба, столькі і заставаўся. Вяртаўся дамоў іншым шляхам. Да гаспадароў не падыходзіў і не развітваўся. Калі раніцай заходзілі ў гумно, то там, як ні стараліся, не знаходзілі ніводнай мышы. Ведаў нешта надта моцнае з замоў той дзед. Няйначай. Просты чалавек такога ніколі не здолеў бы зрабіць» (УЗ. Светл.).

Тут не згадваецца ўвогуле, якія замовы (адносна тэкстаў) выконваліся паклíканымі на выручку знахарамі. Яны «нешта шапталі», а то і «плямкалі губамі». Не выключана, што самі інфарматары для надання сваім аповядам найбольшай таямнічасці, зачараванасці ішлі на прыём свядомай гіпербалізацыі здольнасцей варажбітоў: «вось толькі глянуў, то мышы тыя і павыбраліся», «ракою мышы з гумнаў паплылі» і г.д. Праўда, як бы «ні прыхарошваўся» факт амаль што цудоўнага выратавання збожжа ад мышэй, мы павінны канстатаваць наступнае — у большасці выпадкаў селянін на самой справе не ведаў, як жа яму выратавацца ад гэтых грызуноў. Таму, зноў-такі, кожная гаспадыня ці гаспадар ведалі агульнаўжывальныя (агульнавядомыя) замовы і выконвалі іх як своеасаблівае магічна-абрадавае дзеянне, якое павінна было дапамагаць у будзённым жыцці, толькі ўжо не ад адных мышэй, а ад усёмагчымых пошасцей.

«На жыта, супраць шкоднікаў»: *«Чэр нападаіць, кор пад'ядаіць. Чэр кіпучая, чэр магучая, ідзі з нашага поля на ліхія імхі, на балоты, на гнілыя калоды, а калі не пойдзеш, то святы Міхайла-арханій сашлець пціц з нябес з жалезным носам. Будуць драць, кляваць, вашу жысць рашаць. Ва векі амінь»*[42].

Замова, як бачым, агульнага характару. І прызначалася яна не толькі для таго, каб адвадзіць мышэй, але і ўвогуле супраць шкоднікаў. Адносна шаптання замовы, скіраванай супраць мышэй, выкліканых ці прываджаных злымі чараўнікамі (злым чараўніком), у нас ёсць толькі адзін прыклад, зафіксаваны на тэрыторыі Ганцавіцкага раёна.

Госпаду Богу нашаму памалюся,
Святой Маці Прачыстай пакланюся,
Крыжом усемагутным хрышчуся,
За святых апосталаў хаваюся,
Нікога са злых злыдняў не баюся.
Загадваю-паўпрашаю,
Ведзьмам і ведзьмакам
Вочы колам пастаўляю!
Вочы колам пастаўляю,
Рукі-ногі граблямі паўрабляю!

Каб яны, злыдні злыя,
Сябе за пальцы кусалі,
Сабе самім з-пад сэрца
Кроў смакталі!
Каб яны злое ўсё на сябе пабралі,
Маю ніўку, маё поле
Бокам заўсёды абміналі.
Каб яны да маго жыта,
Ярыцы-пшаніцы,
Ходу не мелі, ад усяго толькі ляцелі.
Каб па маіх межах не блудзілі,
Па жыцейку заломаў не ламілі.
Святыя й Прачыстая Маці
На варце заўсёды будзе стаяці,
Ды мне ва ўсім часта дапамагаці,
Злым злыдням з іхняй злыбядою,
Рукі-ногі войстрым мячом абсякаці.
Калі той злыдзень залом заламае,
То ён яго і ў магілу ўганяе,
На чорны лес, на гнілыя балоты,
Туды, дзе ўсе жывуць нечыстоты,
Дзе ведзьма злая гуляе
І іх да сябе заклікае.
Там няхай жывуць,
А да нас ніколі не ідуць.
Госпаду Богу нашаму памалюся,
Святой Маці Прачыстай пакланюся,
Крыжом усемагутным хрышчуся,
За святых апосталаў хаваюся.
Амінь.

Усё развіваецца ў традыцыйным плане: пералічэнне святых, слёзная просьба-мальба да іх, каб яны заступіліся і пакаралі «злога злыдня». Мала гэтага, дык яго яшчэ і заранёў запалохваюць, прадказваючы яму адным-адзінае месца, «дзе ведзьма злая гуляе». Там злавеснаму ведзьмаку ў народнай свядомасці адведзена спрадвечнае «гнілое балота», куды ў фальклоры заўсёды адсылалі і любую хваробу, якая магла ненарокам завалодаць чалавекам, і ўсялякую пошасць.

Насланне мышэй, якія паядалі сабраны ўраджай, было не самым страшным. Так, чалавек мог увогуле застацца без хлеба, а гэта азначала, што яму адкрывалася «прамая дарога ў жабракі». Існі пабірацца, жабраваць, «хадзіць у старцы» ў даўнія часы не лічылі чымсці грэблівым, зняважлівым. Наадварот, да такіх людзей паўсюдна ставіліся з разуменнем, спагадай. Ніхто не быў застрахаваны ад таго, што заўтра ў яго мог здарыцца неўраджай, магла згарэць хата, гаспадарчыя будынкі. Нарэшце, чалавек быў вымушаны здымацца з родных

наседжаных мясцін у выніку нейкіх сацыяльных падзей (войнаў, бітваў, акупацый, захопаў), а гэта азначала, што і ён (ягоная сям'я, дзеці) маглі ўратавацца толькі дзякуючы ўсё таму ж... жабрацтву. У народзе лічылася заганным не падаць жабраку (падзяліцца апошнім) кавалак хлеба, не пусціць яго пераначаваць. Адным словам, выказаць яму спагаду і шкадаванне і пры гэтым дапамагчы стаць на ногі. Бо ж магла хадзіць сям'я і збіраць грошы на будаўніцтва новай хаціны. І зусім за межамі сялянскага этыкету, гуманнасці значылася такое дзеянне, як насміханне з жабракоў або, што яшчэ намнога горш, збіццё няшчаснага чалавека. Такі грэх лічыўся амаль незамольным і мог перадавацца ўсяму роду з пакалення ў пакаленне.

Найбольш злыя ведзьмары нярэдка напускалі на людзей **паморак**, што ў сялянскім разуменні ўяўлялася як эпідэмія, якая здольна была аднačасова ахапіць вялізную тэрыторыю (параўнаўча) і звесці са свету не аднаго-двух, а тысячы людзей, вынішчыць дазвання цэлыя вёскі і паселішчы, перапыніць жыццё на вуліцах шматлюдных гарадоў. Толькі ў вусна-паэтычных творах паморак уяўляецца не як нешта абстрактнае, цяжкатлумачальнае, а як звычайны чалавек (праўда, незнаёмы, раней яго не сустракалі ў гэтых мясцінах і г.д.). Звычайным чалавекам яго малявалі народныя дарадцы, мабыць, таму, што не маглі па-іншаму растлумачыць, што ж гэта за хвароба такая, якую ніхто не бачыць і якая гэтак бязлітасна косіць людзей. А так перад намі паўстае звычайны чалавек, якога ні ў якім разе нельга прапускаць у родныя мясціны, да аднавяскоўцаў, бо і для іх прыспее хуткая смерць.

«Якое толькі плягі няма на людзей! От так бяда на бядзе едзе да яшчэ бядою паганяе. Пастаіш — бяда пагоніць; пабяжыш — на бяду наляціш. І жывеш усё жыццё, бы звер у ліхом оступе: куды ні сунься — бядзе ў зубы. Там зірнеш — бяда ад Бога: то нахапіўся мароз і памарозіў сады, агароды, а то й хлеб на полі да траву на сенажаці; то град адбіў усё, што выхавалася ад марозу або сіверу; то нахопіцца склока да й накруціць, паломіць усё збожжа; то пойдзе абложны дождж і да тых часоў лье, пакуль усё загіне й на полі й на сенажаці; то прыпячэ сонейка і зямля гарачая, бы прысак, хоць ты ў ёй яйца пячы. А то дасць Бог харошае лецечка, дык тут адкуль возьмуцца ўсялякія пошасці ды паморак на жывёлу або на людзей. Але кажуць, што гэта не ад Бога, што гэта насылаюць ліхія людзі.

От я вам раскажу, як тое было ў адным месцы. Была ранняя, але вельмі гожая вясна. Кожную ночку йдзе ціхі, цёплы дожджык, а ўдзень свеціць яснае сонейка ды грэе зямлю, быцам матка хукае да пестуе сваё дзіцятка. А паветра такое лагоднае, што от здаецца, пасадзі на полі дзіцё, то яно й вырасце, бы гарбуз на агародзе. Бачаць людзі, што ўсё расце быццам на дражджах. Настала лета, Бог крыў ад граду, і так зарадзіла, што й дзяваць некуды. Але не рады людзі ўраджаю, бо ведама, наш брат так прывык да ўсялякай бяды, што яго і добрае палохае. Вось і пайшла прачутка, што

хоць Бог даў вялікі ўраджай, але будзе паморак і некаму будзе ўсё спажываць. Спалохаліся людзі ўраджаю горай самой бяды. Ходзяць яны засмучоныя, бы ў воду апушчаныя.

Толькі вось па восені і пачаў паморак касіць перш жывёлу, а потым і людзей. Было там адно сяло, куды яшчэ не дабраўся паморак. Жывуць там людзі пад страхам і кожную часіну чакаюць бяды, нібы вол доўбні. А каб хвароба не забралася ў іх сяло, пачалі берагціся. А кажуць жа, што беражонага й Бог беражэ. Так і тыя людзі. Пайшлі яны перш усім сялом у лес, звалілі там высокую ды вынёсную хвою, зрабілі з яе крыж мо сажон дзесяць, на сабе вынеслі з лесу, саматугам прывезлі ў сяло, паставілі на ўзгорачку, каб адусюль відаць было. Тым часам дзецюкі палажылі каля крыжа брусок ясеню, а другія папераменна пачалі яго церці; церлі яны, церлі датуль, пакуль прылажылі губку, дык тая і загарэлася. Вось узялі людзі таго агню ва ўсе хаты дый ніколі не пераводзілі яго. А на тым месцы, дзе дасталі агонь, і на канцах вуліцы пачалі дзень і ноч паліць кастры, каб паморак не мог увайсці ў сяло. Жывёлу ж яны загналі далёка ад сяла ў цёмныя лясы, на астраўкі за балота, нарабілі там кашары і пасвілі статак да самай зімы. Рана і вечар кожнага дня абкурвалі жывёлу тхарынаю: паложаць на вуголле кускі сушанай тхарыны дай падкурваюць жывёлу. Кругом расходзіцца такі смурод, што аж нос зрывае. Тут ніякая хвароба, ніякая пошасць не вытрымае. От ужо даў Бог і восень; хутка і замаразкі. Кругом паморак лоскам кладзе жывёлу, косіць людзей, нібы касою, а ў тое сяло не можа ўплішчыцца.

Вось ён пусціўся на хітрасць: скінуўся старою бабаю дай цягнецца глухою сцежкаю да сяла. Цягнецца яна, аж наганяе тую хваробу адзін чалавек.

— Куды, баба, ідзеш? — пытае ён тую страшную бабу.

— Іду, голубе, у тое сяло, дзе няма паморку.

Здагадаўся тут чалавек, што гэта і ёсць той самы паморак, спалохаўся, чуць жыў, але сашчапіў зубы, прамаўчаў да і кажа:

— Хадзем разам.

Вось яны ідуць ды ідуць, прыйшлі да гразкага балота. Цераз балота трэба ісці па бярвеннях ды кладках.

— Ідзі ты, баба, уперад ды трымайся за мой кій, — кажа чалавек.

Сунецца баба, апіраецца па бярвеннях ды моцна трымаецца за кій. Вось толькі ўзышлі яны на кладкі ў самой прорве, а чалавек як хісне бабу, дык тая і шуснула ў гразь. А месца тое было паганае, такое гразкае ды глыбокае, што і дна не дастаць. Утапіўся паморак у гразі, што й бурбалкі не пайшлі.

Кінуўся той чалавек бягом да гасподы ды і расказвае, як было, як паморак хацеў прыйсці ў сяло. Пачулі тое людзі ды і давай пільна пільнаваць, каб не пусціць паморку. Але вось паехаў з таго сяла адзін чалавек на грудок па сена. Развярошыў ён стажок і давай класці на воз сена. Толькі вытаптаў драбінкі, аж вось высунуўся з хмызняку нейкі страшны дзед з доўгаю, касматаю барадою, з адным вокам ды і падыходзіць да воза, апіраючыся на кіёчак. Зірнуў той чалавек ды і спалохаўся, яшчэ ніколі ён не бачыў такога страшнага дзеда і падумаў, што хіба гэта паморак. Тым часам палупаў дзед адным вокам ды і просіць падвезці яго да сяла. Падумаў той чалавечак ды і кажа:

— Давезці то я давязу, толькі, можа, нашы людзі не пусцяць цябе ў сяло, бо бачыш, яны вартуюць, каб у сяло з кім кольвек не прыплішчыўся і паморак.

— Э, мой лебядзіну, — кажа дзед, — я ўбогі, я нясу людзям шчасце, якога яны не маюць, покуль жывуць.

— Якое ж ты нясеш шчасце?

— Такое шчасце, такое шчасце, якое будуць мець і самыя багатыя, і самыя здаровыя, і самыя слаўныя людзі, якое ўжывуць і паны, і каралі, і — апошні ўбогі.

Як прамовіў ён астатняе слова, дык чалавек і здагадаўся, што дзед нясе смерць.

Бо вядома ж, яна ўсіх бярэ, яна ўсім дае роўнае шчасце — і каралям, і мужыкам. Здагадаўся чалавек дый гаворыць:

— Ну, дзеду, лезь на воз, а я прыкідаю цябе сенам, ды хіба такім спосабам увязу ў сяло.

Узабраўся дзед на воз, а чалавек закрыў яго сенам, прыціснуў рублём дый павёз у сваё сяло. Падвозіць ён да выгана, дзе стаяла варта і гарэў стос дроў, дый шапнуў дзецюкам, што вязе паморак. Вось тыя і пытаюцца:

— Мужык, што ты вязеш?

— Дрова.

— Якія дрова? Гэта ж сена.

— На што ж пытаеш, калі знаеш.

— А ў сене што?

— Што? Мо шышкі ды шпулькі.

— Гэ, ты яшчэ ўздумаў над намі кпіць!.. Хлопцы, бярыцеся за воз, — нехта ідзе на хвалу боскую.

Тут падхапілі хлопцы пад трайню ды пад падгарэц, дык сена й шаснула на касцёр. Вось як выбухнуў агонь, то стаў роўны з лесам. А тут хлопцы яшчэ пруццем пашавельваюць сухое сена да падкідваюць на агонь дроў. Круціўся, круціўся паморак ды чуць не задохся. Спалілі людзі той паморак, спалілі так, што і костачак не засталося.

Але, вядома, нечысць і ў агні не гарыць: перш згарэла, а потым ажыла. Вось з тае пары перасталі людзі ад таго паморку паміраць і жывёла дохнуць. Мабыць, такі добра спалохаўся паморак, як далі яму такую лазню, спалохаўся ды і ўцёк за сіняе мора, за высокія горы ў далёкі край, ды там і застаўся. Часам ён наведваецца туды, парэжа трохі жывёлы, пакосіць людзей ды і ўцякае назад, каб яго зноў не злавілі ды не падсмалілі»[43].

Мы прывялі такі вялікі вусна-паэтычны твор, зафіксаваны А. Сержпутоўскім, для таго, каб падкрэсліць, што тут утрымліваюцца ўсе традыцыйна-кананічныя рысы **паморка** (паморкаў). Па-першае, ён адухоўлены, па-другое, можа лёгка пераўвасабляцца ў жанчыну ці мужчыну (пры гэтым абавязковая ўмова — старых і жахлівых з выгляду, такіх людзей нават не сустракалі сярод звычайных вяскоўцаў), па-трэцяе, паморак можна прыпыніць, не дапусціць яго ў пэўную мясцовасць, толькі неабходна пільна за ўсім сачыць, то ў яго не будзе магчымасці «ўплішчыцца», па-чацвёртае, на паморак уздзейнічаюць спрадвечна-традыцыйнымі метадамі, якія былі вядомы нашым продкам з сівых стагоддзяў (крыж, сушаная тхарына, абкурванне дымам, спальванне ў агні і г.д.). Многае з такіх самабытных спосабаў выратавання ад жудасных паморкаў сустракаецца і ў нашы дні. Праўда, першасныя карані такіх дзеянняў забытыя, самі інфарматары іх растлумачыць не могуць, бо ім «усё толькі так і пераказалі».

«Даўней у кожнай вёсцы, на ўваходзе і выхадзе з яе, ставілі высачэнныя крыжы. Рабілі іх у лесе з суцэльнага дубовага ствала, якому было не меней за сто гадоў. Такі дуб надта моцны, і крыж з яго

прастаіць доўга. З лесу неслі на плячах на месца, дзе трэба было ўстанавіць. Ямку і крыж асвячаў бацюшка, а калі яго не было, то замест бацюшкі выступаў самы старэйшы з жыхароў вёскі. Ён шаптаў нейкія малітвы і абпырскваў свянцонаю вадою людзей, месца, крыж. Крыж той пасля меў вялізную засцерагальную сілу. Ён не даваў магчымасці распаўсюджвацца на мясцовае насельніцтва паморкам ды пошасцям». «Даўней такое часта здаралася, што людзі вымiралі ад невядомых хвароб, занесеных аднекуль, цэлымі сем'ямі. Такога паморку баяліся больш за ўсё на свеце, бо калі ён убіваўся, то пасля многа слёз пралівалася. У нас такое здаралася падчас апошняй вайны, калі нейкая хвароба вяскоўцаў нібы касою касіла. Не было нават каму на могілкі адвозіць ды закопваць. Але тады ў вёсцы гэтых крыжоў не існавала. Нехта падвучыў, то ў немцаў дазволу прасілі, каб з лесу дуб прынесці. Гаварылі, як паставілі, то далёка не кожны мог увайсці ў паселішча. Неяк ішлі жабракі, дык іх ля крыжоў, як якая сіла таямнічая затрымала. Не маглі зрушыць з месца. Спрабавалі, спрабавалі прайсці далей, але не тут тое было! Так і пайшлі назад. Потым усе тыя, хто гэта бачыў, казалі, што старыя жабракі і былі тым самым паморкам, яны страшную хваробу разносілі па беламу свету. А тут ад іх уцалелых людзей захавала сіла крыжа. Божы крыж заўсёды выручае і дапамагае, асабліва тых, хто мала грашыў і грахі тыя вымушаныя. Цяпер паўсюдна таксама сталі ля населеных пунктаў крыжы стаўляць. Самі ж бачыце, што старое ў многім вяртаецца» (УЗ. Ст.); «Каб засцерагчыся ад паморкаў, нашыя продкі даўней ставілі крыжы. Не перад кожнай хатай, а на асноўных дарогах, якія ўваходзілі і выходзілі з вёскі. Здаравенныя крыжы ставілі. Іх здалёку было відаць. На драўніну рушнікі навязвалі, абраз вешалі. Кожны, хто праходзіў ці праязджаў міма, абавязкова жагнаўся. А раз нейкі злы чалавек пройдзе і не пераджагнецца, то яму потым на здароўі гэта скажацца: хварэць пачне, на ногі прыпадаць, ноччу сон прападзе. Пакаранне такое, і нікуды ты ад яго не дзенешся, бо божы крыж усё ведае і ад яго не схаваешся. Калі нехта злое задумаў супраць сумленных людзей, то яму трэба крыж бокам абыходзіць. Прама папрэцца, дык спыніць божая сіла, не здолее ён здзейсніць благое супраць вяскоўцаў. Хто надта хворы сунецца, каб увайсці ў населены пункт, то і яго крыж перапыніць, каб паморку не ўцягнуў. Часта сама тая хвароба ішла, як чалавек. Стары, здарожаны, знясілены, што таму, хто не спрактыкаваны ды нічога не ведае, можа падацца, што такога шкадаваць трэба, дапамагаць, а на самой справе ўсё наадварот, бо там стары можа падрабіць смерць для спагадлівых

людзей, якія яго пашкадуюць. Трэба надта пільнымі быць, гавораць жа з даўніх часоў нездарма, што паморак і ў вадзе не тоне, і ў агні не гарыць. Палохаецца, праўда, божага крыжа, малітваў ды пільнай увагі. Як стануць рабіць усё правільна, то паморку ў гэтай мясцовасці ніколі месца не будзе» (УЗ. Жытк.).

Не абміналі гэтых народных прымхаў і забабонаў і паэты ды пісьменнікі, якія для перадачы своеасаблівага «каларыту», стварэння пэўных сцэн, пераносілі ўсё гэта ў свае творы. С. Станкевіч пісаў: «Гэтыя прымхі: уяўленне пошасці ды заразы ў абліччы высокае кабеты й выццё сабакаў перад блізкім няшчасцем — з вялікай дакладнасцю паўтарыў Міцкевіч у VIII кнізе «Пана Тадэвуша»[44].

Нашы продкі ад занесенага ці насланага на іх паморку ратаваліся і іншымі шляхамі. Вядома, што калі пачынаўся паморак, эпідэмія, нечуваная і неўтаймаваная хвароба, то людзі ішлі ў лес. Не, не ўсе разам ды ў адно месца, а паасобна, сем'ямі. Месца там хапала. Стараліся не кантактаваць з іншымі і самастойна перажыць пэўны тэрмін. Вярталіся на ранейшую сядзібу праз значны прамежак часу. Даволі часта здаралася так, што і зусім не вярталіся, бо палова людзей усё ж не магла выратавацца і памірала, а другая вырашала будавацца ў іншым месцы, каб нішто не нагадвала пра жудасную трагедыю, каб ненарокам той паморак зноў не ажыў ды не адрадзіўся. «Так часта здаралася. Лес хаваў, лес дапамагаў, лес выратоўваў. Калі хваробу страшную злы чараўнік насылаў і людзі пачыналі ад яе мерці-падаць, то трэба ж было неяк ратавацца. Вось тут і прыходзіў усім на розум старадаўні спосаб. Кожная сям'я выбіралася з вёскі самастойна. Ішлі ў лес, у розныя мясціны. Там усім месца хапала. Разыходзіліся шырока, каб хвароба не магла аднавіцца, і жылі. Стараліся адзін да аднаго (сям'я да сям'і) не падыходзіць. Там ужо на Бога спадзяваліся ды на свае шчырыя маленні. Вядома ж, жыццё цяжкае было, але кожны хацеў уратаваць сваю сям'ю, таму і трывалі. Калі надта страшны паморак здараўся і многія паміралі, то на старое месца жыць не вярталіся. Баяліся дурнога знаку, які мог зноў напаткаць там. Сяліліся людзі паблізу, а то і далёка. Адыходзілі назаўсёды, бо так жудасна даўся ў памяць паморак» (УЗ. Ветк.); «Насланы паморак заўсёды з'яўляўся страшэнным выпрабаваннем для людзей, бо звальваўся на іх нечакана, як снег з летняга неба. Пакуль падумалі, што гэта звычайная хвароба, што ўсё неўзабаве вернецца, дык палова людзей памірала ці ўжо самастойна хадзіць не магла. Слухалі тады старэйшых і рабілі гэтаксама, як і іхнія продкі многа стагоддзяў назад: ішлі ў лес. Дамаўляліся, хто дзе жыць стане, ці про-

ста сабіраліся і ішлі, а там ужо глядзелі, каб забрацца ў самую глухамань, дзе нікога паблізу не будзе, дзе можна не баяцца, што нехта занясе паморак, і самі на новым месцы неяк трывалі. Карміліся чым Бог пасылаў ці тым, што паспелі з сабою прыхапіць, а то і аднымі грыбамі ды ягадамі. Нічога дзіўнага, галоўнае, каб выжыць, ацалець, каб не перапыніліся назаўсёды іхнія рады. Паморак — гэта вам не жартачкі. Даўней яны часта здараліся. Ды і на маёй памяці, асабліва падчас вайны з немцамі, некалькі разоў тыф людзей касіў. А гэта ж той самы паморак і ёсць» (УЗ. Светл.).

Нярэдка карысталіся яшчэ адным простым і надзіва старадаўнім спосабам выратавання ад насланых **паморкаў і пошасцей — абкурваннем**. Ім стараліся захаваць як людзей, так і жывёлу. Прычым даволі часта ў народзе лічылі, быццам бы чым больш смярдзець будзе абкурванне, тым больш шанцаў не прапусціць паморак. «У нас, памятаю ў трыццатыя гады, паморак моцны надарыўся. Гавораць, што яго занеслі жабракі, а некаторыя сцвярджалі, што тыя жабракі, з'яўляючыся злымі і благімі людзьмі, самі былі паморкам. Як толькі пабачылі, як рэзка сталі хварэць вяскоўцы, як сталі яны паміраць, то старыя давай маладых гнаць за ядлоўцам. Тыя цэлыя вазы ядлоўцу прывозілі і скідвалі на дарогу перад уездам і выездам з вёскі. Там распалілі вогнішчы, і кожны, хто ішоў ці ехаў у паселішча ці з яго, павінен быў у абавязковым парадку прайсці праз той густы дым. А дым той, якраз-такі, меў даволі прыемны пах і вялікую гаючую сілу. Здаравелі людзі на вачах. І так многія ўратаваліся. Дзякуючы абкурванню ядлоўцам. Калі такое пабачылі, то сталі вогнішчы раскладваць і ля кожнай сядзібы, такім чынам павялічваючы гаючую ды аздараўляючую сілу таго дыму. І ў многіх навакольных мясцінах ядлоўцам ратаваліся» (УЗ. Пн.); «Некалі, добра памятаю, як абкурвалі свае хаты ядлоўцам у нашай вёсцы. Перад самай вайной было (з немцамі. — *А. Н.*). Стаяла страшэнная спёка. Такая, што зямля, мажа, на паўметра калолася. Тады нехта і наслаў паморак на вёску нашу. За першую ж ноч дзве сям'і з хатаў не выйшлі. Сканалі. Так давай хутчэй ядловец вазіць і яго паліць. І так спякота, а тут яшчэ паўсюль вогнішчы. Не прадыхнуць, але жыць захочаш, то і не такое трываць будзеш. Цэлы тыдзень палілі. Стараліся. То дзякуючы гэтаму, многія і ўратаваліся. А так бы ўсе і павыміралі б. Ядловец валодае прыемным пахам. На гэтым дыме і вэндзяць сала ды мяса спрактыкаваныя гаспадары» (УЗ. Івац.); «У нас ведалі, што ядловец падчас паморку — найпершы сродак. Абкурвалі ім старанна ўсё. На выездзе і ўездзе ў вёску распальвалі вогнішчы і праз іх праганялі жывёлу, прымушалі ў абавязковым па-

радку праходзіць усіх людзей. Нават калі які хворы не мог рухацца самастойна, то яго праносілі ці правозілі праз ядлоўцаў дым іншыя. Дапамагала многім. Казалі, што калі паморак насылаўся або заносіўся зімою і стаялі лютыя маразы ды да іх яшчэ і дым, то ўся нячыстая вельмі хутка гінула. Калі ж стаяла гарачае надвор'е, то, наадварот, дым меў меншую сілу над паморкам. Гарачыня перашкаджала выбіваць» (УЗ. Лун.).

Ядлоўцавы дым, бясспрэчна, дапамагаў, што пераканаўча даказана ў апошні час і медыкамі. Але ж абкурвалі не толькі ядлоўцам. Паўторымся, у большасці выпадкаў, калі гаворка вялася пра жывёлу, то абкурвалі нечым такім, што давала едкі, смярдзючы дым, які, па перакананнях патрыярхальных продкаў, павінен быў забіваць паморак. У адваротным выпадку уся жывёла вельмі проста магла загінуць. Яна ж не людзі, якія разыходзіліся-хаваліся па лесе, стараліся не кантактаваць, не трымацца разам. Жывёлу ратавалі, ёю апекаваліся галоўным чынам пастухі. Менавіта на іх ляжала ўся адказнасць перад гаспадарамі за яе захаванасць. «Калі адбываўся насланы або занесены знахарамі паморак, то жывёлу найболей асцерагалі. Кожны гаспадар, як што якое, дык гнаў яе з сабою ў лес і там ужо шчыраваў, шаптаў малітвы-замовы, абкурваў яе па-ўсялякаму. Найпершым сродкам лічылі тхарыну смярдзючую. Тхара, які і пры жыцці смуродзіў, калі нехта знаходзіў здохлым ці забіваў, то яго не закопвалі, а завальвалі якім голлем і кідалі. Здараўся паморак на жывёлу, то ў вогнішча з гнілякоў кідалі пакрысе і той здыхляціны. Такі ўжо страшэнны смурод падымаўся, што каровы ці коні ледзьве вытрымлівалі, а пра людзей, то і гаманіць не даводзілася. Але на гэта асабліва і ўвагі не звярталі, бо стараліся ўратаваць жывёлу, думалі, што такі едка-невыносны пах адпалохваў усялякі паморак» (УЗ. Ст.); «У нас жывёлу, калі на яе варажбіт хваробу-пошасць насылаў, старанна абкурвалі. Калі ў вёсцы такі паморак здараўся, то жывёлу ў якое балота гнілое, на выспы выганялі, каб яна дамоў збегчы сама не магла. Там і пасвілі. Трымалі, нягледзячы на тое, што гнюс заядаў, што дажджы ішлі. Ды яшчэ і вогнішчы вакол распальвалі. Дым разлічваўся, хутчэй за ўсё, не на вылатаванне ад камароў-сляпнёў, а найбольш на вылатаванне жывёлы ад паморку. Вогнішчы раскладвалі дымныя, з сырых пянькоў, з голля зялёнага, каб паболей было дыму, для гэтага ў іх кідалі ўсемагчымую здыхляціну. Яна і так смярдзела, а ўжо калі гэтага ўсяго падкідвалі, дык утрымацца немагчыма было. За вярсту нос трэба было затульваць, бо інача не вытрымаў бы, але затое ад паморку дапамагала. Старыя людзі заўсёды так пераказвалі. Да іх так перадавалі, і яны маладзейшых навучалі таксама» (УЗ. Івац.).

Зрэдку згадвалі, што паморак можна напалохаць крыкам, пагрозамі, кляцьбою і г.д. Вось як пра гэта апавядаецца ў вусна-паэтычным творы «Пошасці і паморак».

«Даўней быў вельмі добры адзін год: харошая восень, роўная зіма, а вясна цёплая, пагодная. Уночы йдзе ціхенькі, цёплы дожджык, а ўдзень ясна свеціць сонейка ды так грэе, што, здаецца, пасадзі на полі дзіця, дык і тое вырасце. Усё расце на полі бы на дражджах. Рады людзі, што даў Бог ураджай. Прышло лета. Ніхто і не памятае такога добрага, пагоднага лета. Усё зрадзіла. Ягады хоць шуфлюй, а грыбоў у лесе да ўсялякае губы — хоць касі.

Вось ідзе адзін чалавек па лесе, бачыць, аж сядзіць на пні якаясь вельмі гожая маладзіца і трымае ў прыполе сноп жыта, ды такога буйнага, якога той чалавек ніколі не бачыў. Падышоў ён бліжэй і бачыць, аж маладзіца плача да сваімі доўгімі валасамі ясныя вочкі ўціpae. Адгарнула маладзіца валасы і адкрыла грудзі. Бачыць чалавек, аж вуж упіўся ў самую цыцку і ссе маладзіцу. Хацеў гэта чалавек забіць таго вужа, але маладзіца толькі прамовіла:

— Вялікі ўраджай, ды не будзе каму спажываць.

І знікла.

Прыйшоў чалавек у сяло і расказвае, які бачыў цуд. Спужаліся людзі. Чакаюць вялікае пошасці ці паморку. Толькі вось позна лавілі дзецюкі рыбу дай заначавалі каля ракі на грудку. Вось сядзяць яны на грудку каля агню ды апякаюць рыбу. Ноч ціхая, як у вусе, толькі рыба пляскае ў вадзе. Але вось узышоў месяц. Стала відна, хоць іголкі збірай. Бачаць яны — аж за ракою падышлі к берагу якіясь дзве вельмі страшныя бабы. Косы ў іх расплецены, твар цёмны, бы зямля, толькі вочы блішчаць. Падышлі яны к рацэ і просяць дзецюкоў, каб перавялі іх на другі бераг.

Дагадаліся дзецюкі, што гэта не бабы, а пошасць на людзей і паморак на жывёлу. Спалохаліся дзецюкі і давай кідаць у іх галавешкамі ды махаць зублёнкамі. Хацелі тыя бабы перш па кладцы перайсці цераз рэку, але, як убачылі агонь, спалохаліся і пайшлі назад. Вось і чуюць людзі, што за ракою пайшла пошасць ламаць людзей, а паморак касіць жывёлу, і давай яны дзень і ноч класці з усіх канцоў сяла агонь, каб не падпусціць начамі блізка. Вось толькі так уратавалі сваё сяло. Многа памерла людзей, многа прапала жывёлы. Толькі к зіме трохі хваробы атаймаваліся.

Вось з тае пары і давай людзі класці агонь ды рабіць куродымы, як пачуюць, што хвароба ці якая пошасць падходзіць»[45].

Усё тое ж самае, што і ў папярэдніх выпадках, за адзіным выключэннем — «носьбітаў» мору было двое — «дзве вельмі страшныя бабы»: паморак і пошасць. Акрамя гэтага, на іх уздзейнічалі крыкам. Паводле народнага, крык не надта дапамог бы. Тут трэба асноўны акцэнт рабіць на агонь (вогнішча, размахванне галавешкамі). Гэта і не дзіўна, бо ачышчальная функцыя агню была вядома нашым продкам з незапамятных часін. Менавіта праз вогнішча пераскоквалі ў поўную цудадзейных з'яў купальскую ноч. Нават продкаў сваіх славяне пэўны перыяд не хавалі ў зямлі, а аддавалі агню (спальвалі на свяшчэнным паграбальным вогнішчы). Нельга забывацца і пра шанаванне, абагаўленне і ахвярапрынашэнні агню. Зыходзячы з усяго

гэтага і можам канстатаваць наступнае — нячыстая сіла, нячысцікі, паморкі і пошасці, у што б яны ні ўвасабляліся, усё роўна баяліся агню, які для іх быў смяротным.

У беларускай вусна-паэтычнай творчасці нават захаваліся некаторыя тлумачэнні (разгадванні) сноў, якія нібыта азначалі сабою набліжэнне мору (паморкаў). Праўда, падрабязна не распавядалася, ад каго ці ад чаго гэта ўсё магло прывесці ці ўзнікнуць. Проста выкладаўся факт: «Вайна — непрыемнасць, бітва. Тое ж: мор»[46]; «Бачыць у сне буйную бойку — гэта азначае, што трэба чакаць вялікага мору людзей» (УЗ. Ст.); «Біцца будуць войскі ў тваім сне — трэба абавязкова асцерагацца, бо надыдзе вялікая хвароба для людзей» (УЗ. Ст.); «Бачыць, як войскі страляюцца ў сне — гэта страшны сон. Можа напасці нечуваны паморак» (УЗ. Лун.); «Калі б'юцца, то трэба сон разгадваць так, што паморак вялікі здарыцца і людзям трэба неадкладна ратавацца» (УЗ. Ветк.); «Калі ў сне бачыш вайну, дык у жыцці можа здарыцца паморак нечуваны раней» (УЗ. Івац.).

Таму і не дзіўна, што патрыярхальныя людзі перад тым, як заснуць (легчы спаць), шапталі засцерагальныя замовы. Яны маглі «адрасавацца» на ўсе выпадкі жыцця, але даволі часта сустракаліся і такія, якія былі накіраваны супраць нячыстай сілы, яе праяў, яе пэўных служкаў, увасобленых у людзей, жывёл, птушак і г.д. *«Лягаю спаць, дам Богу знаць. Крыжам надзенуся, злога не баюся. Янголікі-саколікі, сцеражыце маю душу і цела ад змяркання да світання. Ісус Хрыстос нада мною, чыста места — пада мною (тры разы). Крыжык на мне, крыжык ва мне (тры разы)».* Усю замову трэба шаптаць абавязкова перад самым сном тройчы, або тры па тры разы» («Замова ад нячыстай сілы», УЗ. Бых.).

Мала таго што злыя чараўнікі-варажбіты насылалі на людзей прыродныя стыхіі, паморкі і пошасці, яны актыўна ўмешваліся ў сямейнае жыццё, выраблялі і такія штукі з сямейнікамі, што валасы дыбам паўставалі, калі іх пераказвалі нібыта самыя сапраўдныя сведкі, а то і ўдзельнікі гэтых падзей-здарэнняў. Умешваліся ж яны ў самыя непадыходзячыя моманты жыцця чалавека. Напрыклад, моцны знахар мог даволі проста разладзіць любое вяселле ці зрабіць там што-небудзь такое, аб чым потым маладыя ўсё сваё астатняе жыццё будуць вельмі шкадаваць. Народныя дарадцы данеслі да нас шматлікія прыёмы, якімі варажбіты карысталіся ў такіх выпадках. У П. Шэйна чытаем наступнае: «Замаўленню гэтай замовы («Як свадзьбу расстроіць». — *А. Н.*) папярэднічаюць магічныя дзеянні з прадметамі, якім надаецца выразна сакральны сэнс: «Калі свадзьбу

іспорціць нада, знахар возьмець волас у ўдаўца, у ўдавы да ў бабы гуляшчай, а яшчэ лучынку аль гнілушку ў сухога дрэва, а яшчэ ад рубахі ад бабы бяздзетнай атарваць, і ўсе эці валасы ўвернець у тряпку, на балота снясець і скажэць: *«Шэлкі мурыны, 12 прысух, 12 нядуг! Вам паклон, вам пшанічный пірог!»* І кінець ён у балота пірог і лучынку з тряпкай і воласам коло берага, і попел паложыць на ўсю ноч. А навутра, да сонца, вынець, унясець. А как будуць у ворага свадзьбу строіць, ён падойдзець, как маладыя на крыльцо выйдуць, а ён прама ў ногі ім падбросіць і кажэць:

*Поп саслучыў, а я разлучыў,*
*Поп с хрестом, а я с хвастом,*
*Попу ўхадзіць, а нам тут жыць,*
*Как сухой рабіне лісцьеў не пускаць,*
*Так табе дзяцей не ражаць,*
*Как зімой лету не быць,*
*Так вам умесцы не жыць.*

Сапсуе ён вяселле. Адно выратаванне — на багамолле ідзі»[47].

Існуюць некаторыя іншыя тлумачэнні, як паводле злой народнай варажбы можна было разладзіць вяселле. У Т.Цяпковай чытаем: «Шукаюць гарохавы стручок з 9 гарошынамі і кладуць тайна ў воз, дзе будзе сядзець маладая, пад салому, і прыказваюць: *«Дзевяць гарошын, а дзесятая нявеста не строньце коні воза».* Пасля гэтых слоў коні з места не сайдуць і парвуць збрую, і калёсы зламаюць, аглоблі, і з двара не выедуць, пакуль не найдуць гарошыну»[48]. Намі зафіксаваны такія варыянты. «Калі вяселле пачыналася, то гаспадары стараліся ні з кім не сварыцца, не думаць ні пра каго-небудзь што-небудзь злое, каб потым не давялося за ўсё гэта іхнім дзецям адплочваць. Спрактыкаванаму знахару нічога не каштуе сапсаваць вяселле, зрабіць з яго не радасць, а гора. Стануць пра такую падзею потым згадваць, як пра нешта злоснае, чорнае. Знойдзе той знахар гнілы стручок гароху з 11 гарошынамі. Акуратна дастане іх, потым павырывае пасмачкі сваіх валасоў, валасоў сівой кабылы нарве. Усё гэта пераблытае старанна, ухутае ў іх гарошыны — і чартоўская прынада гатова. Цяпер ён дачакаецца зручнага выпадку. Падыдзе да хаціны, дзе адбываецца вяселле, і стане-стоіцца непрыкметна. Заспяваюць-загалосяць жанчыны і маладзіцы, з хаты нявесты ў мужаў двор выправаджаючы, а ў гэты момант знахар і кіне ўсё заранёў нарыхтаванае коням пад ногі. Усё! Як іх паганяць не будуць, як біць не стануць, як не будуць спрабаваць павесці за сабою наперад, яны і кро-

ку не зробяць. Захрапуць-замыляцца, чым болей біць будуць ці паганяць, то ад гэтага жывёліны бедныя толькі шалець стануць. А ад шалу такога страшнейшая яшчэ небяспека надарыцца можа — панясуцца яны куды вочы глядзяць, усё на сваім шляху змятаючы. Добра, калі на вяселлі ёсць спрактыкаваны чалавек. Ён адразу здагадаецца, што там да чаго. Галоўнае, каб яго паслухаліся, бо далёка не так проста п'янаватых людзей да парадку прывесці. Тады трэба шукаць тое чартоўскае прычындалле, якое знахар кінуў пад ногі коням і якое стала непераадольнай перашкодай для жывёлін. Калі пашанцуе і знойдуць, дык таксама трэба памятаць, што знайсці неабходна не меней за тры гарошыны. Адна ці дзве ніякай карысці не дадуць. Знайшоўшы, распальваюць невялічкі агеньчык. Чаму невялічкі, бо ж потым давядзецца збіраць попел з гарошын. Попел той трэба паліць свянцонай вадою. Як так зробіце, то адразу недзе паблізу раздасца дзікі, адчайны крык. Гэта злы знахар зойдзецца ад адчаю, што па яго-наму не атрымалася. Калі ж гарошын не знойдуць, то трэба маладым дурніцы не чыніць, а збірацца і крочыць пешкі са сваёй радзінай у чужы двор. Коні няхай сабе стаяць на месцы. На другі дзень знахар ужо не будзе мець над імі ўлады. А раз папруцца сілаю ды гвалтам, то і далейшае сумеснае жыццё будзе няважным» (УЗ. Івац.).

«Каб вяселле на благую сцежку пусціць, асабліва нічога і рабіць не трэба. Дастаткова ведаць, што за чым і як здзяйсняць, а ўжо злая сіла даробіць. Казаў некалі наш стары сусед. Ці не быў ён з нячыстым звязаны, бо ўжо ўсё так падрабязна тлумачыў. Трэба знайсці стручок, дзе было б 9 гарошын цэлых, а 10-я недароджаная. Такі стручок мае чартоўскую сілу. Гарошыны выбраць, дадаць да іх сухі асінавы сучок (перацёрты), высушаную і старанна раструшчаную жабу, конскія валасы. Усё перамяшаць і падсушыць. Потым набраць у кішэню і ісці да таго вяселля. Там стаіцца і стаяць да таго часу, пакуль малады не стане забіраць маладую да свае радзіны. Калі пачуе, што ў хаце заплачуць-загалосяць, абводзячы маладую вакол стала, каб потым перадаць яе назаўсёды мужу, то ў гэты самы момант знахар кідае гарошыны пад ногі коням. Кідае не ў адно месца, а рассейвае, каб коні болей шалелі і, калі што якое, то сабраць іх усе потым не змаглі б. Пасядзе дружына ў вазы ці ў сані, а коні на дыбы кідаюцца, шалеюць, але не ўперад, а наадварот, узад едуць. Іх там нячыстая сіла чакае, не дае ім ходу. Людзі хвалююцца, жанчыны плачуць, гледзячы на тое, што адбываецца, і па гэтаму ўсяму прадказваючы благое сямейнае жыццё маладой пары. Раней ва ўсё дурное верылі, баяліся нешта парушыць. Добра, як на вяселлі апынаўся хто-небудзь з

людзей спрактыкаваных, ведаючых, чым можна абараніцца ці засцерагчыся. Тады ён загадваў усім неадкладна шукаць тыя заклятыя гарошыны. Калі знаходзілі, не менш чым тры, то іх трэба было спаліць у вогнішчы. Стаяць і чакаюць, каб тыя гарошыны дашчэнту згарэлі. Патушаць усё і кінуць на той попел трошкі зямлі з вадою, каб попел расплыўся. Калі так здарыцца, то гэта будзе азначаць, што нячыстая сіла разышлася і можна смела ехаць да маладога. Цяпер злы знахар не здолее ні ў чым ім перашкодзіць. Болей таго, ён здагадаецца, што нехта ведае пра ягонае чараўніцтва, і пастараецца сысці з вачэй, каб яму самому нішто не пашкодзіла» (УЗ. Ст.);

«Калі вяселле ў каго-небудзь пачыналася, то абавязкова асцерагаліся нячыстых вачэй, дурной замовы і г.д. Той варажбіт, як захоча ім нашкодзіць, дык дастане дурное зелле і падкіне. А яму гэта было зрабіць надта проста. Ён браў закляты ім жа гарох і падкідваў коням пад ногі. Гарошыны, хітры, падбіраў з рэдкага стручка. Аказваецца, ў ім трэба каб было не болей за 11 гарошын. І яшчэ, каб адзінаццатая гарошына была недароднай (няпоўнай). Тыя гарошыны вылушчыць, змяшае з пасмамі сваіх валасоў і з перацёртай засушанай жабай. Як кіне такое зелле коням пад капыты, то тых хоць забівай, а з месца ніколі не зрушаць. Адно храпуць, нібы ашалелыя. Трэба тады шукаць пад конскімі капытамі тыя гарошыны. Зрабіць гэта надта цяжка. Калі ж удаецца адшукаць болей за тры, то іх неабходна перадаць самаму старэйшаму чалавеку на вяселлі, каб той ужо ў сваю чаргу зрабіў наступнае — кінуў заклятыя і замоўленыя гарошыны ў агонь. Як толькі ўкіне, то можна ехаць смела далей, але адразу такое рабіць не варта, бо раптоўна ўздымаецца бура, быццам бы з нічога. Становіцца чуваць нейкія дзіўныя галасы. Трэба крыху перачакаць, бо гэта шалее-дурэе злы знахар, штукарства якога вывелі на чыстую ваду» (УЗ. Лун.).

Таму і не здзіўляе, што яшчэ да вяселля (за некалькі дзён), ці пад час яго, стараліся «замацаваць вяселле», г.зн. заранёў засцерагчы ад уздзеяння ўсемагчымых нячысцікаў ці чорных варажбітоў. Калі ў нейкай канкрэтнай сям'і не ведалі такіх моцных замоў, то абавязкова звярталіся за дапамогай да добрага знахара. Той ні ў якім выпадку не адмаўляўся аказаць паслугі, а, наадварот, быў вельмі ўдзячны, што яму аказалі такі гонар. Лічылася, што дапамога ў такі момант значна прыдасць яму даўгалецце, здароўе, а найперш павагі сярод вяскоўцаў. Пра такое цікавае супрацьдзеянне «ліхадзеям», са здзяйсненнем магічных рытуалаў і вымаўленнем замовы, напісана ў П. Шэйна. «Замова, як свадзьбу замацаваць, каб злыя людзі не рас-

строілі». Замаўленне прадугледжвае набор магічных прадметаў і дзеянняў. Вось як тлумачыла інфарматар: «На свадзьбу ліхадзеі ўсегда зарацца, і ены ўсякую свадзьбу разведуць, ну, мяне і просяць: «Подзь, бабынька, на памогу!». А памагатыя заўсегда ў меня есць. Кагда граза бываець і ў дрэва б'ець, то ў тым дрэве стрэлка бываець ад гразы, і цераз тры года тая стрэлка выходзіць, — яна такая маханькая, — как во камыш какой, — на нада прымечаць: какое дрэва гразой нябеснай пабіта, у таво дрэва стрэлка цераз тры года ўпадзець, — во так на траўцы ляжыць. А ліхадзеі знаюць, яны з той стрэлкай дзел панарабляюць, і я знаю, ўсё хадзіла, нашла. Яна ў мяне ёсць, нікому не аддам, а ёсць у мяне другое дрэва на прымеце, яму во трэці год пайшоў: я ўсё гляжу, как пайду, табе дам. Вось калі якую свадзьбу закрапіць нада, я пайду ў тую хату, а стрэлку за пазухай дзяржу. Як гэта жаніх ці маладая адвернецца, а я ў руцэ стрэлку дзяржу, да іх і абвяду — яны і не чуюць, а цяпер іх і не развядзеш. Ды потым ваду нашапчу, стрэлку ў яе палажу, яна паляжыць, я выйму, яны ваду вып'юць, а я загавар скажу і крэпка будзець. *«Іван — вялікі воін! Не баішся ты ні ліхадзея, ні супастата, памагі рабу Васіллю і рабе Матроне, штобы яны павінчаліся не на муку, не на гора, не ў ліхі час, а ў добры час, на радасць, на вяселле і штобы не бяліся яны ні калдуноў, ні калдуніц, ні ерэцікоў, ні ерэціц, і сажгі калдуноў каменнай стралой, вогнем нябесным, штобы яны не брасаліся, не кідаліся, на свадзебку не ўзіраліся. Ты, святы Лука-Дзем'ян, атлучы іх ад света белага, а раба Васіля, рабу Матрону салучы ў вадно места. Амінь»*[49].

Нам самім не ўдалося зафіксаваць «замацоўваючую» вяселле замову, хоць магічныя дзеянні з «гразавой стрэлкай», згаданыя ў запісах П. Шэйна, сустракаюцца на Брэсцкім Палессі і сёння. Праўда, можна смела сцвярджаць, што яны носяць больш перажытачна-выжываючы характар, з якога немагчыма што-небудзь зразумець і, тым болей, потым прымяніць на практыцы. «Ад зглазу вяселля надта добра дапамагае гразавое дрэва-дуб. Вось калі загрыміць першы веснавы гром, то абавязкова трэба чакаць, каб ён ударыў у дрэва. У дуба, значыцца. Калі ўдарыць, дык адразу да яго бегчы нельга, а трэба ісці дні праз тры (сама меней, бо калі раней, то дрэва тое яшчэ будзе мёртвым ад удару) і адламаць жывы кавалак. Не кару, не, а драўніну. Той дубняк высушыць у печы і парэзаць на дробныя трэсачкі. Гэта для таго, каб потым мала хто заўважыў, чым жа ты станеш ратаваць вяселле ад злых чараў. Ведаеш дакладна дзень вяселля, то вазьмі тыя трэсачкі, пашапчы над імі, далей пакладзі ў гляк з вадою, каб яны настойваліся ўсю ноч. З раніцы ваду злі і занясі на

4 Зак. 1962

вяселле. Дацъ трэба маладым таго настою выпіць па тры разы. Як яны піць стануць, дык трэба пра сябе малітву шаптаць. Зробіш усё так — і жыць стануць дружна і шчасліва, ніякае да іх ліха чапляцца не будзе. Так мяне мая бабуля вучыла. Так я ўсім сваім дочкам з зяцямі на вяселлях рабіла. Жывуць усе добра, у адну душу, не сварацца, не б'юцца, не тое што іншыя» (УЗ. Івац.).

«Раней жа людзі вопытныя былі. Усё наперад ведалі. Стараліся любым чынам засцерагацца, каб якога ліха не здарылася. Таму кожная сям'я збірала сама сабе лекі, вывучвала ўсёмагчымыя шэпты на розныя здарэнні ў жыцці. Так, бацька, у якога падрастала дачка, баяўся, што ў самы адказны момант, а менавіта ў дзень вяселля, які злыдзень можа падстроіць штуку. Каб гэтага не здарылася, то ён загадзя наглядваў для сябе дрэва, пераважна цвёрдай пароды: дуб, граб, ясень — у якое ўдарыла маланка. Ад такога дрэва, на месцы паражэння, адломваў некалькі добрых кавалкаў. Адсякаць нельга было, толькі адломваць, бо жалеза сапсуе тыя ашчэпкі. Прынесці іх дамоў і добра высушыць. Высушыць і прыхаваць да патрэбнага выпадку. Калі ж надыдзе дзень вяселля ў роднай дочкі ці сына, дык даць ім (абодвум) выпіць таго дубовага настою. Глядзець, каб тры разы глынулі, не меней. Гэта для большасці сілы. Як вып'юць маладыя, дык ім ніякія нячыстыя сілы будуць не страшныя. Ніхто не здолее новай сям'і дурного пажадаць ці падрабіць якое зладзейства» (УЗ. Ганц.).

Засцерагаліся людзі ад праяў нячысцікаў, ад таго, каб яны не збілі вясельны поезд з правільнай дарогі, не завялі ў якое гнілое балота (бо і такое здаралася!) або ў глухі-глухі лес, або проста не кружылі іх на адным месцы да самае раніцы. Каму ж ахвота, каб вяселле ў хаўтуры перарасло ці каб потым вяскоўцы смяяліся, што дружына напілася ды блудзіла невядома дзе, прымушаючы іншых чакаць. Каб такое не здарылася, гаспадар хаты, які аддаваў сваю дачку замуж, у той самым момант, калі яе збіраліся везці ў хату жаніха і сядалі ўсе на вазы ці на сані, браў стрэльбу і страляў у паветра, «каб налякаць нячыстую сілу».

«Як мяне бацька замуж аддаваў, то страляў са стрэльбы. Пасела жаніхова дружына ў вазкі. Коні б'юць капытамі, фыркаюць, не церпіцца ім, але не зрушваюцца з месца. Усе нечага чакалі. Маўчаць старэйшыя, а малодшыя — тым толькі пажартаваць-падурэць з дзяўчатамі ці, наадварот, з хлопцамі. І тут як шахне, то коні ажно ўсхадзіліся. Тут ужо маладыя недаўменна прыціхлі. Старыя задаволена пачалі хітаць галовамі і загулі паміж сабою: «Правільна Сцяпан зрабіў. Правільна, бо чэрці прычапіцца могуць па дарозе. Падурэць

яны любяць і саб'юць усіх з вернага шляху. А так нячыстая сіла, наляканая ды спалоханая, ляціць недзе. Правільна зрабіў, не забыўся!» Тады ўсім стала зразумела, што да чаго. У нас, ужо на маёй памяці, здарыўся быў такі выпадак, калі вяселле ўсю ноч у чыстым полі ездзіла. Там і чалавек адзін замёрз насмерць. Іх нячыстая сіла круціла, не здагадаліся выстраліць. Вось, у выніку, і атрымалася» (УЗ. Жытк.); «Добра помню, што раней, калі маладая ехала ў радню жаніха, то яе бацька ў абавязковым парадку страляў з ружжа. Для таго ўсё гэта рабілася, каб адвадзіць нячыстую сілу, якая можа ўвязацца за вясельнікамі па дарозе. Калі ж не было ў дзяўчыны бацькі, то запрашалі стрэліць у паветра хрышчонага бацьку, аднак абрад гэты абавязкова захоўвалі, бо ўсе баяліся, што чэрці то дарогу перакрыюць, то з яе саб'юць, то завядуць немаведама куды, адкуль могуць і жывымі не вярнуцца. Даўней гаварылі, быццам бы і на самой справе вяселле адно заблукала і, збіўшыся з саннага шляху, уляцела ў гнілое балота. Сцюжа тады стаяла нечуваная, мароз траскучы, за два-тры крокі можна было запроста заблукаць. То некаторыя рэчы вясельнікаў знайшлі толькі вясною, а саміх іх ці ваўкі паразрывалі, ці ў балоце патапіліся. З-за недагляду старэйшых усё адбылося. Надта самаўпэўнена сябе павялі. Нячыстую не адагналі, вось яна ім і далася ў знакі ды ажно да самай магілы. Каб усё зрабілі, дык і жывымі засталіся б» (УЗ. Пн.).

У дадзеных выпадках стрэл са стрэльбы павінен быў асацыіраваць сабою смяротны для любога нячысціка ўдар маланкі. Але так як даўней вяселлі праводзіліся ў час, калі гром ужо проста не мог грымець (позняя восень — зіма), а маланка джыгаць сваім паражальным бізуном, то з вынаходжаннем агністрэльнай зброі яе даволі ўдала сталі прымяняць і ў сямейна-бытавой абраднасці.

Не заўсёды спадзяваліся толькі на стрэл з ружжа, на выпіванне дубовага адвару, але і на абавязковае вымаўленне замоў, якія можна было б аднесці да агульнаўжывальных, у сэнсе засцеражэння ад усяго злога, чараўнічага, што магло б чакаць чалавека (людзей) як на самім вяселлі, так і ў дарозе, калі ўжо вясельны поезд імчаў маладых у род жаніха. Такі вусна-паэтычны твор пачыналі вымаўляць задоўга да мяркуемага мерапрыемства ці да адпраўлення ў дарогу. Таму ён станавіўся своеасаблівым слоўным заклёнам-абярэгам. *«Ой, ворагі! Не пераходзьце дарогі. Няхай пяройдзе Гасподзь Бог. Хай пяройдзе татка мой, уся мая радзіна. Каб была для мяне жыццёвая дарога шчаслівая» (УЗ. Лельч.)*; «**Ад ворагаў**»: *«Госпаду Богу памалюся, Прачыстай Маці святой пакланюся, святому айцу Мікалаю — вя-*

*лікаму цудатворцу. Першым разам, першым часам, арлом еду, вужом паганяю, гадзюкай падперажуся, ад усякага злога духа на ўсё сваё жыццё адвяжуся. Выйду я ў двор, у двары — вада, на вадзе той купіна, на купіне гадзіна. Я тую гадзіну пасяку-парублю, усім сваім непрыяцелям-ворагам на будучае жыццё ў сэрцы і ў вачах клевяту-злыбяду замаўляю.* Потым паўтарыць яшчэ вось гэтыя словы тройчы: «*Адкасніцеся, адвараціцеся ворагі ад мяне!*» Пасля гэтага плюнуць тры разы і сказаць дзевяць разоў «Госпадзі дапамажы!» (УЗ. Нар.); «*На ваўка вярхом саджуся, гадзюкаю-змяюкаю падперажуся і нікога я не баюся. Праваю нагою ступаю, усім злыдням раты закрываю. Вы, злодзеі-ворагі, вы мае, не глядзіце на мяне змяінымі вачыма, а глядзіце, як Божая Маці агараджае на ўсё жыццё маладых (Ганну і Пятра, напрыклад) ад усяго нячыстага і нядобрага, ад чортавага і вядзьмоўскага. Праз парог ступаю, ваша хата, а мой верх, ваша слова, а мае правы. Сьвяты Георгій, дапамажы мне пахаваць ворагаў маіх пад нагамі маімі і дапамажы назаўсёды міласцю сваею*» (УЗ. Лельч.); «*Сонцам асвяшчаюся, месяцем агараджаюся, у сваёй добрай, у будучай жызні ўбяждаюся. З Богам ста ворагаў не баюся, ворагаў сто, а Бог адзін. Крыжам я хрышчуся, крыжам і малюся, крыжам божым ангелаў заклікаю, а ворагаў адганяю. Ідзіце, ворагі, ад маёй хаты, з чатырох вуглоў. Прачыстая Божая Маці стаяла, Ісуса Хрыста ўзнаграждала, мёртвых ворагаў заклінала. Амінь.* Вымаўляць у 12 гадзін дня, потым у 12 гадзін ночы» (УЗ. Глыб).

Але як не засцерагаліся ад нячысцікаў і нячыстай сілы, ад знахароў і варажбітоў падчас вяселляў, паводле народных перакананняў, здараліся, і даволі часта, і трагічныя выпадкі. Самыя страшныя з іх — пераўтварэнне цэлых вясельных паяздоў у ваўкалакаў, а дакладней — у ваўкалачыя гайні. Зазірнем крыху ў гісторыю гэтага пытання, тым болей што тут роля злых варажбітоў падаецца ва ўсёй паўнаце.

Яшчэ «бацька сусветнай гісторыі» Герадот запэўніваў, што неўры, якія быццам бы жылі паблізу ракі Піны і потым рассяліліся сярод славянскага племені будзінаў (першабытных жыхароў даліны Прыпяці), усе чыста былі чараўнікамі і кожны з іх хоць адзін раз у год пэратвараўся на некалькі дзён у ваўка. Далей сцвярджалася, што існаваў звычай насіць кажух поўсцю наверх і што менавіта гэта дало падставы для меркавання пра пэратварэнне чалавека ў ваўка. Ацэньваючы Герадота, можна схіліцца да таго, што ён на ўласныя вочы бачыў, як мясцовыя жыхары пераапраналіся (ці імкнуліся зрабіць гэта) у нейкіх пэўных звяроў падчас язычніцкіх святаў, што былі

цесна звязаны з каляндарна-абрадавымі звычаямі, з земляробчымі цыкламі тагачасных жыхароў.

Англійскі даследчык Э. Тайлар пісаў адносна гэтага: «У часы Аўгусціна варажбіты пераконвалі сваіх кліентаў, што пад уздзеяннем вядомых ім слоў яны могуць ператварыць іх у ваўкоў, і ў параўнаўча яшчэ недалёкім для нас часе згадвалася выкарыстанне для гэтай мэты мазі. Старажытнаскандынаўскія сагі згадваюць пра ваўкоў-пярэваратняў і аб «мяняючых свой воблік», якія лютавалі страшэнна асабліва падчас найбольшага ўплыву нячыстай сілы. Датчане бачылі пярэваратня ў чалавеку, у якога сыходзіліся бровы — гэта надавала яму падабенства з матыльком — адвечным вобразам душы, якая гатова паляцець і ўвайсці ў іншае цела. У апошні год вайны паміж шведамі і рускімі жыхары Кальмара сцвярджалі, што шматлікія ваўкі, якія наведвалі гэтую мясцовасць, былі не што іншае, як пераўвасобленыя шведскія палоннікі. Ад легенды Герадота пра неўраў мы можам прасачыць гэтую ідэю на славянскай глебе, дзе гаварылася пра лівонскіх варажбітоў, якія, купаючыся ў рацэ, на 12 дзён ператвараліся ў ваўкоў. У славян было шырока распаўсюджана павер'е, што ваўкі, якія ў лютыя зімы нападаюць на людзей, — гэта не хто іншы, як «вілкалакі» — людзі, якіх пераўвасобілі ў ваўкоў пад уздзеяннем чараўніцтва. У Германіі, асабліва на Поўначы, да гэтага часу не зніклі апавяданні пра воўчыя паясы, лічаць, што ў снежні не трэба размаўляць пра ваўкоў, называць іх па імёнах, бо ў адваротным выпадку могуць разарваць пярэваратні. Англійскае слова «вервольф» адлюстроўвае старажытнае павер'е гэтай краіны, і калі на працягу стагоддзяў яно іграла нязначную ролю ў англійскіх народных паданнях, то гэта не трэба прыпісваць недахопу павер'яў, а хутчэй за ўсё — недахопу ваўкоў»[50].

Меў рацыю Ф. Буслаеў, калі сцвярджаў, што «паданні класічных народаў пра сірэнаў, кентаўраў, фаўнаў былі змешаны з нацыянальнымі вераваннямі ў пярэваратняў-ваўкоў, ці ваўкалакаў... Такім чынам, у гэтай невыразнай вобласці сярэдневяковых вераванняў народнае непрыкметна пераходзіла ў запазычанае звонку і запазычанае, гэткае ж прыгожае і незвычайнае, лёгка прыпадабнялася народнаму, туземнаму»[51]. Трэба адзначыць наступнае. Патрыярхальныя людзі на працягу некалькіх стагоддзяў, а пасля і тысячагоддзяў, вельмі часта «прыкрываліся» воўчай шкурай, як у прамым, так і ў пераносным сэнсе слова, у пошуках сілы, вынослівасці, храбрасці, нястамляльнасці, а найболей, мабыць, беспакаранасці. Толькі гэтае празмернае памкненне да таго, каб дзейнічаць беспакарана, прывя-

ло да зусім іншага выніку — лікантрапіі — гэта стан чалавечай душы, знаходзячыся ў якім чалавек адчувае сябе сапраўдным ваўком і становіцца з гэтай нагоды сацыяльна небяспечным, здольным на любое гвалтоўнае дзеянне ці на забойства.

Вяліся ў гэтым накірунку і тэалагічныя спрэчкі, якія завяршыліся вынікам, што д'ябал не ператварае чалавека ў ваўка, а толькі ахутвае яго воблакам і прымушае іншых бачыць у ім звера. Нараджаецца пярэварацень ад нармальнай жанчыны, якая, праўда, грашыла з ... чортам. Ці з пярэваратнем. Толькі яна зацяжарыла, і ўжо нічога нельга выправіць — дзіця належыць цёмным сілам. Больш звычайны выпадак з'яўлення на свет пярэваратня — калі ў чалавека ўвайшоў д'ябал і кіруе ягонай душой. У абодвух выпадках ахвяра ніякай сілай волі не можа справіцца з ракавой метамарфозай. Можна таксама заразіцца лікантрапіяй падчас кантакту з пярэваратнем — праз парэз скуры, калі туды трапляе сліна чалавеказвера, ці ад укусу. У некаторых усходнееўрапейскіх паданнях на пярэваратня няма ніякай управы — нават крыжам нельга запалохаць ці адвадзіць.

Асаблівыя выпадкі пярэваратніцтва — калі зло само шукае выйсце з чалавека і ён сам імкнецца стаць страшыдлам. Падчас гульбішчаў ведзьмаў такія людзі на перакрыжаваннях дарог ці на ўскрайках лесу пакідаюць заблытаныя каўтуны (валасы, кавалачкі скуры, кропелькі крыві). Д'ябал старанна збірае ўсе гэтыя паднашэнні і адорвае нягоднікаў асаблівым уціраннем, якое складаецца з частак жабы, змяі, вожыка, лісіцы і, канешне ж, ваўка. У поўню той, каму ўцерлі гэтую мазь, становіцца пярэваратнем. У быту яго можна пазнаць па запаўшых вачах, якія свецяцца ў цемры, па шалудзівых нагах, па поўсці на далонях, па тым, што ўказальныя пальцы ў іх даўжэй за сярэднія, а пры маладзіку ў іх на сцягне выступае выразны таямнічы знак. Таксама прыкметай ваўкалака, як і героя-ваўка, паводле паданняў усходніх славян, з'яўляецца прыкметная ад самага нараджэння «воўчая поўсць».

Вядомы даследчык беларускай этнаграфіі і фальклору П. Шпілеўскі прысвяціў тэме пярэваратняў у нашай міфалогіі асобную працу, якая так і называлася «Исследование о вовколаках». Вельмі цікава ён разважае пра паходжанне гэтага вобраза не толькі ў беларускай народнай творчасці, але і ўвогуле ва ўсёй славянскай міфалогіі. «Ваўкалака (ці ваўкалека), — пісаў вучоны, — пярэварацень, г.зн. чалавек, якога ператварыў хто-небудзь ці ператварыўся сам па сабе, па ўласнаму жаданню, у ваўка»[52].

«На Украіне існуюць паданні пра ваўкалакаў — аднавокіх і нават

сінявокіх лахматых пярэваратняў. Адсюль і сама назва слова: ваўкалака, ваўкалека, влъколекъ, вікалік — будзе азначаць: воўк-прадказальнік, чараўнік, які мае сілу і здольнасць зачараваць, ператварыць кагосьці ў ваўка пры дапамозе якога-небудзь зелля. Тут значна звужаецца здольнасць якраз-такі ўсемагутных напаўлюдзей-напаўваўкалакаў»[53].

В. Іваноў падкрэслівае, што «гэтае словазлучэнне («воўчая поўсць». — *А. Н.*) дазваляе растлумачыць народную этымалогію назвы. Але найбольш старажытная назва гэтай формы, відаць, складалася са злучэння назваў ваўка і мядзведзя (пруск. *tlok* — мядзведзь, літоўск. *lohus*). Другой старажытнай назвай ваўкалака (так у аўтара. — *А. Н.*) у славянскай мове было слова, створанае ад дзеяслова *vedati* — знать: укр. віщун (вовкун), воўк-пярэварацень. Агульнаславянскім з'яўляецца ўяўленне пра тое, што ваўкалак з'ядае месяц ці сонца пры зацменні (вълкадлаци луну изъедоша или солнце), у сербскім рукапісу XIII стагоддзя»[54].

Назва пярэваратня ў розных народаў гучыць па-рознаму. Гэта і не здзіўляе. Але нават у роднасных славянскіх мовах яны абазначаюцца рознымі словамі. Напрыклад, сербахарвацкае вукаўлак, ванкадлак, славенскае волкодлак, балгарскае върколек, върколак, старaславянскае влъкадлакъ, вурколакъ, польскае вілкодлек, чэшскае вікадлак і г.д. І ў паасобна ўзятай беларускай міфалогіі пярэварацень мае некалькі назваў — ваўкалак, ваўкалака, ваўкулак, ваўкадлак, ваўкадліна, ваўкадлышча, ваўкадліца.

Станавіліся ваўкалакамі у пераважнай большасці прымусова, ці, дакладней, пад уздзеяннем нейкіх звышнатуральных сіл, якія вельмі моцна ўздзейнічалі на патрыярхальнага чалавека. П. Шпілеўскі адзначаў: «Пад уздзеяннем нячыстай сілы... чалавек можа быць ператвораны ў разнастайныя прадметы — адухоўленыя і неадухоўленыя»[55]. Перакінуцца ў пярэваратня можна было і пры іншых абставінах. «Цераз нядзелю паехаў я з кумам на млін. Пабулі на мліне, едам назад. І сталі мы коней папасуваць. І мне стала так на сэрцы тошна, так нудна, і захацелася мне вот небесперамення чараз хамут пралезці. Як я пралез, так і стаў ваўком і пабег»[56]. Усё той жа П. Шпілеўскі дадаваў: «Каб ператварыцца ў адвольную жывёліну, чалавек уторквае ў глухім месцы лесу, аддаленай пусткі дванаццаць аднолькавых нажоў у зямлю, вастрыём угору, і тройчы куляецца праз іх, імкнучыся не скрануць нажоў з месца. Пасля першага кулянення чалавек траціць дакладныя рысы свайго твару; пасля другога — застаецца бясформеннай жывой істотай, пасля трэцяга — набывае поўны выгляд жывёліны, у якую пажадаў ператварыцца»[57].

У гэтага ж даследчыка ёсць зафіксаванае меркаванне адносна таго, як можна пераўвасобіцца ў жывёліну, якая валодае сілай ці кемлівасцю ў значна меншай ступені, чым воўк, напрыклад, у лісіцу або ў птушак: сароку, варону. Але ў некаторых выпадках і ў ваўка тут жа пераўвасабляліся пры тых жа самых умовах, проста мянялася колькасць уторкнутых нажоў, праз якія павінен быў перакульвацца будучы ваўкалак. «Для ператварэння ў ваўка, лісу, тхара ці ласку дастаткова сямі нажоў, праз якія адбываецца тое ж трохразовае куляннe. Але каб ператварыцца ў дробную птушку, у паўзуна ці кухурку, можна абысціся і без нажоў, толькі з дапамогаю асінавага пня, які калі ссякуць дрэва, не хрысцяць: чалавек хапаецца за верхні край пня і імкліва куляецца праз яго — на другім баку ён адразу робіцца жаданай жывёлінай»[58].

На думку старадаўніх беларусаў, існавала два віды ваўкалакаў: ваўкалакі-чараўнікі і няшчасныя ахвяры, ператвораныя ў ваўкоў. Першых нашы продкі надта ж ужо баяліся, а другіх, наадварот, шкадавалі. Ваўкалакі-чараўнікі — гэта самыя страшныя з пярэваратняў. Паводле народных перакананняў, у іх засвойваюцца злыя і скваплівыя людзі, якія пастаянна каму-небудзь зайздросцілі і з-за гэтага не мелі спакою. Стаць ваўкалакамі — гэта іхняе свядомае памкненне, адзінае на ўсё жыццё, бо ў воўчай шкуры можна беспакаранна рабіць зло людзям, вымяшчаць на іх уласную помсту і незадавальненне. Гэта з аднаго боку, а з другога — ніхто цябе не паспее заўважыць, тым болей злавіць, каб звесці канцы. Такое можа здарыцца хіба што толькі выпадкова. Пераўвасабляючыся ў ваўкоў, такія людзі-чараўнікі імкнуліся засвоіць звярыныя звычкі, іхнюю драпежнасць і крывважэрнасць, каб быць такімі ж лютымі і раз'юшанымі, як і сапраўдныя звяры. Болей таго, лясныя драпежнікі часцей за ўсё нападалі на хатніх жывёл і толькі ў рэдкіх выпадках іхнімі ахвярамі станавіліся людзі. Тут жа ўсё было наадварот, ваўкалакі-чараўнікі, засвоіўшы пажаданыя ім рысы ды ўласцівасці ваўкоў, яшчэ і выдатна ведалі паводзіны людзей, іхнія слабыя і моцныя бакі. Таму падпільноўвалі толькі выключна вясковых жыхароў, а сярод іх — жанчын і дзяцей, бо з імі можна было расправіцца без асаблівых перашкод і цяжкасцей. Нават ужо калі ахвяра была нежывая, то ваўкалакі не проста елі мяса, а рабілі гэта надзвычай жорстка, бязлітасна. Напрыклад, з дзіцяці ці жанчыны дашчэнту выпівалі кроў, высмоктвалі мозг, а само цела пакідалі на месцы злачынства, тым самым нібы сцвярджаючы астатнім вяскоўцам, што нічога не баяцца і будуць вырабляць гэтакія штукарствы і надалей.

У некаторых легендах і паданнях, павер'ях і былічках тлумачыцца, што ваўкалакамі чараўнікі станавіліся не толькі для помсты, але і для таго, каб узбагаціцца, перакінуўшыся ў воўчую шкуру. Існавала нават агульнавядомае павер'е, паводле якога вынікала, што чараўнік-чалавек мог вельмі лёгка зрабіцца ваўкалакам, так як ён ужо знаходзіўся ў непасрэднай сувязі з нячыстай сілай, што гэтую сувязь заставалася толькі замацаваць. Рабілася гэта наступным чынам. Такі будучы пярэварацень распісваўся ўласнай крывёй на паперы, якую падсунулі яму пасланцы нячысцікаў.

Адзначалася нават, куды ваўкалакі-пярэваратні зносілі здабытыя каштоўнасці. Падкрэслівалася таксама, што пярэварацень-чараўнік ужо не толькі адшукваў скарбы, але і нападаў дзеля гэтага на багатых падарожных, гандляроў і г.д. Тут ён мог распраўляцца ў адзіночку з цэлым абозам. За сабою звычайна не пакідаў слядоў ці, калі дзейнічаў, то рабіў усё так імгненна, што ніхто не паспяваў яго заўважыць. Характарызуючы ваўкалакаў гэтакага плану, інфарматары паведамлялі пра ягоны вялізны рост, густую поўсць і нечуваную сілу.

Часта згадвалі таксама, што ваўкалакі-чараўнікі не толькі ўзбагачаліся і дапамагалі рабіць гэта ўсялякім нячысцікам, але і значна маглі ўплываць на гаспадарчы працэс: не было ўраджаю, здараліся засухі і лютыя маразы, усялякія пошасці і нечаканыя пажары. У гэтым можна бачыць і тое, што патрыярхальныя продкі не заўсёды маглі правільна растлумачыць з'явы прыроды, сілы стыхіі, якія даволі часта турбавалі іхняе жыццё, і таму імкнуліся знайсці вінаватых у тым, што нарабіла стыхія або лютыя звяры, сярод людзей са свайго бліжэйшага асяроддзя.

Пра ваўкалакаў — няшчасных ахвяр — у фальклоры захавалася зусім іншая, адваротная памяць. Іх, у пераважнай большасці вуснапаэтычных твораў, шкадавалі, бо яны ж пераўвасобіліся ў воўчую шкуру не па ўласнаму жаданню. Яны да ўсяго гэтага ўвогуле не імкнуліся. Іх заклялі злыя чараўнікі, яны ўхапілі нейкія заклятыя прадметы, ці, ведаючы, што гэтак рабіць нельга, зрабілі нешта (пераступілі, пераскочылі, пералезлі) і г.д. Нездарма П. Шпілеўскі пісаў: «Зусім інакш глядзяць у Беларусі на ваўкалакаў другога віду, г.зн. на ахвяр знахарскіх ператварэнняў... Кажуць, што гэтыя ваўкалакі зусім ручныя, як хатнія жывёлы, — выюць вельмі жаласна ці то па-воўчы, ці то па-сабачы, а часта глуха стогнуць, як цяжка хворыя людзі, таму што, нягледзячы на ператварэнне ў ваўкоў, яны не трацяць чалавечых пачуццяў і нават, у некаторай ступені, разумнай свядомасці. З выгляду гэтыя ваўкалакі — зусім як ваўкі, толькі большай часткаю бываюць аднавокія і нават сляпыя на абодва вокі»[59].

Такі ваўкалак не здольны на вялікую шкоду, адзінае, што ён можа зрабіць на зло сумленнаму гаспадару, дык гэта нанесці ўрон хатнім жывёлам і птушкам, — трэба ж нечым карміцца. Ні на мужчын, ні на жанчын, ні на малых ён ніколі не нападаў. Не тое што баяўся, а тое, што ў яго будзённым жыцці таксама была свая сям'я і, адпаведна, дзеці. Знаходзячыся ў воўчай шкуры, ваўкалак ніколі не быў пазбаўлены чалавечых пачуццяў і спагадлівасці. Часам ён нават у адкрытую дапамагаў бедным пастушкам, сваім з'яўленнем папярэджваў аб нападзе сапраўдных ваўкоў. У фальклорных творах адзначалася таксама, што даволі часта ваўкалакаў сустракалі зусім побач з чалавечым жыллём, але ніякага пераляку ці страху ён не наганяў, наадварот, выклікаў спачуванне, ці то сваім выглядам, ці то тым, як сябе паводзіў. Вельмі многае тут нагадвала воблік бедалагі-жабрака ці то падарожнага, які шмат блукаў па белым свеце і ці то нечым (або некім) параніўся, ці то захварэў па дарозе. Ляжаў на тым самым месцы і канаў, галосячы над уласным лёсам-доляй, ці клікаў да сябе на дапамогу. У такім становішчы яго найболей сустракалі людзі.

У вусна-паэтычнай творчасці можна знайсці шматлікія прыклады, у якіх гаворыцца пра няшчасных людзей, што былі ператвораны ў ваўкалакаў падчас вяселля. Гэта вельмі шырокавядомы сюжэт, і карыстаўся ён папулярнасцю не толькі ў нас, але і ў суседніх народаў таксама. Пераўвасобіць маглі жаніха (маладая ў такіх выпадках увогуле чамусьці не згадваецца). Але найбольш часта матывы пераварочвання ў ваўкоў-ваўкалакаў датычыліся непасрэдна ўсяго вяселля, а не паасобных яго ўдзельнікаў. Тут толькі ўжо ўдакладняецца нейкая пэўная колькасць, мабыць, магічная лічба, якой уласцівы быў нейкі чароўны падтэкст. Праўда, звычайна традыцыйная лічба 13 тут адсутнічае, як і 6, і 9, затое прысутнічае 12 ці якая іншая цотная лічба, найбольш верагодная 8 або 10. М. Нікіфароўскі таксама адзначаў: «Гвалтоўнае ператарэнне ў ваўкоў можа быць здзейснена над такім вясельным поездам, дзе едзе 12 асоб. Зласлівы чарадзей робіць гэта ператварэнне пры самым ад'ездзе: з вядомымі яму аднаму заклінаннямі; ён кідае праз поезд гарошыну, узятую са струка з 12 зернямі; робіць гэта і ў час, калі едзе вяселле, перацягваючы нітку цераз дарогу. Часцей за ўсё магутны чарадзей ператварае вяселле моцным заклінаннем — што зручней зрабіць на месцы, дзе сустрэліся і пабіліся два вяселлі. Дзе б ні было зроблена ператварэнне, яно ўсё-такі часовае, і ні адзін чарадзей не можа ператварыць на ўсё жыццё, як не можа зрабіць ператварэнне на цотную колькасць гадоў»[60].

Безумоўна, што на любым вяселлі імкнуліся хоць неяк засце-

рагчыся ад такіх непажаданых здарэнняў. Не запрашалі і не дапускалі ці ж, наадварот, вельмі шчыра запрашалі і надта ж палохаліся, калі людзі, якіх яны падазравалі ў сувязях з нячыстай сілай, не прыходзілі на ўрачыстасць.

Ёсць даволі цікавыя паданні, якія распавядаюць пра ператварэнне вясельнага поезда ў ваўкоў (або ў ваўкалакаў).

Паданне «Як чараўнік абярнуў вясельны поезд у ваўкоў»:

«Некалі ехалі маладыя з вянца і, астанавіўшыся ў канцы сяла, прасілі выйшаўшага мельніка, каб ён адчыніў ім вясніцы. Але той не ўважыў іх просьбы і сказаў на ехаўшага спераду свата:

— Не велькі пан, і сам можаш адчыніць.

— А якім ты велькім панам тут зрабіўся; бадай табе камень лопнуў!

Адно што сват сказаў гэта слова, як у млыне зрабіўся нейкі вялікі стук. Калі паглядзіць туды мельнік — аж яго камень, як сказаў сват, разляцеўся надвое. Тады ён выскачыў на двор і крыкнуў на дружбу:

— Гуж, га!

Пасля гэтых слоў мельніка людзей на вазах як і не было. Уся дружба абярнулася ў ваўкоў і точкаю пабегла ад сяла ў лес. Гэты мельнік зрабіў ім быць ваўкалакамі сем лет. Так яны і бегалі. Маладая і дружкі як былі ў стужках, так на іх была і шэрсць у дзяжкі рознага цвету»[61].

Даволі часта ператварэннем вяселля ў ваўкалакаў займаўся не чараўнік, а чараўніца. Лічылася, што яна ў гэтым плане валодае значна страшнейшай сілай. Учытаемся ў наступнае вусна-паэтычнае сведчанне, паданне «Заклятае вяселле»:

«У Падляскім ваяводстве, у вёсцы Хлопкаве, недалёка Лосіц, у час вяселля прыйшла разгневаная чараўніца з жаданнем помсты — ператварэння маладых у ваўкалакаў. Для гэтага яна скруціла свой пояс, якім падпярэзвалася, і паклала яго на парог хаты. Круціла таксама лыка, варыла яго, і той адвар людзям у ваду падлівала.

Скора маладыя з вясельнай дружынай перайшлі праз парог, і пан млоды з княгіняю і шасцю дружкамі абярнуліся ў ваўкалакаў, уцяклі з хаты і тры гады ваўкалакамі былі. Праз увесь гэты час пад хату падбягалі чараўніцы і страшэнна вылі.

Калі ж надышоў дзень, што канчаліся іх цяжкія пакуты, зграмадзіліся перад парогам злой бабы, жаласна вылі. Чараўніца выйшла з сваёй хаты з вывернутым кажухом поўсцю наверх і кожнага ваўка асобна накрывала ім, вымаўляючы таемныя закляцці, і ператварыла іх зноў у чалавечую постаць. Толькі маладому не пакрыла кажухом хвост, хоць і звярнуўся да людской постаці, воўчы хвост у яго застаўся. Толькі праз некалькі дзён чараўніца тым жа спосабам вызваліла яго ад той непатрэбнай аздобы»[62].

Падобнае ператварэнне магло датычыцца не толькі ўсяго вяселля, але і канкрэтна маладога, як вынік таго, што ён у нечым не дагадзіў (правінаваціўся) перад злой чараўніцай-варажбіткай. У асноўным прычына была адна — не захацеў жаніцца (адмовіўся, гуляўсябраваў ды кінуў, насмяяўся над яе дачкою). Толькі такі ўчынак з

боку хлопца заўсёды асуджаўся ў народнай творчасці, таму і не дзіўна, што ў многіх выпадках яе дзеянні апраўдваліся, тады чараўніца паказвалася не такой ужо пачварнай і непрадказальнай.

Паданне «Жаніх-ваўкалак»:

«Любіў адзін хлопец дзяўчыну да не захацеў яе ўзяць, а ўзяў другую. Перад шлюбам пайшоў ён кланяцца ды зайшоў к сваёй першай палюбоўніцы ў хату. Маці яе ды кажа яму:

— Вось бачыш, якая добрая твая маладая, нават і на шыю табе нічога не дала. На, вазьмі хоць гэту хустачку і завяжы, каб шыя не была голая, — і падала яму беленькую хустачку.

Малады нічога не зразумеў, узяў ды завязаў яе сабе на шыю. Выйшаў ён з хаты, аглядваецца, адно ж і рукі, і ногі яго абрастаюць воўчаю шэрсцю, толькі на шыі, дзе была хусцінка, засталася белая лапінка. Далей стаў ён глядзець, дык і саўсім ужо аброс, а заміж рук і ног парабіліся ў яго воўчыя лапы. Страшна стала яму ў сяле. Стаў ён ракам і пабег у лес і доўга жыў там з ваўкамі. З таго часу і стала можна чалавека зрабіць ваўкалакам»[63].

Часам у вусна-паэтычных сведчаннях згадваецца і пра тое, як можна лёгка пазбавіцца чараў варажбіта (няхай сабе і самага моцнага), калі вам бярэцца дапамагаць спрактыкаваны чалавек або добранадзейны варажбіт.

Паданне «Жаўнер і ваўкалак»:

«Ішоў жаўнер на вёску на вечарынку. Дарога ішла каля вясковага магільніку. Раптам бачыць ён, як адна магіла расчынілася, з яе вылязае нябожчык і накіроўваецца да вёскі ўпярод жаўнера. Жаўнер думае: «Куды гэта ён пайшоў? Напэўна, вернецца назад. Дай лягу ў яго труну». Улез жаўнер у магілу, лёг у труну, закурыў трубку махоркі і чакае. Каля поўначы прыходзіць нябожчык.

— Ты зачым забраўся ў маё месца? — кажа нябожчык служываму.

Пайшла спрэчка.

— А ты куды хадзіў? — запытвае служывы.

Злуючыся, нябожчык адказвае:

— Гэта мая справа. Выходзь хутчэй з магілы, бо мне прыйшоў час класца на сваё месца!

А жаўнер упарта крычыць:

— Не пушчу, пакуль не скажаш, дзе быў, што рабіў!

Яшчэ спрачаліся, нябожчык усё не казаў сваю тайну. Калі ўжо засталася адна хвіліна да поўначы, дык ён мусіў сказаць:

— Быў я ў вёсцы Дудары і там усю дружбу вясельную ў ваўкоў абярнуў.

А жаўнер кажа:

— Ага, нячысцік, ты памёр, а што робіш? Вось ты іх зрабіў ваўкамі, а мне павінен сказаць, як іх зноў зрабіць людзьмі.

Нябожчык упарта не жадае сказаць.

— У такім выпадку, я застануся на тваім месцы, — кажа жаўнер.

І тады нябожчык прымушаны быў сказаць жаўнеру сваю тайну.

— Вось вазьмі адшчапі ад маёй труны трэску, запалі гэту трэску, пакуры кожнага ваўка і будзе чалавек.

— Калі гэта праўда, дык я пушчу цябе на месца, — кажа жаўнер і захапіў з сабой трэску.

Не паспеў толькі жаўнер выйсці з труны, як нябожчык улез у магілу, і яна адразу зачынілася.

Жаўнер падыходзіць да вёскі і бачыць у гародах многа ваўкоў, а ўся вёска, сабраўшыся, — плачуць, енчаць, крычаць.

— Чаго вы сабраліся і чаго плачаце? — запытвае жаўнер.

Яны яму і апавядаюць, як нячысцік абярнуў іх суседзяў і радзімых у ваўкоў.

Жаўнер кажа:

— Што мне будзе, дык усіх зраблю людзьмі?

— Усё, што ў нас ёсць, дык мы згодны аддаць за гэта, — адказваюць сяляне.

Жаўнер так і зрабіў, як казаў яму нябожчык, і вось дзіва: ваўкі ізноў сталі людзьмі.

Сяляне шчодра ўзнагародзілі жаўнера, з той пары ён зажыў шчасліва і багата»[64].

Нават мёртвы варажбіт надзвычай небяспечны, а што ўжо гаварыць пра жывога? Праўда, здараліся выпадкі, калі злыдню перападала, і ўжо тады ніякая чароўная сіла не магла яму дапамагчы.

Паданне «Вядзьмак-ваўкалак»:

«Жылі два суседы. Адзін бедны, другі багаты. Багаты быў вядзьмак, а бедны — добры чалавек. Бедны купіў каня і вывеў на выган, а багаты ўзяў тры нажы, утачыў у зямлю і пачаў куляцца. Перакуліўся праз адзін нож — у яго галава воўчая стала, перакуліўся праз другі — тады ўвесь стан стаў воўчы, ён перакуліўся праз трэці — тады і ногі зрабіліся воўчыя. Тады ён паляцеў і задушыў каня, а бедны выняў адзін нож, як ён задушыў каня.

Воўк задушыў і бяжыць назад к нажам, штоб адвярнуцца назад на чалавека. Прыбег. Як перакуліўся праз адзін нож — тады ўвесь стан стаў чалавечы; перакуліўся трэці раз, але толькі ногі асталіся воўчыя, бо не было трэцяга нажа»[65].

Такім чынам, людзі не маглі сябе спакойна адчуваць і падчас вяселляў, дзе сабіралася даволі вялікая грамада і дзе не так проста было ўздзейнічаць на сумленных працаўнікоў. Тым не меней усялякае здаралася і тут. Але адзначым яшчэ адну асаблівасць: калі салдат (жаўнер) узяўся дапамагчы няшчасным, то ўсё роўна перад гэтым паставіў умову, «што мне будзе?». Гэта супярэчыць спрадвечна народнай маралі — дапамагаць у такіх выпадках заўсёды толькі бескарысна. Ён жа патрабуе плату. Адзначым і тое, што салдат (жаўнер) у народнай творчасці быў пазбаўлены многіх рыс, характэрных станоўчым героям. Гэта тлумачылася тым, што ён многа хадзіў-вандраваў па свеце, бываў у розных непрадказальных сітуацыях, адмаўляў усёмагчымыя прымхі і забабоны, але самае галоўнае — адмаўляў нячыстую сілу і таму смела ўступаў у супрацьборствы з яе прадстаўнікамі.

Сумленнаму чалавеку даводзілася ўадкрытую супрацьстаяць не толькі чорным вачам чараўніка, а яшчэ і тым жывым істотам, у якія ён запроста могператварыцца. Пра ваўкалака мы ўжо згадвалі. Цяпер спынімся на некаторых хатніх жывёлах. Найперш гэта сабака і кот. Менавіта яны былі ўвасабленнем нячыстай сілы, паводле перакананняў нашых прымхлівых продкаў. Асабліва калі гэтыя істоты былі чорнага колеру. «У нас даўней старая адна жыла. То ўжо яна і вырабляла! Чарадзейкаю з'яўлялася. Ёй ад яе бабкі тое майстэрства перайшло. Любога чалавека магла забіць адным поглядам. Няхай толькі хто не спадабаецца, то й звядзе таго са свету. Як ні старайся, а не выратуешся. Напусціць якога паморку, дык і паселішча ўсё павыляжа, нібы якая карова языком зліжа. Так усё чыста жыццё зладзюкавала. Баяліся чарадзейніцу закрануць. Спадзяваліся, што яна неяк супакоіцца, а потым і неба змілуецца над людзьмі ды забярэ яе. Але не тут тое было. Старую, наадварот, нібыта хто яшчэ больш раз'юшыў, і яна ўжо ніякай мяжы не ведала. Мала гэтага, раней сама па наваколлі віжавала і не давала спакою вяскоўцам, а калі ўжо старой стала, то пачала перакідвацца ў сучку. Чорную. Худзюшчую. Звяглівую. Рабіла гэта для таго, каб за ноч паспець пабываць у розных мясцінах. Потым ужо здагадаліся, у каго ператваралася. Спачатку ж ніхто не здагадваўся. Пакуль мясцовы каваль, які вылучаўся смелым, непрадказальным норавам, не падглядзеў, што там, дзе з'явіцца сучка, потым абавязкова здарыцца якая-небудзь злыбяда. Тады вырашыў сам з ёю і разабрацца, каб іншым даказаць, хто ж гэта ўсё вырабляў. Чакаць доўга не давялося. Неяк надвячоркам ужо каваль убачыў, як тая сучачка пачала віцца ля ягонага хлява. Тады ён ціхенька падабраўся і як шыбануў па ёй сякерай, то і трапіў па лапе. Тая сучка залілася брэхам і давай уцякаць. Ажно нараніцу панеслася пагудка па вёсцы, што тая старая чарадзейка памёрла. Пайшлі паглядзець, і сапраўды, ляжала яна на сваіх анучах, і, што самае цікавае, яе рука была перавязана і моцна скрываўлена. Вось, значыцца, хто перакідваўся ў сучку і рабіў зло людзям. Выпадкова даведаліся, бо каваль здагадаўся» (УЗ. Ст.); «Старыя сяляне ў нас казалі, што даўней было ў нас даволі многа варажбітоў, а найбольш моцныя дык маглі свабодна пераварочвацца ў розных жывых істот. Перакідваліся ў сабак. Відаць, з-за таго, што сабакі маглі многа прабегчы, непрыкметна падабрацца, хутка знікнуць з месца здарэння. Такі сабака, калі каго кусаў, то той чалавек болей хадзіць не мог, бо заўсёды ляжаў, як спаралізаваны. Цела ўсё паб'ецца чырвонымі плямінамі, і бедалага трызніць, нібы ў беспамяцтва праваліўся. Аднаго такога

злыдня вяскоўцы ўсё ж упільнавалі. Стары-стары дзед ледзьве ўжо ногі мог перасоўваць, а дурнога занятку не кідаў, па-ранейшаму рабіў зло людзям. А што ж, перакінецца ў сабаку і паджгаў сабе, нібы малады. Да раніцы гэтулькі выгайсае, што і падумаць цяжка. Галоўнае заключалася ў тым, каб да трэціх пеўняў паспець дамоў вярнуцца. Не паспееш, то потым цэлы год давядзецца ў сабачай шкуры бегаць. Стары той паспяваў, адно толькі пасміхваўся, але ўсмешка тая ў яго выходзіла нейкая злая, нелюдзімая. Паспяваў, паспяваў, а аднаго разу не пашэнціла яму. Ці то надта забавіўся недзе, злую справу здзяйсняючы, ці то недзе яго нешта прытрымала, але ляцеў, вочы вылупіўшы ды язык высалапіўшы, што ледзьве не збіў з ног селяніна, які ішоў да золку яшчэ ў лес, каб там нарыхтаваць дроў. Адхіснуўся чалавек, але ўстаяў на нагах і яшчэ шыбануў што было сілы сякерай. І што ж вы думаеце, трапіў. Трапіў па назе. Заскавытаў сабака і... знік. А да вечара стала вядома, што ў вёсцы сканаў стары варажбіт. Самае дзіўнае, што калі да яго прыйшлі сваякі, каб пахаваць, то заўважылі на назе свежую скрываўленую анучу, якая накрывала вялікую сечаную рану. Ад яе, трэба думаць, ён і сканаў. Тут пераканаліся людзі, хто ім зло вялікае чыніў, і пахавалі таго злыдня без нейкага там ушанавання за могілкавай агароджай» (УЗ. Пн.); «Аднае вясны ў нашай вёсцы здарылася дзіўная гісторыя: забілі сабаку, а потым аказалася, што гэта не проста сабака, а пераўвасоблены ў яго вядзьмак. Па-ўсялякаму людзі пра гэта гаманілі, каб потым неяк апраўдаць тое, што сярод іх гэтулькі гадоў жыў люты вядзьмак. Жыць то жыў, ды не зналі, не ведалі. Праўда, некаторыя падказвалі ўсё, быццам бы на таго старога гаманілі. Паміж сабою пераказвалі, каб надта не разыходзіліся чуткі. Пачне здагадвацца, то тады ж вяскоўцам горай будзе, не дасць ён ім палёгкі ні ў якой справе. Вядзьмак той і так ні ў чым не саступаў. Многія ад яго трывалі, ад ягоных страшных вачэй. Праўда, калі ўжо надта пастарэў, дык тады, здавалася б, прыціх. Пераcталі старога бачыць на вуліцах, па завуголлі болей не лазіў. Ажно нехта ўбачыў, як ля ягонага ганка чорны сабака пастаянна круціцца. Няма тае хвіліны, каб не падбег, каб ціхенька не паскуголіў. Тым часам пільнавацца ўжо і таго сабакі сталі. Мала што якога здарыцца можа. Ды неяк той сабака ўчапіўся за малымі шчэрыцца. Невядома чым бы магло ўсё скончыцца, каб ненарокам дарослыя не нарваліся. Паспелі адагнаць яго, то ён давай і да іх пускацца. Тут ужо яму не ўдалося надта паразгуляцца, бо як лупянулі па лапах, а па галаве яшчэ і дадалі, то ледзьве пацёгся сваёй дарогай. Нараніцу суседзі заўважылі, што старога няма на падворку. Яны да

яго ў хаціну, а ён так і ляжаў у падлозе. Скрываўлены ўвесь, з перабітымі рукамі і нагамі. Значыцца, ён, акрамя яго ніхто іншы, не мог пераўвасобіцца. Такое было на маёй памяці, таму няма чаго смяяцца, бо чыстую праўду вам расказваю» (УЗ. Светл.).

Вельмі лёгка, амаль як і ў сабак, варажбіты і чараўнікі магліператварацца ў катоў, якія, асабліва чорнай масці, таксама даволі часта асацыіраваліся з нячыстай сілай. «Некалі наш стары дзядуля нас, малых, пастаянна папярэджваў, каб мы не чапалі чорных катоў. Так і казаў, што гэта нячысты ў іх упадабляўся. Вось глянеш у тыя чорнабліскучыя вочы, дык ажно скаланешся, так ужо цябе ўсяго пройме. Калі хто не паслухаецца і ўдарыць, то потым у таго ж чалавека нага ці рука ў самога баліць, адным словам, тое, па чым ён ката ўгрэў. Аднаго разу за намі ўсё чорная котка лазіла. Куды мы, туды і яна, і не адступае ні на крок. Хай бы сабе ўжо і хадзіла, ды справа ў тым, што абавязкова некаму пры гэтым не шанцавала: то нагу хто падкруціць, то руку падломіць, а то, даруй Божа, вока на які сук выкале. Сядзем і давай раіцца паміж сабою, як бы нам тую котку адвадзіць, каб яна да нас не чаплялася, каб мы ад яе не залежалі. І прыдумалі. Прыдумалі так, што падзавеш кавалачкам сала тую котку бліжэй да сябе, а потым і задасі добрую лупцоўку. Пры гэтым абавязкова б'е не адзін, а ўсе, каб тая нячыстая сіла не ведала, з кім разбірацца ў першую чаргу. Хочаш не хочаш, але калі ўсе вырашылі, то ад кампанейства ўцякаць не будзеш, потым жа стануць абвінавачваць у баязлівасці. Так і зрабілі. Котка тая хітравала, не падыходзіла. Ды і мы не дурныя, дарма што малыя былі. Усё ж свайго дабіліся. Яна да сала, а мы давай лупцаваць чартоўку па чым папала. Білі, колькі хацелі, але забіваць пабаяліся. Тады давай уцякаць. Паразбягаліся па хатах і чакаем сядзім, каго ж першага нячыстая сіла ў помсту ўхопіць? Атрымалася так, што злую старую варажбітку, якая жыла па суседству з намі і на якую пастаянна гаманілі, што яна ў кароў, тая ведзьма, малако адбірае. Яна пасля нашай лупцоўкі доўга на ногі ўстаць не магла. Калі ж паднялася, то стала хрысціцца, хадзіць у царкву і перастала рабіць людзям благое» (УЗ. Жытк.).

«Нашага суседа ледзьве людзі да смерці не забілі. Здарылася гэта ўсё даволі дзіўна. Праўда, на яго і раней казалі, што ён і на руку нячысты, і чараўніцтвам злым займаецца. Сабе на карысць, а іншым, адпаведна, на бяду. Да таго ўжо дажыўся, што не мог і дня пражыць, каб суседзям якога гора не ўчыніць. Ад яго стараліся і асцерагацца, і хавацца, але дзе там! Захоча, то як ні выкручвайся, а ўсё роўна трапішся ў ягоныя кіпцюры. Добра, калі толькі захварэеш, калі пера-

ломіць ды і адпусціць. Здаралася ж і такое, што некаторых да смерці даводзіў, па белым свеце жабраваць пускаў. Як суседа не імкнуліся падлавіць, але ён, нібы вада скрозь пальцы, пастаянна ўцякаў, не даючы людзям магчымасці над сабою ўчыніць расправу. Без віны вінаватага таксама ж біць не станеш. Пагавораць, пагавораць паміж сабою вяскоўцы, на старога коса пазіраючы, але разам з тым надта на яго і не насядалі, бо баяліся, каб паасобку ўсіх потым не пералавіў ды якога паморку ці пошасці на іхнія сем'і-гаспадаркі не напусціў. Так доўга цягнулася. Але аднаго ж разу і сусед схібіў. Здарылася так, што ён пастарэў, а ведзьмакі ўсялякія старэюць намнога хутчэй за шчырых людзей. Жывуць доўга-доўга — гэта адно, але старэюць і потым ходзяць згорбленыя ды зморшчаныя — гэта зусім іншае. Дык вось, стала яму намнога цяжэй хадзіць ды выцікоўваць, каб дзе каго пакараць. Пры гэтакой справе трэба ж было рабіць усё непрыкметна. А дзе ж ты там хуценька падкінешся, схаваешся, калі ў целе ўжо спрыту не захавалася? Вось і надумаў хітры стары, як своеасаблівае выйсце, ператварацца ў ката. Кот што, ён хуткі і не такі прыкметны, і хавацца яму куды зручней, чым любому з людзей. Прыкінецца, затоіцца і цікуе, адно толькі вочы-бліскавіцы выдаюць ягоную прысутнасць. Хто ж яго ведае, колькі ведзьмару так удавалася выкручвацца, пакуль не падлавілі. Толькі ўжо калі падлавілі, то не пашкадавалі, так далі, што думалі ўжо, што той кот нежывы, іначай яшчэ б малацілі. Пайшлі, а ён жа, гад, адышоў і дамоў неяк дабраўся. Але так у знакі яму лупцоўка тая далася, што, мо жа, паўгода валяўся ў ложку. Калі ж паправіўся, то не тое што варажыць супраць людзей не лез, нават дурнога болей думаць не асмельваўся. А ў ката часта перакідаўся, такое было на самой справе» (УЗ. Івац.).

«Калі ведзьму або ведзьмара прыцісне тое, што яны абяссілеюць ці адчуюць за сабою пільную слежку, то яны перакідаюцца ў катоў. У чорных катоў. Гэта ж і ёсць самае сапраўднае ўвасабленне нячыстай сілы. Такога ката здольны заўважыць надзвычай спрактыкаваны чалавек. Ён жа нічым асаблівым, здавалася б, не вылучаецца. Але гэта толькі на першы погляд, бо на самой справе ўсё далёка не так. У яго вочы блішчаць па-асабліваму, а ўся ягоная постаць, асабліва з шыі, нагадвае сабою зладзеяваты твар таго ператворанага ведзьмака. Кот здольны многа благога ўчыніць людзям, таму што валодае чартоўскай сілай у поўнай меры, як і любы з варажбітоў. Адно толькі, што размаўляць не ўмее, затое як мяўкне ненарокам, дык быццам якім бізуном па спіне перацягне! Ён бессмяротны, бо як ні старайся, а такога ката жыцця не пазбавіш. Здаецца, усё — капцы, аж не, ажы-

ве, ды яшчэ потым так жвава носіцца. Праўда, ужо людзей стане бокам абыходзіць, старацца найменш ім на вочы трапляцца, каб зноў не правучылі. Толькі ж людзям ад усяго гэтага не лягчэй, бо кот стане рабіць свае чарадзейныя справы спадцішка, тады ўжо і здагадацца цяжка будзе, не тое што заўважыць. Выпадкова іх усё ж падлоўваюць і ўжо літасці не даюць, бо за кожным такім катом могуць лічыцца загубленыя жыцці людзей, паламаныя лёсы і многае іншае. Нават малітвы мае бацькі пастаянна шапталі, калі ім здавалася, што нейкі кот стаў нашу сям'ю або гаспадарку надзяляць сваёй асаблівай увагай. Найбольш маці-нябожчыца старалася ў гэтым плане. Яшчэ мала таго што вымаўляе, але і сплёўвае на бок ды на паўголаса ўскліквае: «Згінь! Згінь, сатана! Каб табе месца на белым свеце нідзе не было!» Усе глядзелі на такую справу на поўным сур'ёзе, бо надта ж дорага магла каштаваць прамашка людзям» (УЗ. Петр.).

Варажбіт ці чараўніца маглі пераўвасобіцца і ў птушку. Асабліва ўдала ў іх гэта атрымлівалася, калі яны набылі выгляд сарокі. Таму гэтых траскучых птушак ніколі ніхто не любіў. Надта ж яны гідлівы нораў маюць. Так і стараюцца, каб што назло чалавеку зрабіць, каб што ўкрасці. «Там, дзе сарока, там абавязкова трэба чакаць нейкай злыбяды, — сцвярджалі нашы далёкія продкі. — Найчасцей гэта пажар ці праява нейкай чараўнічай сілы, якая прысутнічае тут або зусім непадалёку, і ад яе, найхутчэй, трэба засцерагацца, каб не было горш. Асабліва жанчыны-варажбіткі любілі ў сароку перабірацца. Ото раз перакінецца і потым ужо, што хоча, то тое і плявузгае. Як так, то баіцца, што якім дручком запусцяць, трэснуць камянём ці паленам, а ў птушку паспрабуй патрапіць. Мала гэтага, далёка не кожны дадумаецца, што нячыстая сіла ў такую невялічкую даволі птушачку ператвараецца. Трашыць, трашчыць, людзі і ўвагі асаблівай не звяртаюць, а потым недзе побач закрычаць аб пажары. Хто ж яго мог зрабіць? Вядома, што сарока на хвасце прынесла. Мужчыны ў нашым сяле, асабліва паляўнічыя, дык тыя, пры першай жа магчымасці, стралялі птушак, не давалі ім сябе суправаджаць, бо былі цвёрда перакананыя, што нячыстая сіла і там ім перашкаджала: распалохвала звяроў, птушак, падбівала пад руку падчас стрэлаў і г.д. Таму, калі паляўнічыя ішлі ў лес, то сарокі за імі ляцелі наводдаль, баючыся, каб не пабілі тыя ненарокам. А аднаго разу суседзі казалі, што на нашай вуліцы адна старая ў сароку перакідвалася. Яе за гэтым заняткам дзеці бачылі. Потым, калі дарослых прывялі, то на тым самым месцы было параскідана многа пер'я. А адзін хітры стары, той адразу скеміў, што да чаго, узяў некалькі пёркаў і панёс з сабою. Дома

ўкінуў іх у печ і спаліў. Пасля попел той вадою свянцонаю пакрапіў. І што ж вы думаеце? Тая старая праз некалькі дзён памёрла. Гаварылі, што калі да яе прыйшлі, дык уся галава ў вядзьмаркі была ў пер'і. Нібы яны з валасоў, тыя пёркі, так і раслі. Вось такое раней запроста здаралася» (УЗ. Калінк.).

«Некалі, калі яшчэ зусім малою была, то мне паказвалі ў нашай вёсцы адну старую бабульку. На яе ўсе казалі, што яна ведзьма і надта проста можа перакінуцца ў сароку. Чаму ў сароку? Бо тая старая, як пачынала гаварыць, дык яе ніхто не мог спыніць. Не тое што спыніць, але слова-другога нельга было ўставіць. Каб жа яна перакідвалася, ды зла ніякага не рабіла, то і бяды асаблівай не было б. А то ж запроста магла які паморак занесці ці пажар утварыць. Ніхто на птушку не падумаў бы. Тым болей на старую, якая, праўда, норавам благім вылучалася. Гляне на каго, дык таго скрывіць, але асабліва запроста магла жывёлу псаваць. Вось зраніцы ідзе кароўка на пашу вясёлая, здаровая, а вечарам з пашы вяртаецца, то ўжо ледзьве ногі перастаўляе. Аказваецца, проста тая саркоа на гэтую бедную жывёліну нібы ненарокам садзілася. Тых імгненняў дастаткова было, каб яна захварэла. Доўга старую ведзьму падпільноўвалі, стараліся падабраць такі момант, дзе б яна ўжо не здолела выкруціцца, уцячы беспакарана. І аднаго разу прыйшло такое імгненне. Старая пераўвасобілася ў сароку, села на высачэзную бярозу, з самае вершаліны, што знізу і ўгледзець не так сабе проста, і давай верашчаць-трашчаць. Ды, мабыць, затрашчалася, забылася на ўсё на свеце і нават на тое, што яе ж могуць падпільнаваць. А тут ішлі паляўнічыя з палявання. Злосныя былі. Нічога за цэлы божы дзень не ўпалявалі. Дык адзін з іх, на што ўжо здатны стралок быў, толькі пачуў трэск сарокі, ускінуўся і — бах, ёсць! Як і не сядзела, хоць на самай вершаліне была. Ажно на другі дзень, з самае раніцы, ужо ўсе сталі гаварыць, што памерла старая ведзьма. Так яе той паляўнічы заўчасна ў магілу ўвагнаў, а то б яна яшэ людзям колькі зла ўчыніла. Перакідвалася ў сароку. Ніхто б з маладзейшых, каб старэйшыя не падвучвалі, у гэта б і не паверылі нават» (УЗ. Івац.).

Даволі часта ў вусна-паэтычных запісах згадваецца і пра тое, што такая злая жанчына мела магчымасць ператварацца ў ... жабу. У самую звычайную, якіх заўсёды мноства было навокал. Праўда, тая жаба вылучалася ад іншых вялізнымі памерамі і яшчэ тым, што мела даволі гучны «голас», які нібыта падкрэсліваў лішні раз яе няпростае паходжанне. «Некалі мой нябожчык-дзядуля расказваў, як ягоны сябар з-за ўласнай дурноты нагу страціў, а потым і памёр з мала-

дых гадоў. Сябар той быў хлопцам смелым, адчайным. Не надта ён прыслухоўваўся да таго, пра што старэйшыя гаманілі. Засмяецца, ускінецца ды зубы ў адказ пакажа, нібы і не чуў нічога. Казалі не раз і не два яму пра ўсялякую нячыстую сілу, толькі каб жа слухаўся хлапчына, дык і пашанцавала б, ці бокам абышоў бы, а так... Пайшлі хлопцы адзін раз да дзяўчат у суседнюю вёску. Даўней часта так хадзілі. На вячоркі. Ідуць, а прама на дарозе, пад нагамі, ляжыць здаравенная жаба і, здаецца, ледзьве-ледзьве дыхае, ад таго што яна такая вялікая. Усе так сцішана абыходзяць, імкнучыся не закрануць жабу ненарокам, не налякаць яе, бо нібыта адчувалі, што ў ёй нячыстая сіла сядзіць, якая можа ў любы момант адпомсціць. Усе прайшлі як мае быць, а гэты ж хлопец даўмеўся вось да чаго. Падскочыў да той жабы і так лупянуў нагою ў яе, што яна, нібы які мячык, паляцела некуды ў карчы. Зарагатаў ён задаволена, і пайшлі ўсе далей. А на наступны дзень матуля таго дурынды давай бегаць па суседах. Хлопец з нечага перастаў падымацца на ногі. Праўда, потым стаў хадзіць, але правую нагу ўвесь час валачыў. Так ў яго і цягнулася, так і доўжылася да самае смерці. Ужо калі памёр, а сканаў даволі маладым, дык адзін стары знахар павучальна нашэптваў, што ён жабу-чарадзейку тады ўдарыў. Без злосці ўсялякай ударыў, проста так, каб паказаць, што нікога не баіцца, а вунь як яно ўсё павярнулася. Да смерці сябе прыгаварыў, а каб слухаўся старэйшых, дык такога гора б можа і асцярогся б» (УЗ. Жытк.).

«Некалі самой даводзілася чуць, што на Палессі існавалі жабы-чарадзейкі. Хутчэй за ўсё імі былі не самі жабы, а ў іх пераўвасабляліся ведзьмы, але ж людзям ад гэтага было не лягчэй. Толькі і глядзі, каб дзе на такую рапуху не напароўся. За лепшае яе трэба было абходзіць ціхенька, лішні раз не турбаваць, такім чынам не даводзіць да зла. Старыя людзі ўсё ведалі, то яны і папярэджвалі, каб малодшыя ад іх навучаліся. Увесь час у якасці прыкладу прыводзілі выпадак, як адзін чалавек не паслухаўся сваіх бацькоў і за гэта паплаціўся ўласным жыццём. Здарылася вось што. Пайшлі яны жыта жаць усёй сям'ёй. Тады ж у кожнага ўласная ніва была. Ідуць, размаўляюць найболей пра добры ўраджай, пра будучы хлеб, бо адвеку ў вяскоўцаў такая завядзёнка: чым болей пра хлеб добрага гаворыш, тым лепшым ураджай будзе. Так бы і да нівы дайшлі. Ажно тут на дарозе ўбачылі здаравенную жабу, якой, магчыма, і ў жыцці раней бачыць не даводзілася. Старэйшыя пацііху-пацііху і наперад прайшлі-падаліся не азіраючыся, а малодшы сын, які ззаду плёўся і не надта каб на працу спяшаўся, спыніўся ля рапухі. Пастаяў крыху і, убачыўшы, што

іншыя не глядзяць, як гопне на жабу дзвюма нагамі. Толькі водгулле ды трэск раздаўся, і ўсё на тым! Каб жа для такога жартаўніка так лёгка ўсё завяршылася, як не тут тое было! У тую ж ноч яго раздула ўсяго, як якую бочку, і праз колькі дзён ён сканаў. У страшэнных пакутах, а ўсё, аказалася, з-за той самай жабы, бо чароўная яна была, яе ўвогуле нельга было чапаць, а хлопец яшчэ і пасмяяўся» (УЗ. Ст.).

Адносна ўсёмагчымых ператварэнняў пісалі многія беларускія фалькларысты. А. Багдановіч сцвярджаў: «Ведзьма таксама можа ператварацца ў сароку і чорную кошку»[66]. У другой фальклорнай працы сустракаем: «Хто хоча ўбачыць, як чараўніца прыходзіць у абору, няхай паставіць барану пры сцяне і сам за ёю сядзе — тады ўбачыць чараўніцу ў вобліку кошкі». Кібарт сведчыў: «Што ведзьмы ператвараюцца ў жаб, ніхто не сумняваецца. Шмат жыве апавяданняў, якія нам сцвярджаюць гэта перакананне»[67]. У яго ж ёсць і іншае сведчанне: «Калі ў хату ўлезе жаба, асабліва ў пару, калі жабы звычайна не лазяць, гэтае здарэнне выклікае вялікі страх у жыхароў, бо яны перакананыя, што гэта ведзьма іх наведала»[68].

Маючы неабмежаваную ўладу над стыхіямі, паасобнымі людзьмі, ведзьмакі імкнуліся ўладарыць і ў кожнай асобна ўзятай сям'і. Зводзілі мужа з жонкай да таго, што яны пастаянна сварыліся, біліся паміж сабою. У некаторых сем'ях заходзілі надта далёка — да калецтва, а то і да смертазабойства ці самагубства, калі жыццё, у выніку такіх непажаданых звадак, станавілася проста невыносным. Пра чалавека, які толькі і рабіў, што сварыўся («грызся»), чапляўся да іншых, казалі: «у яго ж (у яе) чорт усяліўся... Ён жа яму (ёй) жыць спакойна не дае... Вось і чапляецца да каго яму хочацца...» Найболей у гэтым плане высмейваліся жанчыны. Лічылася нават, што для таго, каб у яе ўвабралася нячыстая сіла (нячысцік), насланая варажбітом, ёй і рабіць абы-чаго не трэба было. Яна ж (любая жанчына) ад прыроды ўпартая, у ёй закладзена фантастычная ўпартасць, нават тады, калі ўжо заранёў вядома, што баба не мае рацыі, усё роўна «змагаецца да канца», нягледзячы надта на тое, якім бы трагічным для яе ён ні быў. Звернемся да беларускай народнай казкі «Стрыжана-голена».

«Прынесла жонка есці мужыку, а ён касіў. Ён і кажа:
— Вось скасіў, як выгаліў.
А яна кажа:
— Як выстрыг.
— Не, як выгаліў.
Ну і гэтак паспорылі. Яна сказала, што пайду ўтаплюся, але ўсё роўна, як выстрыг.

— Ідзі, тапіся, але выгаліў.

Яна пайшла ў балота. Залезла па пояс у балота і крычыць:

— Выстрыг!

А ён:

— Выгаліў.

Яна залезла яшчэ глыбей, аж з галавой схавалася, але падняла два пальцы і паказвае, што выстрыг.

А ён крычыць:

— Выгаліў.

Дык яна ўзяла і ўтапілася. А ён не пайшоў яе ратаваць»[69].

Самае цікавае, што народныя дарадцы прымушаюць тут упартую жанчыну ісці не ў чыстую ваду, а ў балота. Ні для каго не сакрэт, што балота — гэта месца жыхарства ўсёмагчымых чарцей-нячысцікаў, кія напрамую (ці праз свайго пасрэдніка) уплывалі на гэтую сялянку, прымушалі яе здзяйсняць непрадуманыя ўчынкі. У некаторых выпадках нават чорт прызнае сваю бездапаможнасць перад упартасцю бабы і саступае ёй дарогу.

Дзе чорт не можа, туды бабу пашле.

«Вось адна пара людзей маладых ажанілася. Чорт хадзіў, хадзіў год, каб звесці, каб яны пабіліся, — ніяк не можа. Спатыкаецца са старушкай, з бабай.

— Можа б, ты мне памагла?

— Памагу. Што такое?

— Вось звядзі, каб яны пабіліся, гэтыя людзі маладыя, я табе дам бацінкі ў царкву хадзіць.

— Добра.

Зараз яна прыходзіць да маладзіцы і гаворыць:

— Знаеш, што ў тагой мужа ў галаве ёсць сівы волас. Трэба яго абавязкова вырваць, а не вырвеш — памрэ.

— Бабка, а як яго вырваць?

— Ну як. Вось ён паедзе араць, ты прынясеш яму снедаць. Ён паснедае, скажы, што ляж, я ў цябе ў галаве пагляджу, вазьмі з сабой брытву і выражаш.

А яму баба старая сказала:

— Вось, не глядзі, што вы добра жывяце, не сварыліся. Яна цябе хоча зарэзаць. Вось пабачыш.

Бабка так сказала. Вось ужо і ўсё на тым. Па гэтаму атрымлівалася, што калі ён будзе снедаць, яна паспрабуе ў яго галаве паглядзець.

Так і на самой справе атрымалася. Глядзіць селянін, а жонка брытву вострую дастала і... падумалася яму самае страшнае. Схапіліся тады селянін з бабаю ды давай біцца.

А чорт за кустом сядзіць, аж куст калоціцца, смяецца. Рад, баба звяла. Спатыкаюцца яны зноў.

— Ну, дай мне бацінкі.

— Дам, бабка, дам.

— Дык давай сюды.

Ну, нясе бацінкі ўжо ёй.

— Не, пачакай.

— А чаму пачакаць?

Навязвае бацінку на жэрдку метры са тры даўжынёю і падае ёй.
— Ха, я табе такую дабрату зрабіла, а ты мне на жэрдцы падаеш!
— Не, кажа сам чорт, — бабка, я цябе баюся, бо ты хужэй за чорта»[70].

Як бачым, тут не гаворыцца, што старая бабка, якая звяла ўсё-такі мужа з жонкай, была варажбіткай ці злой чараўніцай, але тое, што яна здзейсніла ў адносінах да сумленнай сям'і, цалкам падпадае пад такое вызначэнне. Вераломнасць, непрадказальнасць паводзін старой падкрэслівае нават сам нячысцік, адзначаючы, што яна «хужэй за чорта». Тут чалавек пабіўся з жонкай, і трэба думаць, што далейшай ідыліі ў іхнім сумесным жыцці, як раней, не будзе існаваць. Усе зайздросцілі іхняму шчасцю, а цяпер яны сталі такімі, як усе. І будуць надалей гаварыць вяскоўцы, «што чорт і да іх у сям'ю ўбіўся і не дае ім жыць мірна-спакойна».

У некаторых выпадках гаротніку-мужыку выпадае яшчэ горшы лёс: ён шкадуе сваю жонку і не пазбаўляе яе жыцця сам, не дае таксама, каб гэта зрабілі і другія.

Пра ўпартую жонку.

«Была раўнівая такая ў чалавека жонка, сільна ўрэдная, і ўсё на яго выдумкі выдумляла. А чалавека таго дражнілі «крук». Што ён яе не біў, што ён яе не ўгаворваў, яна ўсё роўна яго дражніла:
— Крук, крук!
А ён сказаў:
— Утаплю, уб'ю!
Аднаго разу ён яе так пабіў, так пабіў, а яна вады просіць і кажа:
— Крук, крук! Крук!
«Ну, — думае мужык, — і бой не памагае». Другі раз гаворыць:
— Павяду ўтаплю.
Вядзе яе тапіць, а яна ўсё роўна кажа:
— Крук, крук!
Прывёў да вады, вядзе яе ў ваду. Да тых пор яна ўжо дабрыла, што ўжо і пад рукі вада, а яна ўсё кажа:
— Крук!
А ён думае, што яна ў яго будзе прасіцца, дык ён яе не ўтопіць, а яна працягвае:
— Крук!
Ён да тых пор давёў, што вада ўжо ў рот льецца, а яна дыханне зацяла, рот закрыла, руку ўгору падняла і брыдзе. І ўжо яна ў вадзе ўся, а сагнула пальца, усё роўна паказвае, што «крук». І чалавек бачыць, што з ёю нічога не станецца, і дзеці пасірочу, і яе не навучу, вярнуў яе дадому і так да сіх пор мучаецца»[71].

Чараўніку ці чараўніцы дастаткова было «усяліць» чорта ў сваю абраную ахвяру. Кібарт згадваў: «Калі хочаш раз'яднаць закаханую пару, хлопца з дзяўчынай, трэба кінуць туды, дзе яны разам сядзяць, тры шарсцінкі з канца правага сабачага вуха — калі там знойдзецца крышачку доўгай поўсці; калі ж яе няма — з пучка, які ля пачатку

вуха. Тыя шарсцінкі абавязкова разлучаць закаханых. Гэта будзе чортава справа, які рады сеяць злое па свеце. За гэтыя паслугі чорт возьме тыя тры кінутыя шарсцінкі: нягледзячы на самыя пільныя пошукі, ніхто іх ніколі не знаходзіў пасля таго, як кінуў. Тыя шарсцінкі — сведчанне доўгу, прынесенага чалавекам, які пасля смерці мусіць іх выкупіць, выканаўшы тры работы, загаданыя яму нячыстым»[72].

Зайздросцілі маладым і прыгожым, шчаслівым і радасным і напускалі на іх «сварыспрэчкі», якія нікому не давалі магчымасці спакойна жыць. У запасе ў злых варажбітоў былі спецыяльныя замовы, што вымаўляліся выключна ў выпадках, калі неабходна было разладзіць сямейную жытку.

*«Воўк ішоў гарой, чорт ішоў вадой. Умесцы не сходзіліся, мыслі не мыслілі, пладоў не пладзілі. Пладавых рачэй не гаварылі, між сабою, як каты-сабакі жылі. Так штоб жылі Міхась і Таццяна. Умесцы не сыходзіліся, мыслі не мыслілі, пладоў не пладзілі, пладовых рачэй не гаварылі, між сабой, як каты-сабакі жылі. Сабака — белы, котка — шэры, ключ — замок словам маім»* (УЗ. Добр.);

*«Чорна-чорная хмара на неба ўсхадзіла, яснае сонца сабою закрыла; наносіла чорна-чорная хмара мглу і густыя туманы, напускала тугу і балезні розныя, чорную і белую раздору на людзей. Як тая балезнь-раздора ўсіх разедзірае і ад яе ніхто спакою нямае. Раба божая (Ганна), раб божы (Пятрок), каб вы між сабою ласкі не мелі, а адзін аднаго поедам елі, каб вы спакою не зналі, а адзін аднаго паядалі, злымі словамі зводзілі, кулакамі выраштали. Біліся каб, калаціліся, не спалі спакойна, не елі добра-ўежна. Каб тое, што і перападала, то на карысць вам не ішло. Злыя словы насылаю, сваімі чарамі-чараўніцамі замаўляю, на гэтую сям'ю свой праклён-заклён насылаю. Божа шчыры, цёплым ветрыкам тую хмару-хмарышчу разгані, нядобрую весць нагані. Каб тыя людзі між сабою дружбу не мелі, каб плакалі, пастаянна жалелі, што гора для іх прыйшло і іх знайшло. Сваім словам злым заклінаю, на іх нячыстае ўсё заклікаю. Бяда каб ніколі не мінала, а дзе яны жывуць, цвёрда знала»* (УЗ. Пн.).

Б'юцца паміж сабою, спрачаюцца, сварацца сямейныя людзі, а злыя чараўнікі толькі радуюцца, заўважаючы, як іхнія ахвяры няшчасныя паміж сабою калоцяцца. Ды і гэтага мала здаецца, бо ж, можа, яшчэ вядзьмар ці вядзьмарка і на дзяцей што-небудзь злое напусціць. Мала гэтага, найбольш баяліся ўсемагчымых прымхаў і забабонаў адносна напускання «порчы, хваробы» і г.д. цяжарныя жанчыны. Яны лічылі сябе найменш захоўваемымі і, адпаведна, найбольш па-

ражальнымі ўсялякімі злымі вачыма ды чорнымі словамі. Таму іх і саміх навучалі старэйшыя, каб «адшэптваліся» ўсёмагутнымі замовамі і прасілі за цяжарных жанчын-маладзіц знахароў ды варажбітоў, каб і тыя ўступаліся, давалі свае супрацьдзейнічаючыя ўсялякай слоўнай брыдоце шэпты.

На захаванне плода:

*«Першым разам, божым часам, Госпаду Богу памалюся і матцы Прачыстай пакланюся, стань жа ты, Гасподухначка, на помач рабе божай. Ішоў сам Гасподзь Ісус Хрыстос і вёў за сабой трох святых і трох апосталаў, і ўзыходзяць жа яны на Сіяньскую гару, і просяць жа яны ў Госпада Бога помачы рабе божай. І закаціся ж ты, закаціся, Сіяньская гара, яшчэ ж табе, раба божая, раджаць не пара; да ці рыбачка, ці вакунец, выдзяржы ж ты, пакуль выйдзе твой рачанец, без майго ведама, без майго чысла. А ты, суботачка мамачка, ты свет снавала і жываточкі сунімала, і кішачкі, і галовачкі сустанаўляла. І прашу цябе, Госпадзі, на помач рабе божай. Ад Бога помач, а мой дух»*[73].

Ці вось такая замова.

*«Першым разам, божым часам. Госпаду Богу памалюся і Матцы Прачыстай пакланюся з усімі сіламі нябеснымі. Кіеўскія, пячэрскія, усе праведнічкі прападобныя, станьце ж вы, гасподухначкі, на помач рабе божай.*

*Хіліца, ты царыца, радзіла ж ты дванаццаць сыноў, з дванаццаці адзінаццаць, з адзінаццаці дзесяць, з дзесяцёх дзевяць, з дзевяцёх восем, з васьмі сем, з сямі шэсць, з шасцёх пяць, з пяцёх чатыры, з чатырох тры, з трох два, з двох адзін. Той жа адзін старшы і большы, памажы і падымі і на месячку залатнічок пастанаві. Да не я ж цябе пару, да не я ж цябе адбаўляю, а цябе святая Сахвея пара і адбаўляе, залатымі ключамі замыкае і нямецкімі замкамі запірае. І залатыя тыны затыніцеся, і залатыя ключы замкніцеся, і царскія вароты затыніцеся і ка ўрэмені адчыніцеся. І ці рыбачка, ці вакунец, выдзержы пакуль табе выйдзе твой рачанец, без майго жала-чысла, без майго ведама. І Прасвятая Маць Багародзіца, сама ты раджала і нас саздала і нам помачы дала, і царскія вароты адчыняла-зачыняла. Святая серада, стань, гасподухначка, на помач рабе божай. Ад Бога помач, а мой дух»*[74].

П. Дземідовіч пісаў: «Чары на адносіны мужа і жонкі. Трэба, калі маладыя лягуць спаць, узяць з таго воза, на якім яны ехалі пад вянец, шворан і загваздку (яна павінна быць абавязкова жалезная) і перакінуць іх праз дах таго дома, у якім знаходзіцца шлюбнае ложа. Пры

гэтым трэба сказаць: «Як воз без шворана і загваздкі не паедзе, так няхай малады да маладой не пойдзе». Шворан звычайна зноў засаджваюць у воз, загваздку спальваюць у кузні ў горне на дробны парашок. Калі так зрабіць, то не толькі малады не пойдзе да маладой, але і «адрабіць» ніхто не зможа. Насуперак гэтаму раяць узяць сцізорык і перакласці яго ўпоперак пад маладымі, калі яны лягуць у шлюбную пасцель, нібыта штосьці разразаючы пад імі, а потым пайсці ад іх. У момант выхаду з пакоя нож трэба трымаць вастрыём уперад, самое ж вастрыё потым адпаліць і кінуць у кузні ў горан, каб яно там перагарэла на дробны парашок. Калі выканаць усё сказанае, ніякія чары не будуць мець сілы»[75].

Ведзьмары і вядзьмаркі, як толькі не ўхітраліся, каб нарабіць паболей зла людзям. У большасці выпадкаў яны дзейнічалі ўціхую, скрытна, але зафіксаваны здарэнні, дзе, наадварот, варажбіты стараліся выказваць свае пагрозы-пажаданні ўголас. Гэта рабілася для таго, каб чулі не толькі тыя, на каго яны скіроўвалі сваю ярасць, але і іхнія суседзі, і выпадковыя сведкі, каб і яны таксама спалохаліся і на будучае баяліся выказваць незадавальненне, станавіцца «ўдыбкі». Гэта **праклёны**. Мы бярэм за аснову ў сваім разглядзе толькі тыя, якія сыходзілі ад злых чараўнікоў і не бярэм (зусім!) у разлік тыя праклёны, якімі маглі «перамаўляцца» ў сям'і без нейкай там асаблівай злосці, або «размаўлялі» паміж сабою «добразычлівыя» суседкі і г.д. Прыводзім далёка не поўны пералік усяго таго, што варажбіт ці вядзьмарка маглі «пажадаць», увайшоўшы ў празмерную ярасць:

*«Каб твой двор парос быльнікам!»* (вядома, што дворышча парастае быльнікам тады, калі на ім ніхто не жыве, г.зн. — паміраe) (УЗ. Калінк.); *«Каб табе чорт парэзаў скуру на прывязкі»* (прама ўказваецца на залежнасць праклёну ад нячыстай сілы; згадванне чорта, нячысціка ў любым выпадку падкрэслівала «чорнае» значэнне вымаўляемых слоў) (УЗ. Калінк.); *«Каб цябе пранцы елі і тачылі»* (пранцы тут, як нейкая таямнічая невылечваемая хвароба, пошасць, паморак, хоць у першапачатковым варыянце — гэта французы, якія прыйшлі на тэрыторыю Беларусі ў 1812 годзе і, адпаведна, пакінулі пасля сябе пажарышчы і трупы людзей) (УЗ. Чач.); *«Папоўз бы ты пупом па жавінніку!»* (вядзьмар ад сябе жадаў чалавеку страшэннага болю ў жываце, ад якога б ён ажно «поўзаў на пупе» па смярдзючым зеллі — жавінніку) (УЗ. Чач.); *«Штоб ты лопнуў ды покнуў»* (гэта азначала, што чалавек павінен быў уздуцца да небывалых памераў, а ад гэтага — лопнуць і ў выніку «покнуць» — памерці) (УЗ. Чач.); *«А каб на цябе згуба!»*; *«А каб на цябе ліха прыйшло!»* (у абодвух вы-

падках кляцьба такога плану азначала не што іншае, як смерць) (УЗ. Светл.); *«А бадай ты чэмеру наеўся!»* (чэмер — атрутнае зелле, значыцца, такі чалавек павінен быў хутка памерці) (УЗ. Івац.); *«А каб ты скруціўся!»* (магло азначаць, каб ты паламаў рукі-ногі, а таксама другое, каб цябе скруціла хвароба так, штоб не мог устаць) (УЗ. Светл.); *«А каб на цябе карачун прыйшоў!»; «А каб ты астыў!»* (і першае, і другое азначала адно — смерць) (УЗ. Івац.); *«Агнём цябе запалі!»* (магло мець два значэнні: па-першае, прамое, маланка ці які іншы пажар папяліў, і другое, пераноснае, — гарэў у «гарачцы», тэмпературы, жарам цябе займала) (УЗ. Жлоб.); *«Бадай ты акалеў!»; «Амінь тваёй галаве»; «Галавой ты палажы!»; «Здубяней ты!»; «Дух з цябе вон!»; «Каб вы падохлі!»; «Каб ты здох!»; «Каб вас каршун падзёр»; «Каб ён не дажыў да святое нядзелі!»; «Каб ён сканаў!»; «Каб на цябе здахата прыйшла!»; «Каб на гэты род прыйшоў звод!»; «Каб табе навечна вочы пяском засыпала!»; «Каб табе пазвоннае ў труне звінела!»* (ва ўсіх гэтых выпадках словы былі надзвычай «чорнымі», зласлівымі і азначалі адно і тое ж — хуткую смерць праклінаемага чалавека (УЗ. Ст., Пн., Лун.).

Сустракаліся праклёны крыху «мякчэйшыя», бо ў іх асноўны акцэнт рабіўся ўжо не на саму смерць, а на хваробу, але невядома яшчэ, што лягчэй: памерці адразу, не хварэючы, ці дайсці, змучыўшыся ад усемагчымых боляў і г.д. *«Каб табе ў жываце рэзала!»; «Каб табе пярун голаў разбіў!»; «Каб табе лоб разнеслі!»; «Каб твае трыбухі на платах сушыліся!»; «Каб твае вантробы парвала!»; «Каб ты, Божа дай, так збялеў, як тая сарочка бела!»; «Каб ты дзень і ноч енчыў!»; «Каб ты здыхаў і жыць прасіў!»; «Каб ты корчыўся дзень і ноч!»; «Каб цябе трасца затрэсла!»* і г.д. Нават цяжка сказаць адназначна, чаго жадалі злыя языкі, калі праклёнамі ўсёмагчымымі праклiналі людзей. Маглі яны гэта рабіць з нейкай нагоды і ўвогуле без нагоды, проста так, у сілу асаблівых рысаў свайго характару.

Сустракаюцца варыянты, якія можна аднесці нават да «высокамастацкай» народнай паэзіі. Вядома ж, вызначэнне гэтае цалкам саркастычнае. Напрыклад, *«Штоб твае гаворкі — табе ў галоўкі, твае рэчы — табе ў плечы, твае думкі — табе ў тлумкі, твае словы — на тваю долю»* (УЗ. Калінк.); *«Каб цябе, Божа дай, сярчыстыя перуны расстралялі!»* (УЗ. Жлоб.); *«Каб цябе пярун забіў, а маланка пяты начышчала»* (УЗ. Івац.); *«Соль табе ў вочы, маланка ў зубы, громам па жывату, траскучае палена ў калена!»* (УЗ. Сл.); *«Каб цябе, па барадзе, цаглінкаю. Каб цябе, па каленцу, паленцам. Каб цябе, па руках, камень-камянях!»* (УЗ. Ст.) і г.д.

З праклёнаў перад намі яскрава паўстае тое, што было прадыктавана на працягу шматвяковага развіцця вясковаму жыхару — залежнасць чалавека ад прыроды, ад сацыяльна-эканамічнага ладу. Большасць жа праклёнаў — бытавыя, якія ўзнікаюць з розных нагод, з паводзін і ўчынкаў людзей у штодзённым жыцці. Іх маглі слаць і на людзей, і на жывёл, і нават на нежывыя прадметы.

Амаль усе праклёны маюць пастаянныя пачаткі-зачыны — каб ты (цябе, табе, вам), а каб цябе, бадай цябе, а няхай, хай і г.д. Да структурных асаблівасцей беларускіх праклёнаў можна аднесці паўтарэнне пачатку ў канцы выслоўя: *«Каб вы падохлі, каб вы!»*; *«Каб табе д'яблы скуру папісалі, каб табе!»*

Народ асуджальна ставіцца да злосных, «смяртэльных» праклёнаў, асабліва калі яны скіраваны да чалавека, да сваіх бліжніх, аднавяскоўцаў. У такіх выпадках можна пачуць: «Навошта так ужо заклінаць?» Сурова асуджаецца праклінанне дзяцей і зусім кашчунным, недаравальным, лічыцца кляцьба сваіх бацькоў.

Што ж заставалася рабіць чалавеку, на галаву якога, на ягоную сям'ю і сваякоў сыпаліся страшэнныя праклёны злых чараўнікоў-варажбітоў? Адклёны, якія таксама існавалі ў народзе, тут ужываць баяліся, бо хто ж асмеліцца стаць упоравень з ведзьмаком? Навошта павялічваць і так ягоную злосць ды раз'юшанасць? Тады карысталіся замовамі, якія называліся «Ад злога праклёну», «Ад праклёну».

*«Выйшла Каця на шырокую дарогу, а на шырокай дарозе прастол стаіць, а за прастолам Божам Мацер сядзіць, залаты ключ дзяржыць ад залатых варот. Госпадзі Божачка, Матачка найсвеншая, закрый маім врагам губы і зубы, язык, вочы і мозг, што яны спалістаялі, а супраць мяне (Каці) слова ніводнага не сказалі»* (УЗ. Гом.);

*«Госпаду Богу памалюся, святой Прачыстай Мацеры пакланюся, архангелаў да мяне прысылайце, на помач мне ўставайце. Як злое на мяне ўмысляць-кажуць, то няхай ім хваробы языкі завяжуць, каб яны дурнога болей ніколі не шапталі і сумленных людзей не займалі. Раз такое гора абярнулася, то каб яно да мяне спінаю, а да іх тварам павярнулася. Вецер хмары носіць, дождж з іх лье, няхай злыя словы да зямлі прыгне, на гнілыя балоты, на чорныя лясы занясе, там мохам укрые, вадою прылье, а цяжкім камянём прыткне. Каб ніякае слова мяне не чапала, як на гэтым было, дык так каб і стала»* (УЗ. Ст.).

Замовы такога плану, накіраваныя іменна супраць праклёнаў, сустракаюцца надзвычай рэдка. У асноўным жа людзі ад злых слоў выратоўваліся ўсеагульнымі замовамі, якія так і называліся «Ад усяго», ці «Ад featureрознага».

*«На гор-гарах, на божых славах, на гарэ Гранку, на востраве Бранку, там уснула дзева Марыя Багамацер. А прыйшоў да яе Ісус Хрыстос.*

*— Мамачка мая родная, ці ты спіш, ці ты адпачываеш?*

*— Сплю, мой сыночак, сплю, мой родненькі. Відзела я сон дужа дзіўненькі, што цябе на красце распіналі, кольем сэрца прабівалі, чорны веньчык надзявалі.*

*А ён кажаць:*

*— Мамачка мая родная, гэта не сон быў, а праўда была. А ў нядзелю раненька ўзышло сонца ясненька, матка сына за ручку водзіць, к сіняму мору прыводзіць. На сінім моры сіні камень ляжыць, на тым камені прастол стаіць, на тым прастоле тры кнігі ляжыць і тры свячы гарыць, сем ран раствароны, грэшная кроў пральёна. А прыйшлі да яго два апосталы, Пётр і Павел, ды гавораць:*

*— Ах, Божа мой, Божа, якая табе мука.*

*— Не жалей маёй мукі, бяры хрэст у рукі, ідзі па ўсякаму свету, расказвай старым і малым. Хто гэту малітву прачытаець, той у вагне не згарыць, у лесе не заблудзіць, а ў вадзе не патонець. Дай Гасподзь Бог пакаянным смерць і амін («Дасць Гасподзь Бог вялікую радасць і амін»* — варыянт канцоўкі)»[76].

Падводзячы рысу пад нашымі разважаннямі адносна ўздзеяння чорных варажбітоў на прыроду, прыродныя стыхіі, людзей, чалавека, мы павінны канстатаваць наступнае: у наш час многае з усяго гэтага адмерла беззваротна, перайшло ў разрад прымхаў і забабонаў (асабліва што датычыцца прыроды і прыродных з'яў), а засталося ва ўжытку толькі ўсё звязанае з чалавекам, ягонай працоўнай і грамадскай дзейнасцю.

# ХТО ЛІЧЫЎСЯ СЯБРАМ НЯЧЫСТАЙ СІЛЫ

Так ужо спрадвеку павялося, што ў народнай свядомасці сфарміравалася ўстойлівая думка адносна таго, што пэўныя групы людзей у залежнасці ад свайго занятку (прафесіі) хочуць яны таго ці не, але непарыўна злучаны з нячысцікамі. Такая сувязь перадавалася з пакалення ў пакаленне таксама незалежна ад волі саміх вяскоўцаў. Мы пералічым найбольш «рызыкоўныя» спецыяльнасці ў гэтым плане: музыкі, пчаляры, кавалі, пастухі, вінакуры і млынары. Паспрабуем даць ім падрабязную характарыстыку.

Трэба разглядаць адразу некалькі прычын, якія выклікалі такую павагу, шанаванне і... зайздрасць ды нянавісць у адносінах да носьбітаў вясковых заняткаў-рамёстваў, асабліва тых, дзе патрабавалася сапраўднае майстэрства, талент (музыкі, пчаляры, кавалі, млынары). Пастухі і вінакуры апынуліся ў гэтым пераліку хутчэй з-за таго, што былі звязаны адныя з жывёлай, і ад іх у многім залежала захаванасць асноўных карміцеляў любой сялянскай сям'і, а другія — вінакуры — напрамую лічыліся «братамі нячыстай сілы», бо разносілі, прадавалі, выраблялі той напой, які самага разумнага чалавека мог звесці з розуму, давесці да дурноты, да шаленства і г.д.

Музыка. У сваім нарысе «Дудар і музыка»[1] у якасці эпіграфа М. Нікіфароўскі прыводзіць народнае павер'е, якое ў многім тлумачыць нам некаторыя дзівацтвы з боку музыкі: «Ці праўда, ці не, але здаўніну кажуць старэі людзі, што калі йдзе ён, панець або шлёпніцца, там бізотменно пухуваны ёсць ці дудар, ці музыка». А ў А. Сержпутоўскага ёсць больш дасціпныя сведчанні: «Музыка ўжэ такі родзіцца, бо не кожны мажэ наўчыцца йграць, а музыка сам наўчыцца»; «З музыкі ніколі не будзе добрага гаспадара, бо калі музыка грае, то чорт скачэ»[2]. Тут падкрэсліваецца прамая сувязь паміж музыкай і нячысцікамі. Менавіта так, паводле народнага, тлумачылася ўвогуле з'яўленне музыкаў на белым свеце. Не нячысцікі кіравалі музыкай, а ад яго залежала, што надалей яны будуць рабіць, «пад якую дудку скакаць». Прыгадаем ранняе апавяданне Я. Коласа, якое таксама пацвярджае, што «калі музыка йграе, то ён чарцей вяселіць»[3]. І ці не таму ў народзе сцвярджалася: «Каб ведаў, што сын будзе музы-

каю, то лепш пахаваў бы яго маленькім»[4]. Тут у першую чаргу мелася на ўвазе не тое, што любы бацька быў супраць сына-музыкі, што ён пачне іграць, а тое, што музыка ў народзе амаль заўсёды асацыіраваўся з нядбалым гаспадаром, лайдаком. Маўляў, іграць яму ёсць час, але на полі працаваць, на ніве шчыраваць няма. Таму і торкалі ўсе пальцамі на ягоныя палоскі, таму і смяяліся, што ўсё пазарастала чартапалохам (зноў-такі!) і справы ў ягонай гаспадарцы ідуць намнога хужэй, чым у любой удавы. Ці не з гэтай нагоды сярод вяскоўцаў даволі часта гучала: «Купіў дуду на сваю бяду» або «Каб не дуда, то, пэўна, мінала б хату бяда». І ўласны лёс даволі часта жорстка абыходзіўся з музыкам. Нават нягледзячы на тое, што ён мог насуперак усяму быць добрым гаспадаром, шчырым працаўніком, усё роўна, паводле традыцыі, за яго замуж добрую дзяўчыну (працавітую, з пасагам) ніколі аддаваць не пагаджаліся. Вось тут і зразумей: з аднаго боку, пастаянна прасілі пайграць, павесяліць, дзяўчаты ласкава абыходзіліся, а з іншага — поўнае адмаўленне ўсяго станоўчага ў такім чалавеку. М. Нікіфароўскі з гэтай нагоды пісаў: «Самыя непрыступныя прыгажуні хіляцца да музыкі ў большай ступені, чым да сваіх прыхільнікаў, хлопцаў, з якімі яны «ламаюць» «Мяцеліцу» або «адкалваюць» «Лявоніху». Аднак далей такой ласкі яны не ідуць. Бацькі, а пад іх уплывам і іх дочкі лічаць, што скрыпач не накорміць жонкі і дзяцей»[5].

Гэтае ж самае пераканаўча сцвярджаюць вяскоўцы і ў наш час. Мала што змянілася ў поглядзе на музыку за многія стагоддзі. Ці ж не абразліва гучыць наступнае выслоўе: «Хлеў ракам, хата бокам, ды музыка з адным вокам!» (УЗ. Пн.). Нават ворагу свайму беларускі селянін не пажадаў бы, каб у ягонай гаспадарцы справы вяліся гэткім чынам. «Калі я маладою была, то прыгожаю была: рослая, валасы густыя-густыя па самыя калені. За мною ўжо хлопцы так і віліся. Адбою ад іх не было. Але мне да душы быў вясковы музыка. Такі ж прыгожы хлопец. Высокі, здаровы, хібу ніякага яму не дасі, ва ўсім спраўны. Ён мяне таксама прыкмячаў і нікога не паслухае, а раз я папрашу, дык гатовы іграць усю ноч навылет. Так мы і пакахаліся. Разважалі ж, як жыць далей станем. Падгаварыла я яго сватоў прысылаць, жыць, маўляў, разам станем, чаго ж ужо там. Толькі ж і не падумала б ні за што, што мае родныя так адмоўна да нашага шлюбу аднясуцца. Бацька, маці, дзед з бабуляй, нават брат старэйшы і той супраць! Бацька ўсё прымаўляў, што ў такой сям'і будзе гаспадар з дудою, а жонка з сумою! Не далі болей сустракацца, не пускалі на вечаркі да дзяўчат і неўзабаве прасваталі мяне за

другога. З багатай сям'і, добрага, але нешчаслівага. Узялі яго неўзабаве на вайну, адкуль ён так і не вярнуўся. Засталася я спачатку салдаткаю, а потым — удавою. А музыка той так і не ажаніўся. Жыў з бацькамі, якіх пахаваў неўзабаве. І хоць казалі, што ўсё музыкі лайдакі — гэты ж, наадварот, так адмыслова вёў гаспадарку! Вяскоўцы зайздросцілі, але нават і ўдавою за яго жыць не пусцілі ўсё роўна, баяліся, каб ён у далейшым не разлайдачыўся, бо тады б з усяго нашага роду смяяліся б» (УЗ. Драг.);

«Каб добры гаспадар ды сваю дачку замуж за музыканта аддаў, такога раней у нас і не чулі. Плюне ў адказ сярдзіта, ды сватоў, каб не лаяць, бо гэтага ні ў якім разе нельга было рабіць, за дзверы выправіць. А ўсё з-за таго, што ўсе пераканаўча верылі ў тое, што музыкант не можа даць шчаслівай долі сваёй жонцы ды дзеткам. Іграць, лічылі, — гэта адно, а працаваць-выжыльвацца — гэта зусім іншае. Не здольны на такое музыкант. Таму і дачок папярэджвалі адразу, што лепей аддаць за такога, які можа быць удаўцом, то жыць з тым стане, чым за таго, хто выцііньгвае на дудзе або на скрыпачцы. Яно то і сапраўды, неяк нібы спецыяльна падбіралася, што ні музыкант у навакольных вёсках, то гаспадарка ў яго запушчаная, дзяцей тых многа, усе галодныя, вечна плачуць ды верашчаць, нібы тыя цыганяты. Жонка задрыпаная, неахайная. Сварыцца з усімі, праклёнамі пагражае. Так, мабыць, спрадвеку і баяліся падобнай жыткі для сваіх дочак заможныя гаспадары. Музыканты ігралі, іх запрашалі, ім плацілі, але не болей таго. Ні пра якія сур'ёзныя адносіны з імі не магло весціся гаворкі» (УЗ. Ст.);

«Некалі ў нашай вёсцы адна дзяўчына ды павадзілася з музыкам мілавацца, то калі яе бацькі пра гэта даведаліся, дык ледзьве не забілі лупцуючы. Каб не суседзі адабралі, то яшчэ і невядома, чым бы гэта ўсё скончылася. Справа ў тым, што ў нас не дазвалялі з музыкамі гуляць. На такое магла асмеліцца хіба што дзяўчына з самай беднай сям'і, дзе бацькам за яе не было даць увогуле ніякага пасагу, ці якая салдатка або маладзіца-ўдава, якім не было ў гэтым плане чаго губляць, і яны не надта, каб каго баяліся. І музыка ведаў сваё месца. Смела гуляў з удовамі ды салдаткамі. Таму раней не дзіўна было пачуць, «байструк, байструк, цябе дудар здудачыў!», г.зн., што ягоным бацькам быў дудар-музыка. І невядома яшчэ, што было крыўднейшым. Само слова «байструк» ці тое, што яго «дудар здудачыў» (УЗ. Іўеўскі).

Таму раней надта і не здзіўляліся, калі чулі нешта падобнае на

5 Зак. 1962

наступнае выслоўе: «Музыка другіх весяліць, а сам плача ды ўздыхае, што долі не мае». У душы, відаць, усё роўна вяскоўцы шкадавалі музыкаў, бо ж выдатна ведалі, што займацца такім рамяством яны ўздумалі не па ўласнай волі, а іх прымусіла рабіць гэта нячыстая сіла, якая ад самага нараджэння запаланіла ягоныя жаданні. Адносна душы тут трэба быць асцярожнымі, бо ў народзе не гаварылася, быццам бы ўсе музыкі запрадалі сваю душу д'яблу. І як жа нам тады растлумачыць усёмагчымыя сведчанні пра тое, што музыка сваім граннем мог так зачараваць нежывую прыроду, што яна і лісточкам не варушыла падчас нейкага выканання мелодыі, або што жывёла таксама слухала чаруючую музыку. Адносна людзей, асабліва моладзі, дык і згадваць лішні раз не даводзіцца, хоць паскакаць пад музыку любілі ўсе, нягледзячы на ўзрост. Тут ужо не было асаблівай розніцы, на якім музычным інструменце выконвалася мелодыя. Галоўнае, што яна гучала! П. Шэйн пісаў: «Танцы пад музыку — найбольш любімая забава беларускай моладзі... З музычных інструментаў у мінулым для танцаў найбольш у хаду былі дуда і скрыпка, у пераважнасці першая»[6]. Па апісанні М. Без-Карніловіча: «У святочныя і нядзельныя дні сяляне са сваімі жонкамі і дарослымі дочкамі, прыбраўшыся ў лепшыя сукенкі, адпраўляюцца ў прыходскую царкву да абедні: адтуль яны вяртаюцца дахаты; другія, зайшоўшы ў карчму, у ёй застаюцца да ночы. У ёй у святочныя дні хлопцы з дзяўчатамі танцуюць пад скрыпку, а часцей пад свой народны інструмент дуду, падобную да валынкі»[7]. Звычайна дудар іграў выключна нацыянальныя танцы: «Мяцеліца», «Цярэшка», «Крутуха-Лявоніха», «Падушачка», «Кола», «Шастак», «Таўкачыкі», «Казак» і іншыя.

П. Шпілеўскі засведчыў крыху іншы аспект: «Пры партыі валачобнікаў заўсёды маецца музыкант, а часам і два, адзін са скрыпкай, другі з так званай дудой. Пры гэтым дуда выкарыстоўвалася для выканання зноў-такі танцаў: «Калі б якому-небудзь жартаўніку-гаспадару прыйшла ў галаву думка пазабавіцца іх пляскай пад дажджом і ў гразі, то знянацку раздадуцца пранізлівыя гукі дуды і натоўп для забавы гаспадара адпляша камарыцкага ці галубца альбо што-небудзь пад песню аб тым, як абадраны з абшарпаным пусціліся ў танцы»[8]. Найбольш яркае і рознабаковае ўяўленне аб ролі скрыпкі і скрыпача ў народным жыцці, аб іх удзеле ў традыцыйных каляндарна-абрадавых (земляробчых) і сямейных абрадах дае этнаграфічная літаратура другой паловы XIX — пачатку XX ст. Так, на Каляды скрыпач разам з іншымі калядоўшчыкамі

абходзіў адзін за адным вясковыя двары з віншаваннямі гаспадарам: «Як пачынальнік, ці запявала, лічыцца між калядніkамі патрэбным чалавекам, так калядніki не абходзяцца без дамарослага скрыпача, які не змаўкаючы наігрывае на двуструннай скрыпцы сваёю дарогаю ад хаты да хаты і на двары гаспадароў»[9]. Калядньмі вечарамі на вёсцы адбываліся маладзёжныя ігрышчы: «Для гэтага робяць складчыну грашыма, арэхамі і інш. і наймаюць аднаго або двух-трох музыкантаў-скрыпачоў. Пад гукі музыкі пачынаюцца танцы. Танцуюць «Казачка», «Кругавую», «Мяцеліцу», «Барыню», «Чыжыка», «Вераб'я», «Лявоніху», «Падушачку»[10]. Пачэснае месца займаў скрыпач і ў кампаніі валачобнікаў: «Збіраецца некалькі хлопцаў, на доўгую жардзіну нанізваюць кавалак сала, падбіраюць музыкантаў і са спевамі пад скрыпку і гармонік выходзяць на вуліцу»[11]. Музыка ў валачобных песнях часта з'яўляецца аб'ектам насмешак, кепікаў, якія раскрывалі якраз-такі тыя самыя рысы і асаблівасці, пра якія мы згадвалі вышэй: ляноту, незаможнае жыццё, а даволі часта і ўвогуле беднае, лічы, што жабрацкае існаванне:

У музыкі горкая доля:
Яго жонка ня любіць,
Ня любіць і ні цалуіць,
Дык назад адплюіць.

Ігру скрыпача можна было пачуць і падчас іншых вясеннелетніх абрадавых святаў. Напрыклад, на Купалу «пасля вячэры і папойкі, што адбываліся каля вогнішчаў, пачынаюць спяваць і плясаць, калі-нікалі пад скрыпку, калі знойдзецца скамарох. Скамароха са скрыпкай запрашалі і на дажынкі, дзе скакалі і пелі да раніцы»[12].

Як бачым, музыкаў запрашалі не толькі на вячоркі і вяселлі, але і на ўсемагчымыя іншыя святкаванні ды зборышчы, каб павесяліцца, паскакаць ды паспяваць песні. Толькі ж, паводле народнага, лічылася, што ўсёмагчымыя «скокі» і «гулі» — гэта «ад беса», што гэта ўсё выдумалі чэрці, якія надта ж любяць музыку. Мала гэтага, менавіта ён мае над імі неабмежаваную ўладу. Учытаемся лепей у сведчанні А. Сержпутоўскага: «Скокі ці танцы бываюць там, дзе толькі збярэцца моладзь. Калі няма музыкі, та й на языку скачуць. Так людзі скачуць толькі на вяселлі, на талацэ ці на якім-небудзь ігрышчы, да й то падвыпіўшы. Старыя ж дзяды і бабы скачуць толькі п'яныя, бо ведамо, п'янага чорт пад'юджвае на ўсяля-

кае ліхое дзело»[13]. У яго ж знаходзім і прамое ўказванне на тое, што гэта нячысцік навучаў людзей скакаць: «Скокам чорт наўчыў людзей. Скакаць грэх. Хто не баіцца граху да ўсё-такі скачэ, той толькі цешыць чарцей»[14].

Паводле ягоных дадзеных, вынікала і іншае, што менавіта музыка, якому тымі ж нячысцікамі была нібыта даравана неймаверная здольнасць кіраваць іншымі, мог утаймаваць нават самую раз'юшаную жанчыну. Прыгадаем, што, зыходзячы з вусна-паэтычных твораў, з жанчынай (бабай) не браўся вадзіцца-супернічаць сам чорт, бо такія адзінаборствы заўсёды завяршаліся не на ягоную карысць. «Кажуць, што музыка мажэ даць рады не то што ліхому жыўёлу, але нават і ліхой бабе, з якою ніхто не справіцца»[15].

Мы павінны агаварыцца, што такая роля музыку, якую мы разглядалі ў вышэйпрыведзеных прыкладах, адводзілася толькі на «ніжэйшым» (бытавым) узроўні, а вось калі гаворка датычылася вельмі таленавітага выканання («вышэйшага ігрння»), то тут узорамі ўсіх вусна-паэтычных твораў будзе народная казка «Музыка і чэрці». Працытуем яе цалкам, каб падкрэсліць усё ж, як высока ў беларускім народзе цаніўся сапраўдны талент. «Быў адзін музыка. З маленства ён нічога не рабіў, толькі іграў. Яшчэ хлапчуком пасе валоў альбо коней, зробіць з лазы дудачку ды як зайграе, дык валы пакінуць пасціся, развесяць вушы, да й слухаюць, а ў лесе птушкі прыціхнуць, нават жабы не крумкаюць. А як павядзе коней на начлег, — лета, ночы цёплыя, аж парыць; папрыводзяць на дуброву коней хлопцы, і дзеўкі з усяго сяла сваволяць, смяюцца, пяюць песні — ведама, маладосць, заўжды весела, а музыка як зайграе на сваёй дудачцы, дык адразу ўсе прыціхнуць. Ім здаецца, што якаясь слодыч улівалася ім у сэрца, а якаясь сіла ўхваціла на плечы і нясе ўсё ўгору, к ясным зорам, у чыстае неба, у чыстае, сіняе, шырокае неба. Сядзяць яны, нічога не думаюць, забыліся, што рукі і ногі млеюць ад цяжкай работы, што ў жываце бурчыць ад голаду. Сядзяць і ўсё слухаюць. І хацелася б ім сядзець гэтак усё жыццё і ўсё слухаць, як грае музыка. Вось ён замаўчыць. Але ніхто не смее паварухнуцца, каб не спужаць таго голасу, што пошчакам рассыпаўся па дуброве, па лесе і паднімаецца ў самае неба. Але вось зайграе музыка жаласліва, і заплачуць і лес і дуброва, набяжыць хмарка, і з неба слёзкі так і пальюць. Ідуць позна да гасподы мужыкі і бабы, учуюць тую музыку, стануць, слухаюць і плачуць. От так уся іх горкая жытка перад вачыма і стаіць, і такі іх апануе жаль, што і мужыкі, старыя,

барадатыя мужыкі, плачуць, як бабы над пакойнікам альбо як праводзяць сынкоў у салдаты. Але вось па немалым часе музыка ад жаласлівага да на вясёлае зверне. Пакідаюць мужыкі і бабы косы, граблі, вілы, гаршкі і біклагі, возьмуцца ў бокі і давай скакаць. Скачуць малыя дзеці, скачуць коні, скачуць кусты і лес, скачуць зоркі, скачуць хмаркі — усё скача і смяецца.

Вось такі-та быў музыка-чарадзейнік, што захоча, то ён з сэрцам зробіць.

Падрос музыка, зрабіў сабе скрыпачку і пайшоў у свет. Куды прыйдзе — пайграе, а за тое яго пакормяць, напояць як самага лепшага госця і яшчэ дадуць на дарогу. Доўга хадзіў так па свету музыка, весяліў добрых людзей, а ліхім без нажа рэзаў па сэрцы.

Бачаць чэрці, што куды музыка прыйдзе, там менш людзі грэшаць, і давай вастрыць на яго зубы. Ідзе раз музыка цераз лес, а чэрці й наслалі на яго дванаццаць галодных ваўкоў. Заступілі яны музыку ў лесе дарогу, стаяць да зубамі ляскаюць, а вочы гараць, як гарачае вуголле. Няма ў музыкі нічога ў руках, толькі пад пахаю ў мяшочку скрыпка. Што тут рабіць! Думае музыка, што тут пачаць. Прыйшоў яму канец. Дастаў ён з мяшэчка скрыпку і смык, каб хаця яшчэ раз напаследак пайграць, прысланіўся к дзераву, да й пацёг смыкам па струнах. Як жывая загаварыла скрыпка, раздаўся пошчак па лесе. Прытаіўся лес — і лістком не варухне, а ваўкі як стаялі, разявіўшы горла, так і акамянелі: стаяць да слухаюць, а слёзы так і цякуць з воўчых вачэй. Перастаў музыка іграць, а ваўкі, бы сонныя, пасунуліся ў лес.

Пайшоў музыка далей. Ідзе ён да ідзе, падходзіць к рацэ. Сонейка ўжо закацілася за лес, толькі яшчэ свеціць на самыя вярхі і як бы аблівае іх пазалотаю. Ціха, як у вусе, ніводзін лісток не варухнецца. Вельмі харошы вечар. Сеў музыка на камень на крутым беразе, каля ракі, дастаў сваю скрыпачку і зайграў, да так гожа, што яго заслухаліся і неба, і зямля. І давай усе скакаць. Зоркі мітусіліся, як зімою снег, хмаркі плаваюць па небе, як ластаўкі перад дажджом, а рыба так узгулялася, што рака кіпіць, як вада ў гаршку. Але вось падняўся ў рацэ вадзяны цар да як пачаў скакаць, дак вада так запляскала, што заліла берагі, а чэрці спужаліся і павыскаквалі з вады. Бачаць яны, што ім ад музыкі супакою нідзе няма, вось яны давай думаць, як бы яго загубіць. Бачыць музыка, што вадзяны цар нарабіў людзям бяды, перастаў іграць, палажыў скрыпачку ў мяшок і хацеў ісці далей, але вось падходзяць два панічы і просяць

пайграць на ігрышчы, абяцаюць заплаціць, што схоча. Падумаў музыка, што яму недзе начаваць да й грошай няма, паслухаў панічоў і пайшоў з імі іграць вечарынку. Прывялі панічы музыку ў палацы. Бачыць ён, аж там паноў і паненак хоць гаць гаці. Пакуль ён збіраўся іграць, бачыць, што гэта ўсё панічы — падбягуць к сталу, абмочаць палец у міску і мажуць сабе вочы. Памазаў і ён, да як памазаў, дак і бачыць, што гэта не паны, а чэрці і ведзьмы, й што ён не ў палацах, а ў пекле. Вось і зайграў ён, да так, што ўсё пекла разляцелася ў шчэпкі, а чэрці разбегліся па ўсяму свету. З тае пары чэрці і баяцца музыкі і больш яго не чапаюць»[16].

Тут музыка — адоранейшы чалавек, які гаспадарыць над усім чыста светам, якому ўсё падуладна. Цікава і тое, што ў сваім творчым шляху ён праходзіць адвечны шлях градацыі: ад дудара да скрыпача. Калі на дудачцы мог іграць амаль што любы чалавек, падбіраючы нейкія просценькія мелодыі, то скрыпка была падуладна далёка не кожнаму. Толькі таленавіты чалавек мог зайграць так, што пачыналі плакаць, прыгадаўшы сваё мінулае, мужчыны, не гаворачы ўжо пра жанчын. Ад чароўных зыкаў такога музыкі скакалі і танцавалі не толькі людзі, але і рыбы, і жывёлы, і сам вадзяны цар. Болей таго, ён прымусіў паўцякаць з пекла чарцей, пазбавіў іх адвечнага прытулку. Здавалася б, музыка звязаны з нячысцікамі і павінен, па логіцы, знаходзіцца на службе ў іх, дапамагаць і г.д. Аднак усё атрымалася наадварот, бо музыка аказалася смяротнай для чарцей, і таму гаварыць пра тое, што музыка знаходзіўся на службе ў нячыстай сілы, нам не выпадае, бо ўсе цяжкатлумачальныя аспекты ў гэтым пытанні ўпіраюцца толькі ў яго-ную адоранасць, талент, якія не былі зразумелы сучаснікам. Чаму ён не такі, як усе, — вось тое пытанне, якое і выклікала ўсемагчымыя фантастычныя тлумачэнні, прымхлівыя аповяды адносна майстэрскага музычнага выканання.

З музыкай і музыкамі ў вусна-паэтычнай творчасці надта цесна звязаны вінакуры і піваварьі ... п'яніцы. Спрадвеку лічылася, што далёка не кожны чалавек пойдзе скакаць пад музыку, няхай сабе яна была самай вясёлай, што гэта ніхто іншы, як чэрці яго падбівалі, каб потым пасмяяцца, паздзекавацца. Для гэтага ўсяго менавіта яны, нячысцікі, выдумалі і ўвялі ў шырокі ўжытак віно ды гарэлку, якія раней і называліся ці «чартоўскім пітвом», ці «чартоўскім зеллем». Ад гарэлкі ўсё благое на свеце пайшло, вядзецца і весціся будзе. Прыгадаем шырокавядомую беларускую казку «Як Мікола з Пятром навучыліся ў чорта водку гнаць»:

«Ішоў Бог са святымі па зачацці свету; відзяць яны, што курыцца аганёк. Бог і пасылае Міколу з Пятром паглядзець, што гэта такое.

Прыйшлі, глядзяць: чорт водку гоніць.

— Хаціце — паспрабуйце!

Паднёс ім водачкі з жалудовай чашачкі. Спадабалась — выпілі па другой. Харошая водачка была ў чорта, заматаліся святыя, толькі што бадрацца, вусы свае прыгладжваюць.

Прыйшлі к Богу, хоць і не гаворацъ, што паспрабавалі трохі чортавай водачкі, ну Бог гэта харошо знае.

— Чорт водку гоніць.

— Ну, ладна! Ідзіце сабе к яму, пахмяліцеся.

Пахмяліліся. Назад к Богу ідуць ужо бодра, весела, панаўчылісь, як водку гнаць, і кажуць:

— Устроім і мы такую штуку, як чорт, штоб водку гнаць»[17].

Тут нават святыя Пятро і Мікола не ўтрымаліся і перанялі ад нячысціка ўменне гнаць гарэлку. Далася яна ў знакі беларускаму селяніну! Нездарма тых, хто прадаваў гарэлку (віно) у народзе называлі не іначай як «чортавымі дзецьмі», ці «чортавымі служкамі». М. Нікіфароўскі справядліва адзначаў, што «карчмары абдурваюць сялян, карыстаюцца абставінамі іх нялёгкага жыцця, імкнуцца пераканаць, што ў іх гарэлка самая лепшая і таннейшая. Калі ж п'юць гарэлку? Перш за ўсё пры частаванні гасцей, калі бягуць за гарэлкай на адной ножцы, і гаспадар часам жартоўна скажа: «Насі, Бог, гасцей пачасцей — дык і гаспадару будзіць памяншэй...»

...П'юць гарэлку і тады, калі збярэцца пэўная «кампанія», якая нярэдка ўзнікае стыхійна, не ў хаце, не ў сям'і. «Пітушчыя» называюць гарэлку вадзіцай аржаною, аржанушкай, святлушкай, весялушкай, чарнушкай, забярушкай, насніцай, акаянніцай, гарэліцай і інш. Сярод аматараў выпіўкі існаваў свой лексічны жаргон. Калі чалавек выпіваў звыш меры, гаварылі: «забіць, зарэзаць, задушыць, загрызці, заесці, перакуліць, шлёпнуць, хапіць, закалупіць муху, заламіць мядзведзя, мядзведку». Калі напіваўся да страты свядомасці — «як зюзя назюзіўся», «з капылля далоў», «схапіць праз край», «запусціць у шулумейку», «заліць вочы». Ён жа тлумачыў і некаторыя выразы, напрыклад, «званіць келішкамі» — п'янстваваць вельмі часта; «кланяцца шкляному богу» — піць няспынна; «прамачыць горла, спаласнуцца» — выпіць чарку, выпіць дзве гарэлкі, «зубы спаласнуць» — пахмяліцца і інш.»[18]

П'янства пастаянна адносілася вяскоўцамі да сацыяльнага зла, якое негатыўна ўздзейнічае на жыццё сялян. Таму і не дзіўна, што ўсёмагчымых карчмароў-арандатараў, шынкароў-гарэлачнікаў

людзі залічвалі да служкаў нячыстай сілы. Мала таго, што яны сваімі дзеяннямі прыносілі вялікае зло ўсім сумленным жыхарам, дык лічылася, што ўсе гандляры гарэлкай дабіваюцца толькі аднаго: узбагачэння за кошт іншых. Такія карчмары не маюць сумлення, бессаромна аблічваюць сваіх наведвальнікаў, прымушаюць іх потым доўгі час выплочваць грошы, якія, нібыта тыя п'яныя, бралі ў пазыку і г.д. А хто ж там дакажа, колькі выпіў ды што рабіў, калі нічога не памятаеш. Праўда, усе амаль аднагалосна сцвярджалі, што нарабаванае тое багацце-дабро не ішло карчмару на карысць. Сам ён хадзіў абартое багацце-дабро не ішло карчмару на карысць. Сам ён хадзіў абарваны, у рызманах, напаўголы, брудны. Гэтаксама ж выглядалі і ягованы, у рызманах, напаўголы, брудны. Гэтаксама ж выглядалі і ягоныя дзеці ды жонка. Падкрэслівалася і тое, што пераважная большасць карчмароў была яўрэі (іх называлі ў беларускіх вёсках і мястэчках «жыдкі»). «Мой дзед расказваў, што яшчэ ў даўнія гады ў Пагосце (Пагост-Загародскі — мястэчка ў Пінскім раёне. — *А. Н.*) было дзве карчмы. І трымалі іх два браты — Шмуль і Сроль. Жыдкі. Іх ніхто ніколі па-іншаму і не зваў. Яны на гэта не крыўдавалі, але былі надзіва помслівыя. Вось калі які чалавек ім не спадабаецца, то зробяць у сваіх корчмах так, што ён прап'ецца дазвання ды яшчэ і ў пазыку залезе. А што, хіба п'яны памятае, што да чаго? Яго напояць, а потым ужо якую хочаш плату і скажуць. Не можа чалавек грашыма аддаць, то вымушаны адрабляць сам, з жонкай, з дзецьмі, расплочвацца збажынай ды жывёлай. Пачне гаварыць, што не піў, не браў грошай гэтулькі ў пазыку, дык жыдок і патрэбныя паперы справіць, і ў суд валачэ, сведак сваіх пры гэтым маючы. На Шмуля і Сроля казалі, што яны з нячыстай сілай зналіся. Тлумачылі гэта тым, што вельмі ж усё ўжо ім з рук сыходзіла. Мала гэтага, дык напусцяць яшчэ нейкага дурману, і чалавек, хоць і выпіў зусім мала, увогуле нічога не памятаў. Так пра іх гаварылі, падазравалі, але ў адкрытую абвінаваціць баяліся, каб яны чаго дурнога на ўсіх родных не накінулі. Ажно гэтыя падазрэнні людскія і спраўдзіліся. Неяк у нас стала надта дружная вясна. За лічаныя дні ўсё растала, вада пазалівала наваколле, трэба было на чаўнах ад хаты да хаты плысці. Вяселле некага ў ваколіцы было, і паперліся, мабыць, з хаты выбраліся на змярканні ў Пагосцкую царкву. Дык коні людзей у возера ўнеслі. Тады многа людзей патапілася. Не маглі зразумець, чаму так здарылася. Ажно на другі дзень усё стала на свае месцы. Аказалася, што той ноччу Шмуль памёр, а раз памёр чараўнік, то ў гэты час не менш як дванаццаць д'ябальскіх вяселляў, падчас якіх абавязкова гінуць ні ў чым не павінныя душы. Тут усім і дайшло, што ўжо, будучы, мёртвым жыдок Шуль усё роўна напаскудзіў людзям. Такое было некалі на са-

мой справе. Даўней пра яго часта згадвалі, але потым забыліся» (УЗ. Пн.);

«У нас раней усялякія страхі пра карчмара расказвалі. Даўно тое было. Як бы там ні круціў, а казалі, што карчмар, якога звалі Іцка, знаўся з нячыстай сілай. Хітры быў жыдок, а сквапны ўжо такі, што ніхто, выходзіла, бядней за яго ва ўсім наваколлі не жыў. Вопратку і тую, магчыма, за жабракамі даношваў, не гаворачы ўжо пра ягоных дзяцей ды жонку. Але так абдзіраў людзей, што ішлі да яго толькі ў выпадку самай пільнай неабходнасці. Блісне карчмар чартоўскімі вачыма, прыгнецца, рассыплецца ў пахвальбе сустрэчнаму, і лічы, што няма ў чалавека апошніх капеек. Забярэ той вядзьмар амаль за так. Гарэлкі ў яго многа нават самы моцны чалавек выпіць не мог, бо памяць адразу ж траціў. Нейкае чартоўскае зелле Іцка падмешваў. Глянеш, кілішак той малюсенькі, а здаравіла-вясковец пару іх вып'е і ўжо носам у стол дзёўбае. Ачмурэе, нічога не памятае, карчмару ж такое і трэба. Чалавек устае, а ён яму даводзіць, што той ужо надта многа вінаваты, і паперыну пад нос торкае, дзе нібыта ўсё пазначана. Селяніну хутчэй бы ад людскога сораму схавацца ды прасіць адно — жонцы не гаварыць, каб ніхто лішні не ведаў. Маўляў, адпрацую, адплачу, але нікому не гавары, не даводзь да вушэй. А адзін дзед у нас жыў, дык той на свае вочы бачыў, як з карчмы чэрці выляталі. Раз нячысцікі выляталі, то, значыцца, яны з гаспадаром хаўрусавалі. Той дзед ніколі ў жыцці гарэлкі ў рот не браў, таму яму і паверылі, іначай бы ўсё на п'янку спісалі. Стары шукаў карову, якая з пашы дамоў не прыйшла, і зайшоў на ўзлесак. А карчма Іцкава і стаяла за вёскай, на перакрыжаванні дарог — гэта для таго, каб людзей болей у яе наведвалася. Дзед казаў, што ўжо была глыбокая ноч і ён павярнуў дамоў, бо каровы не знайшоў тут і спадзяваўся на тое, што яна ўжо сама дамоў прыплялася. Параўнаўся з карчмою, і тут у яго валасы на галаве дыбам узняліся. Прама перад ім з коміна выляталі чэрці. Адзін, потым другі. З хвастамі, як мае быць. З рагамі. Лахматыя такія. Выляталі пасвістваючы і ляцелі ў бок балота. Тады людзі, пачуўшы такое, перасталі хадзіць у Іцкаву карчму, а недзе праз месяц яна згарэла ясным полымем сярод ночы. Спалі ўсе глыбокім сном, а калі прачнуліся, то карчмы болей не было. Праўда, на пажарышчы было надта многа нейкіх незразумелых слядоў. Здзіўляла і тое, што яны былі нароблены за такі кароткі прамежак часу. Гэта давала лішнія падставы для таго, каб гаварыць пра сувязь Іцкі з чарцямі. Тым болей што потым ні яго самога, ні каго з ягонай сям'і ніхто ўвогуле не бачыў» (УЗ. Ганц.).

Музыкі і карчмары-арандатары (вінакуры) у народнай свядомасці неслі на сабе многа адмоўнага, прадстаўнікі іншых «прафесій-спецыяльнасцей», якія мы будзем разглядаць ніжэй, наадварот, мелі значна болей станоўчага.

Паводле народнага, атрымлівалася, што нячысцік не надта любіць агонь, вогнішча і чалавека, які валадарыць над зырка-гаваркім тварэннем, стыхіяй прыроды. Яно то і зразумела, бо агонь ці нешта чырвонае, што асацыіравалася з золкам, раніцай з'яўлялася той крайняй мяжою, калі ўсялякая, нават самая моцная сіла, траціла ўладу над людзьмі, над наваколлем. Сімвалам-прадвеснікам гэтага быў певень. У народнай міфалогіі ён так і называўся «прадвеснікам знішчэння нячыстай сілы». Сам каваль, які пастаянна знаходзіўся побач з агнём, жыў і тварыў, дзякуючы яму, для нячысціка ён асацыіраваўся з тым самым полымем, якое чорта часта вельмі балюча карала. Ёсць яшчэ адна немалаважная прычына: чаму менавіта каваль быў актыўнейшым ворагам нячысціка ў народнай вусна-паэтычнай творчасці. Справа ў тым, што іменна каваль з'яўляўся ў вачах сялян чалавекам, які валодаў значна большымі практычнымі навыкамі, чым астатнія. Там, дзе іншыя бачылі нейкія праявы нячыстай сілы, нячысцікаў, чарцей каваль даволі часта мог растлумачыць большасць гэтага, зыходзячы з запасаў сваіх практычных навыкаў, таго, што ведаў сам, а даволі часта і бачыў нешта дзіўна-незвычайнае ў стамляльным працэсе фізічнай працы. Гэта з аднаго боку. А з другога — атрымлівалася адваротнае: народныя дарадцы, не маючы магчымасці растлумачыць тыя, даволі незвычайныя для людзей вырабы, самі прыпісвалі кавалю заведама свядомае сяброўства з чарцямі (нячысцікамі). Тут ужо мясцовы штукар выступаў сапраўдным злыднем, які толькі і пільнаваў той момант, каб урваць ад сваіх землякоў што даражэйшае. Такі ўжо выручыць не згаджаўся нават самага беднага селяніна, бо для яго галоўнейшым у жыцці былі грошы, і ні ў якім разе нішто іншае. Дарэмна было да яго звяртацца з нейкім маленнем, што, маўляў, потым адпрацую, адплачу, калі з'явіцца які грош, то адразу ж і прынясу. Не, тут такое не праходзіла. Плаці зараз жа, а няма грошай, не можаш разлічыцца, то лепей і не падлазь, бо яшчэ і абняславіць перад усімі людзьмі. «Быў у нас каваль у даўнія часы. Жыў сам, у хаціне на водшыбе. Тая мясціна і зараз Дзікім хутарам завецца. Спачатку то чалавек як чалавек быў, нічым сярод іншых не вылучаўся. Малады, высачэнны ды здаравенны, што той мядзведзь быў. А загаворыць, дык не раўнуючы, што той гром з неба загрыміць.

Такі ўжо голас чысты і зычны меў. Надта ж майстравіты быў. Што хто з вяскоўцаў папросіць ці дзе сам ненарокам убачыць, то ўмомант і пярэйме. Адштукуе так, што вачэй не адарвеш! Няма грошай у гаспадара, дык напавер дасць, пачакае ці скажа, каб потым дапамог у чым, а шкуры з людзей ніколі не драў. Сам ведаў, што вяскоўцам не соладка жывецца. Так усё вялося-доўжылася да таго самага часу, пакуль каваль не закахаўся ў адну вясковую дзяўчыну. Важная была, прыгожая, нічога не скажаш. Толькі баяліся людзі яе матулі. Гаварылі, быццам бы яна з нячыстай сілай маецца, шкоду-порчу ўсялякую самастойна наслаць можа. Вось толькі каваль з дзяўчынай зсябраваўся, то і сам стаў на вачах мяняцца: па-першае, амаль перастаў з людзьмі размаўляць; па-другое, калі нешта каваўвырабляў, то адразу ж папярэджваў, што працуе толькі за грошы і каб аддавалі іх адразу, іначай і молатам па кавадле не стукне. Што ж вы думаеце? Людзі сталі да яго ўсё меней і меней звяртацца, бокам хутар той абыходзілі, бо загаманілі, што ўсялякія нячысцікі там у вячэрні час збіраюцца, і туды лепей не паказвацца, бо можна назад увогуле не вярнуцца. Аднаго разу сярод ночы пачалі крычаць у вёсцы людзі пра пажар. Паўсхопліваліся ўсе, павыскоквалі з хацін, глядзяць, ажно на самой справе гарыць-шугае той хутар зыркім полымем. Пабаяліся ноччу бегчы туды, а магчыма, не пажадалі, наадварот, падаліся толькі пад раніцу. Нічога цэлага не засталося. Адна толькі кузня, задымленая ды пахіленая, стаяла самотна. Спачатку не адчынялі яе дзвярэй, але потым найбольш смелыя адважыліся на гэта. Не, самога каваля і ягонай жонкі-маладзіцы там не знайшлі, іх і след прастыў, затое ўбачылі вялізны мех, набіты гнілымі трухлякамі ды лісцем. Тут ужо спрактыкаваныя людзі адразу адзначылі, што гэта ў іхператварыліся залатоўкі-грошы, за якімі так трымцеў сквапны каваль. Пасля гэтага здарэння хутар стаў зарастаць і ператварыўся ў дзікую, непралазную мясціну. Так і стаў пазней называцца Дзікім» (УЗ. Лун.).

У некаторых выпадках сцвярджалася здольнасць нячысціка назаўсёды завалодваць душою, целам чалавека, ягонымі нашчадкамі. І вось сярод людзей была асоба, якую заўсёды люта ненавідзеў чорт, гатовы быў у любы момант над ёю паздзекавацца, нярэдка да самой смерці, — гэта каваль. «У адной з вяцкіх казак распавядаецца пра смелага каваля, які кожны дзень дражніў чорта. У кузні яго вісеў Божы воблік — абраз, і карціна з чортавым адлюстраваннем. Каваль Богу памоліцца, а штаны здыме — сракай нячысціку пакланіцца. Прыйшоў да яго чорт у чалавечым вобліку наймацца работні-

кам. Так выбіваў — усе здзіўляліся, дзень і ноч ішоў у кузню народ, грошы не паспявалі атрымліваць. Калі тэрмін дагавору з работнікам-чортам стаў набліжацца да канца, нячысцік запрасіў яшчэ дваіх чарцей, каб яны прыйшлі ў кузню старымі дзядулькамі. Старымі дзядулькамі і з'явіліся ў кузню нячысцікі. Работнік і кажа: «Ой, вы, дзядулькі! Надта ж вы старыя. Ці не жадаеце вы перакавацца са старых у маладых?» Тыя пагадзіліся, і давай чорт іх перарабляць. Распрануліся старыя, а работнік гаспадару крычыць: «Не хвалюйся! Як я іх абцугамі вазьму, у гарно закачу, то ты накальвай, як мага болей мясі іх!» Выцягнулі старога з гарна, кінулі на накавадла і такога малайца вырабілі, што ён на аднойназе з кузні выскачыў. Атрымалі з абодвух старцаў пяцьсот рублёў, чорт-работнік іх тут жа ў скарбонку апусціў — маўляў, памятай мяне! — а сам адразу ж разлік папрасіў»[19].

«Атрымалася не надта зайздроснае становішча, бо, як і было задумана нячысцікам, каваль спакусіўся на вялікія грошы. Але ягоны стары, які папрасіўся падмаладзіцца, аказаўся... не чортам, а звычайным панам. Падчас кавання ён памёр, а каваля-злыдня забірае станавы прыстаў ды адпраўляе па этапе ў Сібір за наўмыснае забойства. Аналагічны казачны сюжэт сустракаецца і ў беларускім фальклоры і адрозніваецца ён толькі некаторымі не надта істотнымі акалічнасцямі. Так, беларускі каваль «не паказвае сраку чорту», а «плюе яму ў дрэнна намаляваную рожу», «выпраўляе-маладзіць не старых дзядуляў, а старых, ссохлых паноў-багацеяў», «не адпраўляе яго ў Сібір па этапе, а даводзіцца сквапнаму да грошай кавалю самому адкупляцца ад чорта, і, мала гэтага, даводзіцца яшчэ ісці «ва ўслужэнне да чартоў» ажно на тры гады, а за гэтыя гады яны яму страшэнна надакучылі, бо вярнуўся да вольнага жыцця каваль ужо старым, саслабелым чалавекам. Здароўя ж, як вядома, ні за якія грошы не купіш» (УЗ. Лун.).

А. Сержпутоўскі згадвае ў сваіх запісах крыху іншы аспект, дзе гаворка вядзецца не пра нейкія павер'і, цудадзейнасць, а пра прымхлівасць, празмерную забабоннасць у поглядах на кавальскае рамяство. «Каваль знаецца з нечысцю, бо ён вырабляе такія рэчы, што так чалавек сам ніколі не зробіць, калі яму нячысцік не дапаможа. Ось у Гаўрыльчычах быў каваль, — можа, вы й зналі яго. Не... Ну дык, от бачыце, што ён зрабіў. Бы якісь маленькі святок, не памятаю добрэ, Міколін бацько, ці што. Людзі святкавалі, ведамо, вясною такое пілнае работы нямаш; пасеялі збольшаго, дак і святкуй.

Сядзяць сабе на прызбах, кураць люлькі да гамоняць аб том аб сём. Толькі кавалю не святкуецца, — мабыць, захацеў выпіць; от ён атчыніў кузню да й давай там штось пляскаць. Назбіралася туды мужчын. Гамоняць яны, строяць кпінкі з каваля, а той кажэ, што ўсе яны проціў яго тфу! Да ось узяў ён кусок жалеза, накаліў яго ў горыне так, што яно ажно зрабілася белае. Не паспелі яны аглянуцца, як каваль абмачыў руку ў карытца з вадою да хоп за тое жалеза, бы аскабалак дзерава, да й шыбануў вон з кузні. Каля кузні ляжала калясня, дзе нацягваюць абады, дык на яе як упала тое жалеза, яна й загарэлася. Ну, без рукі каваль! Зірнем мы, аж рука хоць бы што, быццам ён ёю за хлеб дзяржаўся, а не за гарачае жалеза. Дак от тагды мы ўсе пазналі, што яму нячысты памагае, да й хутчэй павялі яго ў карчму да давай паіць, давай гадзіць, няхай яму ліха да й бяда»[20].

Канкрэтна названы мясцовасць, чалавек, і, здавалася, можна было б не сумнявацца ў яго рэальнасці, аднак надта ж ужо замоцны тут наплыў прымхлівасці і цемрашальства, што прымушае нас адназначна аднесці гэты выпадак да тых здарэнняў, якія звычайна характарызуюцца намі як фантастычнае здарэнне.

Цікава будзе адзначыць і той факт, што ў адвечную барацьбу Перуна (Іллі) з чортам станоўчыя персанажы беларускага фальклору амаль ніколі не ўмешваліся, нават казачныя героі-асілкі. Працяглай была барацьба язычніцкага бога з нячысцікамі, і селянін лічыў, што лепей трымацца ў баку ад чужых спраў: «Лінуў дождж. Падняўся Каваль-багатыр з-пад дуба, выбраў густую яліну і лёг пад ёю, каб дождж не даставаў. Ляжыць і любуецца, як Пярун чарцей палюе»[21].

Ці вось такі прыклад: «Паклікаў Бог Пятра й кажа, што няхай трохі Ілья папалюе чарцей. А Ілья тым часам падыме такія грымоты, што аж зямля стогне: няма ні дня, ні ночы; хмары таўкуцца, як уюны ў рэшаце; на небе кіпіць, як у гаршку; маланка бліскае, аж у вачах цёмна становіцца, а Пярун смаліць раз-пораз, паласуе хвоі ды дубы ды паліць будоўлю або стагі. А Ілья едзе сабе па небе да камандуе: «Так-так-так! Го-го-го! Яшчэ, яшчэ... Лупі, лупі яго, гада... У патыліцу, у патыліцу лупі яго, гада! Трах-трах! Так-так-так! Го-го-го!» Просяць людзі на прамілы Бог, каб уняліся грымоты, а Ілья не слухае»[23]. Дык вось гэты самы Пярун-Ілля і адпускаў кавалю (ці проста селяніну-працаўніку) грахі, калі небарацы-чалавеку нейкім чынам перападала з-за чарцей.

Каваль застаецца кавалём заўсёды, у любой сітуацыі, якой бы

складанай і непрадказальнай яна ні была. І хоць яго не так часта, як людзей папярэдніх прафесій, адносілі да служкаў нячыстай сілы, тым не меней яго згадвалі ў непасрэдным спалучэнні з чарцямі ды ўсё-магчымымі іхнімі хаўруснікамі.

Надта паважалі, а заадно і баяліся вяскоўцы млынароў-мельнікаў. Зноў-такі тут асноўны акцэнт рабіўся ў бок іх прафесійных заняткаў, бо лічылі сяляне, што такія людзі абавязкова павінны знаходзіцца ў блізкай сувязі з нячыстай сілай, раз валодаюць здольнасцямі ўтаймаваць вецер і ваду, прымусіць стыхію працаваць на сябе, прыносіць вялікі прыбытак, і, адпаведна, з'яўляюцца самымі сапраўднымі чараўнікамі: тая ж магутная прыродная сіла, разбураючы ўсё навокал, тым не меней пакідае некранутымі іхнія млыны. П. Шэйн пісаў з гэтай нагоды: «Дрэнным быў бы той млынар, які б не ведаў, як дагадзіць вадзяніку, ці ляснік, які жыў бы не ў ладах з лешаком, ці пастух, які не ўмеў бы зачараваць жывёлу ад звера ці выгнаць хлеўніка. Кожны з іх павінен ведаць сваю спецыяльнасць добра, павінен умець карыстацца сілаю свайго «нячысціка». Таму мельнікаў з ветракоў запрашаюць лячыць падвей. Млынары з вадзяных млыноў умеюць даць вады, г.зн. нашэптваць на ваду «замовы» для вылечвання хвароб. Канешне, ніхто не перашкаджае млынару вывучыць рамяство, напрыклад, варажбіта. Ён, мельнік, можа быць і ваўкалакам, і жонка яго можа быць выдатнай ведзьмай; але ўсё гэта неабавязкова. А вось дагадзіць вадзяніку, каб ён пастаянна даваў дастатковую колькасць вады, каб не стаяў млын, калі многа «завозу», каб ён не прарываў плаціну, не ламаў застаў, не псаваў млынавых калёс, не знёс бы млына ў разводзе, — усё гэта яго справа, гэта млынар павінен ведаць, ці тады няхай не бярэцца не за сваю справу. І млынар з ветрака павінен умець «запрэгчы вецер», авалодаць паветранай стыхіяй і, зразумела, тымі духамі, якія ўтвараюць вецер, віхор, буру і іншыя паветраныя з'явы. Ён павінен усё прадугледзець, не гвалтаваць вецер, каб той не раззлаваўся і надоўга не ўлёгся; павінен умець выклікаць яго ў зацішша, калі трэба малоць, злітасцівіць буру, каб яна не паламала млынавых колаў»[22].

А. Сержпутоўкі зафіксаваў канкрэтнае апавяданне аднаго з вяскоўцаў: «Мельнік заўжды знахар. Каб ён не знаўся з нячыстаю сілаю, то б не быў мельнікам, бо сам чалавек не можа ўправіцца з млынам. Мы з сынам вазілі ў Лактышы валіць сукно. Дарога была ліхая, бо быў самы растароп, — ні на санях, ні на колах. Прамучыліся мы цэлы дзень і толькі змрокам дацягліся да млына. А то ж, мае саколікі, ніколі

не бачылі мы такога пекла, якое там дзеецца. Акурат ішла крыга. Паводка той год была вялікая. Падходзім мы да млына, а ён увесь дрыжыць, быццам яго трасца трасе. Вада раве, аж глушыць. Крыгі трашчаць, ломяць застаўкі, а грэбля ўся ў вадзе, бо яе праняло. Млын пасярод вады, бы паля, толькі хістаецца. Баімся мы падступіцца, а мельнік хоць бы што. Яму й не напанкі, што вада раве, што нячыстая сіла круціць ды ўзбівае пену. Мы ж думалі, што тут і мельнік нічога не парадзіць, аж ён пастукаў абушком, павярнуў дручком ды і кажа: «Кідайце сукно». Мы паўкідалі да ўжо думалі, што прападзе наша дабро. Дык што вы скажаце, папярэдаднем выйшла наша сукно, бы дошка, так звалілася, што й стаіць. Не, мабыць, мельніку сам ліхі дапамагае»[23].

Нам таксама ад сваіх інфарматараў даводзілася запісваць нейкія канкрэтныя выпадкі, якія нібыта здарыліся з імі самімі, ці на іхніх вачах усё адбылося, ці нехта расказваў пра ўсёмагчымыя здарэнні з млынарамі і іхнімі хаўруснікамі — чарцямі. «Мне мой дзед казаў, а ўжо хто-хто, а ён нічога хлусіць не будзе, што даўней у нас на рацэ вялікі млын стаяў. Нават да гэтых дзён там яміна млынавай называецца. Запраўляў там млынар, якога Гарасымам звалі. Такі ўжо быў увесь калматы, што здавалася, хвост прычапі, дык на чорта зусім падобны будзе. Толькі гэта дзецям да смеху было, а дарослым — куды там! Яны нават паціху баяліся шапнуць, што млынар падобны быў на нячысціка, бо, аказваецца, на самой справе той Гарасым з чарцямі быў звязаны, ад іх дапамогу вялікую надта меў. Калі разабрацца, то яно і так. Памяркуйце самі: ці ж здольны чалавек у адзіночку насыпаць дамбу, зрабіць глыбокі заварот, кудою б вада бегла, паставіць млын. Звычайна ж людзей наймалі, запрашалі цэлую арцель, тыя стараліся-шчыравалі. А Гарасым жа, паверыце ці не, усё сам адзін зрабіў. Капаў, тачкаю адвозіў, высякаў, пілаваў, вырэзваў, каваў — усё адзін. Нават начамі не ўтаймоўваўся. Некаторыя, каму даводзілася ў начную часіну быць бліжэй да хутара, чулі, што стукала не адна, а некалькі сякерак. Таму ўжо тады сталі падазраваць, што знаецца гаспадар з нячыстай сілай. Спачатку адзін-другі перамаўлялі, а потым, калі Гарасым усяго за год усё зрабіў і запусціў свой млын, сцвярджаць гэта сталі ўсе вяскоўцы. Яны і дапусціць нават не маглі, бо самі былі далёка не гультаямі, што такое магчыма. Думалі, той млын пакруціць сваё кола пару дзён, і ўсё на тым. Зламаецца, бо ж калі паспяшаючыся, то абы-як зроблена. Але не тут тое было! Як пачаў той млын працаваць, то адно толькі паспявай зерне засыпаць,

а мука тая па цэлым гаршку адразу высыпаецца. Дробная такая, чысцюткая. Тады ўжо тым болей усе прыціхлі. Ведалі, што калі млынар дачуецца пра благія словы ў свой адрас, дык і пакараць запроста зможа, раз знаецца з чарцямі ці з нейкай іншай ліхой сілай, якая, тым не меней, яму пастаянна дапамагае. Багацеў млынар з кожным божым днём, зямлі, сенакосу, лесу ладны кавалак прыкупіў. Здавалася б, жыць яму са сваёй сям'ёй прыпяваючы, але ж атрымлівалася неяк наадварот. Спачатку дзеці малымі паўміралі, а потым і жонку ягоную ваўкі разарвалі, калі прыцемкам ужо з поля вярталася. Тады і ўвогуле Гарасым размаўляць перастаў. Рабіў сваю справу — малоў, дый годзе, а каб хто слова ад яго якое пачуў, то такога не здаралася. Адно начамі сталі вяскоўцы паміж сабою перамаўляць, што на тым хутары ўсё нешта жудасна вые. Цвёрда былі перакананы, што гэта нячысцікі да свайго хаўрусніка збіраюцца, каб павесяліцца, калі нікога няма паблізу. Але аднаго разу ўсе людзі былі вымушаны войкнуць ад здзіўлення, хоць здавалася, здзівіць іх ён ужо проста не мог. Атрымалася так, што тая зіма надзвычай лютая была маразамі і багатая снегападамі. Столькі снегу намяло, што вышэй стрэх ляжаў. А як пачало вясною раставаць, дык навокал суцэльнае мора ўтварылася. Лёд той несла, ён на сваім шляху ўсё крышыў, разбураў, зносіў. Думалі, што і млын не ўстаіць ніколі, але атрымалася наадварот, бо млын не толькі выстаяў, а Гарасым нават ні на гадзіну не пераставаў малоць. Вось што значыць спазнаўся з нячыстаю сілаю і быў надта ўпэўнены ў сабе. Хоць і казалі пра яго, што чэрці яму ваду ганялі, кола круцілі, ва ўсім дапамагалі, але памёр Гарасым неяк непрыкметна. Ціха. Сканаў на сваім млыне. Як пахавалі яго, то да млына і блізка ніхто не падыходзіў, так ён і разбурыўся сам па сабе. Адно што назва да нашага часу засталася» (УЗ. Пн.); «Калі ў даўнія часы нейкі чалавек будаваў сабе млын, то яго адразу ж адносілі да сяброў нячысціка. Справа ў тым, што млынар мог многае з таго, што было не пад сілу звычайным людзям. Такое тлумачылася ягонымі здольнасцямі, і гэта ж нараджала ўсёмагчымыя былічкі, якія мала сабою нагадвалі нешта праўдзівае, а найбольш — выдумкі ды ўсёмагчымыя страхоцці. Ад чаго здарылася такое з нейкім канкрэтным чалавекам, і сам той чалавек не мог растлумачыць, але казаў, што гэта, найперш, звязана з нячыстай сілай, з яе шматлікімі і разнастайнымі праявамі. Вось быў у нас такі млынар, якога, казалі, сам чорт сабе ў сябры выбраў, то па ім гэта і відаць было. А то ж вы думалі. У таго млынара два млыны стаяла. Адзін ветраны —

вятрак, а другі — вадзяны. І абодва спраўна заўсёды працавалі, не тое, што ў іншых. Глядзіш, у тых то ветру няма, то крылы паабламаюцца ў ветрака, то вось прывада загарыцца. А ў гэтага — ніякіх пашкоджанняў, ніякіх паломак, адно ведае, што з людзей грошы спраўна грабе. Неўзабаве самым багатым чалавекам ва ўсім наваколлі стаў, так пра яго гаварылі. Млын вадзяны асабліва многа прыбытку прыносіў гаспадару. Пабудаваны ён быў па нейкай новай канструкцыі, быў намнога лепшым за іншыя, а ўжо муку так добра малоў, што яна з-пад жорнаў выцякала, як пыл: мяккая ды пульхная. І вышэй па рацэ, вёрст за дваццаць, і ніжэй млыны таксама стаялі. Але ў тых гаспадароў так спраўна нішто не атрымлівалася. Болей таго, калі вясенняя паводка пачыналася, дык тыя млынары баяліся малоць, за адно толькі пастаянна прасіліся — каб іхнія млыны лёдам не зацёрла, каб плаціны не парвала. А нашаму ўсё ні па чым было! Ён і малоў смела, і не баяўся ніколі, што нейкай крыгай нешта папсуе. Здарылася так, што навальвала лёду вышэй за млын, а сам млын усё роўна заставаўся цэлым, бо гаспадар ягоны валодаў чаруючай сілай. Чартоўскай, якая ўсё чыста магла ўтаймаваць на белым свеце, нікому не давала магчымасці паставіць сябе насуперак млынару. Як які чалавек пра яго што дрэннае скажа, дык ці захварэе адразу, ці пачне яго так, невядома ад чаго, бядою біць, што яму болей і жыць на белым свеце не хацелася. Страшны млынар быў, неабвольны. Не пераносіў, не мог вытрымаць таго, каб у некага нешта лепшае, чым у яго, было. Заўважыць, дык так зробіць, што ці той гаспадар пакалечыцца, ці тое прычындалле ягонае назаўсёды сапсуецца. Так усё выкручваў, у сваіх руках трымаў, але ўсё роўна памёр. Смерць нікога не праміна́е. Не глядзіць на тое, слабы ты ці здаровы, багаты ці бедны. Памёр, яго пахавалі, а на наступную ноч вятрак згарэў. Маланка ўдарыла. Недзе праз тыдзень і вадзяны млын абваліўся. Так атрымалася, што не стала іхняга гаспадара, не стала чартоўскай падтрымкі, і ўсё на тым. Такі ў нас некалі млынар быў» (УЗ. Івац.).

З гэтых прыкладаў пацвярджаецца тое, што млынара ў першую чаргу звязвалі з нячыстай сілай з-за таго, што ён валодаў тэхнічнымі здольнасцямі-магчымасцямі, якія іншым былі проста не пад сілу, калі б яны нават таго і пажадалі.

Апошнімі з той касты, якая ў народнай свядомасці заўсёды асацыіравалася з нячыстай сілай, з варажбітамі, у нас будуць пастухі. Чаму яшчэ і пастухі? Таму што яны, пастаянна знаходзячыся пры жывёле, ведалі, як можна яе вылечыць, як дапамагчы пры акоце

ці пры ацёле, ад удару або ад укусаў гадаў, як засцерагчы ад вострых воўчых зубоў. Жывёла была асноўнай карміцелькай тагачасных сем'яў, і таму ад яе захаванасці залежаў дабрабыт людзей. Але сярод пастухоў асаблівую сілу і павагу ў людзей мелі пастухі-легчаі. Спашлемся на А. Сержпутоўскага: «Лягчай не толькі што лягчае жарэбчыкаў, бычкоў ды парсюкоў, а часамі й людзей дапарадзіць у бядзе. Ужо памёр стары лягчай. У нас яго так проста й называлі лягчаём. Я нават не знаю, як яго звалі па імені. Яшчэ я маленькі быў, а ён тады ўжо меў сівую велізарную бараду па самы пуп. Ось ужо я пасівеў, саўсім сапсеў, а ён толькі летась памёр. Кажуць, што ён і сам лік згубіў, колькі гадоў жыў. Ужо яму было пэўна больш за дзве капы гадоў, а ён яшчэ лягчаў бычкоў. Было адзін спутае здаравеннага бычка, перакіне вяроўку цераз спіну, залыгаўшы за рогі, ды як пацягне, дык той бурдык на зямлю ды толькі раве. Ось лягчай возьме з агню гарачаго бы агонь сашніка да й атпячэ быку яйца. Сквярэцца жывое мяса, бык раве, а лягчай толькі падкіне на рану воску ды й смажыць гарачым сашнікам. Потым абалье жывёлу вядром вады, плясне па азадку ды скажа: «Скачы здароў», а сам спячэ яйца на агні да й есць бы картоплю. От затым кажуць, ён да самае смерці быў бы маладзёнка: скакаў, пеў песні, а піў, дык бы ў бочку ліў. Да баб да старасці быў вялікі аматар. Ён так усю жытку займаўся лягчайствам. Але вось скажыце, было падыйдзе к такому жарабцу, што да яго й падступіцца нельга, лапне па крыжу, дык той і стаіць, бы ўкопаны, толькі дрыжыць ды пазірае так, што аж страх бярэ. Дык гэта ж не так. Не стаў бы жарабец, каб тут ліхі не ўмяшаўся. А парсюкоў ён лягчаў дык проста на хаду. Стаіць дзе-небудзь кнырык ці капае лычам зямлю. От лягчай падыдзе да яго ззаду, атрэжа яйца да засыпле сулімаю, а той і не чуе, толькі зарохкае. Толькі не любіў ён лягчаць сабак, бо, кажуць, адзін раз — такі грызянуў яго адзін сабака, ды так грызянуў, што ён чуць не застаўся без носа. Падвыпіўшы, ён сам расказваў, што ён знае такое слова, што якою ліхою не была б жывёла, дык як скажэ, то яна й стане рахманая ды паслушная, або стаіць, бы акамянеўшая. Нашы дзецюкі прасілі, каб ён навучыў іх таму слову, ды ён сказаў, што яму будзе заказана, што калі ён скажа другому, то ўжо яму не будзе памагаць. Так, мабыць, усе легчаі з ліхім знаюцца»[24].

Такім чынам, мы з упэўненасцю можам сказаць наступнае: у свядомасці патрыярхальнага беларускага селяніна адвеку сфармі-

равалася думка, што некаторыя з заняткаў-прафесій вясковых жыхароў непарыўна звязаны з нячыстай сілай, чараўніцтвам, варажбою. І з кожным пакаленнем думка гэтая не адмаўлялася, а, наадварот, умацоўвалася, пацвярджалася ўсё новымі і новымі прыкладамі, якія былі зафіксаваны шматлікімі фальклhistorically

# СМЕРЦЬ ЧОРНЫХ ВАРАЖБІТОЎ

Якою б моцнаю ні была сіла чараўніка, якою б страшнаю і таямнічаю здольнасцю да пераўтварэння ні валодаў ён, усё роўна знахар баяўся аднаго — смерці. Яму пастаянна ўяўлялася, а хутчэй за ўсё яго ў гэтым проста пераконвалі суродзічы, што ён будзе жыць, калі не вечна, то некалькі «чалавечых вякоў». Варажбіту здавалася, што, карыстаючыся сваімі чорнымі словамі («моцнымі», «непераможнымі», «непераадольнымі»), прыёмамі магіі, можна будзе неяк абысці і тую мяжу, якая ў свядомасці нашых патрыярхальных продкаў уяўлялася рубежнай. А за тою мяжою (наступнае, іншае жыццё) жыве душа. Цела застаецца назаўсёды ў зямлі (паводле народнага, «становіцца зямлёю», «пераходзіць у дрэвы»). Але знахару было заранейясна, што ягонай душы месца ў раі няма. Бо тое, чым ён займаўся пры жыцці, супярэчыла маралі ягоных супляменнікаў, аднавяскоўцаў, болей таго, рабіць усё гэта злое, адмоўнае, чорнае яго ніхто не прымушаў, усё здзяйснялася ім добраахвотна з мэтай узбагачэння ці падпарадкавання людзей уласнай волі. Яму падабалася, што яго баяцца (найперш!), што яму пастаянна аддаюць усё самае найлепшае, ці баяцца супярэчыць, калі ён гэтае лепшае сілаю, гвалтоўна забірае, прысвойвае сабе. Той, хто валодаў чорнымі чарамі, не мог карыстацца павагай, наадварот, акрамя страху людзей ён яшчэ адчуваў на сабе і іхнюю лютую нянавісць за ўсё тое адмоўнае, злое, несправядлівае, што адбывалася навокал. Гэтая самая лютасць, бязлітаснасць у адносінах да неспагадлівых чараўнікоў асацыіравана ў народнай свядомасці і цвёрда замацавала тое, што такія знахары — варажбіты- чараўнікі паміраюць лютай («нечалавечай») смерцю. Згадалі і пра тое, што такім шляхам старадаўнія людзі «спяшаліся» адпомсціць тым, хто, паводле іхніх перакананняў, быў вінаваты ва ўсіх бедах, яшчэ пры жыцці, калі тыя злыдні ўжо не маглі ўстаць, не маглі бачыць, як адносяцца да набліжэння іхняй смерці звычайныя працаўнікі. Воля ўсё яшчэ магутнага паміраючага магла выклікаць нейкую стыхію, праяву прыроднай стыхіі, але гэта карала ці помсціла ўсіх, таварыства, а не асобна ўзятага чалавека. Можна весці гаворку пра тое, што ў яго ўжо неставала часу, каб помсціць індывіду, і не выходзіла нічога іншага, як у апошнія хвіліны свайго працяглага

жыцця адпомсціць усім ці проста зрабіць так, каб ягоную смерць запомнілі на многія пакаленні нашчадкі тых, хто жыў пры ім. Калі ў смерці звычайнага чалавека ўсё было даволі ясна («скончыўся ягоны жыццёвы шлях», «Бог даў, Бог і забраў», «жыць надакучыла-натаміла, таму і пайшоў на той свет» і многае іншае), то заканчэнне жыццёвага шляху варажбіта для наіўнага чалавека было справай цяжкатлумачальнай. Жыццё, як сцвярджалі ў вусна-паэтычнай творчасці, было даравана яму не Богам, а ... д'яблам — супраціўнікам Усявышняга, яго найзлейшым ворагам. Тут многае з таго, што было характэрна для звычайных людзей, не падыходзіла. Таму і стараліся як мага болей падаць усяго найбольш цяжкатлумачальнага, каб яшчэ неяк заблытаць, прывесці ў неадпаведнасць з рэальнай смерцю.

Пачыналася ўсё з хваробы чорнага варажбіта. Адзначалі, быццам бы напярэдадні такой знямогі знахар звяртаўся да сваіх хаўруснікаў-чарцей, і тады яны ўжо неадступна апекавалі лёс свайго падначаленага, а нярэдка — і валадара, бо гаварылася, што ён загадваў нячысцікам і тыя выконвалі ягоную волю. Адносна таго, што чараўнік адразу не паміраў (проста не мог), а вымушаны быў пэўны перыяд памучыцца, сцвярджалі — робіцца гэта з-за яго шматлікіх папярэдніх учынкаў, здзейсненых ім супраць сумленных працаўнікоў. Народная мараль і на імгненне не дапускала, што нейкае зло (буйное яно ў сваёй праяве ці дробнае) не можа быць не адпомшчаным, беспакараным. Тут ужо не ўлічвалася, што яму самому даводзілася пакутаваць у страшэнных муках. Літасці тут прасіць нельга было, ды, мабыць, для варажбіта гэта быў і не самы падыходзячы варыянт. У народзе гаварылі адназначна: «Калі знахар адчувае сваю смерць, то ён не дрыгаецца, нават не выходзіць за парог. І робіць гэта з-за таго, што баіцца, каб яго слабым ды знясіленым не ўбачылі аднавяскоўцы. Злыдзень прызвычаіўся, што самы магутны, здаровы — гэта ён, і баяцца ўсе чараў ягоных злых вачэй. Дастаткова было адно глянуць, і ўсё калацілася, а тут у самога ад хваробы ды ад бяссілля цела трасецца, і яму нестае сілы зрабіць крок-другі. Ляжыць ваўком у хаце і з нячыстымі толькі размаўляе. Зразумела, што просіцца ён аб тым, каб пажыць-пачараваць яшчэ колькі часу і прынесці якую чарговую злыбеду. Вакол яго хаціны таўкуцца ўсёмагчымыя нячысцікі. Днём, то гэта не адразу заўважыш, можа такое адчуць толькі спрактыкаваны чалавек, бо яны ўсе пераўвасоблены ў крумкачоў, катоў, сабак. Асабліва чорнага колеру. Ноччу ж то да такога месца і падыходзіць небяспечна, бо можна паплаціцца калі не жыццём, то калецтвам, дакладна. Накінуцца на цікаўнага, і як ты ні крычы, дык ніхто на дапа-

могу табе не прыйдзе. Вядомая справа, калі самі лякаюцца і за жыццё баяцца, дык ніякім чынам не даклічашся. Потым разнясецца па наваколлі страшэнна-жудасны рогат-стагнанне — гэта і ёсць радасць злога знахара, які і ў апошнія моманты дабіўся нечага жаданага — пакалечыў ці ўвогуле загубіў нейкую нявінную душу» (УЗ. Ст.); «Казалі, што некалі ў нашай вёсцы жыў надта злы чараўнік. Колькі злыбеды ды гора прынёс ён людзям, то і не злічыць. Але ж нарэшце прыспеў час і яму ўміраць. Не хацелася ж, вядома, дык з хаціны не вылазіў. Гаварылі, што толькі ў адно-адзінае падслепаватае акенца вызіраў ды пільнаваў, каб хто міма ішоў. Як толькі той чалавек, малаважна хто — дзяўчына ці старая, хлапец ці стары, — усёадно зробіць так, што таго выпадковага падарожнага так хвароба скруціць, што і адысці ад злашчаснага месца сам не здолее. Скруціцца няшчасны і ляжыць, пакуль родныя не здагадаюцца ды не прабяруцца, каб забраць дамоў. Стараюцца зрабіць гэта ў светлы час, бо ў вечаровы ці ў начны гэта будзе зрабіць яшчэ намнога цяжэй, тады будуць навокал гаспадарыць нячыстая сіла ды яе хаўруснікі. Калі ж трапіцца забіраць ноччу, то аднаму ісці ніяк не выпадае, а трэба, як меней, каб было некалькі чалавек. Адзін з іх пастаянна вымушаны будзе жагнацца, каб неяк адпалохваць чарцей. Тады ўжо хворы чараўнік у сваёй хаціне будзе так стагнаць ды крычаць ад болю, што ажно страшна стане. Магчыма, што ён так будзе крычаць не толькі ад болю, але і ад адчаю, бо выдатна разумее, што дні ягоныя злічаныя і болей не здолее ўчыніць сумленным людзям нейкае зло. А тая нячыстая сіла, што вакол хаціны назбіралася, то ажно пішчыць ды гатова на плечы ўсесціся. Каб не жагнанне, каб не святы крыж, то невядома чым бы для прыйшоўшых справа скончылася. Такая ўжо ярасная ды злосная нячыстая сіла ад таго, што назаўсёды памірае яе верны служка» (УЗ. Івац.); «Калі памірае знахар, то ён ніколі са сваёй хаты не вылазіць. Не хоча, каб яго бачылі, які ён стаў слабы ды бяссільны, што ледзьве на нагах трымаецца. Баіцца, каб не падумалі, што назаўсёды страціў неймаверную чароўную сілу, якою мог любога ў бараноў рог скруціць. А тут да парога дайсці не здолее. Мала гэтага, шалее ад набліжэння смерці чараўнік. Імкнецца належным чынам, як яму здаецца, абысціся з аднавяскоўцамі ці ўвогуле з невядомымі людзьмі. Падглядзець, што там робіцца, што там дзеецца, немагчыма, бо нячыстыя здані ахоўваюць свайго хаўрусніка. Няхай толькі хто памкнецца, то на месцы і застыгне, не здолее адарваць свае ногі ад зямлі, а то і памрэ ўвогуле. Не трэба ісці да тае злашчаснае хаціны, як бы вас туды ні цягнулі. Калі ж ужо здарыцца якая пільная неабходнасць,

то трэба дачакацца трэціх пеўняў, якія праганяюць нячыстую сілу, і тады ўжо навокал стане намнога спакайней. Але, тым не меней, неабходна апускаць вочы долу, каб ненарокам вочы знахара, які, можа, спецыяльна чакае такога неасцярожнага, не сутыкнуліся з вачыма звычайнага чалавека, бо тады будзе сапраўдная бяда, ад якой вясковец надоўга захварэе, а то і зусім зляжа і болей не падымецца» (УЗ. Жытк.).

У сілу таго што чараўнікі жылі надта ж доўга, то, адпаведна, і іхніх равеснікаў у населеных пунктах не заставалася. Таму, маўляў, гэта была яшчэ адна з прычын, па якой знахароў падчас іхняй хваробы ці перадсмяротнага стану ніхто не адведваў. Равеснікі павымерлі, а маладзейшым жа няма асаблівай цікаўнасці да таго, што там робіцца са старэйшым. «Ён сваё аджыў» — гэты своеасаблівы прынцып многае тлумачыў з адносін простых людзей да смерці. Прыйшла твая чарга, дык, будзь ласкавы, не палохайся, не лякайся надта, а збірайся ў адвечны шлях. Няма чаго ўхіляцца, бо ўсе там будзем. Не намі заведзена, а наканавана такое зверху, ад Усявышняга, а раз ад яго, то трэба ўспрымаць усё, не выказваючы ніякага незадавальнення. Той, хто спрабуе такім чынам унікнуць ад смерці (адцягнуць яе), рызыкуе наклікаць на сябе надзвычай цяжкую хваробу, пры якой раптоўная смерць магла паказацца яму адзіным выйсцем. Болей таго, такая хвароба магла перадавацца з пакалення ў пакаленне і сярод ягоных нашчадкаў. Але ж гэта сярод сумленных людзей, у выпадку ж з варажбітамі многае змянялася ад таго, што яны сваімі паводзінамі самі паставілі сябе за межамі ўсёмагчымых канонаў маралі. «У нас некалі стары знахар паміраў. Казалі, што ён і сам добра не ведаў, колькі яму гадоў, а астатнія людзі, то тым болей. Да яго ж баяліся проста падыходзіць, каб ненарокам не ўзлаваць чараўніка, бо тады многім скажацца такая бяспечнасць. Равеснікаў жа і быць не магло. Усе паўміралі. Каго на вайну пабралі, ды адтуль яны так і не прыйшлі, а калі і прыйшлі, то нядоўга пабылі. Іншых — праца непасільная падарвала. А знахар той і на вайну не хадзіў, нешта такое падрабіў, што тая камісія прызнала яго нягодным і дамоў адправіла. І працаваць не надта каб рваўся. Усё за яго другія рабілі. Напусціць якой трасцы, дык мужчыны і не ведалі, чыю ніву аруць ці скародзяць, сваю ці таго знахара. Пастарэўшы, увогуле зямлю прадаў і жыў з таго, што ў лесе назбірае ці рыбы якой наловіць. Потым пагудка сярод людзей пайшла, што памірае, дык не было б такога чалавека, які б не жагнаўся ды не прасіўся, каб яго нячыстая сіла не кранула. У хату то ніхто і не наведваўся. Невядома нават, як на самой справе сканаў злы знахар,

бо ж не было каму нават конаўкі вады падаць. Каб яшчэ якія сваякі ці равеснікі былі, то і гаворка іншая вялася б, а так... Памёр, дык нейкія старыя з суседняй вёскі прыходзілі, труну рабілі. Самі яго і выносілі, самі і пахавалі. Дзе пахавалі, ніхто і не ведае. Каб не апаганьвалі магілу, відаць, баяліся. Даўней так вялося, што дзе злы знахар ляжыць, то там і людзі ходзяць нават са страхам, каб якой хваробай не захварэць, бо тое месца ў народзе заўсёды называлася «гнілым» (УЗ. Ст.). «Памірае знахар у адзіноце. Ніхто яго ведаць не ведае і не знае, як з ім развітацца, бо ж варажбіт пераўжывае намнога сваіх равеснікаў. Як бы ні казалі, што нехта пражыў даўжэй, але ўсё роўна не атрымаецца, — у такога злыдня гадоў болей будзе. Яго ж нячыстая сіла падтрымлівала, ён з ёю на працягу ўсяго жыцця хаўрус свой вёў. Таму сябры не прыходзілі. Па-першае, іх проста не было сярод жывых, а па-другое, калі б яны і былі жывымі, то ж любы чараўнік імкнуўся да адзіноты, стараўся, каб поруч з ім ніхто не знаходзіўся, каб не сачыў-пазіраў за ягонымі дзеяннямі, якія пасля ўсяго гэтага страцяць усялякую варажбу і таямнічасць. Як пачне ўміраць злыдзень, то начамі паблізу хто жыве ў сваіх хацінах спаць не могуць, толькі і чуваць, як нешта жудасна раве-надрываецца. Паводле сцвярджэнняў знаючых людзей — гэта не што іншае, як стагнанне чараўніка, якому прыходзіць канец, але які імкнецца падсабраць да сябе нячысцікаў, каб з імі развітацца, а заадно і пераказаць, каго яшчэ пакараць, каму яшчэ болей насаліць у гэтым жыцці засталося. Не дзіўна, што людзі бокам ягоную хаціну абыходзілі, асабліва ў гэты перадсмяротны час, бо ён жа яшчэ з'яўляўся і перыядам найбольшай раз'юшанасці чорнага чараўніка, якому ўжо ўсё было няміла, нічога яму так не хацелася, акрамя аднаго — зрабіць чарговае зло, няхай сабе на такую справу пойдуць апошнія сілы знясіленага варажбіта. Некалі, памятаю, нават паказвалі месца, дзе жыў такі стары, вытвараў свае чарадзействы, здзекаваўся над прахожымі ды над праязджаючымі. То нас, малых, перасцерагалі абавязкова, каб мы там не хадзілі, не гуляліся, бо там уладарыць нячыстая сіла, а з ёю жартачкі дрэнныя. Такое на маім вяку было, то і я вам сама пераказваю»(УЗ. Лун.). «Знахар як памірае, то да яго маладзейшыя людзі не ідуць. Баяцца. Асцерагаюцца якой трасцы-злыбеды, а равеснікаў ён не мае па той простай прычыне, што пераўжывае ўсіх, хіба што недзе ў вёсцы ёсць яшчэ чорны знахар, то і той, адпаведна, гэтак доўга жыве, і яны ўжо паміж сабою сябравалі да вялі сумесную справу, пра якую ні слова, ні паўслова не гаварылі. Тады той, хто застаўся ў жывых, будзе весці ўсё да самага пахавання. Сам-адзін аблазіць ды

знойдзе іншых варажбітоў з навакольных вёсак. Яны адзін аднаго маглі ў твар і не ведаць, але пагудка людская пра тое, што адбывалася, гаманіла, і добра вядома было, на якой тэрыторыі ўладарыць адзін варажбіт, а на якой другі. Яны ж свайго сябрука не адпяваюць, да бацюшкі не звяртаюцца, не просяць некага прыйсці дапамагчы, бо ведаюць, што гэта рабіць дарма. Самі ж рабілі толькі шкоду, а раз так, то і ім адплочвалі адпаведным. Мала гэтага, акрамя саміх чараўнікоў пад покрывам ночы звярталіся да хаціны паміраючага ўсёмагчымыя нячыстыя здані, якім ён верна служыў, калі быў здаровы і поўны сіл. Расказвалі, што нават на значнай адлегласці ў хатах нельга было заснуць. Гэтак ужо верашчалі, крычалі, стагналі тыя нячысцікі. Выраблялі што хацелі, бо ж ноччу над імі ніхто, нават самая моцная боская сіла, не мае ўлады. Як ты не хочаш, як ты не старайся, а трэба чакаць трэціх пеўняў. Як трэці раз яны праспяваюць, то можна будзе выразна пачуць адчайныя крыкі-стагнанні — гэта нячысцікі такім манерам выказваюць сваё шкадаванне, што канчаецца іхняя часіна і давядзецца чакаць наступнай ночы. І малыя, і старыя засцерагаліся куды-небудзь вылазіць надвячоркам, а ноччу то і тым болей, з хаты. Старэйшыя, дык тыя ў такіх справах разумнейшыя былі, ведалі, што да чаго, таму і нас падвучвалі. Варажбітоў даўней надта баяліся. Ляканіся і іхняга выгляду, і іхняга погляду, а найболей — усяго таго, злога, несправядлівага, што яны беспакарана выраблялі. Пакараць іх магла адно толькі — смерць, дык яшчэ і перад смерцю імкнуліся паздзекавацца над сумленнымі людзьмі» (УЗ. Жытк.).

У М. Нікіфароўскага чытаем: «Калі чараўнік ці чараўніца дажылі да мяжы зямнога жыцця, аслаблі розумам і целам і не могуць больш весці чартоўскія справы, чэрці перастаюць ім дапамагаць і застаюцца побач толькі на варце іх душы і дзеля выканання істотнай умовы чарадзейства — перадаць яго каму-небудзь з чарадзеевых блізкіх. Чым хутчэй зроблена гэта, тым хутчэй надыдзе і смерць чарадзея, хоць перадсмяротныя пакуты і ў гэтым выпадку бываюць большыя, чым у звычайнага чалавека. Але перадаць чарадзейства нялёгка. Пабачыўшы ганебнае жыццё блізкага чалавека і ведаючы яго прычыну, нават родныя ўхіляюцца ад бацькавай прапановы.

Чалавечнасць блізкіх змушае іх палегчыць паміраючаму пакуты: яго пераносяць на падлогу пасярэдзіне хаты, а на грудзі кладуць вяроўку, якую выцягваюць на двор праз адчыненыя дзверы, — каб душы было зручна выйсці з цела; адкрываюць юшкі, свідруюць у сценах і столі дзіркі — каб туды прайшла падхопленая чарцямі душа чараўніка. Паколькі душа ў яго рагатая і ёй цяжка выходзіць з цела,

на печ побач вешаюць хамут з лейцамі, каб чэрці маглі запрэгчыся і агульнымі намаганнямі выцягнуць «рагатую душу». Вядома, гэта прыносіць паміраючаму такія пакуты, што чалавечай мовою іх не перадаць.

Дастаўшы душу з цела, чэрці ўсе разам залазяць у яго, каб апаганіць нядаўняе жытло сваёй ахвяры, а часам — каб падхапіць цела і занесці яго на чортаву бяседу. Апошняе, зрэшты, не ўдаецца, бо блізкія абсыпаюць цела асвячоным макам ці соллю. Тады зграя чарцей лётае над хатаю памерлага ў выглядзе крумкачоў, якія потым адлятаюць удалячынь, падхапіўшы душу чараўніка, пасля чаго пачынаецца бура і непагадзь, што доўжыцца некалькі дзён запар. Людзі імкнуцца пазбегнуць стыхійных здарэнняў: у магілу пад труну чараўніку яны кладуць адмысловы крыж, вычасаны з маладога (у чалавечы рост) дрэва»[1].

Нешта падобнае сустракаецца і ў другім яго выказванні: «Душа ў чарадзея рагатая, таму ёй так цяжка выходзіць з цела, і гэта прымушае паміраючага цярпець жорсткія пакуты.

Душа ў чарадзея не можа праходзіць праз вокны і дзверы, якія звычайна памячаюцца крыжыкамі і праз якія анёлы свабодна пераносяць хрысціянскую душу. Таму для выхаду чарадзеевай душы ці разбіраюць столь над ложам у паміраючага, ці свідруюць у сцяне новую дзірку, ці кладуць на печ са спушчанымі шлеямі конскі хамут. У яго запрагаюць самых дужых чарцей і агульнымі намаганнямі дастаюць рагатую душу спачатку з цела, а потым і з дому. Дапамагае ў гэтым выпадку, калі паміраючы трымае ў руках замест грамнічнай свечкі сук смалянога дрэва.

Чарадзей доўга мучыцца на смяротным ложы праз тое, што не перадаў другому чарадзейскую таямніцу. Каб хутчэй скончыліся яго пакуты, паміраючага кладуць пасярод хаты на голую падлогу і адчыняюць дзверы, на грудзі кладуць вяроўку, другі канец якой праз адчыненыя дзверы выцягваюць на двор: душа ў чарадзея хутка выйдзе з цела па вяроўцы.

Чарадзей доўга і страшна мучыцца перад смерцю з-за таго, што нячысцікі не хочуць выйсці з ягонага цела. Калі ж нарэшце нячыстая сіла выйдзе з чарадзея, прысутныя заўважаюць, як хуценька выслізгвае чорная жывёліна — сабака, кошка, парася ці курыца. Гэту жывёліну неабходна адразу забіць, праткнуўшы яе наскрозь асінавым калом, інакш схаваныя ў ёй чэрці ўвойдуць у іншага чалавека, зрабіўшы яго чарадзеем замест паміраючага.

Хто хоча бачыць смерць, якая яна ёсць, і асабліва — чарцей, якія

ў час смерці чараўніка збіраюцца да смяротнага ложа, той павінен адзець на шыю конскі хамут з адпушчанымі на зямлю шлеямі і ў такім выглядзе залезці на печ. Там, зняўшы хамут, ён павінен глядзець на паміраючага праз хамут»[2].

Многае з жыцця чараўнікоў спецыяльна ахутвалася флёрам таямнічасці для таго, каб лішні раз падкрэсліць адрозненне злых важбітоў ад звычайных людзей. Мала таго, што яны паміралі ў самоце, пакінутыя і адрынутыя ўсімі, ім нават, паводле канонаў «сумленнага» жыцця, не дазвалялася дапамагаць, падаваць самае неабходнае, нават ваду. Бесчалавечнасць, выкліканая, на наш погляд, звычайным цемрашальствам, тут увогуле цяжка растлумачыць, бо і вусна-паэтычныя сведчанні таксама не даюць адназначнага адказу на пастаўленае пытанне. Болей таго, уводзяць у зман. Адчуваецца, што народным дарадцам было шкада паміраючых, кім бы яны на самой справе ні былі, але пераступіць мяжу забароненага адвечнымі канонамі не асмельваліся. За перыяд шматвяковага развіцця беларускага народа здараліся розныя выпадкі. Прыгадаем раман У. Караткевіча «Каласы пад сярпом тваім», дзе сын забівае бацьку, які, паводле ягоных перакананняў, быў злосным чараўніком, які ўсё рабіў толькі на зло людзям, хоць сам сын застаўся сярод жывых дзякуючы таму, што бацька здолеў вылечыць, засцерагчы яго ад ўсёпаглынаючай халеры. Здолеў, бо не проста спадзяваўся на лёс, на тое, што як будзе, дык так і будзе, а ведаў, чым можна засцерагчыся ў адрозненне ад іншых, менш вопытных і спрактыкаваных.

Думаў Акім Загорскі, што пабачыць слімака, раздушанага цяжарам уласнай віны, а ўбачыў чалавека, які нават не хавае ўласных вачэй.

— Можа, не твая правіна? — сумеўся Загорскі. — Можа, нехта другі?

— Мая правіна, — сказаў Марка. — Мая рука зрабіла, мне і адказваць.

— Дык што ж ты тады святым прыкідваешся? — ускіпеў пан. — У сабакі вочы пазычыў?

— Вы не крычыце на мяне, — зусім не па-мужыцку, а з гонарам сказаў закуты. — Нада мною зямнога суда няма. Мяне апраметная чакае. Я душу сваю навек загубіў, і мне ўжо з агню ніколі не выйсці...

Загорскі так нічога і не дабіўся, пайшоў. І пачаў распытваць у другіх, пераважна ў сваіх жа азярашчанскіх сялян. Доўга нічога не мог даведацца, пакуль адна старая не расказала. У Акіма валасы ўсталі дыбам.

Нездарма нябожчыка Рамана лічылі за ведзьмака. Сам Акім Загорскі такому глупству, вядома, не верыў, але яны, яны ўсё ж верылі. Ды і як было не верыць, калі Раман лячыў травамі скурапеню (каросту. — *А. Н.*) і скулы, упраўляў звіхі, выводзіў цяменнік, браў на рукі дзяцей з пярэпалахам і глядзеў ім у вочы, і дзецям адразу ж рабілася лягчэй.

А такія справы без нячыстай, вядома, не робяцца. І кожнаму, нават самаму ра-

зумнаму, варажбіту, нават таму, хто не ўжываў сваёй сілы на злое, даводзіцца пасля смерці расплачвацца.

Прыходзіць такі час, і вядзьмар павінен залезці ў падпечча, лепей за ўсё ў лазні. І менавіта там аддаць д'яблу душу. Там і павінен быў Раман зводзіць з д'яблам апошнюю рахубу. І побач з ім абавязкова павінен мусіў быць сын.

Яны і пайшлі ў лазню ўдвух, калі стары адчуў набліжэнне смерці.

Стары залез у падпечча і доўгі час гаварыў нешта. Мо ўспамінаў жыццё, [illegible] мо трызніў. Потым апрытомнеў і працягнуў руку, каб сын дапамог яму выбрацца.

І вось тут настала самая страшная хвіліна. Усім вядома, калі сын возьме бацькаву руку — уся вядзьмарская сіла пяройдзе да яго. А з сілаю — смерць ў падпеччы і тое, што пасля яе.

Марка ведаў: ён не можа гэтага. Супраць гэтага было жыццё і словы, якія ён кожную нядзелю чуў у царкве. Каб жа гэта яшчэ ратавала ад пекла душу старога. Але гэта не ратавала, гэта толькі абяцала пекла яшчэ і яму, Марку, не сёння, дык праз колькі год.

І ён не ўзяў рукі, хоць і ведаў, калі не возьме, бацька будзе пакутаваць у падпеччы асабліва доўга: ноч, дзве, магчыма, нават тры.

Ён сядзеў над старым амаль да раніцы. І той увесь час стагнаў і ўсё часцей і часцей пачынаў нема крычаць. А Марка сядзеў над ім і плакаў ад жалю.

Перад світаннем ён устаў. Ён вырашыў. Вядома, тое, што ён хацеў зрабіць, пагражала яму, Марку, апраметнай і вечнымі пакутамі, але за адну хвіліну рабіла бацькаву душу вольнай ад кіпцюроў нячыстага.

Усе ведалі, што пакутніцкая смерць, ды яшчэ ад рукі блізкага, адразу нішчыць уладу нячыстай сілы. А хто бліжэй Раману, як не ён? Няпісаны закон загадвае яму даканаць бацьку, каб той не пакутаваў тут і не пакутаваў там. Што ж, ён зробіць гэта. І няхай будзе кепска яму. Марку застаецца радасць, што бацьку добра, і гордасць, што ён зрабіў правільна.

І ён пайшоў на прыгуменне і прынёс вілы[3].

З гэтага вялікага ўрыўка, узятага намі з твора У. Караткевіча, нас надта зацікавіла паведамленне пра тое, што паміраючы чараўнік ішоў даходзіць у ... падпечча. Колькі ні шукалі нейкіх аналогій у сучасных запісах фальклору, але нічога пацвярджаючага не знайшлі. Не выключана, што гэты факт быў узяты пісьменнікам у М. Нікіфароўскага. У. Караткевіч увёў цікавыя, захапляльныя звесткі ў раман, апрацаваў іх, і яны сталі аўтарскім здабыткам, адарваным ад вусна-паэтычнага кантэксту. Не выключана таксама і тое, што добры знаўца беларускай даўніны Уладзімір Сямёнавіч і сам мог стварыць нешта рамантызаванае, скіраванае на першасны фальклор. Астатнія факты-драбніцы, якія паўстаюць перад намі з гэтай сцэны, амаль адзін да аднаго паўтараюць паведамленні інфарматараў, якія зафіксаваны ўжо нават у апошнія дні і адпаведна ўвайшлі ў фальклорны ўжытак пасля выхаду ў свет рамана У. Караткевіча.

Цяпер прачытаем, што пісаў М. Нікіфароўскі: «Нячыстая сіла абавязвае чараўніка перад смерцю перадаць каму-небудзь сваё чарадзейства. Ён перадае яго пераважна блізкім людзям, найчасцей — ста-

рэйшаму сыну. З нечалавечым крыкам і стогнамі паміраючы адганяе ад сябе сямейнікаў і пакідае аднаго толькі спадчынніка, з дапамогай якога лезе ў падпечча. Што адбываецца там з чарадзеем, гэтага ніхто з людзей не ведае. Неўзабаве чарадзей працягвае адтуль руку і загадвае цягнуць сябе. Як толькі сыдуцца рукі чараўніка і яго спадчынніка, сын успрымае бацькаву чарадзейную сілу, прычым праз гэта ўвесь дом трасецца. Калі ж ён грэбуе бацькавай спадчынай і, хочучы застацца сумленным хрысціянінам, не возьме працягнутай рукі — чарадзей памірае ў страшэнных муках-пакутах, забраўшы з сабою свае чары. У гэтым разе сыну дазволена даканаць бацьку ў падпеччы, за што яго не асуджаюць як забойцу»[4].

«Калі паміраў чараўнік, то ён станавіўся такім ужо бездапаможным, такім слабым, што акрамя жалю нічога іншага ў людзей не выклікаў. Але трэба было абавязкова памятаць, што гэта ён так прытвараўся, бо ў яго ж не свая душа, а запрададзеная назаўсёды чартоўская. Таму тыя чэрці ў яго ўсяляюцца і жывуць да таго самага часу, пакуль ён апошні раз не зяхне. Вось зяхне, дык і ўсё на тым. Тут ужо нячысцікі ад яго з сярэдзіны выбіраюцца, а потым пільнуюць адно цела. Таму і нельга ні ў якім разе шкадаваць чараўніка, бо ж канаючы пачне прасіцца што-небудзь яму паднесці, падаць. Нярэдка стане нават пераконваць, што гэта ледзьве не яго апошняя просьба, якую абавязкова трэба выканаць. Гэтага ж патрабавалі законы продкаў, якія сцвярджалі: раз канае чалавек, дык яму неабходна ўсё падаць, ні ў чым не адмаўляць. Так ужо ўлагодзіць, так ужо ўпросіць ды ўлітасціўіць, што нехта не падумае асабліва ды і кінецца на дапамогу. Вось гэта і будзе самым страшным для шчырага чалавека, бо выкананне нейкай просьбы паміраючага чараўніка вядзе да перадачы ім ягонаму памагатаму чорнай чартоўскай сілы. Дастаткова ўсяго, каб варажбіт дакрануўся да рукі таго, хто яму нешта падае. Калі прысутнічаюць іншыя людзі, дык яны і не заўважаюць нічога, бо гэта такая непрыкметная з'ява. Адчуе хіба што чалавек, на якога перакінулася чараўніцтва. Задрыжыць небарака ўвесь, і адразу пачне змяняцца ягоны погляд. Загараць вочы, заіскрацца. Адсядзе ад іншых прысутных убок. А калі прысутнічаюць яшчэ сведкі, то сядзіць спакойна. Калі ж няма нікога іншага, хуценька сядае бліжэй да паміраючага і пачынае пяшчотна пагладжваць яму руку. Праз гэтае пагладжванне стараецца пабрацца як мага бліжэй з чараўнічай сілай. Акрамя ўсяго, знахар стане паміраць значна прасцей, хутчэй і лягчэй, бо ён ужо спакойны за ўсё, што будзе далей. Выканана святое для яго — знойдзены і перакінуты ў чараўніцтва намнога маладзей-

шы чалавек. Нячыстая сіла радуецца, што так абышлося, што не знікне назаўсёды тут іхні верны памагаты» (УЗ. Светл.); «Чаму так павялося, я сама не ведаю, але ў нас заўсёды пераказвалі менавіта гэтак, то і я вам даводжу тое самае. Калі злы варажбіт паміраў, дык да яго і ў хату абы-хто не ішоў. Асабліва перасцерагалі родных, няхай сабе яны засталіся і ў трэцім ці чацвёртым пакаленні. Ім трэба было думаць пастаянна над тым, што можна рабіць ля паміраючага. Нават перш чым крок-другі ступіць, абавязкова неабходна ўсё пралічыць, бо чараўнік запроста можа перакінуць сваю злую сілу каму з прысутных. Ён любым чынам будзе імкнуцца здзейсніць гэта. Угаворвае, прыкінецца, ціхенькім галасочкам будзе даказваць, што яму паднесці. І слёзы на вачах, здавалася б, у такім становішчы нармальнага чалавека могуць расчуліць любога, падштурхнуць яго да непрадуманых дзеянняў. Хтосьці падымецца і, проста шкадуючы, пойдзе ды і прынясе патрэбную рэч або падасць вады. Каб жа яшчэ далей ды не дурнеў і паднёс ды проста паставіў паблізу на столік ці на зэдлік і адразу адышоў, то яшчэ неяк быў бы шанц застацца ўбаку ад уздзеяння чараўнічай сілы. Але ж, якраз-такі неабходна адзначыць наступнае, раз чалавек прынёс нешта, то ўжо ні ў якім разе не паставіць, а абавязкова падасць з рук у рукі. Тут усё і вырашаецца. Калі нават хоць крышачку дакранецца рука падаючага да цела паміраючага, то тут і адбываецца імгненная перадача непажаданай сілы сумленнаму чалавеку. Ён жа нават і здагадацца не мог, чым для яго ўсё гэта можа абярнуцца. Хацеў здзейсніць па-чалавечы, як мага лепей, а атрымалася адваротнае. Вядзьмарская сіла ўздзейнічае на яго ў хуткім часе, калі ён яшчэ знаходзіцца побач з паміраючым. Тут ужо яго цягне да чараўніка, каб пагладзіць, каб нешта выправіць, адным словам, нячыстая сіла прыцягвае, спрабуе ўзмацніць свой уплыў. Справа ў тым, што адразу ж пасля судакранання з паміраючым душа былога сумленнага чалавека становіцца запрададзенай нячыстаму і назаўсёды пакідае ягонае цела. Цяпер ужо ніхто яго назад не адмоліць, бо ён да самой смерці таксама становіцца служкаю розных чарцей. Не будзе ведаць ні ў чым недахопу, але ж гэтае самае і вылезе яму бокам. Стаць злым чараўніком надта проста, тым болей што гэта не залежыць ад волі самога шчырага чалавека, асабліва пасля таго, як ён дапусціў памылку на першапачатковым часе» (УЗ. Івац.).

Не рэдкімі з'яўляліся сведчанні, аналагічныя наступнаму: «Чараўнік — служка нячыстай сілы; ён аддаў душу чорту і ад яго атрымлівае свае сілы і веды. Вядзьмарства перадаецца ад аднаго ведзьмака да другога. Перадача бывае звычайна на смяротным ложы: вядзь-

мак нашэптвае ваду і дае яе выпіць свайму пераемніку; часам сіла і веды ведзьмака заключаюцца ў асаблівай кнізе, якая, як запэўніваюць беларусы, знаходзіцца ў глухім лесе. Атрымаўшы ад ведзьмака адпаведнае ўказанне, яго пераемнік павінен знайсці яе і праспаць там ноч, паклаўшы кнігу пад галаву; пасля гэтага кнігу зноў кладуць на месца, а новы вядзьмак набывае ўсю сілу свайго настаўніка»[5].

Нейкім, зусім амаль што нетлумачальным паўстае перад намі вобраз ведзьмака, злога варажбіта з вусна-паэтычнага твора «Смерць чараўніка».

Быў негдзе надта вялікі чараўнік. Што, бывала, захочыць, усё з паганьскай моцай зробіць.

У яго быў толькі адзін сын. Як чараўнік паміраў, сын прося:

— Навучы мяне чараваць, а то памрэш і я не буду ведаць.

Ён кажа:

— Добра. Вазьмі хамут, палажы на стаўбе каля печы ды глядзі праз яго на мяне, тагды і будзеш знаць.

Ён гэдак і зрабіў. Аж бача: бацька канаець, а чэрці з усіх старон наляцелі. Мэнчылі чараўніка, мэнчылі, аж пакуль ён і язык не высалапіў. Тагды ўзялі і ўсе яго косці, жылы, вантробы — усё сабе падзялілі, толькі адну скуру аставілі. Дык тагды большы д'ябал узяў да ўлез у скуру і кажа:

— Глядзіце, д'яблы, што я зраблю! Няхай жа цяпер мяне абмываюць, спяваюць і хаваюць — вось дык будзе смех нам!

Прыйшлі бабы, суседзі, сыскалі яшчэ дзяка, бабы паставілі ў печ ваду грэць, каб, знача, абмыць мерцвяка, палажылі яго ў карыта. Ну, і суседзі хоць, вядома, і рады, што памёр чараўнік, але ж усё ж, як раней казалі, неабходна памянуць. Дзяк сабе спявае. Сын злез з печы, сядзіць, маўчыць, а далей — цуп! — ухапіў гаршчок з варам — ды к карыту. Бачаць усе, што ён хоча зрабіць: узліць на бацьку вар, і мысляць, што ён зыходзіць з ума, сталі крычаць:

— Што ты, паганец, робіш! Гэта ж ты бацьку апарыш!

А ён кажа:

— Ды вось глядзіце. — Ды як чабохне гэты вар на мерцвяка, дык ён як лопнець і з усім карытам цераз страху панёсся, толькі яго і бачылі.

Тады сын і кажа:

— Во глядзіце, хто гэта быў, а не бацька[6].

Як бачым, многае не супадае з тым, як, паводле народнага, хавалі нябожчыкаў-ведзьмароў ці адпраўлялі іх у апошні шлях. З аднаго боку, калі многія моманты гавораць пра тое, што яго і мылі гэтаксама, як і звычайнага мерцвяка, дык з другога, — нячыстыя паступаюць з памерлым надта ж ужо бязлітасна: «узялі і ўсе яго косці, жылы, вантробы, усё сабе падзялілі, толькі адну скуру аставілі». Атрымліваецца, што не толькі душа станавілася здабыткам чарцей, але і ягонае цела таксама. Да таго ж у зафіксаваных намі выпадках памерлы, няхай сабе гэта быў і варажбіт, і злы чараўнік, перавернуты

ў ваўкалака, усё роўна ён у нечым надта нагадваў чалавека па знешнім выглядзе. А ў дадзенай сітуацыі гэта ўжо і не чалавек, і не варажбіт (па нейкаму традыцыйнаму ўяўленню), а нейкае нетрадыцыйнае дзеянне старэйшага сына да бацькі, калі ён просіцца ў таго навучыць яго чараўніцтву. Прыгадаем, што ва ўсіх, без выключэння (гэта будзе адносіцца толькі да сумленных людзей), выпадках адбывалася наадварот. Там жа персанажы нават падумаць баяліся адносна судакранання з целам паміраючага (канаючага) ведзьмака. Ведалі, папярэджваліся шматкроць, што іх чакае ў адваротным выпадку, таму і засцерагаліся. А тут прамы зварот з просьбаю аб «навучанні самаму злому з усіх астатніх рамёстваў». І яшчэ. Калі бацьку-варажбіта кладуць, каб памыць, пераапрануць, як і належыць, дык сын ашпарвае яго крутым варам дзеля таго, каб усе паспелі ўбачыць, што гэта на самой справе ператвораныя нячысцікі.

Нават улічваючы тое, што знахар паўстае перад намі то звычайным чалавекам, то паўфантастычнай істотай, хочацца згадаць і пра тое, як жа паміраў злы чараўнік, перакінуты ў ваўкалака, ці якога ягоныя суродзічы лічылі гэтым самым ваўкалакам. Разглядаць будзем толькі тыя выпадкі, дзе справа сапраўды датычылася зла, прычыненага сумленным людзям носьбітамі нячыстай сілы (прыхільнікамі, служкамі і г.д.).

«Злы чараўнік-пярэварацень паміраў. Пасля таго, як цела такога ваўкалака закопвалі, на магілу праз некалькі дзён пасля пахавання прыходзілі найбольш старыя і паважаныя людзі той вёскі, дзе ён жыў у свой час. Яны не верылі, што ён памёр і не ўстане болей, таму забівалі ў свежазасыпаную магілу тры асінавыя калы: ля галавы, пасярэдзіне і ля ног. Пры гэтым звычайна спявалі, прытупваючы, песню:

От так табе, така-ваўкалака!
Кыш, кашкалака, жабалака!
Штоб ты не ўстаў,
З асінкаю прапаў!
Асінкаю табе па барадзе!
Па сэрцу, па каленцу![7]

Паводле народнага, заўсёды калі паміраў варажбіт, то «правесці» яго на той свет збіраліся шматлікія нячысцікі, якія спакою не давалі навакольным жыхарам да таго часу, пакуль памерлага не закопвалі ў зямлю. Болей таго, яны і пасля заставаліся непадалёку, але канцэнтраваліся ўжо непасрэдна ля ягонай магілы. Бясспрэчна, што любая нячыстая сіла баіцца на свеце ўсяго дзвюх рэчаў — па-першае, гэта

6 Зак. 1962

трэці крык пеўня, які перапыняе яе ўздзеянне на сумленных людзей, а па-другое — святога крыжа, жагнання, шаптання малітваў. У народзе таксама сцвярджалі, што на пахаванне варажбіта ці не з усяго краю зляталіся ведзьмы. Пад імі, хутчэй за ўсё, падразумяваліся гэтыя ж самыя злыдні, якія маглі непрыкметна прабірацца і потым знаходзіцца ў любой мясцовасці. «Мне некалі мой старэнькі дзядуля распавядаў, што аднаго разу ледзьве не загінуў, а ўсё з-за дурноты атрымалася. Малады быў, здаровы, на сябе заўсёды спадзяваўся, а калі нешта старэйшыя распавядалі, то не надта на іхнія аповяды спадзяваўся. Засмяецца ды са смехам прэч і пойдзе. Так усё і ішло, пакуль сам у бяду не трапіў. Добра тое ўжо, што добра скончылася! Хто ж яго ведае, як бы магло яшчэ завяршыцца. Казалі ў нас, што Хведар, быў у даўнія гады такі чалавек у вёсцы, надта варожыць моцна. Пералічвалі нават тых, хто ад яго пацярпеў. Потым пачалі гаварыць, што знахар той ужо пры смерці і не доўга яму засталося на белым свеце нячыстай сіле прыслужваць. Перасцерагалі, каб ніхто надта не хадзіў да ягонага хутара, каб не набліжаўся. І тлумачылі такую перасцярогу проста — тая ж нячыстая сіла, тыя ж чарты яго і вартуюць. Хто забудзецца ды падыдзе, то таму звароту назад не будзе. З двара ў двор не хадзілі, не папярэджвалі, але збяруцца дзе на вечарынцы ці на вячорках, то там ужо пра ўсёмагчымую нячыстую сілу нагаворацца. А аднаго разу дзед вырашыў паказаць, што ні ў якім разе не баіцца нячысцікаў. Заклаўся з хлопцамі прайсці познім вечарам да таго таямнічага хутара, пастаяць там крыху і вярнуцца назад, каб расказаць усім, што ж там на самой справе адбываецца. Была позняя восень. Усё навокал падмерзла, і таму калі дзед выскачыў з хаціны ды папёр да жылля чараўніка, то ісці яму было лёгка, толькі лядок пад нагамі пахруствау. Хутар знаходзіўся не так ужо і далёка. Тым не меней чым бліжэй падыходзіў чалавек да мэты, тым страшней яму станавілася. Вецер гуў у вяршалінах дрэў, нешта трашчала-насвіствала навокал. Ажно ногі прыкіпалі на месцы. Ды ўсё роўна ішоў і ішоў наперад, бо не хацелася прайграваць, не хацелася, каб потым усе з яго смяяліся-кпілі, асабліва дзяўчаты. Нарэшце дабраўся да хутара, стаіўся за хлеўчуком і слухае, што ж робіцца, бо ж нешта трэба будзе пераказваць потым. Пастаяў колькі хвілін і назад ужо збіраўся пакрочыць. Але што гэта? Ён хацеў крутнуцца і адчуў, што нешта моцна налегла на плечы і не дае яму павярнуцца. Напрудзіў сілу, аж тут як зарагоча, як залапоча, як закрычыць нейкае страшыдла над галавою! Чалавек таксама не сваім голасам узвыў. Тут ужо да яго дайшло, што смерць блізка! Крычыць, небарака, ту-

заецца, а яго па-ранейшаму нейкая невядомая сіла не адпускае. Крычаў, тузаўся, пакуль зусім не абяссілеў. Аж потым да яго данеслася кукарэканне пеўня, і нешта на ім усё абмякла. Назад як ляцеў, то і не памятае нічога. Потым яму ўжо давялі, што гэта нячыстая сіла на сваё зборышча збіралася, каб з тым Хведарам развітацца, і адпаведна старанна пільнавалася, каб ніхто чужы блізка не прабраўся. Добра, што трэція пеўні праспявалі, а то там бы яму і быў вечны супакой» (УЗ. Ганц.).

«Нячыстая сіла злятаецца на свой шабаш да паміраючага знахара. Іначай і быць не можа, бо яна ж прылятае развітацца назаўсёды з чорнай душой, якая ім верна служыла. На такі шабаш звычайнаму чалавеку, які не запрадаў д'яблу сваю душу, ісці нельга ні ў якім разе. Іначай яму дарогі дамоў потым ужо не знайсці. Ці памрэ на тым самым месцы, дзе яго тая нячыстая сіла падловіць, ці запрадасць назаўсёды сваю душу, ці ўвогуле кранецца розумам, і тады ўжо людзі ніколі не даведаюцца, што ж з ім здарылася на самой справе. Там столькі чарцей збіраецца, што ўсё ажно кішыць. Прабіцца да хаціны канаючага знахара няма магчымасці, каб цябе не заўважылі. Мала гэтага, дарма мы лічым, што раз нячысцікі — дык абавязкова дурныя. Не, на самой справе даволі часта ўсё аказвалася зусім іначай. Яшчэ здалёку заўважаць чалавека і падводзяць яго да тае мясціны, адкуль ён ужо не здолее вырвацца. Гаварылі даўней, што рознымі прывідамі-зданямі станавіліся тыя нячысцікі. Яны маглі і ў дрэвы, і ў карчы пераўвасабляцца. І не адрозніш, што на самой справе гэта нейкія нячысцікі. Тым болей што яны ў будзённым жыцці знаходзяцца адзін ад аднаго на далёкай адлегласці і разам збіраюцца толькі тады, калі памірае нехта з блізкіх ім людзей. Іхні шабаш вылучаўся праявамі злосці, бязлітаснасці. Мала таго, што чалавека неасцярожнага да смерці давядуць, дык яшчэ і рагочуць-заліваюцца потым ад задавальнення» (УЗ. Жытк.).

«На той шабаш па памерламу чараўніку збіраюцца нячысцікі: ведзьмы, чэрці, ваўкалакі, ваўкі-сабакі. Такога віскату-скрыгату зададуць па наваколлі, што ноччу ў сваёй хаціне нельга заснуць. Страшна становіцца, а яшчэ старэйшыя ўсялякіх страхоў, якія нібыта некалі з імі здараліся, нарасказваюць. А каб ужо выйсці куды ды не патрапіць на той шабаш, проста немагчыма было. Таму пакуль чараўніка не пахаваюць, то стараліся, як толькі змеркне, нікуды са свайго падворка не аддаляцца, бо запроста можна было душою залучыць. Часта здаралася, што нехта ці забудзецца, ці, каб паказаць, што нічога не баіцца, выйдзе з дому, і потым яго знаходзілі нежывога, са здара-

веннымі ранамі, пераламанымі касцямі. Значыцца, патрапіў-такі на шабаш, і чэрці, каб ён не пабачыў іхніх таямнічых дзеянняў ды потым не пахваляўся, зводзілі яго са свету. Казалі, што ўратавацца ўдавалася толькі выпадкова. Найчасцей ратаваў крык трэціх пеўняў. Як бы тады нячысцікі ні стараліся, а ўсё роўна не маюць ніякай моцы пасля гэтага імгнення. Зашыпяць, засыкаюць, заскрыгочуць ад злосці ды ад таго, што трэба назад убірацца. Так і застыгнуць да наступнага змяркання дрэвамі ды пнямі, камянямі ды карчамі. Яшчэ крыж заўсёды ды малітвы дапамагалі. Тут ужо ніякая нячыстая не палезе. Дастаткова было, не разгубіўшыся, правесці вакол сябе кола якім другчком ці імкліва тры разы перажагнуцца. А там ужо чалавеку нішто не страшна. Ляжы сабе спакойна ды чакай светлага часу. Праўда, наглядзецца яму выпадала ўсялякага, бо ўсё роўна здані тыя наўкола кружыліся, каб улучыць хвіліну ды налякаць чалавека, ці калі такое здараецца, то вывалакчы яго з захрышчанага кола» (УЗ. Ганц.).

Яшчэ Я. Баршчэўскі падрабязна апісваў, як маглі выглядаць тыя нячысцікі, у сваёй славутай працы «Шляхціц Завальня, або Беларусь у фантастычных апавяданнях». «Апоўначы лютыя пачвары акружылі лоўчага. Бачыць, як набліжаецца велізарны мядзведзь на задніх лапах, рыкае і ўжо хоча напасці; зграя ваўкоў, натапырыўшыся і свецячы вачыма, пагражае крывавымі пашчамі. Сямён адважна ідзе сярод хіжацкае зграі. Заступіў яму дарогу вышэйшы за лес Волат, які вырваў вялізную хваіну і гразіўся, нібы пярун. Аднак лоўчы смела мінае ўсё гэта»[8].

Прырода таксама актыўна «ўдзельнічала» ў пахавальным абрадзе (працэсе) злога варажбіта. Паводле народнага, сцвярджалася, што «нячыстыя здані, збіраючыся на пахаванне, выклікалі моцную завею-віхуру». Праўда, гэта яшчэ залежала і ад той пары года, калі наставала смерць ведзьмара. Адпаведна раз гэта адбывалася зімою, дык дзьмула віхура, уздымалася страшэнная, валодаючая неўтаймавальнай разбуральнай сілай, а калі летам ці вясною, то гаспадарыла нечуваная навальніца з бязлітаснай бурай, якая ўсё паліла-вынішчала на сваім шляху. Сустракаюцца выпадкі, дзе гаворыцца і пра тое яшчэ, што восенню, падчас смерці чараўніка, пачынаўся зацяжны дождж, які заліваў-скручваў усё навокал. Як бы там ні было, але ў народзе пераканаўча адзначалі, што гэтак паміраючы варажбіт развітваўся з белым светам і, каб надаўжэй уесціся ў памяць людзей, вырабляў такую ўжо пасмяротную «штучку», якая ў значнай ступені ўзмацнялася ўдзелам шматлікіх нячысцікаў. Менавіта яны павялічвалі запалохваючы эфект прыроднай стыхіі. Вяскоўцы маглі пад-

крэсліваць і тое, што гэта нібыта злыдзень помсціў людзям за нейкую вялікую крыўду, нанесеную яму да гэтага часу. Як бы там ні было, але адназначна прызнавалі, што смерць чараўніка-знахара прыводзіць да вялікай бяды астатніх. Нярэдка ў выніку такой праявы стыхійнай сілы гінулі людзі, жывёла, выгаралі дашчэнту ці зносіліся вадою цэлыя населеныя пункты. Патрыярхальнаму чалавеку асабліва не выпадала задумвацца над прычынамі ўсяго гэтага, ды, бадай што, і саму прычыну ён, хутчэй за ўсё, бачыў у тым, што нехта канкрэтны варожыць, чаруе сваімі вачыма і дзеяннямі, словамі і заклёнамі. Раз такое здзяйснялася, дык яно ўсё роўна было накіравана ў першую чаргу супраць людзей. Такім чынам, ужо проста гістарычна ўсёмагчымыя чараўнікі былі асуджаны да бязлітаснага пакарання. Не здзіўляе і тое, што іх не шкадавалі, іхнія лёсы, пакуты, боль не выклікалі ў людзей спачування. Атрымлівалася, што гэтыя варажбіты ў перадсмяротным (ці нават у пасмяротным) стане ўсёадно помсцілі. Не маглі «адыграцца» на злым ведзьмару, дык з ягонай памяццю, жыццядзейнасцю звязвалі ўсё самае благое, што магло здарыцца ў жыцці.

«На маёй памяці адбылося такое здарэнне. Я ўжо быў даволі вялікім і таму добра памятаю. У нашай вёсцы жыў старым-стары чалавек, і на яго ўсе казалі, што быццам бы ён знаецца з нячыстай сілай. Абыходзілі старога бокам. Стараліся зрабіць так, каб з ім лішні раз не сустракацца. Мала што можа здарыцца пасля таго, як трапішся на тыя злавесныя вочы. Захварэеш, упадзеш на месяцы. Потым той дзед перастаў на людзей благое рабіць, але затое перакінуў свае штучкі на жывёлу. Во ўжо дзе ён панавырабляў! Столькі яе перадохла ды падарэзвалі. А што ж рабіць? Лепей дарэзаць ды ці з'есці, ці пастарацца перапыніць той жудасны паморак. Мала гэтага, той вядзьмар нават ужо калі ляжаў і амаль не вылазіў на свет белы, то ўсё роўна працягваў напускаць розныя хваробы ды пошасці. Калі ж паміраў, то з-за нячыстай сілы не толькі што каля яго хаціны, але нават і па вёсцы ноччу нельга было прайсці. Чапляліся ўсялякія здані да людзей, палохалі, а некаторых дык і моцна калечылі. Потым, як той знахар памёр, а было гэта лютай зімой, дык такая ўсхадзілася завіруха, такая мяцеліца, што снегу панадзімала вышэй хацін. Звычайна, калі снег ідзе ці мяце, то марозу вялікага няма, а тут жа ўсё было: і мароз, і сцюжа, і снег. Здавалася, што неба на зямлю абвалілася. Запар трое сутак дзьмула. Колькі людзей у дарозе загінула-замерзла! Іх адразу ніхто і не шукаў, бо баяліся, каб самім не згінуць. А ўжо што нячыстая сіла выла ды галасіла, то ні ноччу ні днём не заці-

хала, так ужо радавалася, што яе часіна прыспела. За кожным вуглом, за кожным кустом сядзела якая нячысціна ды ўголас падвывала. Толькі як таго варажбіта пахавалі, дык тая завіруха перапынілася. Нячыстыя супакоіліся, але перабраліся да магілы свайго былога прыслужніка і там ужо нікому не давалі спакою» (УЗ. Івац.).

«Некалі ў нас вельмі страшная завіруха зімою разыгралася. Такая, што не проста снег несла, марозам выбівала, але і будынкі нават, нібы якія цацкі дзіцячыя, па бярвенцы раскочвала. Як застагнала, як заіграла! Самае галоўнае, што раптоўна. Ціха, ціха было, і потым усё ўсхадзілася. Пазней ужо ўсё высветлілі. Аказалася, што менавіта ў той самы момант сканаў знахар, які супраць людзей чары правіў. Як толькі ён сканаў, дык адразу чэрці гульбішча наладзілі — завіруху. Ды такую ўжо ўчынілі, такую ўжо зрабілі, што надоўга яе людзі запомнілі. Не было такой сям'і ў вёсцы, дзе б тады гора якое не здарылася. Некаторыя хаціны так і ляжалі разбуранымі ажно да позняй вясны, бо пад бярвеннямі ўсіх сваіх жыхароў пахавала, і не было каму распачынаць працу па абнаўленні. Некаторых моцна пакалечыла. Гэтым ды яшчэ тым, каму давялося ўсю зіму па чужых кутках туляцца, горай за ўсіх дасталося. Зведалі небаракі ад ведзьмара ды нячыстых гэтулькі бяды, што і нашчадкам сваім заказалі. Ніхто б не падумаў, што калі варажбіт памірае, то чэрці гэтак шалеюць. А тут усё так і атрымалася. Менавіта з-за смерці свайго хаўрусніка так і помсцілі. Хоць на самой справе, у чым жа вяскоўцы вінаваты? Проста прыйшоў час яму сканаць, дык і сканаў. Іншае, што ніхто да яго ў хату не пайшоў, каб развітацца, але і гэта можна растлумачыць, бо баяліся людзі ісці туды, каб нячыстая сіла жыцця не пазбавіла. Завіруху тую за тое ўсе надоўга запамяталі. Дарага, надзвычай дарага яна людзям абышлася» (УЗ. Кобр.).

«Мне яшчэ малой мая бабулька-нябожчыца распавядала, што некалі ў той вёсцы, акудь яна сама была родам, гора вялікае здарылася. Памёр адзін вясковец, якога ўсе лічылі страшным знахарам, яно і на самой справе так было, бо ён усё, што не рабіў, то тое супраць людзей паварочвалася. Але гора не ад гэтага было, а ад таго, што сам варажбіт памёр, а ўся верная яму нячыстая сіла сабралася да яго хаціны, каб у апошні шлях правесці. Вось гэтае зборышча і далося ў знакі! Узнялася такая завіруха, што людзі нават з хацін не мелі магчымасці павылазіць. Так снегам пазакручвала. Сядзяць ды адно малітвы шэпчуць, просяць Бога, каб хутчэй надвор'е перамянілася, бо надта ж разбурэнняў навокал многа. А ў комінах вые страшэннымі галасамі, па стрэхах нібы коні бегаюць, нешта тупоча. У

вокны дык ніякае святло ўвогуле не прабівалася — снегам пазаносіла. Тыя нячысцікі стараліся, аплаквалі вернага служку і са злосці, што яго болей не будзе з імі, так ужо помсцілі-адплочвалі. Нават бліжэйшы лес, які пачынаўся адразу за вёскай і звычайна затрымліваў вецер, перасцерагаў будынкі ад разбурэнняў, і той на добрую вярсту быў так спляжаны, нібы нехта пахадзіў там з агромністай сякерай і бязлітасна высякаў старадаўнія дрэвы. У тыя двое сутак, што лютавала завіруха, нават старую царкву развяліла, якой ужо было колькі стагоддзяў. Мала гэтага, дык зімою, падчас раз'юшанай завірухі, перуны білі, нібы ў летні дзень. Перуны білі, маланкі сваімі пісягамі, усё роўна як бізунамі, стралялі. Столькі жахаў! Гаварылі, што гэта Усявышні не мог вытрымаць і, нягледзячы на зімовую часіну, адправіў Іллю-прарока, каб ён чарцей-нячысцікаў папаляваў, бо іх там ажно кішэла! Ілля б'е-забівае, а яны ўсё роўна сваю гнюсную справу робяць, нават на яго ніякай увагі асабліва не звяртаюць. Вось так чэрці за свайго знахара помсцілі! Бяды тады многа прынеслі вяскоўцам. Самае цікавае, што калі царкву адбудавалі, дык яна недзе ўсяго праз пару тыдняў згарэла ясным агнём» (УЗ. Ветк.).

«Чорнага знахара нячыстая сіла ніколі не забывае. А як жа інакай, калі ён ёй запрадаў навечна сваю душу. Што нячыстыя прымушалі, тое і вырабляў, бо ўжо ніякага супраціву аказаць быў нездольны. Раз няма ўласнай душы, дык якая там ужо воля. Асабліва чэрці імкнуліся нашкодзіць людзям, калі варажбіт паміраў. Так ужо выкручваліся нячысцікі, такое ўжо рабілі, што ў божых людзей валасы дыбам паўставалі! Усходзіцца такая завіруха, як у нас некалі, што не гадзіну, не дзве, а цэлы тыдзень не супакойваецца. Вядома ж, снегу навальвае, будынкаў панаразбурае, навакольныя лясы пакрушыць, нібы якімі магутнымі каменнымі жорнамі перамне. Даўней пастаянна віхуру звязвалі з нячыстай сілай, а калі ў населеным пункце яшчэ паміраў знахар, то з ім і звязвалі ўзнікненне нейкай канкрэтнай прыроднай стыхіі. Асабліва часта такое пацвярджэнне стыхіям знаходзілася ў зімовы перыяд. Аднаго разу памёр чараўнік, які трымаў у страху ўсё наваколле, дык да яго пазляталіся ведзьмы і ведзьмакі з велізарнай тэрыторыі. Так ужо хаўрусаваліся і ўздымалі завіруху, якая гуляла сабе па абшарах цэлы тыдзень, не меней, запар. Вось тут ужо гора хапала. Пасля таго як варажбіта хавалі, знаходзілі і замерзлых, і забітых, і пакалечаных. Пра будынкі дык і гаворкі асаблівай не вялося. Галоўнае, каб людзі былі жывыя, а астатняе адновіцца. На вялікі жаль, далёка не заўсёды смерць абмінала людзей. Гінулі няшчасныя з-за разгулу нячыстай сілы. Сцвярджалі, што самы не-

бяспечны перыяд — гэта ноч. Вяскоўцы спяць сабе, толькі чуюць, як раве ды стогне завіруха за сцяною, а што могуць за гэты час, пакуль не прыспее дзень, нячысцікі нарабіць, нават падумаць не здольны» (УЗ. Карм.).

Іншая справа, калі чараўнік паміраў летам. Тады прынесенае гора было (магло быць) яшчэ большым. Справа ў тым, што лета ў любога з вяскоўцаў звязана з ураджаем (будучым ураджаем) у першую чаргу. Калі ўзыходзілася нечуваная навальніца, з бурай ды маланкамі, то гэта адназначна адзначала, што збажыну спляжыць на карані, вынішчыць садавіну, замочыць тое, што яшчэ працягвала расці ў зямлі, і яно ўсё дазвання згніе. Раз справа павернецца такім бокам, то гэта прынясе голад. А ад голаду нашы продкі даволі часта паміралі, пакутавалі. Таму невядома, што для іх было значна цяжэйшым — пачынаць па-новаму будаваць спаленую ці разбураную будыніну, ці паспрабаваць пракарміць у галодны год сваю сям'ю, выратаваць яе ад непазбежнай смерці. Часта, даволі часта падобныя справы завяршаліся жахліва. «Памятаю, як над нашай мясцовасцю гадоў з паўсотні назад разыгралася небывалая навальніца. З такімі грымотамі ды маланкамі, што зямля дрыжэла, нібы ад якога землятрусу, маланкі свяцілі, як сонца, нават на імгненне нельга было вочы самкнуць. А вецер, вецер такі ўжо страшэнны, што дрэвы з каранямі выварочваў ды перакідаў з месца на месца, нібы якія саломіны. Казалі, што ў той самы дзень памёр надта моцны знахар, якога баяліся яшчэ і таму, што ён быў варажбітом ажно ў трэцім калене. І, як вядома, з кожным пакаленнем сіла яго павялічваецца. Не думаў знахар памерці, але з ім здарылася недарэчнае — недзе прапароў нагу на іржавы цвік. Як ні імкнуўся сам сябе выцягнуць, сам сябе вылечыць, што толькі ні прадпрымаў, каб застацца сярод жывых, як ні круціўся, але падкінуўся антонаў агонь і памёр. Сканаў у страшэнных муках з-за таго, што ў ягоным целе няма душы. Ён жа яе даўным-даўно запрадаў. Таму і мучыўся. Круціўся, крычаў, але ніхто да яго не пайшоў у хаціну, бо баяліся, што знахар мог так рабіць з-за таго, што хацеў перадаць каму-небудзь сваю чорную сілу. Для гэтага ж, найперш, яму неабходна знайсці чуллівага чалавека, які б, на ўсё забыўшыся, пачаў выконваць ягоныя просьбы-маленні. Раз'юшыўшыся яшчэ і з-за таго, што нікога не было побач, ён склікаў да сябе ўсю нячыстую сілу, якую прымусіў-папрасіў за сябе адпомсціць, як сам палічыў, неспагадлівым людзям. Вада ляцела з неба суцэльным патокам. Бульбу з зямлі павырывала і пазносіла невядома куды, а

пра збажыну дык ужо і гаварыць не даводзілася; перамяшала яе з зямлёю-гразёю, і ўсё на тым. Пра які ўжо ўраджай можна было гаварыць у далейшым? Ліло, грымела, бліскала. Здавалася, канца і краю ўсяму гэтаму не будзе. Аж неяк вецер сціх, сонейка з-за хмар вызірнула, і ўсё на тым. Галадалі ў той год моцна. Многа сем'яў увогуле ў іншыя мясціны сышло, бо баяліся надыходу галоднай і сцюдзёнай зімы. Сышлі ды так болей дамоў і не вярнуліся. А таго варажбіта пахавалі непадалёку ад вёскі. Недзе з месяц там і блізка нельга было прайсці, усё нешта страшэнна палохала ды гналася за людзьмі. Потым жа тое месца, дзе яго закапалі, увогуле правалілася, і засталася адно глыбокая яміна. Яе потым «чарцяцкай» вяскоўцы празвалі» (УЗ. Бабр.).

«У нас даўней казалі, праўда, і зараз працягваюць сцвярджаць, што калі віхура летам усходзіцца лютая з навальніцай, з маланкамі-бліскавіцамі, то гэта недзе паблізу знахар-варажбіт памёр, і яго неўзабаве вымушаны будуць хаваць. Вось таму нячысцікі па ім такія хаўтуры і наладжваюць, каб назаўсёды, акрамя таго благога, што да гэтага часу ён сам рабіў, у знакі ўсім даўся. Такой бяды-злыбяды натвораць, што потым доўга людзі плачуць. Лета ж — пара будучага ўраджаю, а тут такая стыхія ўсхадзілася. Самае дзіўнае, што адразу і вецер дзікі, і маланкі-жахлівіцы, і гром. Не ведаеш, чаго і баяцца ў першую чаргу. Усё ўецца-снуецца, нібы ў якой бочцы. Кругом свіст, крыкі, стогны, праклёны. Усё гэта малазразумела. Давіць на людзей. Палохае іх так, што яны баяцца вочы ўзняць у неба, не тое каб неяк там сябе супрацьпаставіць. Хто такі звычайны чалавек супраць нячыстай сілы? Слабак, і не болей таго. Варажбіт за час свайго працяглага жыцця так усіх прыціскаў, прыніжаў, што яны ўжо і пасля смерці ведзьмара працягвалі яго баяцца. Здавалася, што прырода, прыродная сіла, таксама былі не за людзей, а супраць іх, нібыта і яны за нешта помсцілі. Гледзячы на вынішчаныя дазвання нівы і палі, можна было і на самой справе падумаць, што гэта кара маці-зямлі за нейкую людскую правіннасць. Толькі ж, вядома, што ніякай віны людзей не было, акрамя таго, што злы варажбіт так бязлітасна абышоўся з тымі, сярод каго пражыў усё жыццё» (УЗ. Ганц.).

Цікава адзначыць і той факт, што пасля смерці злога чараўніка ягонае жыллё ніхто не займаў. За выключэннем тых рэдкіх выпадкаў, калі яму перад смерцю ўдавалася запаланіць сумленную душу. Тады ўжо яе ўладальнік проста вымушаны быў перайсці на жыхарства туды, дзе да яго жыў стары знахар. Малады павінен быў адмяжоўвацца ад сваіх былых суродзічаў. І першым крокам у такім адме-

жаванні станавілася добраахвотнае перасяленне. У астатніх жа выпадках людзі баяліся набліжацца да закінутай хаціны чараўніка, бо там, паводле цвёрдага пераканання, назаўсёды ўсталёўвалася жыць нячыстая сіла. Дастаткова было хоць на кароткі перыяд ступіць на тэрыторыю яе ўладанняў, як чалавек мог пакалечыцца ці паступова перайсці ва ўслужэнне да тых самых нячысцікаў. Ні ў якім разе нельга было дакранацца і да пакінутых рэчаў, бо на іх таксама ляжаў злы заклён памерлага варажбіта. Дзейнічаць ён мог праз многія гады, нягледзячы на тое, што маглі нават памяняцца за гэты час пакаленні людзей. Усё роўна чароўная сіла небяспечна ўплывала і на іх. Тут ужо чалавек не адразу адчуваў перамену ў сваім характары, у тым, што нешта стала падбіваць яго да супрацьдзеяння людзям, да імкнення запрадаць д'яблу сваю душу. «Гэта і зразумела, калі варажбіт паміраў, то ягонае жыллё ніхто не займаў. Не лезлі людзі туды, бо добра ведалі, што калі пачаць жыць у хаціне знахара, то ўсё роўна, хочаш ты ці не, а станеш прыслужваць сатане. З цягам гадоў нячыстая сіла з такога чалавека зробіць знахара, які ў многім будзе пераўзыходзіць былога гаспадара перайшоўшай да яго хаціны. Проста закідвалі той будынак, і толькі ў памяці ён па-ранейшаму асацыіраваўся з нячыстай сілай, якая там лякала-палохала, з чарцямі, што смела гаспадарылі там, асабліва ў начную цемру. З цягам часу рассыпалася хаціна, раскочвалася па бярвенцу і тады ўжо дагнівала свой век на зямлі. У нас яшчэ казалі, што на такім месцы звычайна складваўся незвычайны вужоўнік. Гэта азначала, што там заводзілася надзвычай многа вужоў. Калі на іх хто ненарокам натрапіць, дык яму ратавання ніякага не будзе. Вужы накінуцца на яго і задушаць да смерці, а ўсю кроў дачыста высмакчуць. Таму ў нас і баяліся тых месцаў, дзе некалі жылі чараўнікі, таму і звязвалі з імі ўсёмагчымыя былічкі-аповяды» (УЗ. Жлоб.).

«Што з жыллём знахара, калі ён паміраў, рабілі? Атрымлівалася, што нічога ўвогуле і не рабілі. Проста закідваўся той падворак, зарастаў сам па сабе, развальваўся. Нават блізкія, родныя чараўніка, калі такія жылі недзе непадалёку, не лезлі да той хаціны. Стрымліваў іх чароўны заклён, які вісеў над усім гэтым. Не чапалі і прылад працы, якія засталіся пасля смерці, няхай сабе іх і не было ў сваёй гаспадарцы. Таксама на іх вісеў апошні, самы моцны праклён былога гаспадара. Ён жа ўсё прадугледзеў. Ведаў наперад, што нехта можа пасквапіцца і прыхапіць сабе. А раз возьмеш ды прынясеш дамоў, то, значыцца, абавязкова прысунеш усёй сям'і нячыстую сілу, якая стане актыўна ўплываць на здароўе, паводзіны блізкіх і родных людзей,

на рост жывёлы, на ўраджай, адным словам на ўсё, чым тады займаліся людзі. Таму і лічылі за лепшае, няхай тая хаціна стаіць, няхай яна развальваецца, урастае ў зямлю, але ўсё роўна за лепшае будзе яе не чапаць. Мала што можна наклікаць на сябе ды на родных тым самым заклёнам чараўніка. Даўней усяго такога надта баяліся, гэта ж не тое, што зараз. Тады, калі старыя сказалі, што да хаціны знахара нельга блізка падыходзіць, дык і не падыходзілі, не выпрабоўвалі лёс» (УЗ. Жабінк.). «Некалі ў нашых мясцінах памёр надта моцны знахар, які меў «чорныя» вочы, гэта значыцца ўсё рабіў толькі супраць волі людзей і накіроўваў, адпаведна, супраць іх саміх. Як сказаў той злыдзень, то хоць і засталіся ў яго родныя ды блізкія, але да асірацелай хаціны ніхто і на крок не набліжаўся. Усе баяліся, каб тая чартоўская сіла на каго, няхай сабе і выпадкова, не перакінулася. У тыя гады займацца чорным вядзьмарствам лічылася найвялікшым грахом. Такога чалавека ўсе сумленныя людзі праклінаялі і, вядома ж, адварочваліся ад яго. Не чапалі на падворку нічога. А калі паблізу ад той хаціны заспеў дождж, то ўсё роўна, не беглі да яе хавацца, а за лепшае лічылі стаіцца за якім кустом ці пад дрэвам. Не было іх, то моклі на адкрытым месцы, але прытулку ў заклятым будынку не шукалі. Не дакраналіся да прылад працы, няхай сабе яны былі зусім новыя, прыдатныя для ўжывання. Забраць іх да сябе мог толькі такі ж чорны варажбіт. Нячыстаму нячыстая не страшна. Астатнія людзі цвёрда ведалі, як паводзіць сябе ў такой сітуацыі. Мала гэтага, калі праязджалі ці праходзілі міма хаціны былога ведзьмара, дык у яе бок і старыя, і малыя тройчы плявалі, каб такім чынам засцерагчы сябе ад уздзеяння нячыстай сілы і яскрава паказаць, як яны да яе адносяцца» (УЗ. Лун.).

У большасці выпадкаў сцвярджалі, што жыллё чараўніка знішчалася агнём. Яно і не дзіўна, бо менавіта агонь валодаў у вачах нашых патрыярхальных продкаў найбольшай ачышчальнай сілай, якая магла не толькі ўжо ачысціць ад таго, што было, але і засцерагчы на будучае ад усёмагчымых хвароб, нячыстых сілаў, чорных вачэй, адным словам ад усяго таго, што негатыўна ўздзейнічала на людзей. «Памятаю, як некалі ў вёсцы нашай памёр знахар. Звалі яго Захарка. Сям'ю ў маладосці сваю меў, а потым як заняўся чорнай варажбою, дык і жонка з дзецьмі ад яго адвярнуліся, і суседзі знацца болей не пажадалі. Жыў нібы які воўк у логаве. Ні да каго не хадзіў, ні з кім не вітаўся, калі і сустракаў каго з вяскоўцаў. А што ж вы ад людзей хацелі? Злыдзень будзе злое рабіць, а ты з ім размаўляй як з родным ды руку яму падавай. Так і сканаў сам-адзін, ніхто да яго развітвацца

не пайшоў. Адно толькі з суседніх вёсак колькі старых прыцяглося, мабыць, гэтаксама знахараў, ды вывезлі пахаваць. Хаціна так і стаяла. Вокны тыя ды дзверы ніхто не забіваў дошкамі крыж-накрыж, як вядзецца, бо баяліся, што праз такое дакрананне можа нячыстая сіла ў чалавека ўвайсці. А пасля таго як прайшло сорак дзён з дня смерці варажбіта, старыя людзі параіліся паміж сабою і вырашылі запаліць гэты прытулак нячыстай сілы, каб яна і надалей ніколі болей не збіралася. Праўда, агонь бралі не той, што ад запалак разгараецца ці ў печы гарыць, а спецыяльна церлі адзін аб адзін кавалачкі дубовага дрэва. Як распалілі такі агонь, дык далі яго ў гаршчочку ў рукі самаму старому з вяскоўцаў, і той панёс да хаціны, каб падпаліць яе. Падышоўшы, тройчы пераэжагнаўся, каб нячыстая сіла ад яго адхіснулася, а потым, стараючыся ні да чаго не прытульвацца, кінуў той гаршчок праз разбітую шыбу ў сярэдзіну хаты. Праз даволі кароткі час сквапнае полымя лізала ўвесь будынак. Неўзабаве згарэла ўсё дазвання, і такім чынам было знішчана вернае месца, дзе маглі ў далейшым збірацца ведзьмы ды нячысцікі. Запаланілі, і ўсё на тым. А праз пару гадоў на тым дворышчы сталі расці алешыны, якія самі па сабе пасеяліся, вербалоз і іншыя чортавы дрэвы» (УЗ. Кобр.).

«Даўней заўсёды так рабілі, што як толькі паміраў злы знахар, а людзі ж добра ведаюць, хто чым пры жыцці займаўся, то ягоны падворак быў недаступны для ўсіх тых, хто ў царкву ходзіць. Баяліся ісці туды, каб з нячыстай сілай не спазнацца, каб ненарокам тая вядзьмарская сіла на каго не перакінулася. Праз пару дзён вырашалі спаліць усю сядзібу, каб агнём святым ачысціць тутэйшую мясцовасць ад нячысцікаў, не даць магчымасці збірацца ім у далейшым. Спальваннем звычайна займаліся самыя старыя людзі ў вёсцы, і не толькі таму, што яны былі вопытныя і спрактыкаваныя, але і таму, што калі за гэта якая трасца падкінецца і ім давядзецца паміраць, дык яны ўжо сваё на гэтым белым свеце аджылі. Апраналіся чыста, як на свята якое, і ішлі з агнём да той злашчаснай хаціны. Агонь быў не абы-які, а святы, свечка запальвалася спецыяльна для такой мэты кім-небудзь у царкве. Надта марудна неслі свечку, каб ненарокам не згасла, бо тады б давялося ўсім вярнуцца назад і пачынаць усё спачатку, але ўжо на другі дзень. Ад свечкі запальвалі некалькі смаловых ашчэпкаў і ўторквалі іх з розных бакоў у страху хаціны. Потым адыходзілі і старанна сачылі за тым, каб выгаралі ўсе дачыста будынкі на падворку. Тады ўжо лічылася, што нячыстай сілы няма і няма ёй, адпаведна, прытулку ў гэтым самым месцы. Выпальвалі ўсё дашчэнту. Гэта я добра памятаю» (УЗ. Драг.).

Нярэдка згадвалася і пра тое, што пасля смерці злога чараўніка ягонае жыллё спальваў таксама агонь, але агонь нябесны — маланка паліла ўсе будынкі, якія заставаліся на падворку нябожчыка. «Толькі памірау вядзьмар, толькі яго вывозілі на пахаванне, як жыллё ягонае таксама згарала. Вось і неба, здаецца, чыстае, няма на ім ні воблачка, а раптоўна загрукоча гром, бліснe перуніца-маланка, і займецца ясным полымем хаціна ці тая якая іншая халупіна, у якой ён жыў і адкуль адышоў у апошні шлях. Сам нябесны валадар не жадаў, каб на далейшае на зямлі заставаўся яшчэ адзін прытулак нячыстай сілы, і імгненна спальваў яго. Не выключана, што ён рабіў усё гэта з-за таго, бо бачыў, колькі ўсялякіх чарцей збіралася вакол праклятай людзьмі хаціны. Бог сам ніводнага нячысціка не стане трываць, тут яны ажно кішаць, нібы ўюны ў кашы. То як лупяне Бог палючай стралою, дык іх столькі выгарыць-вынішчыцца, што і палічыць нават немагчыма. Толькі смурод навокал стаіць такі, быццам жывых авечак палілі, — гэта ад чартоўскай поўсці, ад іх нячыстых касцей. Яму і лепей на адным месцы гэтулькі ведзьмакоў знішчыць. Ад маланкі смерць знаходзілі чэрці і ад яе ж усе будынкі чараўніка выгаралі» (УЗ. Клім.). «Здзіўляла тое, што не паспяваў чараўнік памерці, а жыллё ягонае не заставалася стаяць. Маланка ў яго біла, лічы што з першай хмары, калі толькі навальніца ўздымалася ў тутэйшых мясцінах. Часам магло падацца, што з чыстага неба страляла-жыхала маланка, каб запаліць жыллё варажбіта. Усё астатняе, маецца на ўвазе сялянскія будынкі, заставалася цэлым і недасягальным для агню, а вось, здавалася б, нежывы агонь знаходзіў той будынак, дзе памёр чараўнік, і падпальваў яго. Полымя шугае так, што ніякі дождж яго не залье, ніякія перашкоды яго не спыняць. Пойдзе дымам сядзіба варажбіта, а заадно і ўсё тое благое ды злое, што было звязана з ёю ў памяці людзей. Калі гарэлі будынкі на такім падворку, то іх ніхто тушыць не спяшаўся, каб самому ў грэх перад Усявышнім не ўпасці. Ні для каго не сакрэт, што Бог нячысцікаў не любіць ад самага стварэння Сусвету, з таго ж моманту ён з імі бязлітасна распраўляецца. Тым болей што чарцей на сядзібе было заўсёды надта многа, асабліва ў першым часе, адразу пасля смерці варажбіта. Бог усё чыста бачыў і спапяляў іх разам з нячыстымі, забруджанымі чорнай сілай будынкамі» (УЗ. Нараўл.).

«За тыя будынкі, што застаюцца пасля смерці чараўніка, вяскоўцам турбавацца не даводзіцца. Справа ў тым, што яны самі пагараць. Нябесная маланка ім дасць рады. Не паспеюць людзі паразважаць, што да чаго ды як, а ўжо ўсё будзе вырашана. Галоўнае, што ці не з

першай навальніцы, якая тут усходзіцца, загрыміць гром, бліснезыркне маланка, распалавініць неба імклівай змяюкай і... зоймецца дымок над чартоўскай мясцінай. Ніхто і не зразумее, як жа гэта так адразу атрымалася. Тушыць не ідуць ні ў якім разе, каб на сябе людзей гневу ды Бога не наклікаць. Хто з чортам маецца, таго ніхто не любіць і не прызнае, тым болей ад Усявышняга потым таксама пакаранне можна панесці. Раз загарэлася, дык павінна згарэць дазвання, каб нішто цэлым не засталося, тады і нашчадкі не будуць ведаць, што да чаго, як з той нячыстай сілай змагацца, як знаходзіцца ў залежнасці ад чорных вачэй знахара, і многае іншае» (УЗ. Лях.).

Працэс пахавання ведзьмака, які, як лічылася ў народзе, надта даўся ў знакі людзям, амаль нічым не нагадваў пахаванне звычайнага чалавека — усё ў ім рабілася наадварот, навыварат. Такі прыём даўней пастаянна ўжываўся ў беларускім народзе з адзінай мэтай — адпалохаць, заблытаць, увесці ў зман нячысцікаў ды нячыстую сілу. Продкі былі цвёрда перакананы, што калі ўсё рабіць такім манерам, дык ведзьмары ды варажбіты вымушаны будуць збіцца са следу, пайсці «на куцыя лозы, на гнілыя балоты, сухія лясы, густыя верасы». Хавалі іх таксама асобна ад сумленных людзей, якія, як вядома, знаходзілі свой адвечны спакой на могілках. Месцы, для чорных варажбітоў падрыхтаваныя, былі «не надта зайздросныя»: раздарожжы, балаціны, непралазныя гушчары, кінутыя ўзвышшы-горкі і г.д. Адным словам, атрымлівалася, што і ў вусна-паэтычнай творчасці, і ў рэальным жыцці ведзьмароў заўсёды атаясамлівалі ад тых, хто зарабляў на жыццё шчырай працай; пасля смерці нічога не змянялася. Знахар, паводле патрыярхальных канонаў, не меў ніякага права знаходзіцца ў зямлі побач са сваімі суродзічамі. І ўсё ў першую чаргу не з-за таго, што ён рабіў астатнім благое, а з-за таго, што знахар і пры жыцці, і пасля смерці быў «бяздушны» — запрадаў сваю душу д'яблу. Калі на такі грэх у адкрытую баяліся паказваць пры жыцці ведзьмара, чакалі пакарання, то пасля смерці баяцца не было чаго, і таму тут ужо «на памяці» злыдня маглі адыграцца, як толькі жадалася. Нішто ж не перашкаджала! Нікога і нічога не лякаліся, тым болей, што і для тых, хто падумваў, як узбагаціцца пры дапамозе чароўнага слова ды магічнага дзеяння, было добрым урокам. І яны задумаюцца, што можа іх чакаць, якая няслава ды ганьба пасля смерці, калі пяройдуць на шлях чараўніцтва. Зараз, магчыма, на такое запалохванне не звярнулі б асаблівай увагі, а для нашых продкаў гэта было няпісаным законам: ляжаць у зямельцы-маці побач з бацькамі, братамі ды сёстрамі, побач «з радзінаю».

«Ведзьмара нават ягоныя найбліжэйшыя сябрукі-хаўруснікі хаваць усё роўна баяліся. Самі бралі каня, падводу, самі рабілі труну, клалі ў яе нябожчыка. Везлі хаваць не на могілкі, бо там яму месца проста не было, паводле перакананняў старажытнай маралі, а на перакрыжаванне дарог. Там і закопвалі на якім пагорачку ці на ўзвышшы. Рабілася гэта таксама са своеасаблівай задумай: тут пахаваюць, то ўсе, хто будзе праходзіць ці праязджаць міма, усё роўна стануць судакранацца з памерлым, і ён зможа і ў далейшым уплываць на людзей. Крыж, адпаведна, не ставілі над такой магілай, адно толькі клалі камень. Каб усе ведалі, асабліва тыя, хто ніколі даўней тут не быў, трапляў упершыню, што тут ляжыць знахар, якога паважалі і баяліся і якога трэба ўсё роўна асцерагацца, хоць ён і ў магіле. Тады і людзі пайшлі на далейшыя хітрыкі. Мала таго, што калі ішлі ці праязджалі, то ў абавязковым парадку хрысціліся, дык яшчэ кожны абавязкова кідаў на тую магілу камень. Калі ж каменя не мог знайсці, то павінен быў прысунуць які корч ці здаравенную галюку. Такім чынам, неўзабаве над магілай з'яўлялася цэлая крушня камянёў, высокі стос карчоў ці голля. Лічылася, што з-пад такіх штучных перашкод злому ведзьмару зусім няпроста выбрацца для таго, каб па начах працягваць выrabляць свае зладзейскія штучкі. Так чараўнікоў хавалі з пакалення ў пакаленне. І даўней такія крушні часта сустракаліся ў нашай мясцовасці. Распавядалі яшчэ і пра тое, што ў ноч на Івана Купалу ўсё знесенае да магілы (і на саму магілу!) абавязкова падпальвалі. Рабілася гэта для таго, каб паболей знішчыць нячысцікаў, якія ў гэтую ноч збіраліся да свайго былога хаўрусніка. Тады іх і гінула вялікая колькасць. А крыкаў ды гвалту было, што калі нехта выпадкова трапляў у такое месца і быў не надта спрактыкаваным чалавекам, дык ніяк не мог дацяміць, у чым жа справа. Тыя чараўнікі, якія знахара самі хавалі, то потым таксама наведваліся да яго на магілу. З якой мэтай? Хто ж яго ведае. Не выключана, што для таго, каб распавесці яму пра апошнія навіны ці каб набрацца ад яго дадатковай сілы» (УЗ. Клім.).

«Варажбіта пасля яго смерці везлі хаваць не на могілкі. Туды нельга было, бо калі б і завезлі, дык усё роўна людзі магілу б раскапалі і цела выкінулі б. Таму яго везлі на ростанькі і там закопвалі. Стараліся зрабіць гэта так, каб ніхто не заўважыў, але ж, тым не менш, знаходзіліся сведкі, якія канкрэтна ўказвалі, дзе закопвалі ведзьмара. Ягоныя хаўруснікі спецыяльна рабілі так, каб мала хто ведаў пра месца пахавання, бо баяліся, што іншыя людзі будуць апаганьваць месца апошняга прытулку іхняга сябрука. Толькі гэта не ўрато-

ўвала, бо, паводле народнага, кожны, хто праязджаў ці праходзіў міма, павінен быў кінуць на магілу камень ці якую-небудзь ламачыну. Не зрабіць такога мог толькі той, хто нічога не ведаў, бо ў адваротным выпадку гэта лічылася таксама вялікім грахом. У некаторых выпадках, асабліва там, дзе былі камяністыя мясціны, накідвалі вялізныя гурбы камення. Вышынёю яны маглі быць да некалькіх метраў. Нашы продкі былі перакананы ў тым, што цяпер вядзьмак не вылезе з магілы ні ў якім разе і яго не трэба ўвогуле баяцца. Ламачча, калі кідалі, то толькі гнілое, чорнае, з дрэнных парод дрэў, якія ў народзе называлі не інакш як чарцяцкімі. З моцных дрэў туды нічога не кідалі. Тыя пні, галюкі, карчы і на самой справе нагадвалі ўсёмагчымых нячысцікаў. Раз у тры гады, калі тая гурба ламачча станавілася надта вялікай, то яе проста запальвалі. Праўда, рабілі гэта не ў абы-які дзень, а толькі на Купалле. У тую ноч, лічылася, самыя страшныя чэрці і ведзьмы збіраліся да магілы ведзьмака, каб на гэтым месцы адсвяткаваць свой шабаш. Так ужо весяляцца ды радуюцца, што забываюцца пра ўсялякую небяспеку. Лётаюць хвастатыя ды рагатыя так, што ажно зямля навокал грукаціць. Агонь як усхопіцца, то не аднаго чорта на той свет звядзе, не кажучы ўжо пра абпаленых ды пакалечаных, якія таксама болей ніколі ў гэтых мясцінах не з'явяцца, бо дарога сюды ім будзе замоўлена тым страшным ды паражальным для іх агнём» (УЗ. Мсцісл.).

«Калі ведзьмака якога хавалі, то шукалі яму месца дзе на раздарожжы, каб там навечна пакласці. Стараліся прасачыць, каб дзе паблізу ўжо не было такой магілы, бо тады пасмяротная сіла пахаванага на шчырых вяскоўцаў не будзе надта моцна ўздзейнічаць. Яны ж, бачыце, усё так выраблююць, каб і пасля смерці ўсёмагчымыя злачынствы ўчыняць, вылазячы з магілы ды зданямі нячыстымі лазячы па наваколлі. Таму калі некаму даводзілася ісці міма той магілы, то ён павінен кідаць на яе камень ці які корч, тым самым падкрэсліваючы свае адносіны да нячыстай сілы. Хто не мог такога зрабіць у сілу нейкіх абставін, то той адварочваўся да чарцяцкай магілы спіною і хрысціўся ў бок бліжэйшай царквы, а потым паварочваўся да магілы тварам і тройчы пляваў на яе. Тая магіла станавілася страшным месцам, якое ў памяці мясцовых жыхароў абрастала усёмагчымымі легендамі, паданнямі і павер'ямі. Як бы там ні было, але над магіламі навальвалі вялізныя гурбы ўсёмагчымага ламачча і потым, каб такім чынам назаўсёды ачысціць запаскуджанае месца ад нячысцікаў, злых духаў і нячыстай сілы, спальвалі. Палілі іх у купальскую ноч і толькі ад агню, які здабываўся шляхам трэння самымі старымі людзьмі ў

паселішчы. Яны ў поўнач і падпальвалі тую гурбу. Глядзелі, калі толькі разгаралася купальскае вогнішча, дык тады і яны сваё палілі. Нячыстая сіла, якая ад купальскага кострышча кідалася сюды, каб тут працягнуць свой радасны шабаш, гінула, калечылася, абпальвалася і збягала-знікала на доўгія гады пасля такога здарэння. Тут ёй не было з каго пасмяяцца-паздзекавацца, бо тут не проста яе баяліся, а стараліся і пасмяяцца. Пра такое вогнішча некалі мой дзядуля расказваў, бо сам ён, калі малы быў, ад свайго дзядулі яшчэ чуў, ад майго прапрадзеда, значыцца» (УЗ. Карэл.).

Нярэдка згадвалася ў вусна-паэтычнай творчасці і пра тое, што ведзьмака, варажбіта, чараўніка, знахара везлі і хавалі на балоце. Праўда, тут агаворымся абавязкова, што ў гэтых выпадках яго хавалі не хаўруснікі-варажбіты, а суседзі, вяскоўцы, адным словам людзі, якія не мелі ўвогуле ніякіх адносін да нячыстай сілы. Проста яны хавалі (дзейнічалі па адвечнай традыцыі) цела памерлага ў зямлю, каб яно не заставалася ляжаць у закінутай хаціне, бо гэтае ж самае цела магло стаць крыніцай паморка, пошасці, якой іншай жахлівай хваробы. Што такое эпідэміі, нашым продкам распавядаць не трэба было, бо яны даволі часта вымушаны былі не далічвацца шматлікіх родных і блізкіх менавіта ў выніку такіх хвароб. «Калі ў нас некалі памёр знахар, дык добра памятаю, што яго не павезлі хаваць на могілкі. Наадварот, ніяк не магла зразумець, чаму гэта нябожчыка павезлі на балота. Потым бацька расказаў, што чараўніка нельга хаваць на могілках. Справа ў тым, што ён жа запрадаў сваю душу д'яблу, а раз так, то рабіў людзям толькі благое ды злое. Вось і яны помсцілі яму адпаведным чынам. Закапалі на балоце, у абы-як зробленай дамавіне. На магіле нічога не паставілі, не паклалі, адно толькі зраўнялі яе з зямлёю, і ўсё на тым. Каб ніхто потым не мог знайсці месца, дзе таго злыдня закапалі. Гаварылі, што вясною на той магіле выраслі чартоўскі кветкі — чартапалох, — якія не пахнуць, а смярдзяць. Вось і ўся памяць, якая выбілася на паверхню зямлі, пра таго чараўніка. Болей нічога добрага ад яго не засталося. У тое балота ніхто без дай прычыны не ходзіць, нічога там не робіць. Там нячыстая сіла водзіцца-плодзіцца, дык і іхні хаўруснік там жа ляжыць» (УЗ. Лідскі).

«У нас ведзьмака за балотам, на выспе, хавалі. Адно сачылі людзі за тым, каб ён потым ніякага зла нікому не здолеў зрабіць. А раз за балотам пахаваюць, то пакуль ён дарогу ноччу знойдзе, злою зданню перакідваючыся, пакуль што якое, дык і світанне прыспее, час усялякаму пярэваратню назад хавацца. У той балаціне летам, восен-

ню ды вясною не праехаць, не прайсці, а зімою ён і сам не вылезе, бо зямля, скутая маразамі, проста так не расчыніць свае дзверы. Нашы продкі асцерагаліся злых варажбітоў не толькі пры іхнім жыцці, але і пасля смерці таксама. Таму і выбіралі для пахавання знахараў, душы запрадаўшых, такія гнілыя ды засмярдзючаныя мясціны. Сюды проста з-за ўласнай цікаўнасці ніхто не пацягнецца, бо ж лёгка можна жыццё страціць у якім чортавым акне. Так і закапаюць, нават знаку ніякага не пакінуўшы, адно толькі ваўкі ля яе круціцца стануць, жудасна выць у Пілупаўку, ды крумкачы смутна-глуха нешта будуць бомкаць, седзячы на нізкарослых балотных хваінках» (УЗ. Карм.). «Балота было апошнім прытулкам ведзьмара на зямлі. Там заўсёды жылі ўсёмагчымыя здані, нячысцікі і ведзьмары, адтуль яны заўсёды прыляталі да яго, таму ў народзе правільна лічылі, што толькі там і ёсць адпаведнае месца таму, хто пры жыцці лічыў сябе ўладаром над іхнімі лёсамі. Як бы там ні было, але калі чорны знахар паміраў, то з ім надта не валандаліся: клалі ў абы-як зробленую дамавіну і найхутчэй везлі да балота, на тое самае месца, якое людзі яму ўжо абралі. Ніякіх харугваў не было, ніхто ўвогуле не плакаў. Моўчкі ўсё рабілася, неяк надзвычай змрочна і злавесна. Яму заранёй не капалі. Усё рабілася пасля таго, як прывозілі нябожчыка-чараўніка. Закопвалі ў магілу, над магілаю ніякіх адметных знакаў не ставілі, нават пагорачка не пакідалі, а зруйноўвалі яго з зямлёю, каб нішто ўвогуле не сведчыла пра тое, што тут ляжыць вядзьмар. Гэта яшчэ азначала і тое, што калі ён памёр, дык ад яго не засталося знаку-памяці не толькі сярод людзей, але і на зямлі ўвогуле» (УЗ. Светл.).

У некаторых выпадках адзначалі, што варажбіта хавалі не на раздарожжы і не ў балаціне, а ў лесе. Толькі ж і там яго завозілі ў такое глухое месца, да якога не проста было падабрацца. Звычайна шукалі «матачнік», тое месца, адкуль пачынаўся лес, дзе некалі пачалі расці першыя дрэвы. Народная памяць цвёрда трымала звесткі, перадавала іх з пакалення ў пакаленне, і таму сярод вяскоўцаў нават хадзілі спецыяльныя вусныя засцярогі, паводле якіх вынікала, што ў «матачнік» хадзіць нельга без дай прычыны, асабліва грэшнаму чалавеку, яго можа чакаць там вялікае і бязлітаснае пакаранне. Варажбіта везлі хаваць старыя людзі, якія лічылі, што ў гэтым жыцці ім нішто ўжо не страшна, бо яны сваё аджылі і баяцца ім няма чаго. Маладых у такую працэсію ўвогуле не дапускалі, каб яны мелі магчымасць пажыць далей і выхаваць сваіх дзяцей. «Варажбіта, які паміраў, то не трымалі ў ягонай хаціне лішні час, а ў той жа дзень, калі ён сканаў, яго і вывозілі хаваць. Самае галоўнае, што яго везлі не на могілкі,

а ў глухую лясную мясціну. Там шукалі найбольш закінуты куточак і хутка выкопвалі магілу. Апускалі ў яе дамавіну з негабляваных дошчак і засыпалі. На магілу адразу ж навальвалі ўсялякага ламачча: карчоў, камення, голля, і яна пачынала нагадваць сабою нешта цяжка зразумелае. Рабілася гэта для таго, каб злы чараўнік, які, паводле народнага, мог і пасля смерці вылазіць з магілы ды рабіць людзям зло, не здолеў бы проста так выкараскацца з земляной пасткі. Ягоныя рухі не такія ж хуткія, як у жывога, а замаруджаныя, павольныя. Таму пакуль выберацца вядзьмар, пакуль параскідае голле ды карчы, то і світанак прыспее, а раз прыспее світанак, то час уздзеяння любой нячыстай сілы заканчваецца, і яму абавязкова трэба хавацца назад» (УЗ. Ветк.).

«Памятаю добра, як мой дзядуля расказваў пра пахаванне чараўніка. Той знахар пры жыцці надта ж людзям у знакі даўся. Многа нядобрага нарабіў усім. А дзед мой не са слоў усё гэта чуў, а сам быў удзельнікам пахавання. Хавалі таго чараўніка пад самы вечар, каб меней хто бачыў, куды яго павязуць. Пераапранаць не пераапраналі, а так як ляжаў, то так у дамавіну і паклалі. Дамавіну тую таксама збілі з аполкаў. Паставілі дамавіну на воз і патарахцелі. Толькі не да могілак, а значна далей. Людзей было ўсяго некалькі чалавек, і тыя старыя, якія ўжо век свой дажывалі і таму не баяліся нават ведзьмара хаваць. Завезлі ў лес, у глухое месца, і ўжо амаль у прыцемках хуценька выкапалі неглыбокую ямку, у якой знахара і засыпалі. Зямлю старанна ўтрамбавалі і разраўнавалі, каб ніхто не мог зразумець, хто ж тут ляжыць. Для большай вернасці наверх навалілі ўсёмагчымага ламачча, і цяпер можна смела было ехаць назад, бо цяпер месца пахавання нагадвала сабою ні што іншае, як звычайную для лесу ґурбу, якая з цягам гадоў урасце ў зямлю, згніе, і ўсё на тым» (УЗ. Калінк.).

Зрэдку сцвярджалася, быццам бы варажбітоў хавалі і побач з могілкамі, але толькі за іхняй агароджай. Праўда, агаворваліся і інфарматары, што гэты былі знахары ды варажбіты, якія мелі сувязь з нячыстай сілай, але зла людзям ні ў якім разе не рабілі. «Калі памёр Хведар-знахар, то яго хавалі, добра памятаю, на прыцемках, але хавалі не на саміх могілках, а крыху ўбаку. Недзе крокаў за дваццаць ад іх, бо баяліся, што потым якое ліха на вёску накінецца за парушэнне адвечнага парадку. Толькі ж той Хведар людзям асаблівага зла не чыніў, а, наадварот, дапамагаў. Калі жывёла, здаралася, хварэла, то па яго звычайна адразу ж і беглі, каб спяшаўся на дапамогу, і ён жа не адмаўляўся, прыходзіў. Таму і не павезлі яго хаваць у лес,

а паклалі побач з могілкамі. Пра тое, што ён нячыстаму сваю душу запрадаў, ніхто не гаварыў. Таму і грэх яго найперш быў у тым, што ўмеў варажыць» (УЗ. Пн.).

У некаторых даследчыкаў фальклору можна прачытаць наступнае: «Магілу чараўніка трэба пасыпаць макам-відуком, тады вядзьмар, выйшаўшы з яе, будзе мак лічыць і дадому не вернецца. Памерлы вядзьмар пераведвае жонку»[9].

У А. Багдановіча адносна гэтага напісана наступнае: «Макам сяляне абсыпаюць магілу, а таксама дарогу, якая вядзе з могілак да хаты, з мэтай перашкодзіць нябожчыкам і вурдалакам вярнуцца з таго свету»[10].

Як бачым, смерць знахара, яго пахаванне, само месца пахавання нібы сведчылі, што і пасля смерці людзі да іх адносяцца ўсёадно адмоўна, гнеўна асуджаючы за тое, што яны, як лічылася, выраблялі пры жыцці.

**Пакаранне чорных варажбітоў**. Калі людзі некага падазравалі ў здзяйсненні варажбы, накіраванай супраць іх, супраць іхняй жывёлы або ўраджаю, то стараліся любым чынам расправіцца з ненавісным супраціўнікам справядлівага жыцця. Імкнуліся разлічыцца, не зацягваючы асабліва час і не адкладваючы да зручнага выпадку, каб ён не мог здагадацца і ўцячы або, што яшчэ значна горш, учыніць чарговае злачынства. Сярод гэткіх пакаранняў над ведзьмакамі, чараўнікамі ды варажбітамі былі ўжо складзеныя «традыцыйна» прыёмы.

Прыгадаем адно з найбольш папулярных дзеянняў, якое апісана В. Іпатавай у аповесці «Агонь у жылах крэменю»: «Ужо трэці дзень ездзіў ён па вёсках, як аднойчы на самым выездзе з Чарнагосцяў — маленькай палявой вёсачкі на беразе надзіва прыгожага возера — убачыў натоўп і пачуў дзікі, як непрытомны, крык:

— Не вінаватая я! Не ведзьма, Параскевай-Пятніцай клянуся!

Плакала, заломваючы рукі, старая кабета, стоячы наводдаль натоўпу. Пад'ехаўшы бліжэй, Лукаш убачыў, што людзі глядзяць на ваду, а там, б'ючы па вадзе рукамі, пялёхкаецца кабета ці дзяўчына. Спыніўся ён і з цікавасцю стаў пазіраць за тым, што адбывалася. Не такі часты, але звычай гэты правяраць ведзьму вадой — існаваў у Княстве. Езуіты ўсяляк стараліся заахвоціць гэты звычай, і апошнім часам асабліва многа маладых кабет і жанчын патанулі ў азёрах і рэчках, абвінавачаныя ў тым, што наводзілі хваробу на жывёлу і людзей.

— Не тоне, бач яе! Ведзьма! — казалі ў натоўпе.

— Доўга не пратрымаецца, — са шкадаваннем гаварылі другія, маладзейшыя. — Не вінная Ганна, дарма яе абгаварылі!»[11]

Як бачым, усё рабілася надзвычай проста, раззлаваныя сяляне ўкінулі дзяўчыну ў возера, і па тым, як яна сябе там паводзіла, рабілі свае высновы — не ўтапілася, значыцца, ведзьма, а калі яе забрала вада, не ўтрымала на паверхні, тады трэба весці гаворку пра тое, што няшчасную проста абгаварылі зайздросныя суседзі ці якія іншыя нядобразычліўцы. Ахвяры ад гэтага, вядома ж, не было лягчэй.

Цікава адзначыць і тое, што на Брэсцкім Палессі нам удавалася своеасаблівыя адгалоскі гэткай праверкі запісваць ужо ў нашыя дні. Не, гэта зусім не сведчыла пра тое, што няшчасных людзей правяралі такім чынам яшчэ, напрыклад, у XIX ці ў пачатку XX стагоддзя. Распавядалі такія гісторыі пра тое, што яны перадаваліся з пакалення ў пакаленне як своеасаблівы абярэг, каб нагадаць, як бязлітасна і жорстка паступалі супраць тых, хто імкнуўся парушыць адвечны лад жыцця патрыярхальнай вёскі. На Століншчыне давялося пачуць і занатаваць такое: «Раней як ведзьму зловяць, то стараліся зрабіць так, каб яна болей не здолела ўжо ніколі варажыць-ведзьмаваць сама і іншым заказала! Збіраліся людзі ўсе чыста з вёскі і цягнулі яе да якое рэчкі або возера. Стараліся прывесці да якой бухты ці віра. Яна верашчыць, што не вінаватая, што ўсё гэта навыдумлялі, спецыяльна нагаварылі, каб звесці яе са свету. Але і людзі ўжо тут не такія дурныя, каб да ўсяго прыслухоўвацца сталі. Наадварот, цвёрда трымаліся! Кідалі ведзьму ў ваду. Тут ужо сачылі пільна, як яна там сябе паводзіла. Адна справа, што крычала, бо і хітраваць жа магла, каб адвесці ад сябе ўвагу. Калі доўга не тапілася ў вадзе, не танула, то менавіта гэта — нячыстая сіла, якой яна служыла, а не што іншае — трымала яе на вадзе. Тут ужо людзі і самі выразна бачылі ўсё. Не было магчымасці абкруціць іх нейкім чынам. Гвалтуецца, але ж на паверхні плёскаецца. Значыцца, вінаватая, ніхто не пашкадуе, ратаваць не палезе сам і іншаму не дазволіць, таму што калі толькі выцягнеш ведзьму з вады, то на беразе яе ўжо потым ніякім разам не зловіш. Не дасца. Мала гэтага, праз дакрананне да яе рук перадасца яшчэ і чартоўская сіла, якая ў ёй раскашуе і сама шукае найхутчэйшага паратунку ад вернай смерці. Іншая справа, калі чалавек, якога западозрылі ў вядзьмарстве, адразу ж ішоў на дно. Моўчкі сталі, бо аказвалася, што паспяшаліся, што задарма няшчасная ахвяра была прынесена воднай стыхіі. Але яе абавязкова выцягвалі з возера ці з ракі. Рукамі даставалі, бусаком ці сеткамі — усё роўна. Ха-

валі, як самага звычайнага нябожчыка, на могілках. Здаралася нярэдка і такое, што нябожчыка ўвогуле не знаходзілі, і тады ўжо гаманілі пра тое, што вадзянік над ім зжаліўся за людскі здзек і забраў да сябе назаўсёды. Пра ведзьмаў даўней надта многа гаварылі, верылі ва ўсё гэта, стараліся адкараскацца, таму і ўчынялі такое зло».

Надзвычай часта з ведзьмамі, ведзьмарамі ці іншымі прыслужнікамі нячыстай сілы, паводле народнага, разбіраліся яшчэ куды бязлітасней і без усялякіх там сходаў, нейкіх вырашэнняў ці абвінавачванняў. Лічылі, што гэта зрабіў пэўны чалавек, а то і ягоны сын, унук (дачка, унучка), з імі і разбіраліся дзе-небудзь у цёмным месцы. Звычайна справа такая завяршалася дзікай, пакутніцкай смерцю для абвінавачваемага. Прыгадаем адзін з твораў А. Ажэшкі.

Жыла-была ў людным, але бедным сяле Пракопіха, салдатка, бедная наймітка, якая ні сваёй хаты, ні якіх сваякоў не мела. Мужа ў яе ў далёкім свеце на вялікай вайне забілі, і застаўся пры ёй толькі адзіны сыночак, небарака. Яго звалі Пракопка, па імені, значыць, бацькі. Бедненькі быў той Пракопка, адрынуты ўсімі, апрача роднай маткі. Ані ў яго бацькоў, ані братоў, ані роднай хаты, ані свайго поля. Прыйшоў на свет голы, як Адам, а як вырас, да чужых людзей працаваць пайшоў. У чужых людзей у паняверцы і бядзе вялікай працаваў, на чужое дабро воўкам глядзеў і стаў хмурны, як тая восеньская ноч. Хоць бы ўсе невядома там як весяліліся, ён адзін, як воўк, бывала, ходзіць, у зямлю глядзіць, быццам сабе ўжо хоча магілку капаць, і ўсё пра нешта думае і думае. Не любілі яго людзі за ягоную панылацсь і дзікаватасць і не шанавалі яго як звычайна адзінокага сірату, за якога няма каму заступіцца. Ажно тут у дзін год стаў у гаспадароў хтосьці коней красці. У аднаго гаспадара конь прапаў, у другога — прапаў, у трэцяга — прапаў. Па ўсім сяле пайшлі плач ды крык, бо людзі там былі небагатыя і страшна жывёлы шкадавалі, бо без яе ў гаспадарцы цяжка. Шукалі злодзея, распытвалі, пільнавалі — няма! Няма і няма, хоць зямля расступіся! А коні як прападалі, так і прападаюць! Аднойчы хтосьці падглядзеў, што Пракопка часам знікае з вёскі. Пройдзе, бывала, дзень, два, тры, пройдзе і тыдзень увесь, а яго ў вёсцы няма, дзесьці вандруе. З жыдамі-недаверкамі бачылі як размаўляў ён у лесе і ў мястэчку, як піў у карчме і стужкі для нейкай дзяўчыны купляў, невядома адкуль грошы беручы. Тады ўжо ўсім прыйшло ў галаву, што гэта Пракопка, найміт, коней крадзе. Узялі і пацягнулі яго ў суд. Суд слухаў, слухаў і загадаў, каб Пракопка ў вёску вярнуўся, бо, кажуць, невядома, ці гэта ён коней краў, пэўнасці няма, кажуць, доказы, кажуць, дайце на яго лепшыя...

Пракопка вярнуўся ў вёску, а коні як гінулі, так і гінуць. У гэты час ужо людзей вялікі гнеў апанаваў за сваё дабро. Схаваліся раз пад лесам, і калі Пракопка вёз з лесу дрэва свайму гаспадару, схапілі яго, тай пачалі біць яго палкамі...

... — Палкамі. Рэбры яму паламалі, рукі, ногі паламалі, твар крывёй аблілі і нежывога пакінулі на шырокім полі, на пустым полі, беламу снегу на падсцілку, чорным крукам і галкам на спажывы...

... — А ці той Пракопка і праўда коней краў?

Старая, падумаўшы адказала:

— Можа, краў, а можа, і не краў. Гэта ўжо невядома. Пэўнасці няма і не было... але людское асуджэнне было і страшным людскі гнеў быў[12].

Тое, што маці нібыта была звязана з нячыстаю сілаю, адыграла для яе сына — Пракопкі — трагічную ролю. Вяскоўцы пачалі гаманіць на яго, што ён крадзе коней, і, нават апраўданы дзяржаўным судом, дзяцюк быў да смерці забіты раз'юшанымі людзьмі. Здавалася, што тут ужо можна было разабрацца ва ўсім спакойна, без эмоцый, але куды там — сяляне дзейнічалі знянацку, спадцішка, так і не перайначыўшы сваёй думкі адносна таго, хто ж працягваў красці і зводзіць іхніх коней.

З канакрадамі заўсёды абыходзіліся надзвычай люта. Прыгадаем «Алесю» А. Купрына: «...Сядзіць Якаў, я ў яго твар мёртвы, зялёны... Вочы закрытыя, а губы чорныя... Потым, праз тыдзень, чуем, што злавілі мужыкі Якава, калі ён коней хацеў звесці... Усю ноч яго білі... Злы ў нас народ тут, бязлітасны... У пяткі цвікі яму закалацілі, перабілі каламі ўсе рэбры, а пад раніцу з яго і дух вон»[13].

Лютасць людзей была непрадказальна-жорсткая, не ведаючая межаў і... жалю. Забівалі да смерці за тое, што лавілі канакрада, які звёў ці збіраўся звесці каня ў нейкага канкрэтнага гаспадара, і можна ўявіць, што чакала таго, хто насылаў пошасць ці шаленства на ўсіх коней у паселішчы! «У нас некалі пра такое расказвалі, што ў Канатопе (невялічкая лясная вёсачка ў сённяшнім Пінскім раёне. — *А. Н.*) жыў надта моцны варажбіт. Мала дапамагаў людзям. Калі хто падыдзе, каб чаго папрасіцца, то абавязкова якую плату запатрабуе. Прычым зробіць гэта так, каб аддавалі адразу, а не праз нейкі там тэрмін. А ў чалавека магло так атрымацца, што і не было чым разлічыцца на той самы час. Просіцца на прамілы Бог, каб пачакаў з аплатай, каб напавер даў ці дапамог, а там ужо яму і адпрацуюць, адслужаць. Дык не, на такія ўмовы ніколі, злыдзень, не згаджаўся. Патрабаваў аплату ў любым выпадку адразу. Толькі зарагоча, маўляў, калі будуць грошы ці што іншае, каб заплаціць, тады і прыходзь. Вось так усё і доўжылася. Праўда, на яго тады ўжо сяляне казалі, што нешта нячыстае маецца ў ягоных справах. Асабліва калі гляне на што з зайздрасцю, то ў гэтай працы ў далейшыя дні ні ў якім разе нельга разлічваць на поспех. Усё будзе ісці як мага горш. Але пададзраваць, гаварыць паміж сабою — гэта адно. Ведалі, што калі надта гаманіць ды сцвярджаць, то могуць запатрабаваць і пакараць аднавяскоўца, а пакаранне было заўсёды такое, што дараванне жыцця не прадугледжвала. Так бы і доўжылася гэтае своеасаблівае супрацьстаянне, каб не адзін выпадак, які і раскрыў усё дазвання. Прыходзіць той сквапнік да свайго суседа і кажа, што збіраецца ў лес па дровы ехаць. Дарога ж тады была вельмі разбітая, гразкая, таму адзін

конік пустога воза нават з месца не скрануў бы, не тое што гружонага. Дык вось хоча прасіць, каб сусед свайго каня запрог і разам з ім у лес з'ездзіў. Тут жа так атрымалася, што ўсяго пару якіх дзён таму той вясковец сам прасіўся ў варажбіта аб нейкай неадкладнай дапамозе, але той запатрабаваў, як і заўсёды, каб яму адразу заплацілі. Таму ў іх і пачалося:

— Усё роўна ж нічога сёння не робіш.

— Чаму гэта?

— Вось ужо сонца дзе, а ты ўсё дома.

— То і што?

— Дапамажы мне, раз я ў цябе прашу.

— Нават так?

— Але.

— А ты мне многа надапамагаў?

— Заўсёды, калі прасіўся.

— Што ты гаворыш?

— Вядома ж так.

— Няпраўда.

— Мала гэтага.

— А што яшчэ?

— Ты ж і плату запрашваеш адразу.

— Ну.

— То і мне плаці.

— За што?

— За тое, што паеду.

— Вось ты як?!

— А вось так.

— То ж яшчэ невядома, як ты мне там напрацуеш!

— Ты ж ведаеш добра, як я працую, і няма чаго ў гэтым сумнявацца.

— Прыедзеш, то потым і разлічуся.

— Не, так не пойдзе.

— Але ж...

— Плаці залатоўку, іначай і гаманіць болей не хачу.

— Залатоўку?

— Так.

— Не, не дам.

— То ідзі і шукай сабе другога дурня, каб ён такому, як ты, задарма рабіў.

— І пайду!

— Анягож! Куды ж ты дзенешся!

— Але ж і ты ў мяне!

— Што?

— Пабачыш!

— Пагражаць мне ў маёй жа хаце ўздумаў?!

— Вось толькі...

— Ідзі, бо як бомкну ілбом у вушак, то мала ні ў якім разе не падасца!

— Ты мяне сам не палохай.

— Я не палохаю, я цябе выправаджваю.

— Пашкадуеш ты яшчэ не раз, што так зрабіў! — змрочна прагуў варажбіт.

— Ідзі, ідзі, — выпхнуў яго за дзверы гаспадар.

— То я табе зраблю! — данеслася пагрозліва ўжо з падворку.

І што ж вы думаеце? Зрабіў. Пайшоў той гаспадар раніцай жывёлу даглядаць, а ў стайні конь ягоны на баку ляжыць і ўжо ледзьве дыхае. Вясковец туды-сюды кінуўся за дапамогай, але хто ж табе дапаможа. Так і сканала жывёліна.

Адразу вяскоўцы западозрылі нешта няладнае. Сталі сачыць пільна за ўсім, што адбываецца навокал, і недзе ўсяго праз тыдзень злавілі таго варажбіта ля коней, якія ўжо спрабавалі скубці першую веснавую траўку. Стараўся нечым абмазаць жывёлін. Тут людзі на злыдня і накінуліся! Білі так, што іншага за першым ударам забілі, а гэты ж адно толькі верашчаў нейкім жудасным голасам, ды кідаўся то да аднаго, то да другога. Потым усё ж прыбілі да смерці. Перастаў ён дыхаць. Пакідалі вяскоўцы тое прычындалле, якім яго нявечылі, ля трупа і разышліся. Але самае дзіўнае здарылася нараніцу, калі прыйшлі паглядзець, што ж да чаго далей будзе. Аказалася, што цела забітага не знайшлі там, дзе яго пакінулі. Толькі здаравенны груган, надзьмуты і надзвычай таму злавесны, сядзеў на бліжэйшым дрэве і зрэдчас падаваў свой жудасны голас, ад якога ажно марозам прабірала па спіне. Сталі тады сцвярджаць, што нячыстая сіла не захацела выпускаць са сваіх учэпістых кіпцюроў вернага служку і ператварыла ў птушку, каб і надалей карыстацца ягонымі паслугамі ва ўсёмагчымых праявах вядзьмарства».

Вышэйпрыведзеныя развважанні, прыклады, літаратурныя ўрыўкі і фальклорныя запісы нядаўніх гадоў адносяцца да «стыхійных пакаранняў», якія былі вынікам злосці, адчаю, а то і проста намовы з боку ўсялякіх нядобразычліўцаў. Але справы пра чараўнікоў-ведзьмароў і іхнія чарадзействы даволі часта разглядаліся і ў сярэд-

невяковых судах — копных і гродзкіх. Тут ужо падводзілася юрыдычная «аснова» розным злачынствам, здзейсненым з боку варажбітоў, былі свае «спецыялісты» на тлумачэнні сувязей з д'яблам, з антыхрыстам, з нячыстай сілай (нячысцікамі) і з... ведзьмамі. Першыя законы супраць чарадзейства з'явіліся ў Вялікім княстве Літоўскім (ВКЛ) значна пазней, чым у іншых краінах Еўропы. Ёсць нават пэўная кропка адліку — 1543 год, пастанова Кракаўскага сейма. Гэтыя законы праіснавалі да 1776 года і былі паспяхова адменены сеймавай канстытуцыяй, якая многае з раней асуджальнага ў адкрытую спісвала ўжо на цемрашальства і забабоны.

Справы пра чарадзействы адносіліся да разгляду ў духоўных судах, але калі ў выніку чараў здаралася шкода, гэта лічылася крымінальным злачынствам, і тады разбор чыніў свецкі суд. Працэс пачынаўся з пратэстацыі — заявы пакрыўджанага боку з пералікам зробленай чараўнікам шкоды. Калі падсудны не прызнаваў усё, закон дазваляў прымяніць да яго трохразовае катаванне (розгамі, агнём), а потым, у залежнасці ад цяжкасці абвінавачванняў, — пакаранне. Верагодным прысудам магло стаць спаленне на вогнішчы за населеным пунктам. Пасля гэтага кат развейваў попел. У ВКЛ расправы над ведзьмарамі не набылі такога маштабу, як, напрыклад, у Францыі, Іспаніі ці Германіі. Скаргі на чараўнікоў, як мы згадалі ўжо, разглядалі два суды: копны ці гродзкі. Копны суд — суд сялянскага ці гарадскога насельніцтва ў ВКЛ — уяўляў сабою патрыярхальную форму правасуддзя, якая вяла пачатак яшчэ ад «Рускае праўды» Яраслава Мудрага. Збіраў капу жалобнік. Суддзямі на ёй маглі быць усе гаспадары мясцовасці, але часцей з іх выбіралася 10—20 чалавек. Вялікім аўтарытэтам карысталіся старцы, найбольш паважаныя людзі паселішча, дзе збіраўся суд. Капа магла быць гвалтоўнай адразу на месцы здарэння, і звычайнай — сход ва ўстаноўленыя тэрміны праведзены на пастаянным месцы (капавішчы). Усялякую справу капа імкнулася скончыць у тры сходы. Канчатковую, апошнюю, капу называлі «завітой», і яе прысуд ніякай апеляцыі не падлягаў. Дзейнасць копных судоў пацвярджалася Статутам ВКЛ. На капе абавязкова прысутнічаў прадстаўнік дзяржаўнай улады — возны, віж, лаўнік ці інш., які сачыў за абавязковым выкананнем нормаў копнага права. Ён жа ажыццяўляў сувязь копнага суда з гродзкім, вышэйшым у дачыненні да капы, і складаў данясенне для ўраду. Чыноўнік меў права адмяніць рашэнне капы. У гродзкі суд адсылалі складаныя, праблемныя справы. Копнае права прадугледжвала нават тое, што шляхціцы павінны былі ўдзельнічаць у капе і выконваць яе за-

гады гэтаксама, як і прадстаўнікі іншых станаў, і маглі прыцягвацца да адказнасці. На практыцы, зразумела ж, адбывалася іншае: пан-землеўладальнік мог проста беспакарана ігнараваць патрабаванні сялянскай грамады ці з атрадам сваіх узброеных людзей гвалтам разагнаць капу. Паступова копныя суды страчвалі сваю моц і ўплыў, іхняя дзейнасць на абшарах Беларусі спынілася у канцы XVII — пачатку XVIII стагоддзя. Заканадаўча, як ужо падкрэслівалі, усё было адменена ў 1776 годзе.

Цяпер звернемся да канкрэтных прыкладаў, сведчанні пра якія згадваюцца ў старадаўніх судовых справах. У 1595 годзе гарадскі суд у Расонах разбіраў справу чараўніцы Ядвігі Пятрушаўны. Тая прызналася, што адна мяшчанка перадала ёй «вязок зелля і навучала... каб тое ў тварог укінула і дала з'есці панам сваім». Вучылі яе таксама, «каб скуры вужовай дастала, калі вуж вылінеець, і, калі тую скуру пацёршы, даць выпіць чалавеку атручанаму, тады... труцізну выганяе». Яна ж распавяла суддзям, як паклала зёлкі ў ваду, што для лазні грэла, а потым гэтай вадой абмыла сваю пані: «... ад таго абмыцця плямы на целе аказаліся...»

Таго ж году ў расонскім судзе разглядалася скарга жонкі зямяніна Тамаша Пятровіча. Малаціўшы жыта ў гумне, яна знайшла «хвост сабачы яго, Яна, сабакі, якога той Ян сам павесіў таго сабакі хвост, і знайшла ў жыце тым малочаным, і свінням... давала таго жыта, і свінні паздыхалі ад таго корму». Здароўе самой маладой жонкі Тамаша Пятровіча ад таго часу таксама няўхільна пагаршалася. Яна сцвярджала, што «калі пойдзе з гэтага свету, дык не ад каго іншага, але ад «чараўніка».

У 1602 годзе абвінавачвалася ў чарадзействе Кгендрута Якутаўна. Запісы судовага працэсу паведамляюць, што яна, служачы ў пана Валянціна Жвакгіня, мела «дачку ачараваці і ачараваўшы ад яго ўцячы». Пасля гэтага дачка засталася «зачаравана будучы, праз паўтара года ў галаву зашодшы, без розуму хадзіці». Спайманая Якутаўна ў руках ката «доброволне прызналася да таго ўсяго чарадзейства» і пацвердзіла, што ўсё рабіла самастойна. Няшчасная была прылюдна спалена на агні.

У 1625 годзе жонка пінскага вознага Вячоркі Высоцкага Федзя задумала звесці са свету сваю непрыяцельку, жонку пінскага войскага і падстаростага Мікалая Ельскага. На могілках вёскі Высокае яна здабыла чалавечую костку, жалезныя цвікі ад труны і трохі пяску. Усё гэтае Федзя дала сваёй пляменніцы Сазонаўне (служанцы жонкі Ельскага) і паабяцала за паслугі зрабіць тую вольнай і выдаць

нават замуж. Навучыла служанку тры разы паскрэбці костку, змяшаць саскрэбленае з пяском, які не прыкметна ўсыпаць у ранішні напой пані (цёплае піва з маслам). А калі тая будзе выязджаць кудынебудзь, узяць костку з цвікамі і пяском, абысці з імі тры разы колам супраць сонца, ґаворачы: «Як тая кость мертва, як тая кость онемела, так і з паней моей нехай то будет». Прадметы чарадзейства, загорнутыя ў хустку, перадаў Сазонаўне слуга Вячоркі — дзяцюк Піліп. На чацвёртым годзе пані павінна была, папакутаваўшы, памерці, што і адбылося. Факт чараў выявіўся пры смерці Ельскай і быў засведчаны пры аглядзе яе цела двума вознымі і прадстаўнікамі мясцовай шляхты. Мікалай Ельскі адразу сабраў капу, на якую прадставіў у якасці абвінавачваемай Сазонаўну. Капа запатрабавала на суд самога Вячорку, ягоную жонку і Піліпа. Яны не з'явіліся. На трэцяй капе Сазонаўну катавалі, і яна ва ўсім прызналася. З-за няяўкі астатніх копныя суддзі адаслалі справу ў пінскі гродзкі суд «на большый разсудок». У красавіку 1630 года пачаўся вялікі судовы працэс, які ўзначальваў ужо сам Юры Даніэль Война, падсудак пінскі. Дзве пастановы, адна за другой, прыгаварылі Федзю да катавання, а потым да пакарання смерцю. Але яе муж адмаўляў абвінавачванні і пажадаў апеляваць у Галоўны Літоўскі трыбунал. Спачатку суд апеляцыі не дапусціў, бо яна не мела законнае падставы. Але, на здзіўленне многіх, Мікалай Ельскі з добрае волі раптоўна дазволіў Вячорку зрабіць гэтую апеляцыю. Да яе разгляду жонку вознага адправілі ў турму. Дзецюка Піліпа пасля допыту адпусцілі як невінаватага, а небараку Сазонаўну, за якую не было каму заступіцца, прыгаварылі да смерці. Калі дзяўчына і на апошнім стопні скажа тое ж пра сваю цётку, то, лічылі пінскія суддзі, тады трэба аддаць Федзю на муку і горла.

Другая справа, у выніку якой быў вынесены смяротны прысуд за чарадзейства, была разгледжана 7 снежня 1622 года на пасяджэннях судовых гродзкіх менскіх Пятром Тышкевічам, ваяводам і старастам менскім. Князь Яраш Жыжэмскі, падкаморы мазырскі, паведаміў ураду пра крыўду зямяніна і слугі свайго пана Яна Федаровіча ад пана Яна Быкоўскага, дзедзіча маёнтка Пятаўшчызна і вёскі Курковічы, і ад пана Самуэля Слаўскага, на той час арандатара Курковічаў.

Справа заключалася вось у чым. 26 чэрвеня 1622 года, напярэдадні Купалля, рана ў нядзелю, калі жыта было ў самым росквіце, падданы Я. Быкоўскага Барыс Славіковіч прыйшоў на поле Я. Федаровіча, якое знаходзілася ля вёскі Курковічы. Як людзі казалі, не ўпершыню ён

займаўся вядзьмарствам. Вопытнаю рукою нарваў жыта з калоссем і карэннем, абвіў вакол вялікага асінавага кала і закапаў гэты кол пад адзінокай магілай. Федаровіч сам злавіў ведзьмака на гарачым, адразу прыйшоў у Курковічы і там усё расказаў. Пазаўтра сабралі капу. Славіковіч прызнаўся. Суддзі агледзелі доказы і адклалі справу да другое капы і большага сходу людзей, а Славіковіча даручылі цівуну пана Слаўскага. Цівун абяцаў паставіць абвінавачанага на наступную капу. Але пан Слаўскі, калі дайшла чарга да справы, адмовіўся прыслаць ведзьмара і сваіх падданых. Тады капа завочна асудзіла Славіковіча на спаленне і адаслала справу ў гродзкі суд.

Пан Слаўскі загадаў свайму ўпаўнаважанаму першым ехаць за прашэннем, каб вызваліцца ад року і позваў. Ваявода загадаў паставіць перад ім Славіковіча. Тут пан Слаўскі спужаўся, не зрабіў гэтага і «ад суду адышоў».

Тады стараста менскі пастанавіў не прымаць довадаў Слаўскага, бо ён зрывае рокі. Пацвердзіў дэкрэт копны аб пакаранні, падпісаны двума вознымі, і загадаў праз два тыдні паставіць ведзьмака згодна артыкула IX з раздзела XIV да пакарання на трэцяй капе, а калі Слаўскі не зробіць гэтага — злавіць асуджанага ў любым месцы і пакараць.

Невядома, чым скончылася справа, але, мабыць, смяротным зыходам для Славіковіча.

У наступнай гісторыі ўсё завяршылася больш прадказальна, і смертазабойства не адбылося. У сакавіку 1638 года на загад пана Івана Сечкі ў вёсцы Балотчына сабралася вялікая капа. Зяць Сечкі пан Дуліч паведаміў, што ягоная цешча, калі чалядніца падала ёй кашу, знайшла ў ежы жабіну скуру. Калі дапыталі дзеўку-чалядніцу, тая расказала, быццам скуру ёй дала Насцюха Кушнерка, служанка пана Марціна Богуша, і загадала зварыць у панінай кашы. Потым дзеўка збегла ад старое пані.

На капе пан Дуліч запытаўся, ці пацярпеў хто ад Насцюхі. Толькі адзін падданы пана сказаў, што жонка ў яго памерла, а суседзі казалі: ці не з-за Насцюхі? Другі селянін паведаміў, што ў яго жонка захварэла пасля таго, як узяла кросны ў Кушнеркі, але ўжо здарова. Капа хацела вызваліць Насцюху ад віны, але пан Дуліч аблаяў і зганьбаваў увесь сход і паручыцеляў, не даў падсудную Богушу на парукі і адправіў яе ў Слуцк. Няшчасная жанчына тры тыдні цярпела ў турме холад і голад, але потым пан Богуш, відаць, не пазбаўлены міласэрнасці чалавек, усё ж вызваліў сваю служанку за парукаю знаёмага шляхціца.

У 1666 годзе на адным з гарадскіх судоў разбіралася справа «крывапускі чараўніцы» Віржуковай. Сведкамі і самой вінаватай было давездена, што яна перад святым Янам, «прыйшоўшы ноччу да імення і двара пана Канапінскага... і там вепра вынеўшы з хлява на падвор'е, ваўком абярнуўшыся заела і... вантробаў шмат на пасвіску закапала, каб яно быдлу не прыдалося. Таксама другое ночы цяліцу рочную на падвор'і заела нежывую, а цэлую пакінула. Трэцяе ночы жарабца ў стайні задушыла...».

Выпадкі, калі паны адмаўляліся ставіць перад судом сваіх падданых, падазроных у чарадзействе, і нават хавалі іх, здараліся нярэдка. Напрыклад, у рэляцыі, датаванай 31 траўня 1670 года, Рыгор Ласкоўскі, генерал яго каралеўскае вялікасці ваяводства Берасцейскага, пацвердзіў, што ў гэты дзень ён быў запрошаны на разгляд справы панам Эпімахам Бухавецкім у маёнтак ягонае маці Астрамеч. Там Бухавецкі расказаў, што ягоны родны брат Філон памёр з-за чараў ерэтычкі Мархвіны Харчыхі, падданай сына і нявесткі Эпімаха. У той жа дзень пры сходзе грамады на мяжы Астрамеча пан Эпімах з няўтольнаю журбой патрабаваў выдаць бязбожную бабу на допыт, каб яна прызнала сваю віну. Шмат людзей пры гэтым апавядала, што тая Харчыха здавён займаецца чарамі. Але гаспадар не выдаў яе. Тады Эпімах пры пасрэдніцтве генерала патрабаваў распачаць судовы працэс.

Выяўленыя судовыя акты падаюць, што ў 1679 годзе зямянін Лідскага павета Аляксандр Юндзіл скардзіўся на сям'ю Баўтрамея Бернуця. Маўляў, жонка Баўтрамея, калі каровы пана Аляксандра выганяліся на выпас, «след быдлячы забраўшы, до хусткі завезала». На другі дзень праз тое «карова шэрсцю рыжая пачала малака не даваці... па полю крылечы бегала». Апроч таго, пані Юндзілава знайшла ў двары Баўтрамея «маленькі кгарнушак, у хустцы завезаны, з якімісь зеллямі, а хустка ў жару цэлая, не гарэла».

Таго ж лета нейкая Настасся з віленскага шпіталю Святой Тройцы смяротна зачаравала маладую пані Хрысціну Сішчанскую. Моцна сціснуўшы ёй руку, яна прамовіла: «Прыйшла ж ты да мяне на здраду, памятай, што ад гэтага часу болей хадзіці не будзеш! Чакай на сябе такога ліха, якога ад нараджэння не ведала!» Праз тры дні пані Сішчанская злягла. У яе пачалося «вялікае баленне сэрца».

Падобная сітуацыя адбылася ў лістападзе 1682 года, калі пан Ян Ласкоўскі не паставіў на трэцюю, апошнюю капу свайго падданага Міхалку Кучмука, якога судзілі па пратэстацыі лоўчага гарадзенскага Анджэя Пухальскага. Абвінавачванне, аднак, прад'яўлялася занад-

та неканкрэтнае: быццам Міхалка здзяйсняў чарадзейства, але невядома на каго. Незадаволены беспакаранасцю «небяспечнага для дзяржавы ведзьмака», уніклівы лоўчы звярнуўся за дапамогаю да генерала ваяводства Берасцейскага Габрыэля Астрамецкага. Той не паленаваўся асабіста з двума шляхціцамі з'ездзіць у маёнтак Ласкоўскага і застаў пры панскім двары злашчаснага Міхалку. Прадстаўнікі ўлады сказалі пану і пані, каб яны працягвалі трымаць у сябе абвінавачанага да выраку па суду. Тыя згадзіліся.

Здаралася, што разам з мудрагелістымі штучкамі ведзьмакі не грэбавалі заняцца і простай крымінальшчынай. 25 чэрвеня 1684 года ў вёсцы Навашычы сабраўся копны суд па справе пра чарадзейства і крадзеж сена ва ўладаннях пана Анджэя Букрабы, скарбніка Наваградскага. Ноччу скасілі ў яго сена і скруцілі жыта на сялянскім полі. Букраба паскардзіўся капе, што кожны год, калі ён ад'язджае на службу, у яго крадуць сена і збожжа, а чарамі робяць шкоду «коням, быдлу, ураджаю і халопам». Маючы падазрэнні, што яму строяць падкопы сусед Габрыэль Вішнеўскі з жонкаю, пан Анджэй прад'явіў ім іск на 1500 злотых. Да яго далучыліся і пан Пётра Вішнеўскі, які паведаміў, што ў яго таксама зачаравалі жыта і ён мае на падазрэнні Уршулу Кандратаву Тышкоўку, на якую скардзіўся некалі і яе гаспадар Г. Вішнеўскі. Быццам яна яму грачыху зялёную зжала і на полі паклала і пахвалялася, што можа зрабіцца нябачнай. Ад Г. Вішнеўскага патрабавалі ставіць Уршулу на другую капу. Але падчас яе сходу пан Габрыэль напаў на ўдзельнікаў з сваімі людзьмі, узброенымі абухамі і шаблямі, зневажаў брата свайго Пятра Вішнеўскага, быццам ён сам злодзей і чарадзей, і адмовіўся выдаць абвінавачаную на кару, «хаця б дзесяць коп збіраў Букраба!».

Нават пасля смерці сварлівага суседа не давалі чараўнікі спакою беднаму пану Букрабу. Наадварот, дапякалі яму зусім нязносна, так што праз 15 гадоў ён мусіў падаць копны дэкрэт у пінскі гродскі суд. Пан Анджэй скардзіўся на бязбожных людзей, якія за падтрымкаю новага суседа Францішка Дубавецкага веры нехрысціянскай (?) узнавілі даўнія свае сатанінскія ўмельствы. Далей ідзе даволі цікавы пералік злачынстваў на пагібель букрабаўскаму маёнтку. Ведзьмакі год за годам у пачатку кожнага месяца закручваюць жыта на полі, у дом напушчаюць чарамі розныя жахі. Коней папсавалі так, што яны ў той жа дзень ашалелі, а паслязаўтра падкінулі пад парог у хустцы зелле, карэнне, пясок і пад уязныя вароты — пялюшкі ад хворага дзіцяці. Ад гэтай заразы адны ў двары памерлі, а іншыя хворыя, і Пан Бог ведае, ці будуць увогуле жывыя.

Самыя вядомыя і страшныя ведзьмакі — Кірыла Адамовіч і сын яго Хведар. Пра іх сяляне расказваюць наогул дзівосы. Кірыла, напрыклад, каб ачуняць, вывеў на могілкі ў самую поўнач кабылу, якая там жа ўпала і здохла. А лякарства рабіў з гарэлкі, якую працадзіў праз перавернуты млынавы камень. Сын Хведар нават перасягае бацьку ў чарадзейскіх здольнасцях. На кірмашы ў мястэчку Янава музыка так замовіў дуду, што яна перастала граць, і бядак слёзна прасіў яго расчараваць інструмент. Жорны ў яго самі сабой перакульваюцца і мелюць без чалавечае дапамогі. Верылі нават у такое!

А ёсць яшчэ Палашка Сейгінава, якая збірае расу на святога Юр'я па палях. А потым адбірае ў кароў малако. Зайшла паганая баба ў сялянскі двор, які належыць пану Букрабу, выдаіла карову — і тая пачала кожны дзень бегаць да гаспадыні ад свайго цяляці, мычала, згубіла малако, а каштавала ж нямала — 30 злотых.

Тры хлопы пана Анджэя падрабязна расказалі, што, маўляў, вышэйназваныя ведзьмакі, а таксама Грышка Штопут — усе падданыя пана Дубавецкага — чаруюць, «каб згубіць нашых паноў». Чарадзействамі ж зжылі са свету белага братоў Габрыэля і Пятра Вішнеўскіх. Гэта чула і сама пані Вішнеўская, цяпер Дубавецкая, але нікога не пакарала. Угаварылі чараўнікі сваіх гаспадароў, каб не чынілі справядлівасць. Як ні ўпрошвалі людзі выдаць вінаватых для спалення і прысягалі, што яны прынеслі шкоду на 2000 злотых, — усё марна.

Пінскі гродзкі суд разглядзеў скаргу пана Анджэя Букрабы і прыгаварыў вышэйпералічаных чараўнікоў да мукі катаўскае, а Грышку Штопука — да прысягі.

Канешне, зараз немагчыма выявіць, што на самой справе рабілася напрыканцы XVII стагоддзя ў Навашычах і навакольных вёсках, але які займальны сюжэт для дэтэктыўнай аповесці даюць гэтыя актавыя запісы! На працягу менш чым 15 гадоў у магілу сыходзяць незразумела ад чаго абодва браты — шляхціцы Вішнеўскія, па меншай меры адзін з іх, Габрыэль, мяркуючы па ягоным зухвалым наездзе на капу, быў, мабыць, чалавекам нестарым і даволі бадзёрым. Яго жонкай і маёнткам авалодаў Ф. Дубавецкі, які спавядае нейкае незразумелае веравызнанне. З гэтае пары ў маёнтках суседзяў узнаўляюцца і множацца разнастайныя злачынствы, а ўсе чыста людзі шэпчуцца пра ведзьмароў...

Прыведзеныя прыклады сведчаць пра тое, што на копных судах чараўнікам ставілі ў віну заняткі прымітыўнай вясковай магіяй («чарамі»). Амаль у кожнай мясцовасці заўсёды знаходзіліся людзі з рэ-

путацыяй ведзьмароў — гэта маглі быць тыя ж самыя знахары і знахаркі, варажбіты, чараўнікі. Шмат асуджаных за чары ставілі на капу за абгаворы, паклёпы непрыяцеляў і зайздроснікаў. Але здаралася і так, што ім даводзілася пакутваць і з-за сваіх памылковых веравызнанняў, цемрашальства, дрэнных намераў, упэўненасці ў тое, што могуць валодаць жыццямі іншых людзей. На гэтых працэсах абвінавачаныя «добраволне» прызнавалі, відаць, усё, што ім прыпісвалася.

Як паказваюць матэрыялы судовых актаў, у першыя сто гадоў змагання з чарадзействам спальваліся галоўным чынам знаўцы народнай медыцыны — простыя людзі, якія валодалі таемнай сілай вылячэння. У якасці галоўнага абвінавачвання тут фігуравалі чары з дапамогаю «зелля», шкода здароўю. А вось з сярэдзіны XVII стагоддзя злачынствы чараўнікоў рабіліся больш разнастайнымі і цяжкімі. Іх пачалі асуджаць за непасрэдную сувязь з д'яблам. У 1731 годзе, напрыклад, Казімер Шымковіч на допыце прызнаўся, што ён быў «праўдзівым чараўнікам, навучаным ад бацькі й маткі сваёй», і што ён «ачараваў Юрага Герыка сына, на імя Баўтрамея, на сухоты, які памёр ужо». Сястра ж ягоная Барбара сказала суддзям, што яна «лёды рабіла для агародаў, агні пускала ў воблакі для затрымання дажджу разам з маткай». Шмат хто сам сцвярджаў, што лётаў «на спатканне з д'яблам». Пасля такое «шчырасці» дарога вяла толькі на вогнішча...

Ужо гэтых матэрыялаў дастаткова, каб атрымаць пэўнае ўяўленне пра характар барацьбы з ведаўствам на беларускай зямлі. Аднак тут паляванне на чараўнікоў не атрымала ні такога размаху, ні жорсткасці, якія яно мела ў Цэнтральнай і Заходняй Еўропе, дзе большасць краін, па прыкладу Свяшчэннай Рымскай імперыі, уключыла чараўніцтва як крымінальнае злачынства ў свае кодэксы законаў. Статут Вялікага княства Літоўскага, да ягонага гонару, не меў такога артыкула. І ўсё ж гэта не ратавала беларускіх чараўнікоў ад полымя: з другой паловы XVI стагоддзя і тут палыхалі на пляцах вогнішчы, вяліся «чорныя» кніжкі. Асновай фізічнага знішчэння ўсіх, хто знаўся з д'яблам, і тут была дэманалогія — спецыяльная тэорыя выяўлення і спальвання «ведзьмаў», распрацаваная каталіцкімі тэолагамі. Гэтакую жорсткую расправу над «служкамі д'ябла» канчаткова зліквідавалі ў Вялікім княстве Літоўскім толькі ў сярэдзіне XVIII стагоддзя, а ганенні працягваліся і пасля, ажно пакуль у 1771 годзе сейм Рэчы Паспалітай не забараніў суды над чараўнікамі ўвогуле.

Хоць галоўнымі ініцыятарамі барацьбы з чараўнікамі на Бела-

7 Зак. 1962

русі былі езуіты, афіцыйна гэтыя справы тут разбіралі ў асноўным, відаць, свецкія суды. Ёсць, праўда, нямала прыкладаў, калі расправы дамагаўся сам люд «паспаліты», які перад гэтым сам жа і называў імя вінаватага або калі раз'юшаны натоўп караў ахвяру без суда: «...самі судзілі, яко хацелі». Судовыя працэсы звычайна не абыходзіліся без катаванняў. Акты допыту адной падазронай апавядаюць, што яна «ў месте Расонском, у рынку публіцы, у дыбы, пры бытнасці... енералаў і мноства людзей праз ката рознымі інструментамі была вучона і цягнена».

Калі звернемся да фальклорнай спадчыны беларускага народа, то заўважым, што да нашых дзён у вёсках захаваліся як жорсткія, так і некаторыя з больш гуманных прыёмаў «адвучвання» злых ведзьмаў (ведзьмароў) ды гэткіх жа варажбітоў ці чараўніц. «Некалі, гаварылі, яшчэ за прыгонам, у нашай мясцовасці жыў надта злы вядзьмар. Старым стары быў, які, можа, і не памятаў, колькі гадоў ад нараджэння мае, але казалі, нягледзячы на гэта, нікому і ні ў чым не дапамог. Наадварот, толькі і сачыў за тым, каб каму што злое ўчыніць. Яго ўсе баяліся і разам з тым люта ненавідзелі. Ніхто не размаўляў, не падыходзіў, а калі даводзілася быць каму з вяскоўцаў паблізу, то любым чынам імкнуліся як найхутчэй уцякаць, каб якая пошасць ці нячыстая сіла там не накінулася. Тады злыдзень не проста дома сядзеў, у сваёй урослай у зямлю хаціне, а віжаваў па наваколлі, каб такім чынам найхутчэй напаткаць сваю новую ахвяру. Найбольш яго баяліся дзяўчаты. Сталі сцвярджаць, што калі толькі каго падцікуе, то дзён праз колькі ў таго пачынаюць балець ногі. Не можа тая дзяўчына на іх устаць. Вось, здаецца, і здаровая, і прыгожая, але сілы ніякай увогуле не мае. Каб жа так дзень ці два працягвалася, дык яшчэ нічога, а то ж потым ляжыць, бедалага, гадоў колькі. Сама пакутуе і родных сваіх мучыць. Ужо, небарака, моліцца, каб над ёю Усявышні злітасціўся ды забраў найхутчэй. Калі звалі якіх спагадлівых знахароў, да іх звярталіся за дапамогай, то і тыя адмаўляліся, бо гаварылі, што ад хворай прэ такая смяротная сіла, якая непадуладна ніякай жыццядайнай замове ці канкрэтным лекам. Вядома ж, самі баяліся, каб іх не забрала хвароба, ці каб потым не прынесці яе дамоў. Прасілі прабачэння і ішлі назад. Гаспадары не злаваліся, нічога благога ў такіх выпадках не казалі. Кожнаму хацелася жыць, быць здаровым і вясёлым, не залежачым ад усялякіх бядотаў і хвароб. Некаторыя са знахараў хоць і браліся шаптаць, тым не меней казалі, што і самі асабліва не спадзяюцца на гаючую сілу сваіх слоў, бо нешта тут творыцца непрадказальнае. Куды толькі на звярталіся тубыль-

цы, каго толькі не прасілі, тым не меней нішто не дапамагала. Выратаваў гэткі ж самы выпадак.

У аднаго гаспадара было трое дарослых сыноў, а малодшая — дачушка. І вось менавіта яе вядзьмар той і запаланіў сваім паглядам. Яна пахадзіла пару дзён і злегла. Калі папярэднія хворыя проста ляжалі і не маглі ўстаць, то гэтая ж, наадварот, адразу пачала вельмі пакутаваць ад страшэннага болю. Як яна крычала, як трызніла! Ніхто ў хаціне не вытрымліваў. Выходзілі прэч ды самі плакалі ад адчаю і жалю. Потым бацька не вытрымаў і гаворыць:

— Як бы мне ўжо не было, але я яму адпомшчу, што болей нікога не кране!

— Тата, што ты, — запярэчылі сыны.

— Хлопцы, вы не ўмешвайцеся, каб потым і вам не давялося шкадаваць.

— Ды, тата, не лезь адзін.

— Нічога, сам разбяруся.

— Яшчэ і цябе скруціць той гад.

— Не, гэтага я не баюся! Раз дачушка мая так пакутуе ні за што, то і яму болей тут не валадарыць!

— Падумай, мужу, — узялася адмаўляць і жонка, — можа, Бог злітуецца над намі, і дачушка ўстане на ногі. А так... І ты рызыкуеш.

— Нішто мяне не стрымае! — цвёрда стаяў на сваім гаспадар. — Я яму за ўсё адпомшчу!

— Тады і мы з табою, тата, — падступіліся бліжэй сыны.

— Добра, — нарэшце здаўся той, — разам пойдзем. Толькі ж глядзіце, каб усё рабілі так, як я вам загадаю.

— Згодны.

— А што трэба рабіць? — запытаўся сярэдні.

— Калі падловім яго і станем разбірацца, то ні слова не гаварыце паміж сабою. Адзін я буду камандаваць.

— Ясна.

— Твары яму свае таксама не паказвайце, каб потым нічым адплаціць не змог.

— А мы яго не да смерці? — перапытаў старэйшы з сыноў.

— Ні ў якім разе, родненькія! Няхай і ён зведае, што такое баліць і што такое не мець сілы нават узняцца на ногі.

— Ясна.

Той злыдзень нібы адчуваў, што за ім нехта цікуе, не паказваўся нідзе, амаль не вылазіў з хаціны. Так прайшло недзе з тыдзень часу. І ўсё ж гаспадар з сынамі падлавіў ведзьмака. Здарылася гэта ў глу-

хой лясной мясціне. Ухапілі злыдня за каршэнь, распнулі прама на зямлі і давай пярэсціць! Лупцавалі не шкадуючы. Варажбіт верашчаў не сваім голасам, але ў адказ гучалі толькі словы аднаго-адзіным чалавека:

— Будзеш ведаць, гадзе!

— За што?

— Адмаўляй у людзей сваё зло!

— Але ж я яго не чыніў!

— Брэшаш!

— Не.

— Давайце далей лупцаваць!

— Авохці мне, зусім закатуеце!

— Ну, з-за гэтага ніхто надта плакаць не будзе!

— Ой!

— Адмаўляй, гад!

— Не рабіў жа нічога благога!

— Тады развітвайся тут з жыццём!

Узяліся свежай лазой «падвучваць», тады ўжо з апошняе сілы ўзвыў вядзьмак:

— Адмоўлю! Адмоўлю!

— Зараз рабі гэта!

— Ага!

— Зямлю, гад, еш, гад паўзучы, каб не падмануў.

— Не, не падману, зараз і адмоўлю!

Недзе пасля таго выпадку і сталася так, што варажбіт болей не чапаў нікога. Сядзеў у хаціне, і людзі амаль не адчувалі ягонага існавання. Потым неяк успыхнула тая будыніна падчас навальніцы і згарэла дазвання ўся чыста. У ёй, відаць, тады ж сканаў і той вядзьмак, бо болей яго ніхто з мясцовых жыхароў не сустракаў» (УЗ. Пн.).

«Калі да нас некалі прыходзілі падарожныя ці старцы, то яны распавядалі многа цікавага, асабліва для нас малых. Памятаю добра, як адзін дзед расказваў пра ведзьмароў. Гаварыў так перакана ўча, што да гэтага часу ўсё ў галаве трымаецца. Казаў, што быццам бы калі яшчэ сам зусім малым быў, то даводзілася яму чуць, як у ягонай роднай вёсцы людзі адвучылі ад злых штучкаў ведзьмака. Здарылася ўсё наступным чынам. Пачалі ў вёсцы хварэць каровы. Каб жа адна толькі ці дзве, а то ж амаль усе адразу малака не далі. Мала гэтага, раўлі, не заціхаючы ні на хвіліну. Жудасна станавілася ўжо пасля таго, як пачуеш тое рыканне ўсяго пару разоў. Кідаюцца людзі, не ведаюць, што рабіць, як паводзіць сябе далей. Вядо-

ма ж, калі ў сям'і прападае малако, то дзецям амаль нічога няма есці. Сапраўднае гора. Круціся, як хочаш. Ноч, другая прайшла, а потым пачала жывёла дохнуць. Тут ужо гаспадары зразумелі, што гэта не што іншае як паморак, ці нехта пачаў здзяйсняць у адносінах да іхніх каровак нейкае злое чараўніцтва. Параіліся паміж сабою старэйшыя вяскоўцы і вырашылі паслаць па аднаго варажбіта, які жыў далекавата — праз пару вёсак, — затое славіўся сваёй сілай і амаль што цудадзейнымі ўласцівасцямі. Калі ён пагодзіцца ды прыйдзе, то, не выключана, стане апавядаць, што да чаго, і выратуе людзей ад такога страшнага выпрабавання. Ажно на самой справе прывялі таго варажбіта. Старым-стары дзядулька. Сівы ўвесь; але сам прыйшоў. Бойка трымаўся. Толькі глянуў вакол сябе, толькі праслухаў першыя словы жаласлівых скаргаў, дык адразу ж катэгарычна зазначыў:

— Падроблена ўсё.

— Падроблена?

— Так.

— Але ж у нас ніколі такога раней не здаралася. Не ведалі мы злой сілы.

— Не ведалі, но вось яна вас сама паратунак шукаць прымусіла.

— Не тое слова.

— То трэба, людцы, каб вы мне пра сваіх вяскоўцаў крыху расказалі.

— А што ж пра іх расказваць?

— Раптам жа нехта і раней на падазрэнні быў?

— Ды не, здаецца.

— Тут трэба, каб не здавалася. Тут усё да драбніц прыгадвайце.

— Але ж...

— На першы погляд вам магло падацца, што ўсё ў парадку, а на самой справе там усё і хавалася.

— Вось яно як.

— Анягож.

— Тады трэба думаць.

— Думайце і старайцеся нібы ўсіх перабраць, каб нікога не прапусціць.

— Зразумела.

— Гаварыце паміж сабою, а я стану слухаць. Мне і так усё вядома будзе. На мяне ўвагі асабліва не звяртайце...

— А дапаможаш, дзеду? — не адставалі самыя нецярплівыя.

— Вы рабіце тое, што вам сказаў, а астатняе ўжо — мая справа.

Тут і пачалося. Адзін тое прыгадвае, другі — тое, а трэцяму карціць перабіць астатніх, каб яго аднаго паслухалі, бо яму здаецца, што менавіта ён падказку істотную зробіць. Такі гвалт ды крык узняўся, што і не адразу здагадаешся, што хто крычыць. Праўда, дзед той сядзеў і, нібы ні на каго ўвагі не звяртаючы, задуменна хістаў галавою. Крыкі крыкамі, а справа ўжо за полудзень пераваліла. Накрычаліся ўсе да болю ў жыватах. Ужо і не ведаюць, пра што ж далей гаварыць. Тут якраз адна з гаспадынь прыгадала, як яна бачыла свайго суседа, калі той жабу лупіў. Пачуўшы такое, старэча ўскалыхнуўся:

— Лупіў, кажаш?

— Але.

— А даўно гэта было?

— У мінулым годзе.

— У мінулым?

— Ну, але.

— Ага.

— Добра бачыла... На ўласныя вочы... Калі я з-за гумна выйшла нечакана, то ён ажно закалаціўся ўвесь, нібы ліст на вятру.

— Днём гэта было ці ўжо ў прыцемках?

— Пад вечар, але яшчэ свяціла сонца.

— А цяпер прыгадай, маладзічка, ці гаварыў ён табе што-небудзь, нібы апраўдваючыся, што гэтым вось займаецца?

— Гаварыў нешта, але не прыпомню дакладна...

— Пастарайся.

— Казаў, што...

— Ну?

— Здаецца, казаў, што ракаў лавіць збіраецца...

— Вось яно што.

— Так.

— А цяпер прыгадайце, ці хварэла жывёла ваша ў мінулым годзе, недзе адразу, прыкладна, пасля таго здарэння?

— Анягож, — адразу запэўнілі вяскоўцы.

— Хварэла?

— Не ўся, праўда.

— А ў каго?

— Не, дзеду, так атрымалася, што авечкі амаль ва ўсіх павыдахлі.

— Вось бачыце.

— Значыцца, — абурана загуў натоўп, — гэта ён усё падладзіў?!

— Так, людцы.

— А дзе ж ён сам?
— Сапраўды.
— Няма.
— Паглядзіце, а яго, аказваецца, тут і ўвогуле сёння не было.
— А чаго ён тут рабіць будзе?
— Так.
— А ці ў яго жывая жывёла?
— Хто ж яго ведае.
Але тут узвіўся нечый голас:
— Жывая! Я бачыў, як ён учора сваіх кароў заганяў!
— Сам, значыцца, заганяў?
— Тое, што бачыў, тое і гавару.
— Вядома ж, што сам, бо і пасвіў жа адзін. У астатніх жа жывёла ці павыдахла, ці не ўстае на ногі.
Тут дзед устаў і ўжо павёў справу далей даволі ўпэўнена:
— Шукайце таго злыдня, толькі асцерагайцеся рабіць гэта ў адзіночку.
— Чаму?
— Таму што ў яго вельмі моцная сіла. Я ўжо гэта адчуваю.
— А як жа нам далей дзейнічаць?
— Тут вам трэба зрабіць вось што.
— Ну.
— Лавіце яго і адвучвайце. Толькі старайцеся, каб ён надта нікога не бачыў.
— З-за вугла?
— Калі атрымаецца, то і так можна.
— А жывёла?
— Сапраўды, што з нашай жывёлай будзе?
— На вялікі жаль, людцы, сваю жывёлу вы на гэты раз не выратуеце.
Загаласілі жанчыны, асабліва тыя, у якіх жывёла яшчэ была жывая, і таму зараз яны пачулі канчатковы прысуд.
— Злавіце, адлупцуйце добра і загадайце, каб адмовіў усё чыста, што паспеў зачараваць.
— Вунь яно што.
— А потым, што потым?
— Нічога.
— Забіваць яго ці не?
— Мала вам грахоў перад Усявышнім?
— Ды...

— Я ж сказаў, вам самае галоўнае, каб ён адмовіў усё. А жыццё ягонае для вас нічога не каштуе.

— Зразумела.

Так стары падвучыў людзей і пайшоў сабе дамоў. Вяскоўцы ж выканалі ягоную параду. Падлавілі таго ведзьмара, і, што самае дзіўнае, ён зноў трымаў у руках аблупленую жабу. Відаць, збіраўся зрабіць нешта злое яшчэ. Як узяліся яго біць, то ўжо стрымлівалі найбольш хвацкіх, каб не забілі. Прымусілі ад усяго адмовіць, а потым выгналі злыдня прэч за ваколіцу вёскі. Болей не было такіх страшных хвароб ды пошасцей у паселішчы. Так вось і выратаваліся» (УЗ. Драг.).

І апошняе, на чым хацелася б засяродзіць увагу ў асвятленні гэтага пытання, — у нашы дні, калі ўсё прымхлівае, намоўнае назаўсёды засталося ў таўшчыні мінулых гадоў, у вёсках, тым не меней, працягваюць верыць (і па традыцыі, і па простым супадзенні ў дзеяннях ці ў тым, як скла́ліся абставіны) у сілу менавіта «чорных» вачэй, падкрэсліваючы, што іменна гэтыя замоўныя (або нядобразычлівыя) сілы прыносяць усёмагчымыя непрыемнасці. Да іх маглі прыпісваць і хваробу людзей (асабліва дзяцей), і захворванні (буйства, шаленства, падзеж) жывёлы, і нейкія калецтвы ці нават простае нешанцаванне ў нейкай справе. Але трэба адзначыць, што на гэты раз уяўных ведзьмароў не білі, не калечылі (паўторымся, назаўсёды адышоў той час), тым болей не аддавалі пад суд, бо не існуе ў сучасным заканадаўчым праве артыкулаў, якія б прадугледжвалі пакаранне за чараўніцтва. Наадварот, імкнуліся быццам бы перавыхоўваць тых, каго падазравалі ў непажаданым уздзеянні іхніх вачэй. Можна прывесці шмат прыкладаў на ўсе выпадкі жыцця, калі напрамую вынік (тое, што ў рэшце рэшт атрымалася) звязвалі з пэўным чалавекам, якому, калі не ў адкрытую, то за вочы абавязкова маглі неаднаразова сцвердзіць: *«Каб табе вочы павылазілі!»* Безумоўна, нярэдка такія выслоўі значна ўзмацняліся за кошт лаянкі. Але ў пераважнай большасці выпадкаў з нібыта вінаватымі паступалі па-іншаму. У якасці прыкладаў прывядзём запісы апошніх гадоў, зробленыя на гэтую тэму ў маёй роднай вёсцы Чухава, што на Піншчыне:

«У Адама, сынок, вочы вельмі і вельмі паганыя. Дастаткова яму выйсці сустракаць кароў, то нічыя адразу, акрамя ягонай, дамоў не пойдзе. Саб'юцца ў кучу, будуць стаяць, калаціцца, рыкаць, калоцьнявечыць адна другую, а да двара так і не даклічашся. Мала гэтага, калі і ў двор загоніш, то ў хлеў ні ў якім разе карова не пойдзе. Выдаіць яе будзе самым сапраўдным горам. Трэба быць вельмі асця-

рожнай, каб карова не кінулася на гаспадыню ды не пакалечыла. Так працягваецца дні тры-чатыры, а потым жывёліна паціху пачынае супакойвацца».

«Калі Іван сабе кабылку купіў, то яны з Уладзімірам добра пасварыліся. Калі б людзі не разнялі, дык Іван бы добра надаваў у карак.

— А за што так?

— Іван гной вывозіў у агарод.

— Ага.

— А Уладзімір з-за вугла выглядваў.

— Так.

— Не паспеў назад да двара даехаць, як кабылка панесла. Добра, што навокал агароджа была. Вочы Уладзіміравы завідушчыя. Пасля гэтага Іван запрасіў яго да сябе нібыта выпіць. Той, нічога не падазраючы, пайшоў. Выпілі добра, а потым гаспадар як трэсне госцю ў вуха ды як закрычыць:

— Ідзі, адмаўляй кабылку!

А Уладзімір паспрабаваў было яшчэ і біцца лезці, каб здачы даць. Счапіліся, то, каб людзі не разнялі, дык доўга б паміж сабою ваявалі. Уладзіміру яшчэ нейкім кіем ад другога суседа перапала, бо ён таго кулаком штурхнуў. Але з таго разу яны на сваіх конях нават у поле разам не ездзяць. Вось да чаго зайздрослівыя вочы нават па суседству даводзяць. На ўсё жыццё маглі пасварыцца» (УЗ.).

Такім чынам, можна канстатаваць наступнае, што на працягу развіцця грамадства адносіны да злых варажбітоў (ведзьмароў) змяняліся ў бок гуманнасці, ашчады да любога з людзей. На канкрэтных прыкладах мы паспрабавалі прасачыць, як гэта адбывалася паводле хранікальных дакументаў і вусна-паэтычных сведчанняў. Сапраўды, за доўгую гісторыю нашы продкі прайшлі ўсё: смертазабойства і калецтва ведзьмароў, прымусовае адмаўленне чараўнікоў ад сваёй варажбы, прымушэнне іх стаць на сумленны шлях у далейшым жыцці.

# ЧОРНЫЯ ВАРАЖБІТЫ



Людзі намнога часцей звярталіся за дапамогай, за падтрымкай ці нават за своеасаблівым «прагнозам» развіцця сямейных і гаспадарчых спраў на будучае да спагадлівых знахароў і варажбітоў. Іх ведалі не толькі суседзі ці аднавяскоўцы, але, асабліва наймацнейшых, і далёка за межамі паселішча. У свой час П. Шэйн слушна падкрэсліваў: «Але зусім іншай павагай і пашанай (маецца на ўвазе ў параўнанні са злымі чараўнікамі. — *А. Н.*) карыстаюцца варажбіты і варажбіткі, якія абралі сваёй спецыяльнасцю вылячэнне хвароб і разбурэнне сілы чараўніцтва іншых. Такія людзі хоць і карыстаюцца нашэптваннямі і іншымі таямнічымі прыёмамі, але яны ведаюць і даволі рацыянальныя сродкі вылячэння хвароб: упраўляюць вывіхі, робяць перавязкі пры пераломе касцей, выраўноўваюць выкрыўленні пазваночніка ў маленькіх дзяцей і інш. Трэба сказаць, што ў Беларусі больш сустракаецца знахарак, чым знахароў, і варажбітак, чым варажбітоў»[1].

Усё гэтае вылячэнне адбывалася (здзяйснялася, праходзіла) па прынцыпе прынясення людзям дабра, радасці. Менавіта гэтым тлумачылі самі знахары і варажбіты тое, што валодаюць па-сапраўднаму моцнай гаючай сілай. «Мой нябожчык-дзядуля, які быў добрым знахаром, пра яго і сёння людзі ўспамінаюць з цеплынёю ды ласкаю, заўсёды казаў, што чым болей ты зробіш іншым дабра і на добрае, то і табе гэта ўсё потым аддасца, прыпомніцца. Нікога за сваё жыццё не пракляў, ні на каго голас не ўзвысіў, слова дрэннага не сказаў, не тое каб пасварыцца ці пабіцца. Яму і ў галаву ніколі такое не прыходзіла, ён і падумаць нават пра такое не мог. Хто не прыйдзе з якой просьбаю, то не адмаўляў. А людзі ж розныя бываюць. Даволі часта некаторыя з іх замест слоў падзякі за папярэднія справы дзеда гаварылі яму (ці за яго спіною) і нешта злое, нядобразычлівае, тым не меней стары ім гэтага не прыгадваў. Дапамагаў і ўсё. Платы ніякай не браў. Калі ўжо стаў жыць сам-адзін, то яму людзі прыносілі, хто малака, хто кавалак хлеба, а хто якое яйка. Тут ужо не адмаўляўся. Калі памёр, то лічы, што тры вёскі прыйшлі на ягонае пахаванне, хоць сканаў не маладзён які, а старым-стары чалавек. Хто не падыходзіў, то бачыў, што ляжаў дзед з усмешкай у дамавіне. Зла нікому

не пакінуў, наадварот, атрымалася, што чалавек пражыў, творачы астатнім адно дабро, бо ягоны талент знаходзіўся на службе ў людзей» (УЗ. Ст.); «Дабро, учыненае людзям, назад вяртае таксама дабро. Наадварот, той, хто будзе рабіць зло, нешта нядобрае, чорнае, то і выкліча на сябе, адпаведна, гэткую ж рэакцыю. Доўга не пражыве, хвароба і пошасці ніколі не мінуць ні яго самога, ні ягонай сям'і. Спагадлівых знахараў у нас было найболей, а злых — зусім мала. Я такіх і не ўпомню. Затое добрага аднаго запомніла на ўсё жыццё, бо ён, менавіта ён, вярнуў да жыцця маю дачку, калі яна была зусім яшчэ маленькай. Стары дзядулька, да яго мяне накіравала мая маці. Так і сказала, што калі гэты чалавек не выручыць, дык болей можна толькі на лёс спадзявацца. Двое сутак не адыходзіў знахар ад маёй малой. Сядзеў ля яе і ўсё нешта шаптаў-прамаўляў ды даваў піць з лыжкі нейкі ўзвар. Нікога з родных не падпускаў, казаў, каб не сапсавалі. І на самой справе паправілася дачушка. Загугукала і стала прасіць есці. Знахар жа як адыходзіў, то прамовіў, нібы яе павучаючы, а нібы і да ўсіх, хто ў хаце жыў, звяртаючыся, што раз станеш рабіць добра, то і добра табе будзе. Так на ўсё жыццё са мною ягоныя словы і засталіся» (УЗ. Івац.).

Спагадлівыя знахары браліся вылечваць ад усіх хвароб, якія толькі ўзнікалі (падкідваліся) сярод людзей. Гэта адбывалася з той простай прычыны, што акрамя іх лекаваць не было каму.

На першым месцы тут будзе вывратаванне ад смерці. Іменна выратаванне ад смерці, і нішто іншае. Кожны чалавек, адпаведна, імкнуўся працягнуць свой век (жыццёвы шлях). Рабілася гэта парознаму: звярталіся да Бога, Боскай Маці, Багародзіцы, святых, апосталаў, да знахара з адзінай просьбай — вылечыць ад непазбежнай смерці. Нельга забывацца і пра тое, што, паводле шматлікіх сведчанняў, нашыя продкі ніколі не баяліся смерці, бо лічылі яе ўсюдыпранікальнай і ўсёпаражальнай. Як ты ад яе ні хавайся, як ты ні ўхіляйся, а яна ўсё роўна цябе знойдзе. П. Шэйн адзначаў з гэтай нагоды: «Да смерці нашы сяляне адносяцца абыякава. Калі хто-небудзь захварэе, муж ці жонка, няхай сабе і маладых гадоў, то сусед, суседка ці хто-небудзь з родных, убачыўшы хворага, абавязкова скажа: «А што ж ты Янка (ці Пятрок, ці Ганка) паміраць хочаш?» На гэта хворы ці хворая звычайна адказваюць у такім плане: «Ад смерці нідзе не захаваешся: хоць пад зямны лёд захавайся, то яна цябе і там знойдзе, і ад яе нічым не абаронішся, ды і не адкупішся. Каралі якія багатыя, маглі б цэлае каралеўства аддаць, ды і то не могуць адкупіцца, а нам жа бедным няма рады, як ад яе адкупіцца»[2]. Тое ж самае можна пры-

весці і з запісаў фальклору апошніх гадоў, зробленых намі ў асноўным на Гомельскім і Брэсцкім Палессі і, часткова, на Магілёўшчыне. «Смерць — ёсць смерць. Уцякай — не ўцякай, хавайся — не хавайся, а яна сваё абавязкова возьме, яна ў любым выпадку дагоніць. Круці не круці, а ўсё роўна давядзецца памерці — так казалі нашыя продкі, так і да нас давялося-дайшло. Куды не захаваешся, там адшукае. Нездарма ж гавораць, што хоць ты ў пограб захавайся, і там паратунку не будзе. Усё на свеце можна падмануць, усіх чыста абвесці, акрамя самой смерці. Прыйдзе ў патрэбную хвіліну са сваёю іржаваю касою, і тады ўжо не ўратуешся» (УЗ. Ганц.); «У нас так і ішло ад старых да малых, што вучылі не баяцца смерці. Яна ўсімі ўспрымалася, як неабходнае і непазбежнае. Прыйшла твая наканаваная часіна, і ўсё на тым, збірайся ў апошні шлях. Збірайся, калі паспееш. Кожнаму чалавеку на небе свеціць свая зорка, а раз яна абрываецца, то і чалавек вымушаны памерці. Старыя людзі тыя ўвогуле, паміж сабою размаўляючы, з цікаўнасцю дапытваліся адзін у аднаго: куды ж гэта іхняя смерць падзелася? Яны надта крыўдавалі, калі гэтая самая смерць нечакана-неспадзеўкі забірала ў магілу намнога маладзейшага. Тады атрымлівалася, што іхні лёс з імі вытварае нейкія «штучкі» (УЗ. Ст.); «Да смерці старыя людзі адносяцца падкрэслена зняважліва. На першы раз можна нават падумаць, што яны з яе здзекуюцца, нягледзячы на тое, што смерць усясільная. Верылі, раз смерць блізка падышла, то яна з сабою забярэ абавязкова. Не адчэпіцца, не адступіцца. Хавацца ці ўцякаць куды-небудзь ад смерці бескарысна. Усё роўна дагоніць. Хіба ж адно-два пакаленні да нас спрабавалі абхітрыць яе, і нічога не атрымлівалася. Таму і ведалі ўсе цвёрда, што раз смерць прыйшла, то яна прыйшла за некім і без яго назад ні ў якім разе не вернецца» (УЗ. Пн.).

Магчыма, што выратаванне ад смерці — гэта і будзе ні што іншае, як вылячэнне хворага чалавека ад усёмагчымых хвароб. Знаходзячыся на мяжы смерці і жыцця, ён і заклікаў да сябе знахара, каб той пазбавіў яго ад смерці. Цікава адзначыць і тое, што ў акадэмічным выданні «Замовы» (Мінск, 1992, серыя БНТ) няма ніводнай замовы, якая б так і называлася «Ад смерці» ці ў нейкім іншым варыянце, але з гэтым жа самым значэннем. Значыцца, вылечваліся ад хвароб (ці імкнуліся вылечыцца), а не ад самой смерці, калі ўжо яна «прыйшла да чалавека». Намі зафіксавана некалькі замоў, якія носяць «гаворачыя» назвы: «Ад смерці», «Ад смерці з касой», «Ад непазбежнай смерці». Запісы зроблены ў апошнія гады (1997—1999) на тэрыторыі Магілёўшчыны.

*«Першым разам, господнім часам, прашу Госпада Бога. Бог з дапамогай. У чыстым полі стаіць бяроза. Пад той бярозай стаіць пані ўчэсана, прыбрана, ад Бога прыслана — сама смерць. Як той пані пад той бярозай не стаяць, так у (імя) смерці не бываць. Жаночай, дзявоцкай, хлапецкай, мужчынскай. Дзявоцкую — пад вянец, жаноцкую — пад чапец, хлапечую — пад кепку, мужчынскую — пад шапку.*

*Другім разам, господнім часам, прашу Госпада Бога. Бог з дапамогай...*

*мяне (рабу божую) выручаць, а смерць замаўляць»* (в. Лагодава, Быхаўскі раён, ад Гурскай Е. Ц.);

*«Вада-вадзіца, рачніца-іточніца, моцная царыца, чыстая, дзявіца-красавіца. Быстрая, халодная крыніца прабегла з усходу і да захаду, скрозь вялікія горы і падолы, і рачныя берагі і беражочкі, шэрыя пясочкі. Прабегла і ўмывала белыя камяні і шэрыя карані. Умый жа і ўсялякі боль-гарачку, усялякую хваробу і адымі смерць-смярціцу. Уга-вор мой моцны, учынены шчыра і сумленна. Ва векі вякоў. Амінь»* (в. Чарневічы, Быхаўскі раён, ад Клындыхавай С. Я.);

*«Госпадзі Божа, благаславі, святая Маці Прачыстая, дапамажы і на помачы падбяжы, ад непазбежнай смерці ўратуй-дапамажы. Ішлі тры дзявіцы дарогаю, неслі платочак, у том платочку тры ўзялкі. У адным сухута-ліха, а ў другом — прыпадак, у трэцім — сама смерць. Ах вы, красныя дзявіцы, вынімайце вы етага раба божага чалавека, гэтую боль з касцей і з машчэй, і з жыл, і з пажыл, і з буйной галавы і беражы гэтага маладца, ад гэтага гора, і ўкіньце вы ў сіняе мора і штоб яно век не вынырывала і яму не ўплывала-не пагражала, ад смерці вернай яго ўратавала»* (в. Барысавічы, Клімавіцкі раён, ад Бацвянковай Л. Л.);

*«Госпадзі наш, благаславіў дзень добры, садзержы ты, Госпадзі, неба і зямлю, садзержы ты дзедзьку-лебедзьку. Старой дзедзька-лебедзька, стаіш ты адной нагой на небе, а другой — на зямлі. Адзін вецер круцяшчый, другой — муцяшчый, а трэцій — паляшчый. Старый дзедзька-лебедзька, унімай ты смерць з буйнай галавы, з ясных вачэй, з рыбейнай касці, з буйнага нутра, з быстрай ляганькі і селязёнькі і з рацівага сэрца, і з борзых ног. І з крутых капытоў, з гарачай крыві пілі, на кашэ шылі. Кланяюся святой Божай Мацеры, штобы яна той расы ад вас выпівала, пеленой выцірала, жоўтым пяском засыпала, штобы ў таго ж чалавека і смерці не было. Амінь»* (в. Лядзешня, Клімавіцкі раён, ад Сляпцовай В. А.);

*«Госпаду Богу памалюся, Госпада Бога папрашуся, ад смерці чалавека ўгаварываць. Угаворваю, умаўляю, з сініх жыл, з румянага цела*

*выганяю. Зоры-зараніцы, божыя памашчніцы. Памагалі Богу, памажыце і мне. Ехаў Бог трыма коньмі. Адным сінім, другім белым, трэцім красным. Прыязджае к Пцічы-рацэ, к сіняму мору. На тым сінім моры кажух, у тым кажуху белка з палёным гуляе. Суку ўжывае. Годзе табе, белка, з палёным гуляць, суку ужываць. Памажы рабу божаму ад смерці пазбягаць. Ідзі ты, смерць, на цёмныя лугі, на ніцыя лозы, там табе сталы пазасціланы, кубачкі паналіваны. Там табе піці і гуляці і раскошу маці, і болей тут смерці не бываці. Калі ты не паслухаеш, прыедзе к табе Архайло-Міхайло з празурнаю трубою, з яснаю свячою. Празурную трубою атрубае, яснаю свячою жжыгае, залатым крастом пабівае, з цябе паганы дух выганяе. Ён у мяне душа свянцоная, хрышчоная. А ты душа не хрышчоная, не свянцоная, у сярэдзіне не жыві, цела не палі, косці не ламі, згінь смерць на векі вякоў. Амінь»* (в. Зелянковічы, Глускі раён, ад Малаковіч М. Ш.);

*«Госпадзі, ты маліся на небе, мы, людзі, на зямлі. Як засеяны мак цяжка з зямлі падняць, дык так цяжка ад смерці і раба божага (імя) ўратаваць. Як памершыя ног не ўзнімаюць, дык так бы і смерць на раба божага не ішла. Святы Мікола Угоднік, выратуй раба божага у вадзе, у агні і на зямлі. Амінь»* (в. Чыгірынка, Кіраўскі раён, ад Шпакоўскай М. А.).

Хоць вышэйпрыведзеныя замовы і носяць адзіную назву — «Ад смерці», але ў іх гаворка ўсё ж вядзецца пра хваробы, найперш, ад якіх магла наступіць немінучая смерць, і таму да знахара звярталіся з адзінай просьбай — выратуй чалавека, нярэдка пры гэтым абавязкова ўдакладнялася, што на цябе, маўляў, адзіная надзея-спадзяванне, болей прасіць ужо проста няма ў каго.

Цяпер разгледзім найбольш часта сустракаемыя хваробы, якія вылечваліся спагадлівымі знахарамі. Відаць, не памылімся, калі пачнём гэты аналіз з дзіцячых хвароб. Менавіта малыя даволі часта хварэлі, а дзіцячая смяротнасць была празмерна высокай. Не мелі магчымасці іхнія бацькі ўдзяляць многа ўвагі сваім нашчадкам. Пачнём — ад пачатку, ад нараджэння.

Да парадзіхі клікалі знахарку-павітуху, якая ў такіх выпадках была адзінай памочніцай. Бабка гэтая ведала шмат замоў, якія былі накіраваны на захаванне плоду і на шчаслівыя роды. *«Ішоў Гасподзь із небеса, згубіў ключ із пояса. Прачыстая Мацер Божая ішла, ключы найшла. Госпадзі, вярніцесь, вашы ключы найшліся. Залатыя замкі, адмыкайцеся, царскія варотачкі, адчыняйцеся. Усе жылкі, распінайцеся. Дзве душы разлучайцеся і младзенца на новы свет выпускайце»* (в. Мормаль, Жлобінскі раён, ад Чумаковай Г. І.).

Перад родамі парадзісе даваліся і спецыяльныя парады, асабліва пры цяжкіх родах. Некаторыя з гэтых парад былі рацыянальнымі, заснаванымі на вопыце народнай медыцыны. Так, парадзіха павінна піць адвар з сухога чарнобылю, каб узмацніць патугі... Аднак існавалі і такія, што грунтаваліся на прымхах. Як, напрыклад, «Для выкліку патугі мужу «радзішкі» лажыцца каля парога хаты з унутранага боку, а праз яго «радзішка» пераступае дзевяць разоў». Як апошні сродак выкліку родаў лічылася раскрыццё царскіх варот у царкве. Верылі, што гэты дапаможа адчыніць «вароты мацярынскага лона». Бабка-павітуха развязвала ўсе вузлы на адзенні «радзішкі», расшпільвала каўнер яе сарочкі, расплятала косы і інш. Больш таго, усе дзяўчаты сям'і таксама расплятала косы, каб садзейнічаць родам. І бабка шаптала замову:

*«Первым разам, добрым часам, стань, Гасподзь, мне на помач. Ехаў Ісус Хрыстос з-пад нябёс, із залатымі ключамі, із залатымі шнурамі. Калоды раскаціўшы, тыны расчыніўшы, замкі размыкаўшы, ад рабы божай (імя) младзенца на свет выпускаўшы. Разлучы, Гасподзь, галаву з галавой, сэрца з сэрцам, рукі з рукамі, цела з цельцам, косці з касцямі, ногі з нагамі. Разлучы, Госпадзі, младзенца із шчырага сэрца. Амінь»* (в. Палянінавічы, Быхаўскі раён, ад Самусевай М. Я.).

Або вось такая замова: *«Госпаду Богу памалюся, святой Прачыстай пакланюся, і ўсім айцам прападобным, вялікім угоднікам. Прыйшла пара, парасла трава, замкі паадмыкайцеся, форткі паадчыняйцеся: ты, дзяўчыначка, ты, моладзец — выйдзі вон. Бог з помаччу, а я з духом»* (г. Гомель, ад Аляксеевай Е. Л.).

Вымаўлялі замовы і тады, калі першы раз бачылі сваё нованароджанае дзіця. Бясспрэчна, кожная маці хацела яму самага найлепшага, але далёка не кожная магла самастойна, з-за абяссільвання, прашаптаць словы замовы. Таму і тут нехта з родных ці блізкіх людзей прасіў добрую знахарку ці варажбіта прыйсці і пашаптаць таямнічыя словы над немаўлём. Такія замовы даволі рэдка сустракаемыя: *«На сінім моры ляжаў белы камень, на тым камяні стаяў прастол, за тым прастолам сядзела тры дзевы. Адна хусцінку вышывала, другая — кнігу чытала, трэцяя немаўляці лёс назначала. Здаровы, вясёлы, запавечны. Соль у мора, а немаўля ўгору. Соль у мора раставаць, а немаўля штодзень прыбываць»* (УЗ. в. Скалін, Касцюковіцкі раён, ад Захаранкі Н. І.).

Прыкметы і звычаі, якія адносіліся да перыяду ад нараджэння дзіцяці да яго хрышчэння, адлюстроўвалі заклапочанасць сялян аб

здароўі і шчаслівым лёсе нованароджанага. Паводле адной з такіх прыкмет, нованароджаны будзе доўга жыць, калі моцна закрычыць адразу пасля з'яўлення на свет. Спакойнае ж дзіця пражыве нядоўга. Згодна з другой прыкметай, якая ўвайшла ў прыказку, шчаслівым на ўсё жыццё будзе тое дзіця, што нарадзілася «ў сарочцы». Будучы лёс дзіцяці вызначалі ў залежнасці ад дня нараджэння: лічылася, што ў панядзелак нараджаюцца гультаі і нядбальцы, у аўторак — працавітыя; у сераду — напалавіну гультаі, напалавіну працавітыя; у чацвер — тыя, хто не дажывае да старасці; у пятніцу — горкія п'яніцы; у суботу — больш шчаслівыя і ўдачлівыя, чым ва ўсе папярэднія дні; у нядзелю — тыя, хто выклікае да сябе зайздрасць. На лёс дзіцяці ўплываў нават месяц нараджэння. Напрыклад, паводле прыкмет, дзіця, якое нараджаецца ў маі, доўга не жыве, толькі мучыцца («маецца») на свеце. У будучым — гэта бяздольнікі, якім у цяжар іх асабістае жыццё.

Для забеспячэння шчасця і багацця ў далейшым жыцці дзіцяці існавалі і выконваліся таксама пэўныя звычаі і абрады. Так, у начоўкі, дзе абмывалі дзіця, бацька кідаў сярэбраныя манеты, каб нованароджаны ў будучым быў багаты і радаваўся жыццю. Аднак на дзіця імкнуліся як мага менш траціцца, асабліва на адзенне. М. Я. Нікіфароўскі прыводзіць адпаведную прыказку: «Што п'яны з'еў, а малы знасіў — усё роўна». Таму на пялёнкі ірвалі старую бялізну. Тут трэба адзначыць, што выкарыстанне старога адзення, бялізны мела магічную засцерагальную ролю.

Каб дзіця хутчэй пачало гаварыць, пабочная жанчына, якая толькі што даведалася ў хаце аб яго нараджэнні, нікому не гаворачы ні слова, хапае лыжку і есць якую-небудзь страву, што трапіцца пад руку, або кавалак хлеба і маўчком выходзіць з хаты.

Вялікае значэнне надавалася падбору кума і кумы — хросных бацькі і маці. Асабліва цанілася «божыя кумы» — выпадковыя людзі, якіх сустракалі на ростанях. Ахвотна ішлі ў кумы дзяўчаты, асабліва да дзіцяці, народжанага без шлюбу. Існавала павер'е, што такая дзяўчына хутка выйдзе замуж. Клапаціліся аб працавітасці, будучым умельстве і майстэрстве дзіцяці. Для гэтага ў парозе хаты з унутранага боку клалі сякеру, пілу, долата, кнігу і іншыя прадметы, якія кумы павінны былі пераступіць пры выхадзе. На думку сялян, калі дзіця вырасце, будзе добра валодаць гэтымі прадметамі.

Нарадзілася дзіця ў сям'і, і бацькі, адпаведна, глядзелі на яго ды марылі пра шчаслівую долю для нашчадка, каб яго абмінулі ўсёмаг-

чымыя бядоты і ліхоцці, якія ім самім сустракаліся на жыццёвым шляху. Учытваешся ў няхітрыя словы замоў-шэптаў і здзіўляешся, як жа цвёрда верыў наш продак слову, як быў перакананы ў тым, што яно абавязкова дапаможа, падтрымае, асабліва калі ўсё рабіць так, як гэта раіла-падказвала бабка-павітуха.

*«А дай, Божа, той дзяціне ўсякую долю ўзяці: і хлебавую, і салявую, трэцюю — здаравейную. Каб наша ягодка ды вялікая расла, і шчаслівая была»* (в. Хальч, Веткаўскі раён, ад Космыкавай П. П.); «Вадой абліць і сказаць: *«Цар марскі і цар дзіўны, дай вады на жывот, на здароўе раба божага, на чысціню яго, на прыгажосць яго. Калі я* (знахарка. — *А. Н.*) *рэчы свае не дагаварыла ці калі рэчы перагаварыла, няхай мае рэчы будуць моцнымі і крэпкімі. Адныне і давеку. Амінь».* Трэба паліваць вадою, безымянным пальцам павадзіць па жывоціку тры разы па кругу сонца і саму замову вымаўляць да трох разоў» (в. Пакалюбічы, Гомельскі раён, ад Рудовай Н. Н.).

Ці вось такі цікавы прыклад: *«Прашу я Госпада Бога, Святое Маткі, Прачыстачкі, Святога Бога. Прыступіце, памажыце хрышчонаму, мальчонаму дзіцяці здароўечка даці. Святая Матка Прачыста гасподняга Божа пасцельку пасцілае і сон насылае, усё ліхое адварачае. А ты, дзіця, дочка мая, у кучачку сажымайся, Ісусу Хрысту пакланяйся, а я анэлетку свайму. Анэлетка твая стаіць каля цябе і ручачкі растаўляе, і ўсё ліхое адварачае»*[3].

Бацькі імкнуліся дабіцца мірнага жыцця паміж сваімі дзецьмі. Каб дзеці ў далейшым не дзяліліся, маці непрыкметна давала ім з'есці ў якой-небудзь страве іх жа пупавіны, якія захоўваліся для гэтай мэты з дня нараджэння. Не надта прывабны і гігіенічны звычай, але выкліканы ён тым, што нярэдка у сям'і ўзнікала варожасць паміж дарослымі дзецьмі, якой садзейнічала панаванне прыватнай уласнасці.

Для ашукання злых сіл, якія, па перакананні простага народа, шкодзілі чалавеку, у сям'і, дзе паміралі дзеці, нованароджанага «прадавалі» сябру, рабілі так, каб дзіця нібы лічылася чужым, хоць на справе яно працягвала жыць у сваёй хаце і сям'і.

Пастаянная цяжкая, непасільная праца вымагала ў людзей і своеасаблівых адносін да дзяцей. Ні матулі, ні бацьку не было магчымасці пасядзець з імі, пазабаўляць, пакалыхаць. Пасля напружанага дня неабходна было адпачыць, набрацца сілы, а немаўля, калі яно дрэнна спала ноччу, крычала ад перэляку, даводзіла да знясільвання найперш гаспадыню, бо менавіта на ёй сыходзіліся абавязкі аб доглядзе, назіранні за дзіцём. Тут ужо прасілі ў спагадлівай варажбіткі, каб яна «дала малому крэпкі сон, каб яно шчыра спала». Замовы, якія

прачулая знахарка пераказвала-перадавала адчайнай ад стомы гаспадыні, былі самыя розныя.

*«Першым разам, божым часам, Госпаду Богу памалюся, Святому Хрысту пакланюся. Добры вечар, куры-курапаткі, чорныя, рабыя, касматыя, лахматыя. Нясіце на лясы, на балоты, на крутыя горы, на ніцыя лозы. Лапкамі разграбіце, сон нашаму дзіцяці знайдзіце»* (в. Мормаль, Жлобінскі раён, ад Іваньковай Н. С.).

*«Добры вечар, куркі-рабушкі, чарнушкі, бялушкі. Мілыя сястрычкі, вазьміці дзіцяцевы начнічкі, паўночныя, начныя, паўдзённыя, дзённыя. З касцей, з машчэй. Мой дух, маё слова, Гасподняя дапамога»* (в. Мормаль, Жлобінскі раён, ад Гусевай Л. С.).

*«Крыжам хрышчуся, на крыжы спаць кладуся. Ангелы па баках, Божая маці ў галавах. Берагуць, ахоўваюць душу маю»* (в. Жукаўка, Хоцімскі раён, ад Нямкевіч Р. Д.).

*«Лажуся спаць, даю Богу знаць. Крыж у галавах, крыж у нагах. Ангелочкі мае, беражыце мяне. Што Бог дасць вам, тое і мне»* (в. Лагодава, Быхаўскі раён, ад Гурскай Е. Ц.).

*«На сіянскай гарэ стаіць дуб. На тым дубу 12 какатоў, на тых какатах 12 вараноў. Самі яны чорныя, вочы іх чорныя, дзюбкі іх чорныя, кохці іх чорныя, крыллі іх чорныя. Вачамі яны выглядалі, дзюбкамі яны выклявалі, кохцямі яны выдзіралі, крыллямі яны вымяталі, Івану спакойны сон засыпалі. Ціхенька, лягенька спаць жадалі»* (в. Навасёлкі, Быхаўскі раён, ад Зазыба М. А.).

*«Добры вечар, куркі-рабушкі, чарнушкі-бялушкі, мілыя сястрычкі. Вазьміце дзіцевы начнічкі, палудзённыя, дзённыя з касцей з машчэй. Мой дух, маё слова, гасподняя помач»* (в. Жукаўка, Хоцімскі раён, ад Ісаевай І. М.).

Верылі, што дзіця магло крычаць, плакаць па начах ад таго, што на яго нехта дрэнна паглядзеў. Гэта, мабыць, самая вялікая падгрупа замоў, якая ў большасці сваёй так і называлася: «Ад крыксаў», «Ад плаксаў», «Ад крыксаў-плаксаў дзіцяці» і г.д.

*«Первым разам, добрым часам, зорачка-мамачка, вячэрняя зарніца, пасватаемся з табою, пабратаемся. Ёсць у цябе сыночак Даніл, а ў мяне раб божы (імя). Вазьміце крыксы, плаксы, варыксы, суроцы, калючыя, балючыя, нясіце на сухі мох, на калючыя грушы, яблыні, прыткніце за сінія воды, дзе пціца не лятае, скот не ходзіць, дзеўкі не спяваюць, там спаліце іх і попел па ветру разнясіце. Ад гэтага часочка не сама сабою, а гадавыя празнічкі са мною. Госпаду Богу памалюся, Мацеры Гасподняй пакланюся. Я не сваім хукам, гасподнім духам, прылюбі, Госпадзі, дух мой і помач дай. Хто цябе радзіў, той і*

*адхадзіў. Будзь здароў (імя).* Пасля «Отча наш» яшчэ прачытаць. *Амінь»* (г. Магілёў, ад Горавай М. М.).

М. Я. Нікіфароўскі пісаў: «У тых цяжкіх выпадках, калі знямоглае дзіця набліжаецца да смерці і калі яно змагаецца з ёю, маці знімае «вярхоўку» ляснога мурашніку, гатуе адвар і купае ў ім дзіця тры дні запар. Пасля апошняга купання маці наведвае парушаны мурашнік. Калі той папраўлены і мае ранейшы выгляд, на папраўку дзіцяці ёсць надзея; калі ж мурашнік застаўся разбураны, дзіця непазбежна хутка памрэ.

У тым самым выпадку ўжываюць і другі сродак. На грудзі безнадзейна хвораму дзіцяці льюць «драбінку алею». Калі алей не ўбіраецца ў цела, дзіця «замрэць»; калі ж ён хутка ўбярэцца, пакінуўшы толькі вільготы след, — дзіця ачуняе і доўга пражыве[4].

Далей ён жа зазначаў: «Крыксы» — няспынны і беспрычынны крык дзіцяці, які даводзіць яго да таго, што яно «накрычыць пуп» альбо «кілу». Заўважана, што ў «крыксах» дзіця шмат есць і ў той жа час худнее і неўзабаве даходзіць да «сушчоў». Пры першым паяўленні «крыксаў», карыстаючыся адсутнасцю сямейнікаў, маці кладзе спавітае дзіця ў кубел, які знаходзіцца не ў хаце, і замыкае яго. Пасля гэтага яна тройчы выбягае на вуліцу, сплёўвае кожны раз і пазірае, ці не ідзе хто з таго ці другога боку? Калі ўсе тры разы яна нікога не ўбачыла, дзіця хутка паправіцца; калі ж яна хоць на момант убачыла праезджага ці прахожага, і «крыксы» неўзабаве пяройдуць у «сушчы», якія звычайна вылечваюцца з цяжкасцю.

Калі стала зразумелым, што дзіця ў «сушчах», маці нясе яго пасля заходу сонца да першага за вёскаю крыжа, кладзе ля падножжа і тройчы гаворыць:

Крыжу мілосціў!
Дай цела на косці!
А не дасі цела на косці —
Прымі да сваёй мілосці!

Самыя блізкія сваякі не павінны ведаць, куды і навошта хадзіла маці з дзіцём. Сваю адсутнасць яна звычайна прыкрывае неабходнасцю пазычыць што-небудзь у суседзяў; пад гэтай пазыкай маці разумее пазыку ў крыжа цела на косці. Гэтыя дзеянні завяршаюцца выздараўленнем або смерцю.

Хворага на «сушчы» трэба выкупаць у вадзе, падсоленай трыма «нюшкамі» чацвярговай солі, а памыі выліць на маладое дрэва, якое

бліжэй за іншыя да хаты: «сушчы» пяройдуць на дрэва, і яно ссохне. Калі ж дрэва ўцалее, тады трэба чакаць дзіцячай смерці.

Карысна купаць дзіця і ў лузе, куды дабаўлена крыху простай солі. Купаць трэба дванаццаць разоў і ў час купання паіць хворага тою вадою ад купання столькі, колькі ён зможа выпіць[5].

У народзе раілі і іншае: «Трэба ўзяць акрайчык жытняга хлеба, завярнуць із соллю ў белую анучку, перавязаць чырвонай ніткай, тады ўзяць дзяцёнку вузельчыкам етым галоўку пагладзіць ды пад печку падкінуць. А тады тры разы пад печку пакланіцца не ксцясь і казаць:

1. *Крыксы, крыксы, дарую я вам хлебам-соллю, белай рубашачкай, красным паясочкам, даруйце майго дзіцяці добрым здароўем ды сном.*

2. *Сонца за лес, крыксы — на лес, а дзіцяцю — спаць.*

3. *Госпаду Богу памалюся, Прачыстай Мацеры пакланюся. Куркі-матрункі, ці спіце вы з ім? Няхай жа і раб божы (імя) спіць.*

4. *Першым разам, добрым часам, Госпаду Богу памолімся, Прасвятой Багародзіцы паклонімся. Стань ты, Госпадзі, на помач. Выгаварываю крыксы-плаксы, дзянныя, палудзянныя, начныя, палуночныя, уражныя, прыгаворныя, сустрэчныя, вадзяныя, прыдумныя і прыгодныя, жаноцкія, дзявоцкія, рабяцкія, хлапецкія. Куры крычаць, куры крычаць, а табе, раб божы (імя), вяляць спаць, маўчаць»* (в. Буда, Горацкі раён, ад Канавалай В. І.).

М. Я. Нікіфароўскі зазначаў: «Калі нельга вызначыць, на што дзіця хворае — ад суроцаў, пярэпалаху, начніцаў, крыксаў, — бацькі робяць наступнае. Сеюць попел у «латку» (місачку), якую ставяць на слупе ля ростанькаў так, каб на яе падала месячнае святло, а вецер свабодна мог бы выносіць усё, што ў ёй насыпана. Калі праз тры дні вецер развее попел, дзіця вызваліцца ад невядомай хваробы; калі ж пры гэтым попел знесены ветрам у адзін бок, то хвароба пярэйдзе на аднагодка, які знаходзіцца ў тым баку. Каб такога не здарылася, бацькі прыносяць ваду ў прамежку ад заходу да ўсходу, купаюць у ёй сваё выратаванае дзіця і гэтай вадою заліваюць рассеяны попел.

Папраўка дзіцяці і засцеражэнне ад пераходу хваробы магчымы тады, калі бацькі выконваюць усе да драбніц дзеянні сумеснымі намаганнямі, напрыклад, будуць абодва трымаць рэшата, «латку» ў час пераносу на ростанькі, устаноўкі яе на слупе і інш.»[6].

У яго ж чытаем: «Роўна праз месяц пасля нараджэння дзіця перажывае «месячыну» — час асаблівай успрымальнасці да ўсіх дзіцячых хваробаў. Прадухіліць «месячыну» можа толькі тая жанчына, якая «бабіла» дзіця і якая, не зрабіўшы гэтага на першым купанні,

зробіць праз тыдзень, але абавязкова ў дзень і гадзіну нараджэння дзіцяці. Звычайна бабка тройчы прасаджвала дзіця праз акно супраць «адслоненай» печы і тройчы заносіла яго ў хату з двара»[7].

Пры гэтым абавязкова выконваліся замовы:

*«Госпаду Богу памалюся, Святой Прачыстай пакланюся. Добры вечар, куркі-курвічкі! Вазьміце ў раба божага начнічкі, начныя і дзянныя. Вы, куркі, крычыце, а наш раб божы няхай маўчыць. Госпаду Богу памалюся, Святой Прачыстай пакланюся».* Гаворыцца пад насестам; *«Госпаду Богу памалюся, Прачыстай Мацеры пакланюся! Добры дзень, куркі-матрункі! Ці спіце вы? — Спім! Няхай жа і раб божы Змітрок спіць»* (г. Гомель, ад Аляксеевай Е. Л.).

М. Нікіфароўскі падкрэсліваў: «**Начніцы** — гэта хвароба, калі спакойнае ўдзень і, відаць, здаровае дзіця не спіць і крычыць уночы да ранішняга досвітку. Першы сродак лячэння гэтай хваробы заключаецца ў тым, што ўсёй абстаноўцы стараюцца надаць зменены выгляд: кладуць дзіця ў калысці ножкамі ў «галавашкі», надзяваюць на яго вывернутую кашулю рукавамі на ножкі; удзень завешваюць ці закрываюць вокны, а ўначы робяць узмоцненае асвятленне»[8].

Далей знаходзім такое сведчанне: «У лячэнні начніцаў можна ўжыць і такі сродак. Трэба прынесці вады ў новым гаршку з такога месца, дзе ніхто не чэрпаў яе прыблізна тры гады, нагрэць да кіпення, паклаўшы ў гаршчок нож, іголку і верацяно, прыкрыць драўлянай міскай і, паставіўшы гаршчок пад калыску, дзе ляжыць дзіця, асцярожна перавярнуць гаршчок. Калі вада хутка перамесціцца з гаршчка ў міску, то дзіця хутка «аслабаніцца» ад начнікоў.

Пасля заходу сонца маці становіцца з хворым дзіцём ля акна ў хаце, а другая, блізкая ёй, жанчына падыходзіць да таго самага акна і пытае: «А ці не ёсць у вас начнэй дзяцёнэк?» — «Ёсць, ёсць! — адказвае маці. — Усё ноччу не спіць!» — «Няхай валей ён ідзець у тыя начніцы, айдзе дзеўкі й маладзіцы!» Пасля гэтых слоў абедзве жанчыны дзьмухаюць над галавой у дзіцяці так, каб іх «дзьмухі» сутыкаліся»[9].

А. Багдановіч адносна ўсяго гэтага пісаў: «Калі дзеці курчацца і крычаць ад болю, не спяць па начах, — гэта іх мучаюць *Начніцы* — маленькія і злыя духі ночы. Іх можа прагнаць толькі светланосны пачатак — агонь. Уначы, калі дзіця асабліва раскрычыцца, паляць печ і перад полымем «палаюць» хворае дзіця... Яго кладуць у прыпол, качаюць перад полымем з лёгкім устрэсваннем і нашэптваюць замову:

Цёмная ночка
Начніц парадзіла, —
Малому дзіцяці
Мукі нарабіла;
Яснае соўнійка
Дзень пачынаець,
Начніц праганяець,
Дзянніц насылаець,
Боль сунімаець.
Шух у печ! Шух у печ!..

Полымя ці паглынае нацніцы, ці праганае прэч»[10].

Калі малое паводзіла сябе неяк ненатуральна: усяго баялася, уздрыгвала, крычала ноччу, не магло само адысці ў цёмны кут, то тут вялі гаворку пра тое, што яно зляканае, спалоханае, «спуджанае». Ад такой напасці магла вылечваць і сама маці, бо кожная з гаспадынь ведала, як абавязковы мінімум, па некалькі замоў «Ад зляку». Калі ж нешта ў жанчыны не атрымлівалася і дзіця па-ранейшаму баялася, «лякалася», дык гаварылі, што ў яго «вельмі моцны спалох» і трэба тэрмінова выклікаць ці несці малое да спрактыкаванай знахаркі, якая «зашэпча яму той страх», бо калі пацягнуць крыху, дык «той страх укараніцца, і ўжо чалавек увесь свой век будзе такі баязлівы ды страшлівы, ад чаго можа і заўчасна памерці».

*«Пужышча, ідзі на лагавішча! Сабачая, цялячая, каціная, кароўя, лашадзіная, курыная, гусіная, жаночая, мужчынская, калючая і палючая. Як гэтаму дрэву на карняку ні стаяць, лістам ні трыпаць, так гэтага раба божага (імя) пужанню не бываць. Маць Прачыстая на Сіанскай гарэ гуляла, гэтаму рабу божаму (імя) пужанне ўнімала. Амінь»* (г. Магілёў, ад Скавародкінай С. М.).

«Звычайна раптоўную хваробу дзіцяці прыпісваюць пярэпалаху; «улякнуўся», кажуць, і тады існуюць два спосабы лекаў. Трэба ўзяць у нейкую пасудзіну вады і праз рэшата прасяваць на яе попел накрыж. Потым дзіця ў той вадзе выкупаць і ваду выліць у нейкім месцы, дзе ніхто не ходзіць. Калі гэта не дапаможа, другі спосаб такі: спячы шэсць маленькіх булачак хлеба, пакласці іх хвораму дзіцяці на жываток і качаць, аж пакуль на хлебе не з'явяцца нейкія валасы — то зляк выходзіць; тады хлеб даюць з'есці сабаку. А дзіця — папраўляецца»[11].

Спалох («зляк») выганялі ці адпалохвалі па-рознаму:

*«Выгаварываю рабу божаму младзенцу (імя). Стаіце і проча суроцы цененыя, пасметныя, ружоныя з павалу, з раздумак, з пагляду,*

*з дрыжыкаў, з вады, з ветру. На сінім моры, на акіяне Святая Багародзіца розу расціла, Ісуса Хрыста спавівала, цалавала, мілавала, здароўя жадала і нашаму рабу божаму (імя). Едзе кароль у трох асобах: Бог Айцец, Сын Божы і Дух Святы мне на дапамогу. Ва векі вякоў. Амінь»* (в. Запаточча, Быхаўскі раён, ад Нікіфаравай П. Д.).

*«Пуд-пудзішча, выгаварваю я цябе з буйной галавы, з русага валосся, з хуткага сэрца, з жылаў, костак і суставаў. Рабу божаму (імя), святы дзянёчак, стань на дапамогу. Святы Мікола, стань на дапамогу. Святы Пятро, стань на дапамогу. Святы Павел, стань на дапамогу. Святы Ілля, стань на дапамогу. Святы Спас, стань на дапамогу. Святы Пакроў, стань на дапамогу. Святы Кузьма, стань на дапамогу. Святы Дзям'ян, стань на дапамогу. Пуд-пудзішча, шлю цябе на мхі, на балоты, на гнілыя калоды, на белыя каменні, на ракітавы куст. Амінь».* Гаварыць тры разы і вечарам, і днём, і раніцай (в. Коўбава, Кіраўскі раён, ад Завацкай М. Ф.).

Сустракаюцца і такія сведчанні: «Мохам, узятым на цвінтары з трох магільных камянёў, трэба абкурыць хворага тры разы — на ўсходзе сонца, апоўдні і на заходзе».

Абкурванне павуціннем, сабраным пад лавамі, з чатырох месцаў накрыж — добры сродак ад пуду, але адначасова шкодны вачам, бо ў хворага зрок прытупляецца, часам аж да поўнай слепаты.

Трэба развесіць на сцяне кажух воўнаю навыварат, паставіць хворага ля сцяны, «раскрыжаванага» на тым кажуху, і ўрэшце, узяўшы з чатырох месцаў накрыж (ля галавы, ля ног, ля левай і правай рукі) патроху воўны з кажуха, абкурыць ёю хворага»[12]. П. Шэйн падкрэсліваў: «Ад сполаху і чараў абкурваюць дзіця свянцоным зеллем. Калі гэта не дапаможа, то дзіця (ад аднаго месяца да года), калі замесяць хлеб, кладуць у дзяжу зверху на цеста і, закрыўшы накрыўкаю, трымаюць там прыблізна паўгадзіны. Калі дзіця пачне крычаць, яму даюць дунду і кажуць: «як ён гэта на цесце прапацее, то будзе вельмі здароў і чараў не баіцца, бо ляжаў на дару Боскім»[13]. Вельмі цікава разважаў П. Дземідовіч: «Каб адагнаць пярэпалах, качаюць яйка хвораму чалавеку па целе, галоўным чынам па страўніку, спадзеючыся яйкам выбраць пярэпалах; у гэты час гавораць асобую замову. Пасля гэтага выліваюць у якую-небудзь пасудзіну ваду, яйка разбіваюць і жаўток з яго выліваюць у ваду. Па тых фігурах, якія набудзе ў вадзе разбіты жаўток, вызначаюць, чаго напалохаўся хворы. Практыкуецца таксама змыванне пярэпалаху: яно робіцца над самім напалоханым, над пучком ягоных валасоў ці над якой-небудзь яго адзежынай. Супраць пярэпалаху ў міску з вадой над галавой у хворага

Цёмная ночка
Начніц парадзіла, —
Малому дзіцяці
Мукі нарабіла;
Яснае соўнійка
Дзень пачынаець,
Начніц праганяець,
Дзянніц насылаець,
Боль сунімаець.
Шух у печ! Шух у печ!..

Полымя ці паглынае нацніцы, ці праганае прэч»[10].

Калі малое паводзіла сябе неяк ненатуральна: усяго баялася, уздрыгвала, крычала ноччу, не магло само адысці ў цёмны кут, то тут вялі гаворку пра тое, што яно зляканае, спалоханае, «спуджанае». Ад такой напасці магла вылечваць і сама маці, бо кожная з гаспадынь ведала, як абавязковы мінімум, па некалькі замоў «Ад зляку». Калі ж нешта ў жанчыны не атрымлівалася і дзіця па-ранейшаму баялася, «лякалася», дык гаварылі, што ў яго «вельмі моцны спалох» і трэба тэрмінова выклікаць ці несці малое да спрактыкаванай знахаркі, якая «зашэпча яму той страх», бо калі пацягнуць крыху, дык «той страх укараніцца, і ўжо чалавек увесь свой век будзе такі баязлівы ды страшлівы, ад чаго можа і заўчасна памерці».

*«Пужышча, ідзі на лагавішча! Сабачая, цялячая, кацінгая, кароўя, лашадзіная, курыная, гусіная, жаночая, мужчынская, калючая і палючая. Як гэтаму дрэву на карняку ні стаяць, лістам ні трыпаць, так гэтага раба божага (імя) пужанню не бываць. Маць Прачыстая на Сіанскай гарэ гуляла, гэтаму рабу божаму (імя) пужанне ўнімала. Амінь»* (г. Магілёў, ад Скавародкінай С. М.).

«Звычайна раптоўную хваробу дзіцяці прыпісваюць пярэпалаху; «улякнуўся», кажуць, і тады існуюць два спосабы лекаў. Трэба ўзяць у нейкую пасудзіну вады і праз рэшата прасяваць на яе попел накрыж. Потым дзіця ў той вадзе выкупаць і ваду выліць у нейкім месцы, дзе ніхто не ходзіць. Калі гэта не дапаможа, другі спосаб такі: спячы шэсць маленькіх булачак хлеба, пакласці іх хвораму дзіцяці на жыватаок і качаць, аж пакуль на хлебе не з'явяцца нейкія валасы — то зляк выходзіць; тады хлеб даюць з'есці сабаку. А дзіця — папраўляецца»[11].

Спалох («зляк») выганялі ці адпалохвалі па-рознаму:

*«Выгаварываю рабу божаму младзенцу (імя). Стаіце і проча суроцы цененыя, пасметныя, ружоныя з павалу, з раздумак, з погляду,*

*«Дурны глаз — не глядзі на нас! Пясок табе ў вочы, гаршкі табе за шчокі, ціпун табе на язык»; «Госпадзі Божа, благаславі, ні самім сабою, а вячэрняю зарою. Вячэрняя зара-заранiца — божая памачніца. Выгаворваю, вымаўляю і палёгку рабу божаму (імя) даваю. Амінь»* (в. Мормаль, Жлобінскі раён, ад Аўчыннікавай П. М.).

У П. Шэйна чытаем: «Трэба ўзяць засланку, дзе прагарэла, туды трэба тры разы сыпаць попел ад сябе, потым узяць перавярнуць рэшата і перасеяць попел на дошчачку і, узяўшы дзіцяі, паставіць ад сябе накрыж ножкамі, пасля чаго ўзяць дошчачку з попелам і паставіць на вугал, дзе відаць, як сонца заходзіць. Пасля гэтага зглаз пройдзе.

Яшчэ трэба тры разы плюнуць, а калі не паможа, то бяруць вады з рота таго, хто сапсаваў, і даюць хвораму»[16].

А. Багдановіч згадваў: «Уздрыгванне ад спалоху беларускія сяляне тлумачаць тым, што гэта «душа выскачыць хацела». Калі спалох вельмі моцны, лічаць, што душа ад гэтага можа апынуцца «не на месцы ці зусім выскачыць з цела...

...Бяруць чатыры гарачыя вугольчыкі з печы й апускаюць іх адзін за адным у пасудзіну з чыстай крынічнай вадой і потым гэтай вадой абмываюць хворага.

Калі ж хвароба больш сур'ёзная, то, каб вярнуць спалоханы дух, стрыгуць патроху валасоў у тых, хто мог напалохаць хворага, і тымі валасамі падкурваюць яго, прымушаючы глытаць дым. Калі прычынай спалоху была нейкая жывёліна, то і яе стрыгуць і поўсцю ці пер'ямі падкурваюць. Так робяць, відавочна, з таго меркавання, што разам з дымам увойдзе ў хворага яго спалоханы дух, які мог пасля спалоху спачыць на кім-небудзь з прысутных або на тых, хто да яго прычапіўся»[17].

Тое ж падкурванне робяць здабытымі няўзнак поўсцю ці пер'ем. Трэба заўважыць, што хвароба з усімі яе вынікамі пераходзіць пасля падкурвання на яе віноўніка, калі той выклікаў наўмысныя «спуды»[18].

М. Нікіфароўскі апісаў два спосабы лячэння ад сурокаў. Першы спосаб вылячэння суролчанага дзіцяці называецца «прадзяванне»: дзіця «прадзяваецца», пераносіцца тры разы праз бацькоўскія штаны ад паяснога разрэзу праз правую калашыну або левую. Другі спосаб мае назву «дапамога жывёле». Паводле гэтага спосабу, са штаноў вымаюць мотуз і надзяваюць на шыю жывёле, пакуль дзіця не вылечыцца»[19].

П. Шэйн падкрэсліваў: «Вераць нашы сяляне і ў сілу паганага

выліваюць волава. Калі пры гэтым пачуецца гучны рэзкі гук — хворы паправіцца»[14].

Калі ж пры такіх дзеяннях ды яшчэ пачнеш шаптаць замову, то любы зляк, бясспрэчна, адступіць:

*«Ляку-ляку, па касцях табе не хадзіць, касцей не ламіць, галаву не крушыць, сэрца не таміць. Ідзі ты, ляку, на мхі, на балоты, на ніцыя лозы, дзе птушкі не пяюць, дзе траўка не расце, там табе, ляку, быць і жываць. Я й цябе, ляк, выгаварыла і дзённы, і касцяны, і курыны, і сабачы, і цялячы, і матчын, і бацькін. Чур цябе, раба божая Ніна... Гасподзь Бог і з помаччу, а я і з словам. Амінь».* Трэба гаварыць на самым світанку. У канцы абавязкова сказаць словы: *«Любі мой дух і дух Господні».* Падуць тройчы. *«Амінь».* Усё паўтараецца. І замова, і дзеянні, тройчы; *«Ляк-пераляк, выходзь воласам з сініх жыл, з гаручай крыві, з жоўтай касці, з белага цела, з буйнай галавы, з русых валос, з сініх вачэй. Табе не стаяць, жывата не пушыць, сэрца не таміць, галавы не кружыць, вачэй не туманіць. Усякія агнявіцы, расавіцы, спугі, перапугі, лякі, пералякі, прыгаворы, калдунства, чарадзейства, ідзіце прэч за цёмнай ноччу. Ва векі вякоў. Амінь»* (в. Хальч, Веткаўскі раён, ад Космыкавай Н. С.).

Цікава будзе даведацца і пра наступны факт: «Калі дзіця неспакойна варочаецца ўночы, матка лічыць, што гэта ад пярэпалаху. Каб адагнаць благое, купаюць дзіця ў ночвах. З абодвух канцоў ночваў трэба насыпаць шмат попелу. Дзіцяці націраюць тым попелам крыж і грудзі, беручы на шчопаці з кожнага канца. Выняўшы дзіця з ночваў, ссыпаюць у ваду рэшту попелу, а попел, што застаецца на дне, рукой збіраюць і сціскаюць у шарык. Яму даюць высахнуць і разломваюць на дзве паловы. У самай яго сярэдзіне звычайна будзе тое, што прычынілася да дзіцячага пярэпалаху, напрыклад, шэрсць. Тады мяркуюць, чыя яна, ці сабакі, ці чорнага ката, ці іншай жывёлы іншай масці, тады кідаюць шарык разам з яго змесцівам у агонь і кажуць: *«Як гэта шэрсць сабакі (ката) чорнага (рудога) гіне, так няхай яго ўрок міне!»*[15].

Вельмі баяліся маладыя мацяркі «чорных» вачэй злых, неспагадлівых людзей, якія маглі зрабіць так, што іхнія дзеці пачыналі адразу хварэць. У гэтае паняцце можна ўключаць і тое, што малыя і самі не спалі, і іншым не давалі адпачыць, не бралі есці, гарэлі ў гарачцы і г.д. Лічылася, што ад такіх вачэй можа дапамагчы толькі спагадлівая варажбітка, якая магла нават указаць, хто на дзяцей можа напускаць такую «порчу». Зноў-такі, спадзяваліся на замовы і на ўсёмагутныя замоўныя словы.

джаная і небяспечная дзіцячая хвароба — сурокі (урокі, гляды, зазехі) ад благога вока. Ёсць «акаяннікі зроду», адзін іх позірк на нейкую істоту, часта зусім нявінную, прыносіць ёй незлічоныя беды. Суроцы суправаджаюць ад калыскі да магілы не толькі чалавека, але і скаціну, птаства; найбольш пакутуюць ад сурокаў дзеці і жывёлы ў «дзяцінным» узросце; жанчыны, калі ў іх месячныя, цяжарныя, «дзяцінахі» (якія кормяць груддзю), хлопцы і дзяўчаты надзвычайнай прыгажосці і маладыя, што бяруць шлюб, а таксама немачныя старыя. Сярод «акаяннікаў», якія часта і самі не ведаюць, што твораць, ёсць такія, што сурочаць толькі людзей або толькі жывёл; большасць жа іх сурочыць усіх без разбору. Само сабою зразумела, што хваробы ад сурокаў не паддаюцца медыцынскаму лячэнню, а вылечваюцца толькі «бабамі», да якіх пакутнікі і звяртаюцца»[23].

І бабкі-шаптухі стараліся:

*«Маць Прачыстая ішла, Ісуса Хрыста нясла. На сіне мора, на белы камень. Сцірала, змывала, рабу божаму (імя) помачы давала. Вячэрняй зарніцай, паўночнай зарой, ранішняй зарніцай, дзённай зарой, рабе божай (імя) помачы давала. Агнявыя, вадзяныя, ветраныя, калючыя, палючыя, свярбучыя, урочныя,надумныя, прыгаворныя, бабскія, мужчынскія, хлапечыя, дзявочыя, дзяціныя, сто жыл, сто пажылак, упрошвала, умаляла, Госпада Бога. Ранішняя зара тухла, каб гэтая боль утухла, як Маць Прачыстая свайго сына прылюбіла, каб гэтая боль мой дух прылюбіла»* (в. Юраўка, Дрыбінскі раён, ад Кульковай Н. П.).

*«Первым разам, добрым часам, я сама сабою, Госпадам Богам, Прачыстай Мацер'ю (ранняю зарою ці вячэрняю зарою), выгавырваю суроцы, раба божага (імя) пацешныя, пасмешныя, прыгаворныя, падзіўныя, жаласныя, радасныя, бацькіны, матчыны, дзявочыя, маладзічыя з касцей, з машчэй, ярых вачэй. Станавіцеся па сваім местам, весяліцеся, па касцях не ламіцеся, па сэрцы не нудзіцеся».* Тры разы плюнуць, тры разы падунуць, тры разы паўтарыць замову (в. Скалін, Касцюковіцкі раён, ад Захаранка Н. І.).

Шэпт дзецям, каб добра спалі, ад зглазу: *«Госпаду Богу памалюся, Прачыстай Божай Мацеры пакланюся. Свяшчонаму, хрышчонаму дзіцяці крыксы, плаксы, вераксы гаварыці, Госпада Бога прасіці. Лесавы дзед і лесавая баба пасваталіся, пабраталіся ў твайго хлопчыка, не ў маю дзевачку. Каб той хлопчык крычаў, верашчаў, а мая дзевачка спала, гуляла, усе вочы прымала, за дзень і за ноч па піражку прыбывала».* Канец замовы тройчы паўтарыць (в. Дубровы, Лельчыцкі раён, ад Колас А. Ф.).

вока. Такому чалавеку, на іх думку, варта толькі паглядзець на парасятаў, ягнятаў, куранятаў, гусянятаў, качанятаў і інш., і абавязкова ўсе перадохнуць, а калі ён гляне на тоўстую кабылу, карову, свінню і г.д., то гэтыя жывёлы адразу пачнуць худнець. Але такіх шкадлівых людзей сяляне не вінавацяць, не ад іх залежыць, што іх вока такое небяспечнае, уся адказнасць падае на іх матак. Калі маці праз тры дні ці праз чатыры пасля таго, як адніме ад грудзей, шкадуючы яго, зноў дасць яму смактаць, яго вочы абавязкова зробяцца шкадлівымі. Такога чалавека ўсе пазбягаюць і стараюцца схаваць ад яго тыя рэчы, якім яго вока магло нашкодзіць»[20].

Можна прывесці і іншае сведчанне: «Народ верыў, што іншыя людзі маюць благія, урочлівыя вочы. Часамі гэткі чалавек сам не рад гэткім вачам, але ж гэта не ад яго залежа. Часамі, калі чалавек з урочлівымі вачыма паглядзіць на нейкую жывёлу, дык гэта жывёла можа захварэць, а часам й здохнуць. З жывёлаў былі чулымі да ўрокаў цялята. Злодзей... радзіхі і толькі што народжаныя маладзёнкі. Абаронай ад уродлівых вачэй быў ліванрдэк (гэта было нейкае чорнае рэчыва, падобнае на смалу). Яго радзіхі трымалі і пры народжаных маладзёнках. Яго каровам прывязвалі да рог, а маленькім цялятам — да шыі. Найболей шкадавалі, калі ўродлівая людзіна пахваліць маленькую жывёліну ці дзіця, а не — калі хоць пільна паглядзіць... Дык трэба яму сказаць калі не моцна, дык шэптам, а не — хоць падумаць: «Не ўрачы хаця». Часамі бывае, што і свой селянін, і сам гаспадар можа ўрачы. Але каб гэтага не здарылася, трэба папераджаць словамі: «Не ўрокам кажучы...» Калі нехта, з сваёй сям'і нешта сваё ўхвалае без папярэджання, дык трэба яму заўважыць: «Не ўрачы хаця»[21].

А. Багдановіч зазначаў: «Вочы ў некаторых людзей, асабліва чорныя, і вочы ведзьмароў і ведзьмаў маюць уласцівасць «узварушваць душу», трывожыць яе, «сурочыць». Каб пазбыцца «сурок» ці «падзіву», той, хто сурочыў, павінен даць з рота вады, якой абмываюць хворага. Але калі не ведаюць пэўна, хто мог сурочыць, то ваду даюць з рота ўсе сямейнікі і тыя, хто хворага нядаўна бачыў.

Лекуюць так: наліваюць у міску чыстай вады (лепш крынічнай) і па чарзе набіраюць яе ў рот і выпускаюць назад у міску; гэтак робіцца тройчы.

Можна сурочыць і міжволі, чаму беларусы, калі хто-небудзь выказвае ў сувязі з чалавекам ці жывёлай сваё здзіўленне, кажуць: «Соль табе ў вочы, галавешка ў зубы». Гэтай заўвагай яны думаюць засцерагчы таго, хто выклікаў падзіў, ад небяспечных вынікаў»[22].

У М. Нікіфароўскага адносна гэтага напісана: «Самая распаўсю-

*Скула-скулішча, муравая-муравішча і ўрокі-прымоўкі, выйдзіце вы з касцей, з палукасцей, з жыл і з паўжыл, з буйной галавы, з карых вачэй, з румянага ліца, з гарачае крыві і з шчырага сэрца. Ідзіце вы ў чыстае поле, там вас ажыдаець, з віном, з гарэлкай сустракаець; там вас будуць угашчаці, пуховыя падушкі слаці, шоўкам караваці засціллаці.*

*Вышэптваю, выгаварваю з касцей, з палукасцей, з жыл і паўжыл, з буйной галавы, з карых вачэй, з румянага ліца, з гарачай крыві і з шчырага сэрца».* Падуць і плюнуць тры разы (в. Усохі, Добрушскі раён, ад Лапенка М. К.).

У П. Шэйна чытаем: «Напрыклад, пры лячэнні ад «сурокаў» маці распраналася да сарочкі і тры разы пераносіла грудное дзіця паміж сваім целам і сарочкай, пачынаючы ад падолу і каўняра. «Начніцы» часам лячылі так: налівалі ў гаршчок ваду з такога месца, адкуль яе ніхто не чэрпаў гады тры, даводзілі да кіпення, клалі туды нож, іголку, верацяно, накрывалі драўлянай міскай і ставілі гаршчок пад калыску, дзе ляжала дзіця, потым асцярожна пераварочвалі гаршчок. Калі вада хутка вылівалася ў міску, дзіця павінна было хутка вызваліцца ад «начніц». Нічога рацыянальнага не было і ў лячэнні «крыксаў», «сушчаў», «разачкі», «радзімца», «грызі на пупе», «валасення», «вогніка» і інш. Відаць, больш рацыянальна лячылі «дзіцячую жаўтачку» і рабілі адвар з бессмяротнікаў, купалі ў ім дзіця і крыху адвару давалі яму выпіць»[26].

Праўда, замовы гэтага плану маглі называцца і крыху па-іншаму: «Падзіўкі», «Подзіўкі» і г.д., але сутнасць іх заключалася ўсё ў тым жа — пазбавіць дзяцей ад уздзеяння злых («завідушчых», зайздросных) вачэй. Абавязкова адзначым, што замовы-шэпты «ад падзіўкі» лічыліся надзвычай моцнымі і выконваць іх маглі, а дакладней, ведалі словы і маглі імі вылечваць толькі самыя моцныя спагадлівыя знахаркі і варажбіткі.

«Прыстрэк»:

*«Первым разам, лепшым часам, Прыстрэчэ, добры чалавеча, ясен месяц, яснае сонца, ясныя зарніцы, усяму свету памашніца. Увесь свет асвятляюць, няхай таму памагаюць. Я словам, Бог з помашчу».* Паўтарыць дзевяць разоў (в. Навасёлкі, Петрыкаўскі раён, ад Дубінай Н. П.).

«Вотначы»:

*«Госпадзі, прыступі, памажы. У цесным лесе сядзіць баба, столікі пазасцілала, вотначы адагнала»* (в. Навасёлкі, Петрыкаўскі раён, ад Дубінай Н. П.).

У М. Нікіфароўскага знаходзім: «Перш чым лячыць ад суроцаў, трэба пераканацца, ці папраўду дзіця «асурочана» і ці няма іншых прычынаў хваробы. Дзеля гэтага дзіця трэба купаць у дажджавой ці рачной вадзе і ў ночвы кінуць тры халодныя вуглі: «у галавешкі, у сяродку, у ножкі». Калі вуглі пачнуць рухацца і сінець — дзіця асурочанае, а большая ці меншая ступень іх рухомасці і шыпення пакажа ступень «сурочанасці» (кожны асобны вугаль на тое месца, дзе пераважна сканцэнтраваныя суроцы). Калі вуглі спакойныя — смела можна сцвярджаць, што дзіця захварэла не ад суроцаў»[24].

Амаль аналагічнае сцвярджаў А. Сержпутоўскі: «Урокі — гэта такая хвароба, якая прыкідаецца, як на дзіця зірне той, у каго зроду ліхія вочы. Е такія паганыя вочы, што яны як толькі глянуць не то што на дзіця, але нават і на сталага чалавека, то зашкодзяць, хоць бы яны глянулі так сабе, без жаднага ліхога замерку. Такія ліхія вочы шкодзяць вельмі ганебна дзецям ды малой жывёле. Урокі ці падзіў прыстае і к жанкам, як е ў іх на бялізне (месячныя), як яны ў стане або як яны кормяць цыцкаю дзяцей. Апрыч таго, падзіў прыстае к гожым хлопцам і дзеўкам, к маладым на вяселлі і к нядошчым старым. Тыя паганыя людзі, што маюць такія вочы, і самі не ведаюць, што яны так шкадлівы; адны з іх шкодзяць толькі людзям, другія — жывёлу, а е й такія погані, што шкодзяць усяму, на што ні зірнуць. Ад урокаў ці падзіву не дапамагаюць жодныя лекі дахтуроў, а трэба іх лячыць толькі дома рознымі прымхамі да прасіць тых баб, каторыя добра ўмеюць, як адхадзіць ад гэтае напасці»[25].

Даволі часта такія шэпты маглі называцца і «Малітвамі», «Малітвамі ад зглазу» і г.д. «Малітва ад зглазу, ад чорных вачэй»:

*«Первым разам, божым часам, Госпаду Богу памалюся, Прачыстай Мацеры пакланюся і ўсім прападобнічкам, божжым угоднічкам, кіеўскім і пячэрскім. Святыя прападобнічкі, божжыя ўгоднічкі, прыбягайце, памагайце рабу божаму (імя скажы) ці малому балячку вымаўляці і ўрокі-прымоўкі. Як на моры, на лукамор'і стаяў дуб; пад тым дубам, на камені, сядзела дзеўка Лісавета. Яна шыла-вышывала, рабу божаму (імя скажы) балячку вымаўляла і ўрокі-прымоўкі: калючую, балючую, свярбучую, прымоўную, прыгаворную, падуманую, пагаданую, жаноцкую, парабоцкую, дзявоцкую, хлапецкую, бацькіну і маткіну, смешную, уцешную, завісную, радасную, карысную, начную, палуначную, дзённую, палудзённую, ветраную, вадзяную, часную і мінутную.*

*Скула-скулішча, муравая-муравішча і ўрокі-прымоўкі, тут вам не хадзіць, крыві не паліць, жоўтай касці не ламіць.*

хоць і не бачыць таго, хто кліча: гэта кліча ліхаманка. Як толькі чалавек адгукнуўся, ліхаманка завалодвае ім. Таму прадбачлівы чалавек не павінен адгукацца, не пераканаўшыся, што яго кліча не прывід, а сапраўдны чалавек»[27]. У П. Дземідовіча занатавана наступнае: «Адпрэчванне ліхаманкі. Раніцай, перад узыходам сонца хворы на ліхаманку ідзе з яйкам на скрыжаванне і пакідае там яйка, стараючыся, каб ніхто пра гэта не здагадаўся. Пасля хворы спяшаецца дадому, баючыся азірнуцца назад, каб хвароба зноў да яго не прыстала. Некаторыя раяць пакідаць яйка не на скрыжаванні, а дзе-небудзь у балоце «над азярынай». Пакінутага з гэтай мэтай яйка ніколі нельга браць, іначай да смельчака абавязкова прыстане ліхаманка; таму вясною, у сезон ліхаманкі, у вёсцы часта даводзіцца бачыць на скрыжаваннях яйкі»[28]. М. Нікіфароўскі сцвярджаў і такое: «Магутным сродкам выратавання ад ліхаманкі і шматлікіх іншых хваробаў з'яўляецца перадача яе іншаму чалавеку. Хворы завязвае ў белую анучку ці ў недарагую хустку дванаццаць разнастайных ядомых рэчаў, падкладваючы туды сама якую-небудзь манету. Пасля заходу сонца ён хутка кладзе вузельчык на «рубеж» (мяжу) і, прачытаўшы на каленях малітву, паспешліва вяртаецца дадому. Хто падыме і пакарыстаецца вузельчыкам, «той пярэймець і трасцу»[29].

Таму няма нічога дзіўнага, што і ліхаманка нярэдка пагражала жыццю малых, прымушала іхніх бацькоў прыводзіць у свае хаціны «знаючых» знахараў, якія застаўлялі гэтую хваробу адступаць. Праўда, даволі часта і яны заставаліся бездапаможнымі.

Я. Ляцкі адзначаў: «Веснавыя ліхаманкі маюць некалькі назваў: трасца сонная, трасца гарачая, мокрая, чубастая, пякучая, ліхучая, жоўтачка. Восеньскія старыя-ліхаманкі, якія народ называе «сцюдзёнымі, вадзянымі, сінючымі», падпільноўваюць сваіх ахвяр і пры набліжэнні чалавека ператвараюцца ў пару, стараючыся залезці пад кажух ці світку. Пасля вяртання чалавека ў хату нябачны вораг пачынае дзейнічаць. Хворы шукае сабе месца цяплейшае і спакайнейшае — таму залазіць на печ, якую хатнія стараюцца мацней напаліць, каб выклікаць хворага «на люты», з якімі павінна, не выцерпеўшы вялікай гарачыні, выйсці і сама хвароба. Дзе-нідзе захаваўся звычай трымаць у гэты час у хаце кошку ці сабаку, каб хвароба, пакінуўшы чалавека, прыстала да жывёлы, якая ў сваю чаргу вызваліцца ад яе дзе-небудзь у полі»[30].

Вось якой паўставала ліхаманка ў замовах:

*«Наперша вяснянка, другая мядзянка, а трэцяя лістападніца, чацьвёртая касцяніца, а пятая квактуха, а шастая начніца, а сёмая*

8 Зак. 1962

«Падзіўкі»:

*«Падзіўкі мужчынскія, жаночыя, дзявочыя, хлапечыя, ідзіце, падзіўкі, у мохавае балота, ідзіце туды, дзе сонца не грэе, дзе вецер не вее, дзе людзі не бываюць. Як кустом не кусіцца, так жа табе, божая, Кірылу болей не відаці».* Паўтарыць замову тройчы (в. Навінкі, Калінкавіцкі раён, ад Кляшчовай В. А.).

*«Падзіўкі мужчынскія, жаночыя, дзявочыя, хлапечыя, ідзіце, падзіўкі, у мохавае балота, ідзіце туды, дзе сонца не грэе, дзе вецер не вее, дзе людзі не бываюць. Як кустом не кусіцца, так на небе божым (імя) болей не відаць».* Паўтараецца тройчы (в. Буда, Акцябрскі раён, ад Касцюкевіч І. У.).

Як бачым, галоўную ролю ў магічным вылячэнні іграюць не сродкі народнай медыцыны, але звычаі, якія стваралі вакол хворага своеасаблівы калектыўны настрой, што дазваляў знахару з дапамогай грамадскай свядомасці ўплываць на стан хворага чалавека. Гэта, па сутнасці, сацыяморфная спроба вырашэння адвечнай прыроднай праблемы: у якасці фантастычнай мэты выступае не вылячэнне канкрэтнага хворага, а задавальненне родавых і эмацыянальных міфалагічных запатрабаванняў.

Вядома, што патрыярхальныя людзі чакалі ад любога знахара неразгорнутага абаснавання саміх прычын хваробы і спосабаў яе паўнейшага вылячэння. Патрабавалася зусім іншае — аднаўленне, калі можна, дык самае падрабязнае, усіх дэталей карціны, якая вядома толькі па адным рэальным элеменце — прысутнасць хворага. Гэты элемент трэба дапоўніць да цэласнага, завершанага вобраза — міфа, здольнага даць «задавальненне выдумкай», і пазбавіць усіх: і хворага, і ўсіх прысутных ад пакутлівага пачуцця неакрэсленасці, нявызначанасці і бяссілля. Адчай і страх павялічваліся асабліва тады, калі хварэлі-гарэлі не дарослыя, а дзеці.

Разгледзім яшчэ адну групу замоў пры лячэнні дзяцей ад ліхаманкі, якая даволі часта падкідвалася ў малых, таму што ім даводзілася паўсюдна дапамагаць дарослым: знаходзіцца пад дажджом, снегам, на марозе і ветры, разутымі і слаба апранутымі, бо даношвалася вопратка і абутак за старэйшымі.

М. Нікіфароўскі тлумачыў узнікненне ліхаманкі наступным чынам: «Увесну і ўвосень нельга спаць на заходзе сонца: тады найхутчэй у безабароннага чалавека заходзіць ліхаманка ці прыстае іншая ўнутраная хвароба. Часта здараецца, што, не паспеўшы па нейкай прычыне ўвайсці ў соннага, ліхаманка спяшаецца зрабіць гэта адразу пасля сну; прачнуўшыся, той выразна чуе, што яго завуць па імені,

У час вячэрняга прыпадку той самы хворы як найхутчэй ідзе да царквы і тройчы аббягае вакол яе, потым кладзе на царкоўны ганак якую-небудзь манету і ідзе дадому задам напярод. Папраўка будзе больш хуткая і поўная, калі хворы пазбег сустрэчаў і не азіраўся назад.

Калі прыпадак ліхаманкі будзе мучыць хворага ўночы, ён садзіцца на качаргу і накіроўваецца на могільнік, дзе прытульваецца між дзвюх свежых магілаў. У гэты час хворы не трымае качаргу, а «ўшчымляіць» яе сабе між ног»[32].

«Неўпрыкмет для хворага трэба павесіць яму на шыю забітую яшчарку. Калі ў час ці пасля прыпадку хворы з перапуду схопіць яшчарку і адкіне яе ўбок і яна, нікім не кранутая, высахне — ён назаўсёды вызваліцца ад ліхаманкі.

Той самы хворы павінен тры дні насіць пад пахаю загорнутага ў анучку жывога кажана і потым пад вечар выпусціць яго. Прыняўшы да сябе ліхаманку, кажан занясе яе далёка ад чалавека.

Не менш карысна насіць на шыі загорнутага ў анучку і пакладзенага ў арэхавае шкарлупінне жука-гнаевіка, паднятага на дарожнай каляіне, або павука, знятага з дрэва ля дарогі, або жывую жабу ў анучцы і скуру змяі пасля лінькі. На працягу ўсёй ліхаманкі трэба насіць на шыі старую жычку з чатырма вузламі; калі хвароба аслабне, усе гэтыя рэчы трэба кінуць у цякучую ваду»[33].

Дзеці ў сям'і падрасталі, з імі бацькі звязвалі свае надзеі-спадзяванні, на іх разлічвалі ў будучым і, вядома ж, хацелася, каб і іхнія, новыя ўжо сем'і былі шчаслівыя, не ведалі на сваім шляху таго, што давялося перанесці старэйшым. Таму і маліліся, таму і шапталі магічныя словы старадаўніх замоў, каб пазбегчы нейкіх непрыемнасцей, цяжкасцей і, што самае страшнае, смерці родных і блізкіх. Такія замовы можна характарызаваць як абагульняючыя, таму што іх маглі вымаўляць у любой сям'і, і індывідуальна-непаўторныя, паколькі большасць з іх сустракаецца вельмі рэдка. Нават спрактыкаваная знахарка можа іх не ведаць, а калі і ведае (ведала), дык перадавала найбольш блізкім людзям (сваім прамым нашчадкам), а не ўсім па парадку. Кожная маці ці бацька жадалі, каб ім найменей зайздросцілі, бо зайздрасць людская, цвёрда верылі яны, адбірае дабрабыт у іхняй сям'і.

«Ад завісці»:

*«Святым макам пасыпаю нячыстую сілу, з двара і дому свайго выганяю. Прыклад прыкладаецца, замкі замыкаюцца ў моры і ў рэкі кідаюцца, ніяк ключа не дастаць, так к (імя) двару, дому і тавару ў*

*смутніца! Адкаціся. Адваліся ад грудзей і ад бела цела, ад буйной галавы!*

*Ты дзеўкай не шляйся, на мяне не зазірайся. Я ў хаце ляжу, на вугаль гляджу. Як вуглю згарэць, так табе ў катле кіпець. Бяжы, не азірайся, назад не вяртайся. Ступай у пні, у калоды, у гнілыя балоты. Там табе жыць, са мхоў ваду піць»* (в. Хільчыцы, Жыткавіцкі раён, ад Марыніч Е. А.).

Але ж былі і своеасаблівыя парады пры лячэнні: «Ад ліхаманкі лекуюць: адварам з травы «пятроў крыж», якую збіраюць у маі; адварам з карэння травы «рабінаўкі»; у першую суботу ад пачатку хваробы пасцяць, прычым да ўсходу сонца ў гэты дзень абліваюцца вадою; адразаюць у хворага пасму валасоў, абразаюць пазногці і гэтым падкурваюць хворага; пякуць курынае яйка над полымем і кладуць яго ў свежую магільную яму, дзе яго і закопваюць; цалуюць якую-небудзь здохлую жывёліну, у першую нядзелю ад пачатку хваробы ходзяць да абедні ў тры гумны і там пад ёўняй за кожным разам тройчы кукуюць па-зязюльчынаму; бяруць плеўку ад яечнага шкарлупіння і абгортваюць ёю мезены палец на якой-небудзь руцэ; бяруць бялок з яйка чорнай курыцы, мяшаюць яго з соллю і з гарэлкай і выпіваюць; носяць у анучцы на грудзях змяіную галаву; такім жа чынам носяць чмяля; падкладаюць ката і ягоныя «шуляты» носяць на шыі, і п'юць конскую мачу, але калі пачынае ад яе ванітаваць, то можна толькі мыцца ёю»[31].

Такія прымхлівыя дзеянні і ўчынкі абавязкова ўзмацнялі замовай:

*«Стану я, раб божы (імя), благаславясь, і пайду, перахрысціўшыся, да сіняга мора. На сінім моры ляжыць бел-гаруч камень. На гэтым камені стаіць божы прастол, на гэтым прастоле сядзіць Прасвятая Маці, у белых ручаньках трымаючы белага лебедзя. Абрывае-абшчыпвае ў лебедзя белае пяро. Як адскочыла, адпрыгнула белае пяро, адпрыгні, адскокні і ты, ліхаманка, ад гарачага цела, ад буйнай галавы»* (в. Хальч, Веткаўскі раён, ад Самковай В. А.).

Часта згадвалі добрыя знахары і варажбіты і пра наступнае: «У пачатку ранішняга прыпадку хворы бяжыць на бліжэйшы могільнік і падае ніц на самую свежую і высокую магілу, дзе і застаецца нерухомы, пакуль прыпадак не скончыцца. Пасля гэтага хворы бярэ кашуляю крыху зямлі з-пад грудзей, супраць сэрца, завязвае ніткаю і падымаецца на ногі. Ліхаманка не затрымаецца ў хворым, але ўсё-такі ён павінен насіць на грудзях вузельчык з зямлёю, пакуль зусім не паправіцца, і ў гэты час не мяняць кашулі.

«Замова ад ворагаў»:

*«Прасвятая Багародзіца, Боская Маці, памілуй, сахрані раба божага (імя). Месяцам падпяшуся, сонцам аграджуся, па небе пахаджу, усіх анёлаў-архангелаў папрашу:*

*— Вы, анёлы-архангелы, усіх святых папрасіце. Амінь»* (в. Барок, Асіповіцкі раён, ад Касынавай П. А.).

«Ад злога чалавека»:

*«Госпаду Богу памалюся, Мацеры Прачыстай Господняй пакланюся. Першым разам, господнім часам. Ішло тры хмаркі. Адна — дажджавая, другая — грамавая, а трэцяя — ветраная. Дажджавую дождж размывае, грамавую гром разбівае, ветраную вецер раздувае. Хто на рабу божую (імя) злобу мае, хай таму вочы на лоб павыпірае»* (в. Грабаўка, Гомельскі раён, ад Міхнавец Л. І.).

Бясспрэчна адно, які бы ты ні быў — старым ці малым, але ўсе баяліся болю, які мог з'явіцца зусім нечакана, ад любой хваробы, ад нейкага ўдару-звіху, раны ці яшчэ чаго-небудзь. Спагадлівая бабка-варажбітка навучала тых, хто да яе звяртаўся, як пазбавіцца ад любога болю, каб ён не надакучаў, дазваляў працаваць і адпачываць.

«Ад болю»:

*«Памалюся Госпаду Богу і Духу Святому, Мацеры Господняй, усім кветачкам-гадавым празнічкам. Зара-зараніца, вячэрняя памачніца, памагі, Госпадзі! Ішоў Ісус Хрыстос па сіняму мору, нёс пясочку ў прыполе, сеяў па ўсяму мору. Калі таго пясочку не падабраць, у рабы божай (імя) болю не бываць, ні маладзіком, ні сходам, ні поўным месяцам»* (в. Доўск, Рагачоўскі раён, ад Нясярчук К. С.).

Або ў аналагічных выпадках звярталіся да абагульняючай замовы. «Замова ад розных захворванняў»: Чытаць пры навалунні, сплёўваць тры разы праз левае плячо:

*«Месяц, месяц малады, у цябе рог залаты. У моры ты купаўся, ды не спалохаўся. Адам і Ева першыя жыхары на зямлі. У вас што балела? Нічога. Дай Бог Господзь, каб у мяне, рабы божай (імя), таксама нічога не балела.*

*Святому Духу пакланюся. Дай Бог здароўя і шчасця. Амінь»* (в. Гарадзец, Рагачоўскі раён, ад Васільевай В. К.).

Як ні быў чалавек працы прывязаны да зямлі, да сваёй малой радзімы, тым не менеей здаралася, што яму трэба было пакідаць свае родныя мясціны на нейкі час. У такіх выпадках спрактыкаваныя людзі раілі звяртацца за дапамогай да замоў, якія прыведзены намі ніжэй.

*хляве нічога не прыстаць. Госпадзі Божа, памажы, нячыстую сілу адусюль згані».* Тры разы чытаць і макам накрыж у хаце, у двары, у хляве пасыпаць (в. Зелянковічы, Глускі раён, ад Булкі А. П.).

*«Сустракаю (імя) з хлебам, соллю і паскай. Благаславі, Госпадзі, і будзь з душой і паскай. Гасподніе моцныя твае ўносы, адпусціце (імя) галаву, сэрца, рукі, ногі. Прашу, Божая Маці, апраўдаць. Кладу прынаду, каб (імя) зайздрасць ад яго знайшлі ў карыце, у хляве. Дым-дымочак, ляці на (імя) дварочак, дзе застаўся малады слядочак. А я пайду ў гуру, набяру жоўтага пяску і пасыплю на след ворагу»* (г. Камянец, Брэсцкая вобласць, ад Трафімовіч Н. І.).

Каб жылося спакойна, без зайздрасці з чужога боку, трэба было абавязкова ведаць некалькі (у крайнім выпадку, хаця б адну) замову. Таму і не дзіўна, што спагадлівая знахарка і навучала шчырых людзей агульнай засцерагальнай замове.

«Для таго, каб добра было ў хаце»:

*«Айцец нябесны, Уладыка, Гасподзь Бог, Спасіцель наш. Сахрані раба божага (імя), сахрані нас, грэшных, сахрані маю сям'ю, адгані ад нас нячыстую сілу, пазбаў нас ад лукавага, не ўвядзі нас у спакусу, вольную ці нявольную, даруй нам цяжкія грахі, пазбаў нас ад хвароб, ад усялякіх напасцей па міласці тваёй. Ад ламіны, ад скаціны, ад звера бягучага, ад гада паўзучага, ад чалавека злючага, пазбаў па міласці сваёй. Амінь»* (в. Сваротва, Баранавіцкі раён, ад Семянчук Г. Ю.).

Імкнуліся засцерагчы родную хаціну ад усёмагчымага нагаворнага («нашэптнага», «напушчанага») зла, бо хапала і таго, якое так і перла, само па сабе з жыцця, з працоўных будняў, практычна з любой жыццёвай сітуацыі, якая магла завяршыцца непрадказальна. Тут ужо гаманілі пра зло, пра ворагаў, пра «няпрошаных гасцей» і г.д.

«Малітва ад усіх зол»:

*«Ангел божы, святы, мой храніцель! Дадзены ты мне з неба ў аханеніе. Прашу цябе, упрашаю ўсердна. Ты мяне сягоння ўразумі і захавай ад усялякага зла, навучы мяне добраму і накіруй на шлях выратавання, каб ніхто не зайздросціў, каб ніхто мяне не падсцерагаў».* Паўтарыць тры разы (в. Сваротва, Баранавіцкі раён, ад Семянчук Г. Ю.).

Некаторыя вусна-паэтычныя творы прама ўказвалі на тое, што накіраваны яны супраць ворага (ворагаў), злых людзей, а іншыя больш абыходліва тлумачылі, ад каго засцерагаліся гаспадары хаціны, у якой вымаўляліся перадаваемыя з пакалення ў пакаленне магічныя словы.

ся такі ход падзей ці той, хто не адыходзіў, амаль прымушаў на сабе жаніцца ці браць замуж.

«Мужская прысушка»:

*«Устану я раненька, умыюся бяленька, выйду за новыя вароты, за точаныя дзверы, гляну на сіняе мора. Там плыве бочка-дубоўка, на ёй гарыць 12 агнёў, а ў бочцы 12 чартоў. Вы, сябры мае! Адбіце рабу божую (імя) ад хлеба, ад солі, ад кіслых шчэй, а павярніце яе к рабу божаму (імя). Загаварыце рабе божай зубы, губы, рукі, ногі, рацівае сэрца, буйную галаву, русы волас наўсягды. Амінь.*

*На моры-акіяне стаіць дуб, на тым дубе сядзяць 12 чартоў і 12 палучартоў. Яны не ядзяць, не гуляюць, рабу божую (імя) змушаюць і к добраму молайцу (імя) прыглашаюць»* (в. Рэчкі, Талачынскі раён, ад Шэміт Г. М.).

У Дэмбавецкага чытаем: «Можна дастаць кручок, якім здабываецца каханне любога чалавека, калі зачапіць тым кручком за адзежыну. Вілачкі маюць адваротнае ўздзеянне. Дзеля ўсяго гэтага трэба злавіць кажана, апоўначы закапаць яго жывога ў мурашнік і пайсці адтуль не азіраючыся, як мага хутчэй — іначай, пачуўшы крык мышы, абавязкова аглохнеш на цэлае жыццё, а азірнуўшыся раз, вечна будзеш павернуты тварам назад. Адыходзіць трэба як найхутчэй, не зважаючы ні на крык, ні на рогат, ні на якія спакусы чарцей, якія ў гэты час праследуюць чалавека. Назаўтра замест мышы ў мурашніку застануцца толькі дзве костачкі — кручок, які завецца сярод простых людзей «любістаю», і вілачкі»[34].

А. Багдановіч нібы працягваў-удакладняў гэтую думку: «Ёсць некалькі прываротных сродкаў, «любізнікаў», але самым дзейсным з іх лічацца дзве костачкі кажана — вілкі і кручок. Здабываць іх рэкамендуецца так: трэба пасадзіць кажана ў новы гаршчок, завязаць яго новым кавалкам палатна і закапаць уночы ў мурашнік. Вяртаючыся дамоў, нельга азірацца назад і трэба заткнуць вушы, каб не чуць піску кажана. Праз тры тыдні трэба вынуць гаршчок з мурашніка. Мурашкі з'ядуць усяго кажана, пакінуўшы толькі дзве чароўныя костачкі: кручок і вілкі. Каб прываражыць каго-небудзь, варта толькі неўпрыкмет пацягнуць таго чалавека да сябе кручком: ён будзе так да вас хіліцца, што не адвяжашся без дапамогі вілак; а калі надакучыць — варта толькі адштурхнуць яго вілкамі, і ўвесь любоўны пыл як рукой здыме»[35].

Але большасць «прысушак — адсушак» былі «дзявочымі», г. зн., што імі карысталіся дзяўчаты пры вырашэнні сваіх любоўных спраў.

«Прысушкі»:

«На дарогу»:

*«Заступніца Усердна, благаславі мне шлях, куды б я не ішла. Але ты са мною заўсёды будзь. У агні і на прасторы, ты ўсюды са мною будзь. На сон мой спакойны ангела мне прынясі, каб ён мне так дапамог, як ты мне ў дарозе дапамагаеш»* (в. Гарадзішча, Камянецкі раён, ад Салавей Л. Я.).

«Благаславенне ў дарогу». Чытаць, выходзячы з дому:

*«Прашу смуткуючую Маці Божую: аградзі маё дзіця сваёй сіняй парчой, залатою рызаю, у лесе драмучым, у полі ляжачым, у моры плывучым, ад гада паўзучага, ад звера прыгучага, ад чалавека злючага. А я, маці свайго сына, бласлаўляю, у вялікую дарогу адпраўляю, жадаю вярнуцца жывым і здаровым. Прашу Ісуса Хрыста і смуткуючую Божую Маці. Амінь»* (в. Сваротва, Баранавіцкі раён, ад Семянчук Г. Ю.).

Мала што магло здарыцца з чалавекам усё ў той жа дарозе, не зважаючы на тое, блізкай ці далёкай яна яму была, па сваёй ахвоце ці пад прымусам накіраваўся ў яе чалавек.

«Замова на самаабарону ад бяды». Кідаць у агонь часнок і прыгаворваць:

*«Няхай уберажэ ад суроку, уберажэ ад хваробы, ад пакуты, ад злачынства, несправядлівасці. Адкуль бяда ішла, туды і вярніся, а з намі, шчасце, застаніся»* (в. Гарадзец, Рагачоўскі раён, ад Васільевай В. К.).

Не хацелася нешта, з такой цяжкасцю вырашчанае, узгадаванае, траціць задарма, за так, губляць ці перадаваць занадта танна. Таму нашы продкі і нашэптвалі, едучы на базар ці на кірмаш.

«Замова, калі вязуць на базар тавар». Пашаптаць на лыжку з мёдам:

*«Як пчолы, якія рояцца ды злятаюцца, дык бы к тым тарговым людзям купцы схадзіліся».*

Памыцца трошкі мёдам. Сплёўваць праз левае плячо. Чытаць тры разы (в. Гарадзец, Рагачоўскі раён, ад Васільевай В. К.).

Бацькі гадавалі сваіх дзяцей, аберагалі іх у маленстве, юнацтве, прасілі дапамогі ў спагадлівых знахароў на розныя выпадкі жыцця, каб усё ішло належным чынам, каб «жылося і пілося, елася і хацелася». Час ляцеў непрыкметна, дзеці падрасталі, і неўзабаве ім ужо трэба было «шукаць сабе пару», «ісці да шлюбу». З гэтай немалаважнай падзеяй у жыцці любога чалавека звязана вялікая колькасць замоў («прысушак» і «адсушак»), калі хлопец ці дзяўчына хацелі да сябе «прысушыць» — кахаць, бо падабаліся абраннік ці абранніца і, наадварот, «адсушыць» ад некага ці ад сябе, бо, адпаведна, не падабаў-

*злічыцца мудрэй за мяне, той адгоніць таску ад Івана да Ганны. Ключ-замок словам маім»* (г. Добруш, ад Лапуховай М. П.).

У 12 гадзін дня пакладзі на прыпечак сухенькія асінавыя шчэпачкі, наверх — корачку хлеба і драбочак солі. Запалі ўсё і скажы тры разы:

*«Як хлеб-соль гарыць цяжка, так каб табе без мяне было жыць сумна, цяжка і нудна»* (г. Добруш, ад Лапуховай М. П.).

*«Па-за лугам зялёненькім брала ўдава лён дробненькі. Яна брала-выбірала, тонкі голас падавала. Там Васілька сена косіць, тонкій голас пераносіць. Кінуў касу да доланьку, а сам пайшоў да ўдованькі. А з хаціны выйшла маці, стала Васіля пытаці: «Ой, Васілька, ты мой сынка, чаго не п'еш, не гуляеш?» — «Дазволь, маці, удаву браці, тады буду піць-гуляці». — «Не дазволю ўдаву браці, удава ўмее чараваці. Счаравала сына свайго, прычаруе і сына майго». — «А я чараў не баюся, дай на ўдове ажанюся»* (в. Рудня Шлягіна, Веткаўскі раён, ад Каубы П. М.).

Некаторыя з «прысушак» і «адсушак», нягледзячы на тое, што павінны былі дапамагаць у такой важнай справе, вылучаліся празмернай спрошчанасцю ў дзеяннях і словах. «Прысушка»: *«Калі хлопец не кахае дзяўчыну ці наадварот, трэба злавіць чорную курыцу, зварыць. Самому (самой) з'есці мяса, а хлопцу (дзяўчыне) падкінуць курыныя вочы ў супе, каб ён не бачыў»*; «Прысушка»: *«Штоб не спаў, не піў і не курыў, штоб яго цела да майго ляцела»* (в. Хляўно, Кармянскі раён, ад Мацвеенкі П. І.).

У іншых выпадках народныя дарадцы свае вусна-паэтычныя творы, прысвечаныя развіццю ў маладых людзей ўзаемасімпатыі ці, наадварот, антыпатыі, называлі па-іншаму, больш удакладняюча. «Замова на хлопца»: *«Дзяўчаты пільнуюць надыход маладога месяца (маладзіка) і, убачыўшы яго, круцяцца на пятцы правай нагі, прыгаворваючы: « Млад месяц, завівай вакол мяне жаніхоў, як я завіваюся вакол цябе»*; «Замова на хлопца»: *«Падымуся я, раб божы, благаславюся. Выйду, перахрысціўшыся, з дзвярэй у дзверы, з варот у вароты, у чыстае поле, у шырокае раздолле, пад чырвонае сонейка, у зялёныя лугі. У гэтых лугах стаіць ізба ізбінская, у гэтай ізбе сядзіць сухота сухацінская, кідаецца па сценах, па пазах, па шклу, па пустым месцы. Кінься ў рацівае сэрца (імя), і каб кожную хвіліну ў яе сэрцы сохла, шыпела б па маладому рабу божаму (імя)»* (в. Гарадзец, Рагачоўскі раён, ад Гавядкавай З. І.).

Некаторыя такія вусна-паэтычныя творы, наадварот, сапраўдныя фальклорныя шэдэўры. «Шэпт, каб твой любы толькі цябе кахаў»:

*«Госпаду Богу памалюся, Прачыстай Божай Мацеры пакланюся. Свяшчэнным і хрышчоным Алене і Аляксандру люба ўшаптаці,*

*«Госпадзі благаслаеі. Стану я, раба божая (імя), благаслаўлюся, пайду перахрышчуся. Пайду я з дзвярэй у дзверы, з варот варотамі, пайду купінамі балотнымі, пайду я цёмнымі лясамі. Выйду я на востраў. На гэтым востраве стаіць ліп-дуб. У гэтым ліп-дубе 77 вятроў, 77 віхрацоў. Пайду я, рабыня божая, да 77 вятроў, да 77 віхрацоў бліжэй, пакланюся ніжэй. Бацюшкі 77 вятроў, 77 віхроў, будзьце вы маімі сябрамі дарагімі. Я вас папрашу, саслужыце вы мне службу хуткую і спешную, адшукайце вы мне раба божага (імя), дзе б ён ні быў: хоць ён за сталом, вы яго аддзяліце, хоць ён за смехам, вы яго аташліце ў ясныя вочы, у чорныя бровы, у белыя зубы, у чырвоныя губы, у белыя грудзі, у рацівае сэрца, у кроў гарачую, у пячонку лёгкую, у 77 жыл, у 77 суставаў, ва ўсялякую косць, ва ўсялякія мазгі, у буйную галаву, у слышныя вушы, у магучыя плечы, у храбтовую спіну, у прыходную жылу, ва ўсе 24 гадзіны, ва ўвесь стан чалавечы. Напусціце на яго сум сумучы, сухоту сухучую, плач неадольны, каханне непераможнае. Каб раб божы (імя) плакаў і рыдаў, сумаваў і гаварыў, у ядзе не даядаў, у вадзе не дапіваў, у душы не задумваўся, у гарачай лазні не запарваўся, у размовах не размаўляўся, у бяседах не засіжваўся, моцным сном не засыпаўся, у гулянках не загульваўся. Якія словы я гавару, якія не перагаворваю, будзьце мае словы моцныя і ліпкія. Будзьце мацней каменя і цвярдзей волата булатнага, гарачэй агню, хутчэй вады, цвярдзей ліхауравага каменя. Пайдзіце мае замовы рабу божаму (імя) у ясныя вочы, у чорныя бровы, у белыя зубы, у красныя губы, у рацівае сэрца, у кроў гарачую, у пячонку лёгкую, у 77 жыл, у 77 суставаў, ва ўсялякую косць, ва ўсялякія мазгі, у буйную галаву, у слышныя вушы, у магучыя плечы, у храбтовую спіну, у прыходную жылу, ва ўсе суставы чалавечыя, ва ўсе 24 гадзіны, ва ўвесь стан чалавечы. Гэтыя словы замком замкну ў сто ключоў, пячаць занясу ў сіняе мора. У сінім моры кіт-рыба. Аддам я іх кіту-рыбе. Кіт-рыба не зловіць мае ключы і не адамкне век на век ад мяне, майго мілага ніхто не адбярэ. Госпадзі да веку. Амінь»* (в. Праскурні, Жлобінскі раён, ад Гузавай І. К.).

*«На моры, на акіяне, на востраве на Буяне ляжыць таска. Бегаеб'ецца таска ў таску, з таскі ў ваду, з вады выбягае сатана і крычыць: «Павушка — Ганна, бяжы паскарэй да Івана ў губы, у зубы, у яго печань чорную, штоб Іван таскаваў па Ганне кожны час і кожную хвіліну, па полудні, па поўначы, штоб не з'еў, не ўпіў, спаць не заспаў, гуляць не гуляў, каб Ганна яму была лепей за айца, за маці і роднага племені.*

*Замыкаю свой загавор-замову 77 ключамі, 77 ланцугамі. Хто*

*ды не наглядзеўся. А мыла як хутка змыецца, каб і мужык гэтак хутка пакахаў, а сарочка якая на целе белая, каб і мужык быў такі светлы ды ясны»* (в. Гарадзец, Рагачоўскі раён, ад Гавядковай З. І.).

«Замова на каханне»:

*«Святая пятніца, дапамажы ў каханні рабам божым (імя мужа і жонкі). Гляну я на сонца яснае, як яно блішчыць, каханне грэе, сэрца да сэрца, мілы да мілага. Гуляў ён не загуляўся, у час з'яўляўся. Каб было яму моташна і нудна, не пілось, не елась, да сваёй жонкі хацелась»* (в. Студзёнка, Быхаўскі раён, ад Лапкоўскай І. М.).

Усе разлады ў сям'і ішлі ад усёмагчымых спрэчак, лаянак. Таму старэйшыя, найбольш мацяркі, падвучвалі сваіх дзяцей, як іх пазбягаць, што рабіць, каб яны не сталі частымі «гасцямі» ў новай сям'і.

«Замова, каб маладыя не сварыліся»:

*«Як рыба не можа жыць без вады, так бы і раб (імя) не мог бы жыць без рабы (імя). Гэтыя словы ім увойдуць у белыя грудзі, у белае цела і ў рацівае сэрца. І не змаглі б яны адзін без аднаго жыць, і не было б сілы іх разлучыць. Як галубка з галубком вуркочуць, так бы і раб божы (імя) з рабой божай (імя) увесь век пражылі. Не сварыліся, а сябравалі. Гэтым словам я маладых звяла. Амінь»* (в. Кастрыцы, Магілёўскі раён, ад Алісеенкавай М. С.).

Падвучвалі, якое дзеянне абавязкова неабходна здзейсніць, каб адвадзіць ад другой жанчыны свайго мужа.

*«Каб муж не хадзіў да другой жанчыны, патрэбна насыпаць у яго сляды альбо проста на дарогу, па якой ён ішоў, яловымі іголкамі. А можна пакласці іх ці яловыя лапкі пад ганак той жанчыне, да якой ён ходзіць. І так неабходна зрабіць некалькі раз. А калі жанчына гэтая жыве ў казённай кватэры, то каля яе пад'езда закапаць нажніцы»* (в. Лагодава, Быхаўскі раён, ад Гурскай Е. Ц.).

А там, дзе нявернасць, там і пастаянныя лаянкі-спрэчкі і, вядома ж, слёзы-праклёны, без якіх ніводная спрэчка не магла абысціся.

«Замова ад грубасці, скандалаў і слёз»:

«Узяць кавалачак хусцінкі, якой выціраліся слёзы, спаліць яго вечарам на свечцы, але пры гэтым гаварыць: *«Ты спалі, агонь, мае слёзы гаручыя, загані бяду ў лес драмучы, хай яна там заблукаець і ніколі ў дом не варочаецца, хай у мужа майго сэрца зжаліцца, нядобрым словам язык не асквярняецца, каб у дом мне ўваходзіць не з апаскаю, каб век свой пражыць з мужам ласкавым»*. Паўтарыць гэтыя словы тры разы. Раніцай, калі карміць мужа, пакласці ў яду попел ад хусцінкі, якую спаліла (в. Лагодава, Быхаўскі раён, ад Гурскай Е. Ц.).

Былі замовы, якія «кантралявалі сітуацыю» і не давалі магчымасці

*Госпада Бога прахаці. Адам з Еваю дзіва іздзівілі: свяшчонаму, хрышчонаму Аляксандру Алена палюбілася. Крастом крашчуся, зоркаю засцягнуся, месяцам абгараджуся, сонейкам асвячуся. Якое сонейка яснае, краснае, мілае, каб была такая Аляксандру Алена мілая і красівая. Каб ты, Аляксандр, не піў і не еў, а па мне, Алене, млеў. Колькі на небе многа зорак, адна з іх самая ярчэйшая і прыгажэйшая. Колькі на свеце ёсць многа жонак, то я для цябе, Аляксандр, Алена, каб была самая мілейшая і раднейшая. Каб ты мяне на рукі пасадзіў, цалаваў-мілаваў, усю сваю праўду казаў, а ўсіх пастаронніх жанчын гроб, пляваў, харкаў. Сядзіць Аляксандр за сталом, як ясны сокал, а Алена перад ім, як галубка перад голубам. Ішла Прачыстая Божа Маці паліць мухаў у балотах, брала агонь з крамянёў. Не палі ты, Божа Маці, мухаў у балотах. Ды палі ты душу Аляксандра, каб яго паліла-смаліла каля яго сэрца, печані і лёгкіх: каб ён не піў, не еў, а па мне, Алене, млеў. Памагі, Госпадзі, і Прачыста Божа Маці, і Святая Багародзіца».* Паўтарыць тры разы (в. Дуброва, Лельчыцкі раён, ад Колас А. Ф.).

Сустракаюцца замовы, якія тлумачаць, як нявесце рыхтавацца да вяселля, што гаварыць падчас пераапранання і г.д.

«Каб маладой добра жылося»:

Калі маладая перад вяселлем мыецца, апранае новую бялізну, сукенку і вэлюм, яна павінна шаптаць такія словы:

*«Я святою вадою ўмываюся,*
*золатам уціраюся,*
*а сонейкам адзяваюся,*
*а месяцам падпяражуся,*
*зоркамі зашпілюся*
*і нікога не баюся.*
*Як сонца і месяц на ўвесь свет свецяць,*
*так і я каб была на ўвесь свет і міла, і люба. Амінь»*

Дзяўчына гэтую замову павінна прагаварыць тры разы, а потым з сяброўкамі выходзіць да гасцей (в. Навасёлкі, Асіповіцкі раён, ад Пракопавай Д. С.).

Нярэдка спагадлівыя знахары падвучвалі, што маладой жанчыне рабіць, якія патаемныя справы здзяйсняць, якія словы шаптаць, каб горача кахаў малады муж, «не заглядваўся на чужыя лыткі».

«Замова, каб малады муж кахаў»:

«Раніцай, калі ўмываецеся, глядзіце ўважліва ў люстэрка і тры разы паўтарайце, сплёўваючы праз левае плячо:

*«Як людзі глядзяцца ў люстэрка, так бы мужык глядзеў на жонку,*

*Хмель і віно, выхадзі на хуткую раку, па вадзе якой людзі не ездзяць. Хмель і віно, выхадзі на буйныя вятры, якія дуюць далёка. Адыдзі ад раба»* (в. Гарадзец, Рагачоўскі раён, ад Пацкевіч З. В.).

«Замова, калі п'е мужык»:

*«Хай замова дапаможа, у мазгі табе ўложа, уратуе ад напасці і не дасць табе прапасці. Каб яна (гарэлка) табе смярдзела, каб табе ачамярэла. Паратуй ты небараку, каб не йшоў ён болей ракам. Няхай п'янка лезе бокам, бо глядзіш ужо адным вокам. Каб табе абрыдла чарка, няхай згіне з хаты сварка. Будзь вясёлы і лагодны, бо ты стаў ужо халодны. Адрачыся ад пустэчы, каб не быў ты ў галечы. Да дабра не прывядзе, а ў балота завядзе. Амінь»* (в. Свіслач, Асіповіцкі раён, ад Пракопавай Д. В.).

«Замова, калі п'е жонка»:

*«Адрачыся ад дурману, усялякага абману. Па хатах не хадзі, пахмяліцца не прасі, больш не пі ты гаркачэчы, а рабі ўсё дарэчы. Прычашыся, прыбярыся і на людзі пакажыся. Ад гарэлкі адракайся, па падлозе не валяйся. Будзь ласкава і прыгожа, на каго ты цяпер пахожа? Без пары ты так загінеш, сваіх дзетачак пакінеш. Амінь»* (в. Свіслач, Асіповіцкі раён, ад Пракопавай Д. В.).

Але не толькі нейкія сямейныя непаразуменні не дазвалялі маладым сем'ям жыць у міры ды ў згодзе. Нельга забывацца і пра сацыяльнае зло, якое пастаянна суправаджала сялян. Часта здаралася так, што не паспелі хлопец з дзяўчынай «пабрацца-пажаніцца», як яго ад маладой жонкі забіралі ў войска ці на вайну. Многія адтуль не вярталіся, многія вярталіся, але скалечанымі, зраненымі. І толькі лічаным адзінкам шанцавала, бо яны прыходзілі ў свае мясціны жывымі і сустракалі там родных.

«Замова на адыход у войска»:

*«Калі Ісус Хрыстос нарадзіўся, то ўвесь свет весяліўся. Усходняя зорка свяціла — Маці Прачыстая дзіця купала. Прыходзілі тры зоркі, прыносілі тры дары: самому Ісусу Хрысту, сын Божаму. Спасі, Госпадзі (імя) ад кулі, ад змея злога, ад сатаны, ад вады. Памажы мне, Госпадзі, свой крыж несці з сабою. Амінь»* (в. Аздамічы, Столінскі раён, ад Наскевіч А. А.).

«На вайну адыходзячаму»:

Малітву зашываюць у гімнасцёрку. *«О, Маці Хрыстова, укрый мяне рызай святою ад неба да зямлі. І што пры мне ёсць, тое сахрані. Адгані, аднясі кулю ветрам. Ангел-ахоўнік, захоўвай маё цела і душу і накіруй мяне на шлях выратавання. Амінь»* (в. Дабрэйка, Шклоўскі раён, ад Сомавай Н. Р.).

разбэшчанаму мужу (жонцы) пакінуць сям'ю, дзяцей і перайсці жыць пад другую страху.

«Нагавор на разлучэнне»:

*«Чарцянё ідзе вадой, воўк ідзе гарой; яны разам не сыходзяцца, думы не думаюць, мыслей не мысляць, плады не пладзяць, пладовых гутарак не гавораць.*

*Гэтак бы і рабы божыя (імя мужа ці жонкі) мыслей не мыслілі, плоду не пладзілі, пладовых гутарак не казалі, а ўсё б як кошка з сабакам жылі»* (в. Пунькі, Чашніцкі раён, ад Ламач П. І.).

Далёка не заўсёды сямейнае жыццё было мірным і ўзаемапаразумелым. Найбольш панавалі дэспатычныя адносіны, пры якіх жанчыне адводзілася роля бездакорнага выканаўцы ўсіх загадаў мужа, нягледзячы на тое, слушныя яны былі ці ўвогуле нейкія маразматычныя. «Бабіна дарога — ад печы да парога», а чуць што-небудзь насуперак, то мужык меў поўнае права «выбіць бубну» на спіне ў сваёй слабой палавіны. Разгневанага гаспадара ўпрошвалі, сарамацілі, спадзяваліся, што «сцерпіцца-злюбіцца» і з цягам часу ён стане намнога лепшым, бо пасталее, «перакіпіць у ім усё», і чалавек болей не стане так рабіць. Толькі не надта дапамагалі словы-маленні, звернутыя да гаспадара, і той працягваў па-ранейшаму займацца такімі справамі. Тады ўжо звярталіся да спагадлівых знахароў, каб тыя выручылі, не пакінулі ў бядзе, не дапусцілі смерці, бо нярэдка здаралася і такое.

«Замова жанчынам, у якіх мужыкі рукі распускаюць»:

«Няхай драчлівы, скандальны мужык умыецца нагаворнай водой або можна яго апаласнуць у лазні.

*«Як у гэтага распяцця рукі не падымаюцца, губы не раскрываюцца, так бы і ў раба божага (імя) рукі не падымаліся, губы не растваралія. На рабу божую (імя) на вякі, ад гэтага часу і назаўсёды. Амінь».* Паўтарыць тройчы (в. Гарадзец, Рагачоўскі раён, ад Васільевай В. К.).

Не менш страшным горам-бядою было для сялянскіх сем'яў п'янства, якое прыводзіла да сапраўдных трагедый. Такія вусна-паэтычныя творы сустракаюцца ў фальклоры рэдка, і сярод зафіксаваных намі ёсць як агульныя, якія накіраваны на вырашэнне такой праблемы: на вылячэнне і мужчын, і жанчын, так і паасобныя (асобна для мужчын і жанчын).

«Замова ад п'янства»:

*«Ва імя Айца, і Сына, і Святога Духа. Амінь. Хмель і віно, адыдзі ад раба божага ў цёмныя лясы, дзе людзі не ходзяць, і коні не бродзяць, і птушка не лётае. Ва імя Айца, і Сына, і Святога Духа* (2 разы).

«Замова, калі першы раз выганялі скаціну»:

*«Вясна, выйшаў к табе наш статак, сёння мая кароўка будзе табе рада. Сустракаю пастуха з хлебам і соллю. А ты будзь да маёй кароўкі ласкавы. Я Рабіне (мянушка каровы) дзверы адчыняю, калодкай падпіраю, дурныя зубы загаворваю. З лесу пнямі, з поля камянямі. Бабка Лукер'я, беражы маю карову жалезнымі прутамі і ў гарах, і ў барах, і ў далінах, і ў лугах. У чыстым полі светлая крыніца, ад той крыніцы возера вадзіцы. Там Рабіна цэлае лета ваду п'е. На, мая Рабіна, хлеба з'еш, а мне малака больш дасі і к лету цяля прынясеш. А вясной выганю цябе ў асаку, а ты раўняйся к рысаку. Бог у дапамогу!»* (в. Баркі, Кіраўскі раён, ад Сініцы В. Р.).

«Як гоняць першы раз скаціну ў поле»:

*«Жана Лілея, дачка Параскавея, сын Самсон, Самуіл, скоры ўгоднік, божы памочнік, прашу я цябе, упрашаю. Пасі маю скацінку-залацінку дзень пад сонцам, ноч пад месяцам, ад усіх звяроў: лясавых, балотных, махавых, лугавых, яраўцаў-падаліцаў. Вы ўсе, звяры, сабірайцеся ка мне, я вам замкну зубы жалезнымі замкамі, залатымі ключамі. Залатыя ключы ў мора занясу, у мора апушчу. Чур. Амінь»* (в. Навасёлкі, Быхаўскі раён, ад Зазыба М. А.).

Даволі часта ў вёсках запрашалі ў гэты дзень спагадлівых знахароў, каб яны прыйшлі і «пашапталі на кароў толькі ім вядомую наймацнейшую замову». Лічылася, што шэпт спрактыкаванага чалавека здольны адвярнуць ад статка любую бяду. *«Першым разам, добрым часам, ранняю зарою, добраю парою. Зоры-зараніцы, божыя памашчніцы. Сама я прыступаю, Госпада Бога і Прачыстую Маць на помач прызываю. Выганяю я цябе, кароўка, на Юр'еву расу, на шаўковую траву, каб ты травы наядалася, расы наспівалася. Не прыходзіла з поля ўрочна, а прыходзіла малочная: з тоўстымі сырамі, з густымі смятанамі, з жоўтым маслам. Каб было малака на пярсці, смятаны на капыты. Ішоў чараўнік і чараўніца. Чараўніку гарачы камень за плечы, чараўніцы жменю солі ў вочы, каб не бачылі мае чорнарабай каровы ні ў дзень, ні ў ночы. Ішоў сам Ісус Хрыстос цераз старскі двор, з залатымі ключамі. Замыкаў паганым вачам, злым людзям зубы і губы. Закрываў вочы, каб не бачылі мае каровы ні ў дзень, ні ў ночы»* (в. Заброддзе, Жлобінскі раён, ад Гаўрыленкі М. С.).

Знахар у такім выпадку ніколі не адмаўляў, бо адмова паўплывала б у далейшым на ягоны аўтарытэт сярод вяскоўцаў. Ён, наадварот, з радасцю пагаджаўся прыйсці і «выручыць», каб усё ў людзей было добра. Без блаславення знахара жывёлу не адпускалі на пашу,

пастух (пастухі) не меў права гнаць яе ў поле. Толькі пасля магічных дзеянняў запрошанага знахара, пасля таго, як ён падаваў знак (даваў дазвол), кароў гналі з выгана на пашу.

«Замова на карову»:

*«Першым разам, добрым часам, ранняю зарою, добраю парою. Зоры-зараніцы, божыя памачніцы. Сама я прыступаю, Гаспада Бога і Прачыстую Маць на помач прызываю. На вятры, на буяне, мяцёлка гуляла, з мора ваду набірала, кароўку-рабку падмывала, у чыста поле адпраўляла. Ідзі, кароўка, у чыста поле, пад ракітавы кусточак, пад зялёны лісточак, па густу смятану, па жоўтае масла. На чорным-чорным камені сядзіць змей і змяя з змеянятамі. Рагамі раскапаў, ад мае кароўкі ўрага прагнаў. У нас Прачыста Божа Мацер у яе тры дочары: першая — Кацярына, другая — Марына, трэцяя — Марыя. Кацярына кароўку доіць, Марына ў кубкі налівае, Марыя смятанку засцілае. З Госпадам Богам, з яго наследніцай, з Мандрынай, зарамі ўспылілась, месяцам падвязалась, зігаю ўпраўляла, на звяздзе мой хлеб аб'язджала, іарданнаю вадою палівала, злога, бязбожнага чалавека не дапускала, жалезныя вароты ўстанаўляла, залатыя замкі замыкала. Ідзі, злы чалавек, бязбожны, тут табе не бываць, залатых замкоў не ламаць, жалезных варот не адчыняць, мае кароўкі не з'ядаць. А ідзі, злы чалавек, бязбожны, на горку асіну, парахню жаваць, маёй кароўцы карысць аддаваць, на места ўстанаўляць»* (в. Заброддзе, Жлобінскі раён, ад Пазняк А. В.).

Замова знахара магла быць і намнога прасцейшай, але ўсё роўна яна лічылася моцнадзейнічаючай, у якой нічога нельга было змяніць, бо тады гублялася чароўная сіла магічных слоў.

«Замова, калі першы раз выганялі карову ў поле»:

*«Святы Юрый, пастар Гасподні, прыедзь на сівым кані, у залатым сядле. Вазьмі залатыя трубы і зайграй. Пакліч ваўкоў і ваўчыц, вазьмі залатыя замкі, замкні ім губы і зубы, каб яны адзін з адным хадзілі, адзін аднаго любілі. А ты, пастух, калёнаю сцяною загарадзі. Амінь»* (в. Заброддзе, Жлобінскі раён, ад Пазняк А. В.).

Мала было выгнаць карову на пашу, кожная ж гаспадыня марыла пра тое, каб яе кароўка прыносіла дамоў як мага болей малака. Тут ужо ў справу ішлі «персанальныя» замовы, якія былі даступныя кожнай гаспадыні.

«Замова, каб карова болей малака давала».

Пад першую маладзіковую нядзелю трэба браць вечарам ваду для каровы і прымаўляць: *«Добры вечар, калодзеж! Не прыйшла я ваду браць, а прыйшла сваёй кароўцы малако здабываць»*. Потым трэба

чэрпануць ваду адзін раз да сябе (в. Асобіна, Буда-Кашалёўскі раён, ад Гаўрыленкі М. Н.).

«Замова да каровы, каб яна давала малако»:

*«Госпада Бога прашу. Прачыста Божа Маці, прыйдзі, прыступі, кароўку замаўляці. Выйшла тры хмаркі: адна — дажджавая, другая — грамавая, трэцяя — ветраная. Ветраная, падуй, дажджавая, палі, грамавая, пабі. У тую змяіну, каб па зямлі не хадзіла, травіцу не з'ядала, ад мае кароўкі малака не адбірала. А ты, мая кароўка, ідзі пуцём-дарожкаю, расу збівай, травіцу з'ядай, а мне гусценька малако давай»* (в. Курыцічы, Петрыкаўскі раён, ад Такун А. А.).

Некаторыя з замоў нагадваюць сабою самабытныя вусна-паэтычныя творы, у якіх гаворка вядзецца ўвогуле пра захаванне жывёлы (скаціны, гаўяда).

«Замова на карову»:

*«Самасеем абсыпаю злога духа, адганяю, як за мора птушку з гэтага гною. Гэтага самасею не збяруць там, чараўніцы ў маёй кароўкі малако і смятану не адбяруць.*

Як карову выганім у поле першы раз, трэба ўзяць яйцо і абысці тры раз вакол і сказаць: *«Як гэта яечка поўнае, так каб у нашай кароўкі поўнае вымя было».*

Малако каб добрае прынясла, трэба, выгнаўшы карову ў поле, сабраць яе сляды на пяску і ўкінуць у хлеў, штоб пільнавалася аднаго свайго хлява» (в. Запаточча, Быхаўскі раён, ад Нікіфаравай П. Д.).

Вопытныя, спрактыкаваныя гаспадыні, навучалі маладзйшых, што засцерагацца словам трэба не толькі падчас выгану жывёлы з хлява на пашу, але і ў будзённым жыцці таксама, г. зн., калі ідзеш даіць карову, дык абавязкова не забывайся пра таямнічыя словы, якія разлічаны на захаванне дабрабыту ў сям'і, на здароўе жывёлы, на прынясенне ёю «вялікага малака».

«Замова для каровы»:

Як ідзеш даіць карову, трэба гаварыць: *«Добры дзень, карова, чорная (белая) шарсцінка. Іду да цябе са святой вадой, а ты да мяне са святой расой. Вадою цябе падмываю, злога ворага не дапускаю, ні гаспадаровага, ні гаспадынінага, ні чараўніковага, ні чараўнічынага, ні блудлівага, ні блудніковага. Святы Юрый-Ягорый, сашлі па калена малако, па локаць смятану»* (в. Асобіна, Буда-Кашалёўскі раён, ад Гаўрыленкі М. Н.).

Баяліся і злых вядзьмарскіх вачэй, якія маглі пазбаўляць карову — асноўную карміцельку сялянскай сям'і — малака. У Кібарта чытаем: «Калі б ведзьмы хадзілі ў чалавечым абліччы, выдойваючы кароў, мож-

на было б засцерагчыся ад іх альбо ўцячы, але яны ператвараюцца часам у жабаў і немагчыма ні ўбачыць іх, ні пазбегнуць іхніх чараў. Ведзьма лёгка разрывае вымя, і як толькі крывёю з яго намочыць пальцы, адразу адбярэ ў той каровы палову малака і яшчэ столькі ж выдаіць са сваёй.

Ведзьма мае жабіную галаву, сама велічынёю з саву, ногі — курыныя. Калі чалавек стане на тым месцы, дзе яна сядзела, абавязкова на нешта захварэе, найчасцей бывае, што ўтворацца раны на нагах. Калі ведзьму ў гэтым абліччы ўдарыць у грудзі, яна выплюне белае малако, зусім як каровінае. Адкуль бы ўзялося ў яе такое малако ў роце, калі б д'ябал не даваў ёй смактаць кароў. Любіць яна ляжаць на гноі. Даўней было іх шмат, цяпер іх мала засталося, бо людзі забіваюць іх, дзе толькі ўбачаць, пры гэтым мучаюць, перакананыя, што ведзьма трапіла ім у рукі. Калі чалавек апране адзежыну, змочаную ці малаком, ці мачою такой жабы, то заробіць незагойную рану.

Адна жанчына хацела прыглядзецца да такой жабы і стала паблізу. Калі яна выцяла жабу па хрыбетніку, то тая выліла малако ёй на нагу. Нага апухла, пачала балець і праз нейкі час адпала.

У хаты залазяць такія жабы па начах, каб намачыць чалавечае адзенне. Каб яны не лазілі, ёсць такі сродак: павесіць жабу ў коміне, каб праз яе ішоў дым. Пакуль адна там будзе сушыцца, другая запаўзці ў хату не асмеліцца»[36].

У М. Нікіфароўскага ёсць амаль аналагічнае сведчанне: «Каб даведацца, хто ў наваколлі малочная ведзьма, трэба на масляныя заговіны кавалачак сыру ў роце пратрымаць усю ноч, а раніцаю ў «шчыльны» панядзелак, высушыць яго і зашыць адразу ж у адзежу, якую трэба, не скідаючы, насіць увесь пост (пры гэтым не хадзіць у лазню, не мыцца, ні з кім не гаварыць, нават не вітацца). З кавалкам сыру трэба прыйсці да велікоднай ютрані і, спыніўшыся ў царкве ля парога, падымаць сыр угору, калі гавораць словы «Хрыстос уваскрос!». Тады замест хустак на галовах у ведзьмаў будуць відаць дойкі, што і выдае іх. Замест гэтага ў той самы час можна глядзець на жанчын праз дзірачку ў агарку лучыны, калі на масляныя заговіны сам сабою выпаў сучок.

Ведаючы ведзьмаў сваёй акругі, няцяжка ўжо лавіць, караць і нават знішчаць іх. Калі ведзьма прысела на цадзілку ў выглядзе мухі, каб папсаваць малако, муху трэба адразу зачэрпнуць у цадзілку і падвесіць яе пад «сапухай» ці варыць у кіпятку: ведзьма зноў не можа ператварыцца і будзе цярпець пакуты, пакуль цадзілка застаецца ў дыме ці ў кіпятку, і зусім гіне, калі дым быў ад ладану, а вада — з

дабаўленнем асвячонай. Калі ж малочная ведзьма, што прыняла выгляд земляной жабы, апынулася ў хляве і тым больш — прысмакталася да вымені, ад якога не можа адстаць, пакуль не скончацца вядзьмарскія чары, ёй можна адрэзаць пальцы, выкалаць вочы, пратknуць цела іголкамі або шпількамі. Усе пашкоджанні застануцца ў ведзьмы назаўсёды і пасля ператварэння, прычым фізічныя пакуты ад уколаў і парэзаў расцягнуцца на доўгія гады»[37].

Даволі часта жывёле пагражалі вострыя зубы лясных драпежнікаў — ваўкоў. Таму і не дзіўна, што многія замовы «замаўлялі зубы» гэтым звярам, каб яны не чапалі, бокам «абыходзілі скацінку».

«Замова ад ваўкоў і звяроў»:

*«Госпаду Богу памалюся і Прачыстай Мацеры пакланюся, усім святым апосталам. І гэтая скаціна, сівая шарсціна, стань жа ты па дарозе сокалам, па чыстым полі каменнем, у лесе высказзю. Месячкам абсадзіся, зёздамі абгарадзіся, чорнай хмарай накрыйся, медзяным замком замкніся. І загавару ваўку-ваўчыцы і зубы, і губы, і жарасць, і ярасць, і косці, і когці, і слюну, і блюну; і да пары ўсё гэта дрэмле, пакуль сонейка ўзыдзе, раса на зямлю ўпадзе. Гаруйце, як скаціне заблукае».* Трэба паўтарыць словы тры разы, і падуць неабходна, і нож у сцяну ўваткнуць. Гаварыць трэба пад крышай, а пад адкрытым небам нельга (в. Буды, Горацкі раён, ад Каробкінай Л. І.).

Продкі верылі, што на жывёлу гэтаксама, як і на людзей, адмоўна ўздзейнічаюць «злыя» («чорныя», «ліхія») вочы, і ад іх абавязкова трэба замаўляцца. Ад «каровіных урокаў» вылечвалі толькі моцныя, спагадлівыя знахары. Сам гаспадар, вядома ж, акрамя знахара, калі ён трымаў карову, замовіць яе не мог.

«Каровін урок»:

*«Сашлі, Госпадзі, з нябёсаў трох анёлаў: ад звера бягучага, ад гада паўзучага, ад чалавека-чараўніка, ад маладзіцы-чараўніцы. На небе тры хмары: гразавая разбівае, дажджавая падмывае, ветраная з маёй кароўкі ўрокі і прыстрэкі зганяе. У полі шэрыя і белыя камяні. Як ніхто іх не можа ні спалохаць, ні апаганіць, так ніхто не замовіць маёй чорнай кароўкі. Я прыйшла са словамі гасподнімі, з дапамогай божай на векі вечныя. Амінь»* (в. Праскурні, Жлобінскі раён, ад Міхедавай К. А.).

«Урок каровячы»:

*«На сінім моры, на востраве, шаўковая травачка. Там юр'ева расічка, там мая кароўка хадзіла з рожкамі, шаўковую травічку з'ядала, юр'еву расічку співала, белае малако ў выміца збірала, з густым вяршком, цвёрдым тваражком, жоўтым масліцам. Хто маю кароўку*

*ўрачуе, кроў яму на вочы. Сарока на кол прыляцела, колькі сароцы на калу пабываць. Сарока з кала паляцела і з маёй кароўкі ўрок выймала: мужчынскі, жаночы, хлапецкі, дзявочы. На сінім моры ляжыць камень, на тым камені сядзіць варона чорная, жоўтыя пяскі разграбае, з мае кароўкі-сяброўвачкі ўрок выганяе. Амінь»* (в. Асобіна, Буда-Кашалёўскі раён, ад Міхеевай М. П.).

«Прыстрэк каровін»:

*«Святы Пятро і Павел, Ілля-прарок, дапамажыце мне кароўку ўгаварыць, урок угаманіць. Па быстраку, буйным буяку працякала тры ракі: адна — вадзяная, другая — малочная, трэцяя — смаляная. Вадзяную — співаць, малочную — з'ядаць, а смаляную ўрагам вочы заліваць»* (в. Гарадзец, Рагачоўскі раён, ад Васільевай В. К.).

«Замова, каб скаціна вадзілася».

Пры пакупцы жывёлы трэба памаліцца Богу, тры разы абысці яе, затым увесці ў свой двор і сказаць:

*«Вось табе, гаспадыня, махнаты звер! Паі, кармі, рукавічкай гладзь. Шчасце табе ў хату. Няхай будзе шчасце і ў двары»* (в. Гарадзец, Рагачоўскі раён, ад Васільевай В. К.).

Ацёл каровы — для сялянскай сям'і важная падзея, якую чакалі са спадзяваннем і страхам. У большасці выпадкаў, калі карова цялілася, то ніякага знахара не звалі, спраўляліся самі. Іншая справа, калі карова не магла расцяліцца, то тут абавязкова звярталіся за дапамогай да знахара.

«Замова, калі кароўка ацялілася»:

*«Мая кароўка (мянушка) ацялілася, чэсным і ўсёмагутным крыжам Госпаднім акружылася ад змея паўзучага, ляжачага, ад звера бягучага, ад чараўніка, ад чараўніцы, ад злога чалавека, ад ліхіх вачэй. Я са словамі сам, Гасподзь — з помаччу. Ранняя зарніца — Гасподняя памачніца, прыйдзі да мяне на дапамогу, а маёй кароўцы на прыбытак і на здароўе. Я словамі, Гасподзь — з помаччу. Амінь»* (в. Мормаль, Жлобінскі раён, ад Паўлюшчанкі С. І.).

Пасля ацёлу, калі першы раз ідуць даіць карову, то гавораць:

*«Добры дзень, мая каровачка. Прыйшла я к табе, даярачка, з залатой даёначкай. Цябе Маць Святая Прачыстая падаіла і нам благаславіла з тваражком і масліцам. Амінь»*. Паўтарыць тройчы (в. Мікалаеўка, Буда-Кашалёўскі раён, ад Шведзенкі Г. Г.).

Акрамя каровы, у сялянскай гаспадарцы была яшчэ і іншая жывёла, якую таксама трэба было засцерагаць ад усёмагчымых напасцей і хвароб.

«Замова, каб конь быў здаровы»:

*«Госпаду Богу памалюся, Прасвятой Божай Мацеры пакланюся, што на моры, на акіяне, на святой Іардані божы там ляжыць камень і кніга. Ля кнігі чарнец сядзіць. Чарнеца таго нічым не займайце, кнігу яму чытаць давайце, усю хваробу з каня вынімайце: ветраную, падвейную, нагаворную і вочную. Каб тая хвароба па касцях не хадзіла, жывата не ламала, чырвонага цела не сушыла, унутры не чарніла, сустаў на месца станавіла. Амінь»* (в. Мормаль, Жлобінскі раён, ад Сільвончык Г. Г.).

Каня пачыналі вучыць хадзіць у аглоблях, у плузе і пры гэтым абавязкова стараліся засцерагчы яго ад уздзеяння нячыстай сілы, злых вачэй, нагаворных слоў.

«Замова, калі абвучваюць каня»:

*«Добры дзень майму каню, не я цябе навучаю, а сам Гасподзь — Ісус Хрыстос і Прачыстая Маці вялелі цябе навучаць.*

*Дай Бог, майму каню ласіную хару, чалавечы розум і мядзведжую сілу».* Паўтарыць замову тройчы (в. Зелянковічы, Глускі раён, ад Юхневіч А. Я.).

Прасілі сяляне і за тое, каб у іх добра вадзіліся і раслі свінні, куры.

«Замова, як купляць парасят»:

*«Іду на базар з хлебам-паскаю, раскрыйце той мех, дзе харошыя парасяткі, і будзьце з душою і ласкаю ў мяне (імя) пяць капеек медзі. Параскрыйце той мех, дзе парасяткі, як мядзведзі. У чыстым полі стаіць дуб, пад дубам карыта, дзе табе кабанчык (свінка) усякага дабра наліта. Баба Яга сядзіць, на кабанчыка глядзіць, будзе з ім гаварыць. Вось табе, кабанчык, пяць капеек медзі, каб ты ляжаў і лапу смактаў, як мядзведзі. У моры вада прыбаўляецца, а ў мяне кабанчык сальцам наліваецца. Бог з помаччу. Амінь»* (в. Зелянковічы, Слуцкі раён, ад Булкі А. П.).

«Замова ад свіней на сала»:

*«Хазяін Самсон, сын Самасей, хазяйка Халялея. Да гэтай скаціны, белай шарсціны, прыходзілі. У кожную шарсцінку крыві прылівалі, кожную шарсцінку жырам-салам набаўлялі. Амінь»* (в. Ледзяшня, Клімавіцкі раён, ад Сляпцовай В. А.).

«Замова, каб куры несліся».

Каб куры несліся ў тваім двары, патэбна ў сераду перад чыстым чацвяргом палажыць у хаце, на стале, столькі яек, колькі гнёздаў. А раніцаю ў чацвер пакласці іх у гнёзды, дзе нясуцца куры (в. Лагадава, Быхаўскі раён, ад Гурскай Е. Ц.).

*«Засвяціся, зорка ясная, на паднябессі; на радасць свету хрышчонаму, загарыся агнём нязгасным. Ты зазірні, зорка ясная, на двор*

*рабы божай (імя), ты асвяці агнём нязгасным маіх хахлатак. Як у паднябессі няма ліку зоркам, так няхай не будзе ліку курыным яйкам у маёй гаспадарцы. Слова маё моцнае. Ключ, замок. Амінь»* (в. Кастрыцы, Магілёўскі раён, ад Алісеенкавай М. С.).

Адным з самых таямнічых заняткаў для селяніна было бортніцтва, пчалярства. Далёка не кожны мог упраўляцца з пчоламі. Сярод вяскоўцаў лічылася, што пчаляр ужо толькі ў сілу свайго занятку знахар, а калі ён яшчэ і дапамагаў-раіў іншым, «зашэптваў» пчол, то выступаў у вачах аднавяскоўцаў наймагутнейшым чараўніком, якому было пад сілу нават упраўляць любой прыроднай стыхіяй.

«Замова для пчол»:

*«Стой, рой малады! Не іграй, да сырой зямлі прыпадай. Вось вам, пчолкі, святліца новая, цясовая, адмысловая. Жыць вам тут і быць сто лет і зім і дзвесце дзяцей навадзіць. І ты, ліпа-матка Валляна, ліпа-красная дзявіца, і ты, труцень Іван, параней уставайце, сваіх дзетак пабуджайце і пасылайце іх у цёмныя лясы, у шчырыя бары. Майце шум баравы, майце рой прудавы, мядзведжую лапу, воўчы росі. Саграбайцеся, злятайцеся. Да чужых пчол не лятайце і чужых да сябе не пускайце. Як маці-зямля свайго месца пільнуйцеся»* (в. Прыбужжа, Дрыбінскі раён, ад Сімаковай К. П.).

Менавіта бортніка-пчаляра нашы продкі лічылі тым усёмагутным знахаром, які мог адвесці на зямлі грозныя стрэлы перуноў ад гаспадарчых будынкаў, ад людзей і жывёлы, хацін і стагоў з сенам ды саломай. Паводле вусна-паэтычных сцвярджэнняў, іменна пчолы з'яўляліся пасланніцамі бога грому і маланкі на зямлі. А хто ж іншы, як не пчаляр, павінен быў утаймаваць носьбітаў агню? Вось і вучыліся-пераймалі ў бортнікаў словы замоў, накіраваныя на адхіленне перуноў.

«Грамавую стралу (так называлі зліткі сплаўленага маланкай пяску) стараліся мець у сябе ў хаце. Лічылі, што гэта дапамагае ад удараў маланкі, а таксама выручае пры болях у жываце і хваробе жывёлы» (в. Барок, Асіповіцкі раён, ад Крохінай П. І.).

«Замова ад перуна».

Тры разы паўтарыць і перахрысціцца. *«Крыжам ад маланкі хрышчуся, крыжам адгароджваюся, крыжам ангелаў заклікаю, крыжам усіх нячыстых бесаў адганяю. Ідзіце бесы з гэтае хаціны, з усіх чатырох куткоў. У гэтым доме жывуць ангелы, архангелы, херувімы, серафімы і жыве сам раб божы і Тройца святая. У імя Айца і Святога Духа амінь!»* (в. Палянінавічы, Быхаўскі раён, ад Краўцовай П. А.).

Нашы продкі былі перакананы ў тым, што ўсё зберагчы ў сваёй

гаспадарцы ім дапамагала вера ў магічнасць замоў і старадаўніх абрадаў, якія выконваліся як самімі гаспадарамі і гаспадынямі, так і спагадлівымі знахарамі.

«Замова, як лячыць тавар»:

*«Крыжам ахрышчуся, у святую рызу ўбяруся, да сваёй худобкі прыступлюся. Даю сваёй худобцы спор не чужы, толькі свой. Мы чужога не жадаем. А свайго спору не напускаем. Як наша печ не перабытана ні каменнем, ні паленнем, ні варэннем, каб і наша худоба не перабірала і не перабытвала ядзеннем. Што буду даваць рукою, каб кароўка, куры, свінні прымалі душою. Загаварваю ад усякай чумы і ад усякай хваробы. Раз на адзін год, другі — на сем год, а трэці раз на цэлы век. Як месяц у зорах, так тая худобка, кароўка, куркі, свінні ў прыбытак. Амінь»* (в. Зелянковічы, Глускі раён, ад Юхневіч А. Я.).

Такім чынам, ад таго, як вялася-множылася жывёла ў сялянскай сям'і, залежаў яе дабрабыт. Не дзіўна, што нашы продкі на працягу многіх стагоддзяў перадавалі з пакалення ў пакаленне замовы і павер'і, прыкметы і абрады, ва ўсёмагутнасць і цудадзейнасць якіх цвёрда верылі. Жывёлу імкнуліся засцерагчы і ўратаваць, як самі гаспадары, так і спагадлівыя знахары, да якіх найбольш і звярталіся. Самае цікавае, што шапталі паўсюдна: і калі жывёла стаяла ў хляве, і калі яе гаспадыня карміла ці даіла, і калі яе выганялі на пашу, і калі яна ўжо знаходзілася на пашы, а потым вярталася дамоў. Нашы продкі верылі ва ўсё, бо надта многага не маглі растлумачыць, зразумець і даволі часта знаходзіліся яшчэ ў палоне прыроды.

У беларускім фальклоры зафіксавана яшчэ шмат замоў, якімі карысталіся спагадлівыя знахары, а ў некаторых выпадках і самі нашы продкі.

Гэта такія, як «На добры сон», «Для захавання нажытага», «Ад праклёну», «Звіх» і г.д.

«Замова на ноч»:

*«Іду спаць, Божа знаць, крыжам пасцялюся, крыжам накрыюся, з Боскай Маткай спаць кладуся. Матка найсвента пасцельку слала, мяне, грэшну, з крыжам клала. Крыж нада мною, крыж пада мною, сам Бог са мною. Вазьмі маю душу на рукі свае. А ты, ангел, вартаўнік мой, ты заўсёды ля мяне стой. Днём і ноччу будзь мне на дапамозе. Кладуся спаць, са мною Божая Маць, вакол ангелы-архангелы стаяць, маю душу старажаць»* (в. Чарнявічы, Баранавіцкі раён, ад Клындыхавай С. Я.).

«Замова ад ліхой долі»:

*«Каціся клубком, доля злая, нядобрая, разлучніца, кумышніца.*

*Кацiся, не цягнiся, ля парога не круцiся, за ганак не чапляйся, на варотах не вiснi. Сабачча, ласунова, варoння дапамога, кацiся да парога!»* (в. Жукаўка, Хоцiмскi раён, ад Дадзiёмавай В. А.).

«Замова для дома»:

*«Iсус Хрыстос, Багародзiца, Святы Мiхаiл-архангел, выратуйце рабу божую ад усялякай хваробы, намоваў. Агарадзiце дом ад падкiнутых, падпiтых накрутаў i абломкаў. Адашлiце, ангелы-ахоўнiкi, усе нячыстыя сiлы да чараўнiкоў i чараўнiц. Станьце, ангелы-ахоўнiкi, сцяною ад нячыстай сiлы, лiхiх людзей, варажбiтоў i варажбiтак i агарадзiце гэты дом рабы божай. Амiнь»* Вымавiць тры разы запар перад сном i ранiцай, калi толькi прачнуўся (в. Хальч, Веткаўскi раён, ад Самковай В. А.).

«Замова, як у новы дом пераязджаюць».

«Рыхтуючыся да пераезду ў новы дом, гаспадары прыходзяць у старое жыллё i, кланяючыся ва ўсе чатыры куткi хаты, гавораць: *«Гаспадар-паночку! Пойдзем у новы дом, на багаты двор, на быццё, на багаццё!»* Пры пераездзе ў новы дом перш за ўсё ўносяць абраз, дзяжу з цестам, а потым ката i прыгаворваюць, звяртаючыся да дамавiка: *«Вось табе, гаспадар, махнаты звер на багаты двор»* (в. Хiльчыцы, Жыткавiцкi раён, ад Лясько А. Г.). «Трэба хлеб-соль вынесцi, абраз i ладан са свечкай. Прайсцi з усiм гэтым ва ўсе пакоi i прагаварыць кланяючыся: *«Гаспадар с гаспадынькай! Пусцiце нас жыць i самi жывiце цiха i спакойна, i самi не турбуйцеся, i нас, адпаведна, не турбуйце»* (в. Хальч, Веткаўскi раён, ад Самковай В. А.).

«Замова, каб спынiць кроў»:

*«Першым разам, добрым часам, стань, Госпадзi, на помач, а таксама святыя святочкi, гадавыя празнiчкi. Iшлi тры браты, тры Кандраты, неслi па сякеры сiнi камень рассякаць, рабу божаму Мiкалаю крывi не пускаць. Датуль ты хадзiў, буяў, пакуль раба божая Марыя прыступiла, лёгкiм духам ухадзiла i ўгаварыла сваiмi словамi, а Гасподзь сваiмi думамi. Любi мой лёгкi дух. Ху!»* (в. Навасёлкi, Быхаўскi раён, ад Зазыбы М. А.).

«Звiх»:

*«Першым разам, лепшым часам, раба божая, святая серада, прыступiся, рабу божамi (iмя) памажыце здароўе станавiць.*

*Сучок на пнi, а звiх у назе, як сучку на пнi нi стаяць, так у назе звiху не бываць. Як макаўка скора зацвiтае, сустаў лёгка скажае. Жылы, плёвы, дзяржы крэпка, сустаў. Сустаў, сустаў, каб на сваё месца стаў. Другiм разам, лепшым часам* (паўтараецца, што i першы раз). *Трэцiм разам, лепшым часам* (паўтараецца, што i першы раз)» (в. Зелянковiчы, Глускi раён, ад Юхневiч А. Я.).

«Падрыў»:

*«Залатнічок, залатнічок, божы чалавечак, ні к спіне не прыпадай і ўбокі не ўлягай. Ідзі на мястэчка, на залатое крылечка»* (в. Пасека, Жыткавіцкі раён, ад Некрашэвіч В. М.).

*«Госпаду Богу памалюся, Прачыстай Божай Мацеры пакланюся. Прачыста Божа Маці прыступала рабу божаму (імя) хваробу ад жывата шаптала. Залатнічок, залатнічок, добры чалавечак, сядзь на месце, на залатым крэсле. Баба цыбулю рэзала, табе месца ўказала, каб ты не памяняўся, ні ў старым, ні ў новым месце не з'яўляўся, ні ў жываце, ні ў баках, ні ў спіне. Другім разам, лепшым часам, лепшым, найхутчэйшым, памачнейшым. Госпаду Богу памалюся...»* Паўтараецца ўсё па парадку дзевяць разоў запар (в. Пасека, Жыткавіцкі раён, ад Некрашэвіч В. М.).

«Замова ад удару»:

*«Першым разам, лепшым часам. Раба божая святая серада, прыступіцеся, памажыце рабе божай (імя) на першым здароўе станавіце. Удару, удару, пане гаспадару, не хадзі ты па цёмных лясах, не хадзі (імя) па касцях, а хадзі па жалезных мастах. Ішоў удар цераз жалезны мост, мост уваліўся, удар утапіўся. Другім разам, лепшым часам* (паўтараецца тое ж самае, што і ў першы раз).

*Трэцім разам, лепшым часам* (тое ж самае, што і першы, і другі раз)» (в. Зелянковічы, Глускі раён, ад Юхневіч А. Я.).

Зрэдку сустракаюцца замовы, у якіх селянін просіць, каб з ім не здарыліся нейкія траўмы, каб яго ўсё гэта мінала і яму шанцавала ў працы.

«Земляробчая замова»:

*«Устану я, раб божы, благаслаўлюся, пайду памалюся і з хаціны ў дзверы, з дзвярэй у вароты, з варот у чыстае поле, прама на ўсход і скажу: «Ой, сонца яснае, не палі і не сушы ты нівы мае, хлеб мой, цела маё, не даводзь яго да стомы. А палі-спальвай палын-траву. Будзьце мае словы крэпкія і моцныя»* (в. Хальч, Веткаўскі раён, ад Самковай В. А.).

«Ад скулы»:

*«У імя Айца, і Сына, і Святога Духа, памажы мне, Госпадзі, скулу ўпрасіць, умаліць, угаварыць.*

*Скула-скуліца, ты мая сястрыца. Выхадзі на зялёныя лугі, на жоўтыя пяскі, там табе піці, есці, шчаслівае месца сесці. Тут табе не бываці, косці не ламаці, цела не сушыці, крыві не таміці.*

*Угавараю, умаляю, на вецер пускаю, з хаты дымам, з двара ветрам»* (в. Пагарэлае, Глускі раён, ад Фалецкай П. С.); *«Вадзіца-цары-*

*ца, красная дзявіца, кацілася з рэк, з-пад крутых гор, з-пад ясных зор, з-пад цёмнага воблака, з-пад яснага месяца, з-пад краснага сонца. Скула-бялуха, скула-краснуха, скула-чарнуха, скула-жаўтуха, скула-зелянуха, скула-вішнюха. Вас дванаццаць скул, дванаццаць красот. На чым скула схвацілася, на тым украпілася ці на рабоце, ці ў паходзе, ці па піценні, ці па ядзенні. Як мёртваму чалавеку па свеце не хадзіць, так у раба божага скуле не бываць.*

*Рожа, рожа, раба твая, Божа, каб гэтай рожы ў раба божага не бываць. Амінь»* (в. Сава, Горацкі раён, ад Бугаёвай Г. І.).

«Замова ад зубнога болю»:

*«Ох вы, зубы, зубы! Чаму ж вы не белы, а руды?! Хіба вы што кепска жавалі, што хваробы дасталі. Перастаньце ж вы хварэці, будзеце, як велькі пан, у гарсэце. А калі не перастанеце балеці, то мы будзем вас жалезам цягнуці. Ідзі ж ты, хвароба, у шырокае поле, у сухія лясы, ды ў мокрае балота. А хваробы нам жаднай не трэба, бо яна прыйшла ад чорта, але не з неба»* (в. Алісавая, Магілёўскі раён, ад Гарсекавай П. К.); *«Месяц на небе, мядзведзь у лесе, рыба ў моры, як ім у кучу не схадзіцца, за адным сталом не садзіцца, з аднаго кубка віна не піць, з аднае міскі стравы не есці, так і зубам не хварэць. На ваду казаць не пад дахам. Даць вады ў рот глынуць разы тры, на зубах падзяржаць, а пасля ўмыцца, дык яны і сунімуцца. А калі імя не знаеш, то не ўнімеш і за дзверы тады нельга даваць. Ёсць у полі лён, а ў лесе клён, а ў вадзе лінь. Як гэтым тром дзяльцам у кучу не сходзіцца, так зубы раба божага (імя) каб вавек не балелі»* (в. Кварцяны, Горацкі раён, ад Каробкінай Ф. Д.).

«Урок»:

*«Першым разам, гасподнім часам, я са словамі, Гасподзь Бог на дапамогу. Папрашу я Госпада Бога і Ісуса Хрыста і ўсіх святых, і ўсіх прападобных. Усе святыя і ўсе прападобныя, прыйдзіце, дух мой аднавіце, раба божага (імя) сваім гасподнім духам урок адганіце, каб ён не калоў, не пароў, не сушыў, не ламаў (імя). Угаварваю жаноцкі, хлапецкі, мужчынскі, хварабоцкі. Пад шапку хлапоцкі, бабскі пад чапец, жыдоўскі пад шаламок, дзявоцкі пад вянец, у (імя) не стаяць і не караць. Ідзі на сухі лес, на сухія бары і імхі. Там табе піць і гуляць, а ў (імя) не стаяць і не балець, не калоць і не пароць»* (В. Мормаль, Жлобінскі раён, ад Чумаковай Г. І.); *«Памалюся Госпаду Богу і Духу Святому, Мацеры Гасподняй, усім кветачкам-гадовым праздмічкам. Зара-зараніца, вячэрняя памачніца, памажы, Госпадзі! Устану ранараненька, памылюся бела-бяленька, выйду за новыя вароты, гляну на імхі, на балоты, на Сіямскую гару. На той гары стаіць дуб, на тым*

*дубе 12 какатоў, на тых какатах 12 рагоў. Пад тым дубам маладзіцы гулялі, белымі платочкамі махалі. Ад рабы божай (імя) потай вынімалі: урочны, уцешны, прыгаворны, прыдушны, прысмешны, насланный, напуганны. Я яго выгаварваю-вымаўляю, на сіне мора адпраўляю. Там піці, там гуляці, у рабы божай (імя) не бываці. Ні маладзіком, ні сходам, ні поўным месяцам»* (в. Доўск, Рагачоўскі раён, ад Насятчук К. С.).

У беларускім фальклоры зафіксавана таксама многа замоў, у якіх спрабавалі вылечваць прыроджаныя хваробы. Напрыклад, такую, як каўтун.

«Замова ад хваробы валасоў»:

*«Ты волас, волас каловы і волас ламавы, і мазгавы, і рассыпавы, і волас жыльны і трохжыльны, і волас дзянны, і волас начны, і волас свярбучы, і волас ламучы, і волас знабучы! Ад чаго ты колеш, ад чаго ты ломіш? У буйной галаве, у рацівым сэрцы, у скорых нагах, у ясных вачах уцішся, умірся і не калі, не ламі, ні ў маладзіку, ні ў ветаху, ні на ўсходзе красна сонца, ні на сходзе бела месяца. Ступай у зямлю цёмную, у цьму крамешную, не да людзей жывых, а да чарцей ліхіх»* (в. Амхавічы, Магілёўскі раён, ад Таранавай П. К.).

«Замова ад усіх хвароб»:

*«Устану памалюся, пайду перахрышчуся. З дзвярэй у дзверы, з варот у вароты, у чыстае поле, на акіян-мора. Там стаіць прастол, на прастоле сядзіць прасвятая дзева Марыя і бацюшка Хрыстос. Пайду да іх бліжэй і пакланюся ім ніжэй, і папрашу маці Святую Багародзіцу, дзеву Марыю і цябе, бацюшка Хрыстос. Устаньце, здыміце з рабы божай нагаворы, урокі, празоры, спалохі-злякі, ламату, калаццё, чырвоную ліхаманку, з усіх жыл, з усіх касцей, з усёй крыві. Будзьце мае словы моцныя і магутныя. Амінь».* Вымаўляючы замову, неабходна рукою рабіць рухі, якія нібы паказваюць збор нечага з галавы, рук, ног, спіны, жывата. Калі дойдзеш да нізу, то трэба нібы перакінуць усё сабе за спіну і не азірацца. Каб хвароба не вярнулася» (в. Хальч, Веткаўскі раён, ад Самковай В. А.).

Падводзячы выснову пад усім вышэйсказаным, неабходна адзначыць: што да добрага, спагадлівага знахара нашы продкі звярталіся заўсёды, калі толькі адчувалі, што самі не здолеюць пазбавіцца нейкай хваробы, бяды, няшчасця, пошасці і г.д. Многія і зараз звяртаюцца да знахароў, нягледзячы на тое, што медыцына знаходзіцца на высокім узроўні, што «век памяняўся», а магічныя словы замоўзаклінанняў ўсё роўна прыцягваюць да сябе неаслабную ўвагу.

# ЯК ПАВОДЗІЛІ СЯБЕ ЗНАХАРЫ

Аснову магічнага лекавання складае народная медыцына, г.зн., сукупнасць больш ці менш мэтанакіраваных прыёмаў лячэння, выпрацаваных за шматвяковы перыяд развіцця чалавецтва. Але да гэтых мэтанакіраваных лячэбных прыёмаў паступова далучаліся прымхлівыя магічныя ўяўленні, якія нават часткова відазмянілі саму практыку лекавання і нарадзілі «на белы свет» ужо нерацыянальныя шарлатанска-знахарскія дзеянні. Нельга не ўспомніць і пра тое, што гэтая знахарская практыка выклікала цэлы сонм анімістычных персанажаў-вобразаў. Яны маглі ўяўляцца духамі, святымі, боскімі істотамі, самім Богам (Усявышнім).

Элементарныя прыёмы лячэння і самавылячэння існавалі ўжо ў старажытных людзей.

Нашым продкам быў вядомы (і цалкам даступны) даволі багаты і разнастайны набор вылячальных сродкаў: у іх ліку розныя прыпаркі, перавязкі, гарачыя («выпарваючыя») лазні, кровапусканні і г.д. Патрыярхальныя людзі прыкладвалі да ран тлушч, птушыны памёт, тоўчаную кару, высушаных і перамолатых на дробны парашок паўзуноў і інш.; да нарываў і пухлін — гарачы попел, пясок, ракушкі; у якасці кроваспыняльнага сродка ўжываліся малавядомыя нам зараз траўкі, драўесны вугаль, павуціна, гліна, жаночае малако і інш. Пры змяіных укусах прымяняліся перавязкі, высмоктванне раны, кровапусканне, цыркулярны надрэз скуры, прыпальванне і г.д.; пры рэўматызме і галаўных болях пускалі кроў, пры пераломах касці накладвалі лубкі, абвязвалі карою ці іншымі матэрыяламі. Вядомы былі і розныя нутраныя сродкі — настойкі некаторых траў, раслін, кары; як паслабляльнае ўжываліся мёд, кастравае масла, эўкаліптавая смала. Прымяняліся, канешне ж, і больш складаныя спосабы лячэння. Акушэрская дапамога была звычайнай справай старых жанчын. Болей таго, многія з пералічаных сродкаў і спосабаў лячэння маюць сабе аналагі і ў сучаснай медыцынскай практыцы.

«Урачэбная» практыка знахара звычайна прадстаўляе сабою перапляценне прыёмаў народнай медыцыны з чыста рытуальна-магічнымі дзеяннямі. З сродкаў народнай медыцыны найбольш часта

ўжываліся націранне хворага гарачым попелам, масаж, кровапусканне, выдаленне хворага зуба і г.д. Але часцей за ўсё ўжываўся найбольш папулярны рытуальна-магічны сродак — «высмоктванне» хваробы ці даставанне з цела хворага быццам бы знаходзячыхся там нейкіх камянёў. Гэтая практыка звязана з уяўленнем пра тое, што сапраўдная прычына хваробы — пабочны прадмет, які трапіў у цела чалавека. Карані гэтага ўяўлення зразумелыя: вонкавыя раны наносяцца рознымі прадметамі, абломленая частка якіх можа застацца ў ране і выклікаць боль, таму і ўнутраны боль тлумачыўся па аналогіі. Да магічных дзеянняў звычайна дадаюцца закліканні — «замовы», «замаўленні», «шэпты».

У аснове магічных абрадаў ляжыць стыхійны вопыт далёкага продка, які на працягу многіх стагоддзяў стварыў сапраўдную скарбонку вылячальных сродкаў і прыёмаў. Многія з прыёмаў народнай медыцыны, як ужо адзначалася, несумненна былі эфектыўнымі. Але ўжыванне іх у практыцы знахарства амаль заўсёды непарыўна злучаецца з элементамі магіі. Прыёмы лекавання, манапалізаваныя ў руках знахара, недаступныя звычайнаму чалавеку, непазбежна павінны былі разглядацца як таямнічыя, загадкавыя, цудадзейныя.

Даволі часта атрымлівалася так, што ў разуменні нашых продкаў знахарства асацыіравалася і са... шкодніцкай магіяй. Справа ў тым, што карані гэтых двух відаў магіі маюць паміж сабою кропкі судакранання: хвароба, якую бярэцца вылечыць знахар, лічыцца часцей за ўсё вынікам шкодніцкай магіі. І па меры таго, як знахар усё больш і больш авасабляецца ад грамадства (рода, племені), яму адпаведна ўсё больш прыпісваецца валоданне нейкай таямнічай звышнатуральнай магутнасцю, недаступнай простаму звычайнаму чалавеку, яму ж, безумоўна, пачынаюць прыпісваць здольнасць насылаць тыя хваробы, вылячэнне якіх і складае яго асноўны занятак.

Неабходна падкрэсліць сам факт «пастаяннасці», «нязменнасці» знахарства, г.зн., што на працягу шматвяковай гісторыі чалавецтва мала што змянілася ў спосабах, манерах, прынцыпах вылячэння і наслання хвароб. Далёкі прашчур карыстаўся тым самым рытуальна-магічным наборам, што і сучасны нам знахар. Хіба ж у нечым змяніліся ўзаемасувязі паміж замовамі («шэптамі») і знахарскімі прыёмамі? Яны як былі таямніча-непарушнымі, так і засталіся. І пра гэта лішні раз нагадвае абавязковая ўмова пры выкананні «замоўнага слова» — калі толькі нешта зменіш, то замова не

будзе мець сапраўднай сілы; мала гэтага, такое непажаданае змяненне, наадварот, магло прынесці яшчэ куды большае ўскладненне хваробы, а даволі часта — і саму смерць, як справядлівае пакаранне за тое, што парушылі традыцыйнае, якое спрадвеку лічылася непарушным.

Шматлікія хваробы ўвасабляюцца ў вобразах разнастайных міфічных істот, якіх нават цяжка ўявіць, настолькі «безаблічныя» іхнія характарыстыкі ў вусна-паэтычнай спадчыне беларусаў. Ад гэтых міфічных істот стараліся схавацца, іх імкнуліся прагнаць прэч, прымусіць уцякаць, як мага далей, «на куцыя лозы, на гнілыя балоты, на зялёныя імхі, на густыя лясы». Адным словам, аддаліць туды, дзе ніколі не жылі людзі, дзе было «пустое месца», а значыцца, там хвароба ні з каго не магла наздзекавацца. У народных замовах фігуруюць імёны-мянушкі, то сямі, а то дванаццаці сясцёр-«ліхаманак». Няма чаму здзіўляцца, бо і адна і другая лічбы былі ў нашых продкаў магічнымі. Лічылася, што ўжо адно толькі іх згадванне абавязкова дапаможа вылечыцца ці пазбегнуць, «нейтралізаваць» хваробу. Імёны-мянушкі ліхаманкі — гэта не простае пералічэнне першых жа трапіўшых на язык імён, а асноўныя сімптомы, якія спадарожнічаюць гэтай хваробе: Трасуха, Знабуха, Жаўтуха, Ламуха і інш.

Як жа паводзілі сябе знахары падчас шаптання-вымаўлення замовы, здзяйснення магічнага абраду над хворым чалавекам, жывёлаю ці ў працэсе пазбаўлення ўплыву ўсемагчымых нячыстых сіл на гаспадарчыя будынкі, на палеткі, ураджай і г.д.? Гэты бок народнага лекавання, знахарства, варажбы спецыяльна ўвогуле не разглядаўся ў нашай навуковай літаратуры. Зафіксаваны толькі выпадковыя эпізоды ці занатавана тое, як здзяйсняў свой «шэпт» знахар, але пры гэтым не рабілася ніякай спробы даследаваць паводзіны знахара. Аўтары зафіксаваных вусна-паэтычных твораў нават не здагадваліся, як гэта ўсё важна і неабходна, што ўсё яно можа спатрэбіцца ў працэсе далейшага вывучэння народных замоў і шэптаў, варажбы і знахарства, а таксама для таго, каб аднавіць многія амаль ужо назаўсёды страчаныя сувязі народнага лекавання з магіяй і рытуальна-магічнымі дзеяннямі.

На Брэсцкім Палессі, дзе нам даводзілася запісваць фальклор амаль два дзесяткі гадоў, зафіксаваны ад інфарматараў розныя сцэны паводзін знахароў. У в. Чухава Пінскага раён жыў стары-стары знахар Сава. Яму было ўжо 98 з паловай гадоў, калі ён памёр. Ад нараджэння гэты чалавек быў сляпы. Як лічылася, дапамагаў ад многіх

хвароб, але, найлепш ад укусаў гадзюк і вужоў. Самае дзіўнае, што, ніколі не здолеўшы зірнуць на свет белы, тым не меней выдатна ведаў акаляючую мясцовасць, дзе якое балота, дзе які ўзгорак. Мала таго, мог сказаць, які з выгляду быў той ці іншы чалавек, якім быў яго бацька, дзед і г.д. Калі зашэптваў гадзючы ўкус, то гаварыў ледзьве чутна, толькі-толькі можна было разабраць паасобныя словы. Тлумачыў гэта тым, каб ягоныя замовы не пачулі ліхія людзі, бо «адбяруць у іх сілу». Стараўся, каб нікога лішняга не было побач. Пакуль ён будзе стаяць, не пачне шаптаць. Прысутнасць другога чалавека адчуваў, як ён не хаваўся, і нават скажа, дзе хаваўся. Абавязкова пры гэтым скідаў шапку. Перад самым пачаткам тройчы хрысціўся, пасля заканчэння замовы таксама тройчы жагнаўся. Шаптаць мог у любых мясцінах: у хаціне, на двары, на прызбе, у лесе, балоце, полі. Для яго гэта не мела важнага значэння. Пастаянна пакручваў галавою. Нечакана змаўкаў, прыўставаў, але ні ў якім разе не шаптаў, здымаючы сваю левую руку з пляча ўкушанага. Замову шаптаў у абавязковым парадку тройчы. Толькі калі хрысціўся, то словы «Госпадзі памажы» і ў канца таксама «Госпадзі благаславі» вымаўляў выразна і неяк урачыста. Казаў, які ўкус быў (моцны ці слабы), вуж ці гадзюка ўкусіла, цяжарныя яны былі ці не. Стараўся зразумець, дзе ўсё гэта адбылося, каб потым дапамагла замова, бо такіх шэптаў ад укусаў было ў яго дзесяткі тры, і іх ён ужываў адпаведна да рознай мясціны, сітуацыі і г.д. Як сам тлумачыў, важным было і тое, каб не пачулі гады, што ён адмаўляе боль, бо тады яны здагадаюцца і «накіруюць яд па другой жыле». Сам знахар гаварыў, што змяіны яд мае чорны-чорны колер і ён моцна адрозніваецца «ад гарачай крыві». Для дзеда надта важным было і тое, каб яму дакладна паведамілі, дзе адбыўся ўкус. Пра гэта стары казаў, што яд у «вышэйшага гада» (які жыве на высокім месцы) — «спялейшы і небяспечнейшы, бо там жа сонца болей, і, вядома ж, калі чалавека ўкусіла гадзюка ці вуж у нізкай, забалочанай мясцовасці, то ў яго болей шанцаў застацца ў жывых, а ў некаторых выпадках нават не адчуць моцнага болю і перанесці такі ўкус на нагах». «Вось трохі паводзіць з боку ў бок, быццам бы п'янага, і ўсё на тым, праз ноч можа смела ісці на працу». Тлумачэнні, зразумела ж, у многім наіўныя, спрошчаныя, гаварылася так, як сам знахар усё гэта разумеў, але тым не меней адносна канцэнтрацыі яду ў «сухой» ці «мокрай» змей ён меў рацыю.

У в. Багданаўка Лунінецкага раёна, паводле народнай вусна-паэтычнай традыцыі, кожны яе жыхар ведае па некалькі «гадзючых»

замоў, бо вёска знаходзілася даўней у глухім лесе. Да таго ж, лес гэты быў высокі («сухі»), а, значыцца, гады ў ім небяспечныя ўдвайне. З адным такім народным знахарам, які быў родам з Багданаўкі, мне давялося сутыкнуцца, знаходзячыся ў бальніцы. Аб гэтай сустрэчы раскажу больш падрабязна, каб чытачам стала зразумела, чаму ж браліся і вылечвалі знахары хваробу. Як яны здагадваліся, што да чаго і нават маглі адчуваць прысутнасць чалавека, які перад гэтым стараўся схавацца непадалёку.

Мне сказалі, што ў суседняй вёсцы ёсць адзін дзед-знахар, які вельмі добра замаўляе ўкусы вужа і гадзюкі, ведае травы, якія дапамагаюць ад змяіных укусаў. Гаварылі, што гэты дзед замаўляе таксама завочна і яго нельга абмануць, бо ён усё ведае наперад...

Я выбраўся да яго ў нядзелю. Было гадзін дзевяць раніцы, калі я пайшоў з хаты. Да Дабраслаўкі (вёска ў Пінскім раёне) ад нас напрамую праз лес кіламетраў восем, таму я не вельмі спяшаўся. Дарога была добрая. Сонейка яшчэ не прыпякала, свяціла ласкава, нібы падахвочваючы мяне на задуманую справу.

Адразу, як толькі ўвайшоў у вёску, звярнуўся да першага ж сустрэчнага чалавека з запытаннем: «Дзе можна знайсці вядомага ў вашым наваколлі шаптуна?» Дзядзька, не спяшаючыся, уважліва аглядзеў мяне, а потым спытаў:

— А табе ён навошта? На ўкушанага ты не вельмі падобны...

— Што ж яму адказаць? — падумалася мне. — Укусіла мяне гадзюка яшчэ напачатку лета. Залячылі ў бальніцы, ды ўсё роўна адчуваю сябе не вельмі добра. Вось і параілі людзі звярнуцца да шаптуна, — прагаварыў я, бо трэба ж было неяк выкручвацца і адказваць на пытанне.

— А-а-а! — працягла прамовіў дабраславец і згубіў да мяне ўсялякі інтарэс...

— Дык дзе ён жыве, дзядзька? — зноў прамовіў я.

— А вось у той хаціне, ля самага лесу. Бачыш, ву-у-нь чырванее сцяна, — паказаў ён. — Толькі ты да яго рана ідзеш. Ён, мабыць, па лесе недзе галёкае. Дома бывае заўсёды пасля поўдня, а з раніцы заўсёды ў лес ходзіць. Нешта там шукае, выкопвае. А што — нікому асабліва не гаворыць, толькі пасміхваецца ды галавой ківае... Мая жонка да яго таксама пасля абеду пойдзе. Яе тры дні таму ў лесе нейкая зараза ўкусіла, яна й не бачыла. Аж пад вечар нагу распушыла і сцягно пачало сінець, дык мы да Сахвея завезлі (прозвішча знахара было Мохар). Сахвей яго завуць, шаптуна, значыцца. Ён паглядзеў толькі на нагу і адразу ж сказаў:

9 Зак. 1962

— Гадзюка ўгрызнула...

Потым стары пачаў распытваць, дзе гэта здарылася, у якім месцы, што там расло, якога колеру мох, высокі груд ці нізіна і г.д. Але жонка не памятала дзе, бо не бачыла, як яе гадзюка ўкусіла. Таму нічога пэўнага і зазначыць не магла. Тады Сахвей спытаўся:

— А дзе ты пачула, як за нагу нібы нешта ўшчыпнула?

— Ды ля груда, пад Яблынькай! — узрадавалася мая, — я там ля нейкай купіны чарніцы збірала, а потым прысела на калені, бо спіна ажно гарэла, во тады і пачула, як нешта пеканула, але я падумала, што гэта мураш укусіў... Мне яшчэ піць страшна захацелася хвілін праз дваццаць-трыццаць, дык я трывала-трывала і нарэшце не вытрымала і пакіравала дамоў. Па дарозе ў мяне галава ўсё кружылася, дык некалькі разоў адпачывала, ледзьве дацягнулася. Яшчэ ванітавала і сліну ўсю дарогу гнала.

— Вось, бачыш, і ўспомніла! — павесялеў стары. — Цяпер ведаю, што рабіць, чым табе дапамагчы на ногі ўстаць!

Потым ён нейкую траўку ў рукі даў. Яна пахла вельмі прыемна. Кіслага малака падсаліў і прапанаваў з'есці. Калі даваў, то перахрысціў міску і маю жонку. Даела жонка малако, дык стары вывеў нас у двор і пасадзіў маю на лаўку, пад грушай, яна ў яго пасярод двара расце. Даў ёй у рукі іголку, а мяне адправіў дахаты. Жонка сама дамоў прыйшла, можа праз гадзіну, праз паўтары...

Яшчэ раз схадзіла. А сёння пойдзе апошні, трэці. Сахвей заўсёды да сябе тры разы заклікае, а калі хто не можа прыйсці, то сам ідзе, таксама тры разы. Здараецца і за вочы шэпча...

— Дзякуй вам, дзядзька, — сказаў я і памкнуўся ўжо ісці, але той, ступіўшы да мяне які крок яшчэ, дадаў:

— Толькі праўду гавары, бо не будзе шаптаць, ён даведаецца ўсё роўна, і няспешна пакіраваў па вуліцы ў други канец вёскі.

Я таксама пайшоў да паказанай мне хаціны і па дарозе ўсё думаў: «Скажы праўду, што прыйшоў запісваць замовы і сам працэс варажбы, стары хутчэй за ўсё адмовіцца мне шаптаць. Гэтак рабіла пераважная большасць знахараў, да якіх мне даводзілася звяртацца. Яны тлумачылі свой адказ наступным аргументам:

— Мы шэпчам яшчэ, людзей лечым, калі прадыктуем табе, то замовы «адкрыюцца», усялякую сілу страцяць, разумееш?

Я асабліва тады не настойваў і прасіў расказаць што-небудзь такое, што б не губляла сваёй чарадзейнай сілы пасля запісу. Людзі звычайна задаволеныя маёй неабыякавасцю да іх справы, нагаварвалі мноства цікавага. Да таго ж падчас размовы нярэдка здаралася,

што знахар забываўся і шпарыў мне «цытатамі» са сваіх «забароненых твораў». Толькі паспявай запісваць ды галавой ківаць у такт словам.

Але што рабіць тут? Я быў вельмі ўсхваляваны атрыманай ад людзей інфармацыяй, тым, што дзед Сахвей чалавек вельмі сур'ёзны і своеасаблівы. Сказаць праўду — я быў перакананы, дзед абавязкова адмовіцца расказваць. Вырашыў, што скажу быццам бы гадзюка ўкусіла мяне даўнавата.

«Але ж ён будзе глядзець у рану, а яе няма,» — пранеслася думка. Я прысеў, зняў свае хромавыя боты і пачаў углядацца ў ногі, «шукаючы нейкую ранку». На ступні правай нагі ў мяне была бачна невялікая пухліна і нейкая драпінка. Каб яна была болей падобна на кусаную ранку, я падрапаў па гэтым месцы і зрабіў своеасаблівы чатырохкутнічак, які звычайна бывае ад укусу. Хуценька абуўся і пакіраваў далей...

На двары ў дзеда Сахвея нікога не было. Нават сабакі. Таму я, увайшоўшы ў вузкі дворык, пачаў углядацца, дзе ж можна ўбачыць старога. Гаварылі, што ў хаце летам ён нават не спіць, а робіць гэта на дубовай калодзе, якая ляжыць ля прызбы. Сапраўды: калода ляжала. Заўважыў я і грушу, і лаўку пад ёй, ля калодзежа. Ступіўшы колькі крокаў у глыбіню двара, я спыніўся і агледзеўся зноў. На дзвярах хаціны вісеў замочак, у агародзе старога не было відаць...

— Каго шукаеш, чалавеча? — нечакага прагучаў ззаду прыемны моцны голас...

Я, уздрыгануўшы, азірнуўся. Прама за спіной стаяў высокага росту стары. Чыста паголены. У белай вышыванай кашулі. З невялікім кошыкам. Стары, але вочы былі як у маладога, невыцвілыя, і ў іх скакалі вясёлыя агеньчыкі.

— Мне да дзеда Сахвея... — пачаў было я нясмела.

— Я і ёсць, чалавеча, той самы.

— Мне людзі казалі, што вы...

— Замаўляю, замаўляю.

— Мяне даўнавата, але... За правую нагу, і нешта дрэнна сябе адчуваю да гэтага часу.

— Ведаю, ведаю.

— Як бы, каб вы пашапталі...

— Пашапчу, пашапчу, толькі трэба разуцца.

Я паспрабаваў прысесці тут жа на траву, каб сцягнуць боты.

— Ды чаго ж тут, пайшлі вунь на лаўку, — мовіў стары.

На лаўцы я хуценька сцягнуў свае «храмачы» і чакаў, што ж будзе далей. Але Сахвей нават не глянуў у той бок. Ён нешта мармытаў сабе ў нос...

— Не кусала цябе гадзюка, хлопча! Каб яна там, дзе ты думаеш, утрызнула, то ты сваімі б нагамі з Чухава і зараз бы яшчэ да мяне не прыйшоў, сілы не хапіла б... Не магу я табе расказаць, не хачу. Ты не злуйся. Папі вадзіцы халодненькай ды кіруй дамоў, бо праз пару гадзін дожджык з навальніцай будзе... Не, не буду казаць, ідзі! — і стары зноў адвярнуўся.

Я паплёўся з двара, праклінаючы гэтую недарэчную сустрэчу. Столькі прайшоў і ўсё дарэмна. Трэба было, мабыць, праўду сказаць, а то дзед Сахвей здагадаўся. Адышоўшы, можа, з кіламетр у кірунку сваёй вёскі, я раптам успомніў: «Жонка ж таго дабраслаўца зараз павінна прыйсці лячыцца! У старога няма сабакі, прабяруся праз агарод і паназіраю хоць за самым абрадавым дзеяннем!» З гэтай думкай я рвануў назад. У канцы агарода плота не было, таму ніякіх складанасцей з яго пераадоленнем мяне не чакала. Нырнуў у разору і папоўз бліжэй да хаты, раздзіраючы густы бульбоўнік...

Дапоўзшы амаль да самой грушы, стаіўся і пачаў назіраць, але на двары нікога не было. Стары, мабыць, пайшоў у хату. Заўважыўшы ў колькіх кроках ад сябе нізенькі пограб з невялікім акенцам у задняй сцяне, я перапоўз у гэтае сховішча. Вось дык удача! Гэта быў сапраўдны назіральны пункт!

Рэзка скрыпнулі дзверцы, і ў двор зайшла жанчына. Ва ўсім белым. У хату яна не пайшла, а села на лаўку, на якой яшчэ зусім нядаўна сядзеў я, і стала чакаць. Жанчына была не старая. Гадоў сорак, мо сорак пяць ад сілы. Яшчэ даволі статная і прыгожая.

Адкуль з'явіўся дзед, я зноў не заўважыў. Ён падышоў да маладзіцы, павітаўся і сеў бокам да яе, нібы спецыяльна, каб мне было добра відаць, што ён будзе рабіць. Паміж імі адбыўся кароткі дыялог:

— Ну як?

— Добра. Нічога не баліць. Добра.

— Не ванітуе?

— Не.

— Галава не кружыцца?

— Ды не.

— Ну што ж, тады добра.

Дзед падаў жанчыне міску. Тая пачала есці. Мабыць, кіслае ма-

лако. Усяго некалькі лыжак. Калі з'ела, ён даў ёй у рукі, дакладней у правую руку, нож і пачаў шаптаць. Шаптаў некалькі хвілін. Потым хворая пачала моцна стагнаць і выпрамляць ногі, уздымаючы іх высока ад зямлі. Нечакана яна заціхла і супакоілася. Стары ўзяў яе за руку з нажом і паклаў сабе на калені.

— Так і трымай, галубка! — пачулася мне. Сахвей зноў пачаў шаптаць. Скончыў, відаць, замову і рэзка абярнуўся ў мой бок. Некаторы час нерухома глядзеў на пограб, потым тры разы плюнуў на зямлю, нешта сказаў і перахрысціў той бок двара, дзе я знаходзіўся. Пасля зноў пачаў штосьці рабіць. Што? Мне ўжо было не да гэтага, бо амаль адразу ў мяне пачало шумець у галаве, а потым я адчуў, што трымцяць калені... Я здагадаўся пралезці ў акенца і папоўз праз агарод у бок лесу. Колькі поўз — дакладна не ведаю. Ведаю толькі, што дапоўз. Аддегласць — крокаў 100—120, і болей нічога не памятаю...

Ачнуўся ў лесе пад разгалістай бярозай ад таго, што ішоў цёплы дождж. Над другім канцом Дабраслаўкі грымеў гром, і ягоныя раскаты аддаваліся, перакочваліся ў лясных абшарах. Падняўшыся і ашаломлена азірнуўшыся, я некаторы час увогуле не мог разумець, што здарылася... Крыху перачакаўшы дождж, прыпусціў дамоў...

Пра гэтае здарэнне я расказаў восенню другому знахару з вёскі Багданаўкі. Толькі я распавядаў нібыта не пра сябе, а пра свайго сябра. Дзед Нічыпар, хітра пасмейваючыся, адказаў:

— Вочы твайго... Кхе-кхе-кхе... сябра супалі з вачыма знахара. Вось і ўсё. Добра, што ўцёк. Магло здарыцца, дык і не выбраўся б з пограба... Трэба было не глядзець на старога, а галаву нахіліць долу або адвярнуцца.

У другім выпадку, зафіксаванай намі ўжо са слоў інфарматараў падзеі 20-х гадоў XX стагоддзя, адбывалася вось што. «Пад Яблынькай (мясцовая назва луга ля в. Чухава Пінскага раёна. — *А. Н.*) зграбалі сена. Быў вельмі спякотны дзень. Жонка захацела піць і па радках пайшла да канавы, каб напіцца вады. Нечакана яна моцна ўскрыкнула і кінулася бегчы назад да нас. Калі пачалі дапытвацца, што здарылася, то з-за плачу і енку ледзьве дачуліся, што вуж укусіў. Адны кінуліся да яе, а іншыя — на тое месца, дзе быццам бы вуж укусіў. Там была гадзюка, дык яе забілі. Укусіла яна жонку за палец левай нагі. Яна, бачыш, босая была. Хвілін праз дзесяць мая Зося ўся пачарнела, а з вушэй і носа пацякла сукравіца, пачало яе моцна ванітаваць. Мы хуценька паклалі жанчыну на воз і павезлі

да «Амерыканца» («Амерыканец» — ніякі ён не амерыканец, а звычайны вясковец, які некалькі гадоў запар быў у заробках у Канадзе, адтуль і мянушка. — *А. Н.*). Прывезлі ў хату, паклалі на лаву. Гаспадыня адразу ж дала напіцца сыроваткі, кіслым малаком намазала нагу, якую потым, паверх памазанага малака, завязала чыстым кавалкам палатніны. Адтуль зноў на воз і павезлі да Аляксея-знахара ў вёску, але ягоная дачка не прызналася, што ён дома. Хуценька пакіравалі ў бальніцу — гэта яшчэ кіламетраў з дзесяць. Завязлі туды, там урач зрабіў укол і параіў мне шукаць знахара, які б... замовіў нагу ад укусу... Калі вечарам зайшоў да Аляксея, то той адразу ж пагадзіўся пашаптаць. Як пашаптаў, дык жонцы, яна сама сцвярджала, на наступны дзень стала значна лягчэй. А шаптаў Аляксей завочна, не з'яўляючыся ў бальніцу. На назе, да калена, з'явіліся добра бачныя сляды ўкусу, нагадвалі яны адбіткі дубовых лістоў... Жонцы маёй тады было трыццаць два гады. Памерла яна маладая ад зляку. Спалохалася моцна і памерла. Змізарнела, ссохла, а потым і ўсё.

Таго славутага знахара поўнае прозвішча, імя і імя па бацьку было Банцэвіч Аляксей Афанасьевіч. Перад смерцю ён «перадаў» («пераказаў») свае замовы сыну. На нашую просьбу расказаць хоць адну з іх той адмовіў катэгарычна — не! Так і памёр, нікому не перадаўшы родавыя замовы-шэпты.

Колькі слоў, мабыць, патрэбна сказаць і пра самога Аляксея-знахара. Гэта быў гаспадарлівы, практычны чалавек, умеў чытаць і пісаць, добра ведаў народны каляндар. З вясны па восень, каб не праспаць і першым выехаць працаваць у поле, заўсёды спаў на двары, паслаўшы кажух на дубовую калоду. Хацеў, каб яму ўсе казалі: «Памагай Бог!» — бо ў адваротным выпадку ён будзе губляць свае знахарскія сілы. Вось такі быў чалавек, крыху дзіўнаваты, але людзям падчас гора ў дапамозе не адмаўляў.

А вось яшчэ выпадак запісаны намі ў той жа вёсцы. Маладога тады яшчэ хлопца Мішу, якому ўсяго было гадоў васемнаццаць (Нарывончык Міхаіл Мікалаевіч), на Вустрыцы (таксама назва ўрочышча ля вёскі) укусіла гадзюка. «Ішоў я напіцца вады ў суседні калодзеж. Бо ў свой нападала шмат мышэй і вада ваняла. Укус гадзюкі адчуў адразу, ён быў небалючы, вось як парэжаш нагу аерам. Паспеў заўважыць, што гадзюка была плямістая. Ранка нагадвала правільны чатырохкутнік. Адразу перавязаў вышэй укусу і пачаў выдаўліваць яд. З крывёй выцекла зеленаватая вадкасць. Бяда заключалася ў тым, што гадзюка грызанула за вену на ступні левай нагі.

Выпіў пасля гэтага літры са два халоднай вады. Хвілін праз дваццаць пачало моцна рваць і паносіць. Тэрмінова павезлі ў бальніцу. Адлегласць ужо і не такая малая — кіламетраў пятнаццаць. Па дарозе давалі піць, але ўсё зноў вырвала і да таго ж стала кружыцца ў галаве. Цякло з вушэй і з носа. Прывезлі ў бальніцу, далі пару ўколаў, стала крыху лягчэй. Урач параіў звярнуцца да знахара. Шапталі двое — ужо згаданы нам Аляксей і адзін стары з в. Багданаўкі. Палёгкі пасля шаптання асаблівай не адчуў.

Ляжаў у бальніцы роўна тры тыдні. Нага пухла, у шчыкалатцы была сорак пяць сантыметраў. Уся зрабілася сіняя. Праз два тыдні я папрасіў урача выпісаць мяне дамоў. Хоць стары багданавец, які ляжаў са мной у адной палаце, адгаворваў, але я настаяў на сваім. І на табе! Прыйшоў дамоў, а мяне зноў адкінула і па-ранейшаму пачало ванітаваць і паносіць. Давялося ў чарговы раз легчы ў бальніцу на паўмесяца. Малюнка на маёй назе не было, бо знахары сказалі, што вельмі многа яду гадзюка ўпусціла...

Прывядзем успаміны з кнігі «Святло таямнічага вогнішча».

«Мой дзядуля ведаў мноства замоў і вельмі часта дапамагаў людзям. Прыходзілі з усялякімі хваробамі. Калі шаптаў, то ўсіх, акрамя хворага, прасіў выйсці з хаты, а хворага — закрыць вочы. Мяне не выганяў. Я часцей за ўсё ў такія моманты сядзеў на печы і прыслухоўваўся, бо, гледзячы на ягоную варажбу, баяўся.

Калі замаўляў укусы вужа, то папярэдне даваў укушанаму выпіць кіслага малака, перад гэтым яго падсаліўшы. У руку (здаецца, у левую) браў свечку, якая была зроблена зператопленага вужынага сала. У яе дзед укладваў некалькі іголак, з-за чаго пастаянна сварыўся з бабуляй, бо, бачыш, іголкі ж былі тады надта дарагімі. Даваў хвораму піць яшчэ нейкі адвар. Адзін раз я спытаўся, што за ён? То дзед адказаў — завараны сунічнік. Бо ў сунічніку гэтыя гады найбольш водзяцца. Шаптаў дзед не адну замову, ■ некалькі запар. Некаторыя паўтараў па тры разы. Апошнюю заўсёды вымаўляў уголас. Яна была як закрэпка і мела найбольш моцную лячэбную сілу. Гучала гэтая замова вось як:

Вужышчэ, вужышчэ!
Аддай свой ядышчэ!
Забыры свое жало,
Шчо мэнэ кусало.
Як його нэ забэрэш,
То сам сэбэ заб'еш.
Утыкай, вужышчэ!
Забырай ядышчэ!

Людзі пастаянна дзякавалі дзядулю, а гэта было для яго найбольшай платай, бо болей нічога з людзей сабе не браў. Калі хто-небудзь яму не дзякаваў пасля вылячэння, то таму болей не дапамагаў.

Яшчэ бабуля мая па маці (дзядуля быў па бацьку) ведала многа замоў ад гадзю-

чых укусаў. Яна гаварыла, быццам бы вужыны ўкус замаўляць значна цяжэй, чым гадзючы. І замаўляла, у асноўным, толькі ад гадзюкі. Многім дапамагала. Памятаю, некалькі разоў яна нічога не магла зрабіць. Тлумачыла гэта тым, што гадзюка кусала за галаву і твар, дзе знаходзілася душа. Тады бабуля шаптала толькі замову ад пасінення, каб чалавек, які знаходзіўся ў цяжкім стане, не апух і не пасінеў. Не ўсе людзі, якім старая не дапамагала, паміралі. Некаторыя выжывалі самі па сабе, але ім бабуля не дапамагала. Гэта яна гаварыла сама. Каб ёй не прыпісвалі «лёсу» (г.зн. таго, што ўкушаны выжыў дзякуючы свайму лёсу, наканаванаму яму Усявышнім. — *А. Н.*).

Часта пра гадаў гаварыла, што зімой яны, калі ўпадаюць у спячку, становяцца ломкімі, нібы шкло. Дзед казаў, што іх можна было ламаць, крышыць, здрабняць і сціраць у парашок. Потым узяць гэтыя кавалачкі, вынесці на вясновае, яркае сонейка, і яны ажывуць. Прычым ажывуць нечакана, у самы непатрэбны момант, калі ты адвернешся. А глянеш назад на тую гурбу — вакол поўзаюць гадзяняты, вужаняты, слімені малыя. У залежнасці ад таго, чаго болей было ў гурбе сярод пацёртых кавалкаў. І ў прыродзе ўсё да вясны становіцца ломкім, але не гнуткім, таму калі нешта зламаць, то да вясны яно не выправіцца. Гады ж, пасля таго як на іх трапляюць цёплыя сонечныя прамяні, ажываюць і становяцца небяспечнымі.

Бабуля зялёным лісцем цыбулі націрала ўкушанае гадзюкай месца. Потым намазвала кіслым малаком і давала піць сыроватку. Вада тут не дапамагала. Чалавека ж вельмі моцна ванітавала, і яму ўсё роўна ўвесь час хацелася піць, бо сярэдзіна гарэла, асабліва калі кусала за жылу (вену). Яго ўсяго калаціла, трасло, а калі яшчэ даведваўся, што гадзюка ўкусіла, бо ў некаторых выпадках нават не паспявалі заўважыць, як яна гэта рабіла, — палохаўся. Усё гэта, разам узятае, і дабівала бедалагу. Спачатку цела пачынала пухнуць, чалавек гаварыў абы-што, памяць губляў, потым — трызніў, і гэта цягнулася не адзін дзень. Некаторых нават узняць нельга было, каб завезці ці завесці да знахара. Тады шэпчуць завочныя замовы. Дзядуля мой шаптаў толькі ў прысутнасці хворага, а вось бабуля магла па-рознаму: і так, і гэтак. Я таксама магу замаўляць на адлегласці, але ж раблю гэта значна горш, чым яна сама. Бабуля, перш чым замаўляць, старанна мыла рукі і твар. Потым сама пераапраналася ва ўсё чыстае і прыступала да справы. Перад гэтым яшчэ нейкую ці малітву, ці замову шаптала. Рыхтавала свой дух, напэўна. Але ў час замовы, добра памятаю, нічога іншага не рабіла.

Калі ўкушаны чалавек знаходзіўся ў хаце, то яна саджала яго насупраць сябе, крыху ўлева. Брала за запясце левай рукі і пачынала замаўляць. Шаптала ціха, што гаварыла — ніхто не чуў. Мне яна толькі некалькі замоў і малітваў (!) ад укусаў сабак расказала. Прымушала пацярпеўшага ўвесь час глядзець ёй у вочы. Здаралася, што чалавеку ад яе погляду рабілася дрэнна, тады яна брала яго за абедзве рукі і ласкава супакойвала. Бачыў, як адзін раз укушанага сліменем увесь час страшэнна трэсла. Ён нават гаварыць нічога не мог. Бабуля потым сказала, што ўкус надта ж моцны, калі крыху спазніліся б, то чалавек сканаў бы і ніхто не здолеў бы дапамагчы. Хоць сама казала, быццам ад укусу сліменя няма ніякіх замоў ці лекаў. Такі страшны ўкус і яд у гэтага гада.

Аднойчы, калі зашэптвала ад укусу малую, гадоў сямі—дзевяці дзяўчынку, то, каб тая не плакала, дала ёй у рукі нейкую засушаную кветку. Пад канец замовы мне здалося, што кветка гэтая неяк дзіўна засвяцілася і дзяўчынка павесялела. Дамоў яна пайшла сама, побач з бацькамі, а да нас яе прынеслі. Бабуля, гледзячы ім услед, усміхнулася і сказала: «Здаровая ўжо мая маладая!» (у значэнні нявеста. — *А. Н.*).

Аднаго разу зашэптвала старога чалавека. Дык уголас сказала яму: «У цябе, Мартын, кроў халодная, няма чаго нейкага гада баяцца!» І сапраўды, той дзед нават не апух і прыйшоў у нашу хаціну сам. Бабуля растлумачыла потым, што ў маладых людзей кроў гарачая і яна вельмі хутка злучаецца з ядам, а ў старых наадварот — халодная, і яд на яе дзейнічае марудна. Старыя і не пухнуць таксама, бо іх жылы не баяцца гэтага. Вось толькі калі за шыю ці за твар гадзюка ўкусіць, то прыйдзецца многа з імі павазіцца.

Бабуля заўсёды сцвярджала, што чалавека, які не бачыў, як яго кусала гадзюка, вылечыць значна лягчэй, бо ён не баіцца, яго не калоціць ад страху. Гаварыла таксама, што яе замовы вельмі слаба ўздзейнічаюць на родзічаў. «Свая кроў дрэнна лечыцца», — вось як старая гэта тлумачыла. Свайму дваюраднаму брату яна зашэптвала разоў пяць, хаця звычайна людзям шаптала не болей трох (!) разоў».

Своеасаблiва ў народных павер'ях распавядалася і пра тое, як быццам бы паводзілі сябе людзі, якіх кусаў вуж. Тут, вядома ж, адчуваецца надуманасць, багатая фантазія. Бо як ужо магло атрымацца інакш, калі сам факт ядавітасці вужа быў проста немагчымым. У гэтай істоты няма яду. Але тым не менеей інфарматары сведчылі даволі «праўдзіва». «Ляжаў на палку ён (укушаны. — *А. Н.*) за печчу. Стагнаў, трызніў, крычаў не сваім голасам, бо вельмі ж надта, мусіць, яму балела. Спаць нікому на даваў, прасіў піць, а калі давалі, то праз некаторы час ваду вырывала, а лягчэй не станавілася» (УЗ. Гом.); «Укусіў вуж яе за правую нагу, ля косткі, дык за лічаныя хвіліны нагу так распёрла, што стала, як калода. Сіняя ўся, потым пачала гарэць. Праз некаторы час усё цела стала пухнуць і гарэць. Тыдні тры хадзіць не магла, нават не ўставала. Не ела доўгі час, толькі піла і стагнала» (УЗ. Пн.); «Калі яго вуж цапнуў за шыю (спаў на балоце, на ўзгорачку), то ён апух увесь, як гарбуз. Вачэй і тых не відаць, а толькі шчылінкі. Чорны зрабіўся, бы вугольчык, страшны. Не хадзіў, толькі ляжаў, і варочацца спачатку цяжка было. Піць давалі — дый годзе» (УЗ. Гом.); «Чорным цела рабілася не адразу, а праз некаторы час, калі вужовы яд пачынаў у кроў усмоктвацца. Вось тады толькі і трымайся! Крычыць чалавек, стогне, рвецца, і ніхто яму дапамагчы не можа. Страшна станавілася, гледзячы на такіх людзей» (УЗ. Пн.); «Сукровіца цякла з носа і з вушэй, а сам увесь быў чорна-сіні, бо і яд вужыны, кажуць, чорны. Потым, калі чалавек выжываў і ўсё праходзіла, то скура на целе пачынала лупіцца» (УЗ. Лун.); «Бывала, як укусіць вуж чалавека, то таго, як ліхаманка, калоціць. Дрыжыць увесь, крычыць, стогне, выкручваецца, са скуры гатоў вылезці, а нічым не дапаможаш. Яд надта моцна вужыны дзейнічаў. Гаварылі, што разы ў два мацней за гадзючы» (УЗ. Сл.).

Безумоўна, у старадаўнія часы ўсе спадзяванні родных хворага былі звязаны з вясковымі знахарамі, якія і павінны былі вярнуць да жыцця ўкушанага. У тыя часы лячылі толькі ім адным вядомымі дзеяннямі і словамі. Сцвярджалі, што ад укусу вужа, гэтаксама, як і ад укусу гадзюкі, вельмі дапамагала кіслае малако. У гэтым не было амаль нічога дзіўнага. Нашы прашчуры слушна заўважылі, што чалавек, якога ўкусіў гад, праз некаторы час хацеў піць. Яго сушыла, а кіслае малако, вядома ж, было добрым сродкам: «Калі яго вуж укусіў і ён пачаў пухнуць, то ўсё прасіў піць, тады яму знахар кіслага малака падсаліў і даў выпіць. Хворы адразу павесялеў, толькі ненадоўга. Потым зноў сушыць пачало і трэсці» (УЗ. Жытк.); «Ад вужа кіслым малаком раней толькі і ратаваліся. Кожны чалавек гэта добра ведаў і таму мог і без знахара на першы раз дапамагчы. Асабліва, калі ад малака аддзялілі сыроватку» (УЗ. Петр.); «Ад вужа, як і ад гадзюкі, дапамагала кіслае малако. Сама лепей, каб яно было перастаялае і надта ж кіслае, тады самы раз. Трэба малако даваць часта, праз кожныя паўгадзіны. І хворага сушыць не будзе, трызніць ён перастане, але пухліну гэта не вельмі здымае» (УЗ. Петр.); «Малаком кіслым укушанага вужом адпойвалі. Многа яго давалі, і нават калі не хацеў піць, то ўсё роўна прымушалі піць. Чым болей піў, тым лягчэй яму станавілася. Здаралася, што кіслае малако і не дапамагала. Тады давалі звычайную ваду. Добра, каб адразу з калодзежа, халодную і таксама каб выпіў як мага болей» (УЗ. Акц.); «Калі хто ведаў, што яго ўкусіў вуж, то сам тут жа стараўся найперш кіслага малака наесціся, каб той страшэнны боль зняць, калі па целу адразу ж разліваўся і ўсе рухі таму адымала» (УЗ. Пн.); «Кіслым малаком укус вужа лячылі таму, што хацелі перабіць уздзеянне вужынага яду. Малако — белае, а яд сам па сабе — чорны. Вось і атрымлівалася, што чым болей малака вып'еш, тым болей яд разбаўляецца і не так моцна ўздзейнічае на ўсё астатняе» (УЗ. Петр.); «Не толькі халодную ваду давалі піць, але і кіслае малако таксама, якое, як лічылі, болей дапамагала ад укусу вужа, чым што іншае. Малаком толькі і ратаваліся раней. Малаком ды яшчэ шэптамі. Вось і ўсе лекі, якімі пераважна карысталіся» (УЗ. Ветк.).

У некаторых выпадках кіслае малако не толькі давалі піць, але і націралі ім укушанае месца. Лічылі, што такім чынам можна зняць гарачку і дапамагчы чалавеку пратрымацца першы самы цяжкі час: «Малако кіслае давалі піць. Яго падсольвалі і давалі, каб надта не сушыла. А яшчэ, добра памятаю, некаторыя і цела там,

дзе вуж угрызнуў, націралі кіслым малаком і потым замотвалі белай палатнінай. І хвораму станавілася намнога лягчэй: боль сунімаўся і пухліна спадала. Чалавек тады ўжо мог спакойна спаць і есці. Хадзіць не мог, ды яму і не дазвалялі, пакуль не адляжыцца» (УЗ. Пн.); «Малаком націралі, асабліва калі пухліна ў нейкім месцы рэзка бралася і цела круціць пачынала. Тады кіслым малаком мазалі. Такім, каб густое было, і намазвалі. Пад палатніну звычайна, бо іншай жа матэрыі не было, толькі палатніна. Закруцяць, як ляльку, і ляжыць, стогне. Кажа, што яму лягчэй, а на самой справе хто ж яго ведае, лягчэй ці цяжэй яму. Мо лягчэй і рабілася ад таго, што мокрым накрывалі ўкушанае месца» (УЗ. Ганц.); «Не заўсёды, але кіслым малаком выратоўвалі тых, каго вуж кусаў. Давалі есці яго, а таксама націралі яшчэ тое месца, дзе ён угрызнуў. Потым абмотвалі белай палатнінай і туга завязвалі, каб не давала пухнуць» (УЗ. Івац.).

Найбольш пашыраным і глыбокім у нас выйшла апавяданне пра тое, як паводзілі сябе знахары падчас вылячэння хворых ад гадзючых і вужыных укусаў, бо па гэтай тэме даводзілася працаваць многа і раней, таму па ёй сабраны значныя запісы.

Але і адносна іншых замоў, якія былі накіраваны на засцеражэнне і вылячэнне людзей і жывёл, а таксама на засцеражэнне гаспадарчых пабудоў, ураджаю, на спрыянне ў справах і занятках, у нас ёсць даволі цікавыя прыклады. Асабліва ўражваюць тыя магічныя дзеянні і словы, якія знахары выконваюць над сваімі дзецьмі.

«Ой, што раней тварылася! Памятаю, як я малою была, а хварэла мая яшчэ меншая сястрычка. Яна тады так і не выжыла. Памерла. То да яе падчас хваробы прыходзіла старая знахарка. З нашых хутароў. Старая-старая, але прыходзіла сама, бо тлумачыла, што калі яе падвязуць, то акажацца, быццам бы яна не па ўласнай волі з'явілася ля хворай і адпаведна словы яе ды дзеянні не здолеюць перамагчы хваробу, прымусіць яе адступіцца. Як уваходзіла ў хату, то падыходзіла да малой, сядала і, не міргаючы, доўга-доўга ўзіралася ў яе твар. Потым некалькі разоў абыходзіла вакол калыскі, у якой ляжала мая сястрычка, спынялася, тройчы хрысцілася і толькі тады ўжо пачынала шаптаць. Яна не тое, што шаптала, а неяк вымаўляла ўсё ў паўголаса, але якія гэта былі словы, то сказаць не магу, бо і даўно надта было і не чула нічога выразна. Пасядзіць бабулька, а потым зноў усё па-новаму паўторыць. Калі адыходзіла, то пакідала нейкае зелле і загадвала яго завар-

ваць і даваць хворай піць. Так тры ці чатыры разы прыходзіла, а апошні раз я ўжо добра чула, што старая знахарка сказала майму бацьку, што хваробу нельга адагнаць, бо яна вельмі запушчаная. Вось, каб яе раней клікалі, а тут застаецца толькі спадзявацца на Усявышняга, на ягоную літасць» (УЗ. Пн.).

«Даўней дзеці часта вельмі хварэлі. Сем'і вялікія былі, сядзець з малымі надта не выпадала. Навокал голад, холад, бруд, неахайнасць. Усё гэта і касіла малых, як якою касою. А лекі-спадзяванні былі толькі на знахара, на тое, што ён здолее ўсё абрабіць належным чынам. Да нас, калі мой братка хварэў, то клікалі нашага суседа. Яго ўсе лічылі вялікім знахарам. Бо ён не толькі на людзей шаптаў, але і на жывёлу, і на гаспадарку. Звалі яго Франэкам. Прыходзіў, ні з кім не вітаўся ў хаце, а толькі прасіў, каб яго падвялі да хворага. Адразу браў таго за руку. За левую. Станавіўся на каленцы, пачынаў шаптаць. Шаптаў свае словы, але іх нельга было разабраць. Калі заканчваў шаптанне, то тады тройчы жагнаўся і ва ўвесь голас прамаўляў: *«Божа памажы! Божа, стань на дапамогу!»*. Так скажа, а потым плюне тройчы праз левае плячо, адыдзе ад хворага, пасядзіць разам з усімі ля печы. Тлумачыў гэта тым, што яму трэба адысці, набрацца сілы, каб зноў шаптаць над хворым замову. Рабіў усё тры разы і за апошнім разам цалаваў братку ўсё ў тую ж руку. Значыцца, выклікалі яго вечарам ці раніцай. Днём Франэк шаптаць ніколі не браўся. Хоць прыходзіў проста так пасядзець. Тады гаманіў пра ўсялякія хатнія справы, выпытваў, як здароўе малога, але ніякіх шэптаў не было. Яшчэ памятаю, што некалькі разоў ён вымаўляў апранутым і ў шапцы. Казаў бацькам, што робіць гэтак спецыяльна, каб напалохаць хваробу, прымусіць яе ўцякаць. Шапка ў яго на самой справе была надта страшная, але невядома, ці была яна страшней за лысы чэрап Франэка, які свяціўся, як гарбуз. Ваду ці нешта такое з сабою не прыносіў, а набіраў у конаўку з вядра, шаптаў над ёю малітву ці замову і гаварыў, каб гэтую ваду, толькі ўжо добра падагрэтую, давалі хвораму піць, як толькі таму захочацца. Франэк той шаптаў для многіх людзей, і казалі, што не было такога выпадку, каб нехта памёр пасля ягонай дапамогі. Такі моцны знахар быў, ён і пражыў болей за сто гадоў. А памёр на сваіх нагах. Быў у полі і нешта, мабыць, адчуўшы, звярнуўся да суседзяў: «Хлопцы, падвязіце, бо не дайду». Так і памёр на возе. Дамоў яго ўжо нежывога прывезлі» (УЗ. Пн.).

«Мая бабуля добра замаўляла дзіцячы спалох. Яе часта людзі звалі да сябе, каб дапамагала. Нікому старая не адмаўляла, бо каза-

ла, што божыя людзі і грахі божыя на сабе нясуць. Усё ад Бога, так у яе вялося. Сама павязвала светлую хусцінку, чыста-чыста мылася і ішла. Часта брала мяне з сабою, то я і ведаю, як і да чаго яна рабіла. Заходзіла ў хату, ціхенька віталася, на абразы тройчы хрысцілася і кіравала да дзіцяці. Калі яно было надта малое, то брала яго на рукі. Клала на сваю левую руку, прыціскала да грудзей і шаптала замову. Калі шаптала, то глядзела толькі на малое. Галаву не ўздымала, а глядзела і глядзела ў дзіцячы тварык. Што бабуля вымаўляла — нельга было сказаць, бо слоў нельга было разабраць. Большае дзіця, то садзіла сабе на левае калена і зноў вымаўляла над ім замову. Да трох разоў. Потым, ужо заканчваючы, нібы зацвярджаючы ўсё, тройчы плявала праз плячо (левае) і ўголас ужо вымаўляла: *«Госпадзі Божа, памажы!»* Звычайна шаптаць ішла пад глыбокі вечар, перад ноччу, калі ўжо збіраліся хворае малое класці спаць, а яно крычала, плакала, не давала адпачываць стомленым людзям. Бабуля, калі вышэптвала добра, то хворае адразу і засынала. Старая магла сказаць, ад каго дзіця так спалохалася, ці ад чаго ўсё гэта паднялося. Магла зайсці да таго чалавека, які спалохаў малое, і выгаварыць яму за ўсё. Мала гэтага, дык яшчэ прымушала таго вяскоўца (ці вяскоўку) прыйсці ў хату да бацькоў, дзе хварэла сапсанае імі дзіця, і крыху пастаяць, пакуль яна будзе шаптаць. У такім выпадку, тлумачыла бабуля, зляк (спалох. — *А. Н.*) адразу пераходзіў на дарослых, на тых, ад каго ён сыходзіў. Нешта там каб брала ў рукі ці нечым іншым пагражала хваробе, такога не было, а, магчыма, што і было, але я з-за таго, што была малая, не запамятала» (УЗ. Жытк.).

Калі параўноўваць замовы, якія былі накіраваны на вылячэнне ад розных хвароб, то і нейкія «супрацьдзеянні», што ўжываліся ў магічных рухах, абрадах, таксама былі адрознымі. Не сакрэт, калі гэта быў вышэйпрыведзены зляк, то і рухі знахара ці знахаркі таксама накіроўваліся на тое, каб адвадзіць ці нават «напалохаць» гэты «зляк», ці прымусіць злякацца тых людзей, якія яго «накінулі». Калі ж гэта была ліхаманка ці ў дзіцяці рэзаліся зубы, то, адпаведна, рабілася нешта такое, што надта нагадвала сабою «забіццё-выгнанне» ліхаманак ці «хутчэйшае выцягванне зуба з цела». Нашы продкі былі цвёрда перакананы, што калі яны напалохаюць ліхаманку, упросяць, прымусяць яе пакінуць хворае дзіця ці калі найхутчэй «выцягнуць зуб» да звычайнага памеру, то адразу ж знікне боль. Вядома ж, сёння многае можа выклікаць скепсіс, нават іранічную ўсмешку, «што, маўляў, там такога важнага, знайшлі чым здзівіць,

няпраўда ўсё гэта і г.д.», то ў патрыярхальнага чалавека такіх думак ніколі не ўзнікала. Яны проста не маглі ўзнікнуць у сілу таго, што далёкі прашчур нават баяўся дапусціць такую крамольную думку адносна адмаўлення цудадзейных магчымасцей і здольнасцей знахароў, бо, па-першае, пакрыўдзяцца тыя, у вобліку каго ён бачыў сваіх адвечных заступнікаў, не дапамогуць яму болей, а, падругое, яны ж маглі не проста пакрыўдзіцца, не проста болей не прыйсці ў патрэбны момант, але і самі наслаць на такога няўдзячнага чалавека ўсёмагутную бяду, пошасць, хваробу і гора. Такое пастаяннае «зазіранне» нашых продкаў наперад, дзеянне па адвечна вядомаму прынцыпу, што «не плюй у крыніцу, бо давядзецца абавязкова з яе напіцца», прывучвала людзей да святой веры — здольнасцей-магчымасцей спагадлівых знахароў, пераконвала ў тым, што лепей лішні раз асцерагчыся, не злаваць нейкую, увогуле незразумелую і невытлумачальную для іх сілу, бо мала што магло здарыцца. А хіба мала ўсялякіх недарэчных смяротных выпадкаў сустракалася ў жыцці? Хіба іх тлумачылі нечым іншым, акрамя праявы «ліхога», або непасрэдны вынік ягоных злачынных намераў і дзеянняў? Таму, асабліва ў старых запісах, працэс перадачы замовы, яе выканання, нагадвае сапраўдны магічна-міфічны рытуал. Прыгадаем у гэтым плане запіс П. Шэйна, атрыманы ім ад аднаго са сваіх карэспандэнтаў: «Знахарцы Арыне Максімавай гадоў 50; яна жанчына бойкая, жывая. Я даўно пра яе чула, але нягледзячы на тое, што я неаднаразова запрашала яе да сябе, ісці да мяне яна ніяк не хацела, пакуль не даведалася, што ў мяне бывае вядомы ў нашых вёсках знахар Якулёнак. Тады яна згадзілася і ў сваю чаргу прасіла, каб я ёй расказала Якулёнкаву замову ад гадаў. Гэтай замовай ён заслужыў сабе вядомасць ва ўсіх навакольных нашых вёсках. Вымаўляючы замову, Арына вельмі хвалявалася, саскаквала з крэсла, жагналася на куткі, малілася сама і мяне прымушала чытаць малітву. Пасля кожнай замовы яна брала мяне за правую руку, моўчкі трымала яе даволі доўга, гледзячы мне прама ў вочы. Яна распавяла мне яшчэ некалькі замоў, але я не паспела іх запісаць. Усёй гэтай мудрасці яна навучылася ад сваёй бабулі, якая была вядомай варажбіткай і магла наклікаць зло. Я ўпэўнена, што і Арына гэта ўмее, але ў гэтым прызнавацца не жадае»[1].

С. Максімаў пісаў у свой час: «Таму і завуць знахароў «шаптунамі» менавіта за тыя замовы ці за таямнічыя словы, якія шэпчуцца над хворым ці над травамі. Замовы ўспрымаюцца ці вусна ад настаўнікаў, ці з пісьмовых запісаў, якія ў шматлікай колькасці распаўсю-

джаны сярод граматнага вясковага насельніцтва пад назваю «кветнікаў», «траўнікаў» і «лячэбнікаў». Вымаўляюцца яны паўшэптам, з мэтаю, каб не пачуў выпадковы чалавек (інакш замовы не маюць ніякага значэння) і каб яны засталіся неад'емнай уласнасцю адных толькі знахароў. Суправаджаюцца замовы рознымі рухамі рук і вуснаў для таго, каб утрымаць сілу слоў ці, як гаворыцца, «запячатаць замок». Знахары, нават цалкам перакананыя, таксама здзяйсняюць гэта, хоць яны ў многім адрозніваюцца ад чараўнікоў, сярод якіх многа прытворшчыкаў, якія прынялі на сябе гэтае прытворства для карыслівага падману»[2].

Ад чаго б не падкідвалася ў чалавека хвароба, знахар, як і ўсе астатнія людзі мінулага, быў цвёрда перакананы, што ўсялякая хвароба — гэта жывая істота. З ёю трэба адпаведна размаўляць, звяртацца да яе з усемагчымымі просьбамі ці захадамі, дапытвацца, патрабаваць адказаў. Не дзіўна і тое, што знахар нават можа даволі спакойна вызначаць, якая ж канкрэтная хвароба напала на чалавека, да якога яго выклікалі.

Усё той жа С. Максімаў адзначаў і пэўныя цяжкасці ды складанасці, якія суправаджалі нават спагадлівых знахароў у будзённым жыцці. Справа ў тым, што нават ноччу «знахару нельга запаліць агонь у хаціне ці пратрымаць яго даўжэй за іншых, каб іншыя ні ў якім разе не падумалі, што знахар рыхтуе нейкае зелле, а нячысцік яму дапамагае. Але, жывучы ў становішчы падазроных, знахары, тым не меней карыстаюцца вялікай павагай у сваім асяроддзі. Тлумачыцца гэта тым, што знахарамі становяцца людзі, звычайна старыя, адзінокія халасцякі ці бабулькі-ўдовы і перастарэлыя дзяўчаты, якія не сталі чарніцамі (манахінямі. — *А. Н.*) таму, што хацелі быць лекаркамі і варажбіткамі. Становішча падазраваемых нявольна робіць знахароў злёгку суровымі і вельмі самалюбівымі і самаўпэўненымі. Але і падбіраецца сюды народ не толькі кемлівы, але і станоўча адрозны ад іншых на цэлую галаву. Ад таго ў знахароў не атрымліваецца з суседзямі ні асабліва блізкага сяброўства, ні хлебасолля, ні шчырых размоў: таямніца больш усяго ім на руку. Але ў той жа час іх цікавяць чужыя размовы, вясковыя навіны, узаемныя суседскія адносіны. Зойдзе знахар у карчму ці ў харчэўню, сядзе непрыкметна ўбаку і прыслухоўваецца: у каго ўкралі кабылу, звялі карову, на каго падае падазрэнне і на кім яно. Пасля шуму і агульных спрэчак спыніцца. Як разумны чалавек, падбіраючы ў запас дробныя крышкі, ён зможа потым у іх разабрацца, а дурная вёска думае, што калі мужык умее

лячыць, дае разумныя і добрыя парады, то павінен жа ён і знахарыць, і варажыць, і адгадваць. Калі ён умее вылечваць жывёлу, — разважаюць вяскоўцы, — то чаму яму не вылечваць і людзей? Дапамог ад адной хваробы, чаму ж тады, не павінен дапамагчы ад усіх? Пры такіх рэчах не дзіўна, што ўся вылячальная справа ў вёсцы трымаецца на знахары»[3].

Цікава падкрэсліць і тое, як С. Максімаў тлумачыў сваім чытачам перавагу жанчын-знахарак перад мужчынамі: «Яна (жанчына-знахарка. — *А. Н.*), так мовіць, дапаўняе знахара па той прычыне, што бываюць па жаночай частцы такія справы, у якія мужчына ніяк не здолее пранікнуць. Бабулькі-павітухі працуюць цалкам незалежна, на свой страх і адказ, прычым у некаторых выпадках ім нават аддаецца перавага перад мужчынам-знахаром, бо бываюць такія хворыя, дзе толькі жаночая рука, ласкавая і мяккая, можа прынесці сапраўдную карысць. Так, напрыклад, пры запаленні вачэй усюды і паўсюль давяраюцца вылячэнню ў выключна адных знахарак: ніхто лепей іх не здувае бяльма, нікому так лоўка не ўдуваць у вока квасцоў, змешаных з яечным бялком. Заверх таго, бабулька значна шчырэйшая за знахара: яна забяжыць да свайго хворага разы тры на дзень У вылячэнні дзіцячых хвароб таксама няма роўных знахаркам, хоць і па «сардэчных» справах яны не страцілі заслужана здабытую славу. Яны ахвотна бяруцца здуваць сум з таго чалавека, які пазбавіўся кахання, але прымусіць кахаць не могуць, так як «прысуха» — справа грахоўная і даецца толькі чараўнікам»[4].

Паводле І. Сахарава, вопытны знахар мог вельмі лёгка ўказаць на чараўніка, на таго чалавека, ад якога сыходзіць зло, г.зн. «адкрыць» яго перад усімі шчырымі людзьмі. «Прымхлівыя пасяляне спадзяюцца, што чараўнік ёсць істота, якая адмовілася ад людзей, Бога і паяднался з нячыстай сілай на пагубу людзей. Але так як чараўнікі хаваюць сваё мастацтва і толькі шкодзяць спадцішка, то простыя людзі вырашылі адкрыць сваіх згубнікаў.

Пасялянін, падазраючы свайго суседа ў чараўніцтве, прыходзіць да знахара за парадамі. Большая частка людзей, якія ўпадаюць у гэтае падазрэнне, бывае сямейнай, маючых хворых дачок і сыноў. Знахар, дамовіўшыся за вялікую плату, раіць яму дачакацца 25 сакавіка. У ракавы дзень ён павінен, пасля ютрані, сесці на кабылу, якую не шкада, тварам да хваста, ездзіць па паселішчы, не адварочваючыся назад. Калі выедзе за ваколіцу, то павінен глядзець на коміны. У гэты час нячыстая сіла праветрывае чараўнікоў, якія вісяць у паветры ўніз

галавою. Калі пасялянін вяртаецца назад, то нячыстая сіла разрывае кабылу на кавалкі, а ён сам ці памірае ад страху, ці навечна застаецца звар'яцелым. Але так як апошняя ўмова вельмі ўплывае на ўяўленне прымхлівага, то ён не рашаецца на такую паездку і просіць паездзіць за сябе знахара. Знахар доўга адмаўляецца, потым таргуецца за паездку і, атрымаўшы падарункі, абяцае адкрыць злога чараўніка. Жэрабя адкрыцця заўсёды падае на таго, каго падазрае пасялянін, хоць знахар сам ніколі і не думаў ездзіць па вёсцы для адкрыцця чараўніка.

Адкрыццё чараўніка лічыцца верхам мастацтва знахара, і пасяляне, распавядаючы пра ягоную магутнасць, кажуць: «Ён такі моцны, што даведаецца пра ўсе думкі і выскажа ўсе справы свае, бацькавы, дзядулевы». На шчасце чалавецтва, што нашыя знахары — людзі негpаматныя, закаранелыя ў перажытках, людзі, памешаныя на сваёй магутнасці, абыякавай і зманлівай для іх і ўсіх астатніх»[5].

Згадаем пра тое, што нашыя далёкія продкі лічылі ў абавязковым парадку, быццам бы нараджэнне ў чалавека любой хваробы — гэта не што іншае, як адкрытая праява... «зглазу». Менавіта ён, як пераканаўча і даволі-такі аргументавана даказвалі нашы прашчуры, быў прычынай (а можна сказаць, што і вынікам) усяго самага непажаданага, страшнага, а з другога боку, і ўсяго «чорнага», «цемрашальскага» ў жыцці патрыярхальных продкаў. Няма хваробы, якая б не пайшла ад гэтага ўсеагульнага зла. Аднак знахары, у сілу сваіх заняткаў, усё ж стварылі не адзін сродак, не адзін метад, пры дапамозе якога, быццам бы, а інача жа ім проста нельга было, можна спакойна пазбавіцца ад суроку, ад яго згубна-страшэннага ўплыву. Вось асноўнае, але не дакладнае да драбніц, бо ў кожнага нават паасобна ўзятага знахара яна можа нечым адрознівацца. «Бяруць конаўку, набіраюць у яе вады з вядра, якую яшчэ ніхто не піў. Маецца на ўвазе, што не піў ваду, прынесеную на гэты раз у вядры. Потым дастаюць з печы тры вугельчыкі, бяруць чацвярговай (буйной) солі. Усё гэта кладуць у конаўку з вадою, дзьмухаюць на яе тры разы, а потым гэтак жа тройчы сплёўваюць на бок. Пасля гэтага быццам бы выпадкова пырскаюць на хворага чалавека тры разы, даюць таксама тры разы выпіць, выціраюць яму грудзі з боку сэрца; самога хворага прымушаюць сарочкаю выціраць твар, а астатнюю ваду выліваюць пад плот. Некаторыя знахары да такога саставу дадаюць крышачку імху, выцягнутага з вугла хаціны, іншыя чытаюць над вадою малітвы. Гэтым дзеяннем і завяршаецца вылячэнне суроку.

У паасобных знахароў, у розных мясцінах нешта змяняецца, нешта дадаецца ці адымаецца, але асноўнае дзеянне, накіраванае на ваду і ачышчальнае ўздзеянне гэтай самай вады, толькі ўжо зашаптанай і ўзмоцненай магічнымі дзеяннямі. Намі зафіксаваны таксама некалькі такіх даволі падрабязных тлумачэнняў дзеянняў знахароў падчас «зашэптвання» суроку. «У гэтым шаптанні, якое рабілі ад суроку, нічога надта складанага і не было. Набірала бабуля вады, укідвала туды пару-тройку вугельчыкаў, старанна перамешвала. Так, каб вада пачарнела, а потым націрала ёю лоб хворага. Абавязкова, каб тройчы. Значыцца, патрэ лоб, далей на грудзі тройчы папырскае, ды яшчэ глядзіць так, каб гэтае папырскванне сабою нібыта крыж нагадвала на грудзях. Чалавеку, які пакутаваў ад суроку, бабуля давала той вадзіцы глынуць. І тут зноў жа ўсё трэба было зрабіць тройчы. Але бабуля не за адзін раз давала выпіць, а з перапынкамі. Атрымлівалася так, што хворы глыне раз і ляжыць далей, а яна пасядзіць побач з ім і чарговы раз падносіць. Калі зробіць гэтую справу, то тады перахрысціць хворага і адыходзіць ад яго, каб ён паболей адпачыў і заснуў спакойна. Засне спакойна і бесклапотна, дык у сне абавязкова хваробу пераможа. Ваду, якая заставалася пасля шаптання, бабуля нікуды не вылівала, а пакідала да наступнага разу. Яна замаўляла «зглаз» звычайна тройчы, таму што толькі так можна было канчаткова перамагчы хваробу і перакрыць ёй дарогу на будучае ў гэтую хаціну, да гэтых людзей» (УЗ. Ганц.); «Зашэптваў «зглаз» у нас даўней надта добра адзін дзед. Усе ведалі, што ён моцны знахар, то да яго ўсе і ішлі, калі толькі нехта пачынаў хварэць. Прыходзіў дзед той пад самы вечар. Абавязкова камандаваў, каб прынеслі вядро вады і непачатае паставілі ў кут на лаву. Потым набіраў адтуль у якую кружку. Не поўную, але больш за палавіну. Кідаў туды крышачку солі, а там і некалькі вугельчыкаў, выграбеных з печы. Старанна ўсё перамешваў, каб на паверхні вады з'явілася пена. Тады падступаўся да хворага. Спачатку распытваў, што да чаго. Калі ўдакладняў, то прыступаў да знахарства. Памочваў вадою грудзі і галаву. Адзін раз намочыць галаву, а другі раз — грудзі. Так тройчы. Зробіць, потым стане замову шаптаць. Прашэпча, то дасць вады глынуць з кружкі. Тры разы вады даваў піць і тры разы замову шаптаў. Потым уставаў, сам хрысціўся на абразы. Ішоў да дзвярэй і пад парог, з боку ўваходу ў хаціну, выліваў рэшткі вады. На гэтым месцы зноў тройчы жагнаўся. Прыходзіў да хворага таксама тры разы, не меней, пакуль сам не пераконваўся, што хвароба адступіла» (УЗ. Івац.).

«Не дзіва, што вадою імкнуліся вылечыць. Яна ж, калі што якое дапамагала найболей, бо ж хворы ад суроку, пастаянна тросся начамі, а то і днём. Спаць нармальна сам не мог і іншым не даваў. Знахарка прыходзіла да нас, каб вылечыць малодшага з брацікаў, якога, як потым высветлілася, надта напалохала суседка, калі нечакана над ім сонным крыкнула. Прыйшла старая, вады ў кружку, з толькі што зачэрпнутага вядра, дастала, і пашкандыбала ў хату. Там да хворага адразу не пайшла, а прымусіла матулю нашу дастаць з печы вугельчык, укінуць яго ў тую ваду і падсаліла крыху. Затым нешта доўга-доўга мяшала і ўсё шаптала. Рабіла гэта на поўным сур'ёзе. Калі лічыла, што вада дастаткова замоўлена, то тады падступіла да хворага. Ласкава так, ласкава, а там ужо і глынуць дала яму. Калі малы папіў, то паклала яго на ранейшае месца і папырскала тройчы вадою тою на грудзі, і лобік тройчы памазала. Пагаманіла крыху, загадала павярнуцца на жывот і спіну, папырскага, як сама прамовіла, каб суроку надалей тут месца ніколі не было. Адыходзіла ад малога, тройчы перахрысціўшыся і даволі гучна прамаўляючы: *«Госпадзі, дапаможы!»*. Ваду з кружкі вылівала пад плот з левага боку, калі ісці ад парога. Так яна замаўляла. А ўсяго прыходзіла тры разы запар. Штовечар. Калі сонца садзілася, то тады яна і прыходзіла. Дамоў ужо ішла, калі добры прыцемак браўся» (УЗ. Ст.).

Аднымі з найбольш часта ўжывальнымі ў беларускім фальклоры былі замовы ад зубнога болю. Што ўжо зробіш, калі так павялося, што колькі жыве чалавек, то амаль на працягу ўсяго яго нага жыцця суправаджае яго надзвычай непрыемны, страшны, а часам проста невыносны боль. Тут ужо чалавек проста вымушаны быў паверыць (а куды дзявацца?) у розныя, самыя неверагодныя, самыя фантастычныя вылячэнні. Напрыклад, непасрэдна ад гэтых усёмагутных знахароў у народзе цвёрда ўсталяваўся такі метад вылячэння зуба, як дакрананне да яго пальцам. Не выключана, што недзе на першапачатковым этапе гэтае дзеянне было не толькі чыста магічным, але і на самой справе пазбаўляючым ад зубнога болю. Усё заключалася ў своеасаблівай хітрасці-падмане першапродкаў тагачаснымі знахарамі. Справа ў тым, што яны намазвалі палец нейкімі, толькі ім адным вядомымі наркатычнымі сродкамі, якія ці ўвогуле супынялі боль, ці прыглушалі яго на пэўны час.

Нам давялося зафіксаваць даволі цікавы аповяд аб тым, з чаго ж рыхтаваў моцны, спагадлівы знахар той сродак, што станоўча ўплы-

ваў на хворага чалавека. Дык вось як усё гэта адбывалася: хітры знахар лавіў звычайнага крата, а потым спрабаваў пазбавіць яго жыцця адным толькі ўказальным пальцам правай рукі без усялякай дадатковай спробы. Пры гэтым яшчэ абавязкова трэба прамаўляць наступныя словы: *«Кроцік-кратко! Я цябе прыціскаю, кроў выпускаю, цябе жыцця пазбаўляю, а праз тваю нячыстую кроў усім хворым зубы замаўляю»*.

Калі ідзе знахар лячыць зуб хвораму, або калі хворы сам прыходзіць да яго, то знахар перад гэтым доўга трымае свой указальны палец у спецыяльным растворы ці ў засушаных рэштках таго самага забітага раней крата. Хворага саждае ля сябе, прымушае адкрыць рот і на той зуб, які балеў, націскае сваім пальцам і пры гэтым шэпча тую самую замову, што і пры забіцці крата. Замову шэпчуць тры на тры разы запар, каб яна мацней укаранілася і каб хутчэй прыбрала боль. Мала гэтага, хворага пасля шэптаў прымушалі яшчэ па некалькі разоў паласкаць рот кіслым малаком ці слаба разведзеным воцатам. Вядома ж, што прыцішэнне болю надыходзіла не ад магічнага націскання пальцам, а ад таго, што актыўна пачалі дзейнічаць наркатычныя сродкі, якія, не выключана, і на самой справе знаходзіліся ў засушаных рэштках крата, у іх спалучэнні з воцатам ці той кіслатой, якая ўсё ж знаходзіцца ў кіслым малацэ.

Адносна другога дзеяння самабытных знахароў пры вылячэнні зубоў, сёння існуе даволі пераканаўча-кваліфікаваная думка прафесійных стаматолагаў, што яно на самой справе не з'яўляецца нейкім там шарлатанствам ці простым магічна-практычным дзеяннем, а дапамагае даволі эфектыўна. Тут знахары раілі трымаць паміж хворым зубам і шчакою тоненькі скрылік несоленага сала. «Калі зубы баляць, то каго хочаш паслухаеш, бо ад болю таго нельга ні есці, ні піць, ні спаць, ні працаваць. Дарослы чалавек вытрымаць не можа, а што ўжо там пра дзяцей казаць. Вядома ж, кожны з дарослых ведаў і не адну замову ад хворых зубоў, але на самой справе мог дапамагчы надта моцны і вопытны знахар, які не аднаго чалавека ў такой бядзе выратаваў. У нас па суседству жыў стары дзед Мікола. Колькі яму гадоў, ніхто і не ведаў. Затое павагай гэты сусед карыстаўся вялікай. І ўсё таму, што ён мог загаварыць любую хваробу, вырваць няшчаснага, лічы што з абдымкаў самое смерці. Некалі, памятаю, калі мне было ўсяго якіх шэсцьсем гадоў, я зімою застудзілася, і сталі балець мне зубы. Ой, што тут ужо было! Не магла спаць, піць-есці, нават стагнаць ужо не

здолела. Дзед Мікола да нас сам прыйшоў. Яго з таго самага гараняшчасця і паклікаць не здагадаліся. Самі ўсё стараліся, каб неяк выпутацца. А ён прыйшоў дый пытаецца, маўляў, дзяўчынка пакутуе, а за дапамогай ніхто і не бяжыць. Тут ужо адчулі, што ён валодае нейкай сілай, раз сам пра ўсё чыста даведаўся. Закамандаваў бацьку знайсці кавалачак сырога, несоленага сала. Калі той унёс яго ў хаціну, то стары сам адрэзаў тоненькі скрылік, падыйшоў да мяне, папрасіў разявіць рот, паклаў мне паміж зубамі і шчакою той скрылік і стаў шаптаць замову. Калі шаптаў, то трымаў за руку. Паверыце ці не, але з зуба нібы нехта цвікі выцягваў. Так соўгала-соўгала, я і не заўважыла, як заснула. Моцна-моцна. Мяне ніхто і не будзіў, каб адпачыла ды сілы набралася паболей. Потым, як прачнулася ды бацька дастаў той скрылік сала, то ён увесь чыста там, дзе прылягаў да хворага зуба, быў чорным-чорны. Увесь як вугельчык, а па краях — белае. Мне яшчэ дзед Мікола разы са два сала закладваў да таго зуба, а таксама шаптаў замовы. Пасля ўсяго сказаў, што гэты зуб болей балець ніколі не будзе. Так яно і атрымалася» (УЗ. Пн.); «Мне, як балелі зубы, то даводзілася выпакутаваць. Раней жа ў нас тут дактароў не было, і зубы бралася лячыць мая родная бабуля. Яна мноства замоў ведала. Ведала, як самую цяжкую хваробу «адмовіць», каб яна назаўсёды чалавечае цела пакінула. Зубы, сама старэнькая казала, навучыў яе вылечваць яшчэ ейны прадзед. Таго нібыта ўсе людзі чыста не іначай, як знахаром і звалі. Да таго ж, жыў ён сам-адзін і ў лесе, нібы тым самым падкрэсліваючы свае цудадзейныя ўласцівасці-магчымасці. Ад яго бабуля пераняла мноства замоў і заўсёды дапамагала людзям, бо, у адваротным выпадку, калі некаму адмовіць ці запатрабаваць за гэта аплату, то тая замова адразу ж страціць сваю сілу, не будзе болей з яе ніякае карысці. Бабуля брала кавалак сала, толькі каб не салёнага, адразала ад яго тоненькі-тоненькі скрылік і, папярэдне прашаптаўшы некалькі разоў замову ад хворага зуба, закладвала тое сала паміж зубам і шчакою. Потым прасіла мяне, каб я павярнулася менавіта на той бок, з якога балела, і легла шчакою на падушку. Калі я так рабіла, то бабуля працягвала шаптаць замову. Так непрыкметна, супакойваючыся ад прыцішанага болю, я заўсёды і засынала. А потым ужо мне бабуля даставала тое сала і паказвала, якое яно зрабілася. Чорнае-чорнае, як вугельчык, а там, дзе знаходзіўся хворы зуб, то амаль што дзірка высмоктвалася. Старэнькая сцвярджала, што менавіта сюдою і выходзіў боль, які хаваўся ў зубе і не даваў мне

спакойна жыць-весяліцца. Я і зараз яшчэ, калі зуб у мяне самой заходзіцца, ці ў каго са знаёмых пачынае балець, то такім шляхам выратоўваюся. Вось адкуль я ўсё гэта ведаю» (УЗ. Ганц.); «Салам несалёным да зуба прыкладваў дзед Хведзька, які надта добра ўсё-магчымыя хваробы замаўляў. Возьме кавалачак танюсенькі-танюсенькі, прыкладзе да зуба, які сам убачыць, што ён хворы і не дае чалавеку жыцця. Калі прыкладзе, то абавязкова заваліць таго, каго пазбаўляе ад болю, на бок, дзе хворы зуб, і пачынае шаптаць замову. Чалавек ляжыць і нават не заўважае, як засынае. Справа ў тым, што зуб пачынае моцна торгацца, выцягвацца, так як якую скабку выцягваеш. Ірве, а потым заціхае, заціхае і ўсё праходзіць. Пасля ўсяго, а трэба, каб тое сала праляжала паўдня ці ўсю ноч. Калі на ноч клалі — гэта абавязковая ўмова, і яго дастанеш, то яно на месцы хворага зуба будзе чорным-чорнае. Значыцца, боль выходзіў на самой справе. На наступнае ён такім ужо не будзе. Трэба было закладваць сала тры разы запар, г.зн., што на працягу трох сутак. Так і лячыліся, так і ратаваліся, бо іншага выйсця проста не існавала. А сала дапамагала, я ж гэта на сабе ўсё адчула» (УЗ. Івац.).

Намі зафіксаваны своеасаблівы абрад ці спосаб вылячэння ад зубнога болю. Толькі ў запісаных фальклорных творах ставілася абавязковая ўмова — у дуб павінна была ўдарыць маланка: «Кавалачак дуба, разбітага маланкай, прыкладвалі да зуба»; «Калі ў дуб ударыла маланка, то патрэбна адламаць ад яго ствала невялікі кавалак і пакласці яго ў хаце за абразы. Калі ў каго-небудзь забаляць зубы, адламаць ад кавалачка малюсенькую частачку і прыкласці да зуба: боль як рукою здыме. Адарваць кавалачак ад дуба трэба ў першыя тры дні пасля ўдару маланкі» (УЗ. Івац.). Е. Раманаў таксама сведчыў: «Замову трэба казаць на грудным малацэ, пад дубам і ўзяўшы дубовы колік у рукі»[6].

Безумоўна, што многія са знахароў стараліся падкрэсліць свой «боскі дарунак» — уменне і здольнасць вылечваць хворых ці хоць неяк, маецца на ўвазе станоўча, уплываць на гэтых людзей. Некаторыя да таго «ўваходзілі ў ролю», што лічылі сябе вышэйшымі за іншых, здольнымі кіраваць іхнімі лёсамі. Яны нават пераконвалі астатніх, што маюць на галаве «карону», якая павінна была ўвасабляць сабою сілу і моц гэтых знахароў. У П. Шэйна знаходзім такое сведчанне: «Пра яго (Мацвея Ягорава. — *А. Н.*) гаспажа Рачынская гаворыць наступнае: «Ён мужчына не стары, пастаянна змрочны. У царкву ходзіць рэдка, але часта яго бачылі на кале-

нях, калі ён жагнаўся, то на лугах, то ў лесе. Доўга ён не згаджаўся ісці да мяне і на мае довады адказваў: «Чаго гэта я з сябе карону здыму, ды на цябе надзену?». Па незалежачых ад мяне абставінах маё спатканне з ім было вельмі кароткім. Я паспела спісаць з яго ўсяго адну замову»[7].

Засяродзім сваю ўвагу на дзеяннях знахароў, якія вымаўлялі словы замоў над хворымі і пры гэтым шырока выкарыстоўвалі такое магічнае дзеянне, як абпырскванне людзей (чалавека) замоўленай вадой. Патрыярхальныя продкі, якія свята пакланяліся бягучай вадзе, шанавалі яе, не давалі забрудзіць, пакланяліся. Таму і былі цвёрда перакананы ў тым, што апырскванне — найбольш магутны сродак вылячэння ад любой хваробы, незалежна ад ступені яе цяжкасці. Каб атрымаць самім гэткую магчымасць, сяляне звяртаюцца да знахароў з просьбаю: перадаць ім нагаворы-намаўленні над вадою, няхай сабе і не самыя магутныя і таямнічыя, а «будзённыя», часта ўжываемыя. Вядома ж, калі тыя і пагаджаліся на такі небяспечны для сябе крок, то не за дарма, а за даволі-такі значныя падношэнні, якімі яны спакойна маглі карміцца на працягу года. Перадача такіх намаўленняў-замоў суправаджалася традыцыйнымі дзеяннямі.

Напрыклад, вясковец, які жадаў завалодаць такою сілаю, павінен быў у якасці ўмовы зрабіць наступнае: тры дні парыцца ў лазні, тры дні галадаць, тры дні хадзіць на вуліцы з голаю галавою, а потым тры дні запар хадзіць да знахара. У пустой хаціне знахар ставіць міску з вадою, па кутках будыніны кладзе соль. Селянін, прыйшоўшы да яго за перадачай здольнасці замаўляць і вылечваць вадою, павінен лізнуць языком раскладзеныя па кутах соль, попел, вугаль і пры кожным глытку прыхлёбваць з місы ваду. У гэты час знахар чытае пра сябе замову. На трэці дзень ён урачыста ўручае вяскоўцу грамавую стралу і «перадае» адпаведныя шэпты. Вось адзін з іх: *«Соль салёная, попел горкі, вугаль чорны. Нашапчыце, нагаварыце маю ваду ў місе для такойсці справы. Ты, соль, пасаладзі, ты, попел, засмуткуй, ты, вугаль, счарні ўсё. Мая соль крапчае, мой попел горкі, мой вугаль чорны. Хто вып'е маю ваду, адпадуць усе чыста хваробы; хто з'есць маю соль, ад таго адхіснуцца ўсе хваробы; хто паліжа мой попел, ад таго збягуць усе хваробы; хто сатрэ зубамі вугаль, ад таго паляцяць усе ўрокі і зьякі».*

Чалавек, якога знахар навучыў «апырскваць», канешне ж, бярэцца лячыць усе хваробы. Калі бабулька прыйдзе да яго з просьбаю дапамагчы ад нядуга яе ўнучцы, ён перш за ўсё таргуецца («набівае

сабе цану»), потым бярэ бізун, як непасрэдны атрыбут знахара, і ідзе ў хаціну да хворай. Калі ён уваходзіць, то ўсе з павагі ўстаюць, тым самым аддаюць яму сваё шанаванне. Потым саджаюць у чырвоны кут і пачынаюць шчыра частаваць. Новаспечаны знахар есцьп'е ўсё, што падносяць, але тым не меней маўчыць і сурова хмурыцца. Такія своеасаблівыя паводзіны, ды вочы, закочаныя пад лоб, памахванне бізуном, галава, падпертая локцем, — павінны былі лішні раз падкрэсліць ягоную чароўную сілу. У той час, калі ўжо ўсе пачынаюць шумець-гаманіць за сталом, бо добра падпілі, знахар не забываецца, для чаго яго сюды паклікалі, і просіць паказаць яму хворую. Падыйшоўшы да малой, пільна і ўважліва ў яе ўглядаецца, таямніча нешта шавеліць губамі, нібыта спалохана, азіраецца, а потым катэгарычным голасам заяўляе, што ў дзяўчынкі — нядуг! Гэтае страшнае слова вядома кожнаму вяскоўцу, бо яно мае спрадвечныя карані, суправаджае чалавецтва на ўсім шляху яго існавання. Знахар патрабуе падаць яму конаўку з чыстай свежай вадой, каб пачаць працэс свайго магічнага «лячэння». Трымаючы конаўку ў руках, ён шэпча над ёю замову (ці некалькі вядомых яму замоў адразу). Зрабіўшы ўсё гэта, апырсквае тройчы хворую замоўленаю вадою, і на гэтым уласна «непасрэдны курс лячэння» завяршаецца. Выходзячы з хаціны і нібы знарок затрымаўшыся на парозе, знахар загадкавым голасам кажа, каб астатнюю ваду, што засталася ў конаўцы нявыкарыстанай, давалі хворай дзяўчынцы піць на працягу трох ранкаў. Тады гэты нядуг з малой «як рукою здыме».

Самае цікавае, што ў некаторых выпадках надавалася «расшыфроўка» слова «нядуг», што пад ім падразумявалася, якія хваробы сюды ўваходзілі ці маглі ўваходзіць. Гэта — ліхаманкі, сутаргі, рэўматызмы («раматус»), падучая хвароба, або проста іх класіфікавалі, як «падучыя».

Як бачым, нічога тут, калі дасканала разабрацца, звышістотнага няма, няма чым, здавалася б, і вылечваць. Адно толькі, што паводзіны знахара напускалі нейкую магічна-таямнічую ўласцівасць на ўсё тое, што адбывалася над хворай дзяўчынкай у сялянская хаціне. Вада выступала, як найвярнейшы сродак вылячэння ад любой хваробы пад такой агульнай назвай, як «нядуг». І зараз яшчэ вяскоўцы, нібы азіраючыся і ў памяці вяртаючыся ў тыя сівыя-сівыя часы, гавораць не «захварэў», а «занядужаў». Гэты міфічны нядуг усё роўна назаўсёды застаўся ў людской памяці.

Не толькі ад хваробы, не толькі ад нядугаў стараліся пры дапа-

мозе замоў пазбавіцца нашы прашчуры, але і імкнуліся таксама ўплываць на лёсы людзей, кантраляваць іхнія паводзіны, у залежнасці ад жаданняў знахароў. Не дзіўна, бо верылі, што чорныя знахарскія вочы і ягоныя, амаль нікому не вядомыя дзеянні, маглі зрабіць такое, што потым чалавек будзе праклінаць уласны лёс, сумеснае сямейнае жыццё, тое, што з ім будзе адбывацца ў далейшым.

Сцвярджалі, што калі толькі маладыя «браліся», г.зн. жаніліся, то ім перашкаджаў (перашкодзіў) нядобразычлівы знахар-варажбіт. Пры гэтым нават згадвалі, як усё гэта магло рабіцца. Вось што знаходзім адносна такой варажбы ў П. Шэйна: «Калі вяселле трэба сапсаваць, то знахар возьме волас ва ўдаўца, удавы ды ў бабы гуляшчай, а яшчэ лучынку ці гнілушку з сухога дрэва, а яшчэ ад сарочкі бяздзетнай жанчыны адарве палоску-анучу, і ўсе гэтыя валасы загорне ў адарваную анучу, занясе на балота і прамовіць: «Шаўкі мурыны, 12 прысух, 12 нядуг! Вам паклон, нам пшанічны пірог!» І кіне ён у балота пірог і лучынку з анучкай і з валасамі ля берага на ўсю ноч. А нараніцу да сонца яшчэ выйме і забярэ дамоў. Калі будуць у яго ворага вяселле гуляць, ён падыдзе, калі маладыя на ганак выйдуць, а ён прама пад ногі ім падкіне і скажа:

Поп злучыў, а я разлучыў,
Поп з крастом, а я з хвастом,
Папу ухадзіць, а мне тут жыць,
Як сухой рабіне лістоў не пускаць,
Так табе дзяцей не нараджаць;
Як зімою лету не бываць,
Так вам умесцы не пражываць.

Сапсуе ён вяселле. Адно выратаванне — на багамолле ідзі».

У П. Шэйна знаходзім і замову-дзеянне на тое, каб вяселле ўмацаваць, пазбавіць ад уплыву-ўздзеяння злых людзей: «На вяселле ліхадзеі заўсёды заглядваюцца і яны ўсялякае вяселле развядуць. Таму мяне і просяць: «Прыдзі, бабанька, на дапамогу!». А памочнікі ў мяне заўсёды ёсць. Калі маланка б'е і ў дрэва ўдарае, дык у тым дрэве стрэлка бывае ад маланкі, і праз тры гады яна выходзіць, — яна такая малюсенькая, як аер які, — а трэба прыкмячаць: якое дрэва маланкай нябеснай прабіта, ля таго самага дрэва праз тры гады стрэлка ўпадзе, — вось так на траўцы і ляжа. А ліхадзеі ведаюць, што з гэтай траўкай-стрэлкай спраў панарабляюць. І я ведаю. Усё там хадзіла і тую стрэлку знайшла. Адна ў мяне ёсць, я нікому яе не

аддам, а ёсць у мяне іншае дрэва на прыкмеце, яму ўжо трэці год пайшоў: я ўсё гляджу, як знайду, то табе аддам. Вось калі якое вяселле замацаваць неабходна, я пайду ў тую хаціну, а стрэлку за пазухай трымаю. Як жаніх ці маладая адвернецца, а я ў руцэ стрэлку трымаю, ды іх і абвяду, — яны і не адчуюць, а цяпер іх і не развядзеш. Пасля ваду нашапчу, стрэлку ў яе пакладу, яна паляжыць, я выйму, яны ваду вып'юць, а я замову скажу і сумеснае жыццё моцным будзе.

*«Іван вялікі воін! Не баішся ты ні ліхадзея, ні супастата, памажы рабу божамі Васілю і рабе Матроне, каб яны павянчаліся ні на пакуту, ні на гора, ні ў ліхую часіну, а ў добры час на радасць, на вяселле і каб не баяліся яны ні варажбітоў, ні варажбітак, ні ерэтыкоў, ні ерэціц. Спалі варажбітоў, спалі варажбітак, каменнай стралой, агнём нябесным, каб яны не кідаліся, не ваталіся, на вяселлейка не азіраліся. Ты, святы Лука-Дзям'ян! Адлучы іх ад свету белага, а раба Васіля, рабу Матрону злучы ў адно месца. Амінь»*[8].

Вось тут і думай, што рабіць. Нікуды ад знахара не схаваешся. Нідзе ад яго няма прытулку. Не паспееш стаць на ногі, а тут зноў бяда чакае. Нават на ўласным вяселлі. Нідзе моц і сіла знахароў так не ўслаўлялася, як на вясковых вяселлях. Дабрабыт, пастаянныя спрэчкі, хваробы першых родаў, хатнія бядоты — усё залежала ад знахароў. Селянін, задумваючы гуляць вяселле, асабліва заможны гаспадар, ішоў да знахара з вялікім падарункам, паклонамі, з просьбамі — абараніць яго маладых ад вясельнага суроку («порчы»). Тут ужо знахар спрабаваў паказаць усю сваю магутнасць. Заўважыўшы гэта, прымхлівы вясковец, запалоханы да апошняга, гаварыў, што нічога не пашкадуе для выратавання сваіх блізкіх. Знахар у вёсках — першы госць, асабліва на вяселлі, бо клікалі яго самым першым, нягледзячы на тое, блізкі ён сваяк ці ўвогуле не знаходзіцца ні ў якой роднасці. Яму належала першая чарка самаробнага віна; яму выпякалі асобны пірог; менавіта знахару адсылалі першыя падарункі. Яго ўсе без выключэння баяліся, ці калі не так, то рабілі выгляд, што ён усёмагутны і яго трэба шанаваць. Таму і не дзіўна, што пасля гэтакіх паднашэнняў і ўслаўленняў знахар цалкам авалодваў думкамі і ўвасабленнямі прысутнічаючых.

Верылі, што іменна знахар зможа засцерагчы «князя з князёўнай», выручыць іх, «даць правільную дарогу ў будучае жыццё». З дзеянняў знахара, якія ён дэманстраваў на вяселлі, гэта могуць быць наступныя: старанна аглядвае ўсе вуглы, парогі, чытае замовы, дае

гасцям выпіць па глытку замоўленай вады, дзьме («здувае») на абрусы, варочае бакамі стол, абмятае столь, кладзе ключ пад парог, выганяе чорных сабак з двара, старанна аглядае венікі, абкурвае лазню, пералічвае пліты ў хаціне, апырсквае стравы на стале, вяжа спальныя снапы (снапы саломы, на якіх маглі спаць пазней госці), ездзіць у лес за бунзою і старшаму свату па прыездзе ўручае галінку з дзевяцізерневым струком. Гэтая галінка і ёсць найвышэйшы эфект знахарскага мастацтва. Калі яе будуць папераменна трымаць за пазухай сват і сваха, то ўсе задумы ворагаў абернуцца ў марныя намеры. Калі паедзе вясельны поезд і стануць храпці ды не слухацца коні, то дастаткова толькі ўзмахнуць гэтай галінкай, каб зняць з іх злую намову. Здарыцца якая бяда на вяселлі: лопне нешта з вопраткі на жаніху, нечакана развяжацца ці ўпадзе нешта ў маладой і г.д., — усё выправіць гэтая магутная галінка. На трэці дзень знахар бярэ з сабою свата ў лазню, і тут, што незвычайна, адбываецца разлік, адным словам, варажбіту аплочваюць абяцанае перад вяселлем. Калі выплацяць «па-справядліваму», то галінку спальваюць, а калі не, то гэтай самай галінкай знахар усё далейшае жыццё будзе даймаць маладых.

У П. Шэйна знаходзім такое сведчанне: «Зміцер Шваркун — асоба зусім іншага характару. Гэта мужык хітры, не асабліва ласкавы... годны і на яго глядзяць не як на знахара, а як на варажбіта. Ён амаль ніколі ў царкву не ходзіць; яго ўсе баяцца, бо ён на многіх зло наводзіў, і знешні выгляд яго наводзіць зусім іншае ўражанне, чым знешні выгляд Якулёнка. Росту ён невысокага, з вечна ўскудлачанай галавой і злымі, хітрымі вачыма. Сам ён, вядома ж, не прызнаецца, што зло на каго-небудзь наклікаў, але ёсць факты, якія гэта даказваюць. Напрыклад, адна баба сама бачыла, як ён у час сялянскага вяселля падбег да печы і, нахіліўшыся над гаршчком, нешта прашаптаў. Потым кінуў туды два маленькія бліскучыя камяні, а малады і маладая пасля вяселля захварэлі і былі доўга хворыя: Шваркун іх сапсаваў. Ён помсціў маладому за тое, што той не жаніўся на яго пляменніцы»[9].

Мала гэтага, спрактыкаваныя знахары, пахваляючыся, маглі сцвярджаць, што яны спакойна могуць даведацца пра тое, ці не гуляе маладая жонка ў час, калі яе мужа няма паблізу, калі ён недзе ў ад'ездзе і г.д. Таму і не дзіўна, што вясковыя жанчыны асабліва баяліся знахароў, пакланяліся ім, гатовы былі выканаць любое іхняе заданне ці жаданне.

Некаторыя са знахароў выкарыстоўвалі такі своеасаблівы метад, пры дапамозе якога можна было даведацца, як жа паводзіла

сябе жонка падчас працяглай адсутнасці мужа. Вось што паводле ўсяго гэтага вынікала: мужу трэба было схадзіць у лазню, там выпарыцца, потым асцярожна і старанна выцерціся чыстым ручніком. Калі прыйдзе ў хаціну, то гэты ручнік пакласці спячай жонцы пад падушку і далей распытваць, як яна сябе паводзіла і г.д. Тая ў сне многае раскажа. Трэба ўсё па парадку запомніць і адразу ж кіравацъ да знахара. Той выслухае і абавязкова раскрые таямнічыя дзеянні, учынкі, нават думкі жанчын. Бедалагі даволі часта так і не даведваліся, за што яны траплялі пад моцныя мужавы кулакі. Хто б мог падумаць, што далейшы сямейны лёс ім быў наканаваны знахаром.

Многа, вельмі многа ўсялякіх дзеянняў, якія за перыяд доўгага ўжывання і паважлівых да іх адносін станавіліся магічнымі, сустракаецца пры апісанні працэсаў варажбы, знахарства, зашэптвання, вымаўлення замоў і г.д.

Значна павышалі свой аўтарытэт знахары за кошт таго, што браліся выдзіраць («вырываць», «ліквідаваць») заломы, зробленыя іншымі — чорнымі варажбітамі. Знахара клікалі на такую дапамогу не абы якога, а моцна дзейнічаючага на праявы любой нячыстай сілы. «Слабому» або «сярэдняму» нельга было і блізка падыходзіць, бо можна было захварэць самому, а вынік такой хваробы трагічны — смерць, заўчасная і пакутніцкая.

«Пры заломе жыта заўсёды завуць Шваркуна. Шваркун больш усяго адрозніваецца ўменнем адганяць лешака і русалак; да іх ён адносіцца не з такой павагай, як Якулёнак, а з нейкай абыякавасцю: «Мы, маўляў, іх не баімся». Між іншым, ён таксама адмовіўся прагаварыць замову ў лесе, а ў пакоі таксама патрабаваў, каб вокны зачынілі. «Гэтая спалоханая брыдота потым вам і мне спакою не дасць!» Так гаварыў ён, пры гэтым згадаў і пра стукі ў бацькоўскай хаціне, але дадаў: «У мяне ў самога дзед у вакно стукаўся, каб я да знахаркі схадзіў ды ўсяму навучыўся. Яна мяне і навучыла. У кожнага знахара свая справа. Якулёнку Бог адкрыў, а хто мне адкрыў, пра тое не ведаю»[10].

Прыгадаем славутую беларускую народную казку, запісаную А. Сержпутоўскім, «Заламка»:

«У кожным сяле ёсць свой вядзьмар... Яны шэпчуць, лечаць, адрабляюць усялякую хваробу або няшчасце. Людзі баяцца іх, годзяць ім. От быў такі знахар. Яго зналі не толькі ў суседніх сёлах, але можа ў цэлай акрузе. Гэта быў такі вялікі вядзьмар, што ён усё знаў. Ніхто не смеў яму сказаць наперакор: так яго баяліся. Толькі быў там адзін чалавек, ён многа па свеце хадзіў, кажуць, быў аж у Круляўцу (цяпер Ка-

лінінград. — *А. Н.*). От гэты чалавек не баяўся ведзьмара і ўсё казаў, што ён толькі чмуціць. Але яму не верылі. От той чалавек пайшоў у сваё жыта і зрабіў там заламку. Цераз нядзелю, а можа, і дзве прыходзіць к таму ведзьмару і просіць, каб ён вырваў тую заламку. Пайшлі яны ў поле. Падышоў вядзьмар к заламцы на шагоў двацца да й кажа, што не можа ісці далей, — такая моцная заламка. Скінуў гэта ён нагавіцы й сарочку да так, як маці радзіла, й папоўз к заламцы ракам. Паўзе і ўсё стогне, што вельмі моцна ўздзеяна. Маўчаў гэта, маўчаў той чалавек, а як падышлі другія людзі, уссеў на ведзьмара верхам, дастаў з-пад палы гарапнік да давай паласаваць ведзьмара.

— От жа я табе, хварэць, — кажа, — тваёй матары, пакажу, як моцна ўздзеяна, бо гэтую заламку я зрабіў сам.

Раве немым голасам вядзьмар, а той яго лупіць. Біў, біў, пакуль здаволіўся, да й пытае:

— А што, не будзеш больш добрых людзей чмуціць?

— Не буду, — просіцца вядзьмар, — толькі пусці жывога.

Пусціў той чалавек ведзьмара. Усхапіўся гад, забыў і сарочку й нагавіцы апрануць, ды так і сунуў наўцекача. Падзівіліся людзі, думалі перш, што вядзьмар таго чалавека са свету зжыве, але бачаць, што той чалавек жыве сабе й не лыс... Годзі вядзьмар з тае пары чмуціць. Аль нядоўга жыў, бо вельмі збіў той чалавек. Дык от яго якія ё ведзьмары»[11].

У І. Сахарава чытаем наступнае: «Хлебная завязка лічыцца пагражаючай небяспекаю гаспадару той паляны, дзе яе заўважылі. Народ думае, што гэта зроблена злымі людзьмі на звод усяго сямейства і сваякоў.

Для адвароту бяды ад хлебнай завязкі знахары загадваюць гаспадарам палёў браць з хлява тое месца, дзе адпачываюць свінні, пакласці на воз, запрэгчы неаб'езджаную кабылу і скакаць да поля на ўвесь дух. Калі пакладзенае ўпадзе з воза, то гэта дрэнная прыкмета. Прыехаўшы на поле, трэба закрыць хлебную завязку гэтаю паклажаю, не дакранаючыся рукамі. Калі ненарокам дакранешся рукою, то гэта будзе азначаць, што будучы хлеб будзе дрэнна збывацца (не прадавацца. — *А. Н.*). Потым трэба ехаць, не азіраючыся назад, а інакш нячыстая сіла зверне кабыле галаву на бок. Пасля гэтага запрагаюць ужо аб'езджаную кабылу, кладуць на воз конскі гной і едуць у поле. Такою паклажаю абсыпаюць вакол усю завязку.

Знахары, якія прымушаюць здзяйсняць такі абрад, пераконваюць вяскоўцаў, што пасля гэтага ўсе беды, задуманыя злымі людзьмі, пераварочваюцца на іхнія галовы. Часта згадваюцца выпадкі, калі сяляне з нянавісці да свайго суседа падкупляюць знахара зрабіць завязку. У такім выпадку ён карыстаецца ад двух бакоў»[12].

Да знахароў надзвычай часта звярталіся сяляне з просьбамі аб ***засцеражэнні і вылячэнні свойскай жывёлы.*** У дзеянных добразыч-

лівых знахароў можна сустрэць і раннеязычніцкія магічныя дзеянні, якія амаль невытлумачальныя з сённяшняга пункту гледжання, і матываваныя хрысціянскай рэлігіяй учынкі ды дзеянні.

Звернемся да сведчанняў, запісаных А. Сержпутоўскім: «Гадоўля жывёлы мае ў гаспадарцы шмат клопату. Часамі жывёла ніяк не вядзецца, а гаспадар без жывёлы не гаспадар, а пустога хлява затычка»[13]. Або вось такі варыянт, распавяданы даследчыку спрактыкаваным у вядзенні гаспадарчых спраў знахаром: «Калі якое-небудзь гавяда (жывёла. — *А. Н.*) не спаснае, штось сохне да пятрэе, то трэба яго запрадаць такому чалавеку, у каторага лёгкая рука, а дзеля гэтага звыкла патаргавацца дай прадаць за грош або за два, але так рабіць, нібыто гэта сапраўды, тады тое гавяда паправіцца й пойдзе з рукі»[14]. Яшчэ адно, амаль аналагічнае выказванне: «Калі гавяда ці якая-небудзь другая жывёла траціцца ці няйдзе ў рукі, то трэба замест яго завесці другую, а дзеля гэтага маладое на прыплод памяняць з такім чалавекам, у каторага добра вядзецца»[15].

Безумоўна, некаторыя з парад знахароў адносна засцеражэння і добрага памнажэння жывёлы нагадваюць сабою звычайныя прымхлівыя прыкметы і павер'і, у якіх няма ніякага практычна-рацыянальнага зерня. «Каб жывёла добра вялася, трэба ці то цялятка, ці то парасятка прынесці яго, як ідзе служба, й ціхенька пусціць у цэркаў. Папы вельмі не любяць гэтага, нават часамі зарацца саўсім забраць сабе тое цяля ці парася, але трэба не даваць іх папу, а пусціць на прыплод, то жывёла будзе добра весціся і пойдзе на прыбытак»[16].

Цікава і тое, што калі выганяюць першы раз жывёлу ў поле, то нават у сённяшнія дні гаспадары і гаспадыні, імкнучыся засцерагчы сваю жывёлу на працягу летняга перыяду «ад злых вачэй», «ад ваўчыных і звярыных зубоў, ад пошасцей-хвароб», звярталіся за дапамогай непасрэдна да знахароў. Але ж нельга адмаўляць і тое, што на працягу многіх стагоддзяў развіцця чалавецтва было выратавана шмат жывёлы самімі гаспадарамі. Тут выпрацавана шмат магічных дзеянняў-абрадаў, якія сыходзілі не ад знахароў, а перадаваліся (патаемна, пад вялікім сакрэтам) ад старых да малых у самім родзе (спачатку), а потым — у сям'і. Таму і не дзіўна, што кожная жанчына як уважлівая, шчырая гаспадыня проста абавязана была ведаць замовы ад усялякіх хвароб каровы (найперш!), ад таго, каб у яе было тлустае малако, каб яе не сурочылі, каб яна «не скінула» і г.д. А ўжо першы выган жывёлы ў поле заўсёды быў ледзьве не магічным рытуалам, праўда, які ў нашыя дні пачаў рэзка губляць

сваё першаснае значэнне. «Як запашваюць статак, цераз яго перакідваюць тры каменьчыкі, каб ваўкі гавяда не ўкусілі, як не могуць укусіць камень; статак абносяць саломаю, выцягнутай з страхі хлява, каб жывёла цягнула да свайго двара; у варотах закопваюць у зямлю бязьмен, замок, сякеру і курынае яйка, а зверху прасцілаюць салому ды запальваюць яе. Гавяда пераганяюць цераз той агонь, каб к худобе не прыстала ніякае ліха, ніякая хвароба. Калі яйцо гавяда не разаб'е, то яно да восені будзе ўсё цэлае, вага яго будзе большая, ваўкі яго не зачэпяць, бо замок ім горла замкне. Сякера кладзецца дзеля таго, каб бараніць ёй гавяда ад нячыстай сілы ды чарадзеяў»[17].

На Палессі здавён павялося, што ў першы дзень выгану жывёлы ў поле («запашванне») праз увесь статак кароў («крыж-накрыж») перакідвалі сякеркі. Невялічкія такія, цяслярскія, каб зручней было іх браць і далей можна было кінуць, ненарокам ці выпадкова не параніць якую карову ці цяля, бо для іх такое раненне будзе азначаць хуткую смерць, а значыцца, іхняму гаспадару ў гэтым годзе па-буйному не пашанцуе. «Калі ў нас запашвалі кароў, то збіраліся ўсе гаспадары і гаспадыні той жывёлы, якая павінна хадзіць на пашу ў адзін статак (чараду. — *А. Н.*). Усе людзі апраналіся чыста, па-святочнаму, вось як у якое вялікае свята. Рабілі гэта для таго, каб падкрэсліць, што для сялян такі дзень — сапраўдная ўрачыстасць, што ў гэты дзень ніякай цяжкай работы выконваць не будуць, а стануць адпачываць, бо баяцца наклікаць якую-небудзь бяду на сваю жывёлу. Пра кароў і цялят гавораць адныя толькі ласкавыя словы («мая кароўка», «маё цялятка») для засцеражэння. Мала якая нячыстая сіла можа падслухаць і потым выкарыстаць нядбайнасць гаспадара. Цікава яшчэ рабілі і для таго, каб жывёла ад грому не пабілася. Тут вось што здзяйснялі. Бралі чатыры сякеркі і перакідвалі іх наўскрыж праз увесь статак. Лічылася, што пасля гэтага ніводнага разу ў тую чараду не ўдарыць маланка. Сякеркі гэтыя надта засцерагалі. Яны замаўляліся адразу некалькімі моцнымі знахарамі, а яшчэ, зверх гэтага, асвячаліся ў царкве і атрымлівалася, што тут уступаліся і замовы, і малітвы. Потым гэтыя сякеркі зноў збіралі ў месца і аддавалі на захаванне да будучай вясны каму-небудзь з гаспадароў. Той абяцаў, што ў яго яны будуць у пашане і што нічыя чужая рука да іх не дакранецца. Калі толькі іх патрымае чужы чалавек, а гэта мог быць нехта ліхі, «чорны», то сякеркі, безумоўна, гублялі сваю цудадзейную сілу і потым не маглі ўжо засцерагаць жывёлу ад udaраў маланкі» (УЗ. Пн.); «Даўней абавязкова так рабілі.

Цяпер ужо сталі ўсе надта разумныя і хітрыя, ні ў што такое не вераць. Любому як стануць даказваць, дык такое ўжо дакажуць! А даўней то і старыя, і маладыя заадно былі. Усіх чыста раненька ў гэты дзень пабудзяць. Заставяць апрануцца ў святное і выйсці да кароў. Яшчэ маці (ці гаспадыня хаты), калі выганяла з хлява жывёлу, дык там замаўляла, вадою крапіла, хусцінкай чыстай пысу выціpала. А ўсе астатнія чакалі ля варот, дзе ў зямлю закопвалі вагу. Гналі кароў з цяляткамі, усё тое, што павінна было на пашу хадзіць, да статку. А там ужо ўсе збіраліся. Людзей столькі выходзіла, нібы на нейкае дзіва паглядзець. Стаяць усе. Радасныя. Ніхто не сварыцца, не крычыць, а толькі па-ласкаваму кажа, каб якога чорта нячыстага, ці лысага, да чарады не прыклікаць, бо тады бяда на жывёлу скінецца. У першую чаргу па гэтых самых кароўках і пройдзецца. Запрашалі абавязкова ўсіх знахароў, што ведалі нешта ад жывёльнай хваробы, маглі засцерагчы яе на гэтае лета. Самы стары знахар тады быў Ладымер, то той прыносіў з сабою перуновы сякеркі, якія хто-небудзь з маладых і здаровых мужчын перакідваў цераз чараду. Перакідвалі з вугла на вугал. Па некалькі разоў запар і так, каб атрымліваўся крыж. Гэтыя сякеркі, па сцвярджэнні знахара, перадаваліся ў іхнім родзе з пакалення ў пакаленне, можа, у дзесятым ужо калене. А ад ягонага прашчура яны нібыта зрынуліся на зямлю з неба, падчас небывалай маланкі-бліскавіцы. З таго часу сякеркі і з'яўляліся своеасаблівымі абярэгамі. Іх перадавалі ад вясны да вясны, а для большай сілы яшчэ і дадаткова замаўлялі. Колькі вёснаў сякеркамі перакідвалі статкі, колькі гадоў прайшло, ніхто мо і не ўспомніць, але не было такога выпадку, каб у кароў ці ў цялят маланка ўдарыла. Значыцца, на самой справе засцерагалі, дапамагалі вяскоўцам жывёлу ўберагчы» (УЗ. Ст.).

Выгналі нарэшце чараду на пашу, але і тут яшчэ гаспадарам трэба было асцерагацца: не гаварыць лішняга, не пахваляцца, не жадаць іншым людзям благога (у адносінах да іхняй жывёлы), бо гэтае благое перакінецца на самога. Аднак, як ні сачылі, як ні засцерагаліся, а хваробы даволі часта не міналі жывёлу, і тут ужо трэба было звяртацца да знахароў з канкрэтнай просьбай — пастарацца вылечыць, выратаваць карову ці каня ад пэўнай смерці. Дзеянні знахара падчас вылячэння маглі быць самымі разнастайнымі, і, вядома ж, усё пераказаць ці нават зафіксаваць мы не маглі. Прывядзем у якасці прыкладаў найбольш непаўторныя і самабытныя эпізоды. У А. Сержпутоўскага чытаем: «Як захварэе гавяда, з яго выстрагаюць касмак шэрсці й нясуць яе знаючаму варажбіту. Ён па гэтай шэрсці пазнае,

якая хвароба і з чаго яна трапілася. Калі гэта не моцна ўздзеяна, то ён тут жа дома дае якога-небудзь зелля і навучае, як штучна яго трэба даваць гавяду ці зрабіць якія прымхі. Напрыклад, бярэ тры вугельчыкі, кладзе ў воду, шэпча над тою вадою якіясь шэпты й вяліць даць гавяду тую ваду, а вугалькі палажыць у выкручаную ў хляве дзірку й забіць асінавым калочкам. Ён кажа, што ад таго мінецца хвароба. Але калі моцна ўздзеяна, то чараўнік ідзе туды на месца сам. Там ён аглядае ўвесь двор, а больш усяго хлявы, лазіць у калодзеж, капае на сметніку, ці не знойдзецца там чаго-небудзь, што шкодзіць гавяду. А як ужо ўсё добра разведае, дык тады пачынае лячыць. Тут ён бярэ ўсялякія розгі, перавязвае суроваю ніткаю, кладзе ў гаршчык і перш варыць, а потым вешае ў коміне і вэндзіць у дыму, каб там вэндзіўся той чараўнік, каторы зрабіў гаспадару шкоду, чым больш чараўнік выдумоўвае, тым больш яму верацъ і больш плацяць»[18].

«Калі ў нас шалела карова і баялася ісці дамоў або не трапляла ў свой двор, то гаспадар вымушаны быў у абавязковым парадку шукаць знахара, каб неяк выкарабкацца з гэтай бяды. Тут ужо трэба было, каб ён добра папрацаваў і ўлагодзіў тую карову, іначай яна за які тыдзень змарнее і перастане ўвогуле дамоў даходзіць, ад статку адаб'ецца, а там і заблукае ды на якіх ваўкоў напарацца. Знахара клікалі да каровы. Звычайна ён патрабаваў, каб яе злавілі, бо яму абавязкова трэба было дакрануцца да жывёліны рукою. Яна стаіць, уся слінаю-пенаю сыходзіць, а варажбіт пагладзіць па спіне, пачэша за рагамі, прыплюшчыць ёй вочы сваімі рукамі. Пры гэтым пастаянна нешта шэпча, шэпча ледзьве чутна, каб не данеслася да вушэй таго, хто гэта ўсё зрабіў, бо тады замовам будзе цяжэй з хваробаю змагацца або яны зусім сілу страцяць і трэба будзе намаўляць новыя. А то яшчэ дасць карове з'есці крышачку хлеба, прынесенага з сабою, ці драбок солі. Стане жывёліна і, відаць, не можа сама дацяміць, што ж гэта з ёю рабілася раней. Круціць галавою, пазірае па баках, але не кідаецца, не шалее. Знахар гаворыць, што болей ніякай бяды на ёй няма, але вінаваты ў гэтым той і той чалавек. Трэба, каб ён прыйшоў і перайшоў карове дарогу ў адваротны бок. Гэта абавязковая ўмова, бо тады ўсе ж гэтыя хваробы скінуцца на жывёлу таго гаспадара. З такім папярэджаннем звычайна не вагаліся, а беглі хутчэй і папярэджвалі, каб потым ад яго зноў якога зла не сыходзіла. Прыходзіў той чалавек, станавіўся пасярод двара і чакаў, калі гаспадары з двара выганяць карову. Як тая выходзіла, то папярэджаны селянін стараўся перайсці перад ёю туды-сюды,

10 Зак. 1962

папярок яе шляху. Пасля такіх дзеянняў лічылася, што хвароба, прыйшоўшая па абыякавасці некага з сялян ці проста з-за няведання, з гэтага самага часу болей тут не стане гаспадарыць. Адыходзячы, знахар разоў колькі шаптаў замову, нібы развітваючыся, хрысціў усё чыста навокал сябе і дзякаваў гаспадароў за добрыя падарункі, а тыя яго таксама, што не адмовіўся дапамагчы, і г.д.» (УЗ. Ст.).

«Калі карова захварэе, то любому гаспадару бяда, бо ж гэта асноўная карміцелька сям'і. Паспрабуй пратрымацца, калі няма чаго есці, калі няма дзецям ніякіх прысмакаў. Таму, як толькі гаспадыня ці гаспадар заўважаць, што іхняя жывёліна невясёлая, не есць, неяк маркотна сябе паводзіць, малака дае менш, а то, і такое здараецца, малако тое з кроўю, то ідуць да знахара, які, ведаюць, добра замаўляе кароў ад усёмагчымых хвароб-злякаў, пошасцей і г.д. Зойдуць да яго і кажуць, каб выручаў. Знахар стараецца ніколі не адмаўляць, хіба што злейшаму ворагу. Калі ж адмовіць чалавеку, які ўвогуле нікому ніякага зла не зрабіў, то гэта вялізны грэх з боку знахара. Яшчэ баяліся, што калі не будуць шаптаць, то замовы іхнія стануць траціць усялякую сілу. Знахар прыходзіць пасля таго, як карова прыйдзе з пашы ці калі яна туды не хадзіла, то дачакаўшыся надвячорка, каб сонца ўжо добра села над хатамі. Да каровы, калі падыходзіць, то гладзіць, як яна яшчэ на вуліцы. Няхай сабе недзе ля плоту, пад дрэвам, але каб не ў хляве, бо там тая нячыстая сіла ці «чорныя» вочы, што напусцілі порчу, не так хутка адыходзяць, там ім ёсць прытулак. Знахар бярэ крыху шэрсці з каровы і падпальвае яе, а потым абкурвае жывёліну. Па тым, як ідзе дым ад шэрсці, варажбіт можа адказаць адразу, моцна ці не хворая карова. Калі дым ідзе ўгору, то гэта азначае, што яна хутка паправіцца, бо хвароба ў яе не моцна ўвабралася, а вось калі дым пацягнуўся вакол каровы і не ўздымаецца ўгору, то гэта азначае тое, што жывёліна надта хворая і нават сам знахар пра гэта так і кажа, каб не ўводзіць гаспадароў у зман. Калі абкурыць дымам, дык за гэтым пачынае шаптаць замову. Замову і не адну, бо так і кажа, што вось гэтую прашаптаў, а зараз яшчэ і гэтую вазьму ды прамоўлю. Пасля заканчэння замовы (ці замоў) дае карове з далоні драбок солі, каб яна старанна злізала. Раз зліжа і не адразу адвернецца, то гэта азначае, што замоўленыя словы пачалі да яе даходзіць і трэба актыўна вышэптваць далей, каб хвароба не развівалася болей. Нездарма ж цяжка асабліва замаўляць тую карову, на якую ўздзейнічалі вочы злога чараўніка, які спецыяльна ёй нешта падкінуў. З'ела жывёлі-

на і ўсё на тым, пачаліся яе хваробы. Трэба зрабіць так, каб той знахар сам выйшаў і глянуў на хворую карову. Да такога ўчынка яго здольны прымусіць толькі намнога мацнейшы знахар, бо калі гэта будзе роўны з ім па сіле чалавек ці слабейшы, а гэта ўжо намнога горш, то тады пра нейкае выратаванне каровы нават гаворку весці не выпадае, бо яна ўсё роўна здохне. Моцны знахар мала таго, што замаўляе жывёліну, дык і есці ёй падкіне, скажа гаспадарам, калі, у які час і як даваць, заганяць карову на ноч у хлеў ці пакінуць у двары. На раніцу, звычайна, прыходзіў ужо сам, без паўторнага запрашэння ці папярэджання. Адразу кіраваў да каровы, быў там хто ці не, і пачынаў шаптаць. Здаралася, што ў некаторых выпадках ужо да раніцы карова ўставала на ногі і шукала чаго з'есці, тады казалі, што знахар надта моцны і нават адна яго замова вылечыла жывёліну» (УЗ. Драг.).

Надта перажывалі гаспадары і тады, калі карова переставала даваць гэтулькі малака, колькі раней. Тут ужо сцвярджалі самае рознае, што «і захварэла», «і злыя вочы ўбіліся», «і ведзьма малако забрала-сапсавала», «і нейкі злыдзень падглядзеў, колькі мая жонка ад каровы малака несла» і многае іншае. Кожнаму хацелася абавязкова знайсці прычыну страты ці порчы малака. Тлумачылася гэтае імкненне даволі проста — не знойдзеш прычыну, невядома як будзеш ад усяго гэтага ратавацца. Тым болей, што і знахару намнога прасцей будзе арыентавацца. Справа ў тым, што не ва ўсіх выпадках і знахары маглі адразу сказаць, у чым жа прычына такога захворвання ці псавання жывёлы. Кожны знахар мог параіць многае. У іх у запасе былі самыя розныя прыёмы і парады, якія нібыта і засцерагалі малако каровы, і захоўвалі саму жывёліну ад пабочнага ўздзеяння. «Як чараўнікі адбяруць у кароў малако, так што тыя саўсім затнуцца, то трэба ўзяць цадзілку, палажыць яе ў гаршчок, наліць свянцонаю вадою, паставіць гаршчок у печ і варыць, памешваючы святою вярбою. Як вада ў гаршчку закіпіць, то ведзьма ці той чараўнік, што атабраў у кароў малако, прыбяжыць прасіцца, бо яму агонь пячэ ў грудзях да тых часоў, пакуль яму не даруюць»[19]; «Калі карова перастае даваць малако, то гэта хтось здзівіў ці ўздзеў, а затым трэба адрабіць. Тады ідуць да знахара ці знахаркі. Яны шэпчуць, штось вырабляюць, і карова зноў дае малако»[20]; «Каб малако ў кароў само не выцякала, трэба карове абвязаць рогі чырвонаю жычкаю, а вымя абмыць халоднаю вадою, узятаю з трох калодзежаў, то ўсё, як рукою здыме»[21].

Даволі часта шчырыя гаспадыні баяліся ведзьмаў і чараўнікоў,

бо, як яны лічылі, іменна ад іх сыходзіць самае вялікае зло на жывёлу. Асабліва небяспечны час — ноч на Івана Купалу, калі адбываўся разгул нячыстай сілы, зданяў, ведзьмаў, нячысцікаў, іхні шабаш, або як часта сустракаецца ў фальклоры — «сабаш». Людзі па-сапраўднаму баяліся гэтай ночы, асцерагаліся яе, і, па магчымасці, засцерагалі сябе і сваю жывёлу. «Каб перасцярэгці кароў ад чараўніка на Купалле, калі ўсялякая погань мае вельмі вялікую сілу, тады каровам маёвым зеллем абвязваюць рогі і свянцонаю крэйдаю робяць на ілбу паміж рог тры крыжыкі. Такія ж крыжыкі робяць на варотах у хляве, а самыя вароты завальваюць завалаю і замыкаюць грамнічнаю свечкаю»[22]; «Каб усцерагціся ад ведзьмы ці чараўнікоў на Купалле, трэба хлеў, дзе стаяць каровы, абсеяць кругом макам і абсыпаць крапівою-жычкаю. Ведзьма або чараўнік, каб увайсці ў хлеў, перш павінен сабраць макавыя зярняты, а як пачне іх збіраць, то папячэ аб крапіву свае пальцы і кіне турбавацца ды й пойдзе міма шукаць другой жывёлы»[23]; «На Купалле пастухам не дазваляюць пры чарадзе класці агонь, каб ведзьмы і чараўнікі не бралі жару і не рабілі тым ліха жывёле»[24].

Самае цікавае, што некаторыя з гэтых своеасаблівых асцерагальна-магічных абрадавых дзеянняў засталіся ў народнай памяці і параненйшаму актыўна ўжываюцца не толькі знахарамі, але і самымі звычайнымі гаспадарамі і гаспадынямі. Некаторыя з іх проста дзейнічаюць па традыцыі, «бо нашы бацькі так рабілі», а некаторыя — свята вераць, што, напрыклад, звычайная крапіва так моцна адпалохвае нячыстую сілу, становіцца для яе непераадольнай перашкодай. На Піншчыне людзі і зараз у ноч (дакладней, з самага вечара) затыркваюць крапіву ва ўсе дзверы, вокны, на калодзеж.

Бортніцтва судакраналася ў свядомасці нашых продкаў з таямнічай, важнай і далёка-далёка не ўсім даступнай справай. Людзі заможныя, гаспадарлівыя, мелі да сотні, а то і болей вулляў, заўсёды, паводле народнага павер'я, знаходзяцца ў цеснай сувязі з нячыстай сілай. Самі развражанні вяскоўцаў аб пчалярстве надзвычай разнастайныя; адныя выбіраюць для яе апекавання «святых угоднічкаў», іншыя — даручаюць гэта вадзяніку, пра што яны ўжо згадвалі. Пчаляроў, якія прытрымліваюцца апошняга, у народзе называюць ведунамі, дзядамі, знахарамі. Кожны з іх мае свае ўласныя ўяўленні, набытыя, паводле паданняў, ад іншых, і кожны, у сваю чаргу, здзяйсняе з пчоламі нейкія вядомыя кожнаму асобнаму з іх магічныя дзеянні, суправаджаемыя замовамі-шэптамі. «Пчолы водзяцца толькі ў добрага чалавека, а ліхога не любяць.

Каб пчолы добра вадзіліся, трэба падкурваць іх тым воскам, які застаўся ад згарэўшай у цэркві свечкі.

Калі ў пчальнік выліць тую ваду, у каторай мылі памерлага, то ўсе пчолы прападуць да адной.

Ліхія людзі абмазваюць вочка ў вулеі тарнатынам. Ад таго пчолы пакідаюць свае вуллі і садзяцца ў другія.

Ёсць такія ліхія людзі, што яны пасылаюць на вулей чужых пчол і тыя забіраюць увесь мёд.

Калі двое чужых людзей вельмі ў ладу жывуць праміж сябе, то добра, калі ў іх будуць заедныя пчолы. Гэтыя пчолы робяць тых людзей сябрамі і самі добра раяцца і шмат носяць мёду ды воску.

Каторы год у каго брацкая свечка, тое лета яго пчолы даюць шмат мёду і воску»[25].

Ведуны думаюць, што пчолы першапачаткова ўтвараліся ў балотах, пад рукою вадзянога дзядулькі. Матка як першарод гэтых пчол была выкуплена адным злым варажбітом за трыдзевяць галоў знахарскіх і перададзена ў вулей аднаго ведуна, па загаду нячыстай сілы. Гэты вядун з нянавісці да людзей навучыў матку джаліць няшчасных, а матка навучыла сваймy рамяству ўсіх астатніх пчолак. Калі пчаляр-вядун хадзіў у лес і ладзіў пасеку, тады ж, для гаспадарчага дабрабыту, дорыць дзядулі вадзяному цэлы рой. Прычым, паводле пераканання знахароў, гэты рой павінен быць наймацнейшым. Паміж ведунамі да гэтага часу яшчэ не вырашана: астаўляць гэты рой проста на пасецы ці заносіць і кідаць яго ў гнілое, цяжкадаступнае балота. Калі пакідаць на пасецы, то вадзяны дзядуля ахоўвае толькі гэтае месца; калі ж патапляць гэты рой у балоце, то ён тады не толькі прадстаўляе ўсёмагчымыя сродкі для размнажэння пчол, але яшчэ і прымушае іх лётаць на чужую пасеку і там красці мёд.

Знахары ж думаюць, што ўсе пчолы першапачаткова раіліся ад кабылы, якая была бязлітасна заезджана вадзяным і кінута ў балоце. Калі рыбакі закінулі ў гэтае балота невад, то атрымалася, што заместа рыбы яны выцягнулі калоду з пчоламі. Ад гэтай калоды развяліся пчолы па ўсяму беламу свету. Джаленне пчол пачалося з таго часу, калі адзін з рыбакоў захацеў украсці сабе пчаліную матку. За гэта ён быў моцна пакусаны і, каб пазбегнуць смерці ад пчалінага яду, звярнуўся за дапамогай да знахароў. Тыя, калі даведаліся, з-за чаго ўсё гэта адбылося, то парашылі, каб спала пухліна і прайшоў боль, былы злодзей павінен з'есці тую самую пчаліную матку. За такое таямнічае адкрыццё магічных вылячальных здольнасцей стар-

шай пчалы вадзянік у падзяку аддаў знахарам пчол у вечнае карыстанне. Атрымаўшы ў сваё распараджэнне пчолак, яны на працягу многіх стагоддзяў распрацавалі шмат дзеянняў, цэлых абрадаў, якія, на іх думку, маглі спрыяць у пчалярскай справе.

Знахары пераконвалі людзей, што для размнажэння пчолак самае галоўнае зрабіць наступнае: калі на Вялікдзень раніцай загучыць царкоўны звон, то трэба тэрмінова забірацца на званіцу і паспрабаваць пасля першага ж удару звону адламаць кавалак медзі ад звона. Гэты кавалак прыносяць на пасеку і кладуць яго ў адзін з лепшых вулляў.

Вараць расліну дурман, дамешваюць у яго крыху мёду, а потым гэтым растворам апырскваюць плот, дрэвы, будынкі з адзінай толькі мэтай — знішчыць суседскіх пчолак і адвабіць сваіх ад палётаў на чужую тэрыторыю.

У час раення пчол заўчасна рыхтуюць вулей (вуллі), абкураны яловаю курушкаю, добра выцерты крапівою, упрыгожаны рознымі паднашэннямі, якія тут захоўваліся пасля наведвання пасекі вопытных і спрактыкаваных у такіх справах людзей. Ставяць вуллі на пасецы ў рады з такім манерам, каб пчолы выляталі прама на ўсход сонца. Добрае размяшчэнне калод пчаляры лічаць адной з састаўных частак поспеху. Таму, калі нехта хоча наведацца ў госці, то павінен зараней папярэдзіць гаспадара, а той, у сваю чаргу, мяняе размяшчэнне вулеяў. Баяцца, што нехта з прысутных можа ўбачыць, як стаяць вуллі і потым паўтарыць гэта ж самае ў сябе, то пчолы ў ранейшага гаспадара адразу ж перастануць насіць ранейшую порцыю мёду і воску. Усё забярэ новы пчаляр. Мала гэтага, той можа прывараджыць сваіх пчол забіраць мёд з чужых вулляў.

Для таго каб усыпіць чужых пчол, каб яны не збіралі актыўна мёд і не насілі яго ў калоды гаспадару, хітрыя знахары раілі наступнае: прашаптаць замову і пры гэтым абавязкова назбіраць макавых галовак, зварыць іх у казіным малацэ. Потым гэтае варыва распырскваюць на бліжэйшых дрэвах, кустах, травах. Лічыцца, што тая чужая пчала, якая паспрабавала замоўленае варыва, будзе ў далейшым насіць мёд толькі ў вуллі таго чалавека, які гэта зрабіў.

Найбольш кпліва і жартаўліва ў народзе адносіліся да тых знахароў-пчаляроў, якія вартавалі, падпільноўвалі («падлоўвалі») пчолак. Іх называлі ў народзе дзядамі-пчалярамі. Аднак смешкі гэтыя не былі надта злоснымі, бо ў народзе ўсё ж сцвярджалі, што гэтыя знахары могуць па-майстэрску «вадзіць раі па лесавых красках».

Мала таго, што чалавек перажываў за сваё жыццё і здароўе, за памнажэнне жывёлы, яе захаванне, за тое, каб родныя і блізкія не ведалі ніякай злыбяды, яму таксама трэба было думаць, як пабудаваць-узвесці хаціну і гаспадарчыя будынкі, каб да іх не чаплялася ніякая пошасць, няшчасце, каб мінаў пажар і голад і г.д. Пачыналася ўсё з выбару месца для будаўніцтва. Тут заклікалі моцнага знахара і ён, пасля пэўнай працэдуры, казаў, дзе найбольш прыдатная мясціна.

«Ужо даўно мой бацька збіраўся збудаваць новую хату, бо наша старая хата, ці як жа кажуць, курнік, ужо саўсім раскідалася. Сцены чуць не па пояс улезлі ў землю ды так нахіліліся, быццам п'яныя: страха колісь была з добрых бітых дошак чуць не ў тры пядзі ўшыркі, а цяпер пагніла, пакрывілася ды стала такая хлупая, што, як пойдзе дождж, дык хоць ты пад стол хавайся, бы цыган. А печ, мае вы браткі, дык невядома, калі яна й зроблена. Бацька казаў, што быццам бы яе збіў яшчэ яго дзед, ці што. Яна ўжо саўсім улезла ў зямлю, але затым і стаіць, бо ёй нельга ўпасці. Яшчэ бацька памятае, калі наш курнік быў добры, як у людзей, а цяпер... Ды што цяпер! Колісь і мы былі хоць куды малайцы, а што цяпер? Пасівелі, сапселі, хоць на трэску ды вон. Дык вось пачалі людзі бацьку надакучаць:

— Чаму да чаму, — кажуць яны, — ты хоць не перасыплеш свайго курніка. Бачыш, што ўжо галава ўпіраецца ў страху. — Думаў, думаў мой бацька, як тут перасыпаць такое стар'ё, ды нічога не прыдумаў.

— Не, — кажа раз ён, — мабыць трэба будаваць новую хату, ды толькі як яе будаваць, калі няма месца.

— Чаму няма, — кажу я, — пляц вялікі, хопіць і на тры хаты.

— Што ты знаеш, — кажа бацька, — знаеш з носа кап да ў рот хап. На новым месцы яшчэ невядома як пашанцуе, а на старым як тут будаваць, калі стаіць курнік. Праўда, курнік ужо чуць не рассыпаецца, а ўсё ж без яго яшчэ горай. Куды ні кінь, дык клін.

Вось і пайшоў ён шукаць знаючых людзей, каб яны парадзілі, што тут рабіць. Знайшоўся тут адзін знахар, прыйшоў ён да нас, пахадзіў па двару, пачмыхаў носам да пакруціў галавою ды і кажа бацьку.

— Вось хіба яшчэ пагляжу на зоры.

Прынёс бацька кварту гарэлкі, матка спякла яечню да нарэзала сала і давай частаваць таго знахара. Напіўся ён, наеўся дый заначаваў. Не ведаю, як ён там глядзеў на зоры, толькі на заўтра зноў наеўся й напіўся да й сказаў бацьку, каб ён сам лёг нанач на сметніку й што прысніць, так і зробіць, а сам узяў у бацькі пяцізлотку да й пасунуў дамоў. Зрабіў бацька, як навучыў знахар, лёг на сметніку нанач, але нічога не прысніў. Бо вядома, напрацаваўшыся за дзень, як лёг, дык і заснуў бы камень, то так і праляжаў усю ноч. Толькі ўжо рана падышла да яго свіння, капнула раз-другі лычом пад нос ды й пайшла. Ці гэта было, ці прыснілася, бацька так сам і не ведае. «Вось, — думае ён, — дай на тым месцы, дзе прыснілася свіння, я і пабудую сабе новую хату, то можа добра будуць весціся свінні. Так і пабудаваў там новую хату»[26].

Асабліва баяліся, каб будаўніцтва не адбылося на той мясціне, дзе некалі надарылася смерць, была нейкая магіла (магілішча, могліцы), людская ці жывёльная. Сачылі і за тым, каб у народнай

памяці з гэтым месцам не звязваліся трагічныя падзеі, бо першапродкі ў такіх выпадках былі цвёрда перакананы ў тым, што ўсё пажаданае злымі людзьмі, благое, жахлівае, абавязкова пераняcецца і ў новую будыніну. Адбудзецца ўсё гэта незалежна ад волі чалавека — гаспадара. «Выбіраючы месца для сялібы, трэба глядзець, каб не трапіць часам на такое месца, дзе ўжо была сяліба, ды знішчалася ад хваробы ці агню, бо новую можа сустрэць тое ж самае няшчасце»[27]. «Горай усяго, калі трапіцца, што хата пабудавана там, дзе ў зямлі ляжаць якія-небудзь косці людскія ці жывёлы; тады той гаспадар сам хутка памрэ.

Не можна сяліцца там, дзе была праліта кроў чалавека ці свойскай жывёлы, бо тады вымруць людзі ці звядзецца статак.

Калі старая хата абернецца, а там будавацца нельга, то трэба на новае месца дзеля сядзібы перавезці тое каменне, што ляжала пад вугламі ды ля дзвярэй, то на новую сядзібу пярэйдзе шчасце з старое хаты»[28].

Спрактыкаваны вясковы чалавек выдатна разумеў, што калі будзе вазіць дровы, нарыхтоўваць будаўнічыя матэрыялы на якуюнебудзь будыніну, то трэба абавязкова звярнуцца да знахара, які падкажа, якое дрэва намнога мацнейшае, спелае, а якое будзе нетрывалым, «гнілым». Вопытны знахар умеў хутка навучыць гаспадара, як ва ўсім разабрацца, як сарыентавацца ў малазразумелых павер'ях і прыкметах. Нашы продкі ва ўсё гэта свята верылі.

«Трэба сцерагчыся, каб на хату не трапілася такое бервяно, якое пакруцілася вакол сонца. Бо ў новай хаце хутка будзе смерць.

На будоўлю не можна пускаць лес на маладзіку, бо дзерава хутка паесць шашаль.

На хату нельга браць дрэва з лапамі, бо ад гэтага дзеці будуць набіваць сабе гузы ці накрычаць на пупе кілу.

Самаю лепшаю парою дзеля таго, каб пускаць на хату дзерава, лічыцца вясною пад поўню, дык у хаце ўсяго будзе поўна.

На будоўлю нельга браць дзерава, паваленае бураю, бо тая будоўля абернецца ад ветру.

Калі дзерава, як яго сякуць, ды завісне на другое, то яно не ідзе на новую хату, бо там заўжды будзе калатня й сям'я будзе брацца загрудкі.

Хату і хлявы нельга будаваць з сухастою, бо хто-небудзь у сям'і атрымае сухоты ці будзе хварэць жывёла, а гумно ці свіран нават добра будаваць з такога дрэва, бо там не будуць вадзіцца мышы.

На будоўлю нельга браць дрэва, якое разбіў пярун, бо будынак згарыць. Расколатае перуном дрэва добра дзяржаць у гумне ды ў свірне, бо там не будзе мышэй.

На хлявы добра браць такое дзерава, якое расло каля муравейніка, то жывёла будзе добра пладзіцца»[29].

Спрактыкаваны селянін выдатна ведаў і тое, што далёка не ў кожны свой прыход у лес ён мог ссекчы дрэва-другое. Справа ў тым, што калі тры першыя дрэвы, да якіх падышоў чалавек у парадку чарговасці, нечым не спадабаліся, то ў той дзень, паводле народных павер'яў, яму ўжо ўвогуле нельга было секчы дрэў, бо гэта вялікі грэх.

Ды і далёка не заўсёды і не кожнае дрэва мог прыдбаць у свой двор гаспадар. Дрэва на будоўлю лічылася лепш за ўсё ссякаць тады, калі месяц знаходзіўся ў сваёй апошняй квадры («у ветаху») — тады яно будзе трывалае; ссечанае ў маладзік нядоўга праслужыць; спілаванае паміж квадрамі («на зменах») — сточыць шашаль. Людзі меркавалі: нельга на пабудову браць вывернутае непагодаю дрэва, бо яго чорт вывернуў сабе і разам з ім можа перасяліцца ў новую хату. Таксама нельга было ўжываць тое дрэва, што завісла над другім, бо такі будынак неўзабаве згарыць. Вопытны селянін ніколі не браў для будаўніцтва рыплівае дрэва, бо ў збудаванай з яго хаціне людзі нібыта могуць часта паміраць ці заходзіцца ад кашлю. Ёсць і іншы варыянт, паводле якога ў рыплівым дрэве жыве душа памёрлага чалавека, і селянін, калі яго ссек, пазбавіў душу апошняга прытулку, за што потым і сам будзе пакараны і прыйдзецца яму пакутаваць да смерці. Не падыходзілі для гэтай мэты і ссечаныя дрэвы, якія падалі на поўнач: у збудаваным доме ў хуткім часе памрэ чалавек, а ў збудаваным хляве — жывёла. Ні адзін прадбачлівы гаспадар не павінны быў ссякаць дрэва ў тую квадру месяца, калі пачынаўся «сход» («гнілая квадра»), бо ў будыніне вельмі доўга будзе трымацца вільгаць. Самымі спрыяльнымі месяцамі для нарыхтоўкі лесу лічыліся сакавік і красавік, таму што вясновы сок рабіў драўніну мацнейшай. Глядзелі таксама, каб на будову не трапіла дрэва з «ваўком», г.зн. з чорным стрыжнем, — інакш сям'ю зноў-такі будуць даймаць хваробы і розныя няшчасці»[30]. Е. Раманаў пісаў у свой час: «Не пераступай у лесе праз страмовіну, выварацень, што віхор зваліў, а то сам будзеш кружыцца і ўсё да гэтага дрэва падыходзіць»[31].

Былі абрады і абрадавыя дзеянні падчас пачатку будаўніцтва дома. Лічылася, што калі нешта парушыў, зрабіў не так, як гаварыў знахар, то ў хуткім часе такому неахайнаму гаспадару трэба чакаць вялікіх непрыемнасцей. У А. Сержпутоўскага знаходзім наступныя сведчанні: «Як робяць закладзіны новае хаты, то збіраюць родных, суседзей і добра знаёмых. Гаспадар здымае шапку, моліцца. А потым секане тры разы бервяно сякераю і аддае яе старшаму цеслю. Той прымае сякеру і, перахрысціўшыся, сячэ тры разы і віншуе гас-

падара. Гаспадар просіць да пачосткі, каторая прыгатаўляецца дзе-небудзь тут на калодах ці на дошках.

У першы дзень, як бяруцца будаваць хату, робяць толькі адзін вянок падвалін, пад каторым на вуглах кладуць каменне, узятае з-пад старое хаты, ці хаця тое, што ляжала доўга дзе-небудзь каля хаты, на дзядзінцы або на дарожніку. Робяць гэта дзеля таго, каб у новай хаце ўсе былі здаровы бы каменныя, каб усё было па-старому ды ва ўсім шанцавала.

Калі хату будуюць чужыя людзі, то ім годзяць, як могуць, каб яны не ўдзеялі якога-небудзь ліха, бо вядома, што пры пабудове новай хаты ворагі могуць залажыць на чыю хочуць галаву: гаспадара, гаспадыні, каго-небудзь з сям'і, жывёлы або цыркуна, або прусака. На каго заложаць, той і загіне. А залажыць трэба канешне, бо без таго загіне сам старшы цесля. Больш усяго закладваюць на галаў певуна. А часта бяруць яго й жывым закапваюць у зямлю на тым месцы, дзе будзе печ у новай хаце.

Калі вершаць хату ці другую хароміну, то гаспадар перакідае цераз яе медзяную дзесятку, якую потым дае старцам ці на царкву. Як гэта зробіць гаспадар, дык яго хароміна не будзе баяцца самага вялікага ветру або віхру.

З старое хаты ў новую пераносяць старыя лавы, пол, хоць яны былі саўсім нягожыя. Праз гэта ў новую хату пераходзіць тое шчасце, якое было ў старой хаце. Калі ж у старой хаце не шанцавала, то ў новую пераносяць толькі жар з печы ды абразы, больш нічога, каб усё ліха засталося на тым месцы, дзе яно было»[32].

А якой жа гаспадыні не хацелася, каб новая печ у яе хаціне была на зайздрасць іншым суседкам. І не толькі тым, што была зроблена надзвычай акуратна, неяк па-новаму, а і яшчэ тым, што яна добра грэла, у ёй была выдатная цяга і г.д. Бабкі-варажбіткі, да якіх яны звярталіся за парадамі перад тым яшчэ, як толькі меркавалі класці печ, раілі здзяйсняць самабытныя абрады, прытрымлівацца спрадвечных павер'яў і прадказанняў і г.д.

«Рабіць печ трэба пачынаць на поўні, дык печ будзе доўга служыць і добра грэць.

Каб печ добра грэла хату, трэба, каб на ёй першы раз паляжаў ды пагрэўся які-небудзь чужы падарожны чалавек, а лепш усяго, каб гэта быў старац — убогі, ці які божы чалавек, што йдзе на багамолле.

Каб у печы добра пёкся хлеб, пад чарэн сыплюць тую цындру, што каваль выграбае з горына.

Толькі тады хата гатова, калі зроблена печ ці хаця каля яе пастаўлены стоўп, бо пад стаўпом жыве дамавы ці хатні дзядок, каторы спрыяе гаспадару»[33].

Цікава было і тое, як пераходзілі ў новую хату. Што бралі з сабою ў абавязковым парадку, што не бралі і чаму, а што кідалі ў старым будынку, бо гэта магло значна сапсаваць сямейнае жыццё ў далейшым. Прыгадаем тут сцэну з «Новай зямлі» Я. Коласа.

Тым часам маці тарапліва
Закон дзядоў сваіх спаўняе:
Кладзе кусочак хлеба з соллю
Пад красны кут у завуголле[34].

У А. Сержпутоўскага знаходзім больш падрабязныя сведчанні. «Перад пераходзінамі ў новую хату туды заносяць і саджаюць нанач пеўня й ката. Вядома, што нячыстая сіла не любіць іх, а затым пакіне тую хату.

Перад улазінамі просяць папа, каб ён прыйшоў ды пасвяціў новую хату. Поп робіць на ўсіх чатырох сценах у сярэдзіне хаты крыжы й кропіць яе свянцонаю вадою. Толькі пасля таго пераходзіць сям'я ў новую хату і гаспадар спраўляе ўлазіны ўжо ў новай хаце.

Калі пад хатаю разводзяцца ластаўкі, ці вераб'і, або галубы, то хата будзе шанцаваць гаспадару, калі ж птушкі пажывуць ды й разляцяцца, то будзе якоесь няшчасце. Больш усяго прыносяць шчасця бацяны, калі яны зробяць сабе гняздо на хаце ці каля хаты»[35].

Згадвалася і пра гаспадарчыя будынкі, дзе павінна была стаяць жывёла або знаходзіцца зерне, прадукты і г.д. «Аўчарні не можна будаваць з акном ці шчылінамі, бо ягняты будуць слепнуць.

У стайні, дзе стаяць коні, трэба дзяржаць казла ці павесіць забітую сароку, то дамавік не будзе ездзіць на конях, і яны будуць спасныя.

У гумне не можна абрываць ды абмятаць павуцінне, бо вельмі развядуцца мышы ды пачнуць есці збожжа»[36].

Жывучы ў сваёй хатцы, селянін ніколі не забываўся і пра тое, што, займаючыся любой справай, перад яе пачаткам, абавязкова трэба звяртацца да знахароў, каб яны «прыспорылі» ўсё, навучылі, як і што трэба здзяйсняць, як і за чым трэба весці нейкія традыцыйныя дзеянні ці шаптанні. Разгледзім гэта на прыкладзе дзвюх асноўных форм заняткаў, якія дапамагалі нашым продкам выжыць у супрацьстаянні з суровымі прыроднымі з'явамі, — паляванні і рыбалоўстве. Вось пра што сведчыў спрактыкаваны палескі паляўнічы Сыцэвіч Уладзімір Фёдаравіч: «Добра памятаю, калі купілі першае ружжо, то я яшчэ быў зусім малым. Купілі мой бацька і дзед, каб потым хадзіць на паляванне. Пан ім дазволіў гэта зрабіць і дазволіў таксама паляваць на тэрыторыі сваіх земляў. Прынеслі руж-

жо з Пінска. Бліскучае, новае. А раніцай дзед сказаў майму бацьку, каб прывёў знахара з Багданаўкі. Там тады жыў такі Зосім. Ён усё ведаў наперад. Усё чыста мог. А, казалі, страляў так, што ягонае ружжо ніколі прамашкі не давала. Куды нацэліцца, туды абавязкова і патрапіць. Прывёў яго бацька пад самы вечар. Добра частавалі знахара. Калі ж сцямнела і час быў ужо класціся спаць, тады ён да справы прыступіў. На чысты-чысты абрус, разасланы на стале, паклалі ружжо. Стаў Зосім перад ім на каленцы і доўга шаптаў-маліўся. Шчыра, натхнёна. Чуваць было, як ён вышэптвае малітву, а магчыма гэта была і замова. Хто ж яго там знае. Недзе разоў з пяць усё паўтараў, але за гэты час ніводнага разу да ружжа не дакрануўся. Потым папіў вады і ўзяў у рукі ружжо. Зноў шаптаў над ім і ўсё цэліўся нібыта ў чорны сук, які віднеўся ў дзвярах. Дзед і бацька заварожана сачылі за ім, толькі зыркалі вачыма на дзяцей ды жанчын так, што тыя і дыхнуць лішні раз баяліся. Зосім нечакана гучна стрэліў языком і выдыхнуў: «Ну, цяпер цябе спазнаюць уволю!». Пасля такіх слоў ужо паводзіў сябе адвольна: жартаваў, расказваў, што рабіць і як рабіць, выціраў ружжо кавалкам чыстай палатніны, праводзіў па ім нейкай поўсцю і кіпцямі. Потым, калі ўжо завяршыў свой абрад, дык падкрэсліў, што гэта поўсць забітага ім самім ваўка і кіпці гаспадара тутэйшых лясоў — мядзведзя. Такім чынам атрымлівалася, што ён прыцягнуў да ружжа буйных звяроў, а на дробных ды на птушак нібыта і ўвагі асаблівай не звяртаў. Але гэта не так, бо як ён сам даводзіў, што калі мядзведзя ды воўка гаспадар будзе страляць з першага разу, дык усялякія качкі і гусі ляцець будуць у любым выпадку прама на яго. І што ж вы думаеце? Нават мой дзед на паляванні з тым ружжом ніколі не прамахваўся. Пра бацьку і гаворка не вядзецца. Ён жа намнога маладзейшы і спрытнейшы быў. Стала нам ружжо добра ў гаспадарцы дапамагаць. Што не кажыце, а дзічына ды птушка ў хаце амаль не пераводзілася. Бабуля спачатку праклінала дзеда, казала, што ён з розуму з гадамі з'ехаў, але потым і яна суцішылася, бо ўбачыла, як гэта выгадна. Дайшло нават да таго, што сам пан пазайздросціў сваім паляўнічым і прасіў у іх прадаць яму іхняе ружжо. Ён жа не верыў ва ўсялякія замовы, асабліва ў тое, што чалавек здольны замовіць ружжо, ды яшчэ так удала. Яно яшчэ мне крыху паслужыла. А Зосім пражыў болей за сто гадоў і на сваіх нагах памёр. Моцны быў знахар, надта моцны. І, што самага галоўнае, — добры. Ніхто яго пасля смерці благім словам не згадаў. Не было за што» (УЗ. Пн.).

Тое ж самае адбывалася і з рыбалоўчымі прыладамі, асабліва калі на гэты занятак ускладвалі ледзь не галоўныя спадзяванні ў выратаванні ад голаду. Тут ужо было не да жартаў і кепікаў, а ўсё ўспрымалася на поўным сур'ёзе, бо баяліся, што калі нешта перайначаць ці недзе пажартуюць, то гэта дасць падставы нячыстай, злой сіле умешвацца ў гаспадарчыя справы, даводзіць сям'ю да злыбяды. Нават калі адпраўляліся з вудамі на рыбалку, то ўсё роўна шапталі нейкую замову, вядома ж, з асноўнай думкай пра тое, што чалавеку (рыбаку) павінна пашанцаваць. Не прашэпчаш, не падумаеш пра гэта, дык можаш на рыбу ўвогуле не збірацца, бо дарэмна толькі сходзіш. «Мой дзед быў рыбаком ад Бога. Так ужо ўмеў лавіць рыбу, як ніхто іншы з усяго наваколля. Зайздросцілі яму многія, але здагадацца, што тут да чаго, не маглі, таму ўсё гэта тлумачылі праявамі сувязей яго з нячыстымі. Другія казалі проста, што дзед ведае таясціны. Як бы там ні было, толькі ўсё роўна ім не ўдавалася вывесці яго на чыстую ваду. І падсочвалі, і на тых самых мясцінах лавілі, і як не мудрыліся, а нічога ў іх не атрымлівалася. Дзед,праўда, калі збіраўся на рыбалку, то нікому пра гэта не гаварыў. Нешта ўсё шаптаў ды прымаўляў, аглядваючы-рамантуючы сваё рыбацкае начынне. Можна было на самой справе падумаць, што і праўда ён варажыў, а, магчыма, так і было. Стары ні з кім не дзяліўся сваімі сакрэтамі» (УЗ. Лун.).

Такім чынам, зроблена спроба прасачыць такі важны аспект знахарскай справы («знахарскага заняцця»), як паводзіны самога знахара, шаптуна падчас выканання ім «непасрэдных абавязкаў» — вылячэння, засцеражэння, памнажэння здабытага, малення-шаптання на поспех задуманай і праводзімай (ці ўжо нават праведзенай) справы. Безумоўна, аўтар не прэтэндуе на нейкае цалкам хрэстаматыйнае асвятленне гэтага пытання. Проста хацелася зазірнуць за тую заслону, якая заўсёды ў нашым народзе асацыіравалася (ды яшчэ і зараз у многім асацыіруецца) з таямніча-магічнай абраднасцю, вобразнасцю, усёмагутнасцю.

# РЭЧЫ, ЯКІМІ КАРЫСТАЛІСЯ ЗНАХАРЫ

Так ужо павялося з даўніх часоў, што чалавека, які шаптаў-замаўляў ад розных хвароб, ад уздзеяння нячыстых духаў, сілы, чорных вачэй, у пераважнай большасці выпадкаў, выкарыстоўваў нейкія прадметы. Яны, на думку знахара, павінны былі ўздзейнічаць шляхам перапрашэння-ахвяравання, запалохвання, аналогіі, празмернай гіпербалізацыі і г.д. Але, мабыць, самае важнае (страшнае) значэнне прадмета ў руках знахара — гэта наданне празмернай важнасці асабістай персоне. Слова — ёсць слова, погляд — ёсць погляд. Ды ўсё гэта можа ўздзейнічаць на «пацыента», а, магчыма, не так на самога хворага, як на яго родных і блізкіх, што прысутнічалі пры спробе магічнага вылячэння, не так пераканаўча. Замова вымаўлялася пра сябе, позірк вачэй мог застацца незаўважаным і ўсё — асноўны эфект уздзеяння знахара мог звесціся да нуля. А вось калі тут прысутнічала нейкая рэч, прадмет, то ўвага міжволі акцэнтавалася на іх. Вопытны і хітры знахар, пасля таго, як выканае замову і адыдзе ад хворага, пачынае тлумачыць, што значыць трыманне таго ці іншага прадмета, чаму ўжываецца іменна ён, а не што-небудзь другое.

Практыка знахара мела тут надзвычай важнае значэнне, бо гэты чалавек ведаў, як заваладаць увагай прысутных і, безумоўна, пры кожным удалым выпадку павялічыць свой уплыў на прымхлівых людзей.

На першым месцы ў пераліку гэтых рытуальна-магічных прадметаў стаіць **хлеб**. Тут хлеб можа ўжывацца ў дзвюх якасцях: як самае святое і дарагое для кожнага чалавека, бо менавіта дзякуючы яму людзі жывуць на белым свеце і жадаюць, каб кавалачак хлеба быў кожны дзень на стале, і, па-другое, хлеб тут мог выступаць, як паднашэнне магутнай хваробе, якой баяліся, не называлі благім словам. Падносілі ёй самае дарагое. У некаторых выпадках яшчэ можна прасачыць такі аспект, што знахар нібыта «ўбіраў» на гэты хлеб хваробу, каб потым аддаць яе разам з кавалачкам хлеба («перавесці») якой-небудзь жывёліне. Часцей за ўсё гэта быў сабака. Лічылася, што хлеб назаўсёды забраў з сабою хваробу і яна ўжо ніколі не вернецца назад, «у вызваленае ад болю» цела. «Калі хварэў моцна мой тата-нябожчык, ён жа тады яшчэ зусім малады быў, то да яго прыходзіў

знахар. З хутара. Цяпер ужо гэтага хутара зусім няма. Тады ж быў. Знахар той, казалі, надта моцна лячыў. Так ужо браў любую хваробу, што амаль мёртвага на ногі ўздымаў. Не памятаю, як яго звалі. Даўно было. Сівы-сівы ўвесь такі, невялічкага расточку. Гаварыў танклявым галаском. То ён прыйшоў у хату і, распрануўшыся пайшоў да таты, які трызніў на палку. Пасядзеў крыху, паслухаў, потым пакратаў рукою за лоб, за рукі і дастаў з торбачкі ці то з кішэні каваланак хлеба. Папрасіў, каб маці дала яму драбочак солі. Пасаліў, паклаў тату на грудзі, і стаў шаптаць. Доўга шаптаў, надта доўга. Відаць, не адну замову. Усе ціха-ціха сядзелі ў хаце, нават варухнуцца баяліся, каб што не парушыць, не перабіць у чым знахара. Знахар нарэшце, цяжка ўздыхнуўшы, устаў, узяў той кавалачак хлеба і адышоў ад таты. Не апранаючыся выйшаў на вуліцу і кінуў той хлеб суседскаму сабаку, які невядома чаго круціўся на падворку. Да таты варажбіт прыходзіў некалькі разоў запар. І ён паправіўся. Хваробу тую нібы рукою зняло. А самае дзіўнае, што суседскі сабака здох. Недзе праз дзень ці праз два і спруцянеў. Выходзіць, што такая хвароба моцная была. Так ужо яна з чалавека на хлеб выйшла» (УЗ. Пн.).

«Дзед мой добра замаўляў усялякія хваробы. Калі што якое, то яго адразу ж і клікалі, каб выратоўваў. Ён да ўсіх хадзіў, бо казаў: «Раз Бог сілу даў, то не мне аднаму». Так і дапамагаў. Калі ішоў, то браў абавязкова з сабою сухарык. У яго яны на прыпечку ляжалі. Іх ніхто не чапаў. Ведалі, што дзеду трэба. Але калі малыя прасіліся паесці іх, то даваў, не шкадаваў. Гаварыў, што яны чыстыя і ў іх ніякай шкоды няма. Я бачыла, як ён шаптаў. Даваў той сухарык хвораму ў рукі і той вымушаны быў трымаць яго на працягу таго часу, калі дзед шаптаў. Потым дзед яшчэ асобна над сухарыкам прамаўляў нейкую малітву і толькі тады ўжо забіраў яго ад хворага і выносіў на двор. Там нікому не аддаваў, нікуды не кідаў, а клаў яго на слупок. Калі нехта не мог зразумець навошта, дык тлумачыў, што паклаў сухарык для таго, каб яго склявалі птушачкі. А раз яны гэта зробяць, то разам з хлебцам панясуць назаўсёды з сабою і гэтую хваробу, якая не давала спакою чалавеку. На самой справе, праз колькі часу заўважалі, як якая-небудзь птушачка падлятала да сухарыка. Дзед многім дапамагаў ад усялякіх хвароб» (УЗ. Ст.).

«У нас некалі жыў у вёсцы знахар, то ўжо пра яго казалі, што лепей за якога лекара дапаможа. Гэтулькі ўжо замоў ды малітваў ведаў на розныя самыя хваробы і выпадкі жыцця, што нават дзівіліся людзі, як жа ўсё можна памятаць? Ён з хлебам хадзіў шаптаць. Не, нічога асаблівага, здавалася, у тым хлебе не было. Проста адрэзваў

ад бохана, які ляжаў на стале, браў у торбачку і ішоў да хворага. Спачатку даваў хлеб чалавеку ў рукі, а потым ужо пачынаў шаптаць. Шаптаў замову ад той хваробы, якую знаходзіў у хварэўшага, тройчы. Адзін раз, адпачне, і далей. Потым, пасля заканчэння, даваў крышачку хлеба з'есці хвораму, а астатні выносіў у двор і кідаў сабаку ці крышыў курам. Рабіў гэта для таго, каб найдрабней раскрышыць хваробу, то яна потым ужо ў адзінае цэлае ніколі не збярэцца. А тым болей, калі з'есць сабака ці склююць куры, дык гэта азначае яшчэ і тое, што хвароба перайшла на іншае стварэнне. Хвораму пасля такіх дзеянняў станавілася лягчэй, а ўжо недзе пасля другога дзедавага наведвання ці пасля трэцяга чалавек увогуле ўставаў на ногі. Моцны знахар быў, надта моцны, бо яго людзі яшчэ і на гэты дзень добрым словам згадваюць. Хлебам карыстаўся. Так. Ледзьве не ва ўсіх выпадках. Толькі калі які звіх замаўляў ці нешта падобнае, дык хлеба не браў, бо такую хваробу хлеб на сябе проста не мог, ні ў якім разе, як бы ўжо таго не хацеў стары, перацягнуць. А дарма хлебам карыстацца нельга было — гэта надта вялікі грэх» (УЗ. Івац.).

«Да нас некалі, яшчэ я маладою была зусім, прыводзілі знахарку. Старую такую бабульку. Тады моцна мой братка захварэў. Застудзіўся і так ужо ляжаў, што і не думалі і не гадалі пра ягонае выздараўленне. Вядома ж, ні дактароў, ні лекаў якіх, як цяпер, не было. Усе спадзяваліся на шэпты. Вось і тамашнія жыхары ўсё пераконвалі звяртацца толькі да той знахаркі, а яна ўжо дапаможа ва ўсім. Прыйшла старая, прашорхала да ложка. Пільна ўзіралася ў малога і ўсміхнулася: «Злавіла я ўжо хваробу... Злавіла... Нікуды яна ад мяне не ўцячэ...». Дастала невялічкі хлябец і дала малому ў правую руку, каб трымаў на працягу вымаўлення замовы. Шаптала старая ўпаўголаса. Можна было разабраць нейкія словы, якімі яна нешта (ці некага) запалохвала-застрашвала. Устала, паплявала праз левае плячо, і ласкавым-ласкавым голасам сказала: «Папраўляйся, унучак... Папраўляйся... Болей, каб хваробы да цябе і блізка не падыходзілі... А хлябец мы карове аддамо... Яна яго з'есць, і хвароба згіне, бо для яе такая хвароба не ўяўляе нічога страшнага...». Так сказала знахарка, так і бацьку нашага папярэдзіла, каб зрабіў, нічога не перайначыўшы, пры адной умове, што хлеб карове трэба было аддаць раненькім-рана, пасля таго, як яе падояць і будуць збірацца гнаць на пашу. Калі, напрыклад, аддалі б хлеб перад тым, як даіць, то хвароба, не пагражаючы карове, непрыкметна ўвайшла б у яе малако і тым самым і далей пагражала б гэтай самай сям'і. Заўсёды старэйшыя і нас, малодшых, падвучвалі, каб слухаліся варажбітоў,

каб не гнявілі іх, бо гэта можа абярнуцца ў далейшым вялікім горам-бядою» (УЗ. Ганц.).

На другім месцы па значнасці сярод прадметаў стаіць **абраз** (абразы, ікона), які таксама давалі патрымаць хвораму ў руках падчас вымаўлення замовы. Тут можна весці гаворку толькі пра «ўзмацненне» боскага ўздзеяння на хваробу, пры вылячэнні пры дапамозе Бога (Усявышняга), святых, апосталаў, Божай маці, Божага сына і іншых персанажаў і атрыбутаў хрысціянскай веры. Прынцып «Бог даў — Бог і ўзяў» быў надзвычай распаўсюджаным сярод нашых продкаў. Многія таму лічылі, што і здароўе, і хвароба, і магчымасці самога знахара — таксама ўзыходзяць ад Усявышняга. Таму пакланяцца і трэба найперш яму. Адпаведна для ўзмацнення сілы замовы ў рукі і давалі абраз. Чым старэйшы быў абраз, тым болей магутным у лячэбнай справе лічылі яго. «Шаптаў замовы наш дзед. Ён добрым быў знахаром, такім, што многім дапамагаў. Асабліва ўздзейнічалі яго словы ад падучай. Такую хваробу мала хто браўся замаўляць, а ў старога атрымлівалася. Прыходзіў да хворага надвячоркам. Прасіў, каб яму падалі абраз з чырвонага кута, а ў ім — запалілі свечку. Калі свечка не гарэла, то тады шаптаць увогуле не браўся. Чакаў. Абраз даваў у рукі хвораму, папярэдне старанна памаліўшыся на яго. Хворы, як бы яму цяжка ні было, абавязаны прыўзняцца і трымаць пададзены абраз у руках, паклаўшы яго сабе на грудзі. Стары шаптаў нетаропка, нібы гэтым самым падкрэсліваў важнасць выконваемай ім справы. У хаце станавілася ціха-ціха, чуваць толькі было, як вымаўлябубніць знахар замову. Агеньчык свечкі адбіваўся на ліку святога на іконе, і гэта ўсё надавала яшчэ большую таямнічасць. Калі канчаў замаўляць, то цалаваў абраз. Потым зноў шчыра маліўся і зноў цалаваў. Пасля гэтага браў абраз з рук хворага і перадаваў яго ў рукі гаспадара, каб павесілі назад. Прыходзіў і зашэптваў хваробу дзед некалькі разоў запар. Да яго таму ішлі і ішлі людзі, бо верылі, што ён дапаможа ў цяжкі момант» (УЗ. Лун.); «Абраз давалі знахары любому хвораму ў рукі, бо ж гэта ў многім прыспешвала вылячэнне ад пэўнай хваробы. У нас даўней у вёсцы была цэлая сям'я. Гаварылі, што ў іх знахарства перадавалася з пакалення ў пакаленне. Разам з гэтым яны перадавалі ад старэйшага да маладзейшага абраз, які ўжо быў такім старым, што, мабыць, і не памяталі, колькі гадоў. Яшчэ на грубай дошцы намаляваны. Дапамагаў знахар той у многіх выпадках, ад шматлікіх хвароб, таму, што ягоныя сілы чаруючыя ўзнаўляліся тым самым абразом. Калі ўжо некага надта даймала хвароба і родныя бачылі, што смерць можа не абмінуць чалавека, то беглі да

знахара. Той ішоў і прымушаў гаспадароў, каб яны здымалі абраз у сваёй хаце і далі яму. Спачатку ён замольваў ужо той абраз, а потым даваў яго ў рукі хворага. Як толькі заўважаў, што хвароба надта ўкаранілася і можа не адчапіцца, то пасылаў каго са жвавейшых, каб беглі да ягонай хаціны і прынеслі той самы стары абраз. Свой абраз ён ужо не замольваў, а адразу даваў у рукі хвораму ці клаў яго яму на грудзі, калі той зусім не валодаў целам і не мог ужо дапамагаць нават у такіх дробязях. Шаптаў доўга і шчыра. На першы раз, адыходзячы, свой абраз не забіраў, а пакідаў яго ў хворага, «каб хвароба выцягвалася». Прыходзіў запар, дзень у дзень, некалькі разоў (да пяці). Калі і пасля апошняга разу ягоныя замовы не дапамагалі, то прасіў у гаспадароў прабачэння і казаў, што тут болей ён нічым ужо дапамагчы не можа па той простай прычыне, «бо хвароба яго перабарола» (УЗ. Івац.).

«Бабулька ў нашай вёсцы адна добра замаўляла ад зляку. Як чалавек не спалохаецца, як яго не круціць, да чаго ўжо яму бывае дрэнна, а тая знахарка толькі адзін раз пашэпча, то ўсё быццам бы рукою адразу і здыме. Старая была надзвычай набожным чалавекам. Ніколі слова благога не сказала, нікому зла не ўчыніла, а ўжо пра што іншае дык і гаварыць не даводзіцца. Бабулька асноўную надзею ўскладвала на абраз, які ёй перайшоў, можа, ужо ў пятым калене ад старэйшых у іхнім родзе. Зляк жа такая хвароба, што хворы спакойна можа і хадзіць, і працаваць, але вось ні есці добра, ні спаць ён не здольны, і адпаведна праз кароткі даволі-такі адрэзак часу чалавек проста мізарнее, траціць сілу, і для сапраўдных вяскоўцаў гэта страшная бяда. Праца стаіць, хворы па начах і сам не спіць і іншым сваімі крыкамі-трызненнем перашкаджае. Таму ішлі да знахаркі. Тая толькі гляне на прыйшоўшага, дык адразу магла сказаць, які ў яго зляк — моцны ці слабы. Калі быў моцны, то здымала з кута свой абраз і давала яго ў рукі зляканаму. Саджала чалавека для прамаўлення замовы таксама ў чырвоны кут. Дасць той абраз, а сама сядзе побач з хворым і давай замаўляць. Некалькі разоў запар шаптала замову. Калі апошні раз заканчвала, то хрысцілася і адбівала тройчы паклоны на абраз. Вешала яго на старое месца і хвораму казала, каб ён ужо ля парога тройчы плюнуў праз левае плячо. Гэта, калі зляк быў моцным. Калі ж слабым, дык абраз і не здымала, а проста саджала зляканага ў куце пад ім. Дастатковым лічылася знаходзіцца побач са святым кутом і гэта таксама моцна будзе ўздзейнічаць на хваробу. Самае цікавае, што перад смерцю бабулька-знахарка перадала той абраз сваёй дачцы, каб тая далей працягвала іхнюю родавую справу —

вылечваць людзей. Але здарылася бяда: у адну з навальнічных летніх начэй згарэла дашчэнту іхняя хаціна. Ледзьве людзі павыскачылі, а з рэчаў ды пажытку так нічога і не выратавалі. Тады і згарэў у полымі старадаўні абраз. І тая, маладзейшая жанчына, якой яго перадалі па спадчыне, аказалася, што ніякай знахарскай сілы ўвогуле не мела. Паспрабавала пару разоў шаптаць ды на гэтым і спынілася, бо сама пераканалася ва ўласнай няздольнасці» (УЗ. Светл.).

«Абразом у нас карысталіся далёка не ўсе знахары. Некаторыя, мабыць, ніколі нават ніводнага разу і ў царкве не былі, таму і сілу сваю чароўную лічылі не боскай, а ад прыроды перададзенай, ад радні, значыцца. Гэтакія знахары ў нашым наваколлі за наймацнейшых лічыліся. Праўда, да іх далёка не ўсе звярталіся. Асабліва да тых, якія з царквою адносін не падтрымлівалі. Звяртацца не жадалі, але вымушаны былі рабіць такое міжволі. Бяда, як прыцісне, гора, як прыпрэ, то да каго хочаш звернешся, абы толькі ад яго выкараскацца. У нас і не абраз казалі, а ікона. Так заўсёды і гаварылі. Прыйдуць да каторага са знахароў, то той адразу ў кут саджае, туды, дзе ікона ці некалькі іх віселі. Калі даваў у рукі, то абавязкова здымаў самую галоўную ікону, як лічылася, — гэта і павінна была быць самая наймоцная дапамога. Некаторыя са знахароў дык яшчэ мала таго, што прымушалі ікону ў руках трымаць, але яшчэ і вадою пырскалі, як бацюшка ў царкве ўсё роўна. Потым ужо вочы закочвалі ды шапталі словы адным ім вядомых замоваў. Толькі ж, кажу вам, што ў нас найчасцей звярталіся да моцных знахароў, да тых, якія не карысталіся іконамі, а сілу сваю сапраўдную праз замовы паказвалі, праз тое шчырае вымаўленне словаў. Тут нават і безнадзейна хворых вылечвалі, дапамагалі, здавалася б, у крытычных сітуацыях. Зараз такіх шаптуноў няма. А ўсё з-за таго, што людзі перасталі ў іх верыць, а раз перасталі, то, адпаведна, яны і зніклі. Шкада, бо даўней жа многіх ад усёмагчымых хвароб, ад бяды ўсялякай на самой справе выратоўвалі» (УЗ. Бабр.).

«Мне некалі мой дзед-нябожчык распавядаў, што яго самога ў дзяцінстве яшчэ ад ліхой хваробы знахар выратаваў. Не даў памерці. Здарылася так, што ён пасвіў кароў. Справа была ўжо позняй-позняй восенню. Дажджы халодныя лупілі, вецер наскрозь прадзімаў і, вядома ж, прастудзіўся пастушок. Так яго хвароба ўзяла, што за нейкія суткі ўзняцца самастойна на ногі не мог, трызніць пачаў, гарэць, а цела ўсё зрабілася нейкім плямістым. Пляміны тыя ажно чорныя, а цела чырвонае-чырвонае. Вось ушчыкні, здавалася, дык ажно кроў пырскне. Спалохаліся ўсе, злякаліся. Паслалі па шаптуна. Быў

у нас тады, казалі, стары, які цудоўна словам лекаваў. Прыйшоў той, не замарудзіў. Як глянуў на малога, дык у яго самога вочы расшырыліся. Адразу закамандаваў ваду грэць і потым у ёй варыць нейкія траўкі-краскі, што з торбы сваёй дастаў і аддаў гаспадыні. Пабожкаў ля малога і сказаў, каб свечку грамнічную запалілі, а яму знялі са сцяны абраз. Абраз той паклаў маломy на грудзі і давай хутчэй шаптаць. Відаць, баяўся, што не паспее ўратаваць. Малы толькі адно ўжо зяхаў. Пашаптаў некалькі разоў замову, а там ужо ўзяўся з лыжкі ўліваць хвораму той узвар, што гаспадыня па ягонай камандзе зрабіла. Увалье лыжку-другую, пачакае. І так разоў з пяць. Гаспадарам чамусьці адразу падалося, што ў іхняга малога і дыханне стала раўнейшым. Дзед той усю ноч прасядзеў ля малога, не адыходзіў ні на хвіліну, а дамоў падаўся толькі тады, калі, мабыць, пераканаўся, што самае страшнае засталося ззаду. Потым ужо ўсім прызнаваўся, што і не верыў у выздараўленне малога, аднак змагаўся да апошняга. Так той дзед умеў шаптаць. За свой працяглы век, а пражыў ён нешта блізка да сотні гадоў, многім дапамог» (УЗ. Светл.).

**Свечка**, якая даволі часта згадваецца ў пераліку неабходных атрыбутаў замаўлення, можа тут сімвалізаваць не толькі хрысціянства, але і ўвогуле ачышчальную сілу агню. Нашы старажытныя продкі пакланяліся яму, шанавалі яго, верылі ў ачышчальна-аздараўляльную сілу агню. Не выключана, што менавіта гэты адгалосак ранneязычніцкага перыяду прысутнічае ў народных замовах і павер'ях, калі размова вядзецца пра пазбаўленне чалавека ад усялякіх хвароб, злых позіркаў («чорных вачэй») і г.д. Свечку давалі хвораму ў рукі, і ён трымаў яе на працягу вымаўлення замовы. Яе запальвалі ў чырвоным куце (пад абразамі), на вакне («каб хвароба бачыла, куды ёй трэба ўцякаць, каб ёй дарога была асветлена»), хворага саджалі ў чырвоны кут і над ягонай галавой запальвалі свечку. Тут можна прывесці яшчэ шмат розных варыянтаў, калі, напрыклад, свечку запальвалі на прыпечку і па дыму ад яе агеньчыка хвароба павінна была праз комін віцца ў неба, але існасць справы ні ў якім разе не змянялася, агонь дапамагаў вылечыцца ад хваробы. Іншая справа, што нашы інфарматары, няхай сабе і людзі сталага ўзросту, не маглі растлумачыць першакаранёў прысутнасці свечкі ў такой надзвычай важнай справе.

«Прыйдзеш да той бабкі-знахаркі, скажаш, па якой патрэбе, а яна ўжо і сама добра ведае, што да чаго, і чакаеш, як жа стане гаспадыня сябе паводзіць. Старая пасадзіць цябе на лаву, ля вакна, запаліць свечачку, паставіць яе побач з табою на падваконні і пачне

распытваць. Ты нешта гаворыш-адказваеш. Сам гаворыш, а гаспадыня ўжо маўчыць, г.зн. што замову тым часам вымаўляе. Хітравала, чалавек гамоніць і нават думкі не дапускае, што знаходзіцца пад уздзеяннем чаруючага слова. Тая бабулька надта моцна зглаз (панашаму — «падзіў») замаўляла. Сама яна сцвярджала, быццам бы свечка тая нават можа ёй падказаць адносна «чорнага» вока, адносна таго, хто гэта ўсё ўчыніў. А раз старая даведаецца, ад каго ў вёсцы зло сыходзіць, то яна хутка таму злыдню вочы залепіць. Бабулька не раз казала, што, гледзячы ў малюсенькае полымя, ёй удаецца многае-многае ўбачыць. Спрабавала гэтаму і некаторых са сваіх унукаў вучыць, але ў іх гэта не атрымлівалася. Таму яна страшэнна злавалася, а потым і ўвогуле адмовілася «вывучваць» такой неабходнай, як неаднойчы сама сцвярджала, справе» (УЗ. Ганц.); «Нас некалі часта наведваў сусед-знахар. Яго ўсе так, а не інакш, і звалі. Знахар ды знахар, а болей ні слова. Чалавека таго многія ведалі з навакольных вёсак, бо надта часта да шаптуна звярталіся за дапамогай. Дзед вясёлым чалавекам быў. Прыйдзе, людзі смуткуюць, плачуць, а ён паціху-паціху іх супакоіць, запэўніць, што дапаможа. І, што ж вы думаеце? Дапамагаў. Калі ішоў да каго шаптаць на хворага, то абавязкова браў з сабою свечку. Не простая гэта свечка была. Ён яе сам тапіў-рабіў з тлушчу, а ўсярэдзіну ўкладваў пару іголак. Раз такую свечку запальваў і ставіў ля хворага, то яна ўжо сама па сабе пачынала актыўна ўздзейнічаць на чалавека. Потым знахар шаптаў замову. Прашэпча адзін раз, адыдзе, пагаворыць з гаспадыняй ці гаспадаром (сілы набярэцца) і назад. Так рабіў тройчы. Потым тушыў свечку і ўважліва-ўважліва пазіраў, як пойдзе дым. Калі прама пад столь пацягнецца, то, значыцца, хвароба пачала выходзіць, і таму, хто хварэе, павінна стаць лягчэй. А раз дым слаўся па падлозе (па нізу), то хвароба «не ўцякала», гэта азначала, што замова «не ўзяла» і трэба было пачынаць шаптаць з пачатку. Так знахар і рабіў, але ўжо на другі дзень, бо ў той жа, адразу, нельга. Інакш чалавеку магло стаць намнога горай» (УЗ. Лельч.).

«Калі знахар хоча, каб найхутчэй вылечыць чалавека, то ён запальвае свечку. Запаліць і паставіць не ля галавы хворага, а на прыпечку. Адчыніць юшку крышачку, каб там была цяга. Ён жа, калі шэпча, дык у абавязковым парадку глядзіць і на тое, як гарыць свечка. Раз дым прамусенька цягнецца ўверх, то знахар пачаў шаптаць правільную замову, і яна тут дапамагае чалавеку. Можна зашэптваць смела некалькі разоў запар, каб пасіліць уздзеянне на хваробу. Шаптуну ж не адзін і не два разы даводзіцца так рабіць, таму ён усё выву-

чыў да драбніц. Тое, напрыклад, што дым сцелецца па нізу, знахаром тлумачыцца, як пагаршэнне стану чалавека. Зрэдчас можа сказаць, што гэта пайшло ад нейкіх няправільных паводзін гаспадароў, якія ў нечым правінаваціліся перад Усявышнім. Трэба было зрабіць так, а ў іх ненарокам атрымлівалася наадварот. У некаторых выпадках знахар запаленую свечку ставіў не на прыпечак, а на вакне. Гэта пераважна адбывалася ў тых выпадках, калі знахар разумеў, што хвароба не надта страшная і ён лёгка зможа пазбавіць чалавека ад яе. Таму, каб паказаць сваю сілу і майстэрства, знахар папярэджвае гаспадароў, што свечку на вакно ён паставіў не проста так, а каб знайсці таго нядобразычліўца, які так дрэнна паўплываў на пэўнага чалавека (навёў або наслаў на яго хваробу). Спачатку па тым, у які бок дым пацягнецца, паведае, дзе жыве той злыдзень; потым па тым, як гэты дым стане загінацца на пэўнай вышыні, раскажа, якога ж ён росту, і, нарэшце, па тым, як полымя гарыць, скажа пра колер валасоў. Вядома ж, пасля такіх падрабязных тлумачэнняў адразу «пазнавалі» некага з вяскоўцаў, і таму потым перападала за ліхія справы, накіраваныя супраць сумленных людзей. Магло здарыцца і такое, што знахар памыляўся, але тут ужо асаблівага гора ніхто не адчуваў. Практычны знахар лёгка мог растлумачыць сваю памылку і, канешне ж, на сваю карысць» (УЗ. Лельч.); «Некалі ў нас усё найчасцей распавядалі пра вужавыя і гадзючыя свечкі з іголкамі ўсярэдзіне. Імі знахары замаўлялі-выратоўвалі людзей, укушаных гадамі. Асабліва дапамагалі такія свечкі ў тыя моманты, калі ўкусы былі надта страшнымі (у твар, за жылу, у шыю), калі чалавек трымаўся амаль што на валасок ад смерці. Свечку знахар запальваў адразу ж, як прыходзіў да хворага (яе прыносіў на ўсялякі выпадак з сабою) ці калі прыводзілі ўкушанага ў ягоную хаціну. Лічылася, што такім манерам можна растварыць у целе самы моцны яд і жыццё пераможа смерць. Смерць вымушана будзе адступіць» (УЗ. Калінк.).

Таямнічую «вужовую свечку», якой вылечвалі хворых, рабілі наступным чынам: вужа лавілі, забівалі, здзіралі шкурку, а ўсё астатняе ператаплялася на сала, з якога потым рабілі свечку. У свечку ўкладвалі некалькі іголак. Калі чалавека кусаў вуж, то запаленую свечку давалі чалавеку ў рукі. У некаторых выпадках, калі ўкушанаму рабілася вельмі дрэнна, то месца ўкусу націралі салам, адламаным ад свечкі. Праўда, патрэбна агаварыцца, свечку рабілі не з любога вужа, якія даволі часта сустракаліся, а з таго, які, паводле народных легендаў і паданняў, лічыўся царом вужоў ці які быў злоўлены ў купальскую ночку. Такі вуж нібыта і валодаў цудадзейнымі здоль-

насцямі, нават калі ягоператаплялі на сала і рабілі «вужовую свечку»: «Калі ўкусіў вуж нашага малодшага сына, то яго прыходзіў зашэптваць знахар з суседняй вёскі. Што ён толькі не рабіў, але ўсё гэта не дапамагала, тады выкарыстаў шаптун апошні свой сродак, запаліў і даў у рукі яму «вужовую свечку», якую з сабою прынёс. Яна амаль уся ў руках нашага сына і згарэла. Яму адразу ж лепей стала. А той кавалачак, што застаўся, увесь чорны стаў, нібы вугельчык. Дзед растлумачыў, што гэта вужыны цар яд з цела выцягнуў, на свечку яго назбіраў. Агрызак той знахар забраў з сабою. Сказаў, што яшчэ каму спатрэбіцца» (УЗ. Пн.); «Вужовай свечкай» націралі ўкушанае месца, каб яно зрабілася мякчэйшым, бо так жа было, як дрэва, і чалавеку вельмі балела. Натруць, а потым свечку запальваюць і даюць у рукі; калі яна разгарыцца добра, то пасярэдзіне становіцца відаць іголку, і вось як іголка пачынае свяціцца, то гавораць, што яна яд высмоктвае. У нас гэтак рабілі» (УЗ. Пн.); «Вужовая свечка», кажуць, надта дапамагала. Як гэта робіцца, я сама не бачыла, але іншыя расказвалі. Старэйшыя заўсёды перш-наперш так гаварылі, што як толькі вуж укусіў, то трэба абавязкова запальваць «вужовую свечку» (УЗ. Бр.); «Свечка ж тая вельмі дапамагала, асабліва калі яна была злеплена разам з іголкамі. Гаварылі, што нават гром можа загрымець ці дождж пайсці, як свечка ў руках укушанага добра разгарыцца» (УЗ. Пн.); «Свечка вужовая» як гарыць, то гром пачынае грымець ці дождж ісці. Казалі, што гэта Ілля на вужа, які гора чалавеку прычыніў, злаваўся. Такому гаду на зямлі болей месца не было, ён памрэ ў хуткім часе, ці гады не возьмуць яго на зімовае лежбішча. Тады тым болей сканае» (УЗ. Бар.); «Свечка вужа», што гарэла ў хаце, калі некага асабліва моцна кусаў вуж, дапамагала. Яна святая была. Бо мог і гром грымець, калі ўкушаны ў хаце канаў. Ілля сердаваў на вужа, які ўгрызнуў чалавека» (УЗ. Пн.)[1].

Выкарыстанне **іголкі** ў такіх выпадках можна растлумачыць тым, што яна тут павінна была асацыіраваць вогненна-палючыя маланкі, якія джгалі з неба на зямлю, і нярэдка наносілі нямала шкоды. Нашы продкі, вядома ж, усё гэта бачылі, і не раз, але ўявіць сабе да канца, што ж стаяла за гэтай грознай прыроднай з'явай, не маглі. Таямнічае дзеянне, на якое напластоўвалася магічнае слова, валодала велізарным эфектам уздзеяння на людзей. Дастаткова было толькі нешта згадаць, ужыць ад маланкі, а потым ужо можна было проста чакаць станоўчага выніку. Іголка, з'яўляючыся ўвасабленнем маланкі, па цвёрдых перакананнях раннеязычніцкіх знахароў, мела на мэце запалохваючую функцыю. У такіх выпадках хваробе ці нейкай

пошасці рэальна пагражалі, а яе не ўпрошвалі, перад ёй не схіляліся і рабілі выгляд, што яе ні ў якім разе не баяцца! У апошнія часы шаптуны нават не могуць адназначна адказаць — чаму ж яны ўжывалі ў працэсе замаўлення іголку. Усе яны спасылаюцца ў сваіх адказах на тое, што ім так «перадалі, да іх так усё перайшло, а змяняць нічога нельга...». Калі нешта перайначыш, то адразу ж страціш сілу і адпаведна тое, што рабіла замову магутнай. Атрымліваецца, што ў самым найлепшым выпадку хто-небудзь з нашых інфарматараў мог правесці хіба толькі аналогію з пакаленнем, а не з чым-небудзь іншым. І гэта ўспрымалася патрыярхальнымі людзьмі на веру, бо ў многіх хваробах ці падчас іх на самой справе адбываюцца «моцныя колікі». Менавіта для ліквідацыі такога калючага болю і ўжываліся іголкі знахарамі ў працэсе замаўлення. «На маіх вачах гэта было. Сама бачыла, таму хлусіць не стану. Калі захварэла мая маці-нябожчыца, то да яе пазвалі знахарку. Тады ж дактароў не было, усё да шаптуноў звярталіся. Так і тут атрымалася. Маці, калі ірвалі лён, а потым яго замочвалі, моцна застудзілася. Дайшло да таго, што яна ўжо амаль не спала, перастала есці і ўсё стагнала ды прамаўляла пра моцны боль, пра тое, «што ўсё цела коле». Так ужо моцна коле, што яе ажно ўскрыкваць прымушае. Знахарка старая ёй боль той замаўляла і карысталася пры гэтым іголкай. Іголка была вялікая такая, старая, можа, яшчэ каваная ўручную. Значыцца, яна шаптала словы і зрэдчас паколвала іголкай. Злёгку так. Адзін раз прашаптала, узяла матулю за руку, пасядзела ля яе моўчкі. Нешта ўсё распытвала. Відаць, пра хваробу, бо я сама не памятаю. Даўно было ды і надта ціха яны размаўлялі паміж сабою. Калі старая добра адпачыла, то ўзялася замаўляць зноў. На трэці раз, на самым прыканцы, кальнула хворую так, што ў той выступіла на руцэ крапелька крыві і па яе колеры знахарка зазначыла аб вялікай сіле хваробы, бо, маўляў, «кроў ажно пачарнела». Прыходзіла тая шаптуха разоў мо з пяць запар. І кожны раз лекавала з іголкаю ў руцэ. У рэшце рэшт усё ж паставіла нашу матулю на ногі. Стала яна нармальна сябе адчуваць, стала працаваць нароўні з усімі. Толькі не доўга гэта працягвалася, бо на другое лета, хоць яе і папярэджвалі, зноў палезла яна ў ваду і застудзілася яшчэ мацней. Як злегла, дык якіх знахароў да яе не клікалі, да каго толькі матулю не вазілі, але ніхто не здолеў дапамагчы. Тая знахарка-бабулька, якая ў першы раз выручыла, ужо потым нам сказала, што нашу матулю і нельга было ўратаваць, бо ў яе ад хваробы амаль уся кроў чорнаю стала» (УЗ. Ушацкі).

«У нас некалі дзед адзін жыў і надта ж ён добра зашэптваў усяля-

кія хваробы. Асабліва дапамагаў, калі колікі на чалавека нападалі. Ламота ці круціла косці, то яго, найперш, і клікалі. Самае галоўнае, што ён замаўляў з іголкаю ў руках. Невялікая такая, якою звычайна шыюць жанчыны. Але ж ён нікому шыць ёю не даваў, спецыяльна для гэтай патрэбы трымаў. Заторкваў у рушнік, які вісеў на абразах у чырвоным куту, і там гэтая іголка знаходзілася да наступнага разу. Хворага ці хворую пакольваў ён ціхенька і казаў, што робіць гэта для таго, каб даведацца, дзе ж знаходзіцца боль. Як толькі яму самому ўдасца знайсці такое месца, то ён лёгка можа дапамагчы хвораму чалавеку. Шаптаў не адзін раз і не два, а болей. Гэта залежала ад сілы хваробы, якая ў яго падкінулася. Вызначаў сам па тым, як рэагаваў хворы на ўколы іголкаю. Напрыканцы кожнага заканчэння вымаўлення замовы ён адзін раз калоў крыху глыбей, каб праверыць тым самым, як жа ўздзейнічаюць яго словы на чалавека. Па тым, як змяняўся колер крыві на ранцы, тлумачыў, што робіцца з хворым, куды ідзе хвароба і што гэта ўсё азначае. Стараўся загнаць хваробу ў канец ног ці ў пальцы рук, адтуль, маўляў, ёй намнога прасцей выбрацца, пакінуць назаўсёды спакутаванае цела. Для такога выніку трэба было не адзін раз знахару прыйсці да чалавека, каб усё выведаць, каб здагадацца, што да чаго. Іголку тую дзед нікому іншаму не даваў у рукі, а хаваў яе. Быццам бы баяўся, каб не згубілі. Толькі, адназначна, хітраваў, бо баяўся за іншае — за тое, што сіла з ягонай чароўнай іголкі можа выпадкова перайсці да каго-небудзь іншага» (УЗ. Кобр.).

«Жыў некалі, яшчэ на самым пачатку таго веку, у нашай вёсцы адзін знахар. Так ужо павялося, што да яго з розных мясцін людзі звярталіся за дапамогаю. Надзіва моцны знахар быў. Такі ўжо, што, казалі, ніякая хвароба перад ім не ўтрымаецца. Дастаткова было яму тройчы прыйсці да чалавека ды пашаптаць. Ён нават завочна часта шаптаў, асабліва, калі хворы ці хворая знаходзіліся ў далёкай якой вёсцы і за іх прасіліся родныя ці знаёмыя, бо саміх хворых і везці нават да шаптуна баяліся, каб па дарозе не памёр. А мёртваму ўжо, як вядома, нават сам пан Бог не дапаможа. Знахар той карыстаўся нейкай цудадзейнай іголкай. Людзі расказвалі, што калі ён шаптаў завочна і трымаў яе ў руках, то канец іголкі паступова рабіўся чорным. Знахар тлумачыў гэта тым, што хвароба вельмі цяжкая і яна пачала пасля вымаўлення замовы выходзіць з цела, таму іголка так моцна і пачарнела. Калі стары пераставаў шаптаць, дык іголка прама на вачах у прысутных станавілся па-ранейшаму светлай, быццам бы да гэтага ёй увогуле нічога і не было. Гэта многія на ўласныя вочы

бачылі і таму пераказвалі. Калі ж прыходзіў шаптаць да некага дамоў, то з сабою браў зусім іншую іголку. І ёю ўжо, пры вымаўленні слоў, злёгку даторкваўся да рукі хворага чалавека. Вось так рабіў паступова, нібы апускаўся ад пляча да пальцаў. Тлумачыў такое дзеянне жаданнем «апусціць хваробу ніжэй». З пальцаў яе можна было выгнаць дастаткова проста — трэба было пусціць кроў з якога-небудзь пальца і ўважліва прасачыць, якая кроў пачне выцякаць спачатку. Няма чаго здзіўляцца, калі на самых першых кроплях кроў будзе амаль што чорнага колеру. Гэтага не баяцца трэба, а, наадварот, гэтаму трэба радавацца, бо ўсё гэта азначала, што знахар сваю справу зрабіў выдатна і хвароба пачала выходзіць з цела разам з кроўю. Крыві ў такіх выпадках з чалавека ніколі многа не выпускалі і рабілі гэта для таго, каб не абяссіліць яму цела, бо тады вернецца ў яго не толькі «старая» хвароба, але яшчэ і якая іншая прычэпіцца. У такіх выпадках бедалагу выратаваць ужо ніхто не можа, нават не возьмецца. Знахар жа ён таксама ўсё наперад бачыць: возьмецца лячыць таго, у каго ўжо ніякіх спадзяванняў на лепшае няма, памрэ той чалавек, а на шаптуна стануць гаварыць, што не такі ўжо ён і моцны ды ўсёмагутны, як пахваляецца. Вядома ж, такое на карысць і на аўтарытэт самому шаптуну не пойдзе. Таму ён калі і бярэцца вымаўляць замову над такім хворым, дык абавязкова папярэджвае, што не выключае і самага горшага — калі ягоныя намаганні акажуцца марнымі. Такім шляхам, ён загадзя прадугледжваў і адваротную сітуацыю, калі яго самога маглі ў нечым абвінаваціць» (УЗ. Бабр.).

«Казалі даўней, што калі знахар іголку ў рукі бярэ, каб і яна дапамагала яму пры шаптанні, то гэта ён хваробе пагражае. І не абы чым, а самой маланкай. Маланкі ж усе баяцца. Яна сабою іголку нагадвае і б'е гэтаксама імгненна і ўсёпаражальна, як і іголка. Знахар жа хваробу палохае ды прымушае з цела яе выбрацца, імкнецца зрабіць так, каб чалавек назаўсёды быў здаровы. Іголкай ён толькі дакранецца да рукі, а калі ўпусціць крыху глыбей, то гэта для таго, каб глянуць ці ідзе яго замова ў патрэбным накірунку, маецца на ўвазе ў той бок, куды шаптун яе прымушае рухацца сваімі словамі і дзеяннямі. Мне самой даводзілася назіраць за такім шаптаннем і нават не адзін раз, бо наша бабуля добра ўсялякія хваробы замаўляла. Яна і ад укусаў, і ад злякаў, але найбольш ад усякай ламоты дапамагала. Як возьмецца, дык хвор тую, што рукою здыме, і следу ад яе ніякага не застанецца. Найчасцей шаптала па некалькі вечароў запар. Толькі вечарамі. Зраніцы ці звечара не бралася гэтага рабіць, баялася, што ў такі час яе словы не дапамогуць. Калі вымаўляла замову першы

раз, дык паколвала іголкай, а вось у други раз гэтага не рабіла. Трэці раз — зноў паколвала. Адным словам, гэтак цераз раз усё і рабіла. Апошні раз уколе іголкай і ўголас прамовіць: «Ну, усё. Пайшла вон!» Гэта, значыцца, яна хваробу закляла» (УЗ. Ашм.).

Таксама запалохваючае значэнне ў руках знахара падчас такога магічна-абрадавага вымаўлення магло мець і трыманне **нажа**. Па-першае, тут цудоўна прасочваецца аналогія з мячамі-сякірамі, якімі сам Гасподзь (Бог, Усявышні), Божая Маці ці апосталы пасякуць усялякую хваробу на дробныя кавалкі, што будзе азначаць для гэтай хваробы ўвогуле канец яе далейшага існавання. Па-другое, ужыванне нажа магло бясспрэчна азначаць і «адразанне» хваробы ад цела чалавека, «ад жывой плоці», на якую яна згубна ўплывала. Па-трэцяе, нож мог быць і ўсведамленнем грознай сілы самога знахара, супрацьстаячай усяму злому.

«У нас Мар'я-знахарка некалі жыла. Да чаго ўжо моцная шаптуха была, што ўсе чыста навокал здзіўляліся. Як толькі хвароба ці якая іншая таямнічая бяда-гора, то да яе прама і адпраўлялі: «Ідзі да Мар'і, няхай яна справу наводзіць... Не зацягвай, бо ёй потым цяжэй намнога варажыць над хворым будзе». Асабліва ўдала атрымлівалася ў яе замаўленне ад усёмагчымых дзіцячых хвароб. Большасць з мястэчкоўцаў яе так і звалі — «дзіцячы лекар». Мне даводзілася бачыць, як бабуля гэта рабіла. Сама па сабе старэнькая, ласкавая, сівая ўся чыста. Сядзе ля дзіцяці, і калі яно зусім малое, дык старалася ўзяць яго да сябе на рукі. Тое ўсходзіцца плакаць, крычаць пачынае, але старая сваё ведае: паціху-паціху дзіця супакоіць, і тое ўжо не зважае асаблівай увагі на прысутнасць чужога ў хаце. Гэта і трэба было Мар'і. Пачынала шаптаць. Вымаўляла замову, трымаючы ў руцэ (правай) нож. Звычайны нож, якім пастаянна карысталіся ў сям'і. Датыркалася тым нажом да ручак дзіцяці тройчы, калі пачынала прамаўляць замову, і тройчы, калі заканчвала шаптаць. У апошнім выпадку яшчэ тройчы паплёўвала праз левае плячо. Саму замову старалася таксама выконваць не меней за тры разы. Потым крыху гулялася з дзіцём. Адыходзіла ад яго, але нож адразу на стол ці на прыпечак або ў якое іншае месца не клала. Выходзіла на вуліцу і там прасіла каго-небудзь з гаспадарскай ся'мі, каб ёй палілі на рукі. Старанна-старанна змывала нож, а потым гэтак жа старанна яго выцірала чыстай (толькі чыстай!) анучкай і аддавала ў хату. Тлумачыла гэта тым, што трэба было змыць хваробу, каб яна не заставалася ў гэтым будынку і ўвогуле забыла да гэтых людзей дарогу назаўсёды» (УЗ. Лельч.).

«Гэта не дзіўна, што даволі часта карысталіся шаптуны нажом падчас сваёй варажбы на хворых. Яны ж, бачыце, зрэдчас там рабілі такія рухі, якія імітавалі сапраўднае рэзанне і, па словах знахароў, было не што іншае, як «адразанне хваробы» ад цела. Асабліва калі лячылі малых дзяцей, то да іх стараліся яшчэ і дакрануцца час ад часу нажом. Звычайных людзей пераконвалі, што такім шляхам спрабуюць вывесці хваробу вон з белага цела, з маладзенькіх касцей-машчэй. Быццам бы на канцы вострага нажа збіраецца ўвесь боль, якраз тая чорная злосць і нячыстая сіла, якія і пагражалі здароўю. Каб сабраць той боль на нажы, знахару патрэбна было ўгадаць-знайсці пэўную замову. Спрактыкаваны знахар яшчэ і сцвярджаў, што нож становіцца цяжэйшым пад канец вымаўлення замовы. Тут ужо станавіліся зразумелымі словы чалавека, які ў параўнанні са звычайнымі людзьмі ведаў намнога болей, ды і магічнай сілай яшчэ валодаў. Пасля заканчэння шаптання выносіў нож у двор, але да калодзежа не ішоў, наадварот, аддаляўся ад чыстай вады, якой пастаянна карысталіся гаспадары. Знаходзіў глухі куточак і прасіў, каб туды прынеслі вады. Там змываў з нажа хваробу, якая нібыта сабралася на лязе, або яшчэ перад тым, як змываць, некалькі разоў узмахваў ім. Гэтаксама, як рабілі ваяры, адмахваючыся мячом ці востраю шабляю. Тлумачыў, што перад тым, як пазбавіцца ад хваробы вадою, яшчэ і пасек яе нажом-мячом. Нож пасля мыцця не выціралі, а клалі на сонцы, каб ён абсох сам, і толькі пасля ўсяго гэтага забіралі ў хату. Некаторыя з гаспадароў увогуле ніколі болей не ўжывалі той нож у звычайных справах, а клалі яго за абразы і выкарыстоўвалі ў такіх вось знахарскіх замаўленнях. У паасобных сем'ях нож перадаваўся з пакалення ў пакаленне і мог сведчыць пра тое, што традыцыйная вера ў магічнасць нажа захоўвалася тут на працягу стагоддзяў» (УЗ. Нар.).

«Дзед наш сам зашэптваў добра. Малых дзяцей толькі да яго і неслі. Як там не круціся, а трэба ж было сунімаць боль у іх. Ды далёка не кожны мог здагадацца, што баліць. Немаўля само не прамовіць, а адкуль жа звычайны чалавек даведаецца? Дзед быў зусім лысы. Галава тая, што вялікі і жоўты гарбуз. Калі дзіця пачынала плакаць, то стары здымаў шапку (зімою) ці саламяны брыль, у якім пастаянна хадзіў у цёплы час. Малое то смяецца, то здзіўлена глядзіць, а стары бярэ нож-складанчык, які ў яго заўсёды ляжаў за абразом, і давай шаптаць. Шэпча свае словы і ножыкам тым ледзьве-ледзьве дакранаецца да таго месца ў малога, якое яму баліць. Доўга вымаўляе замову. Усё робіцца на поўным сур'ёзе. Дзіця, сцішанае, супакоенае,

ажно засынае, а дзед усё роўна працягвае сваю справу. Казаў, што чым болей шэпчаш, чым шчырэй гэта робіш, тым болей хвароба выцякае-намотваецца на той ножык. Уголас дзед вымаўляў толькі апошнія словы замовы. Я іх да гэтага часу добра памятаю, бо не складаныя, не мудрагелістыя: «Божа, памажы! Дай сілу-здароўе!». Тройчы па тры казаў гэтыя словы. Прамовіць іх, а потым тры разы сплюне цераз левае плячо. Калі малое спіць, то не даваў яго будзіць, а гаварыў, каб яно паболей паспала ды сілы набралася. Сам жа выходзіў у двор і заўсёды прасіў мяне паліць яму вады на рукі і на той самы ножык-складанчык. Ваду трэба было падаваць толькі свежую, толькі што зачэрпнутую ў калодзежы, каб яе да гэтага з вядра яшчэ ніхто не піў. Старанна дзед усё мыў, а потым гэтак жа старанна і доўга выціраў чыстым рушніком. У хаце выліваў на ножык некалькі кропель «святой вады», якая захоўвалася ў бутэльцы тут жа за абразом. Так ён многім дапамагаў, бо да яго заўсёды звярталіся за дапамогай і не толькі з нашай вёскі, але і з суседніх таксама. Гора прыводзіла, ды сіла дзеда-знахара прыцягвала» (УЗ. Светл.).

«Ні для каго не сакрэт, што знахар карыстаўся падчас вымаўлення замовы нажом як запалохваючым для хваробы прадметам. Не дзіўна таму, што шаптун памахваў ім ля цела хворага, прыкладваў да рукі ці да жывата і гэтым самым прымушаў хваробу выходзіць са сваёй схованкі і пакідаць няшчаснага чалавека. Гавораць, што найбольш добра гэта дапамагала пры вылячэнні-зашэптванні дзяцей з іхнімі дзіцячымі хваробамі. Тут ужо ясна — часцей за ўсё вылечвалі зляк» («спалох»). Адпалохвалі яго самога, як жывога, ад малога тым нажом. Вышэптвалі пагрозлівую замову і ўвесь час пагойдвалі-варушылі ножыкам, нібыта нешта секлі. А гэта ж, аказваецца, той зляк пужалі. Ён таму хутка і выходзіў з цела, бо надта моцна на яго ўздзейнічалі тыя магічныя словы, а яшчэ найстрашней — трыманне нажа знахаром. Некаторыя гаварылі, быццам бы нажом тым не пагражалі, а на яго самога выцягвалі хваробу. Дакранецца знахар нажом да цела і хоць за адзін раз, але ж зловіць яе. Як учэпіцца, дык болей назад і не адпусціць ніколі. Трэба адзначыць і факт абмывання нажа «святою» вадою, якую бралі ў любой гаспадыні з-за абраза, бо яна там захоўвалася з Вадохрышча, з такім разлікам, каб хапіла яе на ўвесь год. Нож знахар мог прыносіць свой, а мог карыстацца і гаспадарскім, проста ўзятым са стала. Для яго, мабыць, вялікай розніцы ў гэтым не было» (УЗ. Ветк.).

Разглядаемые прадметы, якія актыўна ўжываліся знахарамі падчас вымаўлення замоў, вылячэння людзей, нагадвалі нам пра язычи-

ніцтва, пра старадаўняе шанаванне прыроды і прыродных стыхій, пра своеасаблівае трактаванне рэлігійных канонаў. Але ж ёсць прадметы, якія можна аднесці да тых, якія ўжываліся па аналогіі. На першым месцы тут знаходзяцца, відаць, **«адмыкальна-замыкальныя рэчы (ключ і замок)**. Растлумачыць гэта можна тым, што самі знахары вялі гаворку пра нейкае абстрактна-канкрэтнае «замыканне» ці «адмыканне» арганізма чалавека (жывёліны) або і паасобных яго частак. Гэты прыём выкарыстоўваўся даволі часта і прычым у самых разнапланавых замовах. «Даўней жа, калі жанчына нараджала, то ні ў які раддом не везлі. Іх жа проста не было. Клікалі вясковую бабку-павітуху, і тая ўсяму давала рады. Гэта ж рабілася ў прысутнасці аднойбабкі, ці калі роды былі надзвычай цяжкімі, то яшчэ клікала каго-небудзь з суседак. Суседка павінна была выконваць надзвычай важную функцыю. Сама павітуха завіхалася ля парадзіхі, а другая жанчына сядзела непадалёку і старанна, ціхенька пазвоньвала ключамі аб замок. Гэта азначала, што яна адмыкала жывот і выпускала з яго дзіця. Асабліва ў тых выпадках, калі роды былі надзвычай цяжкімі і працяглымі, дык і бабка-павітуха падменьвала жанчыну і сама некаторы час пазвоньвала замком з ключамі. Гаварылі і пра тое, што калі гэта рабіла павітуха, то цяжарнай было намнога лягчэй і прасцей нарадзіць. Як бы там не здаралася, але пасля прыняцця родаў той замок і ключ старанна выціралі, апырсквалі потым «святою» вадою і клалі на стол, «каб уляжаліся». Праўда, звычайна бабка-павітуха прыносіла іх з сабою. Яны ў яе спецыяльна захоўваліся для такой справы і болей ні для чаго не ўжываліся, «каб не апаганіць», бо тады і парадзіха, і дзіця могуць моцна захварэць і нават доўга пасля гэтага не пражывуць, а памруць у пакутлівых мучэннях. Смяротнасць сярод малых дзяцей у старадаўнія часы была надзвычай высокая, таму і не дзіўна, што ўсё сказанае і зробленае знахарамі ўспрымалася на поўным сур'ёзе» (УЗ. Кір.).

«Было ж такое, ды ці раз! Сем'і ж даўней вялікія былі. Па дзесяць-дванаццаць дзяцей. Нараджалі мацяркі і самі, але найбольш клікалі бабулек-павітух. Паклічуць і тая ўжо ідзе. Паглядзіць спачатку ўважліва, усё сама прадумае, а потым ужо і вызначае, хутка ці не нараджаць жанчыне. Калі хутка, то пачынае рыхтаваць усё неабходнае, каб потым не бегаць ды зрабіць усё чыста, як мае быць. Прыносіць павітуха з сабою ключы і замок. Нярэдка гэта вельмі старыя рэчы і сама яна, нібы падкрэсліваючы іх сілу і старадаўнасць, гаворыць пра іх, што яны дасталіся ёй яшчэ ад прабабкі, якая таксама была вопытнай павітухай. Так бабка набівала сабе цану. Як толькі

заўважала, што парадзіха пачынае нараджаць, то пастуквала ключамі аб замок, або ўвогуле адмыкала яго па-сапраўднаму і пры гэтым голасна вымаўляла: «Адмыкаю — дзіця выпускаю!». Так рабіла некалькі разоў (не меней трох) запар. Пастукае ключамі, адамкне, скажа. Пакладзе ўсё, падыдзе да парадзіхі, нешта прашэпча ёй, пот вытрэ з твару і зноў за сваё. Так пакуль парадзіха не нараджала, дык усё і рабілася. Калі нараджала вельмі лёгка, то потым ужо, дзякуючы павітуху, сцвярджалі, што гэта менавіта яе заслуга, бо «яна так добра адамкнула сярэдзіну». Ну, а ў адваротным выпадку бабка ў сваё апраўданне казала, што немаўля было надта вялікім, таму і нараджала жанчына цяжка. Ключы і замок павітуха забірала дамоў і хавала ў «святое» месца да наступнага разу. Здаралася, што бабку клікалі ці прывозілі не з яе хаціны, а з поля, з лесу, з іншых мясцін. Тут ужо не было часу калі бегчы за сваімі ключамі і замком, таму карысталіся тымі, якія найхутчэй траплялі ў рукі. Вядома ж, моц у іх была не тая, але ўсё роўна дапамагалі» (УЗ. Мсц.).

Замок і ключы ўжываліся таксама і ў іншых замовах — прысушках і адсушках. Тут усё грунтавалася на дакладнейшай аналогіі — раз замкнула замок, то, значыцца, назаўсёды прыцягнула («прысушыла») да сябе, і раз адамкнула, то адпаведна адпусціла, і болей той чалавек ніколі не будзе адчуваць нейкага ўзаемнага пачуцця. Наіўныя дзеянні і гэткія ж наіўныя ўяўленні, толькі ў нашых далёкіх продкаў яны карысталіся найвялікшым аўтарытэтам. Раз аб гэтым сведчыў спрактыкаваны знахар, якога ў народзе лічылі за моцнага, то і гамонкі не павінна быць пра тое, што тут нейкі магічны падман, хлусня і г.д. Каханне ў любыя часы рабіла сваю адвечную справу — злучала лёсы людзей. Праўда, многім даводзілася змагацца «за сваю пару» і таму менавіта ад іх, недзе ў сівыя-сівыя часы, і ўзніклі прысушкі і адсушкі. Своеасаблівы жанр у жанры, замова ў замове.

«Усе маладымі былі. А раз ужо маладыя, то і кахацца ахвота. Вось якая дзеўчына ўпадабала сабе хлопца, але так атрымлівалася, што ён на яе не звяртаў ніякай увагі. Тады яна не гублялася, а, наадварот, старалася прыбраць яго да сваіх рук, г.зн. «прысушыць». Тут ужо на дапамогу прыходзіла бабуля-знахарка, да якой раілі звярнуцца, ці дзяўчына ведала і сама, хто валодае нейкай чароўнай сілай. Прыходзіла яна да старой у хату, тая садзіла яе побач з сабою, да драбніц усё выпытвала. Старалася высветліць, чаму ж той хлопец не звяртаў на яе ўвагі, у чым была такая прычына. Прасіла, каб яе наведвальніца нічога не ўтойвала, бо тады цяжка будзе прысушыць кахаемага ёю чалавека. Нарэшце пра ўсё даведаўшыся, бабуля-знахарка пачы-

нала чытаць замову-прысушку. Чытала звычайна ўголас, бо тут такая справа, што яна ж нічога дрэннага не рабіла, нават калі б і пачуў нехта з чужых. Пад канец замовы брала замок, устаўляла ў яго ключ і шчоўкала ім (замыкала), пры гэтым прымаўляючы: «Замыкаю — да сябе прысушаю! Каб так усё павялося, як мне здалося!» Той замок, якім карысталася знахарка, дзяўчына павінна была тройчы пацаламаць і тады лічылася, што самая моцная, самая надзейная прысушка здзейснена і што цяпер той хлопец абавязкова павернецца да той, якую да гэтага часу проста не заўважаў. Цяпер ён будзе ўсё здзяйсняць толькі так, як захочацца закаханай. Нават і не здагадаецца сам, ад чаго ж адбылася ў ягоных паводзінах такая нечаканая перамена» (УЗ. Даг.).

«Даўней то мы часта так на хлопцаў шапталі. Самі, каб праверыць, ці дзейнічае ўсё гэта, а ўжо калі нешта болей сур'ёзнае, калі не хоча хлопец якуюсьці дзяўчыну кахаць, а яна да яго хіліцца, то ў такіх выпадках звярталіся да знахарак. Толькі да жанчын-варажбітак. Мужчыны не хацелі прызнаваць такога рамяства, пасмейваліся, таму да іх і не ішлі, каб гамонкі лішняй не было, бо тады ж усе даведаюцца, а гэта ж, трэба думаць, справа душэўная, патаемная. Бабулькі ж, яны самі некалі маладыя былі і, хутчэй за ўсё, такімі замовамі займаліся. Прыйдзеш да знахаркі. Падарунак, які ёй з сабою абавязкова прынясеш, бо ж няёмка з пустымі рукамі ісці. Калі дагодзіш, то так і рассыплецца ўся ў ласцы, так і расквеціцца. Раскажаш, што да чаго, з кім бы ты мілавацца хацела і ў чым прычына, дык яна, выслухаўшы, і замахае рукамі, маўляў, няма нічога страшнага. Зараз усё выправім! Саджае цябе за стол, кладзе перад табою замок з уторкнутым у яго ключом і папярэджвае, што зараз пачне шаптаць і каб дзяўчына трымалася на поўным сур'ёзе. Шэпча, а як закончыць замову, то ключом шчоўкне і замкне замок (на самой жа справе, па яе сцверджанні, — гэта яна «замыкала» прысушку). Так шаптала замову тройчы, і пасля кожнага вымаўлення замыкала замок. А пасля трэцяга разу замыкала замок ажно тройчы, г.зн., што здзяйсняла наймацнейшы слоўны «замок», пасля якога хлопец, на якога шапталі, пачынаў адчуваць на сабе ўплыў гэтай патаемнай прысушкі-варажбы. Замок з ключамі бабуля-знахарка акуратна хавала да наступнага разу, бо ведала, што неўзабаве яго давядзецца даставаць зноў. Перад тым, як пакласці ў якое патаемнае месца, давала пацалаваць замок дзяўчыне, каб прысушка стала дзейнічаць хутчэй» (УЗ. Лельч.).

Гэтыя ж самыя прадметы надаралася бачыць і тады, калі вяскоў-

цы першы раз выганялі сваю жывёлу на пашу. Тут замыкаліся «губы-зубы шэрым ваўкам, ліхім звярам, каб яны нідзе і ніколі не чапалі скацінку, шэрую шарсцінку». Традыцыйна-магічнае дзеянне з замком і ключамі здзяйсняў у такіх выпадках самы спрактыкаваны, самы вопытны і стары знахар сярод усіх жыхароў гэтага паселішча, якога, здаралася, прыводзілі ўжо з-за немагаты на выган пад рукі.

«Даўней, як запашвалі сваю жывёлу, то давалі пастуху ў торбу замок і ключ, каб ён на працягу першага дня бразгатаў імі і, значыцца, замыкаў зубы крыважэрным звярам, якія толькі і рабілі, што пільнавалі зручнага моманту, каб зарэзаць авечку ці расшкуматаць якое цялятка. Раней гэта часта даволі здаралася, бо пасвілі, у асноўным, па лясах, па балотах, а там ужо ўсялякага звяр'я хапала. Таму і баяліся, каб не надарылася няшчасце, і прасілі знахара прыйсці на дапамогу ў такі адказны момант. Любы шаптун не адмаўляўся ад такога гонару, бо калі пачне аднеквацца, упарціцца, дык хутка знойдуць іншага. Замок і ключы вопытны знахар нёс з сабою, яны ў яго захоўваліся дома. Самае добрае, адзначалі, гэта калі замок і ключ былі старадаўнія, каваныя. Думалі, што ў такім разе жывёла будзе замкнута ад звярыных зубоў крапчэй звычайнага. Стары знахар выймаў ключы і замок з торбы ці яму іх падавалі, і гэта ўсё рабілася так, каб іх усе бачылі. Звычайна ён заходзіў на кут чарады, пазвоньваў там, ішоў на другі кут і г.д. Адным словам, замыкаў жывёлу з усіх чатырох бакоў свету. Знахара шчодра адорвалі, шчыра дзякавалі і прасілі ніколі не адмаўляць і ў далейшым, калі надарыцца якая нагода, звярнуцца да яго. Расчулены шаптун забіраў падарункі, але потым, нібы апамятаўшыся, прасіў падаць яму ключ (ключы) і замок. Хто-небудзь з вяскоўцаў рабіў выгляд, што іх шукае, а потым радасна ўсклікваў: «Во ж яны, во!» Свае магічныя рэчы знахар перад усімі замаўляў і клаў назад у торбу, а наверх ужо ўпарадкоўвалі старому падарункі. Пасля ўсяго калі статак адганялі далей на пашу, а людзі паварочвалі дамоў, то некалькі чалавек абавязкова праводзілі шаптуна да самай хаціны, «каб ён не згубіў выпадкова ключоў ды замка, бо тады жывёла можа хутка адамкнуцца і застанецца сам на сам з лютымі звярамі». Так усё ў нас раней рабілася. Зараз пазабывалася многае, а калі і памятаецца, дык людзі адмаўляюцца верыць» (УЗ. Слаўг.).

«Замыкалі, а як жа. Замыкалі ваўкам ды мядзведзям іхнія ратызубы, каб яны жывёлу не душылі, каб людзей не палохалі, галадаць-паміраць не прымушалі. Рабілі гэта ў той дзень, калі жывёлу ўпершыню выганялі вясною на пашу. Тады многа ўсялякіх штукарстваў

знахары выраблялі: сякеры перакідалі, абкурвалі кароў з усіх бакоў, ключом і замком замыкалі. А як гэта рабілася? Вельмі проста. Аднаму з найбольш паважаных і старых вяскоўцаў, які ўмеў шаптаць, уручалі замок і ключ, ці ён увогуле прыходзіў са сваімі. Падыходзіў як мага бліжэй да каровак і пачынаў пазвоньваць, рабіць выгляд, што крэпка-накрэпка замыкае замок. Гледзячы на яго, можна было падумаць, што і на самой справе гэта ўжо так цяжка. Пераходзіў з аднаго боку на другі, потым — на трэці, на чацьвёрты. Стараўся «замкнуць» каровак, зрабіць іх непрыступнымі адусюль. На заканчэнне доўга стаяў на адным месцы. Ці то ён яшчэ якую замову для засцеражэння жывёлы дадаткова шаптаў, ці то ўжо імкнуўся зрабіць так, каб ключ і замок добра служылі і надалей — гэтага канкрэтна ніхто не ведаў» (УЗ. Раг.).

Па аналогіі вясковыя знахары стараліся вылечваць і ад зубнога болю. Уся існасць справы заключалася ў тым, што яны падчас выканання замовы давалі хвораму патрымаць **свіны зуб ці свіную сківіцу (або сабачую)**. Чамусьці сярод людзей спрадвеку лічылася, што ў гэтых жывёлін зубы ніколі не баляць. Таму і не дзіўным нам здаецца, што шаптун імкнецца дакрануцца ці пагладзіць тую шчаку, з боку якой баліць зуб, прынесеным з сабою магічным талісманам. У паасобных выпадках знахар мог нават сцвярджаць, што свіны зуб «ажно пачарнеў, ледзьве вытрымаў ад чалавечага болю».

«Раней жа ад любой хваробы толькі знахары і лячылі. Больш не было да каго звяртацца. Калі недзе і быў доктар, дык гэта ж надта далёка, ды і плаціць яму трэба было грашыма, а ці ж яны былі ў кожнай вясковай сям'і? Таму і разлічвалі на шаптуноў і самі на сябе, бо і кожны з сялян ведаў некаторыя з замоў і ад чаго яны дапамагаюць. Асабліва пакутавалі ад зубнога болю. Здаецца, любы боль можна было неяк трываць, а ад зубнога на сцяну даводзілася кідацца. То яшчэ калі дарослы чалавек, а калі дзіця, што тады? Як выкручвацца? Заставалася адзінае, калі ўжо не дапамагалі і свае замовы, звяртацца да знахара і найлепш, каб гэта быў наймацнейшы знахар у мясцовасці. Тады была большая гарантыя, што ён абавязкова дапаможа, суцішыць, а то і зусім здыме боль, прымусіць яго адступіць. Замовы зубныя яны ж кароткія. Таму шаптуну нічога не значыць прамовіць іх некалькі разоў запар. Але самае галоўнае заключалася ў тым, што ён прыносіў з сабою свіны зуб. Як толькі збіраўся выконваць замову, дык даваў яго ў рукі хвораму, а потым яшчэ некалькі разоў праводзіў па забалеўшаму месцу. Калі шчака была моцна апухшая, дык хворы нават адзначаў, што ў ёй, пасля такога ваджэння, ажно ка-

лоць пачынала. Тады знахар быў найбольш задаволены і адразу супакойваў чалавека, што такія колікі — гэта прадказанне таго, што гной вось-вось прарвецца наверх і тады боль сунімецца. Так яно звычайна і адбывалася. Зуб той свіны шаптун забіраў назад. Калі выходзіў з хаты, то прасіў у каго-небудзь з гаспадароў, каб яму там палілі на рукі. Старанна мыў не толькі рукі, але і зуб, гаварыў, што «гэта ён стараецца змыць страшэнны боль, які на ім назбіраўся, каб не занесці боль да каго-небудзь іншага ў чарговы раз». Зуб клаў на якое-небудзь вышэйшае месца і чакаў, пакуль ён добра высахне («выпарыцца»). Нярэдка ад зубнога болю знарах прыходзіў лячыць не адзін, а тры дні, а то і сем дней запар. Сем дзён — гэта калі боль быў асабліва люты і несуцяшальны» (УЗ. Бых.).

«Часта прыходзілася знацца са знахарамі. А куды ж было без іх? Усё, забаліць што-небудзь, дык і бяжыш адразу за паратункам. Яшчэ добра, калі той знахар не заўпарціцца ды не адмовіцца, а то ў суседнюю вёску, а то яшчэ і далей давядзецца перціся. Многае здзіўляла ў тым, што як спрабавалі вылечыць. Толькі на гэта ўжо потым увагу звярталі, адразу ж усе маўчалі, як мышы пад венікам. Асабліва некаторым было не па сабе, калі з кішэні ці з торбы шаптун даставаў свінячую сківіцу. Лічылася, што чым яна большая, тым болей болю на сябе выцягне з чалавека, забярэ яго, не дасць тварыць з людскім целам у далейшым шматлікія пакуты. Яшчэ калі шапталіся замовы, то варажбіт зрэдчас нібы паплёўваў на тую сківіцу. Шаптаў звычайна знахар не надта доўга, але затое якія іншыя штукі вырабляў працяглы час. Тую самую сківіцу падносіў крыху бліжэй да твару, з таго боку, з якога балеў зуб, і круціў ёю быццам бы нейкім свярдзёлкам. Гэта спрактыкаваны шаптун такім манерам спрабаваў «накруціць» боль. Потым нечакана, рыўком, адцягваў руку і, ні з кім не развітваючыся, кіраваў у двор. Пры гэтым не прамаўляў нават ніводнага слова. За ім выходзіў у двор хто-небудзь з гаспадароў, і толькі там ужо варажбіт пачынаў адказваць на пытанні. Але часцей за ўсё, ён проста распавядаў сам, гаварыў, які страшэнны боль даводзілася трываць няшчаснаму чалавеку, ды зараз усё перайначыцца, бо ўдалося «выцягнуць» тую хваробу з зуба. Гэтулькі многа яе было, што нават свіная сківіца пачарнела і тыкаў пальцам у здарвенныя свіныя зубы. Тлумачыў, у які з іх больш увайшло болю, у які гною і г.д. Прасіў наліць яму чыстай вады, каб ён мог змыць хваробу, прыбраць яе з уласных рук і, самае галоўнае, са сківіцы. Калі ж не змые, дык да наступнага чалавека можа потым занесці яшчэ дадатковы боль-хваробу, ад якога небарака можа папакутаваць і памерці. Ніякага сак-

рэту са сваіх дзеянняў у двары варажбіт ніколі не рабіў, а, наадварот, стараўся падкрэсліць, што ўсё тут надзвычай просты і любы можа авалодаць такім рамяством, калі толькі захоча. Вядома ж, тут ён жартаваў і адначасова паказваў сваю перавагу, што я, маўляў, усё гэта раблю, а вось вы, калі нават і возьмецеся, дык усё роўна не здолееце» (УЗ. Бых.).

«Некалі ў майго дзядулі-нябожчыка, якому ўжо пад сто гадоў было, забалеў зуб. Бачыце, такі ўзрост меў, зубы ўсе ў яго захаваліся. Ён нікому і не верыў, што быццам бы зубы ды боллю праймаюць. Усё гаварыў, а як жа гэта так можа быць, каб зуб ды балеў. Гэта ж косць! А які боль у касці? Не верыў нікому, пакуль у самога не прыхапіла! Во ўжо ён тады кідаўся, во ўжо стагнаў на печы, што нават смерці сабе хутчэйшай прасіў. Выў не сваім голасам і, канешне ж, спаць нікому не даваў. Потым неяк разбарахтаўся і пачаў прасіцца ў свайго сына, а ў майго бацькі, каб той схадзіў і прывёў Восіпа-знахара, які любы боль з першага разу замаўляў. Самае галоўнае, што той шаптун быў яшчэ старэйшым за нашага дзеда, а паўсюль бегаў, як малады. Бацька пайшоў і неўзабаве сапраўды прывёў з сабою Восіпа. Яшчэ мы ледзьве са смеху не памерлі, калі знахар упрошваў нашага дзеда з печы злезці, бо той хацеў, каб і шаптун да яго туды залез, ды там лекаваў. Але ж Восіп катэгарычна адмовіўся ад такой прапановы. Нарэшце дзеда сцягнулі з яго ўлюбёнага месца і знахар стаў аглядаць, што ў яго да чаго прыключылася. Нам сказаў, што ў дзеда моцны нарыў. Стары сам быў глухаваты і не ведаў, што расказвае Восіп. Потым ён стаў шаптаць свае замовы. Пасля ўсяго дастаў сабачую скіўіцу і стаў вадзіць ёю ля распухлай шчакі. Нешта пры гэтым таксама вымаўляў. Скіўіцу тую прыбраў на лаву і давай па шчацэ злёгеньку вадзіць рукою. Вадзіў, вадзіў і нечакана як ціснуў, дык наш дзед так раўнуў, што, можа, за дзве вярсты чуваць было. Знахар на гэта ніякай увагі не звяртаў, бо аказалася, што гнайнік той у роце ад гэтага націскання лопнуў і нашага дзеда неабходна было ўжо ратаваць, каб не захлынуўся. Восіп даваў яму цёплую ваду рот паласкаць. Не меней за гадзіну дзед паласкаў і адплёўваўся, але боль адразу пачаў заціхаць. Знахар тую сабачую скіўіцу змываў на двары частай вадою. Пачакаў, пакуль яна падсохне і «ўся хвароба на ёй вымрэ», і пайшоў сабе дамоў. Ніякіх падарункаў, ніякай платы ўвогуле не браў» (УЗ. Лаг.).

«Калі зубы балелі, то іх па-рознаму замаўлялі, але стараліся, каб паклікалі таго знахара, які ўмеў замаўляць з сабачым зубам. Гаварылі, што нібыта такі шаптун самы моцны: ад яго можна чакаць хут-

кага пазбаўлення ад болю. Я сама бачыла, як гэта ўсё чыста рабілася. Значыцца, прыходзіць той шаптун ці сам ідзеш да яго. Гэта ўжо як атрымаецца. Ён садзіць цябе побач з сабою і пачынае «шукаць» хворы зуб. Спачатку лёгенька абмацвае адну шчаку, другую, потым просіць, каб хворы раскрыў рот, і тады ўжо зазначае, што яму, маўляў, усё зразумела («ясна бачыць»). Пачынае прамаўляць замову. Стараецца. Усё робіць шчыра, спагадліва. Некалькі разоў запар шэпча. Але самае важнае заключаецца ў тым, што ён дастае з кішэні сабачы зуб і варожыць з ім. Той зуб стараецца паднесці да шчакі, з боку якой баліць самому чалавеку зуб. Пытаецца, ці чуе што-небудзь хворы, калі той адказвае, што на самой справе яму коле («соўгае»), то супакойвае ўсіх, а перш самога хворага, што ён лечыць правільна і хутка боль прарвецца наверх. Раз прарвецца наверх, дык стане намнога лягчэй. Сцвярджае, быццам бы гэта так добра ўздзейнічае сабачы зуб, «на сябе забірае чужы боль, выцягвае, не дае яму пайсці глыбей усярэдзіну, бо калі такое здарыцца, дык замовы ўвогуле не дапамогуць». Гэтакаму чалавеку застаецца ўсё астатняе жыццё баяцца холаду, марозу, ветру, вады, гарачай ежы і г.д. Заканчвае знахар шаптаць і выходзіць у двор, дзе просіць паліць яму на рукі і спаласнуць сабачы зуб. Калі ў двары ёсць сабака, то шаптун гаворыць, каб боль ішоў на яго» (УЗ. Івац.).

Нельга не згадаць і пра тое, што даволі часта пры імкненні вылечыць хворага знахары карысталіся **дубоваю карою ці дубовымі трэсачкамі**. Дубовая кара (а гэта ўжо значна пазней даказана было беззагаворачна) на самой справе дапамагае ад некаторых захворванняў. Можна гаварыць і пра тое, што тут таксама прасочваецца аналогія з магутнасцю, сілаю дрэва. Маўляў, дуб моцны, ніколі не хварэе, таму ўжыванне ягонай самай дробненькай частачкі драўніны ці нават кары магло прывесці да паляпшэння стану саслабелага чалавека. Хіба не пра гэты факт сведчылі шматлікія сцверджанні нашых інфарматараў? Менавіта яны адзначалі, што хвораму, перад пачаткам шаптання, добра было б пацерціся аб што-небудзь дубовае. Асаблівую важнасць гэта набывала вясною, калі грымеў першы гром.

«Як загрыміць вясною першы гром, то людзі да дубовых слупкоў у плоце прыхіналіся і церліся спіною»; «Пасля першага ўдару грому пад страхой, каб не капала, людзі прыхіналіся да сцяны і церліся плячамі»; «Падчас першага грому трэба падперціся спіною да любога драўлянага прадмета, ля якога вас застаў гром» (УЗ. Хойн., Петр., Ст., Лельч.).

Намі зафіксаваны своеасаблівы абрад ці спосаб вылячэння ад

зубнога болю, толькі ў запісаных фальклорных творах ставілася абавязковая ўмова — у дуб павінна была ўдарыць маланка: «Кавалачак дуба, разбітага маланкай, прыклалі да зуба»; «Калі ў дуб ударыла маланка, то патрэба адламаць ад яго ствала невялікі кавалачак і пакласці яго ў хаце за абразы. Калі ў каго-небудзь забаляць зубы, адламаць ад кавалачка малюсенькую частачку і прыкласці да хворага зуба: боль як рукою здыме. Адарваць кавалачак ад дуба трэба ў першыя тры дні пасля ўдару маланкі» (УЗ. Івац., Пол.). Е. Раманаў таксама запісаў: «Замову трэба казаць на грудным малацэ, пад дубам, ці ўзяўшы дубовы колік у рукі»[2].

«Калі зашэптвалі хворы зуб, то знахары давалі на яго пакласці маленькі кавалачак дубовай кары. Трымаць яго ў роце трэба было не толькі падчас вымаўлення замовы, але і пасля, як мага даўжэй. Гаварылі, што гэтая кара, асабліва як разложыцца, то выцягвае ўвесь чыста боль на сябе. Чалавек нават можа адчуваць, як усё гэта адбываецца. Вось нібы нітку цягнуць паволі і яна выслізвае, выслізвае. Так і тут. Знахар дасць яшчэ пару кавалачкаў і растлумачыць, што да чаго. Напрыклад, папярэдзіць ён, ні ў якім разе нельга замочваць кару гарачаю вадою, бо тады атрымаецца, што ўся сіла дубовая сыйдзе з вадою і нічога ў ёй гаючага не застанецца. На ноч яе неабходна памяняць два разы: пасля першых і пасля трэціх пеўняў. Часам знахар, яшчэ перад тым, як пакласці хвораму дубовую кару ў рот, здрабняў яе малатком ці чым-небудзь цяжкім. Асабліва ў тых выпадках, калі ля зуба, на ўсю шчаку і дзясну была вялізная пухліна. Вядома ж, тут нешта ў рот цвёрдае пакласці нельга было, бо гэта выклікала прыступ страшнейшага болю. Чалавек, які і так быў спакутаваны, мог зайсціся ў адчайным крыку, што для яго было проста непажадана, бо тады ўсё ў пагаршэнні стану магло звязаць з ягоным «няправільным» лячэннем-шаптаннем» (УЗ. Ашм.).

«Кожны знахар карыстаўся дубовай карой. Асабліва, калі гэта быў моцны варажбіт і ён, безумоўна, ведаў, што да чаго. Кару гэтую ён здзіраў з вельмі старога дуба, які рос ля крыніцы. Лічылася, што тады і з вады дуб нацягваў у сябе многа гаючай сілы. Адрываў варажбіт сабе не надта вялікі кавалак кары (каб на ўсіх хапіла), потым расшчэпваў яго на дробныя часцінкі, якія старанна высушваў, а потым ссыпаў у свой замоўлены мяшочак і хаваў за абразы. Прыходзіў да яго ў хату чалавек, які скардзіўся на зубы, тады шаптун лез у схованку, даставаў гатовую порцыю і садзіў хворага перад сабою. Усё глядзеў, распытваў, дзе ды што, які зуб баліць (коле ці ірве, пастаянна ныне ці толькі часам і г.д.). Пачынаў шаптаць знахар, але ўжо да

гэтага дадаваў кавалачак дубовай кары, каб яго паклалі на хворы зуб і трымалі ў роце да таго часу, пакуль не адчуе, як заціхае боль. Выконваў не адну, а некалькі замоў, найбольш моцных, бо замовы ад зуба непрацяглыя і іх хутка паспее прашаптаць. Нярэдка знахар дае яшчэ прыйшоўшаму пару кавалачкаў кары з сабою. Пры гэтым папярэджвае, што іх трэба мяняць пасля таго, як кара на зубе размокне і перастане ўцягваць у сябе гной, гніласць ды боль. Прайсці павінна з часу закладання кары не меней шасці-сямі гадзін. Тая кара ў спрактыкаванага знахара захоўваецца не болей года (да наступнай вясны), а пасля першага веснавога грому ён яе мяняе. Старую не спальвае, нікуды не выкідае, а закопвае, «каб ніхто не наглуміўся са святога». Даўней многа такіх знахароў было, якія ведалі, як і чым карыстацца, ад чаго гэта дапамагае. А цяпер такіх няма. Перавяліся. Людзі ўсё болей да дактароў звяртаюцца» (УЗ. Лідскі).

«Звярталіся да шаптуноў. Што ж яшчэ заставалася рабіць? Баліць, то ж неяк трэба было ратавацца, неяк жа выходзіць са становішча. Асабліва бедавалі, калі зубы заходзіліся. Тут ужо паратунку ніякага не існавала. Ні спаць, ні есці, адно толькі крычаць не сваім голасам. Таму знахары і лячылі. Ішлі да іх. Самыя вопытныя шаптуны дык тыя зубы замаўлялі, карыстаючыся кавалачкам дуба. Для такой патрэбы падыходзіла не любое дрэва, а толькі тое, у якое біла маланка. Прычым адламаць крышачкі, неабходна было ў першыя тры дні пасля ўдару грому. Калі ж праходзіла болей часу, то такое дрэва лічылася нямоцным у справе вылячэння. Ішоў да знахара хворы, расказваў, што да чаго, але у большасці выпадкаў і так было відаць, бо пухліна з'яўлялася. Трэба было тую трэсачку прыкласці да хворага зуба, а пасля пачынаць замаўляць. Шаптун выконваў, каб да канца збіць боль, некалькі замоў запар. Дзейнічаюць жа яны таксама не імгненна. Павінен прайсці некаторы час, каб боль хоць крыху суняўся. Здараюцца выпадкі, што адразу пасля таго, як на хворы зуб пакладуць трэсачку дуба, з яго нібы нешта пачынаюць выцягваць. Знахар тлумачыць такую з'яву па-свойму — яму ўдалося зачапіць («наматаць») на трэсачку тое месца, адкуль пачалася ўся хвароба ў зубах. Тут ён усіх цвёрда пераконваў, што неўзабаве боль сунімецца і зубы перастануць балець. Як толькі заканчваў шаптаць, дык забіраў тую дубовую ашчэпку з рота, а прапаноўваў узяць іншую. Калі ад яго выходзіў хворы чалавек, то прымушаў яго выплюнуць усё з рота (сліну, гной, кару, парэшткі той драўніны) у «чорны вугал», туды, дзе нічога не расло, дзе нічога не рабілі. Звычайна гэта быў сметнік» (УЗ. Красн.).

Удалося нам зафіксаваць і некаторыя іншыя варыянты-сведчанні

пра тое, як знахары ўмела выкарыстоўвалі гаючую сілу дуба. «У нашай мясцовасці дубы, у якія біла маланка, спальваюць, бо лічаць, што такія дрэвы прыносяць вялікае няшчасце. Але іх ніколі не выкарыстоўваюць для таго, каб тапіць у печы. Іх лічылі для гэтай мэты непрыгоднымі. Так рабілі нашы продкі, так рабілі і мы» (УЗ. Калінк.). Тое ж самае зафіксавана і ў Віцебскай вобласці: «Старыя людзі пра іх (дубы. — *А. Н.*) нічога не расказвалі. Ну, а пабітыя перуном (перуном, а не маланкай!) дубы зразалі на дровы і ўсё»; «Калі маланка ўдарыла ў дуб, значыць, старыя людзі раней лячылі дзяцей ад эпідэміі гэтымі трэсачкамі»; «Калі дзе маланка пабіла дуб, то добра збіраць трэсачкі. Калі на жывое — скора выздаравееш, а на мёртвае — хутка памрэш. Вось майго сына спаралізавала было. Ён і не хадзіў. А мне старыя людзі параілі адварам трэсачным мыць рану і паіць. І ён хутка ўстаў і потым ужо з кульбай хадзіў. Вельмі добра тыя трэсачкі на ўсялякую падучую хваробу. А так я болей нічога не ведаю» (УЗ. Пол.)[3].

Як бачым, дуб, дубовая кара, дубовы колік звязаны вельмі цесна з народнай варажбой, медыцынай, знахарствам. Так вялося з даўніх гадоў і таму няма нічога дзіўнага, што многае, няхай сабе і ў даволі перайначаным выглядзе, захавалася, дайшло да нашых часоў.

Цікава і тое, што патрыярхальныя людзі чамусьці безагаворачна верылі ў перадаваемыя з пакалення ў пакаленне магічныя абрады і дзеянні. Няхай сабе некаторыя з іх адносіліся да гэтых прымхаў і забабонаў з недаверам, але ж разам з тым і не адмаўлялі іх, бо «не намі заведзена, не нам усё і адмяняць, а раптам жа некаму дапамагала». Хочацца адзначыць наступнае — ёсць даволі арыгінальныя прыклады, дзе ў якасці спадручных сродкаў шаптуны выкарыстоўвалі **ружу, васілёк, рамонак, засушаны** (ці зялёны яшчэ) **ліпавы цвет** і іншыя краскі. Знахары-варажбіты ў такіх сцэнах прытрымліваліся думкі, быццам бы пасля іхняга зашэптвання, пасля таго, як хвароба адступіць, чалавек па-ранейшаму расцвіце прыгожым колерам жыцця, сілы, моцы.

«Некалі я моцна была застудзілася. Восенню гэта было. Халадэча. Дождж. Вецер. Уся восень такая, а трэба ж і збажыну, і бульбу прыбраць. Кожны божы дзень прамакалі не толькі да нітачкі, але і да костачкі. Дома пакуль адыйдзеш, дык атрымліваецца зноў трэба на працу збірацца. Хварэлі часта, бо па-іншаму і працаваць не выпадала. Маладая, то, думала, пройдзе, аж як ухапіла! Як ухапіла! Спачатку на печы ляжала, бацькі сказалі, каб выгравалася. Такія тады і лекі былі. Спадзяваліся самі на сябе. Ажно, як пачала я ў гарачцы гарэць, як пачала трызніць ды кідацца, то ўсе спалохаліся і кінуліся

да знахара. Добра, што ён быў чалавекам безадказным. Куды не папросяць, дык ідзе. Прыйшоў адразу і да нас. Праўда, як першы раз прыходзіў, то я і слова сказаць не магу, бо нічога не памятаю. Гаварылі нашыя потым, што паказаў маці свежы ліпавы цвет і сказаў, каб яго ля маёй галавы павесілі. Так умела засушаны быў, не рас-трыбушаны, быццам бы проста ў гэты момант з дрэва сарвалі. Калі мне стала намнога лягчэй і хваробу знахар ужо замаўляў пастаянна, то даваў мне ў рукі ліпавую кветачку. Гаварыў, што калі буду ва ўсім яго слухацца, то яму намнога прасцей вылечыць мяне. Паабяцаў праз тыдзень на ногі паставіць, так і зрабіў. Пазней, калі хадзіла дзякаваць яму з матуляй, насілі падарунак (вышываную кашулю і прадукты), дык знахар яшчэ раз патлумачыў, што найпершы сродак ад усялякай прастуды — ліпа, ліпавы цвет. Ім трэба паіць, націраць і абавязкова даваць яго ў рукі падчас вымаўлення замовы. Так ён сам пераняў ад сваіх бацькоў, гэтаксама заўсёды і рабіў» (УЗ. Жабінк.).

«Наш дзед надта добра прастуду ўсялякую замаўляў-вылечваў. Не было такога выпадку, каб не дапамог. Выдатна ведаў, ад чаго якая траўка, кветка дапамагала і, да таго ж, на гэта яшчэ і нашэптваў свае замовы. Прыйдзе да хворага, дасць яму ў рукі кветачку шыпшыны (у нас называлі «дзікай ружай») і скажа: «Вось, каб пасля маіх слоў твой твар стаў чырвоным, як гэтая кветка, цела здаровым, як гэты камень, а сам ты вясёлы, як званочак у полі». Потым прыступае шаптаць. Дзед гаварыў, што яму лепей за ўсё адмаўляць, калі хвароба на паверхню выступіла, г.зн., калі на целе з'явіліся нейкія пляміны ці прышчы, або яшчэ што іншае. Тады адразу відаць, чым чалавек хварэе, чым ён мучыцца. Як бачыў, што цела сцягвае скула і яна яшчэ не выспела, а толькі-толькі ўбіраецца ў сілу, то даваў у адну руку хвораму цыбуліну (чамусьці ўсе казалі, што яна найбольш добра цягне гной з цела), а ў другую — прыжоўклую ружу, і пры шаптанні зазначаў: «Каб ты, скула-скуліца, чырвоная дзявіца, стала жоўтай, як гэтая кветка» . Гэта азначала, што стары знахар у сваёй замове прасіў-умаляў скулу стаць хутчэй жоўтай, спелай, а са спелай ён справіцца даволі лёгка: гной выдавіць і жарало выцягне, і саму рану дагледзіць. Прастуда ж па-рознаму выступала. Асабліва запомнілася, як ён шаптаў ад ламоты. Хадзіў замаўляць аднаго нашага вяскоўца. Браў з сабою засушаныя кветачкі. Яны ў нас званочкамі называюцца. Як зірнуў на таго чалавека, дык ажно самога перасмыкнула. Давай хутчэй усё шаптаць-замаўляць, «каб у цябе ламота выломвалася, як гэтыя званочкі, і г.д.». А тыя званочкі адно толькі патрэскваюць, бо вельмі ж ломкія. Пашаптаў дзед адзін раз, другі сваю замову і той

вясковец, небарака, заснуў. Заснуў упершыню за цэлы тыдзень. Так у яго хвароба ўся і прайшла. Выратаваў стары шаптун. Дзед казаў, што на сябе ўсю хваробу гэтыя кветкі выцягваюць, таму ён імі і карыстаўся падчас вымаўлення замоў» (УЗ. Дзярж.).

«Каб наймацней шапталіся замовы, дык часта знахары давалі ў рукі хворым патрымаць «сваю кветку». Справа ў тым, што ў кожнага з іх быў улюбёны колер і адпаведна ён асацыіраваўся з нейкай кветкай, якая найчасцей сустракалася ў нашых мясцінах. Здаралася, што прыносілі ці ўжывалі такую кветку, якую, можа, ніхто нават і не бачыў раней. Тады людзі разумелі, што перад імі знаходзіцца знахар надзвычай моцны ў сваёй замоўнай сіле, яго трэба трымацца, бо ён вылечыць ад такой цяжкай хваробы, за якую хто іншы з шаптуноў і брацца не будзе. Цудадзейную рэдкасную кветку знахар толькі раз дае патрымаць хвораму, водзіць ёю ля збалелага месца, «даторкваецца да балючага», але ні ў якім разе не пакідае назаўсёды. Ён баіцца, што разам з гэтай, незайздроснай на першы выгляд, кветкай страціць такую неабходную замоўную сілу. Ні для каго не сакрэт, што без замоўнай сілы знахар не здолее вылечваць, не зможа дапамагаць, а значыцца, да яго перастануць звяртацца людзі. Быў у нас некалі адзін дзед, якому, відаць, за сотню гадоў пераваліла. Надта спраўна вылечваў той стары ад усялякіх нарываў. Карыстаўся пры гэтым не абы чым, а чырванюсенькай ягадкай шыпшыны. Так і гаварыў, так і намаўляў, што пачырванее нарыў вось таксама, як і гэтая ягадка, то прарвецца за ноч, бо на ноч дае ж шыпшынку прыціснуць і завязаць шчыльна палатнінай. Нараніцу ўжо знахар не толькі замаўляе, але і старанна ўсё ачышчае. У рукі хвораму дае ён напаўзеленаватую засушаную ягадку і тлумачыць, што хвароба таксама ўжо «не ўжывалася», што яна засохла, болей прабівацца і чапляцца да чалавека не будзе» (УЗ. Лаг.).

«Сустракаліся выпадкі, калі знахары нашэптвалі на чалавека замову, карыстаючыся якой-небудзь кветкай. Гэта рабілася для таго, каб на самой справе паказаць, што ўжо за хвароба ўвабралася ў людзей, з чым яе можна параўнаць, чым прымусіць найхутчэй выбрацца з цела. Не адзін і не два разы мне даводзілася назіраць за такой дзіўнай з'явай. Наша суседка, бабуля Хрысця, замаўляла, а па-другому гаварылі ўсе чыста, «спальвала», «вынішчала» рожу. Надзіва страшная хвароба і яе мог увабраць далёка не кожы знахар. Суседка была з наймоцных шаптуноў. Яна хворага чалавека выводзіла ў тое месца, дзе можна было знайсці незамерзлую зямлю. Нават зімою ці ў той іншы час, калі замярзала ўсё навокал. Саджала тады ў стоп-

цы ці ў хляве. Гэта была неабходная ўмова. Старая Хрысця разграбала крыху пясочак («капала ямку»), над якім саджала хворага і пачынала рабіць сваю справу. У рукі сама брала кветку маладога высушанага сланечніку, а ў рукі хвораму давала чырвоную ружу (здаралася, што і шыпоўніку, бо ружу не так часта ў даўнейшыя гады можна было знайсці ў вёсцы). Шаптанне вяла пра сябе і пастаянна памахвала сланечнікам ля «заружавелага» месца. Старалася амаль што датырквацца да яго, але гэта толькі здавалася, бо бабуля Хрысця ведала, якi гэта можа выклікаць прыступ болю. Сам хворы трымаў ружу ў руцэ, з якога боку балела: калі з левага, то ў левай, калі з правага, то адпаведна з правага. Хворы павінен быў трымаць сваю кветку непарушна. Здаралася, што ён стагнаў ад нясцерпнага болю, тады бабуля ўсім тлумачыла пра тое, што гэта рожа пачала сплываць уніз. У тую зараней выкапаную ямачку. Рожу старая Хрысця спальвала ўсяго за тры разы і болей ніхто з суседніх вёсак, з тых шматлікіх знахароў, якія сябе лічылі за сапраўдных шаптуноў, зрабіць гэтага не маглі. Яна памерла, з ёю ж памерла і яе навука» (УЗ. Нясв.).

«Згадваецца, як часта нашага дзядулю клікалі людзі замаўляць розныя хваробы. Ён на гэта быў надта здатны. Болей таго, казалі (яшчэ і зараз даволі часта ўспамінаюць), што так, як гэта мог зрабіць стары, зараз ніхто ўжо не здолее. Асабліва здатны дзед быў да «спальвання» рожы. Хвароба такая. Яна найбольш ад прастуды ў людзей падкідвалася. Пасінее цела ў адным месцы, а на ім яшчэ з'явяцца чорна-чырвоныя пляміны. Такія страшныя. Цела нальецца пухлінаю так, што здаецца скура вось-вось лопне. Чалавеку баліць, спаць нельга, ляжаць-хадзіць таксама. З сілы сыходзіць. Гарачка падымаецца такая, што да галавы не дакрануцца. Далёка не любы знахар браўся за вылячэнне, наадварот, адмаўляліся, бо бачылі, што такога чалавека адмовіць ім будзе надта складана. Дзядуля зашэптваў рожу з трох раз. Але на адлегласці шаптаць не хацеў. Трэба было, каб хворы быў абавязкова перад ім. Тады ж і паглядзіць, і ацэніць усё сам, і скажа, як жа ўсё можна выправіць. Самае галоўнае заключалася яшчэ ў тым, што стары знахар акрамя шэптаў карыстаўся засушанымі пладамі шыпоўніку. Гэта былі і першыя кветачкі, сарваныя з куста ў перыяд цвіцення і старанна засушаныя, і самі плады, чырвоныя-чырвоныя ягадкі. Значыцца, кветку ён даваў у рукі хвораму чалавеку, а сабе ў далоні браў плады, па аднаму ў кожную руку. Пачынаў шаптаць і звяртаўся да «пацыента»: «Паглядзі, якая кветка ў цябе... Гэта, бач, хвароба распусцілася...» Заканчваў замову і зноў звяртаўся да хворага: «А цяпер, паглянь, якою хвароба стала, — спелаю...» З гэтымі

словамі паказваў плады шыпоўніку. Потым сцвярджаў, што хваляваўца асабліва няма чаму, бо ён запроста ўправіцца з рэштакамі рожы» (УЗ. Слуцк.).

Зрэдку здаралася зафіксаваць нам і пагладжванне («замыванне», «памочванне», «сцягванне», «змыванне») знахаром забалелага месца **мокрай анучкай**. Асабліва гэта датычылася тых выпадкаў, калі чалавек моцна ўдараўся або вывіхваў сустаў. Зараз нікому не сакрэт, што пры такіх траўмах сапраўды дапамагае («злізвае») нешта вільготнае, мокрае і яшчэ лепш, каб яно было халоднае.

«Памятаю, як маленькім быў. Можа гадоў шасці-сямі ад нараджэння. І не пашанцавала мне. Неяк бегаў з іншымі дзецьмі, спатыкнуўся і ўпаў. Руку сабе звіхнуў. Спачатку, з той гарачкі ды адчаю, паспрабаваў было далей «іграцца», але як ухапіла мяне! Як пачало руку круціць ды пушыць, то яна зрабілася падобнай на калоду. Спалохаўся я, ірвануў, равучы, дамоў. Мае сябрукі напалохалі, што і памерці запроста можна. Зараз зразумела, ад такіх удараў-звіхаў не паміраюць, а тады... Прыбег дамоў, давай шукаць матулю, каб яна мяне суцешыла ды нечым парадзіла. Аж яе ўдома не было, недзе ў полі працавала. Давай тады галасіць-залівацца ў поўны голас. І што ж вы думаеце? Учуў суседскі дзед, якому было многа-многа гадоў. Не паленаваўся, прышкандыбаў, бо звычайна у вёсцы гаспадары, калі адыходзяць ці ад'язджаюць куды, то просяць суседзяў паназіраць за малымі, каб тыя ліха якога не ўчынілі. Дык вось, прыйшоў той дзед і давай мяне распытваць, што ж такое здарылася? А мне ні да якіх пытанняў. Раву сабе, дый годзе! І ўжо не так ад болю, як ад страху. Стары сам заўважыў маю распухлую руку і ўсё чыста зразумеў. Узяў мяне і павёў паціху ў сваю хаціну. Там пасадзіў на палку, каб я аддыхаўся. Супакоіў. Сказаў, што ўсё гэта лёгка выправіць, калі толькі перастану плакаць. Давялося сцішыцца, тады дзед паклаў мяне на палку. Намачыў чыстую анучку ў халоднай вадзе, прыклаў яе да ўдаранага месца і, усміхаючыся, стаў нешта шаптаць. Пашэпча, пашэпча, а потым сваёю рукою пагладзіць праз анучку маю руку. Так паўтарыў усё чыста тры разы. Пайшоў зноў па-новаму шаптаць. Я так і заснуў на ягоным палку. Калі прачнуўся, дык убачыў, што нада мною па-ранейшаму сядзіць дзед і... усміхаецца. Гаворыць: «Глянь, унучак, на руку». Паглядзеў я і не паверыў, бо не заўважыў ніякай пухліны, не адчуваў і ніякага болю. Так мне дзядулька-шаптун замовіў той удар. А карыстаўся звычайнай анучкай, змочанай у вадзе, ды замоўленым словам. Вось і ўсё, як дапамог!» (УЗ. Клецк).

«Некалі бачыла, як маці-нябожчыца моцна звіхнулася. Атрымалася так, што ішлі мы ў чарніцы. На самым досвітку выбраліся. І трэба ж было! Не заўважыла яна нейкую невялічкую ямінку, трапіла туды нагою. І ўсё на тым, адно войкнула і адразу ж села. Паспрабавала было ўсхапіцца і зрабіць пару крокаў, ды куды там! Заплакала, небарака, не так, мабыць, з болю, як з адчаю, што ўсё такім чынам павярнулася: жанчыны ягады браць стануць, а ёй трэба думаць яшчэ, як адсюль дамоў дабрацца. Зайшлі ж даволі далёка. Не ведаю, што было б, каб з намі не пайшла Тэкля. Суседка недалёкая наша. Усе жанчыны, як ішлі, то толькі на колькі імгненняў прыпыніліся ды далей падаліся, параіўшы не адставаць. А Тэкля не пайшла. Вярнулася да маці і давай распытваць, дзе ж баліць. Потым, прамацаўшы нагу, зазначыла: «Ведаю, галубка, ведаю, што да чаго... Зараз я табе і выпраўлю... Бяды гэтулькі...» Узяла маміну хустачку і паслала мяне, каб я яе добра намачыла ў бліжэйшай крыніцы, і папярэдзіла пры гэтым, каб не адціскала, а так і прынесла. Я злётала туды і назад за пару хвілін, бо баялася, што з матуляй здарыцца нешта благое і непапраўнае. Тэкля пасадзіла яе пад бярозкай і давай шаптаць над нагою. А нага ўжо да таго часу зрабілася тоўстая, як калодка. Пашаптала сваю замову, абматала каля шчыкалаткі мокрай анучкай, і зноў давай шаптаць. Тройчы прашаптала, потым я яшчэ збегала і намачыла хустку, якой туга перацягнулі звіхнутае месца. І што ж вы думаеце? Пайшлі мы далей, у ягады. Праўда, не за астатнімі жанчынамі, а ўсяго ўтраіх. Столькі ягад тады панабралі, ледзьве дамоў прыцягнулі. Нага ж да вечара і балець увогуле перастала, нават не нагадвала пра тое, што звіхнутая моцна была. Такая знахарака ў нас жыла па суседству. Многім Тэкля дапамагала, а ўласны лёс яе быў, то ніхто не пазайздросціць — мужа маладога пахавала, чацьвёра дзяцей было, то і тыя, адно за адным, паўміралі. Так адзіным-адна, небарака, і век свой дажывала, іншым дапамагаючы» (УЗ. Чач.).

«Ад звіху даўней многія самастойна вылечвалі. Старэйшыя ды спрактыкаваныя знахары, то тыя нават маглі на саміх сабе больш зашэптваць. Гэта не проста і такое можа здзейсніць далёка не кожны, а толькі той, хто ўпэўнены ў сваіх сілах. А чужым дапамагалі запроста. Нават наш дзед добра ўсё зашэптваў. Прывядуць чалавека, а ў таго рука, як здаравенны сук, такая ўжо тоўстая ад пухліны. Спачатку ўсё распытае, абмацае, каб ненарокам якой трэшчыны ці пералому не прапусціць. Такое магло здарыцца, асабліва калі людзі не разбіраліся і сцвярджалі, быццам бы там просты звіх і нічога болей. Калі звіх, то дзед намочваў анучку, замотваў ёю, як мага тужэй,

звіхнутае месца і толькі тады ўжо пачынаў шаптаць. Некалькі разоў запар вымаўляў замовы, дакранаўся да таго, закручанага анучай, месца. Пасля, калі замоў болей не шаптаў, то па-новаму намочваў анучу, закручваў яе і гаварыў, што за ноч усё чыста сыйдзе, але тым не меней раніцай трэба абавязкова прыйсці яшчэ раз, каб замацаваць выхад звіху, бо ён можа вярнуцца і працягваць надакучваць целу» (УЗ. Жабінк.).

«Даўней жа ні да каго іншага, як да знахароў, не звярталіся. Трэба ж было ў некага шукаць паратунак, калі балела, калі даводзілася пакутваць. Ішлі да шаптуноў з просьбамі аб выратаванні. Памятаю, як на Прачыстую (21 верасня па новаму стылю. — *А. Н.*) у нашай вёсцы быў кірмаш. Ён і зараз праводзіцца штогод, але той раз мне запамятаўся з-за таго, што тады была страшэнная бойка. Пачалі біцца малыя, потым — умяшаліся хлопцы, а за імі ўчапіліся за чубы і жанатыя. Столькі ж ужо крыві было, столькі галашэнняў! Майго дзеда, якому ўжо сёмы дзесятак ішоў, але якому ўсё карцела ўсюды ўлезці, перацягнулі па спіне, з усяго маху, віламі. Яны ўжо зламаліся на ягоным гарбу. Спіна, дык нічога, нават выпрамілася, а вось левая рука распухла так, што рукаў сарочкі давялося разрэзаць, бо рука балела і моцна гарэла. Тады паклікалі да нас суседку. Яна звіхі добра зашэптвала. Падумалі, раз ад звіху замаўляе, то дапаможа і ад удару. Ажно так і атрымалася. Прыйшла, паглядзела на дзеда, які ляжаў на палку і войкаў, і сказала, што трэба было яшчэ раз яго перацягнуць, каб болей думаў, куды кідацца і ці трэба такое ўвогуле ў старыя гады рабіць. Спачатку добра «выспавядала» небараку, той ужо і не агрызаўся, бо баяўся, што суседка адмовіцца шаптаць. Тая ўзялася агледаць руку і пераканаўча засведчыла, што пераломy ніякага няма, а пухліна такая ўздулася ад удару. Загадала намачыць рушнік у халоднай вадзе і падаць ёй. Шаптала замову на рушнік, потым — гэта ж сама рабіла на руку і пасля — закруціла руку, як ляльку, у рушнік. Другі раз прыйшла пад поўдзень і зноў паўтарыла ўсё, як і з раніцы. Трэці раз прыйшла пасля вячэры і, зрабіўшы, як мае быць, смеючыся прамовіла, што хвораму можна зноў ісці біцца» (УЗ. Лях.).

«Некалі ад удараў часта даводзілася звяртацца да знахароў. Удараліся ў розных сітуацыях: аступаліся, біліся, па неасцярожнасці ўдарала падчас працы і г.д. Калі ўдар быў на паверхні і апухала ўсё вакол гэтага месца, то такую рану знахары замаўлялі даволі лёгка. Проста бралі мокрую анучку, прыкладвалі яе да ўдаранага месца і вымаўлялі замову. Паўтаралі замову некалькі разоў запар, каб яна лепей уздзейнічала. Анучку таксама мянялі, каб вада выстуджвала

сілу ўдара («расцягвала»), тады боль прыціхне, а пухліна пачне спадаць на вачах. Добра яшчэ, калі няма ніякай трэшчыны ў гэтым месцы, бо тады знахару давядзецца накладваць шынкі, каб усё, як мае быць, зажыло. Так і лячылі мясцовыя шаптуны, карыстаючыся тымі сродкамі, якія ім перадаваліся ад продкаў. Сама маці-гаспадыня самае неабходнае ўмела, сам бацька-гаспадар многае мог патлумачыць» (УЗ. Жабінк.).

Такім чынам, разгледжаны найбольш пашыраныя варыянты ўжывання нейкіх рэчаў ці прадеметаў спагадлівымі знахарамі-шаптунамі падчас выканання замоў, магічных абрадаў, традыцыйных дзеянняў. Многае, надзвычай многае з духоўнай спадчыны беларускага народа адмерла, адышло ў небыццё, а тое, што засталося, не заўсёды можна аднавіць да першавытокаў.

# ЗАКЛЮЧЭННЕ

Перагорнуты апошнія старонкі кнігі, паважаны чытач, і гэта ўсё, што нам асабіста ўдалося сабраць аб узаемаадносінах магіі і знахарства, рэлігіі і міфалогіі, міфалогіі і магіі.

Гэта не навуковае, а папулярнае выданне, якое і на мэце сваёй мела апісаць і данесці да шырокага кола чытачоў тое, што найбольш імкліва адмірае ў вусна-паэтычнай спадчыне беларусаў — старажытны міфалагічны пласт, да якога якраз-такі і адносіліся на першапачатковым этапе развіцця грамадства, знахарства. У наш час знайсці сапраўднага, паводле патрабаванняў нашых продкаў, знахара-варажбіта амаль немагчыма. Таму што знахарства перадавалася пад вялікім сакрэтам, з захаваннем традыцыйных абрадаў (абрадава-магічных дзеянняў), з пакалення ў пакаленне. З'яўлялася, такім чынам, абасобленая, амаль незразумелая, недаступная і таямнічая для звычайнага чалавека, каста, якая далёка не кожнага прымала ў свае рады, баючыся, што са з'яўленнем выпадковых людзей многае з таго, што непажадана, усплыве на паверхню. Тады ўжо нельга будзе схаваць ад астатніх і метады ўздзеяння на прыродныя з'явы, на гаспадарчыя будынкі і жывёлу, на людзей, а гэтаксама і на знахароў (тут ужо ў залежнасці ад таго, чым тыя знахары займаліся ў будзённым жыцці: калі дапамагалі, неслі карысць, то адпаведна былі добрымі, а калі рабілі шкоду, «напускалі порчу», хваробы, то — злымі, чорнымі), і тое, як усё гэта здзяйснялася (прынцыпы выканання), і тое, як паводзілі (ці павінны былі, паводле кананічнай магіі, паводзіць) сябе знахары і шаптуны.

Кніга з'яўляецца своеасаблівым лагічным працягам нашых ранейшых даследаванняў: «Пакланіцеся дубу», «Святло таямнічага вогнішча», «Каму пакланяліся продкі», «За смугою міфа», «Адкуль родам чорт». Фальклорныя запісы, якія тут выкарыстаны, зроблены асабіста намі падчас мэтанакіраваных вандровак па Беларусі, студэнтамі філалагічнага факультэта Магілёўскага дзяржаўнага педагагічнага ўніверсітэта імя А. Куляшова, нашымі былымі студэнтамі, з якімі падтрымліваем шматгадовую плённую сувязь. Для таго каб запісы былі больш даступнымі і зразумелымі чытачам, намі зроблены даслоўны пераклад на беларускую літаратурную мову.

Мінулае пастаянна прыцягвае нашу ўвагу, асабліва, калі мы звяртаемся не да ўчарашняга дня, а спрабуем аднавіць падзеі, якія адбываліся некалькі стагоддзяў таму назад. Кожнаму хочацца даведацца, а як жа жыў ягоны продак, адкуль пайшоў род у гэтым краі і, самае галоўнае, якія ўплывы адчуваў на сабе той патрыярхальны чалавек, каму ці чаму пакланяўся, што абагаўляў і г.д. Хочацца ведаць і пра тое, як жа ён паводзіў сябе ці рэагаваў у сутыкненні з нечым нячыстым (цяжкавытлумачальным, фантастычным), чаму продак такую праяву адносіў да злой сілы, якую характарыстыку ёй даваў і як імкнуўся супрацьстаяць, захаваць свой род, ураджай, жывёлу, адным словам, усё нажытае. Відаць, няма ў свеце такога чалавека, які б сцвярджаў, што высвятленне такіх каранёў для яго нецікавае.

Нашы прашчуры свята верылі (і ні ад каго гэта не хавалі), што паміж усімі светамі (нябесным, зямным, падземным) існуе нейкае непарыўнае, амаль незразумелае для іх саміх, узаемадзеянне. Нябачнае простаму воку, але якое ён пастаянна адчуваў, дзякуючы не толькі выпадковым назіранням (можа спачатку гэтак і было на самой справе), але і таму небагатаму практычнаму вопыту, які старажытны чалавек здолеў назапасіць на працягу ўласнага жыцця. Вопыт гэты пастаянна ўзбагачаўся іншымі пакаленнямі, і тады тое, найбольш старажытнае, што ўспрымалася, як абагаўленне, шанаванне, пакланенне перад нечым таямнічым, элементы якога станавіліся зразумелымі, тлумачальнымі і болей не выклікалі нейкага празмернага страху ці здзіўлення, пераходзілі ў разрад прымхаў, забабонаў, перажыткаў, з іх ужо нават маглі смяяцца-насміхацца, не баючыся нейкага пакарання. Тое ж, што пакуль не маглі растлумачыць і зразумець самастойна, ці пры дапамозе ўсё тых жа знахароў («ведуноў»), зыходзячы з назапашанага практычнага вопыту і ведаў, заставалася як боскасць і святасць на працягу наступных пакаленняў.

Тое, што стагоддзямі ашчадна захоўвалася нашымі продкамі, павінна быць сабрана і перададзена нашым нашчадкам. Ім таксама цікава будзе даведацца пра жыццё далёкіх нашых продкаў болей падрабязна. Тым болей, што многае з таго, што шапталі спагадлівыя знахары да гэтага часу, працягвае служыць на карысць людзей, пацвярджаецца сучаснай медыцынскай навукай, шматлікімі псіхалагічнымі аналізамі, тэстамі, эксперыментамі.

Няма нічога дзіўнага ў тым, што большасць з нас, не задумваючыся асабліва, праходзіць міма незвычайнай прыгажосці. Бо яна, гэтая прыгажосць, на першы погляд нябачная. Яна жыве там, дзе мы яе не спадзяёмся ўбачыць: у замовах, шэптах, замоўных абрадавых

дзеяннях. Прыгажосць гэтая духоўная, яна суправаджала нашых продкаў на працягу ўсяго шматвяковага развіцця грамадства. Справа ў тым, што яны заўсёды імкнуліся растлумачыць акаляючы іх свет, што было першасным і што было другасным. Бясспрэчна, такія спробы вылучаліся наіўнасцю і палахлівасцю. І не варта звязваць гэта толькі з рэлігіяй. Хоць, здавалася, без яе ніколі не абысціся, бо яна прысутнічае (дзе выразна, а дзе падспудна) амаль што ва ўсіх замоўных жанрах. Гэта ўсё так, і мы гэтага нават і не спрабуем адмаўляць. Толькі нам куды больш цікава іншае — перыяд ранняга язычніцтва на тэрыторыі Беларусі. Мяркуйце самі, сённяшняй веры — хрысціянству — на нашых землях каля дзесяці стагоддзяў. Усяго толькі. А да гэтага часу квітнела язычніцтва з мноствам багоў, дэманалагічных істот, абавязковай прысутнасцю нячыстай сілы ці нечага ўвогуле нячыстага, што моцна ўплывала на жыццё чалавека. І гэтае нячыстае было безасабовым, амаль невытлумачальным. Пра яго распавядалі, яго баяліся, яму пакланяліся і, канешне ж, ад яго стараліся неяк пазбавіцца. Вось там, у тых ранніх для чалавецтва стагоддзях і трэба шукаць разгадку заблытаных таямніц міфалагічнага пакланення і шанавання ўсяго жывога і нежывога з акаляючай прыроды нашымі продкамі, якія, прызнаем гэта безагаворачна, валодалі, у адрозненне ад нас з вамі, багатым запасам практычных навыкаў, што фарміраваліся на працягу стагоддзяў. На гэтыя навыкі ён і ўскладваў асноўныя свае спадзяванні ў супрацьборстве з шматлікімі хваробамі і паморкамі і тымі людзьмі-варажбітамі, якія нібыта з'яўляліся прычынай іх выклікання-ўзнікнення.

Хіба ж нам з вамі нецікава ведаць пра тое, як усё гэта зараджалася? У гэтым і ёсць нейкія агульныя карані, характэрныя для ўсіх народаў свету (асабліва падчас існавання ў перыяд ранняга язычніцтва ўсеагульнага міфа) і ўласцівыя толькі тым плямёнам, якія з даўніх часоў існуюць на канкрэтнай тэрыторыі (для нас, найперш, на Беларусі). За кожным, асобна разглядаемым намі прыкладам замовы, шэпту хаваецца старадаўняя гісторыя развіцця гэтых твораў, адміранне на нейкім гістарычным этапе найбольш патрыярхальнага, аджыўшага і адпаведна дабаўлення, узбагачэння нечым новым. Найбольш практычна-падыходзячым для ўздзеяння ці вылячэння ад чорных непажаданых вачэй, ад ліхіх хвароб, ад усемагутных пошасцей і паморкаў. За ўсім гэтым хаваецца іх залежнасць, а дакладней, мабыць, паўнакроўная сувязь з іншымі архетыпамі народнай міфалогіі, варажбы, медыцыны, на якую сканцэнтраваную ўвагу пачалі звяртаць толькі ў апошнія дзесяцігоддзі (на вялікі жаль, робіцца гэта вы-

барачна, не сістэматызавана). А за гэты час колькі назаўсёды страчана унікальных вусна-паэтычных твораў! Хто падлічваў, колькі замоў, павер'яў, шэптаў страчана назаўсёды? Ніхто, бо падлічыць гэта, як бы не імкнуліся, ужо ўсё роўна немагчыма. Іх ніколі ўжо не пачуюць нашы дзеці. Вядома ж, што мы гаворым пра нейкія эпідэміі, пошасці, насланні чорных знахароў не са шкадаваннем у плане іх уздзеяння на людзей, а са шкадаваннем у сэнсе прыгажосці, непаўторнасці, самабытнасці замоўнага слова і дзеяння, бо яны ж шліфаваліся на працягу стагоддзяў і перажылі не адно пакаленне. Гэтыя шэдэўры ніхто раней не запісваў (колькі іх было тых аматараў-фалькларыстаў і этнографаў, ды і ствараць свае навуковыя ці збіральніцкія працы яны пачалі толькі ў XIX стагоддзі!), яны перадаваліся ў вуснай форме і адміралі, калі іх не паспявалі перадаваць іншым, разам са сваімі носьбітамі. А такімі былі не толькі знахарыважбіты, але і звычайныя жыхары Беларусі, якія самастойна таксама спрабавалі пазбавіцца ад усяго ліхога, непажаданага, выпрасіць сабе шчасце, поспех, вязенне.

Чалавек мінулага, у сілу таго, што ён пастаянна знаходзіўся на ўлонні прыроды, кантактаваў з яе стыхіямі (жадаў ён гэтага ці не), больш чуйна адносіўся да таго, што расло на зямлі, і да самой зямлі, як карміцелькі (у лакальным) і як да Сусвету (у глабальным значэнні). Яму было зразумела ў вусна-паэтычнай, алегарычнай форме тое, на што мы сёння нават не звяртаем сваёй увагі. За кошт гэтага, мы назаўсёды страцілі першаснае адчуванне прыгажосці, той непаўторнасці, якая для нашых продкаў у многім з'яўлялася фарміруючай адказы на паўстаючыя пытанні з сямейнага жыцця, з жыцця прыроды, прыродных з'яў і г.д.

Так хочацца, каб усё гэта жыло як мага даўжэй, каб яно працягвала паланіць нашы душы, душы нашых дзяцей. Таму ніколі не саромейцеся слухаць казкі і паданні з вуснаў сваіх бабуляў і дзядуляў, паназіраць за працэсам варажбы ці вымаўлення замовы, калі толькі вам надарыцца такая магчымасць, бо з-за нашай абыякавасці, пастаяннай занятасці іншымі, «глабальнымі» праблемамі усё гэта можа адмерці і яго немагчыма будзе адрадзіць. Адмаўленне ўсяго гэтага, як непатрэбнага, другаснага, прывяло нас з вамі да таго, што мы ніколі не зможам гэтак арганічна зліцца са светам прыроды, як гэта ўдавалася зрабіць нашым далёкім, можа, і не такім ужо адукаваным, але затое добра ўзброеным практычнымі ведамі, продкам. Кожны з іх, карыстаючыся народнымі тлумачэннямі, гледзячы на акаляючы свет, прыродныя з'явы, спрабаваў растлумачыць не толькі, якімі будуць

наступныя зіма і лета, але таксама і якім будзе лёс таго ці іншага чалавека. Што ўжо зробіш, калі чалавеку пастаянна карцела зазірнуць у будучыню. Мала гэтага, па тых своеасаблівых прадказаннях, калі яны не абяцалі нічога добрага, станоўчага, спрабаваў умяшацца ў гэтую справу і выправіць яе на ўласную карысць. І зрабіць усё трэба было зараней, бо потым магло быць позна. Далёкі продак, які цалкам залежаў ад прыроды, стыхіі, спяшаўся жыць, выдатна разумеючы, які кароткі чалавечы век, і за гэты перыяд трэба нарадзіць і ўзгадаваць дзяцей, паставіць іх на ногі, а заадно і перадаць усё тое, як сам лічыў, магутнае, цудадзейнае, якое дапамагала і будзе дапамагаць у далейшым жыцці.

І ўсё гэта — наша памяць. Памяць сівых стагоддзяў, якая неадступна крочыць за чалавецтвам. Яна многае можа раскрыць, падказаць, калі адносіцца да яе з павагай, з пашанай, калі не адварочвацца ад таго, што было ў гісторыі беларусаў.

# СПІС СКАРАЧЭННЯЎ

Бых. — Быхаўскі
Браг. — Брагінскі
Ветк. — Веткаўскі
Ганц. — Ганцавіцкі
Глыб. — Глыбоцкі
Драг. — Драгічынскі
Добр. — Добрушскі
Івац. — Івацэвіцкі
Жлоб. — Жлобінскі
Жытк. — Жыткавіцкі
Калінк. — Калінкавіцкі
Лельч. — Лельчыцкі
Лун. — Лунінецкі
Нар. — Нараўлянскі
Пн. — Пінскі
Светл. — Светлагорскі
Ст. — Столінскі
Чач. — Чачэрскі

# ЗНОСКІ

## *Сіла страху*

[1] *Parandowski M.* Mitologia. Warszawa, 1979. S. 280.
[2] *Тайлор Э.* Первобытная культура. М., 1989. С. 212.
[3] Зямная дарога ў вырай. Мн., 1999. С. 11.
[4] *Шлюбскі А.* Матэрыялы да вывучэння фальклору і мовы Віцебшчыны. Ч. 11. Мн., 1927. С. 23.
[5] *Романов Е. Р.* Белорусский сборник. Вып. VIII. Вильна, 1912. С. 293—294.
[6] *Богданович А. Е.* Пережитки древнего миросозерцания у белорусов. Гродно, 1895. С. 29.
[7] *Караткевіч Ул.* Творы. У 8-мі т. Мн., 1991. Т. 8. Кн. 1. С. 109.
[8] Зямная дарога ў вырай. С. 12.

## *Чорныя варажбіты*

[1] *Шейн. П. В.* Материалы для изучения быта и языка русского населения Северо-Западного края. СПб, 1902. Т. 3. С. 249—250.
[2] *Шлюбскі А.* Матэр'ялы да вывучэння фальклору і мовы Віцебшчыны. Ч. 1. Мн., 1927. С. 25.
[3] *Шейн П. В.* Материалы для изучения быта и языка русского населения Северо-Западного края. Т. 3. С. 251—252.
[4] *Никифоровский Н. Я.* Простонародные приметы и поверья, суеверные обряды и обычаи. Витебск, 1897. С. 90.
[5] *Куприн А. И.* Сочинения в 2-х т. Т. 1. М., 1981. С. 40—41.
[6] Там жа. С. 23.
[7] Там жа. С. 35.
[8] Там жа. С. 35.
[9] Там жа. С. 35.
[10] Там жа. С. 35.
[11] Там жа. С. 36.
[12] Там жа. С. 37—38.
[13] Там жа. С. 64—65.

[14] *Куприн А. И.* Сочинения. Т. 1. С. 65.

[15] Там жа. С. 67.

[16] *Касавин И. Т.* Магия: ее мнимые открытия и подлинные тайны // Заблуждающийся разум? Многообразие всенаучного знания. М., 1990. С. 60—61.

[17] *Богданович А. Е.* Пережитки древнего миросозерцания у белорусов. Гродно, 1895. С. 21.

[18] *Токарев С. А.* Сущность в происхождении магии // Исследования и материалы по вопросам первобытных религиозных верований. М., 1959. С. 14.

[19] *Н. И. и С. М. Толстые.* Заметки по славянскому язычеству // Обряды и обрядовый фольклор. М., 1982. С. 54.

[20] Там жа.

[21] Там жа.

[22] Там жа. С. 55.

[23] Там жа.

[24] Там жа. С. 56.

[25] Там жа. С. 57.

[26] Чарадзейныя казкі. Мн, 1973. Т. 1. С. 334.

[27] Чаго на свеце не бывае. Мн., 1990. С. 300.

[28] Легенды і паданні. Мн., 1983. С. 45.

[29] Чаго на свеце не бывае. С. 391—392.

[30] *Никифоровский Н. Я.* Освященные предметы и отношение к ним простонародья в Витебской Белоруссии. Витебск, 1903. С. 263.

[31] *Сержпутовский А. К.* О завитках в Белоруссии // Живая старина. 1907. Вып. 1. С. 33—34.

[32] *Романов Е. Р.* Белорусский сборник. Вып. VIII. Вильна, 1912. С. 264.

[33] *Шейн П. В.* Материалы для изучения быта и языка русского населения Северо-Западного края. Т. 1. Ч. 1. С. 231—232.

[34] *Шлюбскі А.* Матэрыялы да вывучэння фальклору і мовы Віцебшчыны. Ч. 1. С. 27.

[35] *Демидович П.* Из области верований и сказаний белорусов // Этнографическое обозрение. Кн. XXVIII. М., 1896. № 1. Гл. 2. С. 125—126.

[36] *Jeleńska E.* Komarowicze w powicie Moryvskim. Wisla, 1891. T. V. S. 500.

[37] *Шейн П. В.* Материалы для изучения быта и языка русского населения Северо-Западного края. Т. 1. Ч. 1. С. 528—529.

[38] Замовы. Мн., 1992. С. 37.

[39] *Шейн П. В.* Материалы для изучения быта и языка русского населения Северо-Западного края.Т. 1. Ч. 1. С. 529.

[40] Там жа. С. 530.

[41] Там жа. С. 530—531.

[42] Замовы. С. 37—38.

[43] Легенды і паданні. С. 190—192.

[44] *Станкевіч С.* Беларускія элементы ў польскай рамантычнай паэзіі // Спадчына. 1999. № 4. С. 137.

[45] Легенды і паданні. С. 193—194.

[46] Беларускі народны соннік. Мн., 1998. С. 23.

[47] *Шейн П. В.* Материалы для изучения быта и языка русского населения Северо-Западного края. Т. 1. Ч. 1. С. 557.

[48] Замовы. С. 583.

[49] *Шейн П. В.* Материалы для изучения быта и языка русского населения Северо-Западного края. Т. 1. Ч. 1. С. 381; 582—583.

[50] *Тайлор Э. Б.* Первобытная культура. М., 1989. С. 146—147.

[51] *Буслаев Ф. И.* О литературе. Исследования. Статьи. М., 1990. С. 49.

[52] *Шпилевский П. М.* Исследование о вовколаках. Отдельный оттиск "Московитянина". М., 1853. Т. 2. С. 3.

[53] Там жа. С. 5.

[54] Мифы народов мира. Энциклопедия. Т. 1. М., 1987. С. 18.

[55] *Шпилевский П. М.* Исследование о вовколаках. С. 18.

[56] Легенды і паданні. С. 174.

[57] *Шпилевский П. М.* Исследование о вовколаках. С. 3—4.

[58] Там жа. С. 4.

[59] Там жа. С. 10.

[60] *Никифоровский Н. Я.* Нечистики. Свод простонародных ■ Витебской Белоруссии сказаний о нечистой силе. Вильна, 1907. С. 67.

[61] Легенды і паданні. С. 177.

[62] Там жа. С. 178.

[63] Там жа. С. 177—178.

[64] Там жа. С. 179—180.

[65] Там жа. С. 180—181.

[66] *Богданович А. Е.* Пережитки древнего миросозерцания у белорусов. С. 145.

[67] *Kibort J.* Wierzenia ludowe w okolicach Krzywicz w pow. Wilejskim. Wisla, 1899. T. 13. S. 321.

[68] Там жа. С. 394.

[69] Казкі ў сучасных запісах. Мн., 1898. С. 468—469.

[70] Там жа. С. 465—466.

[71] Казкі ў сучасных запісах. С. 469.
[72] *Kibort J.* Wierzenia ludowe w okolicach Krzywicz w pow. Wilejskim. 13. S. 391—392.
[73] Замовы. С. 326.
[74] Там жа. С. 325.
[75] *Демидович П.* Из области верований и сказаний белорусов // Этнографическое обозрение. Кн. XXVIII. М., 1896. № 1. Гл. 2. С. 123.
[76] Замовы. С. 360.

## *Хто лічыўся сябрам нячыстай сілы*

[1] Этнографическое обозрение. 1892. № 2—3.
[2] *Сержпутоўскі А. К.* Прымхі і забабоны беларусаў-палешукоў. Мн., 1998. С. 104.
[3] *Колас Я.* Збор твораў. У 14-ці т. Т. 4. Мн., 1973. С. 298.
[4] *Сержпутоўскі А. К.* Прымхі і забабоны беларусаў-палешукоў. С. 104.
[5] Этнографическое обозрение. 1892. № 2—3.
[6] *Шейн П. В.* Материалы для изучения быта и языка населения Северо-Западного края. Т. 1. Ч. 1. СПб., 1887. С. 530.
[7] *Без-Корнилович М. О.* Исторические сведения о примечательных местах в Белоруссии. СПб., 1885. С. 240—241.
[8] Русский дневник. 1895. № 101.
[9] *Булгаковский Д. Г.* Пинчуки. СПб., 1890. С. 4—5.
[10] *Дембовецкий А. С.* Опыт описания Могилевской губернии. Могилев-на-Днепре, 1882. Т. 1. С. 507.
[11] Смоленский вестник, 1892. 19 апр.
[12] *Киркор А.* Этнографический взгляд на Виленскую губернию. Вильна, 1879. С. 272.
[13] *Сержпутоўскі А. К.* Прымхі і забабоны беларусаў-палешукоў. С. 204.
[14] Там жа.
[15] Там жа.
[16] Чаго на свеце не бывае. Мн., 1990. С. 312—313.
[17] Там жа. С. 304—405.
[18] Этнографическое обозрение, 1894. № 1.
[19] Русский демонологический словарь. СПб., 1993. С. 592.
[20] *Сержпутоўскі А. К.* Прымхі і забабоны беларусаў-палешукоў. С. 101—102.

[21] Чарадзейныя казкі. Т. 1. Мн., 1973. С. 334.

[22] *Шейн П. В.* Материалы для изучения быта и языка русского населения Северо-Западного края. Т. 3. С. 247—248.

[23] *Сержпутоўскі А. К.* Прымхі і забабоны беларусаў-палешукоў. С. 102.

[24] Там жа. С. 103.

## *Смерць чорных варажбітоў*

[1] *Никифоровский Н. Я.* Нечистики. Свод простонародных в Витебской Белоруссии сказаний о нечистой силе. Вильна, 1907. С. 98—99.

[2] Там жа. С. 284.

[3] *Караткевіч У.* Збор твораў у 8-мі т. Т. 4. Мн, 1989. С. 9—11.

[4] *Никифоровский Н. Я.* Освященные предметы и отношение к ним простонародья в Витебской Белоруссии. Витебск, 1903. С. 283.

[5] Россия. Т. 9. С. 169.

[6] Легенды і паданні. С. 213.

[7] *Ненадавец А. М.* Святло таямнічага вогнішча. Мн., 1993. С. 236.

[8] *Баршчэўскі Я.* Выбраныя творы. Мн., 1998. С. 123.

[9] *Moszyuski K.* Polesie wschodnie. Warszawa, 1928. S. 168.

[10] *Богданович А. Е.* Пережитки древнего миросозерцания у белорусов. С. 57.

[11] *Іпатава В.* Агонь у жылах крэменю // Бацькаўшчына. Мн., 2000. С. 197.

[12] *Ажэшка Э.* Дзюрдзі. У кнізе: Аповесці, апавяданні, нарысы. Мн., 2000. С. 189—190.

[13] *Куприн А.* Сочинения. Т. 1. С. 35.

## *Спагадлівыя знахары*

[1] *Шейн П. В.* Материалы для изучения быта и языка русского населения Северо-Западного края. Т. 1. Ч. 1. С. 251.

[2] Там жа. С. 88.

[3] Замовы. С. 355.

[4] *Никифоровский Н. Я.* Простонародные приметы и поверья, суеверные обряды и обычаи. С. 45—46.

[5] Там жа. С. 39—40.

[6] *Никифоровский Н. Я.* Простонародные приметы и поверья... С. 38.

[7] Там жа. С. 37.

[8] Там жа. С. 38.

[9] *Никифоровский Н. Я.* Простонародные приметы и поверья, суеверные обряды и обычаи. С. 38.

[10] *Богданович А. Е.* Пережитки древнего миросозерцания у белорусов. С. 16—17.

[11] *Jeleńska E.* Wieś Komarowicze w powiecie Mozyrskim. — Wisla, 1891/ T. V. S. 285.

[12] *Wereńko F.* Przyczynek do lecznictwa ludowego. T. 1. Kraków, 1896. S. 210.

[13] *Шейн П. В.* Материалы для изучения быта и языка русского населения Северо-Западного края. Т. 41. № 3. СПб., 1887. С. 78.

[14] *Демидович П.* Из области верований и сказаний белорусов // Этнографическое обозрение. Кн. XXVIII. М., 1896. № 2—3. С. 128.

[15] *Kibort J.* Wierzenia ludowe w okolicach Krzywicz w pow. Wilejskim. T. 13. S. 390.

[16] *Шейн П. В.* Материалы для изучения быта и языка русского населения Северо-Западного края. С. 282.

[17] *Богданович А. Е.* Пережитки древнего миросозерцания у белорусов. С. 161—162.

[18] *Никифоровский Н. Я.* Простонародные приметы и поверья, суеверные обряды и обычаи. С. 37.

[19] *Пятроўская Г. А.* Пачынальнік беларускага народазнаўства М. Я. Нікіфароўскі. Мн., 1991. С. 39.

[20] *Шейн П. В.* Материалы для изучения быта и языка русского населения Северо-Западного края. С. 497—498.

[21] Забабоны. Запісаў Адам Варлыга на Лагойшчыне. Выданьне «Заранка». Нью-Йорк. 1972. С. 4.

[22] *Богданович А. Е.* Пережитки древнего миросозерцания у белорусов. С. 163—164.

[23] *Никифоровский Н. Я.* Простонародные приметы и поверья, суеверные обряды и обычаи. С. 33—34.

[24] Там жа. С. 34.

[25] *Сержпутоўскі А. К.* Прымхі і забабоны беларусаў-палешукоў. Мн., 1998. С. 161.

[26] *Шейн П. В.* Белорусские песни, собранные П. В. Шейном. Асобны адбітак. СПб., 1873. Т. 5. С. 52.

[27] *Никифоровский Н. Я.* Простонародные приметы и поверья, суеверные обряды и обычаи. С. 258.

[28] *Демидович П.* Из области верований и сказаний белорусов. Т. 3. С. 131.

[29] *Никифоровский Н. Я.* Простонародные приметы и поверья, суеверные обряды и обычаи. С. 227.

[30] *Ляцкий Е.* Болезнь и смерть по представлениям белорусов // Этнографическое обозрение. М., 1892. Ч. 2—3. С. 30.

[31] *Романов Е. Р.* Белорусский сборник. Вып. 8. С. 317.

[32] *Никифоровский Н. Я.* Простонародные приметы и поверья, суеверные обряды и обычаи. С. 276.

[33] Там жа. С. 275.

[34] *Дембовецкий А. С.* Опыт описания Могилевской губернии. Кн. 1. Могилев, 1882. С. 499.

[35] *Богданович А. Е.* Пережитки древнего миросозерцания у белорусов. С. 171.

[36] *Kibort J.* Wierzenia ludowe w oholicach Krzywicz w pon. Wilejskim. T. 13. S. 394—395.

[37] *Никифоровский Н. Я.* Простонародные приметы и поверья, суеверные обряды и обычаи. С. 95—96.

## *Як паводзілі сябе знахары*

[1] *Шейн П. В.* Материалы для изучения быта и языка русского населения Северо-Западного края. С. 520.

[2] *Максимов С. В.* Нечистая, неведомая и крестная сила. СПб., 1894. С. 146.

[3] Там жа. С. 152—153.

[4] Там жа. С. 253.

[5] Сказания русского народа, собранные И. П. Сахаровым. М., 1990. С. 102—103.

[6] *Романов Е. Р.* Белорусский сборник. Вильна, 1909. Т. 5. С. 80.

[7] *Шейн П. В.* Материалы для изучения быта и языка русского населения Северо-Западного края. С. 520.

[8] Там жа. С. 558.

[9] Там жа. С. 519.

[10] Там жа. С. 519.

[11] Чаго на свеце не бывае. Мн., 1990. С. 391—392.

[12] Сказания русского народа, собранные И. П. Сахаровым. С. 105.

[13] *Сержпутоўскі А. К.* Прымхі і забабоны беларусаў-палешукоў. С. 75.
[14] Там жа.
[15] Там жа.
[16] Там жа.
[17] Там жа. С. 75.
[18] Там жа. С. 82.
[19] Там жа. С. 85.
[20] Там жа. С. 85—86.
[21] Там жа. С. 84.
[22] Там жа. С. 85.
[23] Там жа. С. 84—85.
[24] Там жа. С. 84.
[25] Там жа. С. 87.
[26] Там жа. С. 115—116.
[27] Там жа.
[28] Там жа. С. 116.
[29] Там жа. С. 117.
[30] *Ненадавец А. М.* Святло таямнічага вогнішча. Мн., 1993. С. 196.
[31] *Романов Е. Р.* Белорусский сборник. Вып. VIII. С. 251.
[32] *Сержпутоўскі А. К.* Прымхі і забабоны беларусаў-палешукоў. С. 117—118.
[33] Там жа. С. 118.
[34] *Якуб Колас.* Збор твораў. У 14-ці т. Т. 6. Мн., 1974. С. 45.
[35] *Сержпутоўскі А. К.* Прымхі і забабоны беларусаў-палешукоў. С. 118—119.
[36] Там жа.

## *Рэчы, якімі карысталіся знахары*

[1] Больш падрабязна пра гэта можна прачытаць у кнізе: Ненадавец А. М. Каму пакланяліся продкі. Мн., 1996. С. 207—229.
[2] *Романов Е. Р.* Белорусский сборник. Вып. V. Вильна, 1909. С. 80.
[3] Больш падрабязна пра гэты аспект можна прачытаць у кнізе: Ненадавец А. М. Каму пакланяліся продкі. С. 79—85.

Навукова-папулярнае выданне

**НЕНАДАВЕЦ Аляксей Міхайлавіч**

**СІЛАЮ СЛОВА.
ЧОРНАЯ І БЕЛАЯ МАГІЯ**

Загадчык выдавецкага аддзела *У. А. Герасімовіч.*
Рэдактар *С. С. Галавач.*
Мастацкі рэдактар *У. В. Перлін.*
Тэхнічныя рэдактары *В. А. Віценка, Г. М. Хейфец.*
Карэктары *Г.В. Алешка, Л.Р. Кузьміна, Г.К. Піскунова.*
Камп'ютэрны набор *А. У. Гурыновіч, І. У. Грыцэль.*
Камп'ютэрная вёрстка *Г. М. Бялкоўскай.*

Падпісана да друку з дыяпазітываў 30.08.2002. Фармат 60×84 $^1/_{16}$. Папера газетная. Гарнітура Балтыка. Афсетны друк. Ум.-друк. арк. 20,46. Ул.-выд. арк. 22,86. Тыраж 2 000 экз. Зак. 1962.

Рэспубліканскае унітарнае прадпрыемства «Выдавецтва «Беларусь» Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Ліцэнзія ЛВ № 2 ад 17.01.2001. 220004, Мінск, праспект Машэрава, 11.

Рэспубліканскае унітарнае прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку». 220013, Мінск, праспект Ф. Скарыны, 79.



